Дж. Р. Р. Толкін

# УЛАДАР ПЯРСЬЦЁНКАЎ

# Вяртаньне караля



*Тры – сьмяротнай зямлі несьмяротным князям,*

*Сем – царам-кавалям на падгорным троне,*

*Дзевяць – чалавечага племені каралям,*

*Адзін – Уладару Цемры ў чорнай кароне,*

*У змрочнай краіне Мордар, там, дзе пануе Цень.*

*Адзін – уладарыць над імі, адзін – адшукаць іх,*

*Адзін – завабіць і ў цемры скаваць іх*

*У змрочнай краіне Мордар, там, дзе пануе Цень.*

J. R. R. Tolkien

# THE LORD OF THE RINGS

## *The Return of the King*



HarperCollins Publishers Ltd. 1992

Дж. Р. Р. Толкін

# УЛАДАР ПЯРСЬЦЁНКАЎ

## *Вяртанне караля*

ПЕРАКЛАД З АНГЕЛЬСКАЕ



Менск
2009

**Толкін Дж. Р. Р.**

Уладар Пярсьцёнкаў: Вяртаньне караля, 2009

Пераклад з ангельскае мовы
Дзьмітрыя Магілеўцава й Крысьціны Курчанковай

*Выхаду гэтай кнігі шмат у чым*
*паспрыяў Ігар Хазанаў*


1
2
3
4
ЭРЭД МІФРЫН
ЖАЛЕЗНЫЯ
ГОРЫ
Эрэбар
ФОРНАСТ
ПРЫГОР'Е
Заліў Люн
Долы Яр
Струмяніца
ЭРЫЯДАР
Шыр
Грымля
Браняўін
Шэраводздзе
Морыя
Лорыйн
АНДУЙН
ЛІХАЛЕСЬСЕ
Мора Рун
РУН
ХІФАЙГЛІР
ФАНГАРН
БУРЫЯ ЗЕМЛІ
Ізенградак
РОХАН
Ізен
ЭМІН МЮЙЛ
ДАГОРЛАД
ЭДОРАС
ЭРЭД ЛІТУІ
Барад-дур
ГОНДАР
МОРДАР
Нурынен
ХАНД
Лаўднёвы Гондар
БЛІЗКІ ХАРАД
ЗАХАД МІЖЗЕМ'Я

*1. Мінас Тырыт*

Піпін вызірнуў з свайго сховішча ў нетрах Гэндальфавага плашча. І не зразумеў, ці прачнуўся насамрэч, ці яшчэ сьпіць, агорнуты той самаю хуткаплыннай мараю, якая люляла яго гэтак доўга з пачатку вялікай скачкі. Цьмяны сусьвет мкнуў прэчкі, і вецер сьпяваў увушшу. Хобіт ня бачыў анічога, апрача зораў, што плынелі над галавою, а далёка праваруч магутныя цені паўднёвых гор падпіралі нябёсы. Сонны Піпін узгадваў, дзе ж яны пралятлі й калі што прамільгнула паўзь іх, аднак успаміны ягоныя былі непрачнутыя, як ён сам, і няпэўныя.

Спачатку падарожнікі несьліся з жудаснаю хуткасьцю, безь перапынку, на сьвітанку наперадзе бліснула золатам, а тады прыехалі ў маўклівы горад зь вялізнай пустой сядзібаю на пагорку. І не пасьпелі схавацца там, як зноў над галовамі праляцеў крылаты цень, і людзі дранцьвелі ад вусьцішы. Але Гэндальф супакоіў хобіта ціхімі словамі, і той прылёг у куце, стомлены, але трывожны, заўважаючы праз паўсоньне, як заходзяць і выходзяць людзі, як размаўляюць, як Гэндальф аддае загады. А тады зноў – начная скачка. Гэта ўжо другая, не, трэцяя ноч ад той, калі зазірнуў у палантыр. Ад таго страшнага споміну абудзіўся цалкам і здрыгануўся, і шум ветру напоўніўся пагрозьлівымі галасамі.

Сьвятло ўскінулася ў нябёсах, жоўтае полымя з-за чорнай сьцяны. Піпін ажно адсунуўся, падумаўшы ў страху: у якую жудасную краіну цягне яго Гэндальф? Пацёр вочы – і тады пабачыў, што Месяц, ужо амаль поўны, караскаецца над усходнім ценем. Значыць, ноч яшчэ раньняя, і наперадзе гадзіны вандроўкі ў цемры. Варухнуўся й падаў голас.

– Дзе ж мы, Гэндальфе?

– У каралеўстве Гондар, – азваўся чараўнік. – Яшчэ мінаем зямлю Анарыёна.

Пэўны час Піпін маўчаў, а тады раптам загаласіў, учапіўшыся за Гэндальфаў плашч:

– Што гэта? Зірні! Полымя, барвовае полымя! Тут жывуць цмокі? Зірні, і яшчэ!

– Наперад, Цяняр! – замест адказу прысьпешыў каня Гэндальф. – Мусім сьпяшацца! Наш час мінае! Зірні – празоры Гондару палаюць, просяць дапамогі. Вайна прыйшла! Вунь агонь на Аман Дыне, полымя на Эйленаху й вунь пабеглі агні на захад: Нардал, Эрэлас, Мін-Рыман, Каленад і Халіфірыён на роханскім памежжы.

Але ж Цяняр запаволіў крок, а тады падняў галаву й заржаў. Зь цемры даляцела ржаньне ў адказ, і пачуўся тупат капытоў. Тры вершнікі пранесьліся побач, нібы прывіды-летуны пад месяцам, і зьніклі на захадзе. А Цяняр сарваўся ў намёт і памкнуў, і ноч мкнула паўзь яго, равучы віхурай.

Піпін зноў крыху прыснуў і амаль не зьвяртаў увагі на Гэндальфаў расповед пра звычаі Гондару й пра тое, як гаспадар места загадаў пабудаваць на вяршынях далёкіх адгор'яў уздоўж хрыбта мігакі-празоры й вартавыя пасты, а таксама даручыў заўжды трымаць пры іх сьвежых коней, каб несьці вершнікаў і загады да Рохану на Поўнач і да Бэльфаласу на Поўдзень.

– Даўно не запальвалі агнёў на Поўначы, – паведамляў Гэндальф. – А ў старажытнасьці ў тым не было й патрэбы, бо Гондар меў сем камянёў.

Піпін здрыгануўся.

– Сьпі, ня бойся, – супакоіў Гэндальф. – Бо ты ж ня ў Мордар рушыш, як Фрода, а ў Мінас Тырыт, і больш бясьпечнае месца цяпер цяжка адшукаць. Калі ня вытрымае Гондар ці калі Вораг захопіць пярсьцёнак, тады й у Шыры не схаваесься.

– Ня надта суцяшае, – вымавіў Піпін, але сон ужо авалодваў ім.

Апошнім, што запомніў перад тым, як праваліцца ў глыбокі сон, быў пробліск высокіх белых пікаў, якія зіхоткімі выспамі плылі над аблокамі, люструючы месяцовыя промні. Падзівіўся яшчэ, дзе ж цяпер Фрода: мо ў Мордары, а мо ўжо забіты, і ня ведаў, што Фрода – далёка ад яго – пазіраў на той самы месяц, які заходзіў над Гондарам, вястуючы новы дзень.

Піпін прачнуўся ад галасоў. Яшчэ дзень чаканьня ў сховішчы й ноч скачкі праляцелі міма. Ужо днела: набліжаўся халодны сьвітанак і вакол вісеў золкі шэры туман. Зь Ценяра ажно валіла пара, такі ён быў потны, але ж трымаў шыю ганарыста, не выказваў ані знаку стомы. Побач зь ім стаяла шмат высокіх людзей у доўгіх плашчах, а за імі ў тумане рысавалася каменная сьцяна. Падавалася, часткова пабураная, але, нягледзячы на змрок, чуліся гукі працы: грукалі молаты, бразгалі рыдлёўкі й рыпелі колы. Там і тут смужна сьвятлелі праз туман паходні й вогнішчы. Гэндальф размаўляў зь людзьмі, якія перагарадзілі яму шлях, і, прыслухаўшыся, Піпін уцяміў: абмяркоўваюць менавіта яго, Піпіна.

– Ну, вас мы ведаем, Мітрандыр, – казаў ачольца людзей, – дый вы ведаеце словы споклічу сямі брамаў і вольныя ехаць наперад. Але ж мы ня ведаем вашага спадарожніка. Хто ён? Гном з гор Поўначы? Мы не жадаем незнаёмцаў на нашай зямлі ў гэты час, хіба толькі яны – магутныя ваяры, чыёй вернасьці й адвазе мы давяраем.

– Я паручуся за яго перад стальцом Дэнэтара, – адказваў Гэндальф. – А што тычыцца адвагі, дык не мяркуйце пра яе з памераў. Ён прайшоў праз больш бітваў і небясьпек, чым ты, Інгальд, хоць ты й удвая даўжэйшы за яго. Ён вяртаецца з штурму Ізенградку, пра які мы нясем весткі, і агорнуты вялікаю стомаю, а тое я пабудзіў бы яго. Клічуць яго Перыгрын, і ён – найадважнейшы зь людзей.

– Зь людзей? – засумняваўся Інгальд, і астатнія засьмяяліся.

– Годзе, зь людзей! – выгукнуў Піпін, цяпер сапраўды абуджаны ды ўзбуджаны. – Зь якіх людзей? Не, не зь людзей я, а з хобітаў, і адвагі ў мяне ня болей, чым прыналежнасьці да племя даўгалыгіх, хіба так, давялося зрабіць тое-сёе, як была патрэба. Няхай Гэндальф ня кажа лішняга!

– Многія, што зьдзейсьнілі вялікія ўчынкі, пра сябе болей ня скажуць, – зазначыў Інгальд. – Але што такое *хобіт*?

– Паўросьлік, – адказаў Гэндальф і, убачыўшы выраз на тварах людзей, дадаў: – Ня той, пра якога казалася ў прароцтве, але зь ягонай радзіны.

– Але. І той, хто вандраваў побач зь ім, – дадаў Піпін. – Барамір з вашага гораду йшоў побач з намі й выратаваў мяне ў сьнягох Поўначы, і пасьля быў забіты, абараняючы мяне ад мноства ворагаў.

– Цішэй! – засьцярог Гэндальф. – Весткі пра страту сына першым мусіць атрымаць бацька!

– Пра тое ўжо здагадаліся, – паведаміў Інгальд, – бо апошнім часам зьявіліся дзівосныя азнакі й ліхія прыкметы. Тады скачыце, гаспадар Мінас Тырыту прагне бачыць любога, хто прынясе яму навіны пра ягонага сына, любога чалавека альбо...

– Альбо хобіта, – дадаў Піпін. – Малая карысьць вашаму гаспадару ад мяне, але што магу – зраблю, у гонар і памяць Бараміра Адважнага.

– Добрага шляху вам! – пажадаў Інгальд, і людзі расступіліся, адкрываючы праход да вузкай брамы ў сьцяне. – Няхай вашыя зьвесткі й рада Мітрандыра прыдадуцца Дэнэтару й усім нам у гадзіну патрэбы! Але ж кажуць, што ўлюбёныя вашыя навіны – пра гора й бяду.

– Таму што зьяўляюся я зрэдку – толькі тады, калі патрэбная мая дапамога. Што ж тычыцца рады, вось яна: вы спазьніліся з рамонтам сьцяны Пеленару. Мужнасьць – вашая найлепшая абарона ад навалы, што неўзабаве абрынецца. Мужнасьць і надзея, якую я нясу вам. Бо ня ўсе мае навіны – ліхія. Аднак лепей кідайце рыдлёўкі й вастрыце мечы!

– Ды мы да вечару скончым працу, – паведаміў Інгальд. – Гэта апошняя частка сьцяны, якую рамантуем, бо адсюль у апошнюю чаргу можна чакаць нападу: тут сьцяна паглядае ў бок Рохану, дзе нашыя сябры. Ці ведаеце вы што пра іх? Як павашаму, адгукнуцца яны на заклік?

– Але, яны прыйдуць. Але ж яны ўжо мелі шмат бітваў за вашымі сьпінамі. І гэты шлях, дый любы шлях цяпер, болей не вядзе да бясьпекі й спакою. Трымайце варту! Калі б ня Гэндальф Груган, вы пабачылі б з Анарыёну варожае войска, а ня вершнікаў Рохану. А мо яшчэ й пабачыце. Бывайце, удачы, і трымайце варту!

Гэндальф скакаў цяпер па шырокай роўнядзі за Рамас Экорам – так людзі Гондару звалі вонкавы мур, пабудаваны вялікімі намаганьнямі пасьля таго, як на Ітыльён лёг варожы цень. На шэсьць міляў* ці нават болей цягнуўся ён ад аднаго адгор'я да другога, агароджваючы поле Пеленару, файную ўрадлівую зямлю, палі й лугі на доўгіх схілах і тэрасах, што павольна зьніжаліся да ўзроўню Андуйну. Сьцяна аддалялася ад Вялікай брамы гораду сама больш на дзьве з паловай мілі й там стаяла на высокім адхоне над шырокімі прырэчнымі панізьзямі. Тут яна была й мацнейшая, бо гасьцінец ад бродаў ды мастоў Азгіліяту да ўмацаванай брамы вёў па абароненым сьценамі праходзе між высокімі вежамі. Бліжэй за ўсё сьцяна падыходзіла да гораду на паўднёвым усходзе – на палову мілі. Там Андуйн, агінаючы пагоркі Эмін Арнен у паўднёвым Ітыльёне, рэзка збочваў на захад, і вонкавы мур стаяў на самым беразе, а пад мурам ляжалі завані й прыпаромкі Харлянду – для караблёў і чоўнаў, якія падымаліся па рацэ ад паўднёвых валоданьняў Гондару.

Агароджаныя ваколіцы места былі багатыя, абараныя, засаджаныя садамі, з шматлікімі сядзібамі, пунямі, сьвірнамі, загонамі для быдла й іншымі гаспадарчымі пабудовамі, і цяклі праз гэтыя землі шматлікія струменьчыкі й крыніцы, імкнучы з высакагор'яў уніз да Андуйну. Аднак пастухоў ды працаўнікоў жыло на Пеленары няшмат, большасьць гондарцаў асталяваліся ў горадзе, у сямі колах Мінас Тырыту, ці ў высокіх далінах памежных гор, у Ласарнаху альбо далей на поўдні, у сьветлых Пажыцьцях, краі пяці хуткіх струменяў. Там, паміж морам і гарамі, жытлаваў дужы народ. Тамтэйшыя лічыліся гондарцамі, але мелі зьмяшаную кроў; сярод тых, чые продкі паходзілі ад забытых плямёнаў, што гібелі пад ценем гор у Чорныя гады да прыходу Каралёў з-за мора, траплялiся каржакаватыя й смуглявыя. А далей, у вялікім княстве Бэльфалас, дзе блізу мора ў замку Дол Амрат гаспадарыў князь Імрахіль, народ быў сапраўднай шляхетнай крыві – высокія ганарлівыя людзі з вачыма шэрымі, як мора.

Колькі часу падарожнікі скакалі. У нябёсах распальваўся сьвітанак. Піпін прачнуўся й агледзеўся наўкол. Леваруч разьлілося мора туману, уздымаючыся да бледнага ценю на ўсходзе, а праваруч рэзка й магутна рысаваліся неабсяжныя горы, строма й раптоўна замыкаючы захад, нібы калісьці, падчас стварэньня гэтай зямлі,

* У беларускім перакладзе скарыстаныя старажытныя беларускія адзінкі вымярэньня (паводле Статуту ВКЛ): цаля – 2,5 *см*; стапа – 12 цаляў, 33 *см*; локаць – 65 *см*; сажань – 3 локці, 195 *см*; гоня – 80-100 *м*; вярста – 1559,7 *м*; міля – 7,8 *км*; валока – 21,36 *га*.

рака прарвалася праз волатаўскую агароджу, выкраіўшы сабе прастору даліны, каб тая зноў і зноў рабілася месцам спрэчак і бітваў уладарных. А там, дзе сканчаліся Белыя горы Эрэд Німрайс, Піпін пабачыў, як і абяцаў Гэндальф, цьмяную груду гары Міндолуйн, змрочна-пунсовыя цені ейных высокіх цясьнінаў і недасягальную вяршыню, белую ў промнях маладога сонца. На прасунутым наперад адгор'і ляжаў Ахаваны горад зь сямю такімі моцнымі й старажытнымі мурамі, што падаваліся яны не пабудаванымі, а вычасанымі рукамі магутаў з самых костак зямлі.

І проста пад зачараваным позіркам Піпіна сьцены з злавесна-шэрых зрабіліся белымі, бліснуўшы лёгка ў сьвятле золку, і вось раптоўна сонца выкараскалася з усходняга ценю, і кінула наперад струмень праменьня, і асьвятліла горад. Тады Піпін выгукнуў, бо вежа Эктэльёна, што стаяла высока над верхнім мурам, зазьзяла ў нябёсах, нібы складзеная з пэрлаў і срэбра, і шпіль яе зазіхацеў полымем крышталю. Белыя сьцягі й харугвы затрапяталі на сьценах на ранішнім павятроўі, і хобіт здалёк расчуў высокі й чысты кліч срэбных горнаў.

Гэтак Гэндальф зь Піпінам на сьвітанку пад'ехалі да Вялікай брамы людзей Гондару, і яе жалезныя дзьверы адчыніліся перад імі.

– Мітрандыр! Мітрандыр! – загукалі людзі. – Цяпер мы ведаем: насамрэч набліжаецца бура!

– Яна ўжо тут, – абвесьціў Гэндальф. – Я прыляцеў на ейных крылах. Прапусьціце мяне! Я маю пабачыць вашага гаспадара Дэнэтара, пакуль яшчэ трывае ягонае намесьніцтва. Што ні напаткала б вас, той Гондар, які вы ведалі, мінае. Дазвольце мне праехаць!

Тады людзі адсунуліся, падпарадкаваўшыся ягонаму загаднаму голасу, і болей не распытвалі, хоць і таращчыліся ў зьдзіве на хобіта, што сядзеў перад чараўнікам, і на Гэндальфавага каня. Бо гараджане рэдка карысталіся коньмі й нячаста бачылі іх на вулках, хіба тых, на якіх скакалі ганцы гаспадара. І месьцічы казалі:

– Няйначай гэта адзін зь вялікіх коней роханскага караля. Вераемна, неўзабаве зьявяцца й рахірымы на падмацаваньне нам.

Цяняр жа ганарыста й упарта крочыў угару па доўгіх зьвілістых вуліцах.

Мінас Тырыт быў пабудаваны на сямі ярусах, урэзаных у схіл гары, і кожны ярус аддзяляла сьцяна з сваёю брамаю. Але брамы тыя былі не на адной прамой. Вялікая брама пазірала на ўсход, наступная – на чвэрць кола на поўдзень, трэцяя – на паўкола на поўнач, і гэтак далей; і таму брукаванка ўгару, да Цытадэлі, вілася й вілася па схіле гары і штораз, калі мінала адлегласьць ад Вялікай брамы да Цытадэлі, праходзіла скрозь тунэль у вялізнай скале, чый высачэзны гмах падзяляў надвое ўсе ярусы гораду, апрача першага. Часткова дзякуючы гульні прыроды, якая вычэсвала горы, часткова – майстэрству й вялікай працы людзей даўніны скала ўздымалася ззаду шырокай плошчы за брамаю, як каменная вежа, магутны, востры нос карабля, што рушыць на ўсход. Да самага верху мкнула скала, да сёмага ярусу, і там яе вянчала Цытадэль. Так што яе абаронцы, як маракі на горным караблі, пазіралі ад ягонага штэўня проста ўніз, на браму за сем сотняў ступнёў пад нагамі. Уваход у Цытадэль таксама глядзеў на ўсход, але праходзіў па вычасаным у самым сэрцы скалы, асьветленым ліхтарамі доўгім тунэлі, што павольна ўздымаўся да сёмай брамы. За ёю прышламу адкрывалася нарэшце Вышняя плошча, плошча Вадаграю ля ўзножжа Белай вежы, высокай і гонкай, паўсотня сажняў ад нізу да канчара шпілю, дзе плынеў над прырэчнай роўнядзьдзю сьцяг намесьнікаў даўжынёю тысяча ступнёў.

Моцная была Цытадэль, недаступная ні для якога войска, калі толькі быў у яе мурах хто здольны трымаць зброю. Хіба вораг наблізіўся б ззаду, ускараскаўся б па схілах Міндолуйну ды прайшоў бы вузкім перашыйкам, што зьвязваў Вартавы адгорак з асноўнаю гарою. Але той перашыек, адгароджаны магутнымі сьценамі, сягаў узроўню толькі пятага ярусу й утыкаўся ў навіслую скалу. На перашыйку стаялі магільні, высіліся купалы маўзалеяў згінулых каралёў і гаспадароў гораду, маўклівыя вартавыя паміж горамі й вежай.

Піпін пазіраў з усё большым зьдзіўленьнем на вялізманы мураваны горад, цудоўнейшы за ўсё, што бачыў да таго, мацнейшы й вялікшы ад Ізенградку й нашмат прыгажэйшы. Аднак насамрэч горад год за годам пусьцеў, занепадаў паціху, і ўжо не было ў ім і паловы насельнікаў, што маглі б жыць тут, не замінаючы адно аднаму. На кожнай вуліцы мыналі сядзібы й вялікія дамы, на дзьвярох ці арачных брамах якіх было выбіта шмат прыгожых літараў, вычварных і старажытных з выгляду. Піпін меркаваў: імёнаў вялікіх людзей і родаў, што жылі там калісьці, але тыя маёнткі й сядзібы стаялі маўклівыя, і крокі не адбіваліся на іхніх шырокіх брукаваных дварах, і галасы не напаўнялі іхнія залі, і нічые твары не вызіралі з-за дзьвярэй ці вокнаў.

Нарэшце выехалі зь ценю да сёмай брамы, і цёплае сонца, што саграваla й Фрода на лугох Ітыльёну, асьвятліла гладкія сьцены, і дужыя, укаранёныя ў гару калёны, і вялікую арку з нарожным каменем, вычасаным у падабенства ўкаранаванай ганарлівай галавы. Гэндальф сьпешыўся, бо коней не пускалі ў Цытадэль, і Цяняр на слова свайго гаспадара дазволіў чужым зьвесьці сябе прэч.

Вартавыя ў браме былі апранутыя ў чорнае, а шаломы іхнія мелі дзівосную форму – высокія, з доўгімі нашчочнікамі, шчыльна прылеглыя да твару, а над нашчочнікамі срэбна зіхацелі белыя крылы кірляў, насамрэч срэбныя, з сапраўднага міфрылю, – спадчынны скарб славы мінулых дзён. На чорнай апратцы вышытае Белае Дрэва сьнежна квітнела пад срэбнай каронаю й мноствам шматпраменных зор. Такое адзеньне нашчадкаў Элендыля ніхто цяпер не насіў у Гондары, апрача Варты Цытадэлі перад плошчай Вадаграю, дзе калісьці расло Белае Дрэва.

Падавалася, вестка пра прыбыцьцё падарожнікаў абагнала іх, і прапусьцілі іх адразу, маўкліва й бяз роспытаў. Гэндальф спрытна крочыў праз брукаваны белымі плітамі пляц. Вясёлы вадаграй струменіў зіхоткія кроплі ранішняга сонца, вакол стаўка ляжаў смарагдавы лужок. Над фантанам схілілася мёртвае дрэва, кроплі сумна й ціха падалі зь ягоных голых, паламаных галінаў назад, у чыстую ваду.

Піпін азірнуўся, сьпяшаючыся за Гэндальфам, і падзівіўся: гэтакая журба – чаму пакінулі мёртвае дрэва там, дзе за ўсім астатнім добра даглядаюць?

*Зораў сем і сем камянёў*
*Ды парастак Дрэва дрэў.*

Словы, што мармытаў калісьці пад нос Гэндальф, раптам згадаліся яму. Але ён ужо апынуўся перад брамаю шырокай залі пад бліскучай вежаю, і ўвасьлед за чараўніком мінуў высокіх, маўклівых вартавых, і крочыў у прахалодныя, гулкія цені каменнага палацу.

Пачалі спускацца па доўгім пустым калідоры, і, пакуль ішлі, Гэндальф казаў напаўголасу Піпіну:

– Асьцярожней з словамі, спадару Перыгрыне! Тут ня месца для легкадумнага хобіцкага нахабства. Тэядэн – добры стары. Дэнэтар – іншай пароды, ганарысты, мудры, чалавек нашмат большай высакароднасьці й улады, хоць і не завецца каралём. Пераважна зьвяртацца ён будзе менавіта да цябе, шмат распытваць, бо толькі ты здольны распавесьці яму пра сына Бараміра. Ён надта любіў яго, можа занадта, і мо асабліва таму, што былі яны дужа розныя. Але ж ён палічыць, што пад маскаю бацькоўскага клопату лягчэй вызнаць жаданае ад цябе, а не ад мяне. Кажы яму ня болей за тое, што ён спытае, і ня згадвай Фродаву мэту. З гэтым я сам разьбяруся й паведамлю, калі надыдзе час. Дый пра Арагорна не кажы анічога, хіба што цябе спытаюць наўпрост.

– Чаму не? Што ня так з Швэндалам? – спытаў Піпін шэптам. – Ён жа хацеў сюды зьявіцца, ці ня так? Дый у любым выпадку, ён прыйдзе неўзабаве.

– Магчыма, магчыма, – вымавіў Гэндальф. – Хоць, калі ён і зьявіцца, тое будзе ў нечаканай для ўсіх манеры, нават для Дэнэтара. І лепей, каб сталася так. Ва ўсялякім выпадку мы пра ягоны прыход прамаўчым.

Гэндальф прыпыніўся перад высокімі дзьвярыма зь сьлігтаванага мэталу.

– Бач, спадару Піпіне, цяпер няма часу навучаць цябе гісторыі Гондару, хоць было б лепей, калі б ты пацікавіўся ёй, заміж як лазіць па птушыныя гнёзды ды бадзяцца па шырскіх гаёх. Рабі, як я сказаў! Наўрад ці мудра прыносіць магутнаму ўладару весткі пра сьмерць спадчыньніка й адначасна пра прыбыцьцё таго, хто хоча абвесьціць сябе каралём. Ці досыць такога тлумачэньня?

– Каралём? – выдыхнуў Піпін уражаны.

– Але, – пацьвердзіў Гэндальф. – І калі ты ўвесь апошні час хадзіў глухі й сонны на глузды, абудзіся хоць бы цяпер!

І чараўнік пагрукаў у дзьверы.

Дзьверы адчыніліся, але не было відаць, хто адчыніў іх. За імі адкрылася шырокая заля, асьветленая з абодвух бакоў глыбока ўрэзанымі ў шырокія нефы вокнамі паміж шэрагамі калёнаў, што падтрымлівалі высачэзную столю. Калёны, вычасаныя з маналітных блёкаў чорнага мармуру, ля столі пераходзілі ў вялізныя агалоўкі з выявамі дзівосных зьвярыных постацяў ды лісьця, а ў далёкай вышыні купал столі блішчэў зь ценю цьмяным золатам, сьпярэшчаным вязьзю шматколерных малюнкаў ды каменных карункаў. Ані завесаў тут не было, ані павуціньня, ані габэленаў з дыванамі й нічога драўлянага – толькі стаялі ў доўгай суворай залі паміж калёнаў маўклівыя постаці высокіх людзей, вычасаныя з халоднага каменю.

Раптам Піпін узгадаў скалы Арганатаў, і яго ахапіла пашанотнае трымценьне перад шэрагам даўно згінулых каралёў. У далёкім канцы залі на ўзвышшы, да якога вяло мноства прыступак, стаяў высокі сталец пад мармуровым навесам у выглядзе шалома з каронаю, а за стальцом было вычасанае ў сьцяне, выкладзенае каштоўнымі камянямі дрэва ў квецені. Але ж сталец быў пусты. Ля самага нізу лесьвіцы на ўзвышшы, на першай шырокай прыступцы, стаяла каменнае крэсла, чорнае, без аніякіх упрыгожваньняў, і на ім сядзеў стары, пазіраючы на свае калені. У руцэ ён трымаў белае жазло з залатым канчаром. Позірку стары не падняў. Маўкліва й урачыста госьці ішлі да яго паўз доўгую залю й паўсталі за тры крокі ад крэсла. Тады Гэндальф загаварыў.

– Вітаю яснавяльможнага пана, гаспадара і намесьніка Мінас Тырыту, Дэнэтара, сына Эктэльёна! Я зьявіўся з парадамі й весткамі ў гэтую змрочную гадзіну.

Тады стары падняў галаву, і Піпін пабачыў ягоны твар: рэзкі, бы высечаны з каменю, ганарысты, з скурою колеру сланавае косткі, з доўгім, з гарбінкаю носам між глыбокіх цёмных вачэй. Ён нагадваў ня так Бараміра, як Арагорна.

– Насамрэч, змрочныя гэтыя дні, – вымавіў стары. – Гэткімі часінамі й любіш наведвацца ты, Мітрандыр. Але хоць усе азнакі прарочаць Гондару ноч, яна не чарнейшая за тую, што агарнула мяне. Мне сказалі, што ты прывёў да мяне сьведку сьмерці майго сына. Гэта ён?

– Ён, – пацьвердзіў Гэндальф. – Адзін з двух. Другі цяпер з Тэядэнам Рохансім і, магчыма, зьявіцца пазьней. Як бачыце, ён – паўрослік, хоць ня той, пра якога казалася ў прароцтве.

– Але ж усё адно паўрослік, – вымавіў Дэнэтар пахмура, – і мне не даспадобы гэтае імя – з таго часу, калі гэтыя клятыя словы ўстурбавалі наш спакой і розум і зьвялі майго сына ў вар'яцкую вандроўку насустрач сьмерці. О, мой Барамір! Як жа нам не стае цябе! Фарамір мусіў рушыць замест яго.

– Ён і выправіўся б, – заўважыў Гэндальф. – Ня будзьце несправядлівымі ў сваім горы! Барамір сам пажадаў таго й анікому ня даў бы заняць ягонае месца. Ён быў чалавек магутнай волі й гонару й заўжды браў сілаю, чаго хацеў. Я доўга вандраваў побач зь ім і ведаю ягонае сэрца. Але ж вы казалі пра ягоную сьмерць? Зьвесткі пра яе абагналі нас?

– Вас абагнала вось што, – Дэнэтар адклаў жазло й падняў з каленяў рэч, на якую глядзеў раней. І цяпер трымаў у кожнай руцэ па палове вялікага рога, расьсечанага надвое, – акаванага срэбрам рога дзікага тура.

– Гэта ж рог, які заўжды насіў Барамір! – выгукнуў Піпін.

– Так, – вымавіў Дэнэтар цяжка. – Калісьці й я насіў яго, і да мяне – кожны найстарэйшы сын у маім родзе з самых далёкіх, забытых гадоў да зьнікненьня караля, з таго часу, як Варондыль, бацька Мардыля, паляваў тураў шалёнай пароды *аро* ў далёкіх палёх Руну. Я пачуў далёкі голас рога трынаццаць дзён таму. Ён данёсься з паўночных межаў, а тады рака прынесла рог да мяне, расьсечаны. Болей ён не азавецца.

Намесьнік змоўк, і павісла цяжкая цішыня. Раптоўна ён павярнуў свой чорны позірк да Піпіна.

– Што ты скажаш пра тое, паўрослік?

– Трынаццаць дзён, трынаццаць дзён, – замармытаў хобіт. – Так, мяркую, менавіта так. Так, я стаяў побач зь ім, калі ён затрубіў у рог. Але дапамога не прыйшла. Толькі болей оркаў.

– Так, – вымавіў Дэнэтар, пранізьліва гледзячы проста ў Піпінавы вочы, – ты там быў? Кажы болей! Чаму не прыйшла дапамога? І чаму пазьбег сьмерці ты, калі ён напаткаў яе, такі магутны ваяр, і калі толькі оркі супрацьстаялі яму?

Піпін пачырванеў, забыўшыся на страх.

– Наймагутнейшага зь людзей можна забіць адзінаю стралою, а Бараміра працяла мноства, – сказаў ён. – Калі я ў апошні раз яго бачыў, ён прываліўся да дрэва й выцягваў з боку чарнапёрую стралу. Тады я страціў прытомнасьць і быў паланёны. Болей я ня бачыў і ня ведаю. Я шаную ўспаміны пра яго, бо адвага ягоная была незвычайная. Ён загінуў, каб выратаваць нас, майго родзіча Мэрыядока й мяне, калі ў лясох на нас напалі паслужнікі Чорнага Уладара, і хоць ён загінуў, ня выратаваўшы нас, мая ўдзячнасьць ад таго ня меншая.

Тады Піпін зірнуў у вочы старому й гонар дзівосна варухнуўся ў ім, абуджаны кпінай і падозраньнем у халодным голасе намесьніка.

– Невялікая карысьць, безумоўна, уладару людзей гэткай велічы й моцы ад службы простага хобіта, паўросьліка з далёкага Шыру. Аднак якою ні падалася б яна вашамосьці, я гатовы аддаць жыцьцё й сілы, каб сплаціць маю віну!

Адсунуўшы крысо плашча, Піпін выцягнуў маленькі меч дый паклаў да Дэнэтаравых ног.

Кволая ўсьмешка, нібы праблiск халоднага сонца зімовым сутоньнем, мільгнула на твары старога. Але ж ён узьняў галаву й адклаў кавалкі рога.

– Дай мне зброю! – загадаў ён.

Піпін падняў корд і працягнуў цаўём наперад да Дэнэтара.

– Адкуль гэта? – спытаў Дэнэтар. – Шмат, шмат гадоў ляжыць на гэтым мечы. Безумоўна, клінок скаваны нашай паўночнай радзінаю ў далёкай мінуўшчыне?

– Меч з курганоў, памежнага краю маёю радзімы, вашамосьць. Але цяпер толькі лютыя прывідныя пачвары жывуць там, і я не хацеў бы болей распавядаць пра іх.

– Бачу, дзівосныя дзеі твае й табе ёсьць, пра што распавесьці, – зазначыў Дэнэтар. – Яшчэ раз спраўджваецца: не вымярай чалавека – альбо паўросьліка – на вока. Я прымаю тваю службу. Бо цябе не застрашыць і ня зьбіць з панталыку словамі, і мова твая шляхетная, хоць і дзіўнавата гучыць для нас, жыхароў Поўдня. А нам яшчэ спатрэбіцца шляхетнасьць – малых ці вялікіх. Дык пакляніся ж мне!

– Вазьмі за цаўё, – падказаў Гэндальф, – дый паўтарай за ўладаром, калі ўжо пастанавіў цьвёрда.

– Я пастанавіў, – сьцьвердзіў Піпін.

Стары паклаў корд сабе на калені, а Піпін узяў рукою за тронкі дый паўтарыў павольна за Дэнэтарам:

– Клянуся верна служыць Гондару, гаспадару й намесьніку каралеўства, і на ягонае слова маўчаць ці прамаўляць, дзейнічаць ці спачываць, заставацца ці сыходзіць, у гадзіну стратаў і ў гадзіну прыбытку, падчас міру ці вайны, у жыцьці маім і сьмерці, з гэтага самага часу й датуль, пакуль мой гаспадар ня скончыць маю службу альбо сьмерць не забярэ мяне, да скону сьвету. У тым слова маё, Пэрыгрына, сына Паладына, паўросьліка з Шыру.

– Я чую твае словы, я, Дэнэтар, сын Эктэльёна, уладар Гондару, намесьнік вышняга караля, і я не забудуся на іх, і не забудуся ўзнагародзіць за дадзенае мне: за вернасьць – любоўю, за адвагу – пашанай, за парушэньне клятвы – помстаю.

Тады Піпін атрымаў назад свой меч і сунуў яго ў похвы.

– А зараз, – вымавіў Дэнэтар, – пачуй мой першы загад: распавядзі, нічога не замоўчваючы! Распавядзі ўсё, згадай усё, што трымаецца ў тваёй памяці пра майго сына Бараміра. Сядай і пачынай!

Сказаў, бразнуў у маленькі срэбны гонг, што стаяў ля крэсла, і адразу зьявіліся слугі. Піпін заўважыў, што яны стаялі ў закутах паабапал дзьвярэй, нябачныя для наведнікаў.

– Прынясеце віна й ежы для гасьцей, – загадаў Дэнэтар, – і прасачыце, каб гадзіну ніхто не турбаваў нас.

– Гэта ўсё, што я магу дазволіць, бо многае яшчэ перад мною, – патлумачыў ён Гэндальфу. – Мажліва, істотнейшае, але не такое тэрміновае для мяне, як вашыя зьвесткі. Вераемна таксама, што мы перамовім зноў напрыканцы дня.

– І спадзяюся, чым раней, тым лепей, – сказаў Гэндальф. – Бо я ня дзеля таго імчаў сюды, бы вецер, сотню міляў ад Ізенградку, каб прывезьці табе аднаго ваяку, якім шляхетным ён ні быў бы. Ці для вас няйстотна, што Тэядэн перамог у вялікай бітве, што Ізенградак пераможаны й што я зламаў кій Сарумана?

– Для мяне гэта істотна. Але я ўжо досыць ведаю пра падзеі, каб улічыць іх у маім супрацьстаяньні з усходняй пагрозаю.

Ён павярнуў чорны позірк да Гэндальфа, і цяпер Піпін заўважыў падабенства двух магутных старых – і напружанасьць паміж імі, нават уявілася між імі паласа прытлелага агню, гатовая нечакана ўспалымнуць дзікім вогнішчам.

Дэнэтар насамрэч выглядаў болей падобным да вялікага мудраца, чым Гэндальф, болей меў каралеўскасьці, велічнай прыгажосьці, відавочнай моцы. І падаваўся старэйшым. Аднак пачуцьцём, адрозным ад зроку, Піпін успрымаў: не, Гэндальфава моц нашмат большая, а мудрасьць глыбейшая, і веліч ягоная – прыхаваная. І Гэндальф старэйшы, нашмат старэйшы.

"Наколькі ж старэйшы?" – падзівіўся Піпін, сьцяміўшы, што раней думкі пра Гэндальфаў век у галаву не прыходзілі. Дрэвабарод казаў штось пра чараўнікоў, але нават і тады Гэндальф сярод іх не ўсьведамляўся. Дык хто ж такі Гэндальф? У якім далёкім часе й месцы зьявіўся ён у гэты сьвет і калі яго пакіне? Тады хобітавыя думкі парушыліся, бо ён ізноў зірнуў на Дэнэтара з Гэндальфам, якія сьвідравалі адзін аднога вачыма, быццам намагаючыся прачытаць думкі. Але Дэнэтар адвёў позірк першы.

– Так, – сказаў ён, – хоць, кажуць, палантыры згубіліся, аднак гаспадары Гондару дагэтуль маюць зрок, вастрэйшы за зрок меншых людзей, і шмат вестак заўважаюць яны. Але ж сядайце!

Тады слугі прынесьлі крэсла й зэдлік, а адзін зь іх – паднос з срэбнай бутэлькай, куфлямі й белымі хлябцамі. Піпін прысеў, але вачэй ад старога ўладара адвесьці ня мог. Ці ж гэта насамрэч, ці толькі падалося, што, згадаўшы палантыры, стары скоса зірнуў на Піпінаў твар?

– А зараз распавядай мне, мой верны ваяр, – загадаў Дэнэтар, напалову дабрадушна, напалову кпліва. – Бо словы таго, з кім мой сын гэтак сябраваў, знойдуць тут найвышэйшую ўвагу.

Піпін аніколі ў жыцьці не забываўся той гадзіны пад пранізьлівым позіркам гаспадара Гондару, тых рызыкоўных, складаных, нечаканых пытаньняў. А Гэндальф увесь час сядзеў побач, назіраючы й слухаючы ды (як адчуваў Піпін) стрымліваючы злосьць і нецярплівасьць, што нарасталі. Калі гадзіна скончылася, Дэнэтар знову бразнуў у гонг, Піпін пачуўся дашчэнту выматаным.

"А яшчэ ж дзевяці няма, – падумаў ён. – Я зараз злопаў бы без напружаньня тры сьняданьні".

– Правядзіце пана Мітрандыра да пакояў, падрыхтаваных для яго, – загадаў Дэнэтар. – Ягоны спадарожнік можа пакуль што застацца зь ім, калі пажадае. Але ж няхай будзе вядома, што я ўзяў яго ў сваю службу й прыняў ад яго клятву вернасьці. Ён будзе вядомы як Перыгрын, сын Паладына, і няхай яго навучаць простым споклічам. Разашліце мой загад гетманам: каб чакалі мяне тут адразу, як праб'е трэцюю гадзіну. Вы ж, пане Мітрандыр, зьяўляйцеся, калі пажадаеце. Аніхто й анішто не забароніць вам прыйсьці да мяне ў любую гадзіну, апрача толькі нядоўгага часу майго сну. Няхай злосьць вашая ад майго старэчага глупства суцішыцца, а тады – калі ласка, я чакаю вас!

– Глупства? – вымавіў Гэндальф. – Не, мой пане. Розум ваш скончыцца не раней за вашае жыцьцё. Вы нават горам карыстаецеся, што маскаю. Ці вы лічыце, я ня скеміў, навошта вы суцэльную гадзіну распытвалі таго, хто амаль нічога ня ведае, а мяне пакінулі сядзець побач?

– Калі вы гэта разумееце, дык тым і задаволіцеся, – зазначыў Дэнэтар. – Дурная пыха – адкінуць дапамогу й параду ў час патрэбы, але ж вашыя падарункі вы раздаяце ў адпаведнасьці з сваімі плянамі й мэтамі. Толькі гаспадар Гондару ня стане бяздумным выканаўцам чужых плянаў, якімі шляхетнымі яны ні падаваліся б. І для яго няма ў сучасным сьвеце мэты вышэйшай, чым дабрабыт Гондару. А ўлада над Гондарам, пане мой, мая й нічыя болей, хіба кароль зьявіцца зноў.

– Хіба кароль зьявіцца зноў? – вымавіў Гэндальф. – Анягож, вашамосьць намесьнік, гэтакі ваш абавязак – кіраваць каралеўствам і захоўваць яго, пакуль ня вернецца кароль, ува што цяпер мала хто верыць. І ў выкананьні абавязку я гатовы дапамагчы ўсім, пра што вам толькі задабраволіцца папытаць. Аднак скажу вось што: я не кірую аніякім каралеўствам, ані Гондарам, ані іншым, вялікім ці малым. І ўвесь мой клопат – дабрабыт усіх файных, вартых рэчаў, што ў небясьпецы ў цяперашнім сусьвеце. І ня марнымі будуць мае намаганьні, нават калі Гондар ня вытрымае, – толькі б засталося што, толькі б выжыла ў ночы нешта, здольнае захаваць прыгажосьць, прарасьці, расквітнець ізноў і даць плады будучым днём. Бо я таксама намесьнік. Ці тое вам невядома?

З тым ён павярнуўся й пакрочыў прэч, а Піпін за ім, бегма, каб не адстаць.

Пакуль ішлі, Гэндальф не сказаў Піпіну ані слоўца, нават не зірнуў на яго. За дзьвярыма залі іх сустрэў слуга й правёў праз пляц Вадаграю ў завулак паміж каменнымі будынкамі. Некалькі разоў павярнуўшы па дарозе, сягнулі дому, блізкага да паўночнай сьцяны Цытадэлі, непадалёк ад перашыйку, што злучаў горад зь Міндолуйнам. У доме падняліся на другі паверх па шырокай часанай з каменю лесьвіцы, і слуга паказаў нарэшце іхні пакой: прасторны, сьветлы, поўны сьвежага паветра, зь сьценамі, завешанымі файнымі фіранкамі колеру цьмянага роўнага золата. Няшмат мэблі было там – толькі маленькі столік, дзьве фатэлі й лава, але з кожнага боку пакою былі закуты з завесамі й файна зладжаныя ложкі зь бялізнаю, а побач – гарлачы з вадою й місы, каб умыцца. Тры высокія вузкія вакенцы глядзелі на поўнач – на вялікую луку Андуйну, яшчэ засланага туманамі, на Эмін Мюйл і далёкі Рэрас. Піпіну давялося ўскараскацца на лаву, каб зазірнуць за доўгае каменнае прываконьне.

– Вашаць злуецца на мяне, спадару Гэндальфе? – спытаў ён нарэшце, калі слуга-правадыр выйшаў ды зачыніў дзьверы. – Я вельмі стараўся.

– Сапраўды! – і Гэндальф нечакана зарагатаў.

Падышоў да Піпіна, стаў побач, паклаў руку яму на плячо й скіраваў погляд у вакно. Хобіт зьдзіўлена падняў галаву, бо сьмех гучаў насамрэч лёгка й радасна. На твары ж бачыўся толькі клопат і смутак. Аднак, прыгледзеўшыся, хобіт уцяміў, што пад маскаю клопату плёскаецца сапраўдны вадаграй весялосьці. Напэўна, усё каралеўства сьмяялася б, каб той вадаграй вырваўся вонкі.

– Насамрэч, ты справіўся так добра, як мог! – сказаў чараўнік. – Спадзяюся, табе не давядзецца болей апынуцца заціснутым паміж двума такімі жудаснымі старымі. Усё-ткі ўладар Гондару выведаў у цябе болей, чым ты здагадваесься. Ты не схаваў таго, што не Барамір вёў вас ад Морыі, што нехта высакародны сярод вас кіруецца ў Мінас Тырыт і што ў яго знакаміты меч. Людзі Гондару памятаюць старыя паданьні й часьцяком разважаюць над імі, а Дэнэтар з часу Барамíравага сыходу шмат думаў над прароцтвам і над "*Конам, вінным Ісільдару*".

Дэнэтар не падобны на людзей нашага часу, Піпіне, і якім ні быў бы ягоны радавод, нейкім чынам амаль чыстая кроў Захаду цячэ ў ягоных венах – і ў венах ягонага сына Фараміра таксама. Ды не ў Бараміры, якога бацька любіў болей. У Дэнэтара пранізьлівы позірк, і бачыць ён далёка. І калі ёсьць на тое ягоная воля,

працінае шмат таго, што адбываецца ў думках людзей, нават тых, хто жыве далёка. Цяжка падмануць яго й небясьпечна нат спрабаваць.

Запомні гэта! Бо цяпер ты пакляўся служыць яму. Ня ведаю, як тое легла ў тваю галаву ці на сэрца. Але атрымалася файна. Я ня стрымліваў цябе, бо шляхетнасьць нельга стрымліваць парадай халоднага розуму. Твой учынак крануў яго, дый таксама (ты ўжо прабач) павесяліў. Ну, урэшце, ты цяпер вольны рушыць куды заўгодна па Мінас Тырыце, калі не на службе. Бо ёсьць жа й іншы бок у гэтай справы. Ты падуладны яму, а ён на тое не забудзецца. Дык пасьцеражыся!

Ён змоўк і ўздыхнуў.

– Ну, няма сэнсу дачасна баяцца таго, што прынясе раніца. Дый яшчэ цягам мноства дзён заўтра будзе горшым за сёньня. І я анічога болей не магу зрабіць, каб выправіць тое. Партыя ўжо расстаўленая на дошцы, фігуры рухаюцца. А фігура, якую я хацеў бы пабачыць болей за ўсё, – Фарамір, цяпер спадчыньнік Дэнэтара. Ня думаю, што ён у горадзе, але ж часу бракуе зьбіраць навіны. Мушу ісьці, Піпіне. Наведаю раду ў намесьніка дый вызнаю, што здолею. Вораг першы зрабіў ход у гэтай гульні, і ад яго залежыць, якім будзе пачатак партыі. Нават і ніжнікі ў ёй, хутчэй за ўсё, пабачаць ня меней за вышнікаў, Перыгрын, сын Паладына, ваяр Гондару. Таму вастры меч!

Гэндальф пакрочыў да дзьвярэй. Ля іх прыпыніўся, павярнуўся.

– Я сьпяшаюся, Піпіне. Зрабі ласку, калі выйдзеш у горад. Нават перад адпачынкам, калі ты ня надта стомлены. Адшукай Ценяра, зірні, як яго ўладкавалі. Тутэйшы народ добры да ўсялякай жывёлы, бо мудры й добразычлівы, але ж мае небагата досьведу ў абыходжаньні з коньмі.

Гэндальф сышоў, і не пасьпеў зьнікнуць, як пачуўся ясны звонкі гук звона цытадэльнай вежы. Тройчы прабомкаў ён, нібы срэбра пралілося ў паветра, і тады змоўк – надышла трэцяя гадзіна ад усходу сонца.

Праз хвіліну Піпін падышоў да дзьвярэй, спусьціўся па лесьвіцы й выбраўся на вуліцу. Сонца цяпер праменіла й саграваля, ад вежаў ды высокіх гмахаў цягнуліся на захад доўгія выразныя цені. Сярод блакіту нябёсаў узвышалася белай каронаю гара Міндолуйн. Па вуліцах места сьпяшаліся туды й сюды ўзброеныя людзі, бо гадзінны звон азначаў для іх зьмену службы й варты.

– Паводле шырскага адліку, я сказаў бы, цяпер дзевяць гадзінаў, – прамовіў Піпін уголас сам сабе. – Якраз часінка для добрага сьняданку ля адчыненага вакна, пад вясновым сонейкам. А сьняданак не пашкодзіць, зусім не. Ці маюць гэтыя людзі ўвогуле сьняданак? Мо ягоны час ужо скончыўся? А калі ў іх абед і дзе?

Тут ён заўважыў чалавека, апранутага ў чорнае зь белым, які ішоў насустрач па вузкім завулку ад цэнтра Цытадэлі. Піпін пачуваўся самотным і вырашыў загаварыць зь незнаёмцам, калі той наблізіцца, але пачынаць самому не давялося. Чалавек ішоў проста да яго.

– Вашаць – Перыгрын паўросьлік? – спытаў ён. – Мне казалі, ты прынёс клятву вернасьці намесьніку й гораду. Вітаем!

Ён працягнуў руку, і Піпін яе пацiснуў.

– Маё імя – Бэрэганд, сын Бэрэнара. Я маю вольны час гэтым ранкам, і мяне паслалі, каб я навучыў цябе споклічам ды распавёў пра шмат рэчаў, пра якія ты, безумоўна, жадаеш ведаць. А сам я з задавальненьнем вызнаю пра вашаць. Бо аніколі раней мы ня бачылі паўросьліка ў нашай краіне, і хоць да нас даходзілі чуткі, мала

гаворыцца пра ваш народ у гондарскіх паданьнях. І болей за тое, ваша – сябра Мітрандыра. Ці добра яго ведаеш?

– Ну, *пра* яго я ведаю ўсё маё нядоўгае жыцьцё, так бы мовіць, – адказаў Піпін. – А апошнім часам я вандраваў зь ім побач. Але ж у гэтай кнізе шмат старонак, а я бачыў ня болей за адну ці дзьве. І ўсё ж, напэўна, лепей за мяне яго ведае няшмат хто. Арагорн, мяркую, адзіны з нашага зьвязку насамрэч ведае яго.

– Арагорн? – спытаў Бэрэганд. – Хто гэта?

– Ну, – запнуўся Піпін, – чалавек такі, ён вандраваў з намі. Па-мойму, ён цяпер у Рохане.

– Дык ваша быў і ў Рохане! Шмат чаго хацеў бы я распытаць таксама пра гэтую зямлю, бо нашая невялікая надзея, што засталася гэтымі днямі, амаль выключна на рахірымаў. Аднак я забываюся свой абавязак: адказваць на твае пытаньні. Што спадару Перыгрыне жадае ведаць?

– Ну, добра. Калі ўжо пра жаданьне, дык, з дазволу вашці, я агучу тое, што мяне цяпер надта турбуе: дзе тут сьняданак знайсьці ці накшталт таго? Я маю на ўвазе, якія гадзіны яды, калі ваша мяне разумее, і дзе бяседная заля, калі такая ёсьць? І дзе шынкі? Я азіраўся, але аніводнага не прыкмеціў, пакуль мы дабіраліся сюды, хоць мне карціць, прызнаюся, пакаштаваць добрага піўка, раз ужо мы патрапілі да жытла мудрых і ветлівых людзей.

– Ваша не навічок, я бачу, – заўважыў Бэрэганд паважліва. – Кажуць, тыя, хто шмат ваяваў ды вандраваў, заўжды ў першую чаргу шукаюць еміны. Хоць самому мне тое вядома толькі з расповедаў – я сам вандраваў няшмат. Дык ваша яшчэ ня сьнедаўшы сёньня?

– Ну, калі быць шчырым, дык нешта на дно страўніка ўпала, – прызнаўся Піпін. – Але ж ня болей за чарку віна й пару белых хлябцоў, дзякуй ягамосьці пану намесьніку, але за тое ён гадзіну дапытваў мяне, і тое дужа натаміла.

– За сталом, як у нас кажуць, і малыя зьдзяйсьняюць вялікія подзьвігі, – засьмяяўся Бэрэганд. – Але ж ты наталіў голад ня горш за любога ў Цытадэлі, дый з большай пашанай. Бо гэтая крэпасьць на варце ў часіну вайны. Мы падымаемся яшчэ да сьвітанку, перакусваем крыху ў паўзмроку, дый да сьвятла ўжо на сваіх пастах. Але ж не адчайвайся! – ён пабачыў нуду на Піпінавым твары. – Тыя, што насамрэч нялёгка працавалі, сілкуюцца ўранку, каб аднавіць сілы. Крыху перахапіць мажліва й аполудні ці надвячоркам – як служба дазваляе. А зьбіраемся мы дзеля бяседы й забавы, якая яшчэ засталася нам у наш час, на заходзе. Рушма! Пройдземся крыху, знойдзем, чым падсілкавацца, і парадуемся сьвежаю раніцай.

– Момант, калі ласка! – папрасіў Піпін. – Я з голаду ці, калі быць шчырым, з прагнасьці, зусім забыўся на абавязак. Гэндальф, Мітрандыр па-тутэйшаму, папрасіў мяне наведаць ягонага каня, Ценяра, правадыра роханскіх статкаў, найлепшага жарабца самога караля, як мне казалі, хоць той і аддаў каня Гэндальфу ва ўзнагароду за вялікую дапамогу. Мяркую, Ценяра Гэндальф любіць болей, чым шмат каго зь людзей, і калі добрая Гэндальфава воля нечага каштуе для гэтага гораду, дык вам належыць даглядаць Ценяра з усёй мажліваю пашанаю, з большай, чым дасталася на долю беднага хобіта.

– Хобіта?

– Так мы сябе называем, – патлумачыў Піпін.

– Прыемна даведацца, – зазначыў Бэрэганд. – Хоць шмат дзівоснага ў словах вашці й вымаўленьне нязвыклае для мяне, гжэчнасьці словаў тое не псуе. Ветлы народ хобіты. Ну, дык рушма! Пазнаёміш мяне з тым добрым канём. Бо я люблю

жывёлаў, а мы рэдка бачым іх у мурох гораду. Продкі мае паходзяць з горных далінаў, а да таго – зь Ітыльёну. Але ж ня бойся! Зазірнем на крыху, дзеля ветлівасьці, а тады самі скіруемся да месцаў пад'едку.

Піпін пераканаўся, што Ценяра добра ўладкавалі й дагледзелі. Бо на шостым ярусе, па-за сьценамі Цытадэлі, разьмяшчалася колькі файных стойлаў для хуткіх коней, проста побач з кватэрамі ганцоў, заўжды гатовых выправіцца з загадамі ўладара Дэнэтара альбо іншых ачольцаў гораду. Цяпер, аднак, Цяняр стаяў тут самотны, бо й ганцы, і іхнія коні падарожнічалі далёка за межамі места.

Цяняр заржаў ціхенька, пабачыўшы Піпіна, і павярнуў галаву.

– Добрай раніцы табе! – павітаў Піпін. – Гэндальф прыйдзе, як толькі зможа. Ён заняты, але шле вітаньні й заадно мяне – праверыць, ці ўсё з табою добра. Спадзяюся, ты добра адпачываеш пасьля доўгай вандроўкі.

Цяняр матлянуў галавою й тупнуў капытом. Аднак дазволіў Бэрэганду асьцярожна прылашчыць пысу й пагладзіць вялікі льсьністы бок.

– Ён выглядае, нібы яго доўга гадавалі й даглядалі дзеля скачкі, а ён жа толькі зь цяжкога падарожжа, – заўважыў Бэрэганд. – Які ён моцны й ганарлівы! А дзе ягоная збруя? Напэўна, яна каштоўная й прыгожая.

– Любая збруя – недастаткова прыгожая й каштоўная для яго. І ён аніякай не пацерпіць. Калі пагодзіцца несьці, дык панясе, калі не, ніякімі цуглямі, пугай ці астрогай яго не прымусіш. Да пабачэньня, Цяняр! Пацярпі – бітва набліжаецца!

Цяняр падняў галаву й заржаў, ажно стойлы здрыгануліся, а Піпін з Бэрэгандам прыкрылі вушы. Тады сышлі, упэўніўшыся, што ў ясьлях хапае ежы.

– Ну, цяпер мы да сваіх ясьляў, – пажартаваў Бэрэганд і павёў Піпіна назад, да Цытадэлі, а тады да дзьвярэй у паўночным баку галоўнай вежы.

Там спусьціліся па доўгіх сходах у шырокі калідор, асьветлены лямпамі, зь дзьвярыма пааберуч, адны зь якіх былі расчыненыя.

– Тут кладоўка й месца харчаваньня майго разьдзелу Варты, – паведаміў Бэрэганд і паклікаў, зазірнуўшы за дзьверцы: – Дабрыдзень, Таргон! Яшчэ рана, але ў нас новенькі, якога гаспадар толькі што прыняў на службу. Ён доўга вандраваў, зацягнуўшы пас, дый шмат чаго вытрываў гэтай раніцаю й згаладнеў. Дай нам, што знойдзеш!

Знайшліся хлябы, масла, сыр і яблыкі, апошнія зь леташняга ўраджаю, зморшчаныя, але яшчэ ладненькія й салодкія, ды скураная біклага сьвежага піва, а да ўсяго драўляныя талеркі й куфлі. Паскладвалі ежу ў плецены кош ды выбраліся назад, пад сонца, і Бэрэганд правёў Піпіна да ўсходняга канца вялізнага бастыёну, што далёка высоўваўся за мур. Там у муры сьвяцілася вакенца, а пад ім стаяла каменная лава. Тут яны павіталі раніцу.

Пілі й елі, размаўляючы то пра Гондар і гондарскія звычаі, то пра Шыр і іншыя дзівосныя краіны, бачаныя Піпінам. І Бэрэганд яшчэ болей уразіўся, слухаючы, і пазіраў на хобіта з большаю павагаю. А той сядзеў на лаве, матляючы нагамі, ці станавіўся на дыбкі, каб вызірнуць за прываконьне на зямлю ўнізе.

– Ня стану хаваць ад вашці, Піпіне, – вымавіў Бэрэганд. – Для нас ты выглядаеш, ну, як адзін з нашых хлапчукоў, вёснаў дзевяці ці каля таго, але ж ваша бачыў столькі цудаў ды столькі вынес, што няшмат які сівабароды дзед пахваліцца чымсьці падобным. Я ж то лічыў: гаспадару захацелася зь нейкай прыхамаці ўзяць сабе шляхетнага пажа, на манер, як кажуць, каралёў даўніны. Але ж бачу: тое ня так. Прабач, калі ласка, маё глупства.

– З радасьцю. Толькі спадар недалёка памыліўся. Я, паводле адліку майго народу, ненашмат перарос хлапчука, і мне яшчэ чатыры гады да таго, каб "перайсьці ва ўзрост", як мы кажам у Шыры. Але што пра мяне ды пра мяне. Распавядзі-тка, што я тут бачу.

Сонца падымалася, і туманы ў даліне ракі раставалі. Іхнія абрыўкі сплывалі прэч, проста над галовамі, нібы лапікі белага воблака на ўзмацнелым усходнім ветры, які матляў харугвы ды пляскаў белымі сьцягамі Цытадэлі. Далёка на дне даліны, мілі тры ці накшталт таго, плынела з паўночнага захаду Вялікая рака, шэра-срабрыстая, зіхоткая, а тады загіналася моцнаю пятлёю на поўдзень і на захад і цякла, пакуль не зьнікала з вачэй у смузе, за якою праз трыццаць зь лішнім міляў разьвіналася мора.

Піпін бачыў перад сабою ўвесь Пеленар, сьпярэшчаны ў далечы сядзібкамі й маленькімі сьценамі, але ж нідзе ня ўбачыў ані быкоў, ані якога іншага быдла. Мноства шляхоў і гасьцінцаў перасякала зялёныя палі, і шмат чаго рухалася па іх: вазкі шэрагам пад'яжджалі да Вялікай брамы й ад'яжджалі ад яе. Раз-пораз і вершнік саскокваў з каня перад брамаю, а тады сьпяшаўся ў горад. А найбольшы рух адбываўся па галоўным гасьцінцы, што вёў на поўдзень і, паварочваючы круцей за раку, агінаў падэшвы пагоркаў ды зьнікаў за імі. Гасьцінец той быў шырокі, файна брукаваны, уздоўж усходняга ягонага краю цягнулася шырокая паласа дзернавога шляху для вершнікаў, а яе з усходу адгароджвала сьцяна. Па той паласе сьпяшаліся туды й сюды вершнікі, а брукаванку, падавалася, цалкам загрувасьцілі й занялі вялізныя вазы. Але неўзабаве Піпін заўважыў, што рух насамрэч добра зладжаны й упарадкаваны: па гасьцінцы соўваліся тры шэрагі. Адзін, найхутчэйшы, складаўся з вазоў, якія цягнулі коні, другі, маруднейшы, – зь вялізных і прыгожых шматкаляровых фураў з запрэжанамі быкамі, а ўздоўж заходняга краю дарогі мноства малых вазкоў цягнулі самі людзі.

– Гэта бальшак да далінаў Тумладэн і Ласарнах, да горных сёлаў і Пажыцьцяў, – паведаміў Бэрэганд. – Ужо выпраўляюцца апошнія вазы з старымі й малымі ды жанчынамі, што едуць зь імі. Яны ўсе мусяць сысьці й вызваліць шлях на паўмілі перад брамаю яшчэ да полудня. Такі загад, сумная неабходнасьць, – ён уздыхнуў. – Няшмат хто з тых, што разьвітваюцца цяпер, напэўна, сустрэнуцца зноўку. У горадзе заўжды было небагата малых, а цяпер увогуле амаль нікога, апрача некалькіх маладзёнаў што адмовіліся сыходзіць, і ім знойдзецца праца. Мой сын – адзін зь іх.

Абодва змоўклі на пэўны час. Піпін трывожна глядзеў на ўсход, нібы чакаў, што ў любы момант тысячы оркаў кінуцца праз палі.

– А што там? – паказаў на сярэдзіну вялікай дугі Андуйну. – Ці тое іншы горад?

– Былы горад. Сталіца Гондару, бо наша места – толькі ягоная крэпасьць. Гэта руіны Азгіліяту па абодвух берагох Андуйну. Даўным-даўна ворагі захапілі й выпалілі яго. Аднак у дні маладосьці Дэнэтара мы адбілі яго – не для таго каб жыць, а каб трымаць як перадавое ўмацаваньне ды каб адрамантаваць мост для праходу нашага войска. А потым зьявіліся Лютыя Вершнікі зь Мінас Моргулу.

– Чорныя Вершнікі? – у вачох Піпіна зноў паўстала цемра колішняга жаху.

– Так, яны чорныя. Бачу, ваша нешта пра іх ведаеш, хоць і не згадаў у расповедах.

– Я ведаю іх, – вымавіў Піпін ціха, – але цяпер згадваць не хачу, гэтак блізка... блізка да...

Ён запнуўся й падняў вочы, пазіраючы за раку, і за ёю ўсё падалося яму адзіным неабсяжным пагрозьлівым ценем. Магчыма, тое горы грувасьціліся на самай мяжы

зроку, іхнія вызубраныя хрыбты засмужыліся дванаццацьцю мілямі туманістага паветра, ці паўставала сьцяна хмараў, а за ёю – яшчэ глыбейшы змрок. Але ж нават пакуль пазіраў, той змрок разрастаўся, шчыльнеў, павольна, надта павольна прасоўваючыся наперад, каб закрыць, агарнуць, прыдушыць сабою тое, што яшчэ заставалася пад сонцам.

– Гэтак блізка да Мордару? – перапытаў Бэрэганд спакойна. – Так, там ён ляжыць. Мы рэдка называем яго, але заўжды жылі ля ягонага ценю. Часам ён падаваўся слабейшым і далейшым, часам блізкім і пагрозьлівым. Цяпер ён расьце й чарнее, таму растуць і наш страх, і трывога. А Лютыя Вершнікі меней як год таму адбілі ў нас пераправы, там загінула шмат найлепшых ваяроў. Гэта Барамір выбіў нарэшце ворага з заходняга берагу, і дзякуй яму – мы яшчэ трымаем палову Азгіліяту. Пакуль што. Бо чакаем новую навалу. Магчыма, галоўную навалу вайны, што рушыць на нас.

– А калі менавіта чакаць яе? Ці здагадваецеся вы? Бо мінулай ноччу я бачыў, што вартавыя агні палаюць, бачыў ганцоў. Гэндальф казаў: гэта знак пачатку вайны. Ён, падавалася, адчайна сьпяшаўся. А цяпер, бачу, усё зноў нейк запаволілася й прыціхла.

– Гэта таму, што ўсё ўжо падрыхтаванае: нібы глыбокі ўдых перад тым, як скочыць наперад.

– А чаму мінулай ноччу запалалі празоры?

– Таму што позна клікаць дапамогу, калі ты ўжо ў аблозе. Аднак я ня ведаю пастановаў намесьніка й правадыроў. У іх шмат шляхоў збору зьвестак. А ягамосьць Дэнэтар не падобны да іншых людзей. Ён далёка бачыць. Некаторыя кажуць: начамі ён сядзіць самотны ў сваім пакоі высока на вежы і, кіруючы воляй і думкамі, заглядвае ў будучыню, а розумам часам працінае нават думкі Ворага, змагаючыся зь ім. Таму ён састарэў так, вытаміўшыся задоўга да свайго часу. Ну, гэтак альбо інакш мой правадыр, Фарамір, цяпер за ракою, выконвае нейкае небясьпечнае даручэньне. Верагодна, і ён даслаў нейкія навіны.

Але ж калі хочаш ведаць маю думку пра агні: напэўна, гэта праз учарашнія навіны з Пажыцьцяў. Вялікі флёт набліжаецца да сутокі Андуйну – піраты з Умбару з Поўдня. Даўно ўжо яны не баяцца моцы Гондару, злучыліся з Мордарам і цяпер на ягоны загад вядуць на нас вялікае войска. А іхні напад забярэ ад нас падтрымку з Пажыцьцяў і Бэльфаласу, дзе люд шматлікі й дужы. Таму нашыя надзеі – на Рохан, і тым большая нашая радасьць ад перамогі, пра якую ваша распавёў.

І ўсё-ткі, – тут ён прыпыніўся ды, выпрастаўшыся, азірнуўся на ўсе бакі, – ізенградзкія падзеі – папярэджаньне нам. Мы патрапілі ў сеціва вытанчанага й майстэрскага пляну. Аніякіх цяпер сутычак на бродах, набегаў зь Ітыльёну й Анарыёну, аніякіх засадаў ды разбою. Гэта – вялікая вайна, і мы ў ёй усяго толькі асобная частка, як бы нашая пыха таму не пярэчыла. Прыйшлі зьвесткі: шмат чаго адбываецца за Ўнутраным морам, і на поўдні Ліхалесься, і на поўдні ў Харадзе. Цяпер усім каралеўствам вялікае выпрабаваньне: вытрымаць і выстаяць ці паддацца ценю.

Усё ж, спадару Перыгрыне, нам – галоўная пашана. Нас Чорны Ўладар ненавідзіць болей за ўсіх, нянавісьцю, якая расьце з глыбіняў часу, расьце з-за мора. Сюды молат навалы абрынецца з найвялікшаю моцаю. І таму Мітрандыр так сьпяшаўся. Бо калі ня выстаім мы, хто выстаіць? Спадару Перыгрыне, ці бачыш хоць бы якую надзею для нас?

Піпін не адказаў. Зірнуў на моцныя муры, на вежы й харугвы, на сонца высока над галавою, а тады на густы змрок на ўсходзе й падумаў пра доўгія рукі гэтага Ценю:

пра оркаў у лясах і гарах, пра здраду Ізенградку, пра птушак-віжоў, пра Чорных Вершнікаў на брукаванках роднага Шыру – і пра крылаты вусьціш, пра назгула. Здрыгануўся, і ўсялякая надзея пакінула яго. Нават у гэты момант і сонца зацянілася, бы чорныя крылы засланілі яго. Амаль па-за слыхам, падалося, адрозьніў далёка й высока ў нябёсах лямант: слабы, але ж холадам адгукнуўся ён у сэрцы, жорсткі й люты. Хобіт пабялеў і прыціснуўся да сьцяны.

– Што тое было? – спытаў Бэрэганд. – Ты таксама нешта адчуў?

– Так, – прамармытаў Піпін. – Гэта знак нашага кону, цень сьмерці. Люты Вершнік над галавою.

– Так, цень кону, – пагадзіўся Бэрэганд. – Баюся, Мінас Тырыт ня выстаіць. Ноч ідзе да нас. У мяне нават кроў стыне ў жылах.

Некаторы час абодва сядзелі, схіліўшы галовы, ды маўчалі. А тады Піпін падняў галаву й пабачыў: сонца зырка праменіць, і сьцягі плынеюць па ветры. Тады ўздрыгнуў, нібы прачынаючыся.

– Яно мінула, – вымавіў ён. – Не, у маім сэрцы яшчэ няма адчаю. Гэндальф загінуў і вярнуўся, і цяпер з намі. Магчыма, і выстаім – няхай на адной назе ці трымаючыся на каленях.

– Слушна сказана! – Бэрэганд ускочыў і захадзіў туды й сюды. – Не, хоць усялякая рэч пад сонцам урэшце паміраe й гіне, Гондар не загіне яшчэ. Не загіне, нават калі вораг возьме ягоныя муры, нагрувасьціўшы горы падалі перад імі. Ёсьць і іншыя цьвярдыні, і таемныя шляхі да гор. Надзея й памяць выжывуць у якой патаемнай даліне, дзе яшчэ зелянее трава.

– Гэтак ці інакш, на дабро ці на ліха, хутчэй бы ўсё гэта скончылася, – уздыхнуў Піпін. – Я зусім не ваяр і ненавіджу нават думкі пра бітвы, а чаканьне на самым ускрайку той, якой аніяк не пазьбегнуць, – горш за ўсё. Гэты дзень такі доўгі й стамляльны! Што да мяне, лепей было б, калі б не даводзілася стаяць ды чакаць, анікуды ня рухаючыся, не наносячы ўдару першымі. І ў Рохане гэтак і стаялі б на месцы, калі б ня Гэндальф.

– А, тут ты крануў нашае балючае месца! Шмат хто так думае ў нас, – заўважыў Бэрэганд. – Верагодна, усё зьменіцца, калі вернецца Фарамір. Ён адважны й дзёрзкі, адважнейшы, чым шмат хто мяркуе. Бо ў нашыя дні людзі ня вераць, што правадыр можа быць добра дасьведчаны ў сьпевах і паданьнях ды ў запісах мінуўшчыны, як ён, і адначасна мужны й дужы, здольны на хуткі розум на полі бітвы. Але ж менавіта такі Фарамір. Ня так прагне бітвы, не такі люты й імклівы, як Барамір, аднак рашучасьці ў яго ня менш. Але ж нават ён што зрабіцьме? Мы ня здолеем напасьці на горы... горы таго каралеўства. Лязо нашае скарацела, і мы можам ударыць ворага, толькі калі ён падыдзе блізка. А тады няхай наша рука будзе цяжкой!

Ён бразнуў далоньню па цаўі меча.

Піпін зірнуў на Бэрэганда, высокага, шляхетнага, ганарыстага – як усё людзі ў гэтай зямлі, – з бляскам у вачох ад думкі пра бітву.

"На жаль, мая рука падаецца мне лягчэйшай за пёрка, – падумаў хобіт, але ўголас ня вымавіў. – Пяхтур, як казаў Гэндальф? Магчыма, але ж дошка, відавочна, ня тая".

Гэтак размаўлялі, пакуль сонца не дабралася да прытню й званы не адбілі полудзень. Па Цытадэлі сьпяшаліся туды й сюды людзі, бо ўсе, акрамя вартавых, рушылі на абед.

– Пойдзеш з мною? – спытаў Бэрэганд. – Можаш далучыцца да майго разьдзелу сёньня. Ня ведаю, куды вашу прызначаць. Верагодна, пан намесьнік захоча трымаць цябе пры сабе. Але ж вашці заўжды – калі ласка! Файна будзе таксама пазнаёміцца з нашымі хлапцамі, каб болей паказаць, пакуль ёсьць час.

– Пайду з задавальненьнем! – пагадзіўся Піпін. – Я пачуваюся самотным, калі папраўдзе. Найлепшага сябра пакінуў у Рохане, і няма з кім ані паразмаўляць, ані пажартаваць. Можа, і насамрэч мне дазволяць далучыцца да вашага разьдзелу? Ці спадар – ачольца? Калі так, возьмеш мяне ці замовіш за мяне?

– Не, не, – Бэрэганд засьмяяўся. – Я не ачольца. Ня маю ані званьня, ані пасады, ані шляхецтва. Просты шараговы Трэцяга разьдзелу Цытадэлі. Аднак, спадару Перыгрыне, быць хоць бы шараговым Варты вежы Гондару – вялікі гонар у нашым горадзе, гэтых людзей шануюць па ўсёй зямлі.

– Ну, такая пашана не для мяне, – заўважыў Піпін. – Тады, калі ласка, правядзі мяне да майго пакою. Калі Гэндальф ня там, дык тады я пайду з вашцю, куды павядзеш мяне як госьця.

Гэндальфа ў пакоі не было, цыдулкі аніякай ён не пакінуў, таму Піпін выправіўся з Бэрэгандам і быў пазнаёмлены зь людзьмі Трэцяга разьдзелу. І пашану з таго Бэрэганд атрымаў ня меншую, чым ягоны госьць, бо Піпіна надта сардэчна віталі й шанавалі. Ужо шмат гаворак ішло па Цытадэлі пра Мітрандыравага спадарожніка ды ягоныя доўгія таемныя перамовы з Дэнэтарам. Паводле чутак, князь паўросьлікаў зьявіўся з Поўначы, каб прапанаваць Гондару вернасьць і пяць тысячаў ваяроў. А некаторыя казалі, што калі роханцы прыйдуць на дапамогу, кожны вершнік прывязе з сабою ваяра-паўросьліка, малога, але ж лютага й дужага.

Хоць Піпіну давялося, на жаль, абвергнуць плёткі, пазбавіцца ад дадзенага яму шляхецтва й званьня ён ня здолеў, бо менавіта такім шляхетным, з агульнага меркаваньня, мусіць быць сябра

Бараміра, ушанаваны ягамосьцю Дэнэтарам. Людзі дзякавалі, што Піпін падзяліў зь імі стол, прагна слухалі ягоныя разважаньні й расповеды пра далёкія землі ды частавалі гэткай колькасьцю ежы й піва, якую ён толькі ў сябе ўмяшчаў. Насамрэч адзіны клопат ягоны быў "сьцерагчыся" з словамі, як раіў Гэндальф, і не матляць языком гэтак вольна, як прынята ў хобітаў паміж сябрамі.

Нарэшце Бэрэганд устаў з-за стала.

– Ну, да пабачэньня пакуль што! – сказаў ён. – У мяне цяпер служба, і да заходу. Дый, мяркую, ва ўсіх астатніх тут таксама. А калі ваша самотны, як казаў, можа, упадабаеш жвавага й вясёлага правадыра па горадзе. Мой сын з ахвотаю паслужыць. Файны хлапец, так скажу. Калі будзе на тое ахвота, спускайся на ніжэйшы ярус ды спытай пра Старую гасьцёўню на Рат Келердайн, вуліцы Ліхтарнікаў. Там і знойдзеш яго, разам зь іншымі хлапчукамі, што засталіся ў горадзе. Мяркую, яшчэ да заходу будзе што пабачыць ля Вялікай брамы да яе закрыцьця.

З тым і сышоў, і астатнія за ім неўзабаве. Дзень яшчэ быў пагодны, хоць паціху смужылася й было надта сьпякотна для сакавіка, нават і для паўднёвых краёў. Піпін адчуваў санлівасьць, але ж ягоны пакой падаваўся такім бязрадасным і няўтульным, што хобіт вырашыў спусьціцца й пабадзяцца па горадзе. Прынёс колькі смачных кавалачкаў, што захаваў з пад'едку для Ценяра, і той ахвотна прыняў іх, хоць, відавочна, ня з голаду. А тады Піпін пакрочыў уніз па мностве зьвілістых завулкаў.

Людзі азіраліся на яго, калі ён праходзіў побач. Віталі з суворай ветлівасьцю, на гондарскі манер: нахіляючы галаву й прыціскаючы рукі да грудзей, а за сьпінаю перагукаліся, бо шмат хто клікаў суседзяў, каб паказаць князя паўросьлікаў, спадарожніка Мітрандыра. Шмат хто карыстаўся не Агульнай мовай, а нейкай іншай, але Піпін хутка скеміў, што такое "Эрніл і Пэрыянат", і зразумеў, што ягоны тытул ужо пайшоў перад ім гуляць па горадзе.

Нарэшце праз шмат вулак пад высокімі аркамі, прыгожых прысадаў ды звонкіх брукаванак сягнуў ніжэйшага, шырэйшага гарадзкога ярусу, там яго накіравалі да вуліцы Ліхтарнікаў, шырокага праспэкту, што вёў проста да Вялікай брамы. Там знайшоў і Старую гасьцёўню, вялікі будынак з шэрага выветранага каменю з двума крыламі, якія адыходзілі ад вуліцы, а паміж імі – вузкі зялёны лужок, а далей – шматваконны гмах, з калёнамі ўздоўж усяго фасаду й шырокай лесьвіцай да лужку. Сярод калёнаў гуляліся хлапчукі, адзіныя малыя, якіх Піпін бачыў у Мінас Тырыце, і ён прыпыніўся, назіраючы за імі. І вось адзін з хлапчукоў заўважыў яго і, загукаўшы, скочыў праз траву й выбег на вуліцу, а за ім і колькі іншых. Падбегшы, паўстаў перад Піпінам, аглядаючы з ног да галавы.

– Здароў! – кінуў хлапчук. – Адкуль ты? Ты ж ня з гораду!

– Так было, – сказаў Піпін, – але цяпер, кажуць, я сапраўдны гондарскі ваяр.

– Ну, тады мы ўсе тут гондарскія ваяры. Колькі табе гадоў, як цябе клічуць? Мне ўжо дзесяць, і я неўзабаве сягну пяці ступнёў. Я вышэйшы за цябе. Але ж мой бацька ў Варце Цытадэлі, і ён адзін з самых высокіх. Хто твой бацька?

– На якое з тваіх пытаньняў мне адказаць спачатку? Мой бацька апрацоўвае землі вакол Драбнаклюучча, што ля Хват-Гарадку ў Шыры. Мне амаль дваццаць дзевяць, так што тут я цябе абагнаў, хоць я ўсяго чатыры ступні, болей ня вырасту, хіба ў таўшчыню.

– Дваццаць дзевяць! – хлопчык прысьвіснуў. – Які ж ты стары! Як мой дзядзька Ёрлас. Аднак, – дадаў ён з надзеяй, – аб заклад паб'юся, што пастаўлю цябе на вушы ці пакладу на лапаткі!

– Магчыма, калі я табе дазволю, – засьмяяўся Піпін. – А мо, хутчэй, я ўчыню з табою што-небудзь, то ж бо мы ведаем усялякія хітрыкі ў маёй маленькай краіне й лютыя ў барацьбе. Там я лічыўся незвычайна вялікім і моцным і анікому не дазваляў паставіць мяне на вушы. Таму, калі ўжо выйсьця ня будзе, дык я ж і забіць цябе магу. Калі вырасьцеш, зразумееш: зьнешнасьць часта падманвае, і хоць ты прыняў мяне за мяккацелага хлапчука-чужынца, папярэджваю: насамрэч я паўросьлік, дужы, страшны й злаўмысны!

Тут Піпін скорчыў такую пысу, што хлапчук адсунуўся на крок, але адразу рушыў наперад, сьціснуўшы кулакі, з ваярскім полымем у вачох.

– Ну, не! – Піпін засьмяяўся. – Таксама ня вер таму, што баюць пра сябе незнаёмцы! Аднак у любым выпадку для таго, хто выклікае на бойку, ветлівей было б спачатку назвацца.

– Я – Бэргіль, сын Бэрэганда, вартавога Цытадэлі! – хлапчук ганарліва выпрастаўся.

– Так я й думаў, – заўважыў Піпін. – Ты падобны да бацькі. Ён паслаў мяне адшукаць цябе.

– Тады чаму ты адразу не сказаў? – на твары Бэргіля намаляваўся скрайні адчай. – Ты хочаш сказаць, што бацька раптам перадумаў і выпраўляе мяне прэч зь дзяўчаткамі! Дык не, апошнія вазы ўжо зьехалі!

– Не, ягонае вырашэньне не такое благое, а мо нават і добрае. Ён казаў, што калі ты не паставіш адразу мяне на вушы, дык, верагодна, правядзеш па горадзе й пакажаш яго ды складзеш мне кампанію. А я табе за тое распавяду пра далёкія краіны.

Бэргіль запляскаў у ладкі й засьмяяўся з палёгкаю.

– Ну дык файна! Рушма! Мы зьбіраліся бегчы да брамы, каб паглядзець. Лепей хадзем зараз жа!

– А што там такое?

– Гетманы вонкавых земляў прыбудуць па Паўднёвым гасьцінцы яшчэ да заходу. Хадзі з намі, будзе цікава!

Бэргіль стаўся добрым прыяцелем, найлепшым спадарожнікам з таго часу, як Піпін разьвітаўся з Мэры, і неўзабаве яны абодва сьмяяліся й весела балбаталі, шпацыруючы па вуліцах, не зьвяртаючы ўвагі на людзкія позіркі. Праз пэўны час далучыліся да шматлікага натоўпу, які рушыў да Вялікай брамы. Тут Піпін значна падняўся ў Бэргілевых вачох, бо калі назваў сваё імя й пароль, вартавы адсалютаваў яму й дазволіў прайсьці і, больш за тое, спадарожніку ягонаму таксама.

– Ну, файнота! – зарадаваўся Бэргіль. – А тое нам, хлапчукам, не дазваляюць за Вялікую браму без дарослых. Цяпер лепей пабачым!

За брамай людзі стоўпіліся ўздоўж гасьцінцу й краёў вялікага брукаванага пляцу, на якім злучаліся ўсе шляхі да Мінас Тырыту. Усе пазіралі на поўдзень, неўзабаве ўзьняўся гаманок:

– Вунь пыл падымаецца! Ідуць!

Піпін з Бэргілем праштурхаліся да краю натоўпу. Здалёк данесьліся гукі рогаў, і гоман вітаньняў пакаціў насустрач, нібы вецер, што мацнее. Выбухам зараўлі горны, і натоўп загукаў:

– Форланг, Форланг!

– Што гэта яны? – спытаў Піпін.

– Форланг падыходзіць, – патлумачыў Бэргіль. – Стары Форланг Бруха, уладар Ласарнаху. Там жывуць мае прабацькі. Ур-ра!! Вунь ён, дружа Форланг!

Наперадзе калёны тэпаў здаравенны таўстаногі конь, а на ім сядзеў вершнік з шырачэзнымі плячыма й неахопным пузам, стары, сівабароды, у кальчужнай брані ды з доўгай цяжкой дзідай. За ім ганарліва крочыў шэраг добра ўзброеных людзей зь вялікімі баявымі сякерамі, змрачнатварых, каржакаватых і карацейшых за ўсіх, каго пакуль што бачыў Піпін у Гондары.

– Форланг! – галасілі людзі. – Вернае сэрца, верны сябра! Форланг!

Але калі людзі з Ласарнаху прайшлі, навокал замармыталі:

– Гэтак мала! Дзьве сотні і ўсё? Мы спадзяваліся, што прыйдзе ў дзесяць разоў болей. Напэўна, гэта праз тыя зьвесткі пра чорны флёт. Нам могуць даць толькі крыху сілаў. Аднак кожная кропля – нам на карысьць.

Войска за войскам падыходзіла да брамы. Іх віталі, гукаючы й галосячы. Людзі Вонкавых земляў меліся абараняць Гондар у змрочную гадзіну. Аднак заўжды было іх няшмат, заўжды меней, чым спадзяваліся ці чым патрабавалася. Прыйшлі пехатою людзі з даліны Рынгло на чале з сынам іхняга гаспадара, Дэрворына. Зь верхавінаў Мортанду, зь вялікай даліны Чорнага Кораню, крочыў высокі Дуйнхір з сынамі Дуйлінам і Дэруфінам ды пяцьцю сотнямі лучнікаў. З Анфаласу, з далёкага Узмор'я, прытэпаў разнастайны народ: паляўнічыя, пастухі й сяляне з маленькіх вёсак, блага й

бедна ўзброеныя, апрача сьвіты іхняга гаспадара Галязгіля. З Ламэдану прыбылі некалькі змрочных горцаў без правадыра. Рыбацкі народ Этыру накіраваў у Гондар сотню ці каля таго маракоў – кім падзяліліся карабельныя каманды. Хірлуйн Сьветлы зь Зеленагор'я, зь Пінат Гэліну, прывёў тры сотні апранутых у зялёнае адважных ваяроў. А апошнім – і ў найвялікшай моцы – выступаў Імрахіль, князь Дол Амрату, чые залочаныя сьцягі несьлі герб з караблём і срэбнай лебедзьдзю, за ім ехала харугва рыцараў у поўных латах на шэрых конях, а за рыцарамі крочылі сем сотняў пешых, шляхетна высокіх, шэравокіх, цёмнавалосых. Яны ўсе сьпявалі.

І гэта было ўсё. Агулам – меней за тры тысячы. Болей не зьявіўся ніхто. Выгукі прышлых ды тупат іхніх ног зьніклі, заглухлі за гарадзкім мурам. Назіральнікі яшчэ колькі часу стаялі моўчкі. Вецер сьціх, пыл вісеў у паветры, надвячорак прынёс цяжкую сьпякоту. Ужо набліжаўся час закрыцьця брамы й барвянае сонца хавалася за Міндолуйн. Цень накрыў горад.

Піпін зірнуў угару, і яму падалося: нябёсы зрабіліся попельна-шэрыя, быццам іх засьціла велізарным воблакам пылу й дыму, і сьвятло ледзь прабівалася скрозь іх. А на захадзе сонца запаліла ўвесь гэты пыл і дым крываваю барваю. І цяпер Міндолуйн стаяў чорны ў вогненным цяжкім зьзяньні, бы на вогнішчы з распаленым вугольлем.

– Так файны дзень сканчаецца ў лютасьці й злосьці! – вымавіў Піпін, забыўшыся на хлопчыка побач.

– Для мяне менавіта так і станецца, калі не вярнуся да заходніх званоў, – заўважыў Бэргіль. – Хадзем! Ужо трубяць сыгнал да закрыцьця брамы.

Поплеч сябры пасьпяшаліся ў горад і апошнія ўвайшлі перад закрыцьцём брамы. А калі сягнулі вуліцы Ліхтарнікаў усе званы на вежах сумна адбівалі прыход ночы. У мностве вокнаў запаліліся вагні, а з дамоў і хацінаў уздоўж сьценаў, дзе разьмяшчаліся ваяры, чуліся сьпевы.

– Бывай пакуль што, – сказаў Бэргіль. – Перадай мае вітаньні бацьку й падзякуй яму за цудоўнага таварыша, якім ён мяне парадаваў. Калі ласка, прыходзь ізноў! Мне нават хочацца, каб не было вайны, ну, тады мы павясяліліся б! Наведалі б Ласарнах і маіх прабацькоў. Там файна ўвесну, калі ў палёх і лясох паўнютка кветак. Мо нам і давядзецца яшчэ выправіцца туды разам. Нашага гаспадара не перамагчы, і мой бацька надта адважны. Бывай і вяртайся!

Яны разьвіталіся, і Піпін засьпяшаўся назад, да Цытадэлі. Шлях быў доўгі, хобіт запыхаўся, расчырванеўся й надта згаладнеў, а сьцямнела хутка й непраглядна. Нават ні адзінюткай зоркі не мігцела ў нябёсах. Піпін спазьніўся да вячэры, але Бэрэганд павітаў яго радасна й пасадзіў побач, каб паслухаць зьвесткі пра сына. Пасьля вячэры Піпін яшчэ крыху пасядзеў, а тады разьвітаўся, бо дзівосны сум агарнуў яго й вельмі моцна захацелася зноў пабачыць Гэндальфа.

– Сам знойдзеш дарогу? – спытаў Бэрэганд у дзьвярох маленькай залі паўночнага боку Цытадэлі, дзе вячэралі. – Ноч чорная, удвая чарнейшая ад таго, што загадана загасіць усе вагні ў горадзе, каб анічога ад муроў не праглядалася. І даводжу да цябе яшчэ адзін загад: уладар Дэнэтар хоча бачыць цябе на сьвітанку. Баюся, у Трэці разьдзел цябе не прызначаць. Аднак спадзявацьмемся, раніцаю сустрэнемся. Бывай і дабранач табе!

У пакоі, адведзеным Піпіну з чараўнікам, густую цемру разганяў толькі маленькі ліхтарык на стале. Гэндальфа не было. Сум яшчэ цяжэй лёг на Піпінава сэрца. Ён стаў на лаву й вызірнуў у вакно – усё адно як залез у чарніліцу. Зьлез, зачыніў аканіцы й

лёг у ложак. Паляжаў яшчэ, прыслухоўваючыся: ці не вярнуўся Гэндальф? А тады праваліўся ў трывожны сон.

Пасярод ночы яго абудзіла сьвятло, і ён пабачыў праз завесы алькова: Гэндальф вярнуўся й ходзіць туды й сюды па пакоі. На стале стаялі сьвечкі, валяліся скруткі пэргамэну. Пачуў, як чараўнік уздыхнуў і прамармытаў:

– Калі ж вернецца Фарамір?

– Дабранач! – Піпін высунуў галаву з-за завесы. – А я ўжо думаў: ваша на мяне забыўся. Я дык рады зноў пабачыцца. Доўгі выдаўся дзень.

– Але ж ноч падасца нашмат карацейшай, – адказаў Гэндальф. – Я прыйшоў сюды, бо мне трэба пабыць сам-насам, у спакоі. А табе належыць спаць у сваім ложку, пакуль тое магчыма. На сьвітанку пойдзеш разам з мною да Дэнэтара. Не, не на сьвітанку, а ў прызначаны загадам час. Бо Цемра прыйшла. Сьвітанку ня будзе.

## *2. Выправа шэрай харугвы*

Калі Гэндальф ад'ехаў і гулкі пошчак Цянявых капытоў паглынула ноч, Мэры вярнуўся да Арагорна. У хобіта з сабою быў толькі лёгенькі пакунак, бо заплечнік згубіўся на Парт Галене й увесь прыпас складаўся зь некалькіх карысных рэчаў, падабраных на руінах Ізенградку. Хазуфэла ўжо закілзалі, і Ляголас з Гімлі чакалі побач з сваім канём.

– Што ж, толькі чацьвёра засталіся з усяго Зьвязу, – вымавіў Арагорн. – Рушма разам, але ж не адны, мяркую. Кароль вырашыў не чакаць раніцы. Пасьля крылатага ценю ён хоча вярнуцца да гор пад покрывам ночы.

– А мы куды? – спытаў Ляголас.

– Пакуль ня ведаю. Кароль вернецца ў Эдорас, каб ачоліць рушэньне, якое загадаў склікаць чатыры ночы таму. А там, мяркую, атрымае заклік на вайну й вершнікі Рохану выправяцца на дапамогу Мінас Тырыту. Што тычыцца мяне й тых, хто з мною...

– Я! – выгукнуў Ляголас.

– І гном Гімлі, – дадаў Гімлі.

– Што ж тычыцца мяне, перад мною цемра, – скончыў Арагорн. – Я мушу ісьці ў Мінас Тырыт і яшчэ ня бачу, якім шляхам. Набліжаецца гадзіна, здаўна прызначаная мне.

– Мяне хоць не пакідайце! – узмаліўся Мэры. – Вядома, асаблівай карысьці зь мяне не было, але ж я не хачу, каб мяне адкладвалі ўбок, бы пакунак, які спатрэбіцца, калі ўсё скончыцца й супакоіцца. Быў вам залішнім цяжарам, але ж не хачу цяпер рабіцца бескарыснай пакладаю роханцам. Хоць кароль казаў, што хацеў бы пасадзіць мяне побач дый паслухаць расповеды пра Шыр.

– Так, – пагадзіўся Арагорн. – Мяркую, твой шлях – побач зь ім. Але не чакай баляваньняў. Баюся, шмат міне часу, пакуль Тэядэн зноў бесклапотна забалюе ў сваім Мэдусэльдзе. Шмат надзеяў загіне гэтай вясною.

Неўзабаве ўсе падрыхтаваліся да ад'езду: дваццаць чатыры кані й дваццаць шэсьць вершнікаў, з Гімлі за сьпінаю Ляголаса.

І рушылі праз ноч. Мінулі курганы ля бродаў Ізену, калі да караля прыскакаў вершнік з тых, што замыкалі харугву.

– Вашая каралеўская мосьць, нас даганяюць коньнікі, – паведаміў ён. – Калі перасякалі броды, мне падалося: чую іх. Цяпер няма сумневаў – яны наганяюць, скачуць на ўсю моц.

Тэядэн адразу загадаў спыніцца. Коньнікі павярнуліся й узьнялі дзіды. Арагорн сьпешыўся, спусьціў Мэры на зямлю ды, выцягнуўшы меч, стаў побач з каралеўскім стрэмем. Эямэр з збраяношам скіраваўся да ар'ергарду. Мэры ж болей чым калі пачуўся нікчэмнаю ношаю й падумаў: што рабіць, калі пачнецца бойка? А калі малую каралёву сьвіту разаб'юць ды разгоняць, а ён уцячэ ў цемры – тады што рабіцьме самотны пасярод шырокіх роханскіх палёў, ня ведаючы, дзе ён знаходзіцца ў гэтых бясконцых вёрстах роўнядзяў? Ён выцягнуў корд і падцягнуў пас.

Нізкі месяц зацяніла вялікая марудная хмара, але раптоўна ён выкараскаўся з-за яе зноў. Цяпер усе чулі пошчак капытоў, і вось змрочныя постаці вылецелі на сьцягу, што вяла ад бродаў. Месяцовае сьвятло бліскала на канчарах іхніх дзідаў. Колькі іх было, не разабралі, але ж відавочна ня меней за каралеўскую харугву.

Калі наблізіліся да паўста крокаў, Эямэр гучна выклікнуў:

– Стой! Стой! Хто рушыць па зямлі Рохану?

Пагоня раптоўна спыніла коней, усіх адначасова. Павісла цішыня, і тады ў няпэўным сьвятле роханцы пабачылі, што адзін вершнік сьпешыўся й павольна крочыў да ракі. Ягоная рука высьвецілася белым у месяцовым сьвятле, ён падняў яе даланёю наперад – на знак міру, але роханцы схапіліся за зброю. За дзесяць крокаў чалавек спыніўся. Высокі ён быў, і паўстаў пагрозьлівым ценем. А тады празьвінеў ягоны ясны, чысты голас.

– Рохан? Рохан, кажаце вы? Тое файна чуць. Бо мы сьпяшаліся да гэтай зямлі з далёкай далечы.

– Вы знайшлі яе, – абвесьціў Эямэр. – Калі перасеклі броды за вашымі сьпінамі, вы крочылі ў яе. Гэта ўладаньні караля Тэядэна. І ніхто ня рушыць сюды безь ягонага дазволу. Хто вы такія? Чаму сьпяшаліся?

– Я – Хальбарад дунадан, сьледапыт Поўначы, – выгукнуў чалавек. – Мы шукаем Арагорна, сына Араторна, бо чулі, што ён у Рохане.

– І вы знайшлі яго таксама! – выгукнуў Арагорн.

Сунуўшы лейцы Мэры, ён пабег наперад і абняў чалавека.

– Хальбарад! – выгукнуў ён. – Вось самая нечаканая з найвялікшых радасьцяў!

Мэры ўздыхнуў з палёгкай. Ужо падумаў: вось апошняя Саруманава нечаканка: падпільнаваць караля, калі зь ім усяго некалькі ваяроў. Аднак, падавалася, няма патрэбы гінуць за Тэядэна – пакуль, ва ўсялякім выпадку. Ён засунуў корд у похвы.

– Усё добра! – абвесьціў Арагорн, азіраючыся. – Мяне знайшлі мае суродзічы з далёкай краіны, дзе я жыў. Але чаму яны зьявіліся й колькі іх, Хальбарад распавядзе сам.

– Трыццаць з мною, – паведаміў Хальбарад. – Гэта ўся кравіна, якую магчыма было сабраць за кароткі час. Браты Эладан і Эльрохір выправіліся з намі, жадаючы трапіць на вайну. Мы рушылі хутка, як маглі, калі прыйшоў твой заклік.

– Але ж я ня клікаў вас, – зьдзівіўся Арагорн. – Хіба толькі ў думках. А мае думкі часьцяком зьвярталіся да вас, і рэдка болей, чым сёньня ўночы, але вестак я ня слаў. Ды калі ласка! Тлумачэньні пачакаюць. Вы знайшлі нас, калі мы сьпяшаліся, бо небясьпека побач. Едзьма разам з намі, калі кароль дазволіць.

Тэядэна навіны насамрэч задаволілі.

– Файна! – сказаў ён. – Калі кравіна вашая хоць троху падобная да вашці, пане мой Арагорне, трыццаць такіх рыцараў – моц, якую вымяраюць ня колькасьцю галоваў.

Тады рушылі зноў. Арагорн пэўны час ехаў побач з дунаданамі, абмяркоўвачы навіны з Поўначы ды з Поўдня.

– Я прынёс табе весткі ад майго бацькі, – паведаміў Эльрохір. – Ён кажа: "*Дзён тваіх брак. Калі спяшаесься, згадай Сьцягу Мёртвых*".

– Мне заўжды бракуе дзён, каб сягнуць маіх мэтаў – задумаўся Арагорн. – Але ж насамрэч незвычайна мушу я сьпяшацца, каб стаць на тую сьцягу.

– Гэта ўбачым неўзабаве, – заўважыў Эльрохір. – Аднак няварта болей размаўляць пра тое, пакуль мы яшчэ на дарогах жывых.

– Што ты нясеш з сабою? – спытаў тады Арагорн у Хальбарада, бо той замест дзіды нёс доўгі кій, нібы сьцяг, згорнуты, абкручаны чорнаю тканінаю й абвязаны мноствам рамянёў.

– Гэта падарунак табе ад спадарычні Долага Яру, – адказаў Хальбарад. – Таемна рыхтавала яна яго й даўно аддала. І таксама прыслала вестку: "*Дзён цяпер брак. Ці нашая надзея ажыве, ці ўсе надзеі згінуць. Таму шлю табе зробленае дзеля цябе. Добрага шляху табе, Эльфаў Самацьвет!*"

– Цяпер я ведаю, што ты нясеш, – вымавіў Арагорн. – Пранясі ж гэта яшчэ крыху для мяне.

І ён азірнуўся, і паглядзеў на поўнач, у змрок пад прамяністымі зорамі, і змоўк, і болей не сказаў ані слова, пакуль доўжылася вандроўка тае начы.

На ўсходзе зашарэла, калі выехалі нарэшце зь Яру й сягнулі Горнбургу. Там спыніліся крыху адпачыць ды параіцца.

Мэры спаў, пакуль яго не абудзілі Гімлі зь Ляголасам.

– Сонца высока, спадару Абібоку, – пацьвеліў Ляголас. – Астатнія падняліся й займаюцца справамі. Давай, падымайся, ды зірнем, што за мясьціны тут, пакуль яшчэ можам!

– Тры дні таму тутака была бітва, – дадаў Гімлі, – і мы зь Ляголасам троху паспрачаліся. Ды я перамог на аднаго орка. Хадзем зірнем, як тое было! А яшчэ тут пячоры, цуд, а не пячоры! Ці наведаем мы іх, Ляголас, як мяркуеш?

– Не, няма часу! Няварта псаваць цуд сьпехам. Я даў табе слова: вярнуцца сюды, калі мір ды спакой зацаруюць зноў. А цяпер блізка полудзень, час пад'есьці, а тады, думаю, рушым ізноў.

Мэры падняўся, пазяхаючы. Паспаў усяго пару гадзінаў, амаль не адпачыў і пачуваўся зусім разьбітым. Сумаваў бязь Піпіна, ведаў, што зноў будзе адно бескарыснай пакладаю, пакуль усе навокал сьпешна плянавалі нейкія справы, якія ён цалкам не разумеў.

– Дзе Арагорн? – спытаў ён.

– У вежы, – адказаў Ляголас. – Ён і ня спаў, і ўвогуле не адпачываў. Пайшоў туды колькі гадзінаў таму, сказаўшы, што мае паразважаць, і ўзяў з сабою толькі родзіча, Хальбарада. Нейкі цяжкі сумнеў ці клопат азмрочвае ягонае сэрца.

– Дзівоснае племя, гэтыя навапрышлыя, – заўважыў Гімлі. – Дужыя людзі й уладарныя, і вершнікі Рохану – нібы хлапчукі побач зь імі. Бо яны суворыя, змрочныя, і твары іхнія – што выветраныя скалы, амаль як Арагорнаў твар, а да таго ж яны людзі маўклівыя.

– Але калі парушаюць маўклівасьць, то й гжэчныя, як Арагорн, – дадаў Ляголас. – А ці зьвяртаў ты ўвагу на братоў Эладана з Эльрохірам? І апранутыя яны радасьней, і не такія суворыя, а шляхетныя й сьветлыя, сапраўдныя ўладары эльфаў – праўда, няма чаму дзівіцца, бо яны сыны Эльранда.

– А чаму яны прыехалі? Ці ведаеце вы? – спытаў Мэры.

Ён ужо апрануўся й накінуў на плечы шэры плашч, і ўсе трое крочылі разам да зруйнаванай замкавай брамы.

– Як ты чуў, яны адгукнуліся на заклік, – паведаміў Гімлі. – Зьвесткі прыйшлі ў Долы Яр: "*Арагорну патрэбная ягоная радзіна. Няхай дунаданы рушаць на дапамогу ў Рохан!*" Але адкуль прыйшоў той покліч, ім самім няясна. Мо Гэндальф даслаў яго.

– Не, Галадрыель, – запярэчыў Ляголас. – Ці ж яна вуснамі Гэндальфа не папярэдзіла нас пра Шэрую харугву з Поўначы?

– Так, твая рацыя, – пагадзіўся Гімлі. – Панна Лесу! У мностве сэрцаў чытае яна, ведае іхнія жаданьні. Чаму толькі мы не пажадалі нашых родзічаў з намі, а, Ляголас?

Ляголас жа, стоячы перад брамаю, азірнуўся па баках, і твар ягоны азмрочыла трывога.

– Ня думаю, каб яны прыйшлі, – адказаў ён. – Ім няма патрэбы выпраўляцца некуды на вайну. Вайна сама прыйшла да іхніх земляў.

Колькі часу тры сябры шпацыравалі разам, згадваючы й абмяркоўваючы тую ці іншую акалічнасьць бітвы. Мінулі браму, за ёю – курганы загінулых на зялёным

лужку побач з шляхам, а тады забраліся на вал і зірнулі на даліну ўнізе. Мерцьвяковае Ўховішча ўжо высілася там – чорны высокі камяністы пагорак, вакол добра вылучалася кольца павытаптанай ды панішчанай гаворнамі травы. Дунляндцы ды шмат хто з замкавай залогі працавалі на вале ці ў палёх альбо на пашкоджаных мурах крэпасьці. Усё падавалася дзівосна спакойным: стомленая даліна адпачывала пасьля шалёнай навалы. Паназіраўшы крыху, сябры павярнулі назад, на паўдзённы сьняданак у вялікай залі Горнбургу.

Кароль ужо сядзеў там, і калі ўвайшоў Мэры, то паклікаў яго й загадаў падрыхтаваць яму месца побач.

– Ня так тут, як хацелася б мне, – выбачыўся кароль, – бо ня надта падобна да майго сьветлага палацу ў Эдорасе. Дый твой сябра, што выправіўся з Гэндальфам, таксама мусіў быць з намі. Але ж шмат часу пройдзе, пакуль пасядзем мы разам за высокі стол Мэдусэльду, бо калі цяпер вернемся туды, часу на баляваньне ня стане. Але ж цяпер – еш ды пі! І размаўляйма, пакуль здольныя. А тады ты выправісься разам з мною.

– Мне можна, вашмосьць? – зьдзівіўся Мэры, уражаны й ушанаваны. – Тое проста найцудоўна!

Аніколі раней не адчувай такой удзячнасьці й прамармытаў, запінаючыся:

– Баюся, я ўсім толькі перашкода, блытаюся ў нагах, але ж я буду шчасьлівы паслужыць, як толькі змагу, вашмосьці.

– Я не сумняюся, – запэўніў кароль. – Загадаю, каб для цябе падрыхтавалі добрага горнага поні. Файны конік на тых шляхох, якімі мы рушым, не адстане ад вялікіх коней. Бо я паеду ад Горнбургу па горных сьцежках, не па роўнядзі, і сягну Эдорасу з Дунхэрэ, дзе панна Эявін чакае мяне. Будзь маім збраяносцам, калі пажадаеш. Ёсьць тут які ваярскі рыштунак, Эямэр, для майго шляхетнага мечаносца?

– Збраярні тут небагатыя, вашамосьць, – адказаў Эямэр. – Магчыма, знойдзецца лёгкі шалом, прыдатны для яго, але ж ні броняў, ні меча на ягоны рост няма.

– У мяне ёсьць меч! – адгукнуўся Мэры, ускочыў і выцягнуў з чорных похваў маленькі зыркі корд.

І раптам, адчуўшы вялікую любоў да старога караля, апусьціўся на адно калена, узяў каралёву руку й пацалаваў яе.

– Ці можна мне пакласьці меч Мэрыядока з Шыру перад вамі, вашамосьць кароль Тэядэн? – выгукнуў ён. – Прыміце маю службу, калі будзе на тое вашая воля!

– З радасьцю прымаю я тваю службу, – вымавіў кароль і, крануўшы доўгімі старымі далоньмі галаву хобіта, добраславіў яго: – Паўстань жа цяпер, Мэрыядок, збраяносца Рохану, ахоўнік Мэдусэльду! Вазьмі свой меч і нясі яго на добрую справу й да перамогі!

– Вашмосьць стане мне як бацька, – вымавіў Мэры.

– Ненадоўга, – уздыхнуў кароль.

Тады вярнуліся да агульнай гутаркі й ежы, пакуль Эямэр не абвесьціў:

– Набліжаецца час, які мы прызначылі для ад'езду, мой кароль. Ці загадваць мне, каб трубілі ў рогі? Але дзе ж Арагорн? Ягонае месца пустое, ён ня сьнедаў.

– Усім рыхтавацца да ад'езду, – загадаў Тэядэн. – І няхай перададуць пану Арагорну, што час надышоў.

Кароль з аховаю й Мэры побач зь ім выйшлі за браму замку на луг, дзе чакалі вершнікі. Шмат іх ужо было на конях. Рушэньне зьбіралася вялікае, бо кароль пакідаў толькі малы гарнізон у замку. Усе, хто мог насіць зброю, імкнулі да месца рушэньня,

у Эдорас. Ужо ўночы тысяча дзідаў скіравалася туды, і яшчэ палова ад таго зьявілася, большаю часткаю народ з палёў і далінаў Заходняй Украйны, каб ехаць з каралём.

Крыху далей сядзелі на конях сьледапыты, маўкліва, пашыхтаваўшыся ўжо для паходу, зь дзідамі, лукамі й мечамі. Паверх зброі ўсе накінулі цёмна-шэрыя плашчы, на шаломы насунулі каптуры. Коні іхнія былі моцныя, шляхетнага выгляду, але ж патлатыя, з грубым воласам. Адзіны стаяў бязь вершніка – уласны Арагорнаў конь, Рагерын. Ані каштоўны каменьчык, ані золата, аніякае ўпрыгожаньне не праблісквала ў збруі ці сёдлах. І сьледапыты ня несьлі аніякага знаку ці сымбалю, толькі ў кожнага на левым плячы мацавалася срэбная фібула, выява шматпраменнай зоркі.

Кароль сеў на Сьнежнагрыва, а Меры побач залез на поні, Стыбу. З брамы выйшаў Эямэр, разам зь ім – Арагорн з Хальбарадам, што нёс вялікі кій, агорнуты чорным, ды два высокія ваяры, не старыя й не маладыя. Гэтак падобныя былі адзін да аднаго сыны Эльранда, што няшмат хто мог іх адрозьніць: цёмнавалосыя, шэравокія, зь сьветлымі эльфавымі тварамі, з падобнымі зіхоткімі бронямі пад срэбна-шэрымі плашчамі. За імі крочылі Гімлі зь Ляголасам. Але ж Мэры глядзеў толькі на Арагорна – гэткая неверагодная перамена адбылася зь ім. Нібыта мноства гадоў за ноч леглі на ягоныя плечы. Суворым быў ягоны твар, шэрым і стомленым.

– Я непакоюся, вашая каралеўская мосьць, – ён падышоў да караля. – Дзівосныя словы чуў я й пабачыў здалёк новую пагрозу. Доўга я разважаў, і, баюся, мэты мае цяпер зьменяцца. Скажыце мне, кароль мой Тэядэн, колькі ехаць да Дунхэрэ, колькі пройдзе, пакуль вашамосьць дабярэцца туды?

– Ужо мінула з полудня поўная гадзіна, – заўважыў Эямэр. – Толькі на ўзьвячорку трэцяга дня адсюль даберамося мы да крэпасьці. Месяц тады будзе на дзень пасьля поўні, і рушэньне, скліканае каралём, зьбярэцца яшчэ праз дзень. Хутчэй не атрымаецца, бо трэба ж сабраць сілы Рохану.

Арагорн памаўчаў крыху. Тады прашаптаў:

– Тры дні, і толькі тады зьбярэцца рушэньне. Бачу, насамрэч паскорыць немагчыма.

Ён зірнуў угору і, падалося, нешта вырашыў, бо твар ягоны прасьвятлеў.

– Тады, з дазволу вашамосьці, я абяру новы шлях для сябе й сваёй кравіны. Мы рушым нашым уласным шляхам, болей не таемным. Бо для мяне мінуў час хавацца. Я выпраўлюся на ўсход хутчэйшым шляхам. Я пайду Сьцягою Мёртвых.

– Сьцягою Мёртвых! – паўтарыў Тэядэн, уздрыгнуўшы. – Чаму ты згадаў яе?

Эямэр павярнуўся, угледзеўся ў Арагорна, і Мэры падалося, што твары ўсіх вершнікаў, якія толькі пачулі Арагорнавы словы, зьбялелі.

– Калі сапраўды існуе такая сьцяга, пачынаецца яна ў Дунхэрэ, – сказаў кароль. – Але ніводны з жывых ня пройдзе ёю.

– Шкада, сябра мой Арагорн, як шкада! – выклікнуў Эямэр. – Я спадзяваўся: разам мы выправімся на вайну. Але ж калі ты шукаеш Сьцягу Мёртвых, тады нашыя шляхі разыдуцца, і наўрад ці зноў сустрэнемся мы пад сонцам.

– Гэтаю сьцягою я прайду, – вымавіў Арагорн. – Але ж кажу табе, Эямэр: магчыма, сярод бітвы мы сустрэнемся зноў, хоць бы ўсё мордарскае войска паўстала паміж намі!

– Абіраць твой шлях – твая воля, пане Арагорне, – сказаў кароль. – Мажліва, дарога твая вядзе па дзівосных сьцяжынах, на якія астатнія не адважваюцца крочыць. Ростань засмучае мяне, і сіла нашая меншае. Аднак зараз я мушу ехаць горным шляхам і не затрымлівацца болей. Бывай і добрай табе дарогі!

– Бывайце, гаспадар мой! – адгукнуўся Арагорн. – Едзьце – да вялікай славы й гонару! Бывай, Мэры! Я пакідаю цябе ў надзейных руках, лепшых, чым баяліся мы, палюючы оркаў ля Фангарну. Надзея мая, Гімлі зь Ляголасам застануцца яшчэ папаляваць з мною, але на цябе мы не забудземся.

– Да пабачэньня! – сказаў Мэры.

Болей словаў ён не знайшоў. Адчуваў сябе надта маленькім і нікчэмным, дый усе змрочныя гаворкі азадачылі, засмуцілі яго. Болей за ўсё сумаваў ён цяпер па невычэрпнай Піпінавай весялосьці. Вершнікі ўжо стаялі гатовыя да ад'езду, і коні нецярпліва пераміналіся з нагі на ногу. Хобіт думаў: хутчэй бы ўсё пачалося.

І вось Тэядэн аддаў загад Эямэру, а той падняў руку й выгукнуў, і вершнікі рушылі наперад. Мінулі вал, спусьціліся па даліне й збочылі на ўсход па шляху, што зь вярсту агінаў падэшвы пагоркаў, а тады паварочваў на поўдзень і хаваўся сярод горных схілаў. Арагорн жа правёў людзей караля да валу й спыніўся, назіраючы, пакуль тыя не аддаліліся. А тады павярнуўся да Хальбарада.

– Там аддаляюцца ад мяне трое тых, каго люблю, і меншага зь іх болей за ўсіх, – вымавіў ён. – Ён ня ведае яшчэ, чаго сягне й што напаткае, але нават калі б ведаў, усё адно не павярнуў бы.

– Маленькія, але ж вялікай вартасьці – насельнікі Шыру, – заўважыў Хальбарад. – Няшмат яны ведаюць пра нашыя высілкі па ахове іхніх межаў, але я не сумую з таго й ня маю крыўды.

– Нашыя лёсы сплеценыя. Але ж, на жаль, мы мусім разьвітвацца! Ну, цяпер мне трэба крыху падсілкавацца, а пасьля й нам належыць сьпяшацца. Хадзем з мною, Гімлі, Ляголас! Мушу паразмаўляць з вамі падчас сьняданку.

Разам вярнуліся ў замак, але пэўны час Арагорн сядзеў за сталом моўчкі, астатнія чакалі, пакуль ён загаворыць.

– Ну! – ня вытрымаў нарэшце Ляголас. – Распавядзі ж, адкрыйся, што цісьне на цябе, пазбаўся ценю! Што адбылося пасьля таго шарага золку, калі мы сягнулі гэтага змрочнага месца?

– Барацьба, цяжэйшая для мяне, нават чым бітва за Горнбург, – адказаў Арагорн. – Бо я, сябры мае, зазірнуў у палантыр Ортанку.

– Ты глядзеў у гэты кляты вядзьмарскі камень?! – выгукнуў Гімлі ў жаху й зьдзіўленьні. – Ці ты сказаў што – *яму*? Нават Гэндальф баяўся такога спаборніцтва!

– Ты забыўся, з кім размаўляеш, – вочы Арагорна бліснулі. – Чаго ты баісься? Што магу я выказаць *яму*? Ці не адкрыта абвесьціў я сваё званьне перад брамаю Эдорасу? ...Не, Гімлі, – дадаў ён мякчэй, і суворасьць пакінула ягоны твар, засталася толькі цяжкая стома многіх бяссонных, поўных працы начэй. – Не, сябры мае, я – праўдзівы гаспадар палантыра ды маю й права, і сілы карыстацца ім... ці так меркаваў я. Права маё аніхто не аспрэчыць. І моцы хапіла. Ледзь хапіла.

Ён глыбока ўздыхнуў.

– Жорсткая была барацьба, і ня хутка міне яе стома. Ані слова я не сказаў *яму* і, урэшце, вырваў у *яго* камень, падпарадкаваў маёй волі. Адно тое наўрад ці ён лёгка перанясе. І ён бачыў мяне. Так, спадару Гімлі, ён бачыў мяне, хоць і ня так, як бачыце вы. Калі тое дапаможа яму, тады я памыляюся. Але, мяркую, я не змыліўся. Ведаць, што я жыву й хаджу па гэтай зямлі – цяжкі ўдар для яго, бо ён ня ведаў таго раней. Вочы Ортанку ня бачылі анічога па-за роханскаю бранёю й почтам Тэядэна. Але ж Саўрон не забыўся на Ісільдара й меч Элендыля. І вось, у найвялікшую часіну ягоных плянаў і мараў яму адкрываюцца меч і спадчыньнік Ісільдара, бо я паказаў яму

перакаваны меч. А Саўрон яшчэ не такі магутны, каб падняцца над усялякім страхам, не, сумнеў заўжды грызе яго.

– Аднак улады й моцы ён сягнуў незвычайных, – заўважыў Гімлі, – і цяпер ён ударыць па нас яшчэ раней.

– А заўчасны ўдар часьцяком ня лучыць, – сказаў на тое Арагорн. – Мы мусім апярэджваць нашага Ворага, а не сядзець у чаканьні нападу. Бачце, сябры мае, калі я авалодаў палантырам, я вызнаў шмат рэчаў. Нечаканая сіла рушыць на Гондар з Поўдня, небясьпека, што адцягне вялікую частку ваяроў, хто мог бы абараняць Мінас Тырыт. Калі не адвярнуць тую пагрозу, мяркую, дзесяці дзён не міне, як горад загіне.

– Тады ён загіне, – склаў Гімлі. – Бо якую дапамогу даслаць адсюль туды й як яна прыбудзе ў патрэбны час?

– У мяне няма войска, каб накіраваць туды. Таму пайду сам. Ёсьць толькі адзіны шлях праз горы, што выведзе мяне на бераг да таго, як усё будзе страчанае. Гэта Сьцяга Мёртвых.

– Сьцяга Мёртвых! – паўтарыў Гімлі. – Ліхое імя і, бачу, ня надта даспадобы роханцам. Ці могуць жывыя прайсьці той сьцяжынай і самі не далучыцца да памерлых? І калі нават ты пройдзеш тою дарогаю, што ты зробіш такім малым войскам супраць мордарскай навалы?

– Ад часоў прыходу рахірымаў жывыя ніколі не хадзілі той сьцяжынаю, – паведаміў Арагорн, – бо яна зачыненая для іх. Аднак у час цемры спадчыньнік Ісільдара скарыстаецца ёю, калі адважыцца. Слухайце ўважліва, бо сыны Эльранда, наймудрэйшага й найабазнанейшага ў дзеях мінуўшчыны, прынесьлі мне ад свайго бацькі такія словы: "Няхай Арагорн згадае прароцтва й Сьцягу Мёртвых".

– Што за прароцтва? – спытаў Ляголас.

– У дні Арведуі, апошняга караля ў Форнасьце, празорца Мальбэт казаў:

*Доўгі цень кладзецца на Захад,*
*цемра цягне чорныя крылы.*
*Вежа ўздрыгвае, кон надыходзіць*
*да старых курганоў каралеўскіх.*
*Мёртвым час прыйшоў абудзіцца,*
*кліч пачуць парушальнікам клятвы,*
*зноў да каменя Эрэх сабрацца.*
*Хто ж у поклічны рог затрубіць?*
*Хто забытых зьбярэ із змроку?*
*Нашчадак прынялага клятву,*
*прыведзены з Поўначы лёсам,*
*крочыць ён за браму памерлых.*

– Змрочны шлях, безумоўна, – заўважыў Гімлі, – але ж не змрачнейшы за гэтыя радкі.

– Каб зразумець іх лепей, хадзем разам з мною, бо менавіта гэтаю сьцягою пайду я. Бяз радасьці, бо толькі неабходнасьць змушае мяне. Таму хачу, каб толькі з добрай волі йшлі вы з мною, бо цяжкім будзе той шлях і страшным, а магчыма, і бяду напаткаеце вы.

– Я пайду з табою нават па Сьцязе Мёртвых, куды яна ні вяла б! – вымавіў Гімлі.

– І я таксама, – далучыўся Ляголас, – бо я не баюся памерлых.

– Спадзяюся, гэтыя забытыя не забыліся яшчэ, як біцца, – прабурчэў Гімлі. – Бо інакш няма сэнсу турбаваць іх.

– Пра тое мы даведаемся, калі выйдзем да каменя Эрэх, – заўважыў Арагорн. – Але ж клятва, якую яны парушылі, была клятваю змагацца з Саўронам. І выканаюць яе яны толькі змагаючыся. А на гары Эрэх стаіць чорны камень. Яго прывёз, як кажуць, з Нумэнору сам Ісільдар і ўсталяваў на гары. На тым камені кароль гор на самым ранку Гондару пакляўся ў вернасьці Ісільдару. Калі Саўрон вярнуўся й зноў вырас у моцы, Ісільдар заклікаў народ гор выканаць клятву. Але яны адмовіліся, бо аддаліся й пакланіліся Саўрону ў Чорныя гады.

Тады Ісільдар сказаў іх каралю: "*Ты станеш апошнім каралём свайго народу. І калі Захад адужае твайго Чорнага Гаспадара, тады ляжа на цябе й твой народ мой праклён: аніколі не знайсьці спакою, пакуль ня спраўдзіце клятвы. Бо вайна працягнецца скрозь гады незьлічоныя й напрыканцы яе вас заклічуць на яе зноў*". Горцы ўцяклі ад Ісільдаравага гневу, не адважыўшыся біцца на Саўронавым баку, пахаваліся ў таемных горных спратах дый спынілі ўсялякія зносіны з вонкавым сьветам і паціху вымерлі сярод бясплодных гор. І ад таго часу жах Неспачылых Памерлых пануе вакол гары Эрэх ды ўсіх мясьцінаў, дзе жылі тыя людзі. Але я мушу йсьці туды, да памерлых, таму што няма жывых, каб дапамагчы мне.

– Дык рушма! – выклікнуў ён, паўстаў і выцягнуў меч, і той зырка бліснуў у паўзмроку замкавай залі. – Да каменю Эрэх! Бо я йду Сьцягой Мёртвых. Ідзіце з мною, чыя будзе на тое воля!

Гімлі зь Ляголасам не адказалі. Папросту ўсталі й выйшлі ўвасьлед за Арагорнам з залі. Унізе на траве ўжо чакалі нерухомыя й маўклівыя сьледапыты. Ляголас з Гімлі селі на свайго каня, Арагорн ускочыў на Рагерына. Тады Хальбарад узьняў вялізны рог, і выгук ягоны адбіўся рэхам у Хельмавым Яры, і за рэхам харугва кінулася наперад, панеслася ўніз па цясьніне, бы віхура, і ўсе людзі, якія заставаліся на Вале ці ў замку, паглядалі наўздагон ім зьдзіўлена.

І гэтак, пакуль Тэядэн рушыў павольнымі горнымі сьцежкамі, Шэрая харугва імчалася па роўнядзях і назаўтра аполудні сягнула Эдорасу. Там спыніліся ненадоўга, тады паскакалі ўверх па даліне й яшчэ да прыцемак дабраліся да Дунхэрэ.

Панна Эявін павітала іх, узрадаваўшыся іх прыбыцьцю, бо ня бачыла людзей, магутнейшых за дунаданаў і сьветлых сыноў Эльранда, але ж часьцей за ўсё яе позірк спыняўся на Арагорне. І калі яны селі вячэраць зь ёю, то шмат размаўлялі, бо небагата зьвестак сягнула яе з часоў Тэядэнавага ад'езду, і яе вочы зьзялі, калі яна чула пра бітву ў Хельмавым Яры, і пра поўную паразу ворагаў, і пра вынішчэньне іх, і пра моц караля Тэядэна й ягоных рыцараў, што выехалі насустрач ворагам.

Аднак нарэшце яна вымавіла:

– Шаноўнае спадарства, вы натаміліся. Вас чакаюць ложкі й тая ўтульнасьць, якую мы стварылі ў пасьпешлівасьці. Але ж раніцаю лепшыя пакоі знойдуцца для вас.

– Не, сьветлая панна, не клапаціся пра нас, – запярэчыў Арагорн. – Калі толькі мы здолеем прылегчы тут ды пасьнедаць уранку, таго будзе нам досыць. Бо я сьпяшаюся па справе найвялікшай значнасьці, і мы мусім рушыць зь першым сьвятлом золку.

– Незвычайная ласка да мяне, пане, – усьміхнулася яна тады, – праскакаць столькі вёрстаў, ухіліўшыся ад шляху, каб прынесьці навіны Эявін і пацешыць бяседаю ў яе выгнаньні.

– Сапраўды, аніхто не палічыў бы вандроўку дзеля такой мэты марнай, – згадзіўся Арагорн. – Аднак, панна, я не прыехаў бы сюды, калі б мой шлях ня вёў мяне праз Дунхэрэ.

– Тады, пане мой, вы заблукалі, – адказала яна так, быццам ёй не падабалася тое, што даводзілася казаць. – Бо з гэтай даліны няма дарогі ані на ўсход, ані на поўдзень, і лепей вам вярнуцца шляхам, якім вы прыехалі.

– Не, панна, я не заблукаў. Я крочыў па гэтай зямлі яшчэ да таго, як вы асьвятлілі яе сваім нараджэньнем. З гэтай даліны ёсьць шлях, і па ім я рушу. Раніцаю крочу я на Сьцягу Мёртвых.

Тады яна глянула на яго, нібы атрымаўшы цяжкі ўдар, і зьбялела, і доўга не казала анічога, і ўсе сядзелі моўчкі.

– Аднак, Арагорне, – вымавіла нарэшце, – ці ж мэта твая – шукаць сьмерці? Бо толькі яе знойдзеш ты на тым шляху. Памерлыя не дазволяць жывым прайсьці.

– Магчыма, яны дазволяць мне. Так ці йнакш, я пайду. Бо аніякі іншы шлях не дапаможа мне.

– Гэта вар'яцтва! Бо тут жа людзі моцы й пашаны, навошта весьці іх у цень, калі іхняе месца на вайне! Калі ласка, малю вас: застаньцеся з намі, едзьце з маім братам, і тады ўзрадуюцца сэрцы, і надзея нашая зазьзяе яскравей.

– Не, тое не вар'яцтва, мая панна. Я іду па шляху, прызначаным мне. Але тыя, хто ідзе з мною, робяць так з уласнага жаданьня, і калі хто хоча застацца й ехаць на вайну з рахірымамі, то вольны зрабіць так. Я ж пайду Сьцягою Мёртвых нават адзін.

Болей не размаўлялі й давячэралі ў цішыні. Панна не адрывала позірку ад Арагорна, і ўсе бачылі, як пакутуе яна ад сумневаў і жалю. Паеўшы, падняліся з-за стала, падзякаваўшы паньне за гасьціннасьць, разьвіталіся дый выправіліся спачываць.

А калі Арагорн падышоў да намёта, дзе падрыхтавалі ложкі яму й Гімлі зь Ляголасам, і калі ягоныя спадарожнікі ўжо зайшлі, а ён затрымаўся вонкі, панна падышла да яго й паклікала. Ён азірнуўся й убачыў яе срэбным праблескам у ночы, бо апранутая яна была ў белае, але вочы яе палалі.

– Арагорн, – вымавіла яна, – чаму ж ты крочыш у сьмерць?

– Таму што я мушу. Толькі ў тым мая надзея, толькі так магу я зьдзейсьніць наканаванае ў вайне супраць Саўрона. Я ня сам абраў шлях небясьпекі, Эявін. Калі б я рушыў туды, куды кліча мяне маё сэрца, я застаўся б далёка на Поўначы, у сьветлай даліне Долага Яру.

Пэўны час яна маўчала, нібы разважаючы над сэнсам пачутага. Тады раптам паклала сваю руку на ягоную.

– Ты – суровы й рашучы ўладар, ачольца людзей, і слава твая не міне цябе, – вымавіла яна й прымоўкла, а пасьля таго сказала: – Пане мой, калі ўжо мусіш ты ісьці тым шляхам, дазволь мне ехаць з табою. Бо я стамілася хавацца ў гарах, я хачу пайсьці насустрач жаху й бітве.

– На табе абавязак перад тваім народам.

– Ці не зашмат чула я пра свой абавязак? Але ж я з роду Эёрла, я ваяроўна, а ня нянька. Зашмат я клапацілася пра нямоглых. Цяпер яны, падаецца, ізноў набраліся сілаў. Чаму ж мне ня жыць цяпер так, як жадаю я?

– Няшмат хто здольны жыць так, ня трацячы высакароднасьці. Што ж тычыцца цябе, панна, ці не на табе абавязак кіраваць народам да вяртаньня гаспадара? Калі б абралі не цябе, маршалак ці гетман, прызначаны на гэтую пасаду, не пакінуў бы яе, стаміўся ён ці не.

– Ці заўжды дзеля такога абірацьмуць мяне? Ці заўжды пакідацьмуць мяне, калі вершнікі скачуць на бой? Даглядаць за хатай, пакуль яны здабываюць славу, дый гатаваць ежу й ложкі для іх, калі вернуцца?

– Неўзабаве можа надысьці такі час, калі яны ня вернуцца. Тады спатрэбіцца мужнасьць без надзеі на славу, бо ня будзе каму ўзгадаць подзьвігі апошняй абароны родных муроў. Подзьвігі тыя ня зьменшацца ад таго, што ніхто ня ўславіць іх у песьнях.

– Усе твае словы кажуць адно: ты – жанчына й месца тваё ў хаце. А калі мужчыны з гонарам загінуць у бітве, табе дазваляецца згарэць разам з хатаю, бо мужчынам яна болей не патрэбная. Але ж я – не пакаёўка. Я з роду Эёрла. Я валодаю канём і мечам і не баюся ані болю, ані сьмерці.

– Чаго ж баісься ты, мая панна?

– Клеткі. Баюся застацца за кратамі, пакуль звычка ды старасьць не пагодзяць мяне зь імі, пакуль надзея зьдзейсьніць вялікае сыдзе ў небыць.

– І панна раіла мне ня рушыць абранай сьцяжынай празь яе небясьпеку?

– Іншым можна раіць і тое, чаго не жадаеш сам. Але ж я не заклікала цябе ўцякаць ад небясьпекі, аднак ехаць на бітву, дзе твой меч заслужыць гонар і перамогу. Я не хачу бачыць, як вялікае й шляхетнае губіцца марна.

– Я таксама, – сьцьвердзіў Арагорн. – Таму кажу табе, мая панна: заставайся. Бо няма ў цябе мэты й справы на поўдні, абавязак ня кліча цябе туды.

– Як і тых, хто рушыць туды з табою, – вымавіла яна. – Яны ідуць толькі, каб быць разам з табою. Бо любяць цябе.

І яна павярнулася, і пайшла прэч, і зьнікла ў ночы.

Калі раніца асьвятліла нябёсы, а сонца яшчэ ня выбралася з-за высокіх хрыбтоў на ўсходзе, Арагорн падрыхтаваўся да ад'езду. Ягоная харугва ўся ўжо пасела на коней, і ён хацеў быў скочыць у сядло, калі зьявілася панна Эявін, каб разьвітацца. Апранутая як ваяр, зь мечам на пасе. У руках яна трымала келіх. Кранула яго вуснамі й адпіла крыху, пажадаўшы коньнікам лёгкага шляху, а тады падала келіх Арагорну. Той адпіў і вымавіў:

– Бывай, панна Рохану! Я п'ю за дабрабыт твайго дому й роду, за цябе й за ўвесь твой народ! Скажы брату: па-за ценем мы сустрэнемся зноў!

Тады падалося Гімлі зь Ляголасам, што стаялі побач, нібы яна заплакала, і надзвычай горкім выглядала тое ў асобе такой мужнай і суворай. А яна спытала:

– Арагорн, ці пойдзеш ты?

– Пайду, – адказаў ён.

– Ці не дазволіш ты мне ехаць сярод тваіх спадарожнікаў, як прасіла я?

– Не, панна. Я не магу дазволіць бяз згоды караля й твайго брата, а яны не прыедуць да раніцы. Мне ж каштоўная кожная гадзіна, нават кожная хвіліна. Бывай!

Тады яна стала на калені.

– Я малю цябе, дазволь!

– Не, мая панна.

І ўзяўшы яе за руку, падняў з каленяў. Тады пацалаваў ёй руку, скочыў у сядло й паехаў прэч, не азіраючыся. І толькі тыя, хто добра яго ведаў і быў побач, бачылі ягоны вялікі боль.

А Эявін стаяла, нібы вычасаная з каменю, сьціснуўшы кулакі, і назірала за вершнікамі, пакуль тыя ня зьніклі ў ценях пад чорным Дзьвіморбергам, гарою Наўя, там, дзе й была Брама Мёртвых. А калі зьніклі, павярнулася й пабрыла, спатыкаючыся, як сьляпая, да сваіх пакояў. І аніводны зь яе народу ня бачыў гэтага

разьвітаньня, бо ад страху ўсе пахаваліся й не хацелі выходзіць, пакуль сонца ня ўзыдзе на нябёсы й чужынцы-вар'яты ня сыдуць прэч.

А некаторыя казалі:

– Гэтыя чужынцы – эльфава наўе. Няхай едуць туды, дзе іхняе месца, у змрок, і аніколі не вяртаюцца. Часіна й так ліхая.

Ехалі шэрым досьвіткам, бо сонца яшчэ не ўскараскалася па-над чорнымі рэбрамі гары Наўя. Вусьціш агарнула ўсіх, калі праехалі паміж шэрагамі старажытных валуноў і сягнулі Дымхольту. Там пад ценем чорных дрэваў, які нават Ляголас ужо ня мог выносіць, знайшлі лог у самых каранёў гары, а проста на сьцязе стаяў адзіны магутны камень, нібы пагрозьлівы палец кону.

– У мяне кроў халаднее ў жылах, – паскардзіўся Гімлі, астатнія ж маўчалі, і голас ягоны заглух, упаў, бы мёртвы хваёвы шыльнік, пад ногі. Коні не хацелі ісьці за пагрозьлівы камень, і вершнікі сьпешыліся й павялі іх пад аброць. Гэтак нарэшце ўступілі ў лог і сягнулі скальнага муру, а ў ім ашчэранай пашчай ночы чарнелі дзьверы Змроку. Знакі й постаці, вычасаныя шырокаю аркаю над дзьвярыма, не чыталіся ў прыцемках, прывіднаю шэраю параю плынеў адтуль страх.

Харугва спынілася, бо сэрцы ўсім сьціснула жуда, апрача хіба эльфа Ляголаса, які не баяўся чалавечых прывідаў.

– Гэтыя дзьверы вядуць у ліха, – вымавіў Хальбарад. – Сьмерць чакае мяне за імі. Я ўсё адно крочу туды, але ж коні ня пойдуць.

– Мы пойдзем, таму пойдуць і нашыя коні, – запярэчыў Арагорн. – Бо калі пераадолеем гэтую цемру – наперадзе ляжа шмат міляў, і кожная гадзіна, якую мы змарнуем, набліжае Саўронаву перамогу. Хадзем за мною!

Арагорн крочыў наперад, і такая была моц ягонай волі, што ў гэты час усе дунаданы й іхнія коні рушылі за ім. І насамрэч, так любілі коні сьледапытаў сваіх вершнікаў, што адважыліся нават сустрэць цемру й жах за дзьвярыма памерлых, калі ў сэрцах іхніх гаспадароў, што ішлі побач, заставаліся мужнасьць і рашучасьць. Аднак Арад, роханскі конь, адмовіўся ісьці й стаяў, прэючы й трапечучы, і на страх ягоны пазіраць было балюча й сумна. Тады Ляголас паклаў свае рукі яму на вочы й прасьпяваў словы, ціхія й ласкавыя сярод змроку, – і конь дазволіў весьці сябе, і Ляголас крочыў за ганак. Перад ганкам жа застаўся адзіны гном Гімлі.

Калені ягоныя дрыжэлі, і ён злаваў на сябе.

– Ну, нечуваная рэч! – прабурчэў сам сабе. – Эльф ідзе ў скляпеньне, а гном не наважваецца!

З тым і кінуўся наперад. Падалося, ногі наліліся сьвінцом, ледзь перацягнуў іх цераз ганак, і адразу цемра асьляпіла яго – асьляпіла Гімлі, сына Глойна, хто бяз страху крочыў па мностве найглыбейшых пячораў гэтага сьвету.

Арагорн запаліў узятыя ў Дунхэрэ паходні й цяпер рушыў наперадзе, несучы адну высока, а Эладан з другою ішоў апошнім. Гімлі, спатыкаючыся, наганяў яго. Ня бачыў нічога, апрача бледнага полымя паходняў, а калі харугва прыпынялася, слухаў бясконцы шэпт мноства галасоў навокал, шамаценьне словаў мовы, якой раней ня чуў.

Нішто не нападала на падарожнікаў, не перашкаджала ім, але страх гнома ўсё рос і рос. І болей за ўсё ад таго, што ведаў: назад ходу ня будзе, усе шляхі ззаду запоўненыя нябачным войскам, што ідзе за імі ў цемры.

Гэтак прамінулі мо незьлічоныя гадзіны, пакуль Гімлі не пабачыў тое, што пасьля надта не любіў згадваць. Праход быў шырокі, наколькі мог меркаваць гном,

але раптоўна харугва выйшла ў шырокую залю. Сьцены пааберуч зьніклі, і вусьціш прыціснула так цяжка, што гном ледзь перасоўваў ногі. Леваруч нешта бліснула ў змроку ад сьвятла Арагорнавай паходні, калі той наблізіўся. Тады Арагорн прыпыніўся й падышоў бліжэй зірнуць, што там.

– Ці ён увогуле не адчувае страху? – прамармытаў гном. – У любой іншай пячоры Гімлі, сын Глойна, першы пабег бы на бляск золата. Але ж толькі ня тут. Няхай ляжыць!

Аднак наблізіўся й ён, і ўбачыў, што Арагорн стаіць на каленях, а Эладан трымае абедзьве паходні. Перад імі ляжаў шкілет магутнага чалавека, апранутага ў кальчугу, якая захавалася, бо паветра ў пячоры было сушэйшае за пыл, а браня пазалочаная. Пас чалавека ўпрыгожвалі золата й пунсовыя лалы, і багата аздоблены золатам шалом яшчэ трымаўся на чэрапе. Чалавек ляжаў тварам уніз. Ён упаў ля сьцяны пячоры, і перад ім стаялі шчыльна зачыненыя каменныя дзьверы. Косткі пальцаў яшчэ чапляліся за расколіны ў камені. Вызубраны й паламаны меч валяўся побач, нібы ў апошнім адчаі ваяр сек каменьне.

Арагорн не крануў яго. Паглядзеў троху моўчкі, а тады паўстаў і ўздыхнуў.

– Тут да скону сусьвету ня вырастуць сімбельмуны, – прашаптаў ён. – Дзевяць курганоў і яшчэ сем ужо парасьлі зялёнай травою, і ўсе гэтыя доўгія гады ён ляжыць перад дзьвярыма, якія ня здолеў адчыніць. Куды вядуць гэтыя дзьверы? Што шукаў ён за імі? Аніхто аніколі ня вызнае.

– Бо гэта не мая справа! – выгукнуў ён, павярнуўшыся да шапатлівай цемры за сьпінай. – Трымайце свае скарбы й таямніцы, захаваныя ў Клятыя гады! Нам патрэбная толькі хуткасьць. Дазвольце нам прайсьці й тады хадзіце за мною! Я клічу вас да каменя Эрэх!

Адказу не было, толькі поўная ціша, жахлівейшая за ранейшы шэпт, і тады задзьмула лядзянаю віхурай, і полымя паходняў ускінулася ды згасла, і запаліць нанова яго не ўдалося. Адна гадзіна ці некалькі прамінулі пасьля, Гімлі ня памятаў. Астатнія ўсё ішлі ды ішлі, а ён заўжды клыпаў апошнім, а на пяткі яму наступаў чэпкі, ухопісты жах – вось-вось дагоніць. І прывідны пошапт поўз за ім, тупаценьне мноства ног. Гімлі кульгаў, тады ледзь ня поўз, як жывёліна на пузе, і адчуваў: болей ня вытрывае, мусіць або знайсьці выйсьце, пазьбегнуць вусьцішы, або павярнуцца й у шаленстве кінуцца назад, насустрач жаху.

І раптам пачуў звон кропляў, ясны й празрысты, як крышталік, і звон той стаўся сьвітанкам у чорным змроку сну. Пасьвятлела, і вось – харугва прайшла празь іншую браму, высокую, шырокую, і побач зь сьцежкаю пабегла крынічка, а наперадзе, строма ідучы долу, пацягнулася сьцяга паміж адхонамі скалаў, наверсе вызубранымі, быццам нажы, уваткнутыя ў нябёсы. Такою глыбокаю й вузкаю была цясьніна, што нябёсы над галавою падаваліся цьмянымі, і на іх блішчэлі маленечкія зоры. Як высьветліў потым Гімлі, было яшчэ дзьве гадзіны да заходу таго самага дня, раніцаю якога пакінулі Дунхэрэ. Але ж адчувалася: мог прамінуць год ці час рухаўся паводле законаў іншага сусьвету.

Харугва зноў пасела на коней, і Гімлі вярнуўся да Ляголаса. Паехалі цугам, сутоньне ахутала падарожных глыбокім блакітным ценем, а страх па-ранейшаму перасьледаваў іх. Ляголас павярнуўся да Гімлі, зірнуў назад, і гном убачыў проста перад сабою водбліск у пранізьлівых эльфавых вачох. За імі ехаў Эладан, апошні з харугвы, але не апошні з тых, хто спускаўся ўніз па сьцежцы.

– Памерлыя едуць за намі, – вымавіў Ляголас. – Я бачу абрысы людзей і коней, і блядныя сьцягі, што абрыўкі аблокаў, і дзіды, што карункі намаразі ільдзянаю ноччу. Памерлыя йдуць за намі.

– Памерлыя йдуць за намі, – рэхам адгукнуўся Эладан. – Яны пачулі заклік.

Харугва выехала нарэшце зь цясьніны – гэтак раптоўна, нібы тая была ўпрост расколінаю ў сьцяне, і перад вандроўнікамі разьвінуліся верхавіны вялікай даліны, а струмень, што плынеў побач, паскакаў уніз па мностве вадаспадаў і зазьвінеў халодна.

– Куды ў Міжзем'і патрапілі мы? – пацікавіўся Гімлі.

– Мы выйшлі да вытокаў Мортанду, – адказаў Эладан, – доўгай халоднай ракі, якая ўпадае ў мора ля сьценаў Дол Амрату. Мяркую, табе няма патрэбы пытацца, адкуль яе імя. Людзі клічуць яе Чорнакрынічнаю.

Даліна Мортанду вялікай затокай уразалася ў паўднёвы бок гор, стромых і недаступных. Схілы іхнія зарасьлі зялёнай травою, але ўсё пашарэла ў гэты час. Сонца зайшло, і далёка ўнізе, у даліне, праблісквалі агеньчыкі ў людзкіх хацінах. Даліна была багатаю й налічвала шмат жыхароў.

Зьнянацку Арагорн, не паварочваючыся, выклікнуў гучна, каб чулі ўсе:

– Сябры, забудзьмася на стому! Скачыце, што моцы скачыце! Мусім сягнуць каменю Эрэх да скону гэтага дня, а скакаць яшчэ шмат!

І, не азіраючыся, харугва памкнула па палёх, пакуль не сягнула мосту над узбуйнелым струменем і шляху, што вёў долу.

Перад падарожнымі гасьлі агні ў хацінах і сядзібах, зачыняліся дзьверы. А тыя людзі, каго напаткалі вонкі, лямантавалі ад жаху й кідаліся прэч у шале, бы алені ад паляўнічых. Тут і там у прыцемках чуліся выгукі:

– Кароль Памерлых! Кароль Памерлых ідзе на нас!

Далёка ўнізе білі званы. Усе стрэчныя кідаліся прэч ад Арагорна, а Шэрая харугва ў сьпеху мчала, бы дзікае паляваньне, пакуль коні не пачалі спатыкацца ад стомы. І вось так у цемры, чарнейшай ад пячорнай падгорнай ночы, блізу поўначы сягнулі гары Эрэх.

Здаўна мёртвы жах панаваў на гэтай гары й пустых навакольных палёх. Бо на вяршыні яе ляжаў чорны камень, круглы, як вялізны шар, вышынёю з чалавечы рост, хоць і закапаны да паловы ў зямлю. Незямным выглядаў ён, быццам зваліўся зь нябёсаў. Некаторыя гэтаму верылі, а іншыя, хто памятаў паданьні былога Захаду, казалі, што камень гэты з Нумэнору й усталяваў яго тут Ісільдар, высадзіўшыся ў Міжзем'і. Аніхто з жыхароў даліны не адважваўся набліжацца да яго, і аніхто паблізу не сяліўся. Бо казалі, што тут балююць прывідныя цені, тут яны зьбіраюцца ў гадзіну страху й вайны, гуртуючыся вакол каменя й перашэптваючыся.

Гэтага валуна харугва сягнула ў чарноцьці ночы й спынілася ля яго. Тады Эльрохір даў Арагорну срэбны рог, і той выдзьмуў заклік. І падалося ўсім, хто стаяў побач, што здалёку ў адказ даляцелі гукі мноства рагоў, бы рэха ў глыбокіх пячорах далёка за сьпінамі. Анічога іншага ня чулі, аднак зразумелі: вялікае войска сабралася вакол гары, і лядзяны вецер, бы подых прывідаў, сышоў з гор. А Арагорн сьпешыўся, пастаў ля каменя ды выгукнуў моцна:

– Парушальнікі клятвы, навошта прыйшлі вы?!

І голас раздаўся сярод ночы, быццам з далёкай далечы:

– Стрымаць клятву й знайсьці спакой.

– Час надышоў! – абвесьціў Арагорн. – Я рушу ў Пеларгір на Андуйне, і вы пойдзеце за мною. І калі ўся гэтая зямля ачысьціцца ад паслужнікаў Саўрона, я палічу

вашую клятву споўненаю, і вы набудзеце спакой, і пакінеце гэты сьвет да скону яго. Бо я – Элесар, нашчадак Ісільдара Гондарскага.

Хальбарад разгарнуў вялікі сьцяг, які нёс з сабою, і сьцяг апынуўся чорным. Калі й была на ім якая выява, то цемра схавала яе. Цішыня павісла вакол, і ані шэпту, ані ўздыху не чувалася наўсьцяж усёй доўгай ночы. Харугва правяла ноч ля каменя, але спалі няшмат, бо вусьціш цяжка ціснула ад навакольных ценяў.

А калі надышла раніца, халодная й блядная, Арагорн паўстаў і павёў харугву ў падарожжа вялікай сьпешкі ды стомы, якую аніхто ня ведаў раней, апрача самога Арагорна, і толькі ягоная воля рушыла ўсімі. Аніякія іншыя сьмяротныя людзі не маглі б вытрымаць такое, толькі дунаданы Поўначы, ды зь імі гном Гімлі й эльф Ляголас.

Мінулі Глотку Тарланга, спусьціліся ў Ламэдан, а войска ценяў ішло ззаду, паганяючы перад сабою жах. Сягнулі Калембэля на Кірылі, і сонца нібы патанула ў крыві за Пінат Гэлін на захадзе за імі. Анікога не напаткалі ні ў горадзе, ні на бродах цераз Кірыль, бо шмат хто выправіўся на вайну, а тыя, што засталіся, уцяклі ў горы, пачуўшы пра набліжэньне Караля Памерлых. А наступным днём сьвітанак не надышоў, і Шэрая харугва крочыла ў цемру Буры з Мордару й зьнікла зь сьмяротных вачэй, але мёртвыя па-ранейшаму ішлі за ёю.

## *3. Роханскае рушэньне*

Цяпер усе шляхі вялі на ўсход – насустрач вайне й навале Ценю. І ў той самы час, калі Піпін стаяў ля Вялікай брамы гораду й назіраў, як уяжджае ў яе пад харугвамі князь Дол Амрату, кароль Рохану спусьціўся з гор.

Сутонела. У апошніх сонечных прамянёх доўгія вострыя цені абганялі вершнікаў. Цемра запаўзла пад шапатлівыя яліны, якімі зарасьлі стромыя горныя схілы. Кароль напрыканцы дня ехаў павольна. Шлях перад ім павярнуў, агінаючы вялікую голую скалу, і нырнуў у змрок, дзе мякка ўздыхалі дрэвы. Вершнікі доўгім зьвілістым ланцугом спускаліся ўсё ніжэй і ніжэй. Калі нарэшце сягнулі дна цясьніны, прыцемкі ўжо гусьцелі ў западзінах і кутах. Сонца села. Змрок лёг на вадаспады.

Увесь дзень у цясьніне пад коньнікамі бег, скакаў па скалістых прыступках ад пераваду ручай, які прасек вузкі шлях сярод зарослых соснамі гор і вось прарваўся нарэшце праз гушчэчу на шырокую прастору даліны. Ваяры ехалі ўздоўж яго, і зьнянацку Баразьніна легла перад імі, запоўненая гулкімі сярод спакою ўзьвячорку гукамі спрытнай вады. Там бялюткая Сьнежнародная ўбірала ў сябе мноства меншых рачулак і неслася, пырскаючы на камянёх, да Эдорасу, да зялёных пагоркаў і роўнядзяў. Праваруч ад пачатку вялікай даліны магутны Вастрагірн уздымаўся неабсяжным замчышчам, прыбраным аблокамі, але ягоная вызубраная вяршыня, пакрытая спрадвечным сьнегам, блішчэла высока над сьветам, цёмна-блакітная ад ценяў на ўсходзе, залітая барваю позьняга сонца на захадзе.

Мэры захапляўся дзівоснай краінай, пра якую чуў гэтак шмат расповедаў падчас доўгага шляху. Тут не было нябёсаў – вока праз змрочныя затокі вечаровага паветра заўжды ўпіралася ў схілы, якія караскаліся адзін на другі, у шэрыя муры скалаў, за якімі ўзьнімаліся новыя скалы, а побач пазяхалі пахмурыя пашчы прорваў, паўсхаваныя туманом. Хобіт сядзеў, зачараваны, слухаючы шум вады, шэпт цьмяных дрэваў, пошчак камянёў і неабсяжную, цяжкую, чакальную цішу, якая ўгадвалася, пагрозьліва лунала па-над усімі гукамі. Мэры любіў горы ці, дакладней, любіў думаць пра іх, іхнія цені на ўскрайку расповедаў пра далёкія краіны, але цяпер быццам увесь невыносны цяжар Міжзем'я наваліўся на ягоныя самотныя плечы.

Адразу захацелася схавацца ад такой вялізманасьці ў спакойным пакойчыку побач з агменем.

Хобіт надта стаміўся. Бо хоць ехалі павольна, усё ж амаль без адпачынку. Гадзіна за гадзінаю амаль тры стамляльныя дні рушылі ўвесь час уверх і ўніз, празь перавалы, доўгія даліны, мноства рачулак. Час ад часу, калі шлях рабіўся шырэйшым, хобіт ехаў побач з каралём, не заўважаючы ўсьмешак вершнікаў, што бачылі іх побач: хобіта на маленькім скурлатым шэрым поніку й гаспадара Рохану на вялікім белым кані. Тады Мэры размаўляў з Тэядэнам, распавядаў пра свой дом і зьдзяйсьненьні шырскага народу ці, у сваю чаргу, слухаў паданьні Ўкрайны ды герояў яе даўніны. Але ж большасьць часу, асабліва апошнім днём, Мэры ехаў сам па сабе наўпрост за каралём, маўкліва, намагаючыся разабраць павольную напеўную гаворку роханцаў, якую чуў вакол. У мове той, падавалася, пазнаваў шмат знаёмых словаў, хоць вымаўленых адметней і больш складана за шырскія. Аднак словы ў зразумелыя сказы ня складваліся. Раз-пораз які вершнік уздымаў голас у звонкім, чыстым сьпеве, і Мэры адчуваў, як ягонае сэрца падскоквае ў грудзёх, хоць і не разумее, куды кліча тая песьня.

Няглездячы на ўсё, пачуваўся самотным, і найбольш у прыцемках. Думаў, куды ж патрапіў у дзівосным і невымяральным сьвеце Піпін, што зрабілася з Арагорнам, Ляголасам і Гімлі. Тады раптоўна, нібы лядовым дотыкам да сэрца, кранула яго думка пра Фрода з Сэмам. "Я забываюся на іх! – дакарыў сам сябе. – А яны ж найістотнейшыя за ўсіх нас. Я ж пайшоў дапамагчы ім, але цяпер яны, напэўна, за сотні вёрстаў ад нас, калі ўвогуле жывыя".

Ён здрыгануўся.

– Баразьніна нарэшце! – абвесьціў Эямэр. – Нашае падарожжа амаль скончылася.

Вершнікі спыніліся. Сьцяга строма зьбягала ўніз з вузкай расколіны. Толькі праблiскам, нібыта праз высокае вакно, рысавалася скрозь вечаровы змрок вялікая даліна ўнізе. Адзіны маленечкі агеньчык мільгацеў ля ракі.

– Гэтае падарожжа, мажліва, і скончылася, – заўважыў Тэядэн, – аднак мне яшчэ далёка рушыць. Мінулай ноччу была поўня, і раніцаю я паеду ў Эдорас на рушэньне Ўкрайны.

– Калі б вашая каралеўская мосьць мяне паслухалі, – вымавіў Эямэр ціха, – дык вярнуліся б сюды й чакалі тут, пакуль вайна скончыцца – перамогаю альбо паразаю.

Тэядэн усьміхнуўся.

– Не табе, сыне мой – бо так цяпер буду клікаць цябе, – ліць мяккія словы Зьмеяротага ў мае старыя вушы!

Кароль выпрастаўся й азірнуўся на доўгі шэраг ваяроў, што зьнікаў у цемры за сьпінай.

– Падаецца, доўгія гады, а ня дні таму выехаў я на захад. Але ж аніколі болей не абапруся я на старэчую кульбу! Калі нас перамогуць, якая карысьць хавацца ў гарах? А калі мы пераможам, якая бяда, калі я й загіну, аддаўшы апошнія сілы перамозе? Аднак пакінем гэтую гамонку пакуль што. Сёньняшняй ноччу я буду спаць у крэпасьці Дунхэрэ. Яшчэ адзіная вечарына спакою засталася нам. Дык рушма!

У густым змроку спусьціліся ў даліну. Там Сьнежнародная плынела бліжэй да заходняга краю даліны, неўзабаве шлях вывеў да броду, дзе плыткая вада гучна булькатала на камянёх. Брод ахоўвалі. З набліжэньнем караля мноства ваяроў скочылі зь ценяў пад скаламі; калі пабачылі гаспадара Ўкрайны, то загаласілі задаволеныя:

– Кароль Тэядэн! Ягамосьць кароль Тэядэн! Гаспадар Украйны вярнуўся!

Тады нехта задзьмуў у рог, і рэха пакацілася па даліне. Іншыя рогі адказалі, і за ракою запаліліся агні.

І зьнянацку згары шматгалосым хорам зараўлі горны, падавалася, аднекуль з-пад высачэзнага даху, тое шматгалосьсе зьлілося ў адну плынь і хваляю пакацілася, заплёскала паміж каменнымі сьценамі.

Пераможцам вярнуўся кароль Украйны з захаду ў Дунхэрэ да ўзножжа Белых гор. І там знайшоў, што шмат народу ўжо сабралася, бо, як толькі пра ягоны прыезд стала вядома, ачольцы й правадыры паехалі да броду, каб сустрэць яго, несучы весткі ад Гэндальфа. Кіраваў імі Дунхэр, гаспадар тутэйшага народу.

– На сьвітанку тры дні таму, вашамосьць, – паведаміў ён, – Цяняр прымчаў віхураю з захаду ў Эдорас і Гэндальф узрадаваў нашыя сэрцы навінамі пра перамогу. І таксама перадаў загад паскорыць збор вершнікаў. А тады зьявіўся крылаты цень.

– Крылаты цень? – перапытаў Тэядэн. – Мы таксама бачылі яго, але пасярод ночы, перад тым як Гэндальф пакінуў нас.

– Верагодна, вашамосьць, той самы цень ці іншы, падобны да яго, сама цемра ў выглядзе жахлівай птушкі, праляцела над Эдорасам раніцаю, і людзі скалануліся ад

жуды. Бо яна спусьцілася да Мэдусэльду, нізка, амаль на дах палацу, і завіскатала так, што ў нас застылі сэрцы. Тады Гэндальф параіў нам не зьбірацца ў палёх, а сустрэць вашамосьць у даліне пад гарамі. І папрасіў запальваць толькі тыя вогнішчы й ліхтарні, безь якіх зусім няможна абысьціся. Так мы й зрабілі. Гэндальф прамаўляў надта ўладарна. Мы паверылі, што загады ягоныя – воля вашамосьці. Бо анічога падобнага на гэткае ліха раней ня бачылі ў Баразьніне.

– Вы добра зрабілі, – ухваліў Тэядэн. – Я цяпер – у крэпасьць, там перад адпачынкам сустрэнуся з маршалкамі й гетманамі. Няхай зьбяруцца да мяне як мага хутчэй!

Шлях вёў на ўсход, проста праз даліну, што ў гэтым месцы шырынёю была ня болей за паўвярсты. Вакол ляжалі лугі, зарослыя грубаю травою, шэрай у месяцовым сьвятле, але наперадзе, ля дальняга краю даліны, Мэры заўважыў пагрозьлівы змрочны мур, найдалейшы атовілак вялізных каранёў Вастрагірну, прасечаных ракою ў часы пракаветныя.

На роўнядзі наперадзе бачылі вялікі лягер. Колькі людзей сабралася ля шляху, вітаючы караля й пераможцаў з захаду раданымі погукамі, а за імі цягнуліся ўдалеч упарадкаваныя шэрагі намётаў ды шатроў, канавязяў з коньмі, козлаў з зброяй, таксама й мноства дзідаў тырчэла гушчаром сьвежых высадак. Цяпер над усім гэтым вялікім зборам ляжаў начны змрок, і хоць вечаровы вецер дыхаў холадам зь вяршыняў, не сьвяцілася ані агеньчыка й ані вогнішча не было распалена. Цёпла апранутыя вартавыя хадзілі туды й сюды.

Мэры стала цікава, колькі ж тут сабралася вершнікаў. У цемры цяжка было разабраць, але падавалася: магутнае войска, некалькі тысячаў. Пакуль хобіт азіраўся па бакох, каралеўская харугва сягнула высачэзнай сьцяны на ўсходнім баку даліны, а тады шлях раптам пачаў караскацца ўгару, і Мэры зірнуў наверх, зьдзіўлены й уражаны. Бо перад ім легла дарога, падобнай да якой ніколі раней ня бачыў, магутная й майстэрская праца людзей у гады, пра якія й песьняў не засталося. Наверх вяла яна, зьвіваючыся зьмяюкай, прабіваючыся наперад па адхоне суцэльнай скалы. Стромая, бы лесьвіца, пятляла яна туды й сюды. Па ёй маглі ісьці коні, і нават вазы магчыма было павольна ўсьцягнуць па ёй, але ж аніякі вораг не прайшоў бы тут, пакуль зьверху абаранялі яе, хіба сягнуў бы верхняга месца з паветра. На кожным павароце стаялі вялізныя валуны, вычасаныя ў падабенства людзей, каржакаватых, няўклюдых, што сядзелі, скрыжаваўшы ногі, склаўшы на тоўстых круглых брушках кароткія рукі. У некаторых мінулыя гады скралі ўсе рысы твараў, пакінуўшы толькі чорныя яміны вачэй, што пазіралі сумна на мінакоў. Вершнікі на статуі не глядзелі. Іх клікалі пукеламі, увагі на іх не зьвярталі, бо аніякай чароўнай моцы яны ня мелі й анікога ня страшылі, але Мэры дзівіўся ды адчуваў нешта накшталт шкадаваньня, калі яны сумна й велічна выступалі з змроку.

Праз колькі часу азірнуўся й убачыў, што ўжо падняліся на некалькі сотняў ступнёў над далінаю, але далёка ўнізе яшчэ віліся ланцугі вершнікаў, што перасякалі броды й рушылі па шляху да месца ў лягеры, прызначанага ім. Толькі кароль з аховаю падымаўся ў крэпасьць.

Нарэшце каралеўская харугва дабралася да апошняга павароту над адхонам. Далей шлях пайшоў па калідоры паміж мурамі й пасьля нядоўгага пад'ёму вывеў на шырокае пласкагор'е.

Людзі называлі гэтую шырокую роўнядзь, зарослую травою й верасам, Сьвятапольлем. Ляжала яна высока над ручвом Сьнежнароднай, на прыступцы вялізных гор – Вастрагірну на поўдні й вызубранай грамады Ірэнзагі на поўначы, а

паміж імі паглядала на вершнікаў змрочная чорная сьцяна Дзьвіморбергу – гара Наўя строміла схілы, парослыя соснамі. Падзяляючы пласкагор'е надвое, цягнулася да яе двайная лінія бясформавых камянёў-стаякоў, што зьнікалі далей у цемры, губляліся паміж дрэвамі. Тыя, хто адважваўся рушыць уздоўж камянёў, неўзабаве сягнулі б чорнага Дымхольту пад самай гарою Наўя й убачылі б пагрозьлівую каменную калёну й разяўленую пашчу забароннай вусьцішнай брамы.

Такою была змрочная цьвярдыня Дунхэрэ, праца даўно забытага народу. Імя ягонае зьнікла, ня памяталі ані песьняў ягоных, ані паданьняў. Дзеля чаго збудавалі гэтае месца – ці тое горад, ці тое таемны храм, ці тое каралеўскае скляпеньне, – аніхто цяпер у Рохане ня ведаў. У Чорныя гады, да таго, як першы карабель прыстаў да гэтых берагоў, да таго, як узьвялі дунаданскі Гондар, працавалі тут людзі – і згінулі, пакінуўшы толькі старых пукелаў уздоўж дарогі.

Мэры пазіраў на шэрагі камянёў, выветраных і чорных. Некаторыя зь іх пахіліліся, некаторыя ўвогуле ўпалі, некаторыя патрэскаліся ці паламаліся. Выглядалі яны, бы старыя, але прагныя іклы. Хобіту было цікава, навошта яны, але ён спадзяваўся, што кароль не паедзе паўзь іх у цемру. Тады заўважыў мноства шатроў і намётаў паабапал каменных шэрагаў, але намёты тыя былі ўсталяваныя падалей ад дрэваў і ўвогуле, падавалася, імкнуліся да краю пласкагор'я. Бальшыня іх стаяла праваруч, дзе Сьвятапольле было найшырэйшым, а леваруч сярод меншага лягеру намётаў высіўся вялікі прасторны шацёр. Адтуль наблізіўся вершнік, каб павітаць прышлых, і харугва збочыла туды.

Калі пад'ехалі, Мэры ўбачыў, што вершнік – насамрэч дзяўчына з доўгімі, заплеценымі ў косы валасамі, якія блішчалі ў прыцемках, аднак на галаве ў яе быў шалом, і на пасе меч, і кальчуга на целе.

– Вітаньне, кароль Украйны! – выгукнула яна. – Маё сэрца сьпявае зь вяртаньня вашамосьці!

– Я рады бачыць цябе, Эявін, – вымавіў кароль. – Ці ўсё добра ў цябе?

– Усё добра, – адказала яна, і Мэры падалося: голас здрадзіў ёй і насамрэч яна мо нават плакала, калі тое магчыма для асобы з такім суворым і мужным тварам. – Усё файна. Для людзей, якіх раптоўна адарвалі ад родных хатаў і агменяў, шлях сюды быў цяжкім. Шмат цяжкіх словаў гучала, бо ўжо даўно вайна не зганяла нас з нашых зялёных палеткаў. Аднак ніхто не ўчыніў аніякага ліха. Як бачыць вашамосьць, усё цяпер у парадку й уладкавана. Усё дзеля адпачынку вашамосьці падрыхтаванае, бо я мела зьвесткі пра прыбыцьцё вашамосьці й нават пра гадзіну, калі зьявіцеся.

– Значыць, Арагорн прыехаў сюды, – абрадаваўся Эямэр. – Ён яшчэ тут?

– Не, ён рушыў прэч, – вымавіла Эявін, адварочваючыся й углядаючыся ў цёмныя горы на поўдні й на ўсходзе.

– Куды ж скіраваўся ён? – спытаў Эямэр.

– Ня ведаю. Ён зьявіўся ўночы й учора выправіўся прэч, калі яшчэ сонца не ўскараскалася над хрыбтамі. Ён сышоў. Зьнік.

– Ты тужыш, дачка мая, – засмуціўся кароль. – Што здарылася? Скажы мне, ці не пра тую сьцягу ён казаў табе? – ён паказаў на змрочныя шэрагі камянёў, што вялі да Дзьвіморбергу. – Ён пайшоў Сьцягою Мёртвых?

– Так, гаспадар мой, – адказала Эявін. – Сышоў у цень, адкуль ніхто не вяртаўся. Я не пераканала яго. Ён сышоў. Згінуў.

– Тады шляхі нашыя разышліся, – сказаў Эямэр. – Ён згінуў. А мы рушым на бой безь яго, і надзея нашая гібее.

Павольна й моўчкі яны праехалі празь невысокі верас і верхавую траву й сягнулі каралеўскага шатра. Там Мэры ўбачыў, што насамрэч усё падрыхтаванае й на яго таксама не забыліся. Маленькі намёцік усталявалі асабіста для яго побач з каралеўскім шатром, і там хобіт сядзеў самотны, пакуль людзі хадзілі міма туды й сюды, наведваючы караля й радзячыся зь ім. Спусьцілася ноч і ўкаранавала паўбачныя галовы заходніх гор зорамі, а ўсход застаўся пусты й цьмяны. Шэрагі камянёў павольна зьніклі ў цемры, але за імі, чарнейшы за змрок, лунаў велізарны схілены цень Дзьвіморбергу.

– Сьцяга Мёртвых, – прамармытаў хобіт пад нос. – Што ж бы гэта азначала? Усе цяпер мяне пакінулі. Усе выправіліся насустрач нейкаму свайму кону. Гэндальф зь Піпінам на вайну, на захад. Сэм з Фрода ў Мордар. Швэндал зь Ляголасам і Гімлі на Сьцягу Мёртвых. Мяркую, і мая чарга надыдзе неўзабаве. Цікава, пра што гэта там усе перамаўляюцца й што кароль рабіцьме? Бо я ж мушу цяпер рушыць зь ім разам.

Сярод сумных разважаньняў ён раптам узгадаў, што надта згаладнеў, і ўжо вырашыў быў падняцца й праверыць, ці хто яшчэ ў гэтым дзівосным лягеры адчувае падобнае. Але тут загуў рог і зьявіўся чалавек, які запрасіў яго, як каралеўскага збраяносцу, прыслужваць за каралеўскім сталом.

Ва ўнутранай частцы шатра была невялікая прастора, адгароджаная з усіх бакоў вышыванымі завесамі й засланая шкурамі, там за маленькім сталом сядзелі Тэядэн з Эямэрам, і Эявін, і Дунхэр, гаспадар Баразьніны. Мэры стаў побач з каралём, чакаючы, пакуль спатрэбяцца ягоныя паслугі, але кароль, урэшце абудзіўшыся ад глыбокага задуменьня, павярнуўся да яго й усьміхнуўся.

– Ходзь сюды, спадару Мэрыядоку, – паклікаў ён. – Не, табе ня трэба стаяць. Пакуль я ў маіх землях, сядай побач з мною й павесялі маё сэрца расповедамі.

Адразу падрыхтавалі месца для хобіта, леваруч ад караля, але ніхто не прасіў аніякіх расповедаў. Увогуле размаўлялі няшмат, елі й пілі збольшага маўкліва. Нарэшце набраўшыся адвагі, Мэры спытаў пра тое, што нудзіла яго.

– Ужо двойчы, вашамосьць, чуў я пра Сьцягу Мёртвых. Што гэта за шлях такі? І дзе Швэндал, я маю на ўвазе спадар Арагорн? Куды ён выправіўся?

Кароль уздыхнуў, але не адказаў. Нарэшце маўчаньне парушыў Эямэр.

– Мы самі ня ведаем, і на нашых сэрцах – цяжар. Што тычыцца Сьцягі Мёртвых, ты сам ужо зрабіў першыя крокі па ёй. Не, мае словы не вястуюць ліхога кону! Шлях, па якім мы падымаліся, набліжаецца да патаемнай брамы, далей, у Дымхольце. А што за ёю, аніводны чалавек ня ведае.

– Аніводны чалавек ня ведае, але ж старажытная легенда, пра якую рэдка цяпер згадваюць, кажа штосьці-кольвек пра тое, – заўважыў Тэядэн. – Калі старыя паданьні, якія перадаюцца ад бацькі да сына ў родзе Эёрла, маюць каліва праўды, дык брама ў Дзьвіморбергу вядзе да таемнага праходу пад гарамі й далей да нейкага невядомага прызначэньня. Аніхто аніколі не адважваўся выкрыць тыя сакрэты з таго часу, як Бальдар, сын Брэга, прайшоў за браму. Аніколі болей ня бачылі яго сярод жывых. Ён выпіў рог мёду на баляваньні ў час сьвяткаваньня Мэдусэльду, калі Бальдараў бацька Брэга скончыў будаваць яго, і пакляўся неразумнаю клятваю – і аніколі не вярнуўся, каб заняць высокі сталец, якому быў спадчыньнік.

Народ кажа, што памерлыя Чорных гадоў ахоўваюць шлях і не дазволяць анікому жывому прайсьці ў іхнія таемныя залі. Але саміх іх час ад часу відаць. Яны, нібы цені, плынеюць з-за брамы, плывуць уздоўж каменнага шляху. Тады людзі Баразьніны зачыняюць дзьверы, і завешваюць вокны, і трымцяць. Але памерлыя

рэдка пакідаюць свае залі – толькі ў часы вялікіх турботаў і шматлікіх блізкіх сьмерцяў.

– У Баразьніне кажуць цяпер, – вымавіла Эявін ціха, – што нядаўнімі безьмесяцовымі начамі вялікае войска дзівоснага выгляду прайшло міма. Адкуль яно ўзялося, ніхто ня ведае, але яно паднялося па каменным шляху й зьнікла ў гары, быццам скіраваўшыся да месца заклiку й збору.

– Тады чаму Арагорн пайшоў туды? – спытаў Мэры. – Вы ня ведаеце анічога, што можа патлумачыць ягоны ўчынак?

– Хіба толькі ён казаў табе, як свайму сябру, што-небудзь, чаго мы ня ведаем і што можа патлумачыць усё, – заўважыў Эямэр. – Калі не, дык ніхто на зямлі жывых ня скажа, якая была ягоная мэта.

– Мне падалося, ён зьмяніўся з таго часу, як упершыню я ўбачыла яго ў каралеўскім палацы, – згадала Эявін. – Састарэў, пазмрачнеў. Пячатку лёсу, нетутэйшага сьвету ўбачыла я на ім, бы ў таго, каго ўжо паклікалі памерлыя.

– Мажліва, ён і быў пакліканы, – заўважыў Тэядэн. – Маё сэрца кажа мне, што я ня ўбачу яго зноў. Аднак лёс каралёў на ягоным чале, высокі лёс. Суцесься, дачка мая, бо падаецца мне, што суцяшэньня жадаеш ты ў тузе па нашым высокім госьцю. Кажуць, калі эёрлінгі прыйшлі з Поўначы й пасьля доўгага падарожжа падняліся ўздоўж Сьнежнароднай, шукаючы месцы для крэпасьцяў і спратаў у час патрэбы, Брэга й ягоны сын Бальдар ускараскаліся па лесьвіцы Сьвятапольля й прыйшлі да брамы. На ганку яе сядзеў чалавек, састарэлы па-за любым адлікам чалавечых гадоў, высокі, па-каралеўску ганарлівы, але ссохлы й абветраны, што заімшэлы валун. За камень і прынялі яго спачатку, бо ён ня рухаўся й не сказаў ані слова, пакуль яны не захацелі абысьці яго, каб крочыць за браму. Тады пачуўся ягоны голас, бы з глыбіняў зямлі, на зьдзіўленьне, голас той вымавіў на заходняй мове: "*Шлях забаронены!*"

Яны спыніліся, прыглядаючыся, і ўбачылі яго: ён быў яшчэ жывы, але не глядзеў на іх.

"*Шлях забаронены*, – вымавіў голас ізноў, – *ён зроблены памерлымі, і памерлыя пільнуюць яго да прызначанага часу. Шлях забаронены*".

"*І калі прыйдзе той прызначаны час?*" – спытаў Бальдар. Але адказу не атрымаў. Бо стары памёр у тую самую хвілю, і ўпаў ніцма, і аніякіх іншых зьвестак пра старажытных насельнікаў гор наш народ аніколі ня вызнаў. Мажліва, нарэшце прадказаны час надышоў, і Арагорн здолее прайсьці.

– Але ж як сьмяротнаму высьветліць, ці надышоў той час, апрача як крочыць за браму? – спытаў Эямэр. – За яе я ня рушыў бы, нават калі б усе натоўпы Мордару сталі перад мною, а я заставаўся адзінюткі й ня меў аніякага іншага выйсьця. Як шкада, што ліха апанавала чалавека гэткай велічы ў часіну нашай пільнай патрэбы! Ці ж мала гора пад сонцам гэтай зямлі? Навошта шукаць яго ў скляпеньнях? Вайна ж побач!

Ён змоўк, і ў гэты момант пачуўся звонкі гоман – нехта выгукнуў імя Тэядэна, – і запытальныя поклічы варты.

Ачольца аховы адсунуў убок завесу.

– Тут чалавек, ганец з Гондару, – паведаміў ён. – Жадае паўстаць перад вашамосьцю зараз.

– Тады няхай паўстане! – дазволіў Тэядэн.

Высокі ваяр крочыў за завесу, і Мэры ледзь стрымаўся, каб ня выгукнуць, бо на момант яму падалося, што ажыў і вярнуўся Барамір. Толькі крыху пазьней уцяміў, што чалавек незнаёмы й падобны да Бараміра так, як мог быць падобны сваяк,

суродзіч: такі самы высокі, шэравокі й ганарлівы. Апрануты ён быў як вершнік, у цёмна-зялёны плашч на брані з файнай кальчугі, наперадзе ягонага шалома зіхацела маленькая срэбная зорачка. У руцэ ваяр нёс адзіную стралу, чарнапёрую, з вызубраным канчаром, зь дзюбкай, афарбаванай барваю.

Ваяр апусьціўся на калена й працягнуў стралу Тэядэну.

– Вітаньні вашамосьці, гаспадару рахірымаў, сябру Гондару! – вымавіў ён. – Хіргон завуся я, ганец Дэнэтара, хто шле вашамосьці пазнаку вайны. Гондар у вялікай бядзе. Мноства разоў рахірымы дапамагалі нам, і цяпер уладар Дэнэтар просіць вас выступіць з усёю вашаю моцаю й хуткасьцю, каб Гондар вытрымаў і не загінуў.

– Барвяная страла! – Тэядэн прыняў яе як доўгачаканы, але страшны заклік. Рука караля задрыжэла. – За ўсе мае гады ня бачылі мы на Ўкрайне барвянай стралы! Сапраўды дайшло да такога? І якія ж, паводле меркаваньня гаспадара Дэнэтара, мае сілы й хуткасьць?

– Гэта больш вядома вашамосьці, – адказаў Хіргон. – Але ж, магчыма, ня шмат часу пройдзе, як цалкам абложаць Мінас Тырыт. Можа, у вас хопіць сілаў прабіцца праз моцнае кола аблогі. А калі не, дык гаспадар Дэнэтар прасіў мяне перадаць, што моц рахірымаў лепей дапаможа Мінас Тырыту на ягоных мурах, чым звонку ад іх.

– Аднак ён ведае, што мы болей звыклыя змагацца на конях у чыстым полі й што мы народ вандроўны, раскіданы па нашай краіне. Нам патрэбны час, каб сабраць верхаўцоў. Ці ня праўда, Хіргон, што гаспадар Гондару ведае болей, чымся перадае ў пасланьні? Бо мы ўжо ваюем, як ты мог бачыць, і ты не знайшоў нас непадрыхтаванымі. Гэндальф Шэры быў з намі, і проста цяпер мы зьбіраем рушэньне для бітвы на ўсходзе.

– Ці ведаў пра тое, ці здагадваўся гаспадар Дэнэтар, мне невядома, – адказаў Хіргон. – Аднак нашае становішча адчайнае. Мой гаспадар не загадвае вашамосьці, адно просіць прыгадаць даўняе сяброўства й клятвы й дзеля сябе ж зрабіць усё, што магчыма. Нам даносяць, што мноства каралёў і правадыроў сышліся з Усходу на службу Мордару. Ад далёкай Поўначы да роўнядзі Дагорладу сутычкі й ваенныя чуткі. На поўдні заварушыліся харадрымы, і вусьціш легла на ўсе нашыя ўзьбярэжжы. Мала дапамогі мы атрымаем адтуль. Таму сьпяшайцеся! Бо перад мурамі Мінас Тырыту вырашыцца лёс нашага часу. І калі навалу не спыніць там, яна захлісьне й сьветлыя роханскія палі, і нават гэтая крэпасьць сярод гор не ўратуе ахвотнікаў схавацца.

– Чорныя весткі, але ж не зусім нечаканыя, – заўважыў Тэядэн. – Скажы ж Дэнэтару, што нават калі б сам Рохан быў па-за небясьпекаю, мы прыйшлі б. Аднак мы страцілі шмат ваяроў у вайне з здрайцам Саруманам і мусім яшчэ клапаціцца пра нашыя паўночныя й усходнія межы, як пацьвярджаюць вашыя ж навіны. З такою вялікаю сілаю, якой цяпер, падаецца, валодае Чорны Ўладар, ён можа затрымаць нас перад Мінас Тырытам і ўсё ж зь вялікім войскам перайсьці цераз раку й абрынуцца на браму й сьцены гораду.

Але ж няма болей часу на асьцярожнасьць і развагі. Мы прыйдзем. Рушэньне прызначанае на раніцу. Калі ўсё ўладкуем, адразу ж і выправімся. Раней я сабраў бы дзесяць тысячаў дзідаў, каб прыбыць праз раўніну на гора вашым ворагам. Баюся, цяпер зьбярэцца меней, бо я не пакіну крэпасьці без аховы. Аднак сама менш шэсьць тысячаў павяду я за сабою. Скажы Дэнэтару, што ў гэты час кароль Украйны сам прыйдзе ў Гондар, хоць, можа, і ня вернецца дадому. Доўгая дарога да Гондару, а людзі й коні мусяць скончыць яе, ашчадзіўшы сілы для бітвы. Тыдзень, магчыма,

пройдзе з заўтрашняга сьвітанку да таго, як пачуеце вы поклічы сыноў Эёрла з поўначы.

– Тыдзень! – выгукнуў Хіргон. – Калі так, дык так. Але ж, верагодна, вы пабачыце праз тыдзень руіны, хіба толькі іншая, нечаканая дапамога прыбудзе да нас. Ну, усё ж, можа, вы не дасьцё оркам ды смуглярам баляваць беспакарана ў Белай вежы.

– Магчыма, так і будзе, – згадзіўся Тэядэн. – Але й сам я толькі з падарожжа ды зь бітвы й мушу адпачыць. Заставайся тут гэтай ноччу. Раніцаю зірнеш на рушэньне Рохану й выправісься дахаты ўзрадаваны, дый ногі панясуць цябе й твайго каня хутчэй. Кажуць жа мудрэйшыя: пераначуеш – болей пачуеш.

Калі кароль паўстаў, за ім узьняліся ўсе.

– Ідзіце адпачываць па сваіх месцах, і добрага вам сну! – пажадаў Тэядэн. – Для цябе, спадару Мэрыядоку, у мяне сёньня болей няма справы. Але ж рыхтуйся, я паклічу цябе, як толькі ўзыдзе сонца.

– Я буду гатовы! – паабяцаў Мэры. – Нават калі вашамосьць запросіць мяне ехаць поруч па Сьцязе Мёртвых!

– Не кажы благое! – папярэдзіў кароль. – Бо можа надарыцца, што не адна дарога носіць гэткі назоў. І я не сказаў, што запрашу цябе ехаць з мною па якой-кольвек сьцязе. Дабранач!

– Не, я не застануся адзін за сьпінамі сяброў, каб мяне падабралі, нібы пакунак, на зваротным шляху! – зацята сьцьвердзіў Мэры. – Не застануся, не хачу!

Зноў і зноў паўтараючы тое сабе пад нос, хобіт нарэшце заснуў у сябе ў намёце.

А абудзіўся ад таго, што нейкі чалавек шкуматаў яго.

– Прачніцеся, прачніцеся, спадару хальбітла! – выгукваў ён, і Мэры павольна й цяжка вынырнуў з глыбокага сну, а тады сеў, уздрыгнуўшы. Падумаў, што яшчэ занадта цёмна.

– Што здарылася? – спытаў хобіт.

– Кароль кліча цябе.

– Але ж сонца яшчэ не ўзышло.

– Не, і ня ўзыдзе сёньня, спадару хальбітла. Пад гэтаю хмараю, трэба думаць, увогуле ня ўзыдзе. Але ж час не стаіць на месцы, хоць сонца й не відаць. Сьпяшайся!

Насунуўшы нейкую апратку, Мэры вызірнуў вонкі. Вакол было змрочна. Самое паветра падавалася бурым, і ўсё наўкол рысавалася чорна-шэрым, бясьценевым. І ані ветрыку. Абрысы хмары не вылучаліся, хіба толькі на дальнім захадзе, дзе яшчэ цягнуліся наперад яе прагныя пальцы, паміж імі прасочвалася крыху сьвятла. Над галавою ж вісеў цяжкі дах, змрочны й бясформавы, і сьвятла ўсё менела, нягледзячы на час сьвітанку.

Мэры пабачыў, што шмат людзей тоўпіцца, пазіраючы ўгару й мармычучы. А некаторыя відавочна пералякаліся. Турбуючыся ўсё болей і адчуваючы, як расьце адчай, Мэры паплёўся да караля. Перад ім стаяў Хіргон, гондарскі вястун, і побач – другі чалавек, падобны да яго й апрануты гэтак сама, аднак крыху карацейшы й шырэйшы ў плячох. Калі Мэры ўвайшоў, ён дакладаў каралю.

– Гэта прыйшло з Мордару, вашамосьць, – казаў ён. – Пачалося мінулай ноччу на заходзе. З пагоркаў Усходняй украйны каралеўства вашамосьці я бачыў, як паднялася хмара й папаўзла па нябёсах, і ўсю ноч, пакуль я скакаў, яна паўзла за

мною, паглынаючы зоры. Цяпер вялізманая хмара вісіць адсюль да гор Ценю й усё шчыльнее. Вайна пачалася.

Пэўны час кароль сядзеў моўчкі.

– Гэтак надышла яна, – вымавіў ён нарэшце, – вялікая бітва нашага часу. Шмат чаго міне зь ёю й згіне. Усё ж добра й тое, што цяпер няма патрэбы хавацца. Мы рушым простым шляхам, адкрыта ды з усёю хуткасьцю. Рушэньне выпраўляецца зараз жа, і тых, хто затрымаўся, чакаць ня станем. Ці досыць прыпасаў у Мінас Тырыце? Бо калі мы ад'яжджаем пасьпешліва, няшмат цяжару мусім браць з сабою, еміны й пітва, толькі каб хапіла на бітву.

– У нас даўно падрыхтавана шмат прыпасаў, – адказаў Хіргон. – Рушце ж цяпер улегцы з усёю хуткасьцю!

– Тады шукай герольдаў, Эямэр! – загадаў Тэядэн. – Няхай склікаюць вершнікаў!

Эямэр выйшаў, і неўзабаве ў крэпасьці загулі рогі й у адказ з долу загуло мноства іншых, але галасы іхнія болей не падаваліся Мэры такімі яснымі й мужнымі, як мінулым вечарам. Глуха й груба разносілася выцьцё ў сьпякотным паветры й падавалася злавесным.

Кароль павярнуўся да Мэры.

– Я выпраўляюся на вайну, спадару Мэрыядоку, – паведаміў ён. – Ужо хутка. Я вызваляю цябе ад служэньня, але не ад майго сяброўства. Табе належыць застацца тут і, калі пажадаеш, служыць паньне Эявін, яна кіравацьме народам у маю адсутнасьць.

– Але... але ж, вашамосьць, – прамармытаў Мэры, запінаючыся, – я ж прапанаваў свой меч. Каролю Тэядэне, я не хачу разлучацца з вашамосьцю вось так. Усе мае сябры выправіліся на бітву, і вялікая ганьба для мяне заставацца за сьпінамі.

– Аднак мы едзем на высокіх і спрытных конях, і хоць вялікая твая адвага, на нашым кані ты ехаць ня здольны.

– Тады прывяжыце мяне да сьпіны якога, ці дазвольце вісець на стрэмі, ці зрабеце што яшчэ! – узмаліўся Мэры. – Бо бегчы надта доўга, але ж я пабягу, калі не паеду, нават калі ногі стапчу ўшчэнт і дабяруся на тыдні пазьней.

Тэядэн усьміхнуўся.

– Не, я павёз бы цябе лепей на сваім Сьнежнагрыве. Усё ж, урэшце, ты можаш ехаць з мною да Эдорасу й зірнуць на Мэдусэльдэ, бо туды я кіруюся цяпер. Датуль Стыба файна давязе цябе. Вялікая скачка не пачнецца, пакуль мы не сягнем роўнядзі.

Тады ўзьнялася Эявін.

– Хадзем жа, Мэрыядоку! – паклікала яна. – Я пакажу табе рыштунак, які знайшла для цябе.

Яны выйшлі разам.

– Адзінае, пра што Арагорн папрасіў мяне, – патлумачыла Эявін, ідучы між намётамі, – узброіць цябе для бітвы. Я пашукала, што змагла. Бо маё сэрца кажа мне: да таго як скончыцца гэтая вайна, табе спатрэбіцца ваярскі рыштунак.

Яна прывяла Мэры ў намёт сярод тых, што належалі каралеўскай ахове, і там збройнік даў ёй маленькі шалом, круглую тарчу й іншы рыштунак.

– Брані для цябе мы не адшукалі, – сказала Эявін, – і часу няма каваць новыя латы, але ж тут ёсьць дужы жупанец з трывалай скуры, пас ды нож да яго. А меч ты маеш.

Мэры пакланіўся, і панна паказала яму тарчу, падобную да той, якой карыстаўся Гімлі, з выявай белага коніка на ёй.

– Бяры гэта ўсё, – вымавіла панна, – хай усё прыдасца на добры шанцунак! Бывай цяпер, спадару Мэрыядоку! Аднак, магчыма, мы сустрэнемся зноў, ты ды я.

Так сярод густой цемры кароль Украйны ачоліў рушэньне, гатовы павесьці вершнікаў па ўсходнім шляху. Цяжар ляжаў на сэрцах, і шмат хто трапятаў у адчаі й страху пад ценем над галавою. Але ж рахірымы былі народам адважным, верным свайму гаспадару, і амаль не чувалася сярод люду запалоханых шэптаў ці сьлязьлівых енкаў, нават у крапасным лягеры, дзе жытлавалі ўцекачы з Эдорасу: жанчыны, малыя й старыя. Кон паўстаў над імі, але яны трывалі моўчкі.

Прамчалі дзьве хуткія гадзіны, і ўжо кароль сядзеў на белым кані, чыя шкура блішчэла ў паўзмроку. Ганарлівым і моцным выглядаў кароль, хоць валасы, што плынелі з-пад ягонага высокага шалома, былі бялейшыя ад сьнегу. Шмат хто дзівіўся, пазіраючы на яго, непахіснага, бясстрашнага, і надзея зноў адраджалася ў сэрцах.

На шырокіх роўнядзях абапал гаманлівай ракі пашыхтаваліся па харугвах амаль пяць і яшчэ пяцьдзясят сотняў вершнікаў Рохану ў поўнай зброі й шмат сотняў паслугі з запаснымі коньмі, толькі лёгка нагружанымі. Загуў адзіны рог. Кароль падняў руку, і тады маўклівае войска Ўкрайны рушыла. Першымі паехалі дванаццаць вершнікаў каралеўскай аховы, знакамітых ваяроў. За імі – кароль з Эямэрам праваруч. Той разьвітаўся з Эявін яшчэ ў крэпасьці, і спомін разьвітаньня зеўраў адкрытаю ранаю, але ж цяпер ён прымусіў сябе думаць пра дарогу наперадзе. За Эямэрам ехаў на Стыбе Мэры побач з гондарскімі ганцамі, а за імі – яшчэ дванаццаць ваяроў каралеўскай аховы. Так кароль з почтам праехалі ўздоўж доўгага шэрагу ваяроў, што чакалі з тварамі строгімі й нерухомымі. Калі амаль сягнулі канца шэрагу, адзін падняў вочы й пранізьліва зірнуў на хобіта. Зусім малады, як палічыў, адказаўшы на пагляд, Мэры, бо ростам і шырынёю плячэй меншы за астатніх. І пазіраючы ў ясныя шэрыя вочы, хобіт падумаў, што позірк гэты, гэты твар – як у таго, хто пакінуў усялякую надзею й рушыць, шукаючы сьмерці.

Уніз па шэрай дарозе ехалі вершнікі, уздоўж Сьнежнароднай, бурлівай на камянёх, празь вёскі Ніжняй Баразьніны й Ручаіны, дзе шмат сумных жаночых твараў высоўвалася з-за цёмных дзьвярэй, і так бяз гуку рогаў, ці арфаў, ці музыкі сьпеву пачаўся вялікі паход на ўсход, пра які сьпявалі й складалі ў Рохане песьні нават мноства чалавечых вякоў апасьля.

*Ад цьмяняга Дунхэрэ бляклаю раніцою*
*з маршалкамі й ваярамі выехаў Тэнгела сын:*
*сягнуў ён Эдорасу старажытных заляў,*
*жытла туманнага Рохану гаспадароў,*
*скрозь змрок залачоныя бэлькі палацу блішчэлі.*
*Там разьвітаўся кароль з сваім народам,*
*з вогнішчам ды стальцом, зь сьвятынямі продкаў,*
*з залямі, дзе балявваў да прышэсьця цемры.*
*Наперад рушыў кароль, пакінуўшы страх за сьпінай,*
*лёсу насустрач. Заўжды заставаўся ён верным.*
*Клятвы прынёс ён і выканаў тыя клятвы.*
*Рушыў Тэядэн наперад. Пяць дзён і пяць ночай*
*наперад, на ўсход рушылі эёрлінгі*
*скрозь долы памежныя й Сьвяталесьсе,*

*да Санлендынгу шэсьць тысячаў дзідаў,*
*да Мундбургу моцнага пад Міндолуйнам,*
*да гораду Поўдня, стальца марскіх каралёў,*
*ворагамі абложанага, абкружанага агнём.*
*Кон вёў ваяроў. Цемра іх прыняла,*
*коней і верхаўцоў. Пошчак магутны*
*ў далечы згінуў. Так кажа нам песьня.*

Сапраўды, змрок чарнеў, калі кароль сягнуў Эдорасу, хоць быў толькі полудзень. Там на кароткі час прыпыніліся й прынялі ў войска тры тузіны вершнікаў, што спазьніліся на збор. Нават не паеўшы, кароль рушыў ізноў і шчыра разьвітаўся з збраяношам. Мэры ў астатні раз узмаліўся, каб не расставацца з каралём.

– Я ўжо казаў табе, гэта ня тое падарожжа, у якое выпраўляюцца на поні, – зазначыў Тэядэн. – І ў такой бітве на гондарскіх палёх, да якой мы едзем, на тваё меркаваньне, спадару Мэрыядоку, што ж ты рабіцьмеш, хоць ты й мечнік мой, і адвага твая большая за твой рост?

– У бітве хто можа ведаць загадзя? – запярэчыў Мэры. – Навошта ж вашамосьць прыняў мяне як свайго мечніка, калі не для таго, каб змагацца поруч з вашамосьцю? І я не хачу, каб у песьнях казалі, што мяне заўжды пакідалі за сьпінамі!

– Я прыняў цябе, каб захаваць, – адказаў Тэядэн, – і таксама дзеля таго, каб ты выконваў мае загады. Аніхто з маіх вершнікаў ня прыме гэткую ношу, як ты. Калі б бітва была перад маёю брамаю, магчыма, пра твае подзьвігі й засьпявалі б песьняры. Але ж да Мундбургу, дзе гаспадарыць Дэнэтар, паўсотні міляў і яшчэ дзесяць. Усё, ты чуў мае апошняе слова.

Мэры пакланіўся ды, няшчасны, патэпаў прэч, паўз шэрагі вершнікаў. Харугвы ўжо падрыхтаваліся. Ваяры падцягвалі папругі, аглядалі сёдлы, лашчылі коней. Хто-кольвек пазіраў трывожна на нізкія змрочныя нябёсы. І тут да хобіта непрыкметна падышоў ваяр дый зашаптаў ледзь чутна яму ў вуха.

– Калі ёсьць жаданьне, то ўдасца й намаганьне, так у нас кажуць, – вымавіў вой. – Вось я цябе й адшукаў.

Мэры падняў голаў і пабачыў, што гэта той самы малады вершнік, які прыцягнуў увагу раніцаю.

– Ты хочаш туды, дзе кароль Укрaйны, я бачу гэта па тваім твары.

– Менавіта так, – пацьвердзіў Мэры.

– Тады едзьма з мною. Я павязу цябе перад сабою, прыхаваўшы плашчом, пакуль мы не аддалімся й цемра ня зробіцца яшчэ непрагляднейшай. Бо такая воля й такое жаданьне, як твае, ня мусяць загінуць марна. Болей не кажы нікому нічога, але ж руш з мною!

– Вялікі дзякуй вашцы! – узрадаваўся Мэры. – Найвялікшы дзякуй спадарычу, імя якога, на жаль, ня ведаю.

– Насамрэч? – спытаў вершнік ціха. – Тады клiч мяне Дэрнхельм.

Вось так і здарылася, што калі кароль з войскам рушылі, перад Дэрнхельмам сядзеў хобіт Мэрыядок, а вялікі шэры конь Ветраног нат не прыкмеціў дадатковага цяжару, бо Дэрнхельм быў лягчэйшы ад большасьці ваяроў, хоць зграбны й добра складзены целам.

Скрозь цень рушыў кароль і войска зь ім. На ноч спыніліся ў вербняку ля сутокаў Сьнежнароднай і Энтуі, за сем міляў ад Эдорасу. Далей ехалі праз Фольд і

Фенмарк, дзе праваруч караскаліся па адгор'ях вялікія дубровы змрочнага Халіфірыёну, памежнага з Гондарам. А леваруч заўжды ляжалі агорнутыя туманамі багны панізьзяў Энтуі. Падчас руху атрымалі навіны пра вайну на Поўначы. Асобныя вершнікі ў шалёным намёце прывозілі зьвесткі пра ворагаў, што напалі на ўсходнія памежжы, пра натоўпы оркаў, што шыхтуюць па роханскіх роўнядзях.

– Наперад! Наперад! – гукаў Эямэр. – Цяпер позна паварочваць назад! Багны Энтуі абароняць наш левы бок. Цяпер толькі хуткасьць патрэбная нам. Скачыце!

Вось так пакінуў кароль Тэядэн сваё каралеўства, і вярста за вярстою клалася пад капыты дарога, і заставаліся за сьпінамі пагоркі вартавых агнёў-празораў: Каленад, Мін-Рыман, Эрэлас, Нардал. Але іхнія агні згасьлі. Уся зямля ляжала шэрая й зьнежывелая, а змрок усё гусьцеў наперадзе, і надзея гінула ў сэрцах.

## *4. Аблога Гондару*

Піпіна абудзіў Гэндальф. У пакоі гарэлі сьвечкі, бо праз вокны прабівалася толькі бляклае сьвятло, нібы надвячоркавае. Дыхалася цяжка, як перад навальніцаю.

– Колькі часу? – пазяхнуў Піпін.

– Ужо трэцяя гадзіна, – паведаміў Гэндальф. – Час падымацца й прыбірацца. Цябе клічуць да гаспадара гораду, каб ты пазнаёміўся з сваімі новымі абавязкамі.

– А ці забясьпечыць мяне той гаспадар сьнеданьнем?

– Не! Я цябе забясьпечыў – усім, што табе належыць да полудня. Ежы цяпер выдаюць ня больш, чым загадана.

Піпін тужліва зірнуў на маленечкую булку хлеба й зусім нікчэмны (паводле хобіцкіх меркаваньняў) кавалак масла ды кубак вадзяністага малака, што чакалі яго за сталом.

– І нашто ваша прывёз мяне сюды? – зажурыўся ён.

– Сам добра ведаеш, – адказаў Гэндальф. – Каб ты ліха не нарабіў. Калі табе тут не падабаецца, дык згадай: ты сам гэта на сябе наклікаў.

Піпін прамаўчаў.

Неўзабаве ён ужо крочыў поруч з Гэндальфам па халодным калідоры да дзьвярэй Вежавай залі. Там Дэнэтар сядзеў у шэрым змроку, як падалося Піпіну, быццам стары цярплівы павук, нібы й не варухнуўшыся з учорашняга дня. Намесьнік прапанаваў Гэндальфу прысесьці, а Піпін застаўся стаяць, быццам не заўважаны. Аднак неўзабаве стары павярнуўся да яго.

– Ну, спадару Перыгрыне, спадзяюся, што ўчорашні дзень ты правёў сабе на карысьць і на задавальненьне? Баюся толькі, стол у маім горадзе не такі шыкоўны, як табе хацелася б.

Піпін зь няёмкасьцю адчуў, што ўсе ягоныя словы й учынкі вядомыя гаспадару гораду, дый пра большасьць думак той таксама нейкім чынам здагадаўся. І нічога не адказаў.

– Што ты рабіцьмеш на маёй службе?

– Я думаў, вашамосьць спадару намесьніку, ад вашаці й вызнаць мае абавязкі.

– Вызнаеш, калі я даведаюся, на што ты здатны. А тое я ацаню, напэўна, калі трымацьму цябе побач. Мой зброяносца прасіў далучыцца да вонкавага войска, таму ты на некаторы час зоймеш ягонае месца. Будзеш прыслужваць за сталом, пера даваць загады й гутарыць з мною, калі вайна й дзяржаўныя справы пакінуць мне колькі вольнага часу. Ці сьпяваеш ты?

– Так, – адказаў Піпін. – Даволі няблага, паводле меркаваньняў майго народу. Але ж у нас няма песьняў, прыдатных для вялікіх заляў і ліхіх гадзінаў, вашамосьць. Мы рэдка сьпяваем пра штосьці, больш страшнае за навальніцы ці зьлівы. Большасьць маіх сьпеваў пра тое, з чаго мы сьмяемся, ці пра ежу зь пітвом.

– А чаму ж такія песьні не прыдатныя для нашых часоў ці заляў? Мы доўга жылі пад Ценем і, мажліва, зь вялікім задавальненьнем паслухаем песьні краёў, не кранутых ліхам. Мо тады адчуем мы, што варта нашая ня марная, хоць і няма за яе падзякі.

Настрой Піпінаў упаў ажно да пятак. Зусім не падабалася яму пэрспэктыва выконваць шырскія прыпеўкі перад гаспадаром Мінас Тырыту, асабліва жартоўныя, якія Піпін ведаў найлепш, умоўна кажучы, надта сялянскія й простыя. Аднак наўпрост цяпер гэткае выпрабаваньне, здэцца, не пагражала. Сьпяваць не загадалі. Бо Дэнэтар павярнуўся да Гэндальфа, распытваючы пра рахірымаў, і іхнія намеры, і пра

становішча Эямэра, каралеўскага пляменьніка. Піпін дзівіўся, колькі ведае намесьнік пра народы, што жывуць так далёка ад Гондару, хоць, паводле хобітавых меркаваньняў, мусіла прайсьці шмат гадоў, як намесьнік сам вандраваў.

Праз колькі часу Дэнэтар павярнуўся да Піпіна й абвесьціў, што той пакуль вольны.

– Ідзі да збраярняў Цытадэлі, – загадаў ён, – ды вазьмі там сабе вопратку й зброю ахоўніка Цытадэлі. Яна ўжо гатовая, бо замоўленая ўчора. Вяртайся, калі прыбярэсься!

Насамрэч, усё было гатовае, і Піпін неўзабаве апынуўся ў дзівосным строі, у незвычайнай чорна-срэбнай апратцы. Насунуў невялічкую кальчужную броньку, хутчэй за ўсё, з сталёвых кольцаў, але чарнейшых ад гагату, высокі шалом з маленькімі крумкачовымі крылцамі па баках і з срэбнаю зоркаю наперадзе. На браню апрануў кароткі чорны жупанок з вышыванымі наперадзе срэбрам сымбалямі Дрэва. Уласнае ягонае адзеньне скруцілі й зьнесьлі прэч, але дазволілі пакінуць шэры лорыйнскі плашч з умоваю не насіць яго падчас службы. Цяпер хобіт выглядаў (хоць і ня мог зірнуць на сябе звонку), як сапраўдны *Эрніл і Пэрыянат*, князь паўросьлікаў, як народ зваў яго. Што праўда, пачуваўся досыць няёмка. Дый змрок усё мацней ціснуў на душу.

Цьмяна й блякла цягнуўся дзень. Ад бяссонечнай раніцы да вечару цяжкі змрок усё шчыльнеў, і маркота апанавала ўсіх жыхароў. Высока над галовамі вялізная хмара павольна плынела на захад ад Чорнай зямлі па ветры вайны, паглынаючы сьвятло. А пад ёю вісела нерухомае й здушлівае паветра, быццам уся даліна Андуйну чакала разбуральную шалёную навальніцу.

Блізу адзінаццатай гадзіны, вызвалены нарэшце ад службы, Піпін выйшаў у пошуках ежы й пітва, каб хоць крыху суняць маркоту й лягчэй зносіць прыслужваньне за гаспадарскім сталом. У сталоўні зноў сустрэў Бэрэганда, які вярнуўся з паездкі за Пеленар да вартавых вежаў на Вялікім шляху. Разам чалавек і хобіт выйшлі на мур, бо Піпін у памяшканьні пачуваўся вязьнем і задыхаўся нават у Цытадэлі на вяршыні адгор'я. Цяпер яны селі побач ля байніцы, што пазірала на ўсход, дзе сьнедалі й размаўлялі дзень таму.

Ужо надышла гадзіна заходу, але ж вялізная хмара працягнулася далёка на захад, і сонца разьвіталася зь зямлёю перад надыходам ночы ўжо толькі апускаючыся за мора, коратка, апошнімі промнямі, – Фрода пабачыў на Скрыжаваньні, як кранаюць яны галаву пераможанага караля. А на палі Пеленару пад ценем Міндолуйну ня ўпаў ніводны водбліск, яны ляжалі бурымі й маркотнымі.

Піпіну падавалася: гады таму сядзеў ён тут, у нейкім напаўзабытым часе, калі сам яшчэ быў проста хобітам, бесклапотным вандроўнікам, калі не наклалі на яго адбітку жахі й небясьпекі, праз якія прайшоў. А цяпер зрабіўся маленькім, апранутым у ганаровую, але змрочную вопратку вежавай Варты, ваяром, адным сярод мноства ў горадзе, які рыхтаваўся да сьмяротнай навалы.

У іншым часе й месцы Піпін, магчыма, зарадаваўся б новаму рыштунку, але ж цяпер надта добра ведаў: гэта не гульня, а сьмяротны адказны абавязак, служба сувораму ўладару ў часіну найвялікшай бяды. Браня сьціскала яго, і шалом абцяжарваў голаў. Ад плашча была хоць нейкая карысьць – атрымалася посьцілка для сядзеньня.

Нарэшце хобіт адвярнуў стомленыя вочы ад змрочных палёў унізе й пазяхнуў.

– Што, стаміўся сёньня? – спытаў Бэрэганд.

– Але, – пацьвердзіў Піпін. – Надта стаміўся ад чаканьня й гультайства. Таптаўся з нагі на нагу перад дзьвярыма намесьніка мноства доўгіх, доўгіх гадзінаў, пакуль той сумовіўся з Гэндальфам, князем ды іншымі вялікімі асобамі. Дый не ў маім звычаі, спадару Бэрэгандзе, галодным прыслужваць за сталом, пакуль іншыя ядуць. Гэта для хобіта цяжкое выпрабаваньне. Безумоўна, ты палічыш, што я мушу адчуваць найвялікшы гонар. Але які наедак з таго гонару? Дый насамрэч, якая карысьць зь ежы й пітва пад гэтым паўзучым змрокам? Што ўсё гэта значыць? Самое паветра бурае й вязкае! Ці часта ў вас гэткі бруд у паветры, калі вецер дзьме з усходу?

– Не, – пакруціў галавою Бэрэганд, – тое не звычайнае надвор'е, а нейкае ліха Ворага, нешта з дымам Вогненнай гары, на адчай і пазбаўленьне мудрасьці. І сягае ж свае ліхое мэты. Каб толькі гетман Фарамір вярнуўся! Ён ужо ад дыму не адчаяўся б. А цяпер хто ведае, ці вернецца ён увогуле з-за ракі, зь цемры?

– Так, – пагадзіўся Піпін. – Гэндальф таксама заклапочаны. Ён расчараваўся, мяркую, не знайшоўшы тут Фараміра. Дый сам некуды падзеўся. Пакінуў намесьнікаву раду шчэ да полудня, ды яўна ня ў добрым настроі, так мне падалося. Напэўна, прадбачыць нейкія благія зьвесткі.

І раптоўна пасярод гаворкі абодва зьнямелі, здранцьвеўшы, нібы прымерзнуўшы да камянёў. Піпін скурчыўся, прыціснуўшы далоні да вушэй, а Бэрэганд, які вызіраў вонкі, кажучы пра Фараміра, напружыўся, перапалоханы, узіраючыся ў далечыню. Піпін ведаў гэты вусьцішны лямант – такі самы ён чуў доўгі час таму на Багнючынах, у Шыры. Але цяпер лямант узмацнеў нянавісьцю й злосьцю, працінаючы сэрца атрутным адчаем.

Нарэшце Бэрэганд выцягнуў зь сябе словы:

– Яны прыйшлі! Зьбярыся з адвагаю й вызірні – ліха ўбачыш пад намі.

Неахвотна Піпін ускараскаўся на лаву й вызірнуў за мур. Заценены Пеленар разьвінуўся перад ім, растаючы ў змрочнай далечы, дзе ляжала ледзь прыкметная Вялікая рака. А над полем, хутка кружляючы, бы заўчасныя цені глыбокай ночы, нізка, ніжэй за муры Цытадэлі, віліся пяць птушкападобных пачвараў, страшнейшых ад падлажораў, але ж большых за арлоў, жорсткіх, сьмяротных. То яны падляталі зусім блізка, на добры стрэл лука, то адляталі прэч.

– Чорныя Вершнікі! – прамармытаў Піпін. – Чорныя Вершнікі ў паветры! Пабач, Бэрэгандзе! – выгукнуў ён раптоўна. – Яны ж перасьледуюць нешта, відавочна! Зірні, як яны кружляюць ды ныраюць, заўжды вунь да той кропкі ўнізе! Ці бачыш ты, як нешта рухаецца па роўнядзі? Цьмяныя маленькія постаці – так, людзі верхам, чацьвёра ці пяцёра. Вох, гэта невыносна! Гэндальф, Гэндальфе, уратуй нас!

Тут нанова ўзьняўся доўгі лямант і сьціх. Хобіт адскочыў ад сьцяны, дыхаючы, бы загнаны зьвер. Слаба, нібыта з далёкай далечы, скрозь той жахлівы лямант даляцеў здолу гук рога й скончыўся высокаю, доўгаю нотаю.

– Фарамір! Гетман Фарамір! Гэта ягоны покліч! – выгукнуў Бэрэганд. – Адважнае сэрца! Як жа яму прабіцца да брамы, калі гэтыя пачварныя падлаеды маюць якую зброю акрамя жаху? Зірні! Людзі трымаюцца. Сягнуць брамы, я ўпэўнены. Не, іхнія коні пашалелі! Вунь, павыкідвалі людзей зь сёдлаў, цяпер тыя кінуліся пехатою. Не, адзін яшчэ на кані, але едзе апошнім. Гэ та, напэўна ж, гетман – ён здольны кіраваць і людзьмі, і коньмі. А-а, адна з пачвараў кінулася на яго. На дапамогу! Ратуйце яго! Чаму ніхто ня выйдзе яму на дапамогу?! Фарамір!!

І Бэрэганд скочыў прэч ды пабег у цемру. Засаромеўшыся свайго страху ў той час, як Бэрэганд падумаў перш за ўсё пра гаспадара, якога любіў, Піпін устаў ды вызірнуў вонкі. Адразу прыкмеціў бела-срэбную яскраўку, што мчала з поўначы,

нібы маленькая зорка спусьцілася на азмрочаныя палі. Яна рухалася стралою й хутка павялічвалася, набліжаючыся да чатырох людзей, што ўцякалі да брамы. Піпіну падалося, што ад яе разыходзілася зьзяньне й цяжкія цені расступаліся перад ёю. А калі наблізілася, Піпіну пачуўся далёкім адбіткам, бы рэхам у сьценах, магутны поклічны голас.

– Гэндальф! – выгукнуў тады Піпін. – Гэндальф! Ён заўжды зьяўляецца, калі рэчы найчарнейшыя. Наперад! Наперад, Белы Вершнік! – закрычаў хобіт шалёна, нібы глядач на дзікіх скачках, падбадзёрваючы скакуна-пераможцу, якому даўно ўжо аніякія падбадзёрваньні не патрэбныя.

Але ж і змрочныя летуны заўважылі чужынца. Адзін павярнуў да вершніка, але той, як падалося Піпіну, узьняў руку – і сноп бялюткага сьвятла шугануў угару. Назгул заскавытаў, доўга, жаласьліва, ды, здрыгануўшыся, кінуўся прэч. І астатнія захісталіся, і тады падняліся, хутка кружляючы, і паляцелі на ўсход, зьнікшы ў нізкай хмары над галавою, і змроку на Пеленары паменшала.

Піпін убачыў, як вершнік і Гэндальф сустрэліся й прыпыніліся, чакаючы пешцаў. А цяпер і з гораду кінуліся насустрач людзі, і неўзабаве ўсе разам зьніклі пад вонкавым мурам, кіруючы да брамы. Здагадаўшыся, што яны, хутчэй за ўсё, адразу рушаць да вежы й намесьніка, хобіт кінуўся да ўваходу ў Цытадэль. Там далучыўся да мноства іншых, якія таксама назіралі з муроў гонку зь сьмерцю й вынатаваньне.

Неўзабаве з вуліц, што вялі ад вонкавых муроў, пачуўся шматгалосы гоман, вітаньні й радасныя погукі, імёны Фараміра й Мітрандыра. Тады Піпін пабачыў паходні, і, у атачэньні натоўпу за сьпінамі, марудна ехалі два вершнікі: адзін у белым, але ж болей не зіхоткім, а выцьвілым у змроку, бы полымя ягонае вычарпалася альбо прыхавалася, а другі ў цёмным, з пахіленай галавою. Яны сышлі з коней і, калі стаёвыя зьвялі Ценяра й другога каня, крочылі наперад да вартавога ў цытадэльнай браме. Гэндальф ішоў цьвёрда, рашуча, адсунуўшы шэры плашч назад, і полымя яшчэ цьмела ў ягоных вачох. Фарамір жа, апрануты ў цёмна-зялёнае, сунуўся павольна, крыху хістаючыся, як вытамлены ўшчэнт ці паранены.

Піпін праціснуўся наперад, і калі двое міналі ліхтар пад аркаю брамы, у хобіта ажно подых перахапіла. Бо ён пабачыў

Фарамірaў твар, твар, як у таго, хто сустрэў незвычайны жах і адчай, але вытрымаў і цяпер, перамогшы, рушыць у супакоі. Ганарлівы, суворы вой прыпыніўся, перамаўляючы з вартавым, і Піпін, узіраючыся, прыкмеціў, як блізка нагадваў ён свайго брата Бараміра – а той ад самага пачатку спадабаўся Піпіну, захапіў шляхетнасьцю, але ж добрым і шчырым абыходжаньнем. І ўсё ж перад Фарамірам варухнулася ў хобіцкім сэрцы нейкае пачуцьце, якога ня ведаў раней. Бо вось чалавек высокай шляхетнасьці, мажліва, і не такой высокай, як Арагорн, калі той раскрыў дзеля ўсіх сваю сапраўдную веліч, аднак жа таксама невыказнай старажытнасьці, высакароднасьці легендарнай мінуўшчыны – адзін з племені людзкіх каралёў, народжаны ў позьні час, але ж адзначаны мудрасьцю і горыччу Старэйшага племені. Піпін зразумеў, чаму Бэрэганд вымаўляў ягонае імя з такой любоўю. Бо Фарамір быў правадыром, за якім насамрэч ішлі людзі, за якім і ён, Піпін, пайшоў бы пад самы цень чорных крылаў.

– Фарамір! – закрычаў ён разам з астатнімі. – Фарамір!

І Фарамір, вылучыўшы ягоны дзівосны голас сярод гоману людзей гораду, павярнуўся й зьдзівіўся.

– Адкуль зьявіўся ты? – спытаў ён. – Паўросьлік, ды шчэ ў рыштунку вартавога Вежы? Адкуль...

Але тут Гэндальф крочыў да яго й вымавіў:

– Ён зьявіўся з мною. Аднак ня варта затрымліваецца тут. Яшчэ шмат чаго трэба сказаць і зрабіць, а ты стомлены. Ён пойдзе з намі. Насамрэч, мусіць ісьці, бо калі ён не забыўся на свае новыя абавязкі, яму належыць прысутнічаць пры ягоным гаспадары якраз у гэтую гадзіну. Давай, Піпіне, ходу!

Нарэшце дабраліся да пакояў гаспадара гораду. Там тры глыбокія фатэлі стаялі вакол жароўні з запаленым вугольлем. Гаспадар пачаставаў гасьцей віном, а Піпін, стоячы за фатэляю пана, услухоўваўся ў размову з такою цікавасьцю, што амаль не адчуваў стомы.

Фарамір адламаў белага хлябца ды глынуў віна, сеў леваруч ад бацькі. Крыху далей ад намесьніка, у фатэлі з разьбаванага дрэва пасеў Гэндальф і напачатку, падавалася, заснуў. Бо Фарамір распавядаў пра свае дзеі, пра заданьне, выканаць якое быў пасланы дзесяць дзён таму, пра зьвесткі зь Ітыльёну й рухі Ворага й ягоных хаўрусьнікаў, пра бойку з харадрымамі на шляху ды перамогу над іхняю вялікаю баявою пачвараю. Ну, звычайны расповед ачольцы вышэйшаму правадыру, нязначныя навіны пра памежныя сутычкі, якія цяпер выглядалі бескарыснымі гульнямі, пазбаўленымі ўсялякага сэнсу й значнасьці.

Раптоўна Фарамір зірнуў на Піпіна. І вымавіў:

– А цяпер мы падыходзім да рэчаў дзівосных. Бо гэта ня першы паўросьлік, які перад маімі вачыма выйшаў з паўночных паданьняў на землі поўдня.

Тут Гэндальф схамянуўся, сьціснуўшы парэнчы фатэлі, але не сказаў анічога й позіркам спыніў выклік зьдзіўленьня, гатовы сарвацца зь Піпінавых вуснаў. Дэнэтар зірнуў на іхнія твары й хітнуў галавою, паказваючы, нібы зразумеў, пра што не сказана. Нясьпешліва, пакуль астатнія сядзелі моўчкі й нерухома, Фарамір распавёў, гледзячы пераважна на Гэндальфа, хоць раз-пораз кідаючы позірк да Піпіна, быццам асьвяжаючы памяць пра іншых бачаных хобітаў.

Калі расповед дайшоў да сустрэчы з Фрода й ягоным слугой і да здарэньня ў Хэнет Анун, Піпін раптам зразумеў, што Гэндальфавы рукі, што моцна ўчапіліся ў разьбаванае дрэва, дрыжаць. Якімі старымі яны падаліся цяпер, бялюткімі ад старасьці! І зьнянацку, адчуўшы вострае джала страху, Піпін уцяміў: Гэндальф – сам Гэндальф! – баіцца! Цяжкая напружанасьць запанавала ў пакоі. Нарэшце, калі распавялося пра разьвітаньне з вандроўнікамі й пра іхняе вырашэньне ісьці да Кірыт Унгалу, голас Фараміраў сьцішыўся. Ён сумна пахітаў галавою й уздыхнуў. Тады Гэндальф ускочыў.

– Кірыт Унгал? Моргульская даліна? Калі, Фарамір, калі ты разьвітаўся зь імі? Калі сягнулі яны гэтай клятай даліны?

– Я разьвітаўся зь імі раніцаю два дні таму, – адказаў Фарамір. – Адтуль больш за дзевяць міляў да даліны Моргулдуйну, калі яны скіраваліся проста на поўдзень, і тады ад ракі яны яшчэ былі б за тры мілі ад вежы прывідаў. Сама хутка яны дабраліся б туды толькі сёньня, а верагодней, не дабраліся б увогуле. Я бачу, чаго ты баісься. Аднак цемра прыйшла не праз іх. Учора пачалася яна й азмрочыла ўвесь Ітыльён мінулай ноччу. Мне ясна: Вораг ужо даўно плянаваў напад на нас, і гадзіна змроку была прызначаная яшчэ да таго, як вандроўнікі пакінулі маю ахову.

Гэндальф крочыў па пакоі.

– Раніца два дні таму – гэта амаль тры дні вандроўкі! Як далёка месца, дзе вы разьвіталіся?

– Птушынага лёту пятнаццаць міляў, – адказаў Фарамір. – Але ж я ня мог прыехаць раней. Учора я чакаў часу на Кайр Андрасе, доўгім рачным адтоку на

поўнач адсюль. Мы яшчэ трымаем яго й хаваем коней на беразе насупраць яго. Калі цемра разраслася, я зразумеў, што трэба сьпяшацца, і таму выехаў сюды з трыма іншымі, для якіх таксама знайшліся коні. Рэшту майго разьдзелу я паслаў узмацніць ахову бродаў Азгіліяту. Спадзяюся, я не памыліўся?

Ён зірнуў на бацьку.

– Памыліўся? – вочы Дэнэтара палыхнулі агнём. – Чаму ты пытаесься ў мяне? Людзі былі пад тваёю рукой. Ці ты просіш мяне, каб я ацаніў усе твае дзеяньні? Ты пакорліва трымаесься перад мною, аднак ужо даўно ты адвярнуўся ад мяне й маіх парадаў. Я бачу, ты прамаўляеш па-майстэрску, як і заўжды, аднак ці ня бачу я таксама, як ты не адрываеш позірку ад Мітрандыра, намагаючыся ўцяміць, ці ўхваляе ён твае словы й ці не зашмат ты прамовіў? Яму ўжо даўно належыць тваё сэрца... Сыне мой, твой бацька стары, але ўзрост не пазбавіў яго розуму. Я магу бачыць і чуць, што пажадаю, і няшмат таго, чаго ты недаказаў ці не сказаў увогуле, цяпер хаваецца ад мяне. Я ведаю адказы на многія загадкі. Гора мне, гора, Бараміра няма з мною!

– Калі зьдзейсьненае мною не задавальняе вашамосьць, мой бацьку, – вымавіў Фарамір спакойна, – мне застаецца толькі пашкадаваць, што я ня меў парады спадара, калі на мяне легла тая цяжкая высноcва.

– Ці зьмяніла б мая парада тваю выснову? – спытаў Дэнэтар. – Мяркую, ты ўсё адно зрабіў бы па-свойму. Я добра ведаю цябе. Заўжды ты хочаш выглядаць уладарным і шчодрым, шляхетным і міласэрным, рыхтык каралі даўніны. Гэта добра для нашчадка высокага народу, калі ён уладарыць на моцным стальцы ў часіну міру й спакою. Але ў гадзіны адчаю адплата за мяккасьць – гібель і сьмерць.

– Калі так – значыць, так, – сказаў на тое Фарамір.

– Значыць, так! – выгукнуў Дэнэтар. – Але ж ня толькі твая сьмерць за тваім вырашэньнем, гетман Фарамір, – таксама й сьмерць твайго бацькі, і ўсяго твайго народу, які пасьля сыходу Бараміра табе выпала абараняць!

– Дык вашамосьць шкадуе, магчыма, што на месцы Бараміра ня я?

– Так, я насамрэч шкадую! Бо Барамір быў верным сынам, а не паслухмяным вучнем чараўніка. Ён не забыўся б на патрэбу бацькі й ня выкінуў бы прэч тое, што прынёс яму лёс. Ён прынёс бы мне магутны падарунак.

На нейкі момант Фарамір не стрымаўся.

– Я прашу вашамосьць, бацьку, прыгадаць, чаму менавіта я, а ня ён цяпер ваюю ў Ітыльёне. Хоць у адзіным выпадку я паслухаўся параду вашаці й падпарадкаваўся. Няшмат часу таму. Бо ж гаспадар гораду даў загад ехаць Бараміру.

– Не варушы нанова горыч напою, што я сам згатаваў для сябе, – вымавіў намесьнік. – Ці ня шмат начай смак ягоны пек мой язык, прадказваючы, што горшае ляжыць на самым дне? І там насамрэч знайшоў я горыч. Калі б усё павярнула ня так! Калі б толькі гэтая рэч патрапіла да мяне!

– Супакойся, уладару. Суцесься, ведаючы, што Барамір ані ў якім выпадку не аддаў бы табе той дарунак, – сказаў Гэндальф. – Ён загінуў шляхетна, і няхай ягоны сьмяротны сон будзе бесклапотны! Ты маніш сабе. Ён паклаў бы сваю руку на тую рэч і загінуў бы нашмат горш. Ён прысабечыў бы яе, і, калі б вярнуўся, ты не пазнаў бы сына.

Твар намесьніка зрабіўся халодным і жорсткім.

– Напэўна, Барамір не захацеў слухацца цябе, чараплёт, – вымавіў Дэнэтар ціха. – Але ж я, ягоны бацька, кажу: ён прынёс бы тую рэч мне. Мажліва, ты й мудры, Мітрандыр, але ж пры ўсёй тваёй дасьведчанасьці ня ўсёй мудрасьцю сьвету

валодаеш ты. Бо ёсьць шлях вольны ад чараўніковых прыдумак і ад дурной пасьпешлівасьці. Бо досьведу ў гэтай справе й мудрасьці я маю болей, чым мяркуеш ты.

– Тады ў чым мудрасьць вашамосьці? – спытаў Гэндальф.

– У тым, каб пабачыць два глупствы, якія належыць абысьці. Выкарыстаць тую рэч – гібельна. І ў гэты час аддаць яе ў рукі бязглуздага паўросьліка й паслаць яго ў самую зямлю Ворага, як зрабіў ты й гэты вось мой сын, – вар'яцтва.

– А што зрабіў бы тады ўладар Дэнэтар?

– Анічога. Аднак ані ў якім выпадку, ані зь якой нагоды не даверыўся б бязглуздай надзеі на неверагодны шанец, рызыкуючы агульнай гібельлю, калі Вораг адшукае згубленае. Не, я захаваў бы тую рэч, захаваў бы глыбока й далёка. Не карыстаўся б ёю, кажу я, апрача часіны найвялікшае, апошняе патрэбы, а захаваў бы найдалей ад *ягоных* лапаў, да поўнай перамогі над *ім*, такой перамогі, што тады аніякае *ягонае* ліха з той рэччу ўжо не пашкодзіла б нам.

– Уладар Гондару думае, як і заўжды, толькі пра Гондар, – азваўся чараўнік. – Але ж ёсьць яшчэ іншыя народы й іншае жыцьцё, і ў іх свой шлях. Што да мяне, мне шкада нават *ягоных* рабоў.

– І дзе ж апынуцца тыя іншыя народы, калі Гондар ня выстаіць? З гэтай рэччу ў глыбокіх скляпеньнях маёй Цытадэлі мы ня трэсьліся б ад жаху пад мордарскімі хмарамі, баючыся найгоршага, і раду нашую не азмрочвалі б думкі пра тое. Калі ты не давяраеш маёй здольнасьці трымаць спакусу, ты ня ведаеш мяне.

– Гэтак ці інакш, я не давяраю табе, – вымавіў Гэндальф. – А калі б давяраў, даўно ўжо адаслаў бы гэтую рэч сюды, пазбавіўшы сябе й астатніх адчаю й страху. А цяпер, слухаючы твае словы, давяраю яшчэ меней, ня болей, чым Бараміру. Не сьпяшайся злавацца, намесьніку! Я сабе таксама ў тым не давяраю, я адмовіўся ад той рэчы, нават калі мне прапаноўвалі яе як падарунак. Ты моцны й шмат у чым яшчэ здольны кіраваць сабою, Дэнэтар. Аднак калі б ты атрымаў гэтую рэч, яна неўзабаве перамагла б цябе. Нават схаваная пад каранямі Міндолуйну, з ростам цемры яна выпаліла б твой розум. А пад цемраю й горшае ў хуткім часе напаткае нас.

На момант Дэнэтаравы вочы ўспыхнулі зноў, калі ён глядзеў на Гэндальфа, і зноў адчуў Піпін напружанасьць, сутыкненьне дзьвюх воляў, а цяпер падавалася, што позіркі клінкамі цягнуліся ад вачэй да вачэй, мільгаючы, нібы наносячы ўдары й адбіваючы іх. Піпін дрыжэў, баючыся жудаснай сутычкі. Аднак нечакана Дэнэтар адвёў вочы, расслабіўся, вярнуўся да былой халоднай абыякавасьці. Дый паціснуў плячыма.

– Калі б, калі б, – прамармытаў ён. – Марныя, нікчэмныя словы. Гэтая рэч сышла ў цемру, і толькі час пакажа, які лёс чакае яе – і нас. Нядоўгі час. А нам засталося змагацца. Дык няхай тыя, хто змагаецца з Ворагам кожны па-свойму, аб'ядноўваюцца й трымаюць надзею да апошняга ды нават па-за ўсялякай надзеяй б'юцца за тое, каб памерці вольнымі.

Ён павярнуўся да Фараміра.

– Што ты думаеш пра гарнізон у Азгіліяце?

– Ён ня надта моцны, – адказаў Фарамір. – Я паслаў туды ітыльёнскі разьдзел, як я ўжо казаў.

– Мяркую, гэтага недастаткова. Туды абрынецца першы ўдар. Там будзе патрэбны ўмелы й моцны ачольца.

– І там, і шмат у якіх іншых месцах, – уздыхнуў Фарамір. – Нам так не стае майго брата, якога я любіў!

Ён падняўся з фатэлі.

– Ці дазволіць мне вашамосьць, бацьку, ісьці?

І пахіснуўся, і нахіліўся, каб утрымацца, да бацькавай фатэлі.

– Бачу, ты стаміўся, – вымавіў Дэнэтар. – Мне казалі, ты ехаў здалёк – сьпяшаючыся й пад ценем ліха над галавою.

– Ня будзем пра тое, – перапыніў Фарамір.

– Тады сапраўды ня будзем, – пагадзіўся намесьнік. – Ідзі й адпачывай, пакуль мажліва. Раніцаю давядзецца парупіцца.

Тут і ўсе папрасілі дазволу намесьніка сысьці й выправіліся адпачываць, пакуль яшчэ маглі. Вонкі панавала апраметная бяззорная цемра. Піпін з маленькаю паходняю ды Гэндальф побач рушылі да свайго пакою. Маўчалі, пакуль не апынуліся за зачыненымі дзьвярыма. Тады нарэшце Піпін крануў чараўнікову руку.

– Скажы мне, ці ёсьць надзея? Для Фрода, я маю на ўвазе. Ну, і акрамя Фрода таксама.

Гэндальф паклаў руку на Піпінаву галаву.

– Надзеі ніколі шмат не было. Толькі бязглуздая надзея на неверагодны шанец, як сказалі мне сёньня. А калі я пачуў пра Кірыт Унгал... – ён змоўк і стаў да вакна, нібы ягоныя вочы маглі працяць ноч на ўсходзе.

– Кірыт Унгал, – прамармытаў ён. – Чаму ж менавіта туды?

Ён павярнуўся да Піпіна.

– Сэрца маё скаланулася пры гуках таго назову, і нават цяпер вусьціш сьціскае яго. Аднак, папраўдзе кажучы, Фараміравы зьвесткі падаюцца мне небезнадзейнымі. Бо відавочна: Вораг рушыў на нас, пачаў вайну, пакуль Фрода яшчэ вольны. І таму цяпер цягам мноства дзён варожы позірк будзе па-за ягонай уласнай зямлёю. І яшчэ, Піпіне, я здалёк адчуваю *ягоны* страх, *ягоную* пасьпешлівасьць. *Ён* распачаў раней, чым плянаваў. Здарылася нешта, што ўстурбавала *яго*, прымусіла рушыць.

Гэндальф замёр на момант, разважаючы.

– Магчыма, магчыма, – прамармытаў тады. – Мо якраз тваё глупства й дапамагло. Дык падлічым: недзе пяць дзён таму ён зразумеў, што мы зрынулі Сарумана й завалодалі палантырам. І што далей? Нам зь яго амаль няма карысьці, бо ўсё адразу стане вядомым Ворагу. А, вось што. Арагорн! Ягоны час надыходзіць. А ён жа цьвярды й упарты, Піпіне, дзёрзкі, рашучы, здольны сам знайсьці свой шлях ды рызыкнуць усім, калі патрэбна. Напэўна ж... так і ёсьць. Магчыма, Арагорн зірнуў у камень, паказаў сябе Ворагу й выклікаў на бой, якраз для таго, каб парушыць пляны, змусіць да заўчаснага кроку. Ну, дакладна не даведаемся, пакуль ня зьявяцца вершнікі Рохану – калі толькі не запозна. Ліхія дні чакаюць нас. Так што ідзі спаць, пакуль можаш!

– Але ж... – пачаў Піпін.

– Што *але*? – спытаў чараўнік. – Толькі адно *але* я дазволю сёньня.

– Глыкс, – вымавіў Піпін. – Навошта, зь якой трасцы яны йдуць разам зь ім, нават дазволілі яму весьці іх? І я бачу, што Фараміру тое месца, куды вядзе Глыкс, падабаецца ня болей, чым вашцы. Што там ня так?

– Пакуль адказаць табе я не магу. Аднак я й раней прадчуваў: на дабро ці на ліха, перад канцом Фрода сустрэнецца з Глыксам. А пра Кірыт Унгал сёньня распавядаць ня буду. Здрады, здрады баюся я: бо ў тым няшчасным няздару – здрада. Але ж лёсу не пазьбегнеш. Згадайма толькі, што здраднік можа падмануць сябе самога й

зьдзейсьніць добрае, на што нат ня меў намеру. Часамі менавіта гэтак і здараецца. А цяпер – дабранач!

Наступная раніца прыйшла брудным змрокам, і ў сэрцах, узрадаваных вяртаньнем Фараміра, зноў пасяліўся адчай. Крылатых ценяў тым днём болей ня бачылі, але раз-пораз з далёкай вышыні над горадам далятаў слабы віскат, і многія, хто чуў яго, спыняліся, суздрам ахопленыя жахам, меней трывалыя дрыжэлі й плакалі.

А цяпер Фарамір сыходзіў ізноў.

– Спачыну яму не даюць, – шапталіся некаторыя. – Гаспадар надта бязьлітасны да свайго сына, Фарамір мусіць выконваць абавязкі за двох, за сябе й за таго, хто ня вернецца.

І заўжды людзі паглядалі на поўнач, пытаючыся:

– Дзе ж вершнікі Рохану?

Не з свайго жаданьня сыходзіў Фарамір. Але ж гаспадар гораду ўладарыў і над сваімі пастановамі, у той дзень ён быў не ў настроі хіліцца перад чужою воляю. Зранку склікалі намесьнікаву раду. На ёй усе правадыры й ачольцы войскаў радзілі, што перад пагрозаю з поўдня войска надта слабое. Рушыць наперад самім сілаў ня стане, хіба толькі вершнікі Рохану зьявяцца. А да іх прыбыцьця застаецца толькі выставіць ваяроў на муры й чакаць.

– Аднак, – запярэчыў Дэнэтар, – нам нельга гэтак лёгка пакідаць вонкавыя ўмацаваньні, мур Рамас, бо столькі працы ўкладзена ў яго! Вораг дорага заплаціць за пераправу праз раку. З войскам, прыдатным для нападу на горад, *ён* не пераправіцца на поўнач ад Кайр Андрасу з-за тамтэйшых багнаў, і на поўдзень, бліжэй да Пажыцьцяў, – з-за шырыні ракі, бо спатрэбіцца зашмат чоўнаў. Менавіта на Азгіліят абрынецца галоўны ўдар, як і тады, калі Барамір не дазволіў ворагу прарвацца.

– Тады ён толькі прабаваў моц, – вымавіў Фарамір. – Цяпер, нават калі мы прымусім Ворага дзесяцькроць сплаціць на пераправе за кожнага нашага забітага ваяра, усё адно гэта будзе паразаю для нас. Бо ён страціць полк – і не заўважыць, а нам страта адзінай харугвы – ужо бяда. І адступленьне тых, хто так далёка ад гораду, небясьпечнае, калі вялікае варожае войска займе пераправы.

– А Кайр Андрас? – перапытаў князь Імрахіль. – Яго таксама належыць абараняць, калі ўжо трымаць Азгіліят. І ня трэба забывацца на пагрозу на нашым левым крыле. Вераемна, рахірымы зьявяцца, вераемна – і не. А Фарамір распавёў пра вялікае войска, што зьбіраецца за Чорнаю Брамай. Не адзін полк выйдзе адтуль, і ўдар абрынецца не на адзін напрамак.

– Шмат чым рызыкуеш на вайне, – сказаў Дэнэтар. – Ёсьць на Кайр Андрасе ваяры, і болей туды пакуль што няма каго слаць. Я не саступлю раку й Пеленар без барацьбы – вядома, калі знойдзецца правадыр, у якога стане мужнасьці выканаць волю свайго гаспадара.

Усе змоўклі.

– Я не праціўлюся волі вашамосьці, – азваўся нарэшце Фарамір. – У спадара няма болей Бараміра, і таму я выпраўлюся й зраблю, што здолею, замест яго, калі вашамосьць загадае.

– Я загадваю, – сьцьвердзіў намесьнік.

– Тады бывайце, вашамосьць, – разьвітаўся Фарамір. – Але ж калі мне пашанцуе й я вярнуся, калі ласка, думайце пра мяне лепей!

– Гэта залежыць ад таго, якім чынам ты вернесься, – заўважыў Дэнэтар.

Гэндальф апошні размаўляў з Фарамірам перад ягоным ад'ездам на ўсход.

– Не шукай сьмерці праз крыўду ці злосьць, – даводзіў чараўнік. – Бо ты патрэбны тут шмат дзеля чаго, акрамя вайны. Твой бацька любіць цябе, Фарамір, і яшчэ згадае на тое. Трымайся, Фараміру, і да пабачэньня!

Так уладар Фарамір рушыў наперад ізноў, узяўшы з сабою вяяроў, што самі схацелі ісьці зь ім. Людзі з муроў пазіралі праз змрок на зруйнаваны горад, цікавячыся, што адбываецца там, бо анічога не маглі разгледзець. А астатнія, як заўжды, сачылі за поўначчу й падлічвалі мілі да Тэядэна й Рохану.

– Ці зьявіцца ён? Ці згадае старыя дамовы?

– Так, ён зьявіцца, – паўтараў Гэндальф. – Дабярэцца, нават запозна. Але ж мяркуйце самі: Барвяная страла не магла патрапіць да яго болей за два дні таму, а адсюль да Эдорасу – доўгія вёрсты.

З ноччу прыбылі навіны. Прымчаў вершнік ад бродаў і распавёў, што вялікае войска выйшла зь Мінас Моргулу й ужо набліжаецца да Азгіліяту, і да яго далучыліся палкі з поўдня: высокія й жорсткія харадрымы.

– І мы вызналі, – дадаў пасланец, – што іх зноў вядзе Чорны Вядзьмар, і жах перад ім ужо пераправіўся за раку.

З тымі ліхімі весткамі скончыўся трэці дзень, як Піпін сягнуў Мінас Тырыту. Няшмат хто той ноччу адпачываў, надта ж невялікая надзея заставалася, што нават Фарамір доўга ўтрымае броды.

Хоць наступным днём цемра больш не гусьцела, сягнуўшы мяжы, яна цяжэй ціснула на сэрцы, душыла вусьцішшу. Ранак прынёс благія навіны. Вораг заняў пераправы праз Андуйн. Фарамір адступаў да сьценаў Пеленару, зьбіраючы людзей да вежаў ля Паўднёвага шляху, але ж ворагаў было дзесяцькроць болей за ягонае войска.

– Калі ён і праб'ецца, і здолее адысьці празь Пеленар, ворагі рушаць сьлед у сьлед, – паведаміў ганец. – Яны дорага заплацілі за пераправы, але ж меней, чым мы спадзяваліся. Яны добра сплянавалі напад. Ясна цяпер: ужо даўно таемна змайстравалі шмат плытоў ды барак ва ўсходнім Азгіліяце. Калі кінуліся на пераправу, празь іх вады не было відаць. Але ж перамаглі нас не яны, а іхні ачольца, гэны Чорны Вядзьмар. Мала хто вытрымлівае нават чуткі пра ягонае набліжэньне. Ягоныя ўласныя ваяры дранцьвеюць перад ім і гатовыя забіць сябе на яго загад.

– Тады я там патрэбны болей, чым тут, – і Гэндальф адразу выправіўся празь Пеленар, і хутка ягонае срэбнае зьзяньне зьнікла з вачэй.

Усю гэтую ноч Піпін самотна, бяссонна стаяў на муры, пазіраючы на ўсход.

Не пасьпелі прабіць званы, абвяшчаючы новы дзень, злой кпінаю ў бяссонечнай цемры, як хобіт пабачыў у далечы выбухі полымя сярод змрочнай прасторы, дзе стаялі сьцены Пеленару. Вартавыя голасна загукалі, і ваяры ў горадзе схапіліся за зброю. Там і тут уздоўж Рамас Экару выбухала барваю, скрозь сьпякотнае паветра цяжка каціліся грымоты.

– Яны ўзялі мур! – галасілі людзі. – Яны прабіваюць яго полымем! Яны йдуць на нас!

– Дзе ж Фарамір? – выгукнуў Бэрэганд у адчаі. – Толькі не кажыце, што ён загінуў!

Першыя навіны прынёс Гэндальф. Ён зьявіўся позьнім ранкам з жменяю вершнікаў, суправаджаючы шэраг вазоў. Тыя былі паўнюткія параненымі – тымі, каго выратавалі з-пад руінаў Вартавых вежаў ля Паўднёвага шляху. Адразу ж чараўнік

адправіўся да Дэнэтара. Гаспадар гораду засядаў цяпер у гасьцёўні над заляю Белай вежы, пазіраючы праз змрок за вокнамі на поўнач, на поўдзень і на ўсход, нібы працінаў сьвет цьмянымі вачыма. У асноўным углядаўся на поўнач і часамі заміраў, быццам нейкім старажытным майстэрствам вушы ягоныя маглі расчуць пошчак капытоў на далёкіх роўнядзях. Піпін жа пакорліва чакаў збоку.

– Ці зьявіўся Фарамір? – спытаў намесьнік у Гэндальфа.

– Не, – адказаў чараўнік. – Але ён быў жывы, калі я пакінуў яго. Ён застаўся з апошнім разьдзелам ахоўваць сьпіны ваярам, каб адступленьне не ператварылася ва ўцёкі. Магчыма, ён які час пратрымаецца, але ж, думаю, нядоўга. Непамерна вялікі вораг паўстаў перад ім. Абвесьціўся той, каго я й баяўся.

– Не, ня сам жа Чорны Ўладар? – Піпін у жаху забыўся пра сваё становішча.

Дэнэтар засьмяяўся кпліва й нявесела.

– Не, яшчэ не, спадару Перыгрыне! Ён ня зьявіцца сам, хіба толькі каб адсьвяткаваць перамогу над мною, калі здабудзе яе. Ён карыстаецца іншымі ў якасьці зброі. Так робяць вялікія ўладары, калі ў іх стае мудрасьці, спадару паўросьліку. Чаму ж я сяджу тут, у маёй вежы, і разважаю, і назіраю, губячы нават маіх сыноў? Бо ж сам я яшчэ валодаю стальлю!

Ён паўстаў ды адкінуў крысо доўгага чорнага плашча – і зірні-тка! – пад плашчом блішчэла кальчужная браня, на пасе вісеў доўгі меч, зь вялізным цаўём, у срэбна-чорных похвах.

– Гэтак хаджу я ды ў гэткім строі ўжо шмат гадоў сплю, каб маё цела з узростам ня сталася мяккім ды слабым.

– Аднак цяпер найлюцейшы з усіх правадыроў, што слугуюць уладару Барад-дуру, ужо гаспадарыць над тваімі зьнешнімі ўмацаваньнямі, – заўважыў Гэндальф. – Жах крочыць зь ім, бо ён – колішні кароль Ангмару, Вядзьмар, прывід пярсьцёнка, найвялікшы з назгулаў, дзіда вусьцішы ў Саўронавай руцэ, цень адчаю.

– Тады, Мітрандыр, вось табе вораг адпаведны тваёй моцы, – прапанаваў Дэнэтар. – Што тычыцца мяне, я даўно ведаю, хто галоўны ваявода войскаў Цёмнай вежы. Ці ж толькі дзеля таго, каб сказаць мне гэта, вярнуўся ты? А можа, таму, што тваёй сілы супрацьстаяць яму не стае?

Піпін задрыжэў, баючыся, што пакрыўджаны Гэндальф выбухне злосьцю, але баяўся ён дарэмна.

– Можа, і так, – вымавіў Гэндальф ціха. – Адылі час памерацца сілаю нам яшчэ не надышоў. І калі словы старога прароцтва слушныя, не ад рукі ваяра загіне ён, і лёс, што чакае яго, схаваны ад мудрых. Гэтак ці інакш, Ачольца Адчаю сам яшчэ ня рушыў наперад. Ён кіруе адпаведна мудрасьці, якую толькі што агучыў ты, трымаючыся ззаду, гонячы на бой ашалелых рабоў...

Не, я прыехаў, ахоўваючы параненых, якіх можна яшчэ ацаліць, бо Рамас паўсюль прабіты й неўзабаве мордарскае войска з розных бакоў уступіць на Пеленар. Галоўным чынам, я й прыйшоў сюды, каб сказаць гэта. Неўзабаве пачнецца бітва на полі перад горадам. Трэба падрыхтаваць сілы для вылазкі, найлепей вершнікаў. У іх нашая хісткая надзея, бо ў Ворага нястача коньнікаў.

– У нас таксама іх няшмат. Каб толькі роханцы прыбылі ў час, – уздыхнуў Дэнэтар.

– Іншых гасьцей мы прымем першымі, – сказаў Гэндальф. – Ужо ёсьць уцекачы з Кайр Андрасу. Выспа захопленая. Іншае войска выйшла з-за Чорнай Брамы й пераправілася праз раку на паўночным усходзе.

– Ёсьць тыя, хто кажа пра цябе, Мітрандыр, што ты атрымліваеш асалоду, распавядаючы благія зьвесткі, – вымавіў Дэнэтар, – аднак для мяне гэта ўжо не навіны. Я даведаўся пра тое яшчэ ўчора ўзьвячоркам. Што ж тычыцца вылазкі, я ўжо думаў пра яе. Хадзем жа, спусьцімося долу!

Зь цягам часу назіральнікі на мурах пабачылі, як падыходзяць разьдзелы абаронцаў вонкавых межаў. Маленькія групкі стомленых і параненых людзей спачатку брылі амаль без парадку, некаторыя беглі, нібыта іх перасьледавалі. Далёка на ўсходзе праблісквалі агні, падавалася, там і тут яны павольна паўзуць праз даліну. Пеленарскія сядзібы й хлявы палалі. А тады з мноства кропак маленькія струменьчыкі чырвонага полымя памкнулі наперад, віючыся праз змрок, сыходзячыся да шырокага шляху, што вёў ад гарадзкой брамы да Азгіліяту.

– Вораг ідзе, – мармыталі людзі. – Вонкавыя сьцены прабітыя. Вунь як валяць праз праломіны! І паходні цягнуць з сабою. Дзе ж нашыя ваяры?

Ужо сьцямнела так, што нават вастравокія вартавыя Цытадэлі няшмат бачылі на палёх, апрача пажарышчаў на месцах хатаў ды сьвірнаў. Агнішчы хутка памнажаліся, палосы й струмені агнёў расьлі й паскараліся. Нарэшце меней чым за вярсту ад гораду заўважылі болей упарадкаваны разьдзел, які трымаўся разам, рушыў шыхтом, крочыў, а не ўцякаў.

Назіральнікі затоілі дыханьне. Казалі:

– Фарамір, мусібыць, там. Бо яму падуладныя людзі й коні. Фарамір выберацца, вернецца.

Калі шыхту заставалася ўжо гоні чатыры да брамы, з змроку да яго пад'ехала невялікая харугва вершнікаў – усё, што засталося ад разьдзелу, пакінутага ахоўваць адыход. І зноў вершнікі спыніліся, павярнуўшыся да блізкіх агнёў. Раптам загукалі, завішчэлі лютыя галасы – і зь цемры вылецелі варожыя коньнікі. Ручаіны вагню сталі ўсёахопнымі рэкамі, шэрагамі й шэрагамі оркаў з паходнямі ў лапах. І дзікія паўднёвікі з барвянымі сьцягамі, галосячы хрыпата й груба, кінуліся наперад, каб затрымаць уцекачоў. І з пранізьлівым лямантам абрынуліся зь цёмных нябёсаў крылатыя цені – назгулы, якія прыляцелі забіваць.

Арганізаваны адыход ператварыўся ва ўцёкі. Ужо беглі з шыхту людзі ва ўсе бакі, бяздумна, бессэнсоўна, крычучы ад жуды, кідаючы зброю, валячыся на зямлю.

Тады з Цытадэлі запяяла труба й Дэнэтар урэшце выпусьціў вонкі войска. Сабраныя ля брамы й пад мурам, усе вершнікі, што заставаліся ў горадзе, чакалі таго сыгналу й цяпер кінуліся наперад з магутным поклічам, пашыхтаваліся, паскакалі намётам і напалі на ворагаў. І з муроў у адказ данесьліся вітальныя погукі, бо найпершымі выехалі рыцары зь лебедзем Дол Амрату, з князем і ягоным блакітным сьцягам наперадзе.

– Амрат за Гондар! – чуліся клікі. – Амрат за Фараміра!

Маланкамі джгнулі яны ў шэрагі ворагаў пааберуч ад адступоўцаў, але адзін вершнік апярэдзіў іх усіх, хутчэйшы ад ветру ў траве, і нёс яго конь Цяняр – зноў адкрылася асьляпляльная веліч таго вершніка, і сьвятло струменіла зь ягонай паднятай рукі.

Назгулы зь енкам кінуліся прэч, бо іхні ачольца яшчэ не паўстаў супраць белага полымя іх ворага. А ваяры Мордару, гатовыя ўхапіць здабычу й спасьцігнутыя ў перасьледзе, рассыпаліся, бы парушынкі пад віхураю, кінуліся наўцёкі. Людзі прыпынілі адыход, павярнуліся й з магутным поклічам абрынуліся на ворагаў. Паляўнічыя ўмомант сталі здабычаю, а іхнія ўцёкі – бойняю, і траву заслалі целы

забітых оркаў і паўднёўцаў, і ад кінутых паходняў, якія гасьлі з дымам, пацягнуўся гідкі смурод. А коньніца Гондару мкнула наперад.

Аднак далёка адыходзіць Дэнэтар не дазволіў. Хоць вылазка затрымала непрыяцеля, адагнала на нейкі час, з усходу падыходзілі ўсё новыя палкі. Ізноў загуў рог, абвяшчаючы адступленьне. Коньніца Гондару спынілася. За яе заслонай пяхота зноў пашыхтавалася й ужо спакойна крочыла да гораду. Сягнулі брамы й рушылі за яе, ганарлівыя й рашучыя, і людзі гораду віталі іх з пашанаю, і пазіралі на іх з гонарам – і з трывогаю ў сэрцах. Надта ж іх паменела. Фарамір страціў амаль трэціну ваяроў... І дзе ж ён сам?

Нарэшце зьявіўся й ён з сваімі людзьмі. Вярнуліся рыцары, у самым ар'ергардзе ехаў пад сьцягам Дол Амрату ягоны князь, на руках ён вёз цела суродзіча – Фараміра, сына Дэнэтара, знойдзенага на полі бітвы.

– Фарамір! Фарамір! – галасілі людзі й плакалі на вуліцах.

Але ён не адказваў, і яго зьнесьлі прэч па зьвілістых вулках да Цытадэлі й да бацькі. Бо калі назгулы кінуліся прэч, у жаху перад Белым Вершнікам, сьмяротны дроцік працяў Фараміра, які біўся з волатам, правадыром вершнікаў Поўдня. Фарамір упаў на зямлю, і толькі напад рыцараў Дол Амрату ўратаваў яго ад крывавых мечаў – паўднёвікі пасеклі б палеглага.

Князь Імрахіль прынёс Фараміра да Белай вежы й вымавіў:

– Сын вашамосьці вярнуўся, зьдзейсьніўшы вялікія подзьвігі.

І распавёў, што бачыў. Дэнэтар падняўся, і зірнуў у твар сына, і не сказаў ані слова. Тады загадаў пасьцяліць у пакоі, і пакласьці Фараміра, і сысьці. А сам у самоце падняўся ў таемны пакой пад самым дахам вежы, і многія, хто паглядаў туды гэтым часам, бачылі бляднае сьвятло, што зіхацела й праблісквала з вузкіх акенцаў, а тады ўспыхнула й згасла. Калі Дэнэтар спусьціўся й моўчкі сеў побач з Фарамірам, твар ягоны быў шэры, больш мёртвы, чым твар ягонага сына.

Так нарэшце горад аблажылі й абкружылі ворагі. Сьцяну Рамас разбурылі, і ўвесь Пеленар цяпер дастаўся чужынцам. Апошнія навіны звонку прынесьлі ўцекачы з поўначы, што пасьпелі па шляху, пакуль браму не зачынілі. Гэта былі рэшткі варты, што трымала мур там, дзе праходзіў шлях ад Рохану й Анарыёну. Прывёў уцекачоў Інгальд, той самы, які дазволіў праехаць Гэндальфу зь Піпінам пяць дзён таму, калі сонца яшчэ ўзыходзіла й раніца прыносіла надзею.

– Пра рахірымаў аніякіх вестак, – паведаміў ён. – Цяпер Рохан ня прыйдзе. А нават калі й прыйдзе, нам тое не дапаможа. Бо новае варожае войска пераправілася праз раку ля Андрасу – такія дайшлі на нас зьвесткі. Моцнае войска – гуф за гуфам оркаў Вока ды бязь ліку людзей. Такіх мы раней і ня бачылі: невысокія, але шыракаплечыя, суворыя, з барадамі кшталт гномскіх ды зь вялізнымі сякерамі. Зь нейкай дзікунскай зямлі шырокага ўсходу зьявіліся, няйнакш. Яны занялі паўночны шлях, а многія рушылі ў Анарыён. Рахірымы не праб'юцца.

Браму зачынілі. Усю ноч вартавыя на мурах чулі гоман ворагаў, якія кішэлі навокал, выпальваючы палі й сады, секучы кожнага знойдзенага чалавека – жывога ці памерлага. Колькі войска пераправілася праз раку, у цемры было не разабраць, але, калі раніца, ці змрочны яе прывід, пракралася над роўнядзьдзю, убачылі: нават начныя страхі не перабольшылі іх лік. Роўнядзь пачарнела ад шыхтоў, і на колькі хапала зроку ў падхмарнай імгле, паўсюль вакол гораду на палёх вырасьлі, што ліхое цьвільлё, чорныя ці змрочна-барвовыя намёты.

Оркі варушыліся, бы мурашы, бясконца капаючы, капаючы доўгія шэрагі глыбокіх прорыняў якраз па-за стрэлам з лука. Выкапаныя равы напаўнялі полымем, як тое полымя запальвалі ці падтрымлівалі, майстэрствам якім ці ліхім вядзьмарствам, аніхто не зразумеў. Працавалі оркі ўвесь дзень, а людзі толькі пазіралі зьверху, ня здольныя перашкодзіць. Як толькі прорынь дараблялі й запальвалі, да яе пад' jжджалі вялізныя вазы, і неўзабаве яшчэ большыя натоўпы ворагаў спрытна наладжвалі, усталёўвалі пад аховаю агню велетаўскія машыны для таго, каб страляць у горад. А з гарадзкіх муроў аніштo не магло дастрэліць да тых машынаў і спыніць працу над імі.

Спачатку людзі сьмяяліся, не баючыся тых прыладаў. Галоўны мур гораду быў надта высокі й таўшчэразны, узьведзены ў часы, калі моц ды майстэрства Нумэнору яшчэ ня згасьлі ў выгнаньні, і вонкавая паверхня сьцяны была, як вежа Ортанку, цьмяная, цьвярдая, гладкая. Ані сталь, ані полымя не пашкодзілі б ёй – хіба выбух раскапаў бы, разбурыў самую зямлю, на якой той мур стаяў.

– Не, – паўтаралі людзі, – нават калі Неназывальны сам сюды зьявіцца, нават ён не праб'ецца за мур, пакуль мы жывыя.

– Пакуль мы жывыя? Як доўга жывыя? – пярэчылі некаторыя. – У яго ёсьць зброя, якая ад пачатку сьвету падпарадкавала мноства мацнейшых крэпасьцяў. Гэта голад. Бо шляхі перакрытыя. Рохан ня прыйдзе.

Аднак варожыя машыны й не спрабавалі прабіць непарушны мур. Ня просты бандыт, не ачольца орцкай хеўры ўзначальваў напад на найвялікшага суперніка мордарскага гаспадара. Сіла й ліхі розум кіравалі тым войскам. Як толькі вялізныя катапульты былі ўсталяваныя, з мноствам выгукаў і енкаў, з рыпеньнем тросаў ды лябёдак пачалі яны шпурляць надзіва высока, так што іхнія снарады пералятали за першы мур і плюхаліся сярод першага ярусу гораду. Мноства з тых снарадаў празь нейкае ліхое майстэрства ўспыхвала полымем, падаючы.

Неўзабаве ўтварылася вялікая небясьпека па-за мурам, і ўсе, каго толькі можна было адарваць ад пастоў, прыняліся гасіць шматлікія пажары. А пасьля абрынуўся град іншых снарадаў, не такіх разбуральных, аднак больш вусьцішных. Паўсюль на вуліцы й завулкі па-за брамаю сыпаліся маленькія круглякі, якія не палалі й не выбухалі. Але калі людзі пазналі, што гэта, то залямантавалі й заплакалі. Бо вораг кідаў у горад галовы ўсіх тых, хто загінуў, змагаючыся за Азгіліят і за Рамас, за палі Пеленару. Жудасныя снарады: хоць і паплюшчаныя, бясформавыя, часам жорстка пасечаныя, многія твары пазнаваліся, і выдавалася, як пакутліва памерлі тыя людзі. На ўсіх галовах ворагі выпалілі ліхую пазнаку Беспавекавага Вока. І сярод зьнявечаных, апаганеных твараў часьцяком людзі пазнавалі твар таго, хто калісьці побач зь імі ганарліва ўздымаў зброю, ці араў палі, ці прыяжджаў на сьвята ў горад ад зялёных далінаў у гарах.

Дарма сьціскалі гондарцы кулакі, пагражаючы бязьлітасным ворагам, што тоўпіліся перад брамаю. Праклёнаў тыя не разумелі, не валодаючы заходнімі мовамі, гукаючы грубымі галасамі, падобнымі да зьвярыных ці да енкаў птушак-трупажэрцаў. Неўзабаве няшмат засталося ў Мінас Тырыце тых, у каго стала б мужнасьці паўстаць і стрымаць мордарскую навалу. Бо ва Ўладара Цёмнай вежы была іншая зброя, хутчэйшая за голад, – жах і адчай.

Назгулы абвесьціліся зноў, бо Чорны Гаспадар набраў моцы й рушыў наперад, і галасы іхнія, якія абвяшчалі ягоную волю й злаўмысьнасьць, наліліся ліхам і вусьцішшу. Заўжды лунaлі цені над горадам, бы сьцярвятнікі, чакаючы спатолі чалавечымі целамі, асуджанымі на сьмерць. Па-за позіркам, па-за стрэлам кружлялі

яны, аднак заўжды адчувалася іх прысутнасьць, і сьмяротны лямант разьдзіраў паветра. І кожны новы енк рабіўся ня больш звыклым, а больш непераносным. Нарэшце самыя мужнасэрцыя ваяры кідаліся на зямлю, калі нябачная пагроза пралятала над імі, альбо выпускалі зброю зь зьнямелых рук, розум жа іхні засмужваўся чарнатою, і зьнікалі ўсе думкі пра вайну й абарону, а заставалася толькі жаданьне спаўзьці, схавацца ці памерці.

Цягам таго чорнага дня Фарамір ляжаў у пакоі Белай вежы, палаючы страшнай ліхаманкаю. Нехта кінуў слова "*памірае*" – і неўзабаве ўсе на мурах і вулках паўтаралі, што Фарамір канае. Побач зь ім сядзеў ягоны бацька, анічога ня кажучы, толькі назіраючы й не зьвяртаючы болей аніякай увагі на абарону гораду.

Піпін ня ведаў гадзінаў, чарнейшых за гэтую, нават калі апынуўся ў лапах урукхаяў. Ягоны абавязак быў слугаваць намесьніку, і ён слугаваў: чакаў, пакуль спатрэбіцца, стаяў ля дзьвярэй неасьветленай каморы, дужаючыся з уласнымі страхамі. І яму падавалася, што Дэнэтар старэе проста ў яго на вачох, нібы нешта зламалася ў ганарыстым намесьнікавым сэрцы, ва ўладарнай калісьці волі, і суровы розум зьнясілеў. Гора зрабіла тое, а мо раскаяньне? Хобіт бачыў сьлёзы на твары, калісьці такім строгім і мужным, і тое было горш за шаленства.

– Ня плачце, гаспадар мой, – прамармытаў Піпін, запінаючыся. – Магчыма, ён акрыяе. Ці пыталіся вы ў Гэндальфа?

– Не суцяшай мяне чараўніковай дапамогай! – пахітаў галавою Дэнэтар. – Ягоная дурная надзея й загубіла нас. Вораг атрымаў жаданае, і цяпер ягоная моц расьце. Ён бачыць самыя нашыя думкі, і ўсе нашыя дзеі – на згубу нам... Я паслаў свайго сына без падзякі, без добраславеньня ў дарэмную бойку, у сьмяротную небясьпеку, і вось ляжыць ён з атрутаю ў жылах. Як ні пайшла б гэтая вайна, я ўжо напаткаў паразу: мой род скончыцца з мною, род намесьнікаў ня спраўдзіў прызначэньня. Меншыя, ніжэйшыя людзі кіравацьмуць рэшткамі Вышэйшага племені, племені людзкіх каралёў. А тое хавацьмецца па гарах, пакуль яго ня выпалююць, ня вынішчаць.

Ад дзьвярэй загукалі, выклікаючы гаспадара гораду.

– Не, я ня выйду, – адказаў той. – Застануся разам з сынам. Магчыма, ён яшчэ скажа нешта перад сьмерцю. Яна ўжо недалёка. Ідзі, мой ваяр, служы каму захочаш, хоць бы свайму Сівому Дурню, чыя дурная надзея рассыпалася прыскам. А я застануся тут.

Вось так Гэндальф ачоліў апошнюю абарону сталіцы Гондару. Дзе зьяўляўся ён, там сэрцы людзей зноў напаўняліся надзеяй і крылаты жах зьнікаў з памяці. Нястомна крочыў ён ад Цытадэлі да брамы, з поўначы на поўдзень уздоўж сьценаў, і зь ім крочыў князь Дол Амрату ў зіхоткай брані. Бо ён і ягоныя рыцары яшчэ трымаліся з сапраўднай шляхетнасьцю, як гаспадары людзей, у чыіх венах плынела чыстая кроў Нумэнору. Людзі, што бачылі іх, шапталі:

– Так і ў старых паданьнях гаворыцца: у жылах гэтага племені ёсьць эльфава кроў, бо народ Німрадэлі жыў у той зямлі калісьці.

Тады сёй-той сьпяваў сярод змроку колькі радкоў зь песьні пра Німрадэль ці якой іншай, што пяліся ў Андуйнскай даліне ў далёкай мінуўшчыне.

І ўсё ж, калі зьнікалі Гэндальф і рыцары, цені зноўку падступалі да людзей, і сэрцы халаднелі, і гондарская мужнасьць рассыпалася попелам. І так павольна бледны дзень страхаў зьмяніўся начной цемрай адчаю. Полымя ўжо шалела, нястрымнае, на першым ярусе гораду, і ваярам на мурах шмат дзе быў адрэзаны шлях

да адступленьня. Але ж няшмат засталося тых, хто верна й мужна трымаў там пасты: большасьць уцякла за сьцяну другога ярусу.

А далёка за полем бітвы ўжо наладзілі мост праз раку, і ўвесь дзень на Пеленар ішлі войскі, цягнуліся ўсялякія прылады й машыны. І вось пасярод ночы навала абрынулася. Пачаўся штурм. Першыя разьдзелы прайшлі паміж канаваў з полымем па мностве хітрых сьцежак, дзеля таго й пракладзеных. Наперад рушылі ворагі, нягледзячы на страты, бязьлітасна гнаныя пад стрэлы лучнікаў на мурах. Аднак надта мала засталося абаронцаў і няшмат страцілі ворагі, хоць полымя ў раўках давала дастаткова сьвятла, каб славутыя гондарскія лучнікі прадэманстравалі сваё майстэрства, якім калісьці ганарыліся. А тады, пабачыўшы, што мужнасьць гораду надламаная, ачольца нападу загадаў рушыць наперад ва ўсёй моцы. Павольна вялізазныя абложныя вежы, пабудаваныя ў Азгіліяце, пакаціліся наперад скрозь цемру.

Вестуны зноў прыбылі ў Белую вежу, і Піпін дазволіў ім увайсьці, бо іхнія справы былі неадкладныя. Дэнэтар жа неахвотна адвёў позірк ад Фараміравага твару й сустрэў прышлых маўчаньнем.

– Першы ярус гораду палае, – сказалі тыя. – Што загадае вашамосьць? Вашамосьць яшчэ гаспадар гораду й намесьнік Гондару. Ня ўсе хочуць слухацца Мітрандыра. Людзі ўцякаюць з муроў, пакідаюць іх безабароннымі.

– Чаму? Чаму дурні ўцякаюць? – зьдзівіўся Дэнэтар. – Лепей згарэць раней, чым пазьней, бо згарэць наканавана ўсім. Вяртайцеся да свайго пахавальнага вогнішча! А я пайду да свайго. Ня будзе скляпеньняў для Дэнэтара з Фарамірам. Ня будзе валуноў! Ня будзе доўгага павольнага сну набальзамаванай сьмерці! Мы згарым, як гарэлі паганскія каралі да таго, як прыстаў сюды першы карабель з захаду. Бо захад паў. Ідзіце прэч і гарыце!

Вестуны павярнуліся й сышлі, не адказаўшы нічога й не пакланіўшыся.

А Дэнэтар паўстаў, выпусьціў гарачкавую руку Фараміра з далоні.

– Ён палае, ён ужо гарыць, – вымавіў намесьнік з горыччу. – Дом ягонага духу рассыпаецца.

Тады асьцярожна крочыў да Піпіна й зірнуў на яго зьверху ўніз.

– Бывай, збраяноша мой! Бывай, Перыгрыне, сын Паладына! Нядоўгай была твая служба, і ўжо набліжаецца яе канец. Дык я вызваляю цябе ад рэшты. Ідзі й памірай так, як лічыш найлепшым для сябе. Ды з тым, з кім захочаш, нават калі ім будзе твой сябра, чыё глупства прывяло цябе да такой сьмерці. Пакліч маіх служак ды йдзі. Бывай!

– Я не разьвітваюся з вашамосьцю, гаспадар мой, – Піпін апусьціўся на калена.

І раптам па-хобіцку дзёрзка, як калісьці, паўстаў і глянуў старому намесьніку ў вочы.

– Я пайду з вашага дазволу, вашмосьць, бо насамрэч надта хачу пабачыць Гэндальфа. Але ж ён далёка ня дурань, і паміраць я не сьпяшаюся, пакуль ён не адчайваецца ад жыцьця. А ад свайго слова ды службы я не вызваляюся, пакуль вашаць жывы. І калі ўжо ворагі прарвуцца да Цытадэлі, я буду тут ды стану поруч з вашцю – і тады, магчыма, сапраўды заслужу зброю й званьне, што ваша даў мне.

– Рабі што хочаш, спадару паўросьліку, – адказаў Дэнэтар. – А маё жыцьцё парушанае. Пакліч маіх хлапцоў!

І ён вярнуўся назад да Фараміра.

Піпін паклікаў слуг, і яны зьявіліся: шасьцёра з уласных намесьнікавых хлапцоў, людзі дужыя й гожыя. Але ж яны трапяталі, баючыся гэткага закліку. Спакойным голасам Дэнэтар сказаў ім накрыць Фараміра цёплымі коўдрамі й падняць ягоны ложак. Гэтак і зрабілі яны: узяўшы ложак, вынесьлі з пакою. Павольна крочылі яны, каб не турбаваць хворага, і Дэнэтар, які абапіраўся на кій, ішоў, сагнуўшыся, усасьлед, апошнім клыпаў Піпін.

Яны выйшлі зь Белай вежы, нібы на пахаваньне, у цемру, дзе навіслую хмару асьвятлялі зьнізу каламутна-барвяныя бліскавіцы. Павольна перасеклі вялікую плошчу й паводле Дэнэтаравага слова прыпыніліся ля Засохлага Дрэва.

Вісела цішыня, якую парушалі толькі гукі далёкай бітвы ўнізе ды сумныя кроплі, што падалі зь мёртвых галінаў у цёмную ваду. Тады прайшлі праз браму, дзе вартавы сустрэў іх у зьдзіўленьні й адчаі. Збочылі на захад, сягнулі пасьля доўгага пераходу дзьвярэй у задняй сьцяне шостага ярусу. Фэн Холін называліся яны, бо іх трымалі зачыненымі заўжды, апрача часу пахаваньняў, і толькі гаспадар гораду мог прайсьці празь іх ці тыя, хто нёс на сабе знак скляпеньняў ды працаваў у дамах памерлых. За дзьвярыма пачынаўся зьвілісты шлях, што спускаўся мноствам петляў да вузкага пласкагор'я пад ценем стромай сьцяны Міндолуйну. На тым пласкагор'і стаялі магільні каралёў ды іх намесьнікаў.

Ахоўнік дзьвярэй сядзеў у маленькім дамку, з страхам у вачох выбраўся ён вонкі, трымаючы ў руцэ ліхтар. На загад намесьніка адчыніў дзьверы, яны бязгучна адышлі назад. Намесьнік з слугамі й Піпін прайшлі, забраўшы ліхтар у ахоўніка. Цёмна было на стромым шляху паміж старажытных муроў і шматкалёнавых балясаў, што лунал і над галовамі ў зыбкім сьвятле ліхтара. Рэха ад гуку крокаў кацілася за імі, пакуль спускаліся ўсё ніжэй, так сягнулі Рат Дынену, вуліцы Маўчаньня, паміж бляклых купалаў, пустых заляў ды выяваў даўно памерлых людзей. Так крочылі ў залю Намесьнікаў – і апусьцілі ношу.

Там Піпін, баязьліва азіраючыся, зразумеў, што стаіць пад скляпеністай стольлю ў шырокай залі, агорнутай веліканскімі ценямі ад маленькага ліхтара. Скрозь змрок шэраг за шэрагам рысаваліся вычасаныя з мармуру сталы, і на кожным ляжаў нібы заснулы, з каменем пад галавою. Адзін стол, найбліжэйшы, шырокі, стаяў пусты. Туды на знак Дэнэтара паклалі слугі Фараміра й ягонага бацьку, поруч, і накрылі іх адной коўдрай, і пасталі вакол з пахіленымі галовамі, бы плакальнікі вакол памерлых. Тады Дэнэтар ціха прамовіў:

– Тут мы чакацьме. Але ж ня шліце па бальзамоўнікаў. Прынясеце нам дрэва, каб хутка гарэла, абкладзіце нас ім і паліце алеем. А пасьля я папрашу вас пакласьці на дровы запаленую паходню. Зрабіце тое й болей не размаўляйце з мною. Бывайце!

– З дазволу вашмосьці, пане, я пайду, – вымавіў Піпін у жаху й кінуўся наўцёкі зь Сядзібаў Памерлых.

"Небарака Фарамір! – думаў ён. – Я мушу тэрмінова адшукаць Гэндальфа. Небарака Фарамір! Яму, напэўна ж, лекі больш карысныя за сьлёзы. Дзе ж я знайду Гэндальфа? У самым гушчары ўсялякіх турботаў, няйначай, толькі наўрад ці стане ў яго часу на вар'ятаў ды сьмяротна хворых".

Ля дзьвярэй сказаў аднаму з пакаёўцаў, што вартаваў уваход:

– Твой гаспадар не ў сабе. Не сьпяшайцеся зь ягоным загадам. Не нясіце сюды аніякага вагню, пакуль Фарамір жывы! Не рабеце анічога, пакуль Гэндальф ня зьявіцца!

– Хто гаспадар Мінас Тырыту, уладар Дэнэтар ці Сівы Вандроўнік? – абурыўся вартавы ў адказ.

– Падаецца, альбо Сівы Вандроўнік, альбо ніхто ўвогуле, – кінуў Піпін дый пабег бяз духу назад, да гораду, па зьвілістых прысадах міма зьнямелага ад зьдзіўленьня ахоўніка, за дзьверы й далей, пакуль не дабраўся да Цытадэлі.

Вартавы павітаў хобіта, калі той мінаў браму, і Піпін пазнаў голас Бэрэганда.

– Куды бяжыш, спадару Перыгрыне?

– Мітрандыра шукаю!

– Намесьнікавы патрэбы сьпешныя, і ня мне іх затрымліваць, але ж скажы, калі толькі можаш: што адбываецца? Куды падзеўся мой гаспадар? Я толькі заступіў на пост, але ж чуў, што ён пайшоў да Зачыненых дзьвярэй, і перад імі хлапцы несьлі Фараміра.

– Так, – пацьвердзіў Піпін, – да вуліцы Маўчаньня.

Бэрэганд нахіліў галаву, каб схаваць сьлёзы.

– Казалі, што ён памірае, – уздыхнуў ён, – і вось, памёр.

– Не, яшчэ не. І нават цяпер ягоную сьмерць магчыма прадухіліць. Бэрэганд, гаспадар гэтага места здаўся Ворагу раней за свой горад. Вар'яцтва апанавала яго, ён робіць ліхое.

Піпін сьцісла распавёў пра дзівосныя Дэнэтаравы словы й учынкі. І дадаў:

– Трэба тэрмінова адшукаць Гэндальфа!

– Тады спускайся долу, да бітвы.

– Я ведаю. Ягамосьць намесьнік дазволіў мне. Але ж, Бэрэганд, калі толькі здолееш, зрабі што-кольвек, каб спыніць гэтую жудасную справу.

– Намесьнік не дазваляе апранутым у чорнае з срэбрам пакідаць пасты зь любой нагоды, апрача ягонага загаду.

– Ну, дык вашці трэ выбіраць паміж загадамі й жыцьцём Фараміра. Што да загадаў, дык яны цяпер загады вар'ята, а ня пана намесьніка. Усё, мушу бегчы. Вярнуся, калі здолею.

І ён пабег да ніжніх ярусаў. Мінаў людзей, што ўцякалі ад пажарышчаў, і некаторыя, бачачы ягоны рыштунак, абарочваліся й гукалі, але хобіт не зьвяртаў увагі. Нарэшце дабраўся да Другой брамы, за якой вялікае полымя шугала паміж мурамі. Аднак раптам усё падалося дзівосна спакойным. Шум бітвы, ляскат зброі й шалёныя выгукі чамусьці зьніклі. А тады зьнянацку жудасны лямант скалануў паветра, бухнула аглушальна й адбілася глыбокім рэхам. Адольваючы раптоўны прыступ жаху й здранцьвеньня, якое ледзь ня кінула на каленкі, Піпін завярнуў за кут, выскачыў на шырокі пляц перад Вялікаю брамаю. І замёр, бы зьнежывелы. Гэндальфа ён знайшоў, але ж хутчэй адсунуўся прэч, у цень.

З самай поўначы доўжыўся вялікі штурм. Грукаталі білы. На поўначы й на поўдні гуф за гуфам ворагі прабіваліся пад самыя сьцены. Тады зьявіліся вялізныя пачвары, бы рухомыя хаты ў крывавым перарывістым сьвятле, – харадзкія мумакі цягнулі па праходах паміж канавамі гіганцкія абложныя вежы й іншыя машыны. А ачольца аблогі й увагі не зьвяртаў, што робяць яны й колькі іх гіне, бо мэтаю іх было толькі выпрабаваць моц абароны ды заняць абаронцаў у некалькіх месцах адразу. Галоўны напад абрынуўся на гарадзкую браму. Хоць і надта трывалая, выкаваная з жалеза й сталі, ахаваная вежамі й бастыёнамі зь непарушнага каменю, была яна найслабейшым месцам ва ўсім высокім і недаступным вонкавым муры – і ключом да гораду.

Барабаны загрукаталі гучней. Ускінулася полымя ў равах. Вялізманыя машыны паўзьлі па полі, а пасярод іх рушыў магутны таран, велічынёю зь лясное дрэва, сотню ступнёў даўжынёю, падвешаны на моцных ланцугах. Доўга кавалі яго ў чорных

кавальнях Мордару, і вусьцішнае наверша ягонае, выкаванае з чорнай сталі, мела выяву ашчэранай ваўчынай пысы, і ляжалі на ёй чары зьнішчэньня. Гронд назвалі яго, у памяць старажытнага Молата Падземнага сьвету. Вялізныя пачвары цягнулі яго, оркі тоўпіліся вакол, а за ім крочылі горныя тролі, каб разгойдваць яго.

Але над брамаю й супраціў напаткалі мацнейшы, бо там стаялі рыцары Дол Амрату й самыя мужныя ваяры гораду. Зьліваю ляцелі стрэлы й дзіды, і абложныя вежы валіліся ці ўспыхвалі, бы паходні. Абапал брамы грувасьціліся кучы абломкаў мuроў і целаў забітых, але ж, нібы гнаныя вар'яцтвам, прыбывалі новыя й новыя ворагі.

Гронд поўз. Пакрыцьцё ягонае не займалася полымем, аніякі агонь ня браў яго, і хоць зноў і зноў нейкая з жывёлінаў, што цягнулі таран, шалела й кідалася на незьлічоных оркаў-ахоўнікаў, топчучы іх, забітых папросту адкідвалі прэч, і новыя займалі іхняе месца.

Гронд поўз. Барабаны зайшліся дзікім боем. Над кучамі забітых зьявілася жудасная постаць: высокі вершнік, з насунутым каптуром, апрануты ў чорнае. Павольна, наступаючы на зрынутых, ехаў ён наперад, не зьвяртаючы ўвагі на стрэлы й дзіды. Спыніўся й падняў доўгі блядны меч. І тады невыказны жах упаў на ўсіх – і на абложнікаў, і на абаронцаў – і рукі іхнія апусьціліся, і застылі струны лукаў. На момант усё сьцішылася.

Грукнулі, зачасьцілі барабаны. З жудаснай сілаю Гронд штурхнулі вялізарныя рукі троляў. Таран кіўнуў. Пыса ваўка лізнула браму, і глыбокі грукат пакаціўся праз горад, як грымоты праз аблокі. Але ж жалеза брамы й сталёвыя бэлькі вытрымалі ўдар.

Тады Чорны Ачольца прыўзьняўся на страмёнах ды выгукнуў жудасна на забытай мове словы сілы й вусьцішы, каб разьдзерці й сэрцы, і каменьне.

Тройчы гукаў ён. Тройчы біў вялікі таран. І на апошнім удары брама Гондару ня вытрымала. Нібы ўражаная заклёнам вынішчэньня, выбухнула яна. Палыхнула асьляпляльнаю маланкаю... і асыпалася нікчэмнымі друзачкамі на зямлю.

І правадыр назгулаў уехаў у браму. Вялізнай чорнаю постацьцю з полымем за сьпінаю паўстаў ён, ценем адчаю й гібелі. За браму, туды, куды яшчэ не сягаў аніякі вораг, уехаў ачольца назгулаў, і ніхто ня вытрываў перад ім.

Амаль ніхто. Бо маўклівы й нерухомы ў цэнтры плошчы за брамаю чакаў на Ценяры Гэндальф. Цяняр адзіны сярод вольных зямных коней выносіў такі жах, стоячы нерухома, спакойна, нібы кувезная выява на Рат Дынен.

– Ты ня пройдзеш тут, – вымавіў Гэндальф, і вялізарны цень прыпыніўся. – Ідзі прэч, назад, у прорву, падрыхтаваную для цябе! Ідзі прэч! Згінь у небыці, што чакае цябе й твайго гаспадара! Прэч!

Чорны вершнік адкінуў каптур, і – зірніце! – на галаве ягонай ляжала карона, хоць тая галава была нябачнаю. Толькі барвовае полымя сьвяцілася паміж каронаю й шырокімі, укрытымі чорным плашчом плячыма. А зь нябачнага рота вырваўся сьмех.

– Стары дурань! Вось надышоў мой час! Ці ты не пазнаеш сваю сьмерць? Памры ж у немачы, няздара, і праклінай мяне, паміраючы!

Ён узьняў меч, і полымя ўспыхнула на ім, і пабегла па лязе.

Гэндальф ня рухаўся. І ў гэты самы момант далёка ззаду, у нейкім гарадзкім двары, загаласіў певень. Звонка й ясна сьпяваў ён, ня ведаючы ані пра чараўніцтва, ані пра вайну, адчуваючы толькі раніцу, далёкі сьвітанак, што запаліўся ў нябёсах высока над ценем сьмерці.

І нібы ў адказ іншая песьня данеслася здалёк. Рогі, погук мноства рагоў. Смужна адбіўся іхні кліч ад цьмяных бакоў Міндолуйну. Шалёна вылі вялікія рогі Поўначы.

Нарэшце прыйшоў Рохан.

## *5. Паход рахірымаў*

Панавала цемра. Мэры, які ляжаў на зямлі, загарнуўшыся ў коўдру, ня бачыў амаль анічога. Ноч стаяла сьпякотная й бязьветраная, і паўсюль навокал ледзь чутна ўздыхалі й шапацелі нябачныя дрэвы. Падняў галаву, прыслухаўся. Так, не памыліўся: нібы далёкія барабаны грукаюць у лясістых пагорках ды адгор'ях. Рытм спыняўся раптоўна, а тады доўжыўся недзе ў іншым месцы – то бліжэй, то далей. Падумалася: а вартавыя тое чуюць ці не?

Ведаў, што ў змроку, нябачныя, паўсюль навокал – харугвы рахірымаў. Скрозь цемру пахла коньмі. Чуў, як рухаюцца, пастукваюць капытамі па зямлі, засыпанай ігліцаю. Войска прыпынілася ў сасьняку, якім зарасьлі схілы й ваколіцы празору Эйленах. Гэты пагорак узвышаўся над доўгімі хрыбтамі лесу Друядан побач зь вялікім шляхам ва Ўсходнім Анарыёне.

Хоць і стомлены, заснуць Мэры ня мог. Ехаў ужо чатыры дні, і змрок усё шчыльнеў, усё цяжэй сьціскаў сэрца. Падумаў быў: навошта гэтак прагнуў ехаць, калі ўсе нагоды меў, нават гаспадароў загад, застацца? А мо стары кароль даведаўся пра непакорлівасьць і цяпер злуецца на хобіта? Магчыма й не. Нейкая дамова існавала паміж Дэрнхельмам і Эльфхельмам, маршалкам, ачольцам эярэду, у шэрагах якога ехалі Дэрнхельм з Мэры. Ён і ягоныя людзі ігнаравалі хобіта й рабілі выгляд, што ня чуюць анічога, калі той зьвяртаўся да іх, быццам Мэры – яшчэ адзін мех ля сядла Дэрнхельма. І з Дэрнхельма карысьці ня болей, ён ніколі ні з кім не размаўляў. Мэры пачуваўся надта нязначным, самотным, да ўсяго – не на сваім месцы. Час падціскаў, і над войскам навісла пагроза. Ужо заставалася меней за дзень ходу да вонкавых муроў, што абкружалі ваколіцы Мінас Тырыту. Наперад выслалі выведнікаў. Некаторыя не вярнуліся. Астатнія вярнуліся хутка й данесьлі, што шлях заняло моцнае войска. Ворагі разьбілі лягер проста ўздоўж дарогі, за тры вярсты на захад ад Аман Дыну, і людзкія разьдзелы ўжо рушаць па шляху, і да іх менш за дзьве мілі. А ў пагорках ды лясох уздоўж шляху шнараць оркі. Эямэр і кароль ня спалі, склікалі раду пасярод ночы й разважалі, што рабіцьмуць.

Мэры хацелася паразмаўляць з кім, згадаўся Піпін. Але тое толькі дадало непакою. Небарака Піпін, зачынены ў вялізным каменным горадзе, самотны й пераляканы. Мэры захацелася стаць высокім вершнікам накшталт Эямэра, дзьмуць у рог ці рабіць нешта падобнае ды мчаць на дапамогу й выратаваць сябра. Сеў, прыслухаўся да барабанаў, што забілі зноў, цяпер зусім блізка. І вось адрозьніў галасы – людзі размаўлялі напаўголасу – і пабачыў прыцемненае сьвятло паўпрыкрытых ліхтароў, якія несьлі праз лес. Вакол замітусіліся ў цемры людзі, рухаючыся амаль навобмацак.

Высокая постаць вырасла побач. Чалавек спатыкнуўся аб Мэры, вылаяўся, кленучы карані. Хобіт пазнаў голас маршалка Эльфхельма.

– Я ня корань, спадару маршалку, – вымавіў ён, – і ня мех, а пабіты хобіт. І самае меншае, што вашці варта зрабіць у якасьці прабачэньня, гэта распавесьці, што адбываецца.

– Ды што заўгодна ў гэткай д'ябальскай цемры! – адказаў Эльфхельм. – Але гаспадар загадаў, каб мы былі гатовыя – магчыма, раптоўна здымемся й рушым.

– Вораг ці што? – устурбаваўся Мэры. – Гэта ягоныя барабаны? Я ўжо быў падумаўшы, што прымроіў іх, бо ніхто на іх не зважае.

– Не, не, – адмахнуўся Эльфхельм. – Вораг на шляху, а не сярод пагоркаў. Ты чуеш дзікуноў, насельнікаў тутэйшага лесу. Яны перамаўляюцца барабанамі. Кажуць,

да нашых дзён рэшта іх жыве ў гэтым лесе. Яны нашчадкі надта старажытных часоў, жывуць у таемнасьці, хаваючыся, дзікія й сьцярожкія, бы зьвяры. Яны не ваююць з Гондарам ці Ўкрайнай, але цяпер іх турбуе цемра й прышэсьце оркаў. Яны баяцца, каб Чорныя гады не вярнуліся, а да таго надта падобна. Будзем удзячныя, што яны ня ўздумалі паляваць на нас, бо, паводле чутак, яны страляюць атрутнымі дроцікамі, і ў лесе іх аніхто не спаймае й не дагоніць. Аднак яны прапанавалі паслугі Тэядэну. Зараз аднаго зь іх старэйшынаў правялі да караля. Вунь там, бачыш ліхтары? Усё, болей я ня ведаю. І цяпер мушу выконваць гаспадарскі загад. Так што зьбірайся й рыхтуйся, спадар Мех!

Эльфхельм зьнік сярод ценяў.

Не спадабаліся Мэры словы пра дзікуноўды атрутныя дроцікі, але ж і без таго на яго жудасна ціснула. Чакаць проста так было невыносна. Адчайна хацелася вызнаць, што ж адбываецца. Хобіт падняўся й неўзабаве асьцярожна пакрочыў за апошнім ліхтаром, пакуль той не згубіўся сярод дрэваў.

Выйшаў на паляну, дзе пад старадаўнім дрэвам разьбілі невялікі намёт для караля. Ліхтар, прыкрыты зьверху, зьвісаў з сука й высьвечваў на зямлі бледнае кола. Там сядзелі Тэядэн з Эямэрам, а перад імі на зямлі ўладкаваўся дзівосны шырокі й вуглаваты чалавечак, каржакаваты, каравы, бы стары камень, валосьсе ягонай рэдкай барады тырчэла з круглага вытыркнутага падбародзьдзя, як сухі мох. Таўстарукі, каратканогі, пухлявы й шырачэзны, апрануты толькі ў пляцёнку з травы вакол пасу, ён падаўся Мэры падобным да чагосьці, і раптам хобіт узгадаў пукелаў у Дунхэрэ. Рыхтык адна з тых старых выяваў ажыла ці зьявіўся празь безьліч гадоў наўпросты нашчадак тых, з каго рабіў скульптуры забыты старажытны майстра.

Пакуль Мэры падкрадваўся бліжэй, было ціха, а тады дзікун загаварыў – напэўна, адказваў на пытаньне. Голас ягоны гучаў нізка й гартанна. Аднак на вялікае зьдзіўленьне Мэры, прамаўляў дзікун на Агульнай мове, хоць і запінаўся, і ўстаўляў дзікунскія словы.

– Мы, бацьку каняводаў, – казаў ён, – ня б'емся, не. Толькі палюем. Забіваем гаргуноў па лясох, ненавідзім оркаў. Ты таксама ненавідзіш гаргуноў. Мы дапаможам, як здолеем. У ляснога племя чуйны слых, пільны зрок, усе сьцежкі знаныя яму. Лясное племя жыло тут яшчэ да каменных хацінаў, да таго, як высокія людзі выйшлі з вады.

– Дапамагаць нам трэба на полі бітвы, – вымавіў Эямэр. – Як ты й тваё племя дапаможаце нам?

– Навіны прынясем. Мы з гор пазіраем. На вялікія горы ходзім, далёка бачым. Каменны горад зачынены. Агонь палае звонку, а цяпер і ўнутры. Хочаш патрапіць туды? Тады сьпяшайся. Але гаргуны й людзі здалёку, – ён махнуў кароткаю вузлаватаю рукою на ўсход, – паселі на конскі шлях. Надта шмат, болей за конскае племя.

– Адкуль ты ведаеш? – спытаў Эямэр.

На пляскатым твары старога ды ў цьмяных вачох не адбілася анічога, але голас загучаў раздражнёна.

– Лясное племя дзікае, вольнае, але ж мы не немаўляты! Я – вялікі правадыр Ган-буры-Ган. Я лічу мноства рэчаў: зоркі ў нябёсах, лісты на дрэвах, людзей у цемры. Вас – двудзесяць двудзесяці дзесяць разоў і яшчэ пяць. А іх болей. Вялікая бітва будзе, хто пераможа? А яшчэ нашмат болей ходзіць вакол сьценаў каменнага гораду.

– На жаль, ён мае рацыю, – заўважыў Тэядэн. – Нашыя віжы даносяць: шлях перакапаны порынямі й утыканы палкамі. Мы ня возьмем іх раптоўным налётам.

– Але ж нам трэ сьпяшацца! – сказаў Эямэр. – Мундбург у агні!

– Дазволь скончыць Ган-буры-Гану! – прабурчэў дзікун. – Болей за адзіны шлях ведае ён. Правядзе цябе там, дзе няма ямінаў, гаргуны ня ходзяць, толькі лясное племя й зьвяры. Мноства шляхоў было, калі народ каменных хатаў быў моцны. Яны рэзалі каменьне, як паляўнічы зьвярынае мяса. Лясны народ думаў: яны ядуць каменьне. Ехалі яны праз Друядан да Рыману ў вялікіх вазох. Болей ня езьдзяць. Шлях забыты, але не лясным племем. Да гары й за гарой вядзе ён, схаваны травою, дрэвамі прыкрыты, адсюль да Рыману й далей да Дыну, дый падыходзіць да конскага шляху напрыканцы. Лясны народ пакажа шлях. Тады ты заб'еш гаргуноў ды прагоніш цемру зыркім жалезам, і лясное племя вернецца спакойна спаць у дзікіх лясох.

Эямэр з каралём параіліся на сваёй мове. Нарэшце Тэядэн павярнуўся да лесавіка.

– Мы прымаем тваю прапанову. Хоць і пакідаем варожае войска за сьпінай. Якая розьніца? Калі каменны горад загіне, мы ня вернемся. Калі выратуецца – тады самое гэтае войска будзе адрэзанае. Калі праўдзівыя твае словы, Ган-буры-Ган, багата ўзнагародзім цябе, і сяброўства Ўкрайны – табе назаўсёды!

– Памерлыя – не сябры жывым і ўзнагародаў не даюць, – адказаў дзікун. – Але ж калі перажывеш цемру, тады пакінь лясное племя ў спакоі ў ягоных лясох, не палюй іх, што зьвяроў. Ган-буры-Ган не завядзе цябе ў пастку. Пойдзе разам з бацькам конскага народу, а калі завядзе не туды, дык забі яго.

– Хай так і будзе! – абвесьціў Тэядэн.

– Як доўга – абыходзіць ворагаў ды вяртацца на шлях? – пацікавіўся Эямэр. – Калі ты павядзеш нас, нам давядзецца клыпаць крокам пешага, а я не сумняюся, што шлях твой вузкі.

– Лясны народ легканогі, – давёў Ган. – У Даліне Каменных Вазоў, там, – ён махнуў рукою на поўдзень, – шлях на чатыры кані шырынёю, вузкі напачатку ды напрыканцы. Лясны народ даходзіць адсюль да Дыну ад сьвітанку да полудня.

– Тады для нас гэта сем гадзінаў, – падсумаваў Эямэр, – але мусім разьлічваць недзе гадзінаў на дзесяць. Усялякія нечаканасьці могуць затрымаць нас, калі войска расьцягнецца, і шмат часу спатрэбіцца, каб упарадкаваць яго, калі выйдзем на роўнядзь. Колькі часу цяпер?

– Хто ж ведае? – заўважыў кароль. – Паўсюль цемра.

– Цемра, але ня ноч, – сказаў Ган. – Калі сонца ўзыходзіць, мы адчуваем яго, нават калі яно схаванае. Ужо караскаецца яно над усходнімі гарамі. На нябёсных палетках разгараецца дзень.

– Тады мусім выяжджаць як мага хутчэй, – вырашыў Эямэр. – Бо нават у найлепшым выпадку няма надзеі прыйсьці на дапамогу Гондару сёньня.

Мэры болей не падслуховаў, а сьлізнуў прэч, каб падрыхтавацца да выхаду. Усё, бітва набліжалася. І падавалася, няшмат хто яе пераживе. Але ж Мэры згадаў Піпіна, полымя ў Мінас Тырыце й адкінуў уласныя страхі.

Усё добра склалася гэтым днём, і ані прыкметы варожай засады не заўважылі. Дзікуны паставілі вакол войска ланцуг сьцярожкіх паляўнічых, каб аніякі орк ці пранырлівы віж ня вызнаў пра рух сярод пагоркаў. Чым бліжэй былі да аблогі, тым шчыльней рабіўся змрок, і вершнікі рушылі доўгімі шэрагамі, бы чорныя цені людзей і коней. Кожную харугву вёў асобны дзікун-правадыр, а стары Ган-буры-Ган крочыў

побач з каралём. Напачатку перасоўваліся павольней, чым плянавалі, бо змарнавалі шмат часу, каб, сьпешыўшыся, адшукаць сьцежкі праз зарослыя шчыльным лесам хрыбты за лягерам і спусьціцца ў Даліну Каменных Вазоў. Ужо набліжаўся надвячорак, калі першыя вершнікі сягнулі шырокіх шэрых пушчаў, што ляжалі за ўсходнім ускрайкам Аман Дыну, прыкрываючы вялікую вышчарбіну ў шэрагу пагоркаў, што цягнуліся з усходу на захад, ад Нардалу да Дыну. Праз тую вышчарбіну здаўна вёў забыты возавы шлях ад гораду праз Анарыён. Але ўжо цягам многіх чалавечых жыцьцяў дрэвы авалодалі ім, і ён зьнік, парушаны, пахаваны пад лісьцем незьлічоных гадоў. Аднак пушча была апошняю надзеяй схавацца ад варожых вачэй перад бітваю, бо далей ляжала дарога ды адкрытыя роўнядзі ўздоўж Андуйну, а на ўсход і на поўдзень цягнуліся голыя й скалістыя схілы, і грамады каменю, цісьнучы адна адну, паўстаючы бастыёнамі, грувасьціліся вышэй і вышэй да непамернага гмаху Міндолуйну.

Першая харугва прыпынілася, і калі за ёй астатнія выбраліся з вузкага горла Даліны Каменных Вазоў, вершнікі разьехаліся па навакольлі, да месцаў лягеру пад шэрымі дрэвамі. Кароль склікаў маршалкаў ды ачольцаў на раду. Эямэр выслаў віжоў, каб сачылі за шляхам, а стары Ган толькі пахітаў галавою.

– Якая карысьць слаць конны народ? Лясное племя ўжо ўсё пабачыла, што можна ўбачыць у благім паветры. Яны неўзабаве прыйдуць ды перамовяць з мною тут.

Зьявіліся маршалкі й ачольцы, і тады з-за дрэваў выбраліся сьцярожка астатнія людзі-пукелы, такія падобныя да Гана, што Мэры іх і не адрозьніў бы. Яны размаўлялі з Ганам на дзівоснай гартаннай, хрыпатай мове.

– Вольнае племя бачыла шмат чаго, – Ган нарэшце павярнуўся да караля. – Па-першае, сьцеражыцеся! Яшчэ шмат людзей у лягеры за Дынам, гадзіна ходу адсюль, – ён махнуў рукою на захад, да чорнага мігака-празору. – Аднак анікога не відаць паміж намі й новай сьцяною каменнага народу. Там шмат хто. Занятыя. Сьцяна ўжо не стаіць, гаргуны пазьбівалі яе земляным громам ды кіямі з чорнага жалеза. Гаргуны тыя нічога не чакаюць, вакол не азіраюцца. Думаюць, іхнія сябры даглядаюць за ўсімі шляхамі!

Тут стары Ган дзівосна забулькаў глыткаю – засьмяяўся, напэўна.

– Добрыя весткі! – выгукнуў Эямэр. – Нават у змроку праблісквае надзея! Варожае ліха часьцяком ліхое *яму* самому! Гэтая клятая цемра стала покрывам нам. І цяпер, прагнучы вынішчыць Гондар, разабраць да апошняга каменю, оркі вынішчылі найвялікшы мой страх. Вонкавую сьцяну доўга можна было трымаць супраць нас. А цяпер мы пранясемся празь яе бесьперашкодна – раз ужо мы сюды дабраліся.

– І зноў я дзякую табе, лясны правадыр Ган-буры-Ган, – вымавіў кароль. – Дабра табе на тваіх шляхох за навіны й правадырства!

– Забіце гаргуноў! Забіце оркава племя! Анічога іншага не задаволіць лясны народ! – адгукнуўся Ган. – Праганіце благое паветра й цемру зыркім жалезам!

– Дзеля таго й ехалі мы здалёк, і тое спрабавацьмем, – пацьвердзіў кароль. – Але што атрымаецца, пакажа толькі раніца.

Ган-буры-Ган апусьціўся на карачкі й пакланіўся, крануўшы зямлю лобам на знак разьвітаньня. Тады ўстаў, каб сысьці. І раптам пачаў азірацца, бы напалоханая лясная жывёліна, што адчула чужы пах. Вочы дзікуна заблішчэлі.

– Вецер мяняецца! – выгукнуў ён і ў імгненьне вока разам з суродзічамі зьнік у змроку, і аніколі болей ня бачылі іх вершнікі Рохану.

Неўзабаве далёка на ўсходзе зноў загрукаталі барабаны. Аднак аніводны з роханскага войска не падумаў благога пра дзікуноў, хоць дзіўнымі й непрыемнымі на выгляд падаваліся лясныя людзі, здрады ад іх не чакалі.

– Болей нам ня трэба правадыроў, – заўважыў Эльфхельм, – бо ў войску ёсьць тыя, хто ездзіў да Мундбургу ў часы міру. Я, напрыклад. Калі выедзем на шлях, ён паверне на поўдзень, і адтуль яшчэ чатыры мілі да вонкавага муру й прыгарадных земляў. І ўздоўж дарогі амаль паўсюль трава абапал шляху. Гэты адрэзак шляху ганцы Гондару заўжды праяжджаюць з найвялікшай хуткасьцю. І мы праскочым спрытна й бязь лішняга шуму.

– Наперадзе – ліхая бітва, нам спатрэбіцца ўся нашая моц, – сказаў Эямэр. – Таму мая парада: адпачыць цяпер і рушыць ноччу, каб выехаць на прыгарадныя палі зь сьвітанкам, ці што зь яго засталося, або калі загадае наш гаспадар.

Кароль пагадзіўся, і рада разышлася. Але неўзабаве Эльфхельм вярнуўся.

– Нашыя віжы не знайшлі анічога па-за шэрым лесам, апрача двух людзей – двух забітых – і іхніх мёртвых коней.

– І што такое? – спытаў Эямэр.

– Пане маршалку: яны – ганцы Гондару. Адзін, напэўна, Хіргон. Ягоная рука яшчэ сьціскае Барвяную стралу, а галаву ягоную адсеклі. І вось што яшчэ: падаецца, іх забілі, калі яны ўцякалі на захад. Мяркую, яны знайшлі ворагаў ужо на вонкавым муры ці ў час нападу на яго, а тады павярнулі назад – дзьве ночы таму, калі яны карысталіся коньмі зь перакладных пастоў, як звычайна. Яны не дабраліся да гораду й павярнулі назад.

– Горкія зьвесткі, – засмуціўся Тэядэн. – Значыць, Дэнэтар не атрымаў навінаў пра наш паход і адчаяўся, чакаючы нас.

– Патрэба ня церпіць адклады, аднак лепей позна, чым ніколі, – сказаў Эямэр. – І мажліва, да гэтай часіны старое выслоўе пасуе болей, чым да любой пары, калі ўпершыню чалавечыя вусны вымавілі яго.

Была ноч. Пааберуч ад шляху бязгучна рушыла войска Рохану. Дарога, агінаючы адгор'і Міндолуйну, збочвала на поўдзень. Далёка, амаль проста наперадзе барвовае зьзяньне палала пад чорнымі нябёсамі, і чорнымі гмахамі паўставалі над ім схілы вялікай гары. Коньнікі ўжо набліжаліся да Рамасу, муроў Пеленарскага поля, але дзень яшчэ не распачаўся.

Кароль ехаў пасярэдзіне першай харугвы, сярод сваіх прыдворных і аховы. За каралеўскай харугвай разьмяшчаўся Эямэраў эярэд, і Мэры заўважыў, што ў цемры Дэрнхельм пакінуў сваё месца й паціху прасунуўся наперад, пакуль не апынуўся амаль адразу за каралеўскай харугвай. Тады прыпыніліся. Мэры чуў, як наперадзе ціха перамаўляюцца. Зьявіліся выведнікі, якія дабраліся амаль да муру. Данесьлі пра ўбачанае каралю.

– Вялікія вогнішчы, вашамосьць, – паведаміў адзін. – Вакол гораду полымя, на полі процьма ворагаў. Але ўсе, здаецца, сабраныя для штурму. Наколькі мы бачылі, нямногія засталіся на вонкавай сьцяне, і тыя не сьцерагуцца, занятыя разбурэньнем.

– Ці памятае вашамосьць словы дзікуна? – спытаў іншы. – Я жыў у часіны міру на роўнядзях. Відфара маё ймя. Мне паветра таксама прыносіць весткі. Вецер мяняецца. Ужо патыхае з поўдня й чуваць пагалосак мора, хоць і слабы. Раніца прынясе навіны. Над гэтым смуродам і хмараю заднее, калі перасячэм сьцяну.

– Калі ты кажаш праўду, Відфара, зычу табе агарэць бітву й пражыць доўгія гады ў супакоі й раскошы! – вымавіў кароль.

А тады павярнуўся да войска й вымавіў ясным, дужым голасам так, што многія вершнікі зь першага эярэду пачулі яго:

– Надышоў ваш час, вершнікі Ўкрайны, сыны Эёрла! Агонь і ворагі наперадзе, родныя хаты далёка за сьпінамі. Аднак хоць і на чужых палёх выпала вашая бітва, слава, якую здабудзеце вы, застанецца вашай назаўсёды. Вы кляліся калісьці – цяпер час выканаць клятвы гаспадарам, і землям, і сяброўству!

Ваяры бразнулі дзідамі аб тарчы.

– Эямэр, сыне мой, вядзі ж першы эярэд! – абвесьціў кароль. – Ён пойдзе за каралеўскім сьцягам, у цэнтры. Эльфхельм, калі мінем сьцяну, вядзі харугву праваруч. А Грымбальд няхай кіруе сваёй зьлева. Астатнія рушце за гэтымі трыма паводле свайго разуменьня. Нападайце на ўсялякі варожы разьдзел. Лепш сплянаваць немажліва, бо мы ня ведаем абставінаў на полі бою. Рушце наперад і ня бойцеся аніякай цемры!

Першая харугва рушыла з усёй магчымай хуткасьцю. Яшчэ панавала глыбокая цемра – якія зьмены ні прадчуваў бы Відфара. Мэры ехаў за Дэрнхельмам, ухапіўшыся за яго левай рукою, а правай намагаючыся вызваліць корд з похваў. Цяпер адчуў з усёй горыччу праўду словаў старога караля: "І ў бітве, да якой мы едзем, што ж будзеш рабіць ты, спадару Мерыядоку?"

"Толькі вершніку перашкаджаць, – падумаўхобіт, – дый спадзявацца не зваліцца, каб затапталі да сьмерці шалёнымі капытамі".

Да вонкавага муру заставалася каля паўмілі. Хутка сягнулі яго. Мэры падалося – надта хутка. Выбухнуў дзікі лямант, забразгала зброя, але ненадоўга. Оркаў, якія бурылі сьцяну, было мала. Зьнянацку коньнікі абрынуліся на іх, каго забілі, а каго паразагналі. Перад руінамі паўночнай брамы Рамасу кароль прыпыніўся зноў, і першы эярэд выстраіўся за ім і па баках. Дэрнхельм жа трымаўся блізка да караля, хоць Эльфхельмава харугва ад'ехала направа. Ваяры Грымбальда зьвярнулі ўбок ды праехалі празь вялікі пралом у сьцяне далей на ўсход ад брамы.

Мэры вызірнуў з-за Дэрнхельмавай сьпіны. Далёка наперадзе, вёрстаў за дзесяць ці болей, палала вялікае пажарышча, а паміж ім і вершнікамі паўколам сьвяціліся лініі вагню – найбліжэйшая недзе за паўмілі. Болей на цёмнай роўнядзі анічога не вылучалася, і аніякай надзеі на ранішняе сьвятло не было, і вецер не азываўся, зьменены ці не.

Роханскае войска ціха й павольна рушыла на поле Гондару, нібы прыліў, які мкнецца праз праломы ў вале, што лічыўся калісь надзейным. А Чорны правадыр варожай навалы думаў толькі пра штурм і аблогу ды гібель гораду, і ніякіх зьвестак не дайшло да яго, ніхто не абвесьціў, што ў пляне ёсьць лёсавая дзірка.

Крыху пазьней кароль павёў ваяроў на ўсход, накіраваўшы да вонкавага боку абложных агнёў. Пакуль яшчэ вершнікаў не заўважылі, не спынялі, і Тэядэн не даваў сыгналу да атакі. Нарэшце кароль стаў ізноў. Горад наблізіўся. Смурод вісеў у паветры, і цемра ляжала сьмяротным ценем. Коні непакоіліся. А кароль нерухома сядзеў на Сьнежнагрыве, пазіраючы на агонію Мінас Тырыту, быццам зьнянацку ўражаны адчаем і вусьцішшу. Падалося, ён сьціснуўся, паменшыўся, сагнуўся пад цяжарам гадоў. Мэры й сам адчуваў, як вялікі цяжар жаху й сумневу лёг на яго. Сэрца грукала марудна, цяжка. Час нібы застыў у нявырашанасьці. Спазьніліся, няйначай, роханцы спазьніліся! Позна ўсё ж горш, чым ніколі! Можа, Тэядэн завагаецца, схіліць старую галаву, паверне, уцячэ прэч, схаваецца сярод гораў?

І тады Мэры адчуў яе, несумненную зьмену! Вецер дыхнуў у ягоны твар! І бліснула сьвятло. Далёка-далёка на поўдні цьмяна намаляваліся шэрыя абрысы аблокаў. Яны клубіліся, плынелі. За імі паўставала раніца.

У гэты самы момант асьляпляльна палыхнула, нібы маланка ўдарыла з-пад гораду. На невыносна зыркае імгненьне высьвеціўся ўвесь горад, зь верху да нізу, чорна-белы, з найвышэйшаю вежаю – бліскучай іголкай, і тады цемра сашчапілася над ім зноў і над палямі пракацілася вялізнае "*бумм*!!".

І з гэтым гукам пахілены кароль выпрастаўся. Ізноў падаўся ён высокім і ганарлівым, прыўзьняўшыся на страмёнах, ён выкрыкнуў магутней, ясьней і гучней за любы сьмяротны голас, які чулі людзі:

*Паўстаньце ж, паўстаньце, ваяры Тэядэна!*
*Ліха наперадзе, сьмерць і пажары!*
*Дзідаў віхура й тарчаў пагуба,*
*дзень сталі, дзень барвы ды зыркага сонца!*
*Рушце ж наперад! Да Гондару рушце!*

Кароль выхапіў у Гутлафа, свайго сьцяганосца, вялікі рог і так задзьмуў у яго, што рог раскалоўся. І тут жа покліч падхапілі ўсе рогі ў войску, і погук роханскіх рогаў у гэты час быў, што буран над роўнядзьдзю, што навальніца ў гарах.

*Рушце ж наперад! Да Гондару рушце!*

Раптам кароль выгукнуў Сьнежнагрыву, і конь кінуўся наперад. За каралём віўся ягоны сьцяг – белы конь на зялёным полі – але кароль далёка абагнаў яго. За каралём скакалі рыцары ягонага почту, але ён імчаў наперадзе, недасягальны. Эямэр вёў эярэд за ім, і белы хвост на ягоным шаломе плынеў па ветры, і коні мчалі хваляю, што абрынаецца, пенячыся, на бераг, але Тэядэна было не дагнаць. Нечалавечае шаленства, падавалася, авалодала ім, ці люты баявы агонь прабацькоў запалаў маладосьцю ў ягонай крыві, і кароль нёсься на Сьнежнагрыве, як бог даўніны, бы Аромэ Вялікі ў бітве валараў, калі сусьвет быў малады. Залатая тарча ягоная зьзяла, як выява сонца, і трава выбухала зялёным агнём пад капытамі каня. І прыйшла раніца, сапраўдная раніца, і вецер з мора разагнаў цемру, і залямантавалі войскі Мордару, апантаныя жахам, і пабеглі, уцякаючы, і гінулі, і шалёныя капыты ўбівалі іх у зямлю. І тады засьпявала ўсё войска Рохану, засьпявала, забіваючы, бо лютая асалода бітвы завалодала ваярамі, і сьпеў той, цудоўны й жудасны, даляцеў да гораду.

## *6. Бітва на Пеленарскіх палёх*

Аднак ня орцкі ваяка, ня просты бандыт ачольваў напад на Гондар. Надта рана растачылася цемра, да часу; прызначанага яе Гаспадаром. Лёс здрадзіў яму, і перамога высьлізнула з рукі, якраз калі яна працягнулася схапіць. Але ж тая рука была доўгая. Яшчэ не пахіснулася яе ўлада, яшчэ мела вялікую моц. Кароль, прывід пярсьцёнка, ачольца назгулаў, меў шмат зброі. Ён пакінуў браму й зьнік.

Калі Тэядэн, кароль Украйны, сягнуў шляху ад брамы да ракі, то павярнуў у бок гораду, да якога заставалася меней за вярсту. Крыху запаволіў рух, шукаючы новых праціўнікаў, і ягоныя рыцары сабраліся вакол яго, Дэрнхельм таксама. Наперадзе, бліжэй да муроў, Эльфхельмавы ваяры скакалі паміж абложнымі машынамі, секучы, забіваючы, заганяючы ворагаў у вогненныя равы. Ужо амаль усю паўночную палову Пеленару занялі рахірымы, і лягеры аблогі запалалі, і оркі ўцякалі да ракі, бы дзічына перад паляўнічымі, а рахірымы мкнулі й забівалі, і аніхто ня мог устояць на іхнім шляху. Аднак аблогу яны яшчэ не абвергі й да брамы не прабіліся. Бо шмат ворагаў тоўпілася перад брамаю, і на ўсходняй частцы палёў трывала варожае войска. На поўдні, за шляхам, засталіся галоўныя сілы харадрымаў, іхнія вершнікі зьбіраліся пад сьцяг правадыра. А ён, пабачыўшы ў зыркім сьвятле харугву караля, уцяміў, што яна далёка ад асноўных сілаў і ў ёй няшмат ваяроў. Тады ён напоўніўся крывавай лютасьцю і, узьняўшы свой сьцяг – чорную зьмяю на пунсовым полі – рушыў зь вялікім натоўпам ваяроў на харугву белага каня, і бляск крывых паўднёвых шабляў зіхцеў незьлічонымі зоркамі.

І Тэядэн пабачыў тое, і ня стаў чакаць навалы, а выгукнуў каню й памчаў наперад, насустрач. Жудасна стрэліся яны. І ўсё-ткі белы баявы імпэт людзей Поўначы палаў зырчэй, рыцарскае майстэрства іхняе было вышэйшым, а доўгія дзіды – сьмяротнейшымі. Меней іх было, але яны працялі шыхт паўднёўцаў, як маланка лес. Проста скрозь натоўп пранёсься Тэядэн, сын Тэнгела, і дзіда ягоная зламалася ў целе правадыра харадрымаў. Тады вылецеў з похваў ягоны меч, і кароль кінуўся да сьцяга, і сьсек трымальна разам зь сьцяганосцам, і долу скінуў чорнага зьмея.

Тады ўсе вершнікі харадрымаў, хто яшчэ застаўся жывы, павярнуліся й кінуліся наўцёкі.

Але што гэта?! Зьнянацку, сярод перамогі й славы, заценілася залатая каралёва тарча. І новую раніцу закрыла ноч. Цемра легла на Тэядэна. Заржалі коні, уздыбіліся. Людзі падалі зь сёдлаў і курчыліся на зямлі.

– Да мяне! Да мяне! – заклікаў Тэядэн. – Паўстаньце, эёрлінгі! Ня бойцеся цемры!

Але Сьнежнагрыў, зьдзічэлы ад жаху, высока ўздыбіўся, малоцячы капытамі паветра, а тады з пранізьлівым іржаньнем паваліўся набок – бо чорны дроцік працяў яго. Кароль апынуўся пад ім.

Вялізны цень зьляцеў хмарай. І – пабачце! – тое была крылатая пачвара, калі й птушка, то большая за любую іншую, галаскурая, без аніводнага пёрка, зь неабсяжнымі крыламі – скураю, нацягнутаю паміж костак, і істота сьмярдзела. Напэўна, у старажытнасьці жылі падобныя да яе, і недзе ў забытых халодных гарах хаваўся яе выміралы род, зажыўшыся далёка за часы сваёй кравіны, і ў жудасным гняздовішчы напладзіўся апошні пачварны выседак, схільны да ліха. Чорны Ўладар знайшоў яго й накарміў злом ды падлаю, і нашчадкі выміралай пароды вырасьлі

большымі за любых іншых, здольных лётаць, і тады Чорны Ўладар даў іх сваім найвярнейшым паслугачам. Долу абрынулася крыважэрная пачвара і, склаўшы скураныя касьцістыя крылы, хрыпата каркнула, усьсеўшыся на цела Сьнежнагрыва, учапіўшыся ў яго кіпцюрамі, нахіліўшы доўгую голую шыю.

На пачвары сядзела постаць у чорным плашчы, велізарная, пагрозьлівая. Каранаваная сталёвым вянцом, яна нічога ня мела паміж ягоным краем і плашчом – анічога, апрача сьмяротнага бляску вачэй. Прыбыў ачольца назгулаў. Ён узьляцеў у паветра, паклікаўшы крылатую пачвару, калі парушылася цемра, і вось зьявіўся знову, несучы згубу, абарочваючы надзею ў адчай, перамогу – у сьмерць. Вялізны чорны буздыган трымаў ён.

Але ж ня ўсе пакінулі Тэядэна. Рыцары ягонай аховы ляжалі навокал памерлыя альбо, ня справіўшыся з шаленствам коней, былі зьнесеныя прэч. Адзіны застаўся – юнак Дэрнхельм, чыя вернасьць перамагла страх, і ён плакаў, бо любіў свайго караля як бацьку. Праз атаку й бітву пранёс яго конь, і хобіта Мэры таксама, і лёс зьбярог іх. А калі зьявіўся цень, конь Віндфала ў вусьцішы скінуў іх долу й зараз шалёна скакаў па роўнядзі. Мэры ж поўз на карачках, бы аглушаны зьвер, апанаваны такім жахам, што нічога ня бачыў і ня чуў.

"Рыцар караля! Рыцар караля! – паўтараў сабе, ледзь ня плачучы. – Ты ж мусіш стаць побач зь ім! Ты ж казаў: вашамосьць стане для мяне як бацька!"

Але ж ягоная воля не адгукалася й цела дрыжэла. Ён не адважваўся ані зірнуць угору, ані нат расплюшчыць вачэй. А тады зь цемры, што завалакла ягоны розум, даляцеў голас: нібыта Дэрнхельмаў і адначасна дзіўны, ён нагадаў нейкі іншы, што калісьці хобіт ведаў і чуў.

– Прэч, трупная здань, гаспадар падлы! Пакінь памерлых у спакоі!

А іншы, халодны й люты, адказаў:

– Не станавіся паміж назгулам і ягонай здабычаю! Бо тады ён ня проста заб'е цябе. Ён панясе цябе да сядзібаў ляманту, у цемру, у апраметную прорву, дзе тваё цела зжаруць, а дрыготкі розум пакінуць голым перад Нядрэмным Вокам.

Зазьвінеў меч, вылятаючы з похваў.

– Паспрабуй, калі пераможаш!

– Перамагчы? Дурны! Ніякі сьмяротны муж не пераможа мяне!

А тады Мэры пачуў найдзівосьнейшы з гукаў за тую гадзіну.

Бо Дэрнхельм засьмяяўся, і ясны ягоны сьмех зьвінеў стальлю.

– Але ж я не мужчына! Перад табою жанчына! Я Эявін, дачка Эямунда. І стаў ты паміж мною й маёй радзінай, маім гаспадаром. Калі ты не бесьсьмяротны, ідзі прэч! Бо жывы ты ці прывід, я зьнішчу цябе, калі ты кранеш яго!

Крылатая здань завішчэла, але прывід пярсьцёнка не адказаў, ён сядзеў моўчкі, адолены раптоўным сумневам. І зьдзіўленьне на момант перамагло хобітаў страх. Ён расплюшчыў вочы, і зь іх зьнікла чарнота. За колькі крокаў ад яго сядзела чорная пачвара, ахінутая змрокам, а над ёю ценем адчаю высіўся ачольца назгулаў. Крыху зьлева стаяў той, каго Мэры клікаў Дэрнхельмам. Зараз шалом, які захоўваў таямніцу, зьляцеў з Эявін, і ейныя валасы, вызваленыя, блішчэлі цёплым золатам на плячох. Суворасьць і гнеў зьзялі ў ейных вачох, шэрых, як мора, і ўсё ж на шчоках блішчэлі сьлёзы. Яна сьціскала ў руцэ меч і закрывалася тарчаю ад жахлівага позірку прывіда.

Яна была Эявін, і Дэрнхельм таксама. Перад вачыма Мэры зноў паўстаў твар, які ён бачыў, пакідаючы Дунхэрэ, – твар таго, хто рушыць насустрач сьмерці, пазбаўлены ўсялякай надзеі. Ягонае сэрца напоўнілася шкадаваньнем і вялікім зьдзіўленьнем, і раптам абудзілася ў ім павольная адвага ягонага племені. Ён сьціснуў

кулакі. Яна не павінна памерці, такая сьветлая, такая адчайная. Прынамсі, яна не павінна памерці адна, без усялякай дапамогі.

Твар ворага быў адвернуты ад Мэры, але хобіт ад жаху ледзь мог рухацца, баючыся, што ў любы момант вусьцішныя вочы прывіда заўважаць яго. Павольна, павольна падпаўзаў ён, а чорны ачольца ў сумневе й лютасьці ўзіраўся ў жанчыну перад ім, зьвяртаючы на хобіта ня болей увагі, чым на чарвяка ў гразі.

Зьнянацку пачвара ўзмахнула жудаснымі крыламі, і самое паветра ад іх напоўнілася смуродам. Ізноў узьнялася яна ўгару, а тады абрынулася на Эявін, зь віскатам разявіўшы пашчу, выставіўшы кіпцюры.

Аднак Эявін не напалохалася – панна рахірымаў, дзіця каралёў, гонкая, бы сталёвае лязо, сьветлая, але страшная ў гневе. Хутка ўпаў яе ўдар, майстэрскі й сьмяротны. Яна расьсекла выцягнутую шыю, і галава пачвары каменем рухнула долу. Эявін адскочыла, калі бразнуўся чорны пачварань, раскінуўшы крылы, убурыўшыся ў зямлю, і зьягоным падзеньнем цень адступіў. Сьвятло легла на Эявін, і ейныя валасы зазьзялі ў промнях сьвітанку.

Ад чорнай страшыдлы падняўся былы ўладар Ангмару, высокі й пагрозьлівы, узвысіўся над дзяўчынай. І зь лямантам нянавісьці, які атрутным джалам праціяў наўсьцяж розум, абрынуў буздыган. Тарча каралеўны разьляцелася мноствам ашчэпкаў, і абвісла зламаная рука, і дзяўчына пахіснулася й упала на калені. А назгул навіс над ёю чорнай хмараю, і ягоныя вочы заблішчэлі. Ён зноўку падняў буздыган – каб забіць.

Аднак і сам раптам хіснуўся наперад, завішчэў ад жорсткага болю, і ўдар ягоны ўпаў міма, на пустую зямлю. Бо хобітаў корд, парваўшы ззаду чорны плашч, прайшоўшы пад бранёю, расьсек сухажыльлі пад магутным каленам караля-прывіда.

– Эявін! Эявін! – загаласіў Мэры.

Дрыжучы, хістаючыся, яна паднялася й з апошняю сілаю працяла лязом пустэчу паміж каронаю й шырачэзнымі плячыма, што нахіліліся над ёю. І ейны меч рассыпаўся на безьліч бліскучых кавалачкаў. Карона з бразгатам пакацілася долу. А Эявін упала наперад, на абвержанага ворага. Але ж – і ў чорным плашчы, і ў брані не было анічога. Бясформавыя ляжалі яны на зямлі, падраныя й скамечаныя, і вусьцішны енк разьдзёр паветра й заглох, сьцішыўся да вісклівага ныцьця, і вецер зьнёс яго, раструшчыў бесьцялесны тонкі голас і паглынуў, і голас зьнік, загінуў, і аніколі болей ня чулі яго ў тую эпоху ў гэтым сьвеце.

Хобіт Мэрыядок стаяў сярод забітых, міргаючы, нібы соўка пад дзённым сьвятлом, бо сьлёзы асьляпілі яго, і як праз смугу пазіраў ён на залатыя валасы Эявін, якая ляжала нерухомая, і на твар караля, зрынутага ў час ягонай славы. Сьнежнагрыў, паміраючы, у агоніі адкаціўся ад гаспадара, аднак пасьпеў загубіць яго.

Мэры нахіліўся, падняў руку караля, каб пацалаваць яе, і – зірніце! – Тэядэн расплюшчыў вочы, і яны паглядзелі ясна. Кароль спакойна, хоць і зь цяжкасьцю, вымавіў:

– Бывай, спадару паўросьліку! Цела маё зьнявечанае. Я сыходжу прэч, да бацькоў. Цяпер нават побач зь іх моцай і веліччу мне ня будзе сорамна за сябе. Бо я зьнішчыў чорнага зьмея. Змрочнаю была мая раніца, але радасным – дзень і залатым – надвячорак!

Мэры анічога ня здолеў сказаць, толькі зноў заплакаў.

– Прабачце мне, вашамосьць, – выгаварыў нарэшце, – я парушыў загад, і толькі дзеля таго, каб заплакаць падчас нашага апошняга разьвітаньня.

Стары кароль усьміхнуўся.

– Не тужы пра тое! Я дарую табе. Мужнасьці й вернасьці нельга адмовіць. Няхай добрым будзе тваё жыцьцё; калі сядзеш у супакоі з сваёю люлькаю, узгадай на мяне! Бо я не змагу цяпер пасадзіць цябе поруч у Мэдусэльдзе, як абяцаў, і паслухаць твой расповед пра зёлкі.

Кароль заплюшчыў вочы, і Мэры схіліў галаву перад ім. Але ж Тэядэн прамовіў ізноў:

– Дзе Эямэр? У вачох маіх цямнее, я ня ўбачу яго адтуль, куды йду. Ён мусіць караляваць пасьля мяне. І я хачу, каб мае словы перадалі Эявін. Бо яна не хацела, каб я пакідаў яе, і вось я не пабачу яе зноў, а яна даражэйшая мне за дачку.

– Спадару, мой каролю, вашамосьць, – пачаў Мэры пакутліва й няшчасьліва, – яна ж...

У гэты момант гоман абарваў ягоныя словы, шум і ляскат, паўсюль навокал загулі горны й рогі. Мэры азірнуўся. Ён зусім быў забыўся на бітву, дый увогуле на навакольны сьвет, яму падавалася – шмат гадзінаў мінула ад каралеўскай гібельнай перамогі, хоць насамрэч – толькі жменя хвілінаў. А зараз пабачыў: вось-вось патрапяць у самы асяродак вялікай бойкі.

Бо новыя варожыя сілы сьпяшаліся па шляху ад ракі, з-пад муроў вярталіся легіёны Моргулу, з поўдня рушылі пешыя харадрымы, і вершнікі скакалі перад імі, за шэрагамі ўздымаліся вялізманыя сьпіны мумакаў з баявымі вежамі наверсе. А з поўначы Эямэр вёў дужы шыхт рахірымаў, ізноўку сабраўшы іх ды ачоліўшы, і з гораду выйшлі ўсе абаронцы з срэбным лебедзем Дол Амрату, адціскаючы ворагаў ад брамы.

Думка прамільгнула ў Мэры: "Дзе ж Гэндальф? Чаму ня тут? Ці ж ён ня выратаваў бы караля й Эявін?" – а тут да яго ўжо наблізіліся Эямэр з каралеўскімі ахоўнікамі, якія выжылі й утаймавалі ашалелых коней. Дзівячыся, пазіралі роханцы на труп лютай пачвары, і коні не набліжаліся да яе. А Эямэр саскочыў зь сядла, падбег да Тэядэна – і адчайны смутак апанаваў яго, і ён стаў моўчкі.

Тады адзін з рыцараў узяў каралеўскую харугву з рук памерлага сьцяганосца Гутлафа й узьняў яе. Павольна расплюшчыліся вочы Тэядэна. Пабачыўшы харугву, кароль паказаў, каб яе аддалі Эямэру.

– Вітаю цябе, кароль Украйны! – вымавіў Тэядэн. – Імчы ж да перамогі! Разьвітайся за мяне з Эявін.

І ён памёр, ня ведаючы, што Эявін ляжыць побач зь ім. А тыя, хто стаяў навокал, заплакалі, паўтараючы:

– Кароль наш Тэядэн! Кароль наш Тэядэн!

Эямэр жа сказаў ім:

*Стрымайце свой смутак! Магутны загінуў у славе,*
*годны сустрэўшы кон. Над курганом магільным*
*жанчыны потым адплачуць. Зараз нас кліча бітва!*

Але ж сам плакаў, прамаўляючы.

– Няхай ахоўнікі застаюцца тут, – загадаў ён, – ды з пашанаю аднясуць ягонае цела з поля, каб бойка жывых не прыйшла да памерлага. І зь ім аднясіце ўсіх ягоных ваяроў, што ляжаць побач.

Ён зірнуў на забітых, згадваючы іхнія імёны. І раптам заўважыў сястру Эявін, і пазнаў яе. Замёр на момант, нібы працяты ў хвіліну лямантy ў сэрца, і тады сьмяротна

пабялеў, халодны гнеў затапіў яго, ваяр нават страціў дар мовы. Адчайнае шаленства апанавала яго.

– Эявін, Эявін! – выгукнуў ён нарэшце. – Эявін, як патрапіла ты сюды? Што за вар'яцтва ці вядзьмарства? Сьмерць, сьмерць, сьмерць нам усім!

Тады, не параіўшыся ані з кім, не чакаючы, пакуль наблізіцца гарадзкая харугва, памчаў да свайго вялікага войска, і задзьмуў у рог, і выгукнуў заклік да атакі. Над полем паляцеў ягоны звонкі голас:

– Сьмерць, сьмерць! Скачыце на сечу, на згубу, да кону сьвету!

І войска рушыла. І рахірымы не сьпявалі болей. "Сьмерць!" – выгукнулі яны адзінагалосна й жудасна, і паскараючыся неадольным прылівам прамчаліся міма загінулага караля на поўдзень.

А хобіт Мэрыядок усё стаяў, і міргаў, і плакаў, і аніхто не загаварыў зь ім, дый не заўважыў увогуле. Ён выцер сьлёзы й нахіліўся, каб падняць зялёную тарчу, што дала яму Эявін, закінуў яе за сьпіну. Тады зірнуў, шукаючы корд, які выпусьціў пасьля ўдару, – бо яшчэ падчас удару рука ягоная анямела, і толькі леваю ён мог карыстацца, – і вось ляжыць ягоны корд, і лязо дыміцца, быццам сухая галінка на вогнішчы, і ўпрост на вачох сталь курчыцца, сьціскаецца й урэшце ўся зьнікае.

Гэтак загінуў меч з Скляпеньняў, праца майстроў Захаду. Але ж лёсам ягоным задаволіўся б той, хто каваў яго павольна ў мінуўшчыне, у Паўночным каралеўстве, калі галоўнымі ворагамі маладога народу дунаданаў былі дзяржава Ангмар і ейны кароль-вядзьмар. Аніякі іншы клінок, хоць бы мацнейшая рука валодала ім, не нанёс бы гэткаму ворагу горшай раны, расьсекшы несьмяротнае цела, разбурыўшы заклён, што злучаў нябачныя сухажыльлі прывіда зь ягонаю воляй.

Людзі паднялі караля і, разаслаўшы плашчы на тронках дзідаў, зрабілі драгі, каб перанесьці яго да гораду, іншыя ж асьцярожна паднялі Эявін і панесьлі ўвасьлед за каралём. Ваяроў жа каралеўскай аховы, палацовых, яшчэ не прыбралі з поля, бо там загінулі сямёра каралеўскіх рыцараў, і сярод іх ляжаў галоўны, Дэорвін. Іх проста паклалі воддаль ад ворагаў і мярзотнага вычварня дый абкружылі дзідамі. Пасьля, калі ўсё скончылася, вярнуліся, расклалі вогнішча й спалілі труп пачвары, а Сьнежнагрыву выкапалі магілу й паставілі над ёю камень з надпісам на мовах Гондару й Украйны:

*Верным слугой быў, а пана згубіў,*
*сын Легканога, скакун Сьнежнагрыў.*

Зялёная й доўгая трава расла на Кургане Сьнежнагрыва, але заўжды чорнаю й голаю заставалася зямля, дзе спалілі пачвару.

Павольна й сумна крочыў Мэры поруч з тымі, хто нёс загінулых, і болей не зьвяртаў увагі на бітву. Надта стаміўся, яму балела, і члонкі дрыжэлі, нібы ад холаду. З мора прынесла вялікую зьліву, і падавалася: усё ў сусьвеце плача па Тэядэну й Эявін, згасіўшы пажары ў горадзе шэрымі сьлязьмі. Як скрозь туман, хобіт пабачыў першы гуф гондарскага войска. Ваяры наблізіліся, і Імрахіль, князь Дол Амрату, выехаў наперад і спыніў каня.

– Што за ноша ў вас, людзі Рохану? – выклікнуў ён.

– Кароль Тэядэн – нашая ноша, – адказалі яны. – Ён памёр. Але зараз кароль Эямэр вядзе нас на бітву, ягоны белы прапар на шаломе плынее па ветры.

Тады князь сышоў з каня й укленчыў перад драгамі, каб ушанаваць караля, ягоную адвагу й майстэрства ў бітве, і заплакаў. А падняўшыся, зірнуў на Эявін і зьдзівіўся.

– Мае вочы ня маняць мне? Жанчыну я бачу? Нават і панны рахірымаў прыйшлі на дапамогу нам у час нашай бяды?

– Не, толькі яна, – адказалі яму. – Панна Эявін, сястра Эямэра, і мы ня ведалі дагэтуль пра тое, што яна з намі, і цяжка тужым.

Тады, бачачы хараство яе твару, хоць халоднага й зьбялелага, князь нахіліўся ніжэй і крануў руку каралеўны. І выгукнуў.

– Людзі Рохану? Ці ж няма сярод вас лекараў? Яна параненая, магчыма, сьмяротна, аднак – яшчэ жывая.

І паднёс сьлігтаваны зыркі налакотнік да ейных вуснаў – і заўважце! – ледзь прыкметна паверхня засмужылася вільгацьцю.

– Спяшайцеся ж, – вырашыў князь і паслаў вершніка да гораду, каб прывесьці дапамогу. А сам нізка пакланіўся Тэядэну з Эявін, разьвітаўся зь імі і, сеўшы зноў на каня, рушыў на бітву.

Жорсткая бітва распалілася на палёх Пеленару, аглушальна бразгатала зброя, галасілі людзі, іржалі коні. Вылі рогі, і заклікалі горны, і шалёна трубілі мумакі, якіх гналі біцца. Пад паўднёвымі мурамі гораду пешыя гондарцы цясьнілі легіёны Моргулу, што яшчэ заставаліся там і трымалі шыхт. А вершнікі рушылі дапамагаць Эямэру: Хурын Высокі, Ахоўнік Ключоў, і зь ім спадар Ласарнаху, і Хірлуйн зь Зялёных далінаў, і сьветлы князь Імрахіль з сваімі рыцарамі.

І дарэчы прыйшлася дапамога рахірымам, бо ўдача адвярнулася ад Эямэра і гнеў ягоны здрадзіў яму. Лютасьць ягонага нападу адкінула варожы шыхт, вялікія кліны рахірымаў прасеклі шэрагі паўночнікаў, разагнаўшы іх коньніцу, стаптаўшы й пасекшы пешых. Але да мумакаў коні набліжацца не хацелі, адсоўваліся, кідаліся прэч, і аніхто ня стрымліваў зьвяроў-веліканаў, падобных да абаронных вежаў, і за імі зноў зьбіраліся харадрымы. І нават калі на пачатку харадрымаў было ўтрая болей за людзей Рохану, цяпер ворагаў яшчэ пабольшала, бо новыя сілы падыходзілі на поле з Азгіліяту. Там чакалі яны, каб рабаваць горад ды гвалціць Гондар, чакалі закліку чорнага ачольцы. Той згінуў, але Готмаг, гетман Моргулу, загадаў ім рушыць на сечу – усходнікам зь сякерамі, варагам Ханду, паўночнікам у пунсовым адзеньні й чарналюдам з дальняга Хараду, падобным да паўтролей, зь белымі вачыма й барвовымі языкамі. Некаторыя зь іх абкружылі роханцаў, астатнія рушылі на захад, каб напасьці на войска Гондару й ня даць яму злучыцца з рахірымамі.

Падавалася, лёс адвярнуўся ад Гондару й ягоных сяброў, і надзея зноў пахіснулася. Вялікі гоман пайшоў па горадзе позьнім ранкам. Дзьмуў моцны вецер, і зьзяла сонца, бо залеву аднесла на поўнач, і ў ясным паветры вартавыя на мурох пабачылі здалёк новы знак жаху, і апошняя надзея пакінула іх.

Андуйн ад павароту ля Харлянду плынеў колькі міляў так, што ўздоўж яго пільнае вока магло бачыць караблі, якія набліжаліся. І тыя караблі несьлі адчай, бо па бліскучай вадзе вецер нёс чорны флёт: дромунды й вялізныя галеры з мноствам вёслаў, з чорнымі ветразямі, разьдзьмутымі брызам.

– Піраты Ўмбару! – галасілі людзі. – Зірніце, піраты Ўмбару йдуць! Значыць, Бэльфалас ня вытрымаў, і Этыр, і Пажыцьці страчаныя для нас! Карсары ідуць на нас! Гэта апошні ўдар кону!

Некаторыя без загаду, бо аніхто зараз не ачольваў горад, кінуліся да званоў і забілі трывогу, а некаторыя загулі ў трубы, абвяшчаючы адступленьне.

– Назад, да муроў! – гукалі яны. – Назад, пакуль нас ня вынішчылі на полі!

Аднак вецер, што гнаў караблі па рацэ, аднёс гоман прэч.

Ды рахірымам ня трэба было чуць сыгнал. Надта выразна рысаваліся чорныя ветразі. Бо Эямэру ўсяго зь вярсту заставалася да Харлянду, і гэтую вярсту запаўнялі ворагі, якіх вершнікі гналі перад сабою. Новая варожая навала зайшла ззаду, адразаючы роханцаў ад князя Імрахіля. Эямэр зірнуў на раку, і надзея памерла ў ягоным сэрцы, і добраславёны вецер цяпер праклялі. А мордарскія войскі радаваліся, і зноўку поўніліся лютасьцю й прагай бойкі, і кідаліся, галосячы, наперад.

Пахаладнеў тады Эямэраў розум, і сувора зірнуў малады кароль навокал. Загадаў, каб дзьмулі ў рогі, склікаючы вершнікаў пад каралеўскі сьцяг, каб сабраць усіх і сьпешыцца, склаўшы вялікую сьцяну тарчаў, стаяць да апошняга, пакуль усе не загінуць. Загінуць годна, каб сьмерць сталася вартаю песьні – хоць бы й не засталося на захадзе анікога, каб успомніць апошняга караля Ўкрайны. Тады ўзьехаў на зялёны пагорак і там усталяваў свой сьцяг, і Белы Конь Рохану пабег, трапечучы, на ветры.

*З сумневаў і цемры да дзённага сонца*
*Выйшаў я зь песьняй і стальлю зіхоткай*
*І скону надзеі сягнуў, адчаю ды жаху.*
*Чорная згуба наперадзе, захад крывавы!*

Такія радкі склаў ён, але ж засьмяяўся, прамаўляючы, бо зноўку прыйшла радасьць бітвы, і аніводная рана ня пляміла яго, і маладымі былі ягоныя гады. І ён быў кароль, гаспадар лютых і моцных людзей. І сьмеючыся ў адчаі, зірнуў ізноў на чорныя караблі й падняў меч, выклікаючы на бой.

І тады напаткаў зьдзіўленьне й незвычайную радасьць, і падкінуў меч угару, да сонца, і падхапіў яго, зіхоткі, і засьпяваў, зноў прыняўшы яго ў руку. І ўсе вочы зірнулі ўвасьлед за ягоным позіркам, і – пабачце ж! – на пярэднім караблі ўзьняўся вялікі сьцяг, вецер разгарнуў яго, паказаў усім, калі карабель павярнуў да Харлянду. На тым сьцягу квітнела Белае Дрэва Гондару, а на ім зіхацелі Сем Зораў і высокая карона над усім – знакі Элендыля, што ўжо незьлічоныя гады аніводны валадар не ўздымаў над сабою. Зоркі палымнелі пад сонцам, бо каштоўнымі камянямі выклала іх Арвэн, дачка Эльранда, і бляск выпраменьвала карона, зробленая зь міфрылу й золата.

Гэтак прыйшоў Арагорн, сын Араторна, Элесар, спадчыньнік Ісільдара, зь Сьцягі Мёртвых, прынесены ветрам з мора ў каралеўства Гондар, і радасьць рахірымаў заляскала сьмехам, бляскам клінкоў, а весялосьць і зьдзіва гораду адбілася сьпевамі горнаў ды шматгалосьсем званоў. А войскі Мордару агарнуў сумнеў і страх, і вялікім чараўніцтвам падалося ім, што іхнія ўласныя караблі поўныя ворагаў. Чорны жах агарнуў мордарскае ваярства, бо ведалі: лёс павярнуў супроць іх, і страшны кон ужо непадалёк.

На ўсход рушылі рыцары Дол Амрату, гонячы ворагаў перад сабою, паўтроляў, варагаў ды ненавісьнікаў сонца – оркаў. На поўдзень рушыў Эямэр, і ворагі беглі ад ягонага позірку й патраплялі нібы між молатам і кавадлам, бо людзі саскоквалі з караблёў на прычалы Харлянду й мкнулі навалаю на поўнач. Там крочылі Ляголас, і Гімлі зь сякераю, і Хальбарад з харугваю, Эладан і Эльрохір з зорамі на лбах, і дужарукія дунаданы, сьледапыты Поўначы, ведучы за сабою вялікую мужнасьць народу Пажыцьцяў, і Ламэдану, і паўднёвых земляў. А перад усімі ішоў Арагорн з

Полымем Заходу, Андарылем, адроджаным агнём Нарсілем, перакаваным наноў і сьмяротным, як у даўніну, і на Арагорнавым чале зьзяла Зорка Элендыля.

І спаткаліся нарэшце Эямэр з Арагорнам пасярод сечы, і паўсталі, абапершыся на мечы, зірнулі адзін на аднаго, і радасьць перапоўніла іхнія сэрцы.

– Мы сустрэліся зноў, хоць усё мордарскае войска было паміж намі, – вымавіў Арагорн. – Ці ж ня так казаў я ў Горнбургу?

– Так казаў ты, – пацьвердзіў Эямэр, – але часьцяком нам маніць надзея, і я ня ведаў тады, што ты валодаеш дарам прадбачаньня. Але ж двойчы добраславёная нечаканая дапамога, і аніколі не было больш радаснай сустрэчы сяброў.

І яны паціснулі адзін адному рукі.

– Насамрэч, у час патрэбы прыйшоў ты, сябра мой, – вымавіў Эямэр, – бо шмат гора й згубы выпала нам.

– Дык адпомсьцім за іх да таго, як ты распавядзеш! – абвесьціў Арагорн, і яны рушылі на бітву разам.

Цяжка біцца давялося, бо паўднёвікі былі людзі дзёрзкія й рашучыя, лютыя ў адчаі, і ўсходнікі, загартаваныя ў войнах ды моцныя, літасьці не прасілі. Там і тут, ля спаленай сядзібы ці пуні, на пагорку ці кургане, пад мурам ці папросту на полі, зьбіваліся яны ў купы, шыхтаваліся й змагаліся, пакуль ня скончыўся дзень.

Тады зайшло нарэшце сонца за Міндолуйн, заліўшы полымем нябёсы, горы й адгор'і пафарбавала крывёю, полымя адбівалася ў рацэ, і трава Пеленару ляжала барвяная пад промнямі заходу. А гэтай гадзіне скончылася Вялікая бітва на полі Гондару, і аніводнага жывога ворага не засталося між горадам і вонкавым мурам. Забілі ўсіх, апрача тых, што ўцяклі, каб загінуць за сьцяною ці патануць у мклівай чырванапеннай рацэ. Няшмат вярнулася на ўсход, да Моргулу ці Мордару, а да земляў харадрымаў дайшлі толькі расповеды – далёкія чуткі пра гнеў ды адвагу Гондару.

Арагорн, Эямэр ды Імрахіль прыехалі да брамы гораду, вытамленыя па-за радасьцю ці смуткам. Іх ня плямілі раны, бо гэткімі былі іхнія лёсы, збройнае майстэрства ды моц рук, што нямногія ворагі адважваліся паўстаць перад ваярамі ці пабачыць іхнія твары ў часіну гневу. Аднак шмат іншых вояў былі параненыя, скалечаныя ці ляжалі мёртвыя на полі бітвы. Сьпешанага Форланга, які адбіваўся, застаўшыся ў самоце, пасеклі сякерамі, і Дуйліна з Мортанду й ягонага брата затапталі да сьмерці, калі яны вялі лучнікаў ушчыльную да мумакаў, каб пацэліць пачварам у вочы. І сьветламу Хірлуйну ня даў лёс вярнуцца ў Пінат Гэлін, і Грымбальду ў Грымсдал, і мацнарукаму сьледапыту Хальбараду на Поўнач. Нямала загінула, знакамітых і звычайных, ачольцаў і шарагоўцаў, бо вялікаю была тая бітва, і цалкам аніводная песьня не распавядае пра яе. Праз доўгі час пасьля яе роханскі пясьняр склаў песьню пра курганы Мундбургу:

*Чулі мы: горны ў гарах загукалі,*
*мечы зазьзялі ў краіне паўднёвай,*
*па краі каменным панесьліся коні*
*ранішнім ветрам. Вайна запалала.*
*Тэядэн моцны, Тэнгелінг годны,*
*да заляў сваіх залатых не вярнуўся,*
*да Поўначы роднай сваёй не вярнуўся*
*вояў адважных ачольца ўладарны.*

*З Гутлафам Гардынг, Дунхэр з Дэорвінам,*
*Грымбальд, Хэрэфара, Хэрубранд, Фастрэд,*
*Горн – біліся люта дый засталіся*
*пад курганамі ля Мундбургу сьценаў,*
*побач з братамі, Гондару ўладарамі.*
*Ані сьветлы Хірлуйн да пагоркаў ля мора,*
*ані Форланг стары да расквеценых долаў,*
*да Арнаху, ня вернуцца з перамогай.*
*Шляхетнародныя Дуйлін з Дэруфінам*
*ня прыйдуцьу Мортанд да цёмных водаў.*
*Сьмерць ад сьвітанку да дзённага скону*
*пабрала ўладных ды шараговых.*
*Доўга ім спаць пад зялёнай травою*
*ў Гондары, па-над Вялікай ракою,*
*срэбнай цяпер, а ў той час пунсовай,*
*шалёнай і пенна-крывавай пад сонцам.*
*Калі вартавыя агні запалалі,*
*леглі на Пеленар крывавыя росы.*

## *7. Пахавальнае вогнішча Дэнэтара*

Калі чорны цень адсунуўся ад брамы, Гэндальф яшчэ сядзеў нерухомы. А Піпін ускочыў, нібы зь ягонага карка зьнялі вялікі цяжар, ён слухаў песьню рагоў, і яму падавалася, што сэрца разрываецца ад радасьці. І аніколі потым, праз доўгія гады, ня мог ён чуць далёкую песьню рагоў бязь сьлёзаў у вачох. Але ж згадка пра тое, навошта зьявіўся сюды, кальнула памяць, і ён пабег да чараўніка. У гэты момант Гэндальф нешта сказаў Ценяру, намерваючыся выехаць за браму.

– Гэндальфе, Гэндальфе! – загаласіў Піпін, і Цяняр спыніўся.

– Ты што тут робіш? – зьдзівіўся Гэндальф. – Ці ж у горадзе няма закону, што любы носьбіт чорнага з срэбрам заставацьмецца ў Цытадэлі, калі толькі гаспадар ня дасьць яму загад пакінуць яе?

– Даў ён загад, – патлумачыў Піпін. – Адаслаў прэч. Але ж і напалохаў. Нешта жудаснае можа адбыцца там. Мяркую, гаспадар зьехаў з глузду. Баюся, ён заб'е сябе й Фараміра таксама. Ці ж ваша ня зробіш чаго?

Гэндальф паглядзеў праз ашчэраную дзірку брамы. З палёў ужо даносіліся гукі бітвы. Чараўнік сьціснуў кулак.

– Мушу ехаць. Чорны Вершнік тут, на полі. Ён яшчэ можа пагубіць усіх нас. У мяне няма часу.

– А як жа Фарамір? – ускрыкнуў Піпін. – Ён жа яшчэ не памёр, а яны жыўцом яго спаляць, калі іх не спыніць!

– Спаляць жыўцом? Пра што ты? Распавядзі, ды хутчэй!

– Дэнэтар пайшоў да магільняў ды ўзяў Фараміра з сабою. Кажа, усе згарым, дык ён чакаць ня будзе, зладзіць пахавальнае вогнішча й спаліць сябе з Фарамірам. І пакаёўцаў паслаў па дровы й алей. Я сказаў Бэрэганду, але ж, баюся, ён не наважыцца пакінуць пост, бо ён на варце. Дый што ён зробіць?

Так Піпін, зьбіваючыся, выдаў свой расповед і дрыготкай рукой датыкнуўся Гэндальфавага калена.

– Вашаць можа ўратаваць Фараміра?

– Магчыма, так. Але калі зраблю гэта, баюся, памруць іншыя. Ну, пайду, раз аніхто іншы не дапаможа. Шмат гора й ліха выйдзе з таго. Нават у сэрцы нашай цьвярдыні Вораг мае сілы параніць нас, бо *ягоная* воля працуе тут.

Вырашыўшы, дзейнічаў хутка. Падхапіў Піпіна й пасадзіў перад сабою, загадаў Ценяру павярнуцца. І яны паскакалі ўверх па зьвілістых вулках Мінас Тырыту, і гоман вайны застаўся за сьпінамі. Паўсюль паўставалі людзі, ачомаўшыся ад адчаю й вусьцішы, хапаліся за зброю й гукалі адзін адному: "Рохан прыйшоў!" Маршалкі склікалі свае разьдзелы, і шмат хто ўжо маршаваў долу, да брамы.

Сустрэлі князя Імрахіля, і той аклікнуў іх:

– Куды спадар, Мітрандыр? Рахірымы б'юцца на палёх Гондару! Мусім сабраць усе сілы, якія ў нас ёсьць!

– Табе спатрэбіцца кожны чалавек, і нават болей, – адказаў Гэндальф. – Сьпяшайся! Я далучуся да вас, калі здолею. Але ж у мяне неадкладная справа да намесьніка Дэнэтара. Прымай жа ўладу, пакуль няма гаспадара!

Паскакалі далей, і калі наблізіліся да Цытадэлі, адчулі вецер на тварах, і сьвятло распалілася ў паўднёвых нябёсах. Але ж няшмат надзеі дало яно, бо ня ведалі, якое ліха чакае наперадзе, і баяліся спазьніцца.

– Цемра мінае, – заўважыў Гэндальф, – Але яна яшчэ цяжка ляжыць на гэтым горадзе.

Ля брамаў Цытадэлі вартавых не было.

– Бэрэганд пакінуў пост, – да Піпіна вярнуўся спадзеў.

Павярнулі й рушылі далей па шляху да Зачыненых дзьвярэй. Тыя стаялі адамкнёныя, і ключнік ляжаў перад імі, забіты й без ключоў.

– Вось варожая праца! – уздыхнуў Гэндальф. – Гэткае любіць *ён*, каб на сьмерць біліся сябры, каб адна вернасьць, заблытаўшыся, паўставала на другую.

Гэндальф сьпешыўся й загадаў Ценяру вярнуцца ў стойла.

– Сябра мой, – сказаў яму, – мы мусілі даўно выехаць на поле, але ж іншае затрымлівае мяне. Аднак хутка зьявіся на мой заклік!

Прайшлі за дзьверы й пачалі спускацца па стромым пакручастым шляху. Днела. Павольна высьвятляліся высокія калёны й статуі пааберуч, нібы шэрыя прывіды.

Раптам цішыню парушылі выгукі й бразгат клінкоў. Гэткія гукі не чуваліся ў сьвятым месцы з часоў збудаваньня гораду. Нарэшце хобіт з чараўнікам сягнулі Рат Дынену й засьпяшаліся да Скляпеньня Намесьнікаў, якое вялізным купалам лунала наперадзе ў паўзмроку.

– Спынецеся! Спынецеся! – закрычэў Гэндальф, кідаючыся да каменнай лесьвіцы перад дзьвярыма магільні. – Спынеце вар'яцтва!

Бо на лесьвіцы стаялі пакаёўцы Дэнэтара зь мечамі й паходнямі ў руках, а на верхняй прыступцы самотны Бэрэганд, апрануты ў чорнае й срэбнае вартаўніка Цытадэлі, трымаў праход супраць пакаёўцаў. Ужо два зь іх загінулі пад ягоным мечам, запляміўшы сьвятую зямлю крывёю, а астатнія праклінапі яго, мянуючы злачынцам ды здраднікам свайго гаспадара.

Калі Гэндальф зь Піпінам падбягалі, то пачулі зь Сядзібаў Памерлых голас Дэнэтара:

– Хутчэй, хутчэй! Выконвайце мой загад! Забіце ж вылюдка! Ці ж мне самому ўсё рабіць?

Дзьверы, якія трымаў Бэрэганд левай рукой, расчыніліся, і вось перад ім паўстаў гаспадар гораду, высокі й люты. Полымя палала ў ягоных вачох, і ў руцэ ягонай блішчэў меч.

Але Гэндальф скочыў па прыступках, і людзі адсунуліся назад, прыкрываючы вочы, бо ягоны прыход выбухнуў белым сьвятлом сярод цемры, у вялікім гневе зьявіўся ён. Дэнэтар замахнуўся, а Гэндальф падняў далонь, і ў замаху меч Дэнэтараў узьляцеў з рукі й за сьпінай бразнуўся сярод ценяў у магільні, і Дэнэтар адсунуўся на крок перад Гэндальфам, уражаны.

– Што гэта, вашамосьць? – спытаў чараўнік. – Сядзібы Памерлых – ня месца жывым. І чаму людзі б'юцца тут, сярод сьвятога, калі досыць боек перад брамаю? Ці Вораг наш сягнуў нават Рат Дынену?

– Зь якога часу гаспадар Гондару мае адказваць перад табою? – вымавіў Дэнэтар. – Ці няма ў мяне ўлады над маімі слугамі?

– Можа, і ёсьць, – адказаў Гэндальф. – Але ж іншыя могуць аспрэчыць тваю волю й уладу, калі ты кіруеш на ліха й вар'яцтва. Дзе твой сын, дзе Фарамір?

– Ён ляжыць у скляпеньні. Ён гарыць, ужо гарыць. Яны запалілі полымя ў ягоным целе. Неўзабаве ўсё запалае. Захад ня вытрымаў. Яго паглыне вялікае полымя, і ўсё скончыцца. Попел! Застанецца толькі попел і дым на ветры!

Гэндальф, убачыўшы, што вар'яцтва завалодала намесьнікам, і баючыся, што ён учыніў ліхое, памкнуўся наперад з Бэрэгандам і Піпінам поруч, а Дэнэтар адсоўваўся, адступаючы, пакуль не апынуўся побач з каменным сталом. Там ляжаў Фарамір, яшчэ ў ліхаманкавым сьне. Дровы грувасьціліся пад сталом і на ім высачэзным кастром,

аблітым алеем. Нават адзеньне Фараміра й коўдра ягоная змоклі. Але ж полымя да яго паднесьці не пасьпелі. Тады Гэндальф паказаў сілу, схаваную ў ім – як сьвятло ягонае хавалася пад шэраю корзнаю. Узьляцеў на кучу дроваў, лёгка падняў параненага, саскочыў і панёс да дзьвярэй. А Фарамір застагнаў і паклікаў бацьку ўва сьне.

Дэнэтар уздрыгнуў, быццам абуджаны з дрымоты, і полымя згасла ў ягоных вачох, і ён заплакаў, просячы:

– Не адбірайце ў мяне майго сына! Ён кліча мяне!

– Ён кліча, – згадзіўся Гэндальф, – але ж табе нельга набліжацца да яго пакуль. Бо сьмерць блізкая да яго й яму зараз патрэбнае лекаваньне. Магчыма, ён і не пераможа. А твая справа – бітва за твой горад, і магчыма, сьмерць чакае цябе там. Ты ведаеш тое ў сваім сэрцы.

– Мой сын не прачнецца, – запярэчыў Дэнэтар. – Навошта біцца? Нашто цягнуць жыцьцё? Чаму нам ня рушыць у сьмерць поруч?

– Ня дадзеная табе ўлада, намесьнік Гондару, над гадзінай сваёй гібелі, – абвесьціў яму Гэндальф. – Толькі паганскія каралі пад ценем чорнай моцы рабілі так, забіваючы сябе ў адчаі й пысе, забіваючы родных, каб палегчыць сваё разьвітаньне з жыцьцём.

Тады выйшаў за дзьверы з Фарамірам на руках, паклаў на драгі, на якіх прынесьлі воя й якія зараз стаялі на ганку. Дэнэтар крочыў сьледам і паўстаў, трапечучы, узіраючыся ў твар сына. І на момант, калі ўсе замёрлі, гледзячы на намесьніка, той завагаўся.

– Дык хадзем жа! – прапанаваў Гэндальф. – Бітва чакае нас. І ты шмат яшчэ можаш зрабіць для ўсіх.

І тады Дэнэтар засьмяяўся. Выпрастаўся зноў, высокі й ганарлівы, і, адступіўшы хутка да стала, схапіў зь яго падушку, на якую клаў галаву. Падышоў да дзьвярэй, адкінуў покрыва прэч, і – зірніце! – у руках ягоных апынуўся палантыр. Падняў яго, і прысутным падалося, што шар зазьзяў знутры, і худы твар гаспадара асьвятліўся барвовым вогнішчам і нібыта стаў вычасаным зь цьвёрдага каменю, рэзкі ад чорных ценяў, шляхетны, ганарысты й жудасны. Вочы ягоныя заблішчэлі.

– Пыха й адчай! – выгукнуў ён. – Ці лічыш ты, што вочы Белай вежы асьлеплі? Не, я бачыў болей за тваё разуменьне, Сівы Дурань! Бо твая надзея – усяго толькі невуцтва. Ідзі ж, займіся марным ацаленьнем! Ідзі, біся! Марнасьць і пыха, анічога болей! Бо на імгненьне пераможаш ты ці на дзень. Супраць моцы, што паўстала цяпер, няма перамогі! Да гэтага гораду працягнуўся толькі адзін палец яе рукі. І нават зараз вецер надзеі маніць табе й нясе па Андуйне флёт пад чорнымі ветразямі. Захад ня вытрымаў. Цяпер усім, хто ня хоча рабіцца рабамі, час сыходзіць.

– З такімі парадамі Вораг і насамрэч пераможа, – заўважыў Гэндальф.

– Дык чапляйся ж за надзею! – засьмяяўся Дэнэтар. – Ці ж я ня ведаю цябе, Мітрандыр? Ты спадзяесься ўладарыць замест мяне, паўстаць за кожным стальцом Поўначы, Поўдня ці Захаду. Я бачу твае думкі й пляны. Ці ж ня ведаю я, што ты загадаў гэтаму паўрослыку маўчаць? Што прывёў яго, каб мець віжа наўпрост у маіх пакоях? Але ж з вашых словаў я выведаў імёны й намеры ўсіх вашых спадарожнікаў. І што ж? Левай рукою ты трымаеш мяне, абараняючыся, бы тарчаю, ад пагрозы з Мордару, а праваю цягнеш Сьледапыта з Поўначы, каб замяніць мяне. Аднак я скажу табе, Гэндальф Мітрандыр: тваім пакорлівым дурнем я ня буду! Я – намесьнік з роду Анарыёна. Я ня зьменшуся да пакаёвага хлапчука. Нават калі ягонае права мне дакажуць, усяго толькі й ёсьць у яго, што кроў Ісільдара. Я не пакланюся апошняму ў згалелым родзе, даўно пазбаўленым улады й пашаны.

– І чым жа ты быў бы, калі б на тое твая воля?

– Я захаваў бы ўсё, як у часіны майго жыцьця, – адказаў Дэнэтар, – і ў дні далёкіх продкаў да мяне: гаспадарыць у супакоі над горадам і пакінуць пасаду сыну, які сам валадарыў бы над сваім розумам, а ня быў вучнем чараўнікоў. Але калі лёс не дае таго, дык мне анічога ня трэба: ані рэштак жыцьця, ані спалавіненай пашаны, ані падманнага гонару.

– Што да мяне, дык намесьнік, які верна аддае сваю ўладу таму, каму яна справядліва належыць, ня траціць ані пашаны, ані гонару. Ва ўсялякім выпадку, не табе адбіраць у свайго сына выбар паміж жыцьцём і сьмерцю, пакуль сьмерці ён яшчэ пазьбегнуў.

Пры гэтых словах Дэнэтаравы вочы палыхнулі зноў і, падхапіўшы палантыр пад паху, ён выцягнуў нож ды крочыў да насілак. Але Бэрэганд скочыў наперад і захіліў сабою Фараміра.

– Вось як! – выгукнуў Дэнэтар. – Ты ўжо скраў палову любові майго сына да мяне. Цяпер жа ты крадзеш сэрцы маіх рыцараў, і яны забяруць і рэшткі сынавай любові ад мяне. Аднак усё-ткі ты не пазбавіш мяне маёй уласнай волі: памерці так, як я жадаю! Сюды! – паклікаў ён пакаёўцаў. – Сюды, калі ня ўсе вы трусы!

Двое падбеглі па прыступках да яго. Імгненна Дэнэтар выхапіў паходню ў аднаго з рукі й кінуўся ў магільню. Не пасьпеў Гэндальф спыніць яго, як ён сунуў паходню ў дровы, і тыя адразу ж заняліся, затрашчалі й выбухнулі полымем.

Тады Дэнэтар скочыў на стол; агорнуты агнём і дымам, ён падняў жазло намесьніцтва, што ляжала ля ягоных ног, дый зламаў аб калена. Шпурнуўшы кавалкі ў вогнішча, нахіліўся й лёг на стол, прыціснуўшы палантыр абедзьвюма рукамі да грудзей. І казалі заўжды потым, што калі чалавек пазіраў у той камень, то, як ня меў ён надзвычайнай моцы волі, каб прымусіць пака заць патрэбнае, дык бачыў толькі дзьве старыя, абвугленыя ў полымі рукі.

У смутку й вусьцішы адвярнуўся Гэндальф дый зачыніў дзьверы. І стаяў пэўны час у задуменьні на парозе, маўклівы, і ўсе, што стаялі вонкі, чулі прагны роў полымя ў магільні. А тады Дэнэтар залямантаваў жудасна, і пасьля ўжо ня выгукнуў анічога, і аніколі болей ня бачылі яго сьмяротныя людзі.

– Гэтак сышоў Дэнэтар, сын Эктэльёна, – вымавіў Гэндальф, а тады павярнуўся да Бэрэганда й пакаёўцаў, што стаялі здранцьвелыя. – Гэтак сыходзяць таксама дні Гондару, які вы ведалі.

На зло ці на дабро, яны скончыліся. Ліхія справы адбыліся тут, але ж зараз адсуньце прэч варожасьць паміж вамі. Тое толькі справа Ворага, зьдзейсьненая *ягонаю* воляй. Вы патрапілі ў сеціва супярэчных вернасьцяў, якое ня самі сплялі. Аднак памяркуйце, слугі пана намесьніка, сьляпыя ў пакорлівасьці: калі б ня здрада Бэрэганда, то Фарамір, гетман Белай вежы, цяпер таксама згарэў бы. Дык аднясіце ж прэч з гэтага няшчаснага месца загінулых таварышаў. А мы аднясем Фараміра, намесьніка Гондару, туды, дзе ён адпачне ў супакоі – ці сканае, калі такі ягоны лёс.

Тады Гэндальф з Бэрэгандам паднялі драгі й панесьлі іх да Сядзібаў Ацаленьня, сьледам клыпаў Піпін з пахіленаю галавою. А намесьнікавы служкі стаялі, пазіраючы, бы зьмярцьвелыя, на зачыненую магільню. Калі Гэндальф крочыў па-за Рат Дынен, пачуліся вялікія грымоты. Азірнуліся: купал магільні расьсеўся й дым валіў зь яго, а тады з грукатам ды ляскатам каменьня купал праваліўся ў вогнішча, а тое, ня зьменшалае, заскакала й затанчыла сярод руінаў. Толькі тады ў жаху пабеглі хлапцы прэч, за Гэндальфам.

Нарэшце ўсе сягнулі зачыненых дзьвярэй, і Бэрэганд глянуў у тузе на ключніка.

– Я заўжды буду смуткаваць па гэтым, – вымавіў ён, – але ж вар'яцтва пасьпешлівасьці агарнула мяне, а ён не хацеў анічога слухаць і агаліў меч супраць мяне.

Узяўшы ключ, адняты ў забітага, ён зачыніў дзьверы й замкнуў іх.

– Ключ мусіць быць у гаспадара Фараміра, – давёў Бэрэганд.

– Князь Дол Амрату цяпер ачольвае абарону гораду, – паведаміў Гэндальф, – але ж ён ня тут, і таму я бяру гэтую адказнасьць на сябе. Калі ласка, вазьмі гэты ключ і захоўвай, пакуль горад ізноў не ўладкуецца па-ранейшаму.

Прайшлі верхнія ярусы й у ранішнім сьвятле сягнулі Сядзібаў Ацаленьня. Былі тое файныя пакоі, адмыслова прызначаныя для тых, хто цяжка хварэў, зараз жа падрыхтаваныя для лекаваньня параненых і блізкіх да сьмерці. Яны разьмяшчаліся непадалёк ад брамы Цытадэлі, на шостым ярусе, блізка да паўднёвага муру, вакол іх рос сад і разьвінаўся зялёны лужок – адзінае такое месца ў горадзе. Тут завіхалася колькі жанчынаў, якім дазволілі застацца ў Мінас Тырыце дзякуючы лекарскаму майстэрству ці дасьведчанасьці ў дапамозе лекарам.

Калі Гэндальф з паплечнікамі адносілі драгі да галоўнага ўваходу ў Сядзібы, яны пачулі аглушальны лямант, што падняўся з поля перад брамаю і, станчэўшы да пранізьлівасьці, распусьціўся ў нябёсах ды заглух на ветры. Гэткай вусьцішшу поўніўся той лямант, што на момант усе замёрлі. Аднак калі ён мінуў, сэрцы раптоўна запоўніліся такой надзеяй, якой ня ведалі з часоў, як цемра прыйшла з усходу, і падалося, што дзённае сьвятло зазьзяла зырчэй і сонца прабілася між аблокаў.

Гэндальфаў жа твар заставаўся суворым ды сумным; папрасіўшы Бэрэганда зь Піпінам аднесьці Фараміра ў Сядзібы, ён крочыў да найбліжэйшага краю сьцяны й там, бы вычасаная зь белага каменю статуя, паўстаў пад маладым сонцам, вызіраючы вонкі. І дзякуючы ягонаму майстэрству адкрылася перад ягонымі вачыма ўсё зьдзейсьненае, і калі Эямэр выехаў наперад і стаў перад тымі, што загінулі на полі бітвы, Гэндальф уздыхнуў і зноў насунуў плашч дый адышоў ад сьцяны. Бэрэганд зь Піпінам, калі выйшлі, знайшлі яго перад дзьвярыма Сядзібаў у роздуме.

Ён колькі памаўчаў. Вымавіў нарэшце:

– Сябры мае, і людзі гораду, і ўсе насельнікі заходніх земляў! Адбыліся падзеі вялікай славы й смутку! Плакаць нам ці ўзрадавацца? Па-за ўсялякай надзеяй ачольца нашых ворагаў зьнішчаны, і мы чулі рэха ягонага апошняга адчаю. Але ж ён сышоў, шмат гора й згубы ўчыніўшы нам. Я мог бы прадухіліць іх, каб не Дэнэтарава вар'яцтва. Якой жа доўгаю зрабілася рука Ворага! На жаль, бачу я цяпер, якім чынам воля *ягоная* прабралася ў самае сэрца гораду. Хоць намесьнікі лічылі, што толькі ім вядомая тая таямніца, я даўно здагадаўся: у Белай вежы захоўваецца сама менш адзін зь сямі даляглядных камянёў. У дні сваёй мудрасьці Дэнэтар не адважваўся глядзець у яго, аспрэчваючы волю Саўрона, бо ведаў межы ўласнай моцы. Але ён перажыў сваю мудрасьць, і, баюся, калі бясьпека каралеўства пагоршала, зазірнуў у камень і быў падмануты – і часьцяком, мяркую, глядзеў туды з часу Бараміравага сыходу. У яго хапіла моцы, каб ня стаць падгалоскам Цёмнай вежы, але ж ён бачыў толькі тое, што яму дазвалялі бачыць. Атрыманыя веды, безумоўна, часта дапамагалі яму, аднак выява неабсяжнай мордарскай моцы напоўніла ягонае сэрца адчаем і ўрэшце адолела сьвядомасьць.

– Зараз разумею, што падалося такім дзіўным для мяне! – Піпін уздрыгнуў ад успаміну. – Спадар намесьнік сышоў з пакою, дзе ляжаў Фарамір, а калі вярнуўся, я ўпершыню падумаў: як зьмяніўся ён, састарэў і зусім згрыбеў!

– У тую самую гадзіну, калі прынесьлі Фараміра да вежы, шмат хто з нас бачыў дзівоснае сьвятло ў найвышэйшым пакоі вежы, – паведаміў Бэрэганд. – Аднак мы й раней бачылі тое сьвятло, і даўно ўжо хадзілі па горадзе чуткі, што гаспадар наш часам змагаецца ў думках з Ворагам.

– На жаль, мая здагадка слушная, – уздыхнуў Гэндальф. – Гэтак уступіла воля Саўрона ў Мінас Тырыт, і гэтак яна затрымала мяне. Ізноў прымушаны я заставацца тут, бо іншы клопат неўзабаве напаткае мяне, апрача Фараміра. Зараз я павінен спусьціцца, каб сустрэць тых, хто прыйдзе. Я бачыў тое, што цяжка засмуціла маё сэрца, – а яшчэ горшае можа адбыцца. Хадзі з мною, Піпіне! Ты ж, Бэрэганд, вярніся ў Цытадэль дый распавядзі ачольцу аховы, што напаткала нас. Баюся, ягоны абавязак – пазбавіць цябе права заставацца ў ахове, аднак скажы яму: калі ён паслухаецца маёй парады, няхай адашле цябе ў Сядзібы Ацаленьня, каб ахоўваць свайго гетмана ды прыслужваць яму й быць побач, калі ён абудзіцца – калі таму наканавана адбыцца. Бо ты ўратаваў яго ад полымя. Ідзі ж! Я неўзабаве вярнуся.

Павярнуўся й пайшоў разам зь Піпінам долу, на ніжнія ярусы. І калі яны туды сьпяшаліся, вецер прынёс шэры дождж, і ўсе агні згасьлі, і перад імі падняўся вялізны дыміска.

*8. Сядзібы Ацаленьня*

Ад сьлёзаў ды стомы нібы туман плынеў перад вачыма Мэры, калі ён наблізіўся да зруйнаванай брамы Мінас Тырыту. Ён не зьвяртаў увагі ані на ламачча навокал, ані на груды забітых. Дымная гар і смурод віселі ў паветры, бо шмат абложных машынаў спалілі альбо саштурхнулі ў вогненныя равы, і мноства памерлых таксама, а там і тут валяліся паўспаленыя тушы забітых паўднёвых пачвараў, забітых кідком каменя з муроў ці застрэленых у вочы адважнымі лучнікамі Мортанду. Касы дождж прыпыніўся, і сонца праблiснула наверсе, але ўсе ніжнія ярусы гораду яшчэ агортвала смуродная смуга.

Людзі ўжо працавалі, каб расчысьціць шлях празь сьмецьце бітвы, і вось з брамы выйшлі ваяры з драгамі. Асьцярожна паклалі Эявін на мяккія падушкі, а цела караля накрылі шырокаю залатою коўдраю й паднялі паходні над ягонай галавою, і полымя іх, бляднае пад сонцам, трапятала на ветры.

Гэтак прыбылі Тэядэн з Эявін у горад Гондару, і ўсе, хто бачыў іх, агалялі галовы й кланяліся, і так пранесьлі іх праз попел і дым выпаленага ярусу, і панесьлі ўгару па брукаваных вуліцах. Мэры пад'ём падаваўся бясконцым, бессэнсоўнаю вандроўкаю ў ненавісным сьне, які доўжыўся й доўжыўся да нейкага цьмянага сканчэньня, якое ня ўкладвалася ў розум.

Паціху сьвятло паходняў перад ім заміргала й згасла, і далей ён крочыў у цемры, думаючы: "Гэта тунэль да магільні, і там застанемся назаўсёды".

Але раптам у ягонае трызьненьне ўварваўся жывы голас.

– У, Мэры, якое шчасьце, я адшукаў цябе!

Зірнуў угару, і зрок крыху праясьнеў. Гэна ж Піпін! Сутыкнуліся нос да носа ў вузкім завулку, і апрача іх нікога навокал. Мэры пацёр вочы.

– Дзе кароль? – спытаў ён. – І Эявін?

Тады знову пахіснуўся, сеў на ганку й заплакаў.

– Яны ўжо ў Цытадэлі, – паведаміў Піпін. – Мяркую, ты летуценіш і збочыў ня ў той завулак. Калі мы высьветлілі, што ты ня зь імі, Гэндальф паслаў мяне на пошукі. Небарака Мэры! Як я рады зноўку цябе бачыць! Але ты вытаміўся ўшчэнт, і я цябе болей не патурбую прамовамі. Толькі скажы мне: ты паранены?

– Не. Ну, здаецца, не. Толькі, Піпіне, правая рука ня слухаецца з таго часу, як я пырнуў яго. І мой меч увесь згарэў, бы сухая галінка.

– Лепей хадзі за мной так хуценька, як здолееш, – параіў Піпін заклапочана й трывожна. – Хацеў бы я панесьці цябе, бо наўрад ці ты здольны ісьці далей. Табе ўвогуле ня варта рухацца самому, але даруй ім. Столькі жахлівага адбылося ў горадзе, што лёгка не заўважыць небараку хобіта, які вярнуўся зь бітвы.

– Гэта не заўсёды блага, калі цябе не заўважаюць, – вымавіў Мэры. – Мяне якраз не заўважыў... не, не, я не магу казаць пра тое. Дапамажы мне, Піпіне! Ізноў усё цямнее, і рука халаднее!

– Абапрыся на мяне, Мэры, хлопча мой! Рушма зараз. Павольна, крок за крокам. Тут недалёка.

– Ты пахаваеш мяне?

– Не, ну чаго ж ты? – Піпін намагаўся, каб словы гучалі весела, але сэрца ягонае сьціснулі туга й шкадаваньне. – Не, мы рушым да Сядзібаў Ацаленьня.

Яны выйшлі з завулку, што вёў паміж высокімі будынкамі й вонкавым мурам чацьвертага ярусу, ды вярнуліся на галоўную вуліцу, што праставала да Цытадэлі. Перасоўваліся крок за крокам, а Мэры хістаўся й мармытаў, бы ў летуценьні.

"Так ніколі не дабярэмся, – думаў Піпін. – Ці ж мне ніхто не дапаможа? Я не магу яго тут пакінуць!"

Якраз тады, на зьдзіўленьне, пабачыў хлапчука, які бег ззаду, і пазнаў у ім Бэргіля, Бэрэгандавага сына.

– Вітаю, Бэргіле! – паклікаўён. – Куды сьпяшаесься? Я рады бачыць цябе зноў, і жывога да таго ж!

– Я бягу па даручэньні ацаляльнікаў, – адказаў той, – затрымлівацца не магу.

– Дык і не затрымлівайся! Скажы толькі ім, што ў мяне хворы хобіт, *пэрыян* паваскаму, проста з поля бітвы. Калі Мітрандыр там, дык ён узрадуецца зьвестцы.

Бэргіль пабег далей.

– Я лепей тут пачакаю, – вырашыў Піпін.

Таму дазволіў Мэры асьцярожна апусьціцца на брукаванку, якраз на месца, дзе прыгравала сонейка, дый сеў побач, паклаўшы ягоную галаву сабе на калені. Асьцярожна абмацаў ягонае цела й рукі, узяў сябравы далоні ў свае. Правая на дотык падавалася лядзянаю.

Неўзабаве іх знайшоў сам Гэндальф. Нахіліўся над Мэры, ціхенька крануў ягоны лоб, а тады асьцярожна падняў на рукі.

– Яго мусілі ўнесьці ў гэты горад з пашанай, – сказаў чараўнік. – Ён файна спраўдзіў мой давер, бо калі б Эльранд не паддаўся на мае просьбы, аніводны з вас ня выправіўся б з намі, і тады горшае ліха напаткала б нас сёньня, – ён уздыхнуў. – І ўсё ж – яшчэ адзін клопат на маіх руках, пакуль бітва вагаецца й вынік яе няясны.

Так нарэшце Фараміра, Эявін і Мэрыядока паклалі ў ложкі Сядзібаў Ацаленьня, дзе за хворымі добра даглядалі. Бо хоць апошнімі гадамі досьвед ва ўсялякіх галінах змарнеў у параўнаньні з днямі даўніны, яшчэ моцным заставалася лекарскае майстэрства Гондару, выкшталцоным што да ацаленьня ранаў і хваробаў сьмяротных у землях на ўсход ад Вялікага мора. Толькі старасьць не маглі гаіць яны. Ад яе не знайшлося лекаў, і цяпер іхнія жыцьці доўжыліся не нашмат болей за жыцьці іншых народаў, і мала заставалася тых, хто захоўваў бадзёрасьць ды маладую сілу, сягнуўшы шостага дзясятку гадоў, – хіба толькі нашчадкі родаў з чыстаю крывёю. Аднак зараз майстэрства лекараў не дапамагала, бо многіх уразіла неацаляльная хвароба, называная "чорным подыхам", якая паходзіла ад назгулаў. Захварэлыя на яе засыналі, і сон іхні ўсё паглыбляўся, пакуль не рабіўся маўклівым лёдава-халодным здранцьвеньнем і ўрэшце – сьмерцю. І бачылі лекары, што на паўросьліка ды на панну Рохану цяжка легла тая хвароба. Яшчэ раніцаю яны крыху размаўлялі, шапталі ў забыцьці, іназіральнікі прыслухоўваліся, спадзеючыся вызнаць што-кольвек, што дапамагло б у разуменьні іхніх пашкоджаньняў ды ранаў. Але неўзабаве хворыя паглыбіліся ў цемру, і калі сонца схілілася да захаду, шэры цень напоўз на іхнія твары. А Фарамір палаў ліхаманкаю, і яна не адступала.

Гэндальф, заклапочаны, хадзіў з кута ў кут, і лекары распавядалі яму, што чулі. Гэтак і мінуў дзень, пакуль вялікая бітва за мурамі вагалася, прыносячы дзівосныя зьвесткі, то аднаўляючы, то хаваючы надзею, а Гэндальф усё чакаў ды назіраў, і ня йшоў анікуды, пакуль барвяны заход не заліў нябёсы й сьвятло з вокнаў ня ўмыла шэрыя твары хворых. Тады тым, хто стаяў побач, падалося: твары паружавелі, нібы жыцьцё вярталася да іх, аднак тое было толькі кпінай з надзеі.

Тады старая кабета, Ярэт, найстарэйшая з жанчынаў, што слугавалі ў Сядзібах, заплакала, глянуўшы на твар Фараміра, бо ўсе людзі любілі яго.

– Як шкада, калі ён памрэ! – выгукнула яна. – Калі б толькі былі каралі ў Гондары, як у даўнія часы! Бо гаворыцца ж у старых ведах: "*Рукі караля – ацаленьне*". І з таго пазнаюць сапраўднага караля.

– Доўга будуць узгадваць твае словы, Ярэт, – зазначыў Гэндальф, які стаяў побач. – Бо ў іх надзея. Магчыма, і сапраўды кароль вярнуўся ў Гондар, ці ж ня чула ты дзівосныя весткі, што даносяцца да гораду?

– Я была надзвычай, надзвычай занятая, каб услухоўвацца ва ўсе гэтыя погукі й выклічы, – адказала яна. – Спадзяюся толькі, што забойцы не ўварвуцца ў гэтыя муры, не патурбуюць параненых.

Тады Гэндальф засьпяшаўся вонкі. Полымя ў нябёсах ужо дагарала, запаленыя барваю горы пабляклі, і попельна-шэрае сутоньне напаўзло на палі.

Калі сонца зайшло, князь Імрахіль ды Эямэр Роханскі прысунуліся бліжэй да гораду з сваімі людзьмі, а Арагорн, падыходзячы да брамы, вымавіў:

– Зірніце, як сядае сонца ў вялікім пажарышчы! Гэта азнака канца й падзеньня многіх рэчаў, азнака зьмены руху сьвету. Але ж горадам і каралеўствам цягам многіх гадоў кіравала рука намесьнікаў. Калі я ўвайду незапрошаным, узьнікнуць сумневы й спрэчкі, якіх ня мусіць быць да сканчэньня вайны. Я не ўступлю ў горад і не абвяшчу пра сябе, пакуль альбо нашыя войскі, альбо мордарскія не пераможуць. Мае намёты паставяць на полі, дзе я чакацьму запрашэньня ад гаспадара гораду.

– Ужо ўзьняў ты харугву каралёў ды пазнакі Элендылевага роду. Няўжо сьцерпіш ты, калі хто засумняецца ў тваім праве? – запярэчыў Эямэр.

– Не, – адказаў Арагорн. – Але мяркую – час яшчэ не надышоў, я не жадаю варагаваць ні з кім, апрача Чорнага Ўладара й ягоных паслугачоў.

– Калі выслухаеце родзіча Дэнэтара, вашамосьць, дык я скажу: гэта мудрыя словы, – заўважыў князь Імрахіль. – Бо Дэнэтар моцны воляю ды ганарысты, і стары. Настрой ягоны дзіўны з таго часу, як бяда напаткала ягонага сына. Аднак я не хацеў бы, каб вашамосьць застаўся, як валацуга, пад дзьвярыма.

– Не валацуга, – паправіў Арагорн. – Скажам так: ачольца сьледапытаў, нязвыклых да гарадоў і каменных гмахаў.

І загадаў, каб сьцяг скруцілі, і зьняў Зорку Паўночнага каралеўства, аддаўшы яе на захаваньне сынам Эльранда.

І тады князь Імрахіль ды Эямэр Роханскі пакінулі яго й увайшлі ў горад праз натоўпы людзей, праехалі верхам да Цытадэлі й крочылі ў залю Вежы, шукаючы намесьніка. Але знайшлі ягоны сталец пустым, а побач на ўрачыстым ложы ляжаў кароль Украйны Тэядэн. Дванаццаць паходняў палала над ім, і стаялі дванаццаць рыцараў – гондарцаў і роханцаў. Зялёным і белым быў засланы той ложак, а самога караля да грудзей укрывала залатая коўдра, на ёй спачываў аголены меч, а ў нагах – тарча. Сьвятло паходняў блішчэла ў белых валасах караля, што сонца ў вадзе вадаграю, а твар выглядаў прыгожым і маладым, хіба ляжала на ім спакойная мудрасьць, якую даюць толькі гады, і падавалася – толькі сьпіць ён.

А калі воі моўчкі пастаялі ля караля, Імрахіль спытаў:

– Дзе ж намесьнік? І дзе Мітрандыр?

– Намесьнік Гондару ў Сядзібах Ацаленьня, – адказаў адзін з вартавых.

– А дзе ж панна Эявін, мая сястра? – нахмурыўся Эямэр. – Бо ёй належыць ляжаць побач з каралём, і ня зь меншаю пашанаю? Куды ж паклалі яе?

– Панна Эявін была яшчэ жывая, калі яе прынесьлі сюды, – адказаў князь. – Ці ж вашамосьць таго ня ведаў?

Нечаканая радасьць раптоўна напоўніла Эямэрава сэрца, а зь ёю аднавіліся клопат і непакой, таму ён не сказаў анічога болей, але ж павярнуўся й пабег з залі, а князь рушыў за ім. Калі выйшлі, змрок ужо апусьціўся й нябёсы зіхцелі зорамі. Перад дзьвярыма Сядзібаў Ацаленьня напаткалі Гэндальфа зь некім, загорнутым у шэры плашч. Павіталіся й спыталі:

– Шукаем намесьніка, а, людзі кажуць, ён за гэтымі сьценамі. Ці ж ён паранены? І дзе ж панна Эявін, што зь ёю?

– Яна ляжыць у Сядзібах, і яна жывая, – адказаў Гэндальф, – хоць недалёка ад сьмерці. А спадар Фарамір паранены ліхою стралою, як вы чулі. Цяпер ён – намесьнік. Бо Дэнэтар сышоў назаўжды, і дамавіна ягоная – прысак.

Смуткам і зьдзіўленьнем напоўніў іх Гэндальфаў расповед, і Імрахіль вымавіў:

– Гэтак нашая перамога страціла радасьць. Дорага абышлася яна нам, калі й Гондар, і Рохан адзіным днём пазбаўленыя сваіх гаспадароў. Эямэр цяпер ачольвае рахірымаў. Хто ж тады кіруе горадам? Ці не паслаць нам па ягамосьць Арагорна?

І загорнуты ў плашч крочыў наперад і сказаў:

– Ён тут.

І пабачылі, калі чалавек стаў у сьвятло ліхтароў ля дзьвярэй, што гэта Арагорн у шэрым лорыйнскім плашчы паверх кальчужнай брані, без аніякіх адзнак сану, акрамя зялёнага каменя Галадрыелі.

– Я прыйшоў, бо Гэндальф папрасіў мяне, – паведаміў ён. – Але пакуль што я толькі ачольца дунаданаў Арнару. І князь Дол Амрату кіруе горадам, пакуль абудзіцца спадар Фарамір. Але ж я раю: няхай Гэндальф ачольвае ўсіх нас і кіруе намі ў вайне супраць Ворага.

Усе пагадзіліся.

– Дык не стаяцьмем жа ля дзьвярэй, бо часу бракуе, – абвесьціў Гэндальф. – Хадзем! Бо толькі ў Арагорну надзея тых, хто ляжыць за гэтымі сьценамі. Так казала Ярэт, гондарская знахарка: "*Рукі караля – ацаленьне. І з таго пазнаюць сапраўднага караля*".

І Арагорн крочыў за парог першы, астатнія за ім. За дзьвярыма стаялі два вартаўнікі ў адзеньні Цытадэлі: адзін высокі, а другі ростам з хлапчука. Калі той пабачыў гасьцей, то загукаў ад радасьці й подзіву.

– Швэндал! Дзівосы якія! Ведаеш, а я здагадаўся, што гэта ты на чорных караблях! А яны ўсе галасілі: "Піраты!" – і мяне зусім ня слухалі. Як табе гэта ўдалося?

Арагорн засьмяяўся й пацiснуў хобітаву руку.

– Насамрэч, добрая стрэча! Аднак яшчэ не настаў час для вандроўных расповедаў.

А Імрахіль кінуў Эямэру:

– Ці так мы зьвяртацьмемся да нашых каралёў? Спадзяюся, ён прыме карону пад іншым імем!

Арагорн жа, пачуўшы, павярнуўся й сказаў:

– Слушна тое, бо на вышняй мове даўніны я – Элесар, Эльфаў Камень, і Энвіньятар, Аднаўляльнік, – і падняў з грудзей зялёны камень. – Аднак *Швэндал* стане імем майго роду, калі мне выпадзе заснаваць каралеўскі род. На вышняй мове яно гучыць зусім няблага. Я буду звацца Тэльконтар, і ўсе мае нашчадкі таксама.

І калі падыходзілі да пакояў, дзе ляжалі параненыя, Гэндальф распавёў пра зьдзяйсьненьні Эявін з Мэрыядокам.

– Бо, – патлумачыў ён, – я доўга заставаўся побач зь імі, і напачатку яны шмат размаўлялі ў сьне, да таго, як сон завёў іх у сьмяротную цемру. Таксама мне дадзена шмат чаго бачыць здалёк.

Арагорн падышоў спачатку да Фараміра, тады да панны Эявін і апошнім да Мэры. Пабачыўшы твары параненых і раны, уздыхнуў.

– Спатрэбіцца ўся сіла й майстэрства. Эльранд тут справіўся б лепей за мяне, бо ён найстарэйшы з нашага племені й моц ягоная найвялікшая.

А Эямэр, бачачы, што Арагорн вытамлены й засмучаны тугою, прапанаваў:

– Мо вашамосьць адпачне крыху й падмацуецца?

Арагорн жа адказаў:

– Не, для гэтых дваіх, і перш за ўсё для Фараміра, часу ўжо амаль не засталося. Трэба ратаваць яго як мага хутчэй.

Тады паклікаў Ярэт ды спытаў у яе:

– Ці захоўваюцца ў Сядзібах лекавыя зёлкі?

– Так, пане мой, – адказала яна, – але ж недастаткова, мяркую, для ўсіх, каму яны спатрэбяцца. Ня думаю, што цяпер болей адшукаем, бо ўсё ня так гэтымі жудаснымі днямі, з агнішчамі й пажарышчамі; хлапчукоў, якіх я паслала б, не хапае, дый шляхі ўсе перакрытыя. Ужо й лік страцілі дням, калі прыносілі апошні раз з Ласарнаху нешта на рынак! Але ж мы намагаемся, робім што можам з тым, што ў нас ёсьць, як вашамосьць, напэўна ж, ведае.

– Тое я ацаню, калі пабачу, – заўважыў Арагорн. – Адной рэчы тут відавочна не стае – часу для доўгіх расповедаў. Ці ёсьць у вас ацэлас?

– Ня ведаю, пане, мне незнаёмая гэткая зёлка, пад такім назовам прынамсі. Я пайду майстра-зёльніка папытаю, ён усе старыя найменьні ведае.

– Яе клічуць таксама каралевіцаю, – патлумачыў Арагорн. – Магчыма, ты ведаеш гэтае іменьне, бо так тутэйшы люд зваў яе апошнімі днямі.

– А, каралевіца, – выгукнула Ярэт. – Ну, дык калі б вашамосьць так і сказаў адразу, я пазнала б. Не, няма яе ў нас, пэўне. Аніколі ня чула, што зь яе нейкая лекавая карысьць; што праўда, часьцяком паўтарала я сёстрам, калі страчалі тую зёлку ў лесе, што дзівоснае тое мяно, каралевіца, і дзіўна, чаму яе так назвалі, бо калі б я была каралевай, дык мела б у садочку прыгажэйшыя расьліны. Аднак, калі яе пацерушыць, прыемна пахне, праўда? Прыемна, мо й не зусім адпаведна, мо лепей сказаць "жыцьцятворна".

– Жыцьцятворна, слушна, – пацьвердзіў Арагорн. – А зараз, пані, калі нешта значыць для цябе жыцьцё гаспадара Фараміра, то бяжы хутчэй за свой язык ды адшукай мне каралевіцу, колькі засталося каліва ў горадзе.

– А калі не засталося, – дадаў Гэндальф, – тады я паеду ў Ласарнах зь Ярэт за сьпінаю, каб яна завяла мяне ў лес, толькі не да сваіх сёстраў. Цяняр пакажа ёй, што значыць сьпяшацца.

Калі Ярэт сышла, Арагорн папрасіў астатніх кабетаў сагрэць вады. Тады ўзяў Фараміраву руку ў сваю й паклаў другую далонь на ўзапрэлы лоб гетмана. Але Фарамір не варухнуўся, падавалася, ён ледзь дыхаў.

– Амаль вычарпалася ягонае жыцьцё, – Арагорн павярнуўся да Гэндальфа. – Але хвароба ягоная не ад раны. Пабач – яна гоіцца. Калі б назгульскі дроцік працяў яго, ён памёр бы той самай ноччу. Гэтая рана ад стралы паўднёвікаў, так я мяркую. Хто выцягнуў яе? Дзе яе трымаюць?

– Я выцягнуў яе, – абвесьціў Імрахіль, – ды закрыў рану. А стралы не захаваў, бо шмат было справаў. Узгадваю: звычайны дроцік, якім карыстаюцца паўднёвікі. Аднак я палічыў, што ён прыляцеў згары, бо як інача патлумачыць ліхаманку й хваробу? Рана ягоная няйстотная й неглыбокая. Што ж вашамосьць бачыць тут?

– Завялікая стома, туга й сум праз бацьку, рана і, да ўсяго, чорны подых, – памеркаваў Арагорн. – Моцная ягоная воля, бо ён ужо трапляў блізка да Ценю да таго, як выехаў на бітву за вонкавыя муры. Павольна цемра напаўзала на яго, пакуль ён змагаўся, утрымліваючы сьцены. Каб толькі я патрапіў сюды раней!

Тут прыйшоў майстра зёлак.

– Вашая шаноўная мосьць пыталіся пра каралевіцу, як называе яе просты люд, – вымавіў ён урачыста, – ці *ацэлас* на шляхетнай мове, а для тых, хто ведае, што на валінорскай...

– Я ведаю, як на валінорскай, – перабіў Арагорн, – і мне няма розьніцы, называецца яна *асёэ араньён* ці *каралевіца*, а цікава толькі, ці ёсьць яна тут.

– Прашу выбачыць, яснавяльможны пане! – падзівіўся майстра. – Бачу, вашаць добра абазнаны, ня як просты ваярскі ачольца. На жаль, гэтай зёлкі мы не трымаем у Сядзібах, бо тут выходжваюць толькі цяжка параненых ці хворых. А ў каралевіцы няма аніякіх лекавых уласьцівасьцяў, пра якія было б вядома, хіба толькі засалодзіць водарам бруднае паветра ці ўзбадзёрыць зьлёгку. Хоць, мажліва, вашці вядомы старажытны вершык, які жанчыны, падобныя да добрай старой Ярэт, яшчэ паўтараюць, не разумеючы словаў:

*Ад подыху чорнага млоснага,*
*ад ценю сьмяротнага злоснага,*
*калі не стае сьвятла –*
*пара яму надышла!*
*У каралеўскіх руках*
*верне жыцьцё ды прагоніць страх!*

– Бязглузьдзіца, вядома, і, напэўна, яшчэ й пераблытаная ў памяці старых бабаў. Сэнс таго я пакідаю на меркаваньне вашці, калі той сэнс ёсьць. Але нашыя старыя карыстаюцца тым узварам, калі галава забаліць, дзеля палёгкі.

– Тады ў імя караля ідзі й знайдзі якога старога зь меншай вучонасьцю й большымі глуздамі, у каго была б у хаце тая трава! – выгукнуў Гэндальф.

Арагорн укленчыў каля Фараміра, паклаў даланю яму на лоб. Назіральнікі адчулі: адбываецца вялікая барацьба, бо твар Арагорнаў пашарэў ад стомы. Раз-пораз ён выклікаў імя Фараміра, але ўсё слабей чулася яно, быццам сам Арагорн недзе далёка крочыў па цёмным доле, гукаючы заблукалага ў цемры.

Нарэшце прыбег Бэргіль і прынёс шэсьць лістоў у анучцы.

– Вось, пане, каралевіца, але ж ня сьвежая, баюся. Напэўна, яе сарвалі тыдні два таму сама менш. Спадзяюся, пане, яна дапаможа?

Тады, зірнуўшы на Фараміра, раптам заліўся сьлязьмі.

– Дапаможа, – усьміхнуўся яму Арагорн. – Суцесься – горшае ўжо мінула!

Узяў два лісты, паклаў на далоні й дыхнуў на іх, а тады скамечыў – і адразу жывая сьвежасьць запоўніла пакой, быццам самое паветра ажыло й заяскравілася асалодаю. Потым паклаў лісты ў місы з гарачаю вадою – і адразу на сэрцах пасьвятлела. Бо водар крануў усіх згадкай пра росны золак пад чыстым сонцам у далёкім краі – той золак, які толькі здаля нагадвае сьветлыя веснавыя раніцы нашага сьвету. А Арагорн выпрастаўся, узбадзёраны, і позірк ягоны пацяплеў, калі ён паднёс місу да соннага Фараміравага твару.

– Ну, і хто паверыў бы! – шапнула Ярэт кабеце побач. – Зёлка ж значна лепшая, чым я думала. Нагадала мне ружы Імлат Мэлуі, калі я была зусім дзяўчынка, і нават кароль не падараваў бы мне лепшых успамінаў!

Зьнянацку Фарамір варухнуўся, расплюшчыў вочы й зірнуў на Арагорна, які нахіліўся над ім. Сьвятло пазнаваньня й любові запалілася ў ягоных вачох, і ён вымавіў ціха:

– Спадару мой, вашамосьць клікаў мяне? Я прыйшоў. Што загадае мне кароль?

– Выходзь зь ценю, абудзіся! – загадаў Арагорн. – Ты стаміўся. Адпачні, паеш, а тады будзь гатовы, калі я вярнуся!

– Так, мой гаспадару, – адгукнуўся Фарамір, – бо хто ляжацьме бяз справы, калі кароль вярнуўся?

– Бывай пакуль што, я мушу йсьці да астатніх, якім патрэбны.

І Арагорн пакінуў пакой разам з Гэндальфам і Імрахілем, а

Бэрэганд з сынам застаўся, ня стрымліваючы радасьці. Ідучы сьледам за Гэндальфам і зачыняючы дзьверы, Піпін чуў, як Ярэт выгукнула:

– Кароль, аёй! Ці чулі? А я што казала? Рукі ацаляльніка, вось

так!

І паляцела чутка зь Сядзібаў, што кароль насамрэч прыйшоў у Гондар, пасьля перамогі прынёсшы і ацаленьне, і тое разьнеслася па горадзе.

Падышоўшы да Эявін, Арагорн вымавіў:

– Жудасная рана, цяжкое зьнявечча. Паламаную руку склалі ўмела, і яна загоіцца цягам часу, калі застанецца ў яе гаспадыні воля да жыцьця. Пашкоджаная рука, што трымала тарчу, але ж ліха прыйшло цераз руку, што трымала меч. Хоць яна й цэлая звонку, у ёй амаль не засталося жыцьця. На гора сабе, паўстала спадарычня супраць магутнага ворага, далёка па-за сіламі яе розуму й цела. Тыя ж, хто падыме зброю на такую здань, мусяць быць дужэйшымі ад сталі, каб адзіны жах сутыкненьня ня вынішчыў іх. Ліхі кон прызначыў ёй паўстаць на шляху ведзьмара. Найпрыгажэйшая зь дзяўчатаў, найсьвятлейшая паненка з роду каралёў. Усё ж, ня ведаю пакуль, як казаць мне пра яе. Калі ўпершыню зірнуў я на яе, то заўважыў смутак і тугу, падалося: бачу ганарлівую белую кветку, шляхетную й гонкую, больш зграбную за лілею, – і я ведаў, што тая кветка суворая й моцная, нібы выкаваная эльфавымі кавалямі з сталі. Ці, магчыма, мароз ператварыў пяшчотны парастак у лёд, і так паўстала яна ў храстве й горычы, найпрыгажэйшая, але ўжо ў прадчуваньні кону, падзеньня й гібелі? Далёка ня ўчора пачалася яе хвароба, так, Эямэру?

– Дзіўна, што ў мяне пытаесься, спадару, – адказаў той. – Тваёй віны я ня бачу тут, як і дзе яшчэ, але ж ведаю: мароз не кранаў яе, пакуль упершыню не зірнула яна

на цябе. Яна распавядала мне пра тугу й клопат у часы панаваньня Зьмеяротага ды чароўнай каралеўскай немачы, калі сястра даглядала караля, і страх рос у ёй. Але ж ня тое кіравала ёю апошнімі днямі!

– Сябра мой, – вымавіў Гэндальф. – У цябе ёсьць коні на вольным полі, і зброя, і перамогі, а яна, народжаная ў целе дзяўчыны, мае дух й адвагу ня меншыя за твае. Аднак ёй выпала даглядаць старога, якога любіла, як бацьку, і які на яе вачох рабіўся бязглуздым брудным дурнем, у ганьбе й немачы, і доля яе падавалася ёй ня больш ганаровай, чым кульба ў руках старога. Ці ты лічыш, што Зьмеяроты труціў толькі Тэядэнаў слых? "*Бязглузды! Твой род Эёрла – лютая абпітая банда! Жывяце ў брудзе й смуродзе пад саламянымі стрэхамі, а вашыя вырадкі поўзаюць па падлозе разам з сабакамі!*" Ты ж чуў гэтыя словы раней, ці ня так? Саруман казаў іх, настаўнік Зьмеяротага. Не сумняюся: у Мэдусэльдзе Зьмеяроты гэткі самы сэнс укладваў у словы болей выкшталцоныя й злаўмысныя. Спадару мой, калі б не любоў сястры да цябе ды калі б ня воля, што прымушала выконваць абавязак і зачыніла яе вусны, – магчыма, нешта накшталт Саруманавых словаў сарвалася б зь іх. А хто ведае, што прамаўляла яна цемры ў бяссонную, бязрадасную ноч, самотная, калі ўсё яе жыцьцё, падавалася, сьціскалася ў небыць і сьцены пакою шчэрыліся клеткаю вакол яе, жудаснаю пасткаю, каб утаймаваць ды пахаваць дзівоснае вольнае стварэньне?

Эямэр не сказаў анічога й зірнуў на сястру задумліва, нібы згадваючы ўсе прамінулыя дні, пражытыя побач зь ёю.

– Я бачыў таксама й тое, пра што казаў ты, Эямэр, – дадаў Арагорн. – Бо мала якое няшчасьце сярод бедаў гэтага сьвету горшае й журботнейшае для сэрца мужчыны, чым бачыць каханьне панны такой прыгожай і адважнай – і не адказаць на яго. Шкадаваньне й смутак ішлі за мною з таго дня, як пакінуў я яе ў адчаі ў Дунхэрэ й рушыў Сьцягою Мёртвых, і найвялікшым маім страхам на той дарозе быў страх за яе. І ўсё-ткі скажу я, Эямэру, што цябе яна любіць болей за мяне, бо ведае цябе, а ўва мне пакахала толькі цень уласных мрояў, надзеяў на славу, і вялікія подзьвігі, і землі, далёкія ад роханскіх палёў. Верагодна, у мяне стане моцы, каб ацаліць яе цела, выклікаць яе з даліны ценяў. Але ж да чаго абудзіцца яна – да надзеі, забыцьця, адчаю, – я ня ведаю. Калі да адчаю, тады яна загіне, хіба прыйдзе іншае ацаленьне, якога я даць ня здолеў. А шкада, бо паводле дзеяў яе месца сярод найвялікшых каралеўнаў.

Тады Арагорн нахіліўся й зірнуў у яе твар, бялейшы ад лілеі, халаднейшы за шэрань і больш суворы за магільны камень. Пацалаваў у лоб і паклікаў ціха:

– Эявін, дачка Эямунда, абудзіся! Загінуў твой вораг, сышоў прэч!

Яна не прачнулася, але дыханьне яе ўзмацнілася, і яна варухнулася пад белаю прасьцінаю, глыбока ўдыхаючы. І зноў Арагорн скамечыў два лісты ацэласу й укінуў у гарачую ваду, абмыў твар дзяўчыны й прамыў правую руку, што ляжала халодная й зьнежывелая на коўдры.

Ці тое празь нейкае Арагорнава ўменьне людзей Захаду, забытае цяпер, ці тое празь ягоныя словы пра панну Эявін, але ж, калі салодкі водар паплыў па пакоі, усім побач падалося, што пранізьлівы вецер уляцеў праз акно. Сам вецер ня нёс водару, ды быў такі сьвежы, чысты й малады, нібы аніколі раней аніводнае жывое стварэньне не ўдыхала яго, нібы толькі створаны зьявіўся ён ад сьнежных гораў пад купалам зораў ці ад срэбнага берагу, недзе далёка абмытага пенным морам.

– Абудзіся, Эявін, панна Рохану! – паклікаў Арагорн зноў, узяўшы яе руку ў сваю й адчуваючы, што яна пацяплела й жыцьцё вяртаецца да яе. – Абудзіся! Адляцеў цень, і згінула цемра!

Тады паклаў яе далонь у Эямэраву й крочыў прэч. Папрасіў:

– Пакліч яе! – дый сышоў ціхутка з пакою.

– Эявін, Эявін! – гукаў Эямэр скрозь сьлёзы.

А яна расплюшчыла вочы й вымавіла:

– Эямэр? Якая радасьць! Мне казалі, што ты забіты. Не, тое былі толькі чорныя галасы ў сьне. Колькі ж я спала?

– Нядоўга, сястра мая. Але ж ня думай болей пра тое!

– Я незвычайна стамілася. Трэба крыху адпачыць. Аднак распавядзі мне, што з каралём Украйны? Жаль і гора! Не кажы мне, што й тое я прысьніла, бо ведаю: ня ўсё – сон. Ён прадбачыў сваю гібель, і прадбачаньне спраўдзілася.

– Ён памёр, – адказаў Эямэр, – але ж перад сьмерцю прасіў мяне разьвітацца з Эявін, якая для яго даражэйшая за дачку. Зараз ён ляжыць у вялікай пашане ў Цытадэлі Гондару.

– Горкія зьвесткі. І ўсё ж добрыя па-за ўсялякай надзеяй тых чорных дзён, калі падавалася: у родзе Эёрла засталося шляхетнасьці меней, чым у любой пастуховай халупе. А што ж здарылася з каралеўскім збраяносцам, з паўросьлікам? Эямэр, ты мусіш зрабіць яго рыцарам Украйны, бо ён насамрэч адважны!

– Ён ляжыць непадалёк у гэтых самых Сядзібах, і я неўзабаве пайду да яго, – паведаміў Гэндальф. – А Эямэр застанецца пакуль што тут. Аднак не размаўляйце пра вайну й згубу, пакуль ты не ацалілася. Вялікая радасьць нам усім, што такая мужная спадарычна абудзілася да здароўя й надзеі, абудзілася да жыцьця.

– Да жыцьця? Магчыма, – вымавіла Эявін. – Пакуль знойдзецца яшчэ пустое сядло ад згінулага вершніка, якое я займу, датуль яшчэ ёсьць, што рабіць у гэтым жыцьці. Што ж тычыцца надзеі... я ня ведаю.

Гэндальф зь Піпінам прыйшлі ў пакой Мэры. Арагорн быў ужо там, стаяў побач з ложкам.

– Небарака Мэры! – Піпін кінуўся да ложка, бо яму падалося, што ягоны сябрук выглядае горш, чым раней, і твар ягоны зусім пашарэў, нібы цяжар многіх гадоў тугі лёг на яго, і раптам жахлівая думка ўзьнікла ў Піпіна: Мэры памірае, няйначай.

– Ня бойся, – суцешыў Арагорн. – Я не спазьніўся й ужо клікаў яго назад. Ён надта стомлены зараз і вельмі сумуе, і ён цяжка паранены, як і панна Эявін, бо наважыўся ўзьняць руку на сьмяротнага вычварня. Дух ягоны моцны й жыцьцярадасны, так што ён аправіцца ад ліха. На гора сваё не забудзецца, але яно не азмрочыць ягонага сэрца, толькі дадасьць мудрасьці.

Арагорн паклаў далонь на галаву Мэры і, правёўшы асьцярожна па бурых кудзерах, крануў павекі хобіта й паклікаў па імені. І калі водар ацэласу паплыў па пакоі, нібы пах саду, паўнюткага пчолаў і верасу пад сонцам, Мэры раптоўна прачнуўся й сказаў:

– Я галодны. Колькі часу?

– Гадзіна вячэры ўжо мінула, – паведаміў Піпін, – але, мяркую, знайду для цябе што, калі мне дазволяць.

– Дазволяць, і яшчэ як, – запэўніў Гэндальф. – І ўсё іншае, што пажадае гэты вершнік Рохану, калі толькі жаданае знойдзецца ў Мінас Тырыце. Тут ягонае імя цяпер у вялікай пашане.

– Файна! – адзначыў Мэры. – Тады я хачу спачатку добра павячэраць, а тады ўзяцца за люльку.

Тут ягоны твар азмрочыўся.

– Не, не вазьмуся. Ня думаю, што зноў стану паліць.

– Чаму ж не? – спытаў Піпін.

– А таму, – адказаў Мэры павольна й сумна, – што ён загінуў. Цяпер гэта зноў вярнулася да мяне. Казаў, шкадуе, што так і не паразмаўляў з мною пра зёлкі. Амаль апошняе, што казаў. Я не змагу паліць, ня згадваючы яго й той дзень, калі ён пад'ехаў да Ізенградку й быў такі ветлівы.

– Дык палі тады, думаючы пра яго! – параіў Арагорн. – Бо ён меў добрае сэрца, і быў вялікі кароль, і трымаў клятвы. Хоць нядоўга служыў ты яму, ён застанецца радасным і шляхетным успамінам да скону тваіх дзён.

– Ну, тады добра, – усьміхнуўся Мэры, – калі Швэндал дасьць мне паліва з прыладамі, тады я насамрэч папалю й прыгадаю. Я ў заплечніку прызапасіў Саруманавы найлепшыя зёлкі, але што здарылася з плецаком сярод бітвы, ня ведаю.

– Спадару Мэрыядоку, – вымавіў Арагорн, – калі лічыш, што я прайшоў праз горы й каралеўства Гондар з агнём і мечам толькі дзеля таго, каб прынесьці зельле бесклапотнаму ваяру, які выкінуў свой рыштунак, дык памыляесься. Калі ня знойдзеш свой пакунак, дык пашлі па майстра зёльніка гэтых Сядзібаў. І ён распавядзе табе, што зёлка, якой прагнеш, ня мае аніякай карысьці, а на простай паспалітай мове завецца *заходняй травою*, а на шляхетнай мове – *галенас*, дый паўторыць яе табе на іншых выкшталцоных мовах і, дадаўшы колькі паўзабытых вершыкаў, якіх не разумее, паведаміць з шкадаваньнем, што гэтай зёлкі ў Сядзібах няма, і з тым пакіне цябе разважаць пра гісторыю моваў. І я таксама пакіну. Бо я ў такім ложку, як твой, ня спаў з часоў, калі пакінуў Дунхэрэ, і ня еў ад сьвітанку.

Мэры ўхапіў ягоную руку й пацалаваў.

– Прабач мне, калі ласка, – сказаў яму. – Ідзі адпачывай. Бо з самай той ночы ў Прыгор'і мы – толькі клопат вашці. Але ж такая звычка ў майго племені – казаць пра ўсялякія дробязі ў важныя часіны й нашмат меней выказваць, чым ляжыць на сэрцы. Мы баімся выказаць шмат. І тое крадзе ў нас адпаведныя словы, калі жартаваць не да месца.

– Я добра тое ведаю, бо йначай не адплаціў бы табе той самай манэтай, – адказаў Арагорн. – Няхай жыве Шыр заўжды!

І, пацалаваўшы Мэры, крочыў прэч, і Гэндальф зь ім разам.

Піпін жа застаўся.

– Ну, ці ёсьць хто падобны да яго? – спытаў ён. – За выключэньнем Гэндальфа, вядома. Даражэнькі мой дурню, твой заплечнік ляжыць побач з ложкам, бо ты цягнуў яго на сьпіне, калі я сустрэў цябе. Швэндал увесь час бачыў яго, вядома ж. Дый у любым выпадку, у мяне таксама тое-сёе завалялася. Давай, варушыся! Бо ж гэта Панізовае лісьце! Набі-тка люлькі, а я пакуль папалюю на харчы. А тады расслабімся крышачку. Вох ты, бацюхны, мы, Хваты й Бронь-Бычы, на гэткіх шляхетным вышынях жыць не прызвычаеныя.

– Не, – адгукнуўся Мэры, – я дык дакладна не. Пакуль прынамсі. Аднак усё ж, Піпіне, мы іх пабачылі й навучыліся цаніць. Бо лепей, мяркую, найперш любіць тое, што ты здольны й звыклы любіць. Трэ пачынаць аднекуль, мець недзе карані, а глеба ў Шыры добрая й глыбокая. Адылі ёсьць рэчы глыбейшыя й шляхетнейшыя, і каб не яны, аніякі стары не гадаваў бы свой садок у тым, што ён заве "супакоем", бяз рэчаў гэтых. І няйстотна, ведае ён пра іх ці не. Я дык надта задаволены, што ведаю хоць бы крыху. Аднак нешта найшло на мяне – прамаўляю гэткім чынам. Дзе тыя зёлкі? І дастань маю люльку з хатуля, калі яшчэ цэлая.

Арагорн з Гэндальфам пайшлі да кашталяна Сядзібаў ды параілі яму, каб Фараміра з Эявін пратрымалі яшчэ шмат дзён, лекуючы й даглядаючы з асаблівай увагай.

– Панна Эявін неўзабаве захоча ўстаць ды сысьці, – папярэдзіўАрагорн, – але ёй нельга. Любым чынам затрымай яе, калі здолееш, самае менш на дзесяць дзён.

– Што ж тычыцца Фараміра, – дадаў Гэндальф, – няхай у хуткім часе даведаецца пра сьмерць бацькі. Аднак поўны расповед пра Дэнэтарава вар'яцтва ня варта даводзіць да яго, пакуль ён ня выправіцца цалкам ды ня вернецца да сваіх абавязкаў. Паклапаціся, каб Бэрэганд ды пэрыян, якія прысутнічалі там, пакуль пра тое яму не казалі!

– А што наконт іншага пэрыяна пад маім даглядам, што зь ім рабіць, вашамосьці? – спытаў кашталян.

– Падобна да таго, што ён раніцаю паправіцца дастаткова, каб устаць з ложка, – адказаў Арагорн. – Дазволь яму, калі пажадае. Няхай шпацыруе ў кампаніі ды пад наглядам сяброў.

– Выдатнае племя, гэтыя пэрыяны, – заўважыў кашталян, ківаючы. – Надта дужыя й цягавітыя натураю.

Ля дзьвярэй Сядзібаў шмат народу сабралася, каб пабачыць Арагорна, дый пайшло за ім увасьлед. А калі ён павячэраў, да яго падышлі людзі ды ўзмаліліся, каб ён ацаліў іхнюю кравіну ці сяброў, хто ляжаў, апантаны чорным подыхам. І тады Арагорн паслаў па сыноў Эльранда, і разам яны працавалі да глыбокай ночы. А па горадзе пайшлі чуткі: "Насамрэч вярнуўся кароль!" І назвалі яго "Эльфаў Камень" празь зялёны самацьвет, што ён насіў, і так імя, прадказанае ад нараджэньня, абраў яму ягоны ўласны народ.

А калі ўжо ня мог болей працаваць, ацаляючы, то загарнуўся ў плашч ды перад самым сьвітанкам высьлізнуў з гораду прэч, да свайго намёта, дый паспаў крыху. А раніцаю сьцяг Дол Амрату – белы карабель-лебедзь на блакітным полі – плынеў над Вежаю, а людзі пазіралі ўгару й дзівіліся: мо вяртаньне караля – усяго толькі сон?

## *9. Апошняя рада*

Раніца пасьля бітвы прыйшла сьветлая, зь лёгкімі аблокамі й заходнім ветрам. Ляголас з Гімлі падняліся рана й папрасілі дазволу ісьці ў горад, бо ім не цярпелася пабачыць Мэры зь Піпінам.

– Добра даведацца, што яны жывыя, – сказаў Гімлі, – колькі нам каштавала бегчы за імі праз увесь Рохан! Падумаць толькі, а калі б усё дарма?

Разам эльф з гномам крочылі ў Мінас Тырыт, і жыхары дзівіліся з гэткіх сяброў. Бо Ляголасаў твар быў гожы па-за чалавечым меркаваньнем, эльф чыста й звонка сьпяваў на роднай мове пад сонцам раніцы, а побач тупацеў Гімлі, пагладжваючы бараду й зыркаючы навокал.

– Нядрэнна тут камень апрацоўвалі, бачу, – казаў пра муры, – але ёсьць і халтура, дый вуліцы можна лепей спраектаваць. Калі Арагорн уладкуецца тутака, прапаную яму майстроў з Самотнай гары, мы зробім гэты горад вартым гонару.

– Садоў ім болей трэба, – дадаў Ляголас. – Мёртвыя гмахі, надта мала расьце тут жывога. Дый месца няма, каб расьці вольна. Калі Арагорн уладкуецца, народ лесу прывязе яму птушак, каб сьпявалі, дый дрэвы, што не памруць тут.

Нарэшце яны прыйшлі да князя Імрахіля, і Ляголас нізка пакланіўся перад ім, бо пазнаў эльфаву кроў.

– Вітаю, гаспадару! – так азваўся Ляголас. – Шмат мінула ад дзён, калі народ Німрадэлі пакінуў лясы Лорыйну, і ўсё ж можна пабачыць: ня ўсе адплылі з Амратавай завані на захад, за мора.

– Так гаворыцца ў паданьнях маёй зямлі, – згадзіўся князь, – аднак незьлічоныя гады ня бачылі там сьветлага народу. А я дзіўлюся, спаткаўшы сына сьветлага плямені тут, сярод гора й вайны. Чаго жадае вашамосьць?

– Я – адзін зь дзевяцёх спадарожнікаў што выправіліся разам зь Мітрандырам зь Імладрысу, а з мною гэты гном, мой сябра. Прыйшоў я з спадаром Арагорнам. А зараз мы хочам пабачыць нашых сяброў, Мэрыядока й Перыгрына, што, як нам казалі, цяпер пад апекаю вашамосьці.

– Яны ў Сядзібах Ацаленьня. Я суправаджу спадароў туды, – прапанаваў Імрахіль.

– Дастаткова будзе, пане княжа, паслаць каго з намі, – вымавіў Ляголас. – Бо спадар Арагорн шле вашамосьці такія словы: не жадае ён пакуль уступаць у горад, аднак неабходна сабрацца ўсім ваяводам на раду, і ён просіць, каб вашамосьць ды Эямэр Роханскі як мага хутчэй спусьціліся да ягонага намёта. Мітрандыр ужо там.

– Мы прыйдзем, – паабяцаў Імрахіль, і яны ветла разьвіталіся.

– Сьветлы гаспадар, вялікі правадыр людзей, – заўважыў потым Ляголас. – Калі ў Гондары ў час надвячорку ёсьць такія людзі, дык вялікая ж была слава ягоная й моц у часіну полудня.

– І, без усялякага сумневу, старыя будынкі ўзьведзеныя лепей за новыя, – адзначыў Гімлі. – Гэтак з усімі людзкімі зьдзяйсьненьнямі: мароз па вясьне ці засуха ўлетку – і выдатны пачатак гіне марна.

– Аднак насеньне, што пакідаюць людзі нашчадкам, амаль ніколі ня гіне, – заўважыў Ляголас. – Зруйнаванае, вынішчанае прарастае й зноў паўстае велічна ў нечаканых часінах й месцах. Людзкія зьдзяйсьненьні перажывуць нас, Гімлі.

– А напрыканцы ўсяго, мажліва, амаль нічога й не застанецца ад іхніх дзеяў, апрача адных "магло б быць"...

– Ці так тое будзе, нават эльфы адказу ня маюць, – склаў Ляголас.

Зьявіўся князеў служка й паказаў дарогу да Сядзібаў. Там, у садку, знайшліся сябры, і сустрэча была радаснаю. Колькі часу шпацыравалі, размаўляючы, задаволеныя кароткім перапынкам спакою пад ранішнім сонцам на прадзьмутых вятрамі высокіх ярусах гораду. Калі Мэры стаміўся, прыселі на муры ля зялёнага лужку перад Сядзібамі. Наперадзе, на поўдні, Андуйн блішчэў пад сонцам і далёка нёс свае воды, хаваючыся за далягдядам нават ад вострага эльфавага зроку сярод шырокіх панізьзяў ды зялёнай смугі Пажыцьцяў і Паўднёвага Ітыльёну.

Зараз Ляголас сядзеў маўкліва, пакуль астатнія размаўлялі, і пазіраў на поўдзень, на белых марскіх птушак над ракою.

– Зірніце! – выгукнуў ён. – Кірлі! Як далёка адлятаюць яны ад мора! Яны дзівяць мяне й кранаюць маё сэрца! Аніколі ў жыцьці ня бачыў я іх, пакуль не сягнулі мы Пеларгіру, і тады я пачуў іхні лямант у паветры, калі плылі мы на бітву на караблях. Тады замёр я, забыўшыся пра вайну ў Міжзем'і, бо іхнія журботныя галасы крычалі пра Вялікае мора. Мора! Як шкада, што я ня ўбачыў яго. Але глыбока ў сэрцах усёй маёй радзіны ляжыць туга па моры, і недарэчна абуджаць яе. Ах, калі б ня кірлі! Ня будзе мне спакою болей пад бярозкамі ці вязамі.

– Не кажы так, – параіў Гімлі. – Безьліч чаго яшчэ варта пабачыць у Міжзем'і й вялікую працу трэ зьдзейсьніць. Калі ўвесь сьветлы народ выправіцца да заваняў, сусьвет пасумнее й паблякне для тых, каму наканавана заставацца.

– Насамрэч, стане нудотна й тужліва! – пацьвердзіў Мэры. – Ня трэба табе да заваняў, Ляголасе. Заўжды будзе які народ, вялікі ці малы, альбо нават колькі мудрых гномаў накшталт Гімлі, каму ты патрэбны. Ну, я на тое спадзяюся. Аднак прадчуваю аднекуль, што горшае ў гэтай вайне яшчэ наперадзе. Як хацеў бы я, каб усё гэта хутчэй скончылася, дый добра скончылася да таго ж!

– Ня будзь сам такі нудотны! – выгукнуў Піпін. – Сонца зьзяе, і мы ўсе разам на дзень альбо два сама менш. Я ж найболей хачу пачуць пра вашую вандроўку. Давай, спадару Гімлі! Ты й Ляголас ужо тузін разоў за раніцу згадалі вашыя з Швэндалам бадзяньні. А мне не распавялі анічога.

– Хоць і зьзяе тут сонца, пра вандроўку нашую ў мяне такія ўспаміны, што я не хачу выцягваць іх на сьвятло зь цемры, – здрыгануўся Гімлі. – Калі б ведаў, што ляжыць перад мною, ані дзеля якога сяброўства не ўступіў бы я на Сьцягу Мёртвых.

– Сьцягу Мёртвых? – перапытаў Піпін. – Я чуў, як Арагорн казаў гэты назоў, і дзівіўся, што ж ён значыць. Ці не распавядзеш ты нам болей?

– Ня тое каб ахвотна, – адгукнуўся Гімлі. – Бо тая сьцяга прывяла мяне да ганьбы. Я, Гімлі, сын Глойна, які лічыў сябе дужэйшым за людзей і пад зямлёю трывалейшым за любога эльфа, вытрымаў толькі таму, што мною рушыла воля Арагорна.

– І любоў да яго таксама, – падхапіў Ляголас. – Бо ўсе, хто ведае яго, палюбілі яго па-свойму, нават ільдзяная панна рахірымаў. На золку таго дня, калі ты, Мэры, сягнуў Дунхэрэ, мы пакінулі яго, і такі страх апанаваў людзьмі, што аніхто ня выйшаў правесьці нас, апрача панны Эявін, якая ляжыць зараз параненая ў Сядзібах. Тужлівае разьвітаньне, цяжкое для мяне.

– На жаль, у мяне пачуцьцяў хапіла толькі на мяне самога, – заўважыў Гімлі. – Не, ня буду я болей пра той пераход.

І змоўк, але Піпіну з Мэры гэтак не цярпелася вызнаць болей, што нарэшце Ляголас здаўся:

– Я вам распавяду для вашага супакою, бо я аніякага жаху не адчуваў і не баяўся людзкіх прывідаў. Нямоглымі руінамі падаваліся яны мне.

Далей коратка распавёў пра шлях пад гарою, пра змрочнае рушэньне ля Эрэху й вялікую скачку адтуль, паўсотні міляў і яшчэ сем, да Пеларгіру на Андуйне.

– Чатыры дні й ночы ды частку пятага дня ехалі ад чорнага каменя, – казаў ён. – І ўявіце: у змроку войска ценяў мацнела, і жудасьць расла зь ім. Хто ехаў, хто йшоў пехатою – аднак усе здані рушылі з аднолькава вялікаю хуткасьцю. Яны маўчалі, але іхнія вочы прагна блішчэлі. На верхавінах Ламэдану абагналі яны нашых коней і пранесьліся б міма, калі б ім не забараніў Арагорн. На ягоны загад яны затрымаліся й адсталі зноў.

"Нават чалавечыя прывіды падуладныя яму! – падумаў я. – Верагодна, яны паслужаць яму й яшчэ!"

Адзіны сьветлы дзень ехалі мы, а тады насталі дні безь сьвітанку. А мы ўсё рушылі, перасеклі Кірыль і Рынгло й на трэці дзень сягнулі Ліньіру над вусьцем Гілрайну. А там людзі Ламэдану біліся зь лютым племем Хараду й Умбару, што падняліся ўверх па рацэ. Калі мы наблізіліся, абаронцы й ворагі разьбегліся, выгукваючы сярод ляманту, што Кароль Памерлых прыйшоў да іх. Толькі гаспадару Ламэдану Ангбару стала мужнасьці сустрэць нас, і Арагорн запрасіў яго сабраць ягоны народ ды рушыць сьледам, калі хопіць мужнасьці, пасьля войска прывідаў.

"У Пеларгіры спатрэбіцеся вы нашчадку Ісільдара", – сказаў ім.

І мы перасеклі Гілрайн, гонячы хаўрусьнікаў Мордару перад сабою, і тады адпачылі крыху. Але неўзабаве Арагорн падняўся, кажучы: "Я бачу, ужо ў аблозе Мінас Тырыт. Баюся, ня вытрымае ён, пакуль мы пасьпеем з дапамогаю!" І мы паўсталі зноў, і панесьліся з усёю хуткасьцю, якую далі нашыя коні, праз роўнядзі Пажыцьцяў.

Ляголас прымоўк, і ўздыхнуў, і, кінуўшы позірк на поўдзень, ціха засьпяваў:

*Срэбныя воды плынеюць ад Келасу да Эруі,*
*У зялёных палёх Пажыцьцяў*
*Высокая сьпее трава. І на ветры марскім*
*Калышуцца там лілеі,*
*Залатыя званочкі мэласу ды альфірыну*
*У зялёных палёх Пажыцьцяў*
*На ветры марскім!*

Тыя палі ў песьнях майго народу зялёныя, але цяпер цемра пакрыла іх, шэрымі пустэчамі леглі яны перад намі. І праз тую шэрасьць, топчучы неаглядна травы й кветкі, палявалі мы нашых ворагаў дзень і ноч, пакуль нашая жорсткая скачка ня скончылася ля Вялікай ракі.

Тады адзначыў я ў сэрцы: мы сягнулі мора, бо шырокаю ў цемры падалася прастора вады, і безьліч марскіх птушак плакала на берагох. Якая туга мне ад ляманту кірляў! Ці не казала Панна Лесу сьцерагчыся іх? А цяпер я не магу забыцца на тое!

– Я дык на іх і ўвагі не зьвярнуў, – зьдзівіўся Гімлі, – бо тады мы нарэшце сягнулі сапраўднай бітвы. У Пеларгіры стаяў галоўны флёт Умбару, паўсотні вялікіх караблёў ды незьлічона малых. Многія з тых, каго мы гналі, дабраліся да завані хутчэй за нас і прынесьлі з сабою жуду. Колькі караблёў паднялі катвігі, уцякаючы ўніз па рацэ ці да другога берагу, а шмат малых гарэлі, падпаленыя. Але загнаныя ў

пастку харадрымы павярнуліся, бо яны народ люты ў адчаі, а зірнуўшы назад, зарагаталі, бо ж мелі яшчэ вялікае войска.

А Арагорн прыпыніўся й выгукнуў аглушальна: "Наперад цяпер! Чорным каменем я заклікаю вас!" І зьнянацку войска прывідаў, што трымалася за сьпінамі, накаціла шэрым прылівам, зносячы ўсё перад сабою. Далятали слабыя выгукі, ледзь чутна гулі рогі й ліўся шэпт безьлічы галасоў, бы рэха нейкай даўно мінулай, забытай бітвы Чорных гадоў. Узьняліся аголеныя мечы, аднак ня ведаю, ці шчэ маглі яны сячы. Бо памерлым не патрэбная была аніякая зброя, толькі жах. Аніхто не вытрымліваў перад імі.

На выцягнутыя на бераг караблі абрынуліся яны й на тыя, што стаялі на катвігах, а маракоў апанавала вар'яцтва жаху, і яны скакалі за борт – апрача рабоў, прыкаваных да вёслаў. Бесклапотна й дзёрзка рушылі мы сярод ворагаў, гонячы іх, нібы вецер апалае лісьце, пакуль не сягнулі берагу. А тады на ўсе вялікія караблі, што засталіся, Арагорн паслаў па дунадану, каб супакоіць палонных, абвесьціць ім свабоду й заклікаць не баяцца болей.

Яшчэ на скону гэтага змрочнага дня не засталося ворагаў, што супрацьстаялі б нам. Хто патануў, хто ўцякаў пехатою на Поўдзень у надзеі сягнуць сваіх земляў. Дзівосным і цудоўным падалося мне, што мордарскія пляны й падступства абвергнутыя прывідамі жаху й цемры. Уласнай жа зброяю параможаны быў Чорны Ўладар!

– Насамрэч дзівосна, – дадаў Ляголас. – У гэтую гадзіну зірнуў я на Арагорна й падумаў: якім велічным і жудасным уладаром мог бы зрабіцца ён сілаю сваёй волі, калі б толькі забраў пярсьцёнак сабе. Нездарма Мордар так баяўся яго. Але ж ягоны дух шляхетнейшы, чым мяркуе Саўрон, бо ці ж не з нашчадкаў ён Люціені? Аніколі не перарвецца той род, хоць і мінуць гады незьлічоныя.

– Ну, гэтак далёка гномы ня бачаць, – сказаў Гімлі. – Але ж насамрэч магутны быў Арагорн тым днём. Увесь чорны флёт патрапіў у ягоныя рукі, а ён абраў найвялікшы карабель ды ўзышоў на яго. Тады загадаў, каб затрубілі гучна ў мноства рагоў, захопленых у ворага, і войска ценяў сышло на бераг і сабралася там. Стаялі прывіды маўкліва, ледзь бачныя, толькі адбівалася барвовым бляскам у іхніх вачох полымя запаленых караблёў. А Арагорн вымавіў уголас памерлым: "Чуйце ж словы Ісільдаравага нашчадка! Клятва вашая выкананая. Вяртайцеся й аніколі болей не турбуйце даліны жывых! Ідзіце зь мірам!"

Пасьля таго кароль памерлых выйшаў наперад войска, пераламаў сваю дзіду й кінуў долу. Пакланіўся нізка ды адвярнуўся, і неўзабаве паплынела шэрае войска, зьнікла, што туман, разагнаны раптоўным ветрам, і, падалося мне, я абудзіўся ад сну.

Гэтую ноч мы адпачывалі, пакуль працавалі іншыя. Бо мноства вязьняў атрымалі свабоду й шмат выйшлі на волю рабоў-гондарцаў, захопленых у пірацкіх набегах, а неўзабаве сабраўся вялікі натоўп людзей з Пажыцьцяў ды Этыру, і Ангбар Ламэданскі прыскакаў зь вершнікамі, якіх сабраў. Калі вусьціш мёртвага войска зьнікла, усе сьпяшаліся дапамагчы й зірнуць на нашчадка Ісільдара, бо чуткі пра ягонае імя пабеглі пажарам у цемры.

Вось тут і скончаецца наш расповед. Бо цягам гэтага вечару й ночы ваяры падрыхтавалі караблі, набралі каманды, а раніцаю флёт рушыў наперад. Цяпер падаецца, тое было даўно, а насамрэч – заўчорашняй раніцаю, шостай, як выехалі з Дунхэрэ. А Арагорн усё падганяў баючыся, што мы спозьнімся. Казаў: "Дваццаць міляў і яшчэ шэсьць ад Пеларгіру да прыпаромкаў Харлянду. А датуль мусім дабрацца раніцаю – альбо дарма ўсе нашыя намаганьні".

Цяпер на вёслах сядзелі свабодныя людзі й працавалі мужна, аднак павольна падымаліся мы па Вялікай рацэ, бо хуткая ейная плынь, і хоць на поўдні яна не такая імклівая, як вышэй, усё-ткі не хапала нам дапамогі ветру. Цяжка рабілася ў мяне на сэрцы, нягледзячы на перамогу ў заванях, але Ляголас засьмяяўся зьнянацку.

"Вышэй бараду, Дарынаў сын! – кажа мне. – Бо гаворыцца ж: *надзея трывае, калі ўсё мінае*". Але ж якую надзею пабачыў ён здалёк, не сказаў. Прыйшла ноч, паглыбіўшы цемру, і сэрцы нашыя палалі, бо далёка на поўначы мы бачылі барвянае полымя пад хмарамі, і Арагорн вымавіў: "Мінас Тырыт гарыць".

А блізу поўначы надзея насамрэч адрадзілася. Дасьведчаныя ў марской справе людзі Этыру, пазіраючы на поўдзень, загаварылі пра зьмену, пра сьвежы вецер, які ляціць з мора. Задоўга да сьвятла караблі ўзьнялі ветразі й пабеглі наперад, і сьвітанак пабачыў белую пену пад насамі караблёў. І вось так, як бачылі вы, зьявіліся мы праз тры гадзіны пасьля сьвітанку з добрым ветрам і сонцам над галавою дый разгарнулі вялікі баявы сьцяг. Адметны быў дзень, вялікая часіна, што потым ні здарыцца!

– Што потым ні здарылася б, вялікія подзьвігі ня зьменшацца з таго, – сказаў Ляголас. – Вялікае зьдзяйсьненьне – прайсьці па Сьцязе Мёртвых, і вялікім яно застанецца, хоць бы нікога ў Гондары не засталося, каб пяяць пра тое ў дні, што надыдуць пасьля.

– А тое можа здарыцца, – заўважыў Гімлі. – Бо невясёлыя Арагорн з Гэндальфам. Надта цікава мне, пра што вядзецца на радзе ў намётах там, унізе. Бо я, як і Мэры, хацеў бы, каб усё гэта скончылася хутчэй. Але што ні паўстане наперадзе, спадзяюся, паўдзельнічаю ў тым дзеля гонару народу Самотнай гары.

– А я – дзеля народу Вялікага лесу, – дадаў Ляголас, – і зь любові да гаспадара Белага Дрэва.

Тады сябры змоўклі й колькі часу сядзелі ля сьцяны, заглыбіўшыся кожны ў свае думкі, пакуль правадыры спрачаліся пад горадам.

Калі князь Імрахіль разьвітаўся зь Ляголасам і Гімлі, то адразу паслаў па караля Эямэра, спусьціўся разам зь ім да брамы й выйшаў да Арагорнавых намётаў, усталяваных непадалёк ад месца, дзе загінуў Тэядэн. І там сабраліся яны на раду разам з Гэндальфам, Арагорнам і сынамі Эльранда.

– Шаноўнае спадарства, – пачаў Гэндальф, – прыслухайцеся да словаў, сказаных намесьнікам Гондару перад сьмерцю: "Бо на імгненьне пераможаш ты ці на дзень. Супраць моцы, што паўстала цяпер, няма перамогі! Да гэтага гораду працягнуўся толькі адзін палец яе рукі". Паўтараю я гэта ня дзеля таго, каб вы адчаяліся, але ж каб абмеркавалі рацыю гэтых словаў.

Палантыры ня хлусяць, і нават гаспадар Барад-дуру не прымусіць іх зманіць. Аднак сваёю воляю ён абірае, што паказаць у камені слабейшым за яго розумам і воляю, ці "тлумачыць" паказанае. Разам з тым нельга сумнявацца: калі Дэнэтар заўважыў вялікае войска, што ўжо сабралася й зьбіраецца ў Мордары, ён бачыў праўду.

Нашай моцы ледзь хапіла на першы вялікі напад. Наступны будзе мацнейшым. І, як адзначыў Дэнэтар, вайна гэтая без надзеі на перамогу. Перамогі нельга сягнуць зброяю, ці седзячы на месцы й вытрымліваючы аблогу за аблогаю, ці выйшаўшы насустрач, каб захлынуцца ў варожай навале за ракою. Паміж вялікім і меншым ліхам абіраем мы. Звычайная рацыя падказала б нам узмацніць крэпасьці, якія ёсьць, дый там чакаць нашэсьця, і гэтак працягнуць час перад непазьбежным конам.

– Тады спадар раіць, каб мы адступілі ў Мінас Тырыт, Дол Амрат ці Дунхэрэ й

там сядзелі, як малыя сярод пясчаных замкаў на водмелі перад прыліўнаю хваляю? – спытаў Імрахіль.

– Тое ня сталася б новым для вас, – адказаў Гэндальф. – Ці ня гэтак вы й рабілі ў часы Дэнэтара, і амаль нічога болей? Зараз – не! Я сказаў, што тое – выбар рацыі. Я ня раю вам рацыю. Я сказаў, што перамогі зброяю не сягнуць. Але яшчэ спадзяюся на перамогу, толькі ж ня зброяй. Бо галоўнейшы за ўсе пляны й меркаваньні – Пярсьцёнак Улады, падмурак Барад-дуру й Саўронава надзея.

Пра гэтую рэч, спадары мае, вы ўсе ведаеце досыць, каб разумець нашае становішча ды Саўронава. Калі зноў здабудзе *ён* пярсьцёнак, усе вашыя подзьвігі не ўратуюць нас, а ягоная перамога будзе хуткаю й рашучаю – такою, што аніхто й не прадбачыць краху Саўронавага панаваньня да самага скону нашага сусьвету. Калі ж пярсьцёнак вынішчаць, Саўрон падзе, і гэтак нізка, што зьнікне самая надзея зноў паўстаць яму. Бо ён страціць найвялікшую частку першароднай моцы, і ўсё, выробленае й зьдзейсьненае з дапамогаю той моцы, абрынецца, і застанецца ён назаўсёды скалечаным, прывідам лютасьці й злосьці, што катуе сам сябе сярод ценяў, курчачыся ад нянавісьці, ня здольны набрацца моцы зноў ці ўвасобіцца. І гэтак сусьвет пазбавіцца ад вялікага ліха.

Іншае ліха можа прыйсьці, бо й сам Саўрон усяго толькі служка й пасыльны ліха большага. Аднак тое ня наш клопат і доля – заўладарыць над усімі ваганьнямі гэтага сусьвету. Нам прызначана ўладкаваць гады, у якія мы жывем, выкараняючы ліха ў тых палёх, што ўрабляем мы, каб пасьля нас аратым засталася чыстая зямля. А якое надвор'е будзе ў іх над галовамі – ня наш клопат.

Саўрон ведае ўсё гэтае. Ведае таксама, што найвялікшая *ягоная* каштоўнасьць знайшлася, але ня ведае, дзе яна, – або так мы спадзяемся. І таму цяпер ён у вялікім сумневе. Бо калі мы знайшлі пярсьцёнак, сярод нас ёсьць тыя, каму стане моцы скарыстаць яго. Гэта яму таксама вядома. Ці не памылюся я, Арагорне: ты паказаў яму сябе ў палантыры Ортанку?

– Так, перад выездам з Горнбургу, – адказаў Арагорн. – Час падаўся мне адпаведным, я падумаў: дзеля таго камень і патрапіў да мяне. Мінула дзесяць дзён, як Ахоўнік Пярсьцёнка пайшоў на ўсход ад Рэрасу, і я палічыў: трэба адвесьці вока Саўрона ад *ягонай* уласнай зямлі. Надта рэдка хтосьці выклікаў *яго* на барацьбу з таго часу, як вярнуўся *ён* да сваёй вежы. Калі б я прадбачыў, якім хуткім будзе *ягоны* адказ, мо й не сьпяшаўся б правакаваць яго. Ледзь хапіла часу прыйсьці на дапамогу вам.

– А як жа так? – спытаў Эямэр. – Усё дарма, кажа вашаць, калі *ён* дабярэцца да пярсьцёнка. Чаму *ён* ня лічыць, што марна нападаць на нас, калі пярсьцёнак у нас?

– Бо *ён* яшчэ ня ўпэўнены, – адказаў Гэндальф. – Ён прыдбаў сваю моц зусім не чаканьнем, пакуль *ягоныя* ворагі набяруцца сілы ў бясьпецы, як дазвалялі тое мы. Таксама не адзін дзень трэба, каб авалодаць поўнаю сілаю пярсьцёнка. Бо толькі адзіны гаспадар ягоны можа ўладарыць ім. І Саўрон чакае свары й бойкі паміж намі, пакуль наймацнейшы з нас не паставіць сябе гаспадаром ды не прынізіць астатніх. У час такой свары пярсьцёнак дапаможа сапраўднаму ўладару, калі той пасьпяшаецца й нападзе зьнянацку.

Бо *ён* чакае. Ён бачыць і чуе шмат. Назгулы ягоныя яшчэ ўюцца над намі. Яны пралятлі над палямі Пеленару на досьвітку, хоць няшмат хто з стомленых ды сонных адчуў іхнюю прысутнасьць. Ён вывучае прыкметы й пазнакі: меч, які пазбавіў яго каштоўнасьці, перакаваны нанова, ветры ўдачы зноў паварочваюцца ў наш бок, і нечакана ягоны першы напад церпіць паразу. Дый гіне найвялікшы ягоны гетман.

Штохвілінна расьце ягоны непакой, і позірк *ягоны* мкне сюды, амаль сьляпы да ўсяго астатняга, што рушыць вакол. Дык мы павінны трымаць гэты позірк. У тым нашая надзея. У тым і мая парада: пярсьцёнак цяпер ня ў нас. У мудрасьці ці адчайнай дурноце выслалі мы яго прэч на зьнішчэньне, каб ён ня зьнішчыў нас. Безь яго мы не сягнем перамогі зброяю. І мусім цяпер усімі сродкамі адцягваць Саўронаў позірк ад сапраўднай *ягонай* небясьпекі. Мы не сягнем перамогі зброяю, але зброяю можам даць Ахоўніку Пярсьцёнка адзіны ягоны шанец, хоць і малы.

Пачатае Арагорнам мусім працягнуць мы ўсе. Падштурхнем Саўрона да апошняга кідку, да таго, каб ён выявіў усю прыхаваную моц, каб вывеў усё войска з сваіх земляў. Зараз жа рушма насустрач *яму*. Станьмася прынадаю, хоць бы *ягоныя* сківіцы сьціснуліся на нас. Прынаду *ён* возьме ў надзеі й прагнасьці, бо палічыць, што ў такой пасьпешлівасьці відаць пыха новага гаспадара пярсьцёнка, і скажа: "Ён надта рана й надта далёка совае сваю шыю – у пастку, адкуль ужо ня выберацца. Там я зьнішчу яго, і тое, што ў пысе й невуцтве забраў ён у мяне, ізноў стане маім назаўжды".

А мы мусім зайсьці ў тую пастку з расплюшчанымі вачыма, з мужнасьцю, хоць і зь невялікаю надзеяй для нас саміх. Бо, шаноўнае спадарства, можа здарыцца й так, што ўсе мы цалкам загінем у чорнай бітве далёка ад жывой зямлі, і нават калі Барад-дур будзе зрынуты, да новай эпохі мы не дажывем. Але ж, мяркую, наш абавязак у гэтым. Лепей загінуць так, чымся гібець у марноце, анічога ня робячы й ведаючы, што з нашай сьмерцю ня ўзыдзе анічога новага.

Пэўны час усе маўчалі. Тады Арагорн вымавіў:

– Як пачаў я, так і пайду далей. На самым краі стаім мы, дзе надзея й адчай зьліваюцца ў адзінае. Ваганьне цяпер – гібель. Хай ніхто сёньня не адкіне парадаў Гэндальфа, чыёй доўгай барацьбе супраць Саўрона надышоў нарэшце час апошняга выпрабаваньня. Калі б ня Гэндальф, ужо даўно мы страцілі б усё. Нягледзячы на тое, я пакуль не бяру на сябе права анікому загадваць. Хай кожны абярэ, што захоча.

– Дзеля таго й зьявіліся мы з далёкай Поўначы, – абвесьціў Эльрохір, – і ад бацькі нашага Эльранда прынесьлі гэткую самую параду. Мы не павернем назад.

– Што да мяне, дык я няшмат разумею ў гэтых мудрагелістых прамовах, дый мне й ня трэба, – прызнаўся Эямэр. – Ведаю я, і таго мне досыць, што сябра мой Арагорн дапамог мне й майму народу, і таму я прыйду на дапамогу яму, калі ён пакліча. Я пайду зь ім.

– Што тычыцца мяне, – паведаміў князь Імрахіль, – я лічу сябе падданым ягамосьці пана Арагорна, абьвесьціў ён сваё права ці не. Ягоная воля для мяне – загад. Я таксама пайду. Аджа пакуль я займаю месца намесьніка Гондару, мой абавязак думаць перш за ўсё пра ягоны народ. Бо й звычайнай рацыі мушу аддаць увагу, і падрыхтавацца на любы выпадак, добры й благі. Магчыма, мы ўсё-ткі пераможам, і калі ёсьць такая вераемнасьць – Гондар трэба абараняць. Я не хачу вярнуцца зь перамогаю ў зруйнаванае места ды запустэчаную зямлю. А ад рахірымаў мы ведаем, што на поўнач ад нас яшчэ некранутае войска.

– Тое слушна, – пагадзіўся Гэндальф. – І я ня раю вам пакідаць горад зусім безабаронным. Сапраўды, войска, якое павядзем на ўсход, наўрад ці варта зьбіраць у разьліку на сапраўдны напад – хай будзе вялікім настолькі, каб Вораг прыняў заклік да бітвы. І рушыць тое войска мусіць у хуткім часе. Таму я пытаюся ў правадыроў: колькі вояроў мы сабярэм за два дні й не даўжэй за тое? І вояроў сталых, якія пойдуць з уласнай волі, ведаючы, што чакае іх.

– Усе мае вoi натаміліся, надта шмат параненых – і лёгка, і цяжка, – паведаміў Эямэр. – І мноства мы страцілі коней, а тое нялёгка для нас. Калі неўзабаве выходзім, я зьбяру наўрад дзьве тысячы, а астатніх пакіньма для абароны гораду.

– Мы можам разьлічваць ня толькі на тых, хто змагаўся на Пеленарскім полі, – заўважыў Арагорн. – Новыя разьдзелы на шляху з паўднёвых земляў, бо ўзьбярэжжа пазбавілася ад пірацкай пагрозы. Чатыры тысячы я паслаў зь Пеларгіру сюды праз Ласарнах, і вядзе іх Ангбар Бясстрашны. Калі мы выйдзем праз два дні, яны яшчэ засьпеюць нас тут. Шмат каго заклікаў я рушыць за намі па рацэ на любых караблях ды чоўнах, якія знойдуцца. З такім ветрам неўзабаве прыбудуць і яны. Ужо колькі караблёў сягнулі Харлянду. Мяркую, мы выведзем сем тысячаў пешых і конных, і ўсё-ткі пакінем горад лепей абароненым, чымсьці ён быў да пачатку аблогі.

– Брама разбураная, – заўважыў Імрахіль, – і дзе ж цяпер майстэрства адбудаваць яе ды ўсталяваць зноўку?

– Майстэрства такое існуе ў Эрэбары, у каралеўстве Дайна, – адказаў Арагорн. – Калі надзеі нашыя ня згінуць марна, тады ў адпаведны час я папрашу Гімлі, сына Глойна, заклікаць сюды майстроў з Самотнай гары. Але ж людзі мацнейшыя за брамы, і аніякая брама ня вытрымае супраць ворага, калі людзі пакінуць яе.

Скончыліся перамовы правадыроў так: вырашылі на другую раніцу ад гэтага дня выйсьці зь сямю тысячамі войска, калі набяруць столькі, большая частка – пехатою, бо ліхая й неўрадлівая зямля ляжа пад ногі. Арагорн павядзе каля дзьвюх тысячаў сабраных пад ягоную руку на поўдзень ад Гондару, а Імрахіль – тры з паловай тысячы ваяроў гораду, Эямэр жа выведзе пяць сотняў тых, хто страціў у бітве каня, але сам застаўся прыдатным для бою, і пяць сотняў найлепшых вершнікаў. Яшчэ пяць сотняў вершнікаў налічыцца з ваяроў гораду й рыцараў Дол Амрату, а разам зь імі паедуць дунаданы й сыны Эльранда. Усяго – шэсьць тысячаў пяхоты й тысяча вершнікаў. Але ж галоўныя сілы рахірымаў, якія засталіся пры конях і былі здольныя біцца – каля трох тысячаў на чале з Эльфхельмам, – перакрыюць Заходні шлях супраць ворагаў, што засталіся ў Анарыёне. Адразу ж выслалі найхутчэйшых выведнікаў на поўнач, а таксама на ўсход ад Азгіліяту й на шлях да Мінас Моргулу.

А калі падлічылі ўсё войска й абмеркавалі, якімі дарогамі ісьці й куды, Імрахіль зьнянацку засьмяяўся ўголас.

– Ну ці не найвялікшы жарт ва ўсёй гісторыі Гондару, – вымавіў з рогатам, – усяго зь сямю тысячамі, меней за разьдзел гондарскага войска ў часы велічы, мы нападзем на горы й непрыступную Браму Чорнай зямлі? Гэтак дзёрзкі малы пагражае закаванаму ў латы рыцару лукам зь зялёнай галінкі й ніткі-струны! Калі Чорны Ўладар ведае столькі, колькі ведае паводле Гэндальфавага меркаваньня, дык ці не пасьміхнецца ён папросту замест таго, каб напалохацца, ды ці не адным пальцам раструшчыць нас, як муху, што намагаецца ўджаліць?

– Не, ён паспрабуе заманіць тую муху ў пастку й вырваць джала, – адказаў Гэндальф. – А сярод нас ёсьць тыя, чыё імя вартае болей за тысячу рыцараў у латах. Не, ён не ўсьміхнецца.

– Нам таксама наўрад ці варта сьмяяцца, – дадаў Арагорн. – Калі тое жарт, дык надта сумны. Бо гэта апошні ход у вялікай і надта небясьпечнай гульні, і аднаму з гульцоў ён прынясе згубу.

Тады выцягнуў Андарыль ды ўзьняў яго, бліскучы на сонцы.

– Не схаваю цябе ў похвы, пакуль ня скончыцца апошняя бітва, – паабяцаў Арагорн.

## *10. Чорная Брама расчыняецца*

Праз два дні войска Захаду сабралася на Пеленары. Оркі й усходнікі, што заставаліся ў Анарыёне, рушылі назад, да ракі, але нападу рахірымаў ня вытрымалі й амаль бяз бойкі разьбегліся, уцякаючы да Кайр Андрасу. Без пагрозы з Анарыёну ды з падмацаваньнямі з поўдня горад застаўся абароненым найлепшым чынам. Выведнікі даносілі, што ворагаў на шляхах няма ажно да перакрыжаваньня шляхоў ля Абрынутага караля, дзе ітыльёнская дарога перасякае гасьцінец на Азгіліят. Усё было падрыхтавана для апошняга кідку.

Ляголас з Гімлі зноў ехалі побач з Арагорнам і Гэндальфам, у перадавым разьдзеле разам з дунаданамі й сынамі Эльранда. Але хобіту Мэры, на ягонае расчараваньне й сорам, удзельнічаць у выправе не дазволілі.

– Ты яшчэ не акрыяў дастаткова для такой вандроўкі, – сказаў яму Арагорн. – Аднак не саромейся з таго. Нават калі ты й ня зьдзейсьніш анічога болей у гэтай вайне, вялікая твая пашана. За народ Шыру пойдзе Перыгрын, і не зайздросьць гэтаму шанцу патрапіць у небясьпеку, бо хоць з гонарам выйшаў ён з усіх выпрабаваньняў, пасланых лёсам, з тваім подзьвігам ягоныя дзеі пакуль не зраўнаюцца. І хоць мы абралі сабе долю, магчыма, загінуць перад Брамаю Мордару – у тым выпадку й табе давядзецца паўстаць на апошнюю бітву, ці тут, ці ў якім іншым месцы, дзе чорная навала спасьцігне цябе. Бывай!

Таму ў тузе й маркоце стаяў зараз Мэры йназіраў за вайсковым зборам. Бэргіль побач таксама тужыў і смуткаваў, бо бацька ягоны ў паход вёў харугву людзей з гораду – далучыцца зноў да цытадэльнай Варты Бэрэганд ня мог, пакуль па справе ягонай ня вынесены прысуд. У той харугве рушыў і Піпін – як гондарскі ваяр. Мэры бачыў яго непадалёк – маленькую, але прыкметную постаць сярод высокіх людзей Мінас Тырыту.

Нарэшце загулі трубы, і войска рушыла. Полк за палком, разьдзел за разьдзелам разварочваліся яны, скіроўваючыся на ўсход. Мэры пазіраў ім увасьлед, на Вялікі гасьцінец, доўга пасьля таго, як яны зьніклі з погляду. Вось згас апошні пробліск ранішняга сонца на дзідах і шаломах, а Мэры ўсё стаяў, пахілены, з каменем на сэрцы, адчуваючы сабе самотным чужынцам. Усе, дарагія яму, сышлі ў смугу пад далёкія нябёсы на ўсходзе, і невялікая надзея заставалася хоць каго зь іх пабачыць ізноў.

Нібы выкліканы адчаем, вярнуўся боль у руцэ, і Мэры пачуўся слабым і старым, і сонечнае сьвятло падалося няпэўным, станчэлым. Ачомаўся ён ад дотыку Бэргілевай рукі.

– Спадару пэрыяне! – паклікаў той. – Бачу, вашці нездаровіцца. Я дапамагу дабрацца да лекараў. Але ж ня бойся! Яны вернуцца. Людзей Мінас Тырыту аніколі не перамагчы. А цяпер зь імі гаспадар Эльфаў Камень, і Бэрэганд з цытадэльнай Варты таксама.

Шчэ да полудня войска дабралася да Азгіліяту. Там майстры й працоўны люд узмацнялі пераправы й масты з чоўнаў, зладжаныя ворагамі ды часткова пабураныя імі пры ўцёках за раку. Таксама зьбіралі прыпасы й трафэі, а на ўсходнім беразе пасьпешліва ладзілі ўмацаваньні для абароны.

Перадавы разьдзел мінуў руіны Старога Гондару, прайшоў праз шырокую раку й крочыў на доўгі просты гасьцінец, у дні сілы пракладзены ад сьветлай вежы Сонца да

высокай вежы Месяцу, якая цяпер стала Мінас Моргулам з праклятай даліны. За пяць вёрстаў ад Азгіліяту спыніліся, скончыўшы на тым пераход першага дня.

Але вершнікі рушылі далей і на сутоньні сягнулі Скрыжаваньня й вялікага кольца дрэваў. Там панавала цішыня. Ані варожай прыкметы не заўважылі, ня чулі ані выгуку, ані поклічу, аніводная страла ня вылецела з зарасьцяў ці з-за скалаў, і ўсё ж, пакуль рушылі наперад, адчувалі: усё навокал насьцярожылася й гэтая чакальная напружанасьць расьце. Быццам дрэвы й камяні, лісты й травіны ўслухоўваліся, затоеныя. Чорная чароўная хмара растачылася, і далёка на захадзе разьвітальныя промні сонца высьветлілі даліну Андуйну. Белыя пікі ружавелі пад сінечай нябёсаў. А над Эфэл Дуатам ляжалі цені й маркотны змрок.

Арагорн выслаў трубачоў на кожны з чатырох шляхоў, што ўваходзілі ў кола дрэваў. Трубачы выдзьмулі магутны покліч, а герольды голасна абвесьцілі:

– Гаспадары Гондару вярнуліся й вяртаюць сабе гэтую зямлю, што калісьці належала ім!

Вычварную оркавую галаву з плячэй каменнага караля скінулі й разьбілі ўшчэнт, а сапраўдную галаву вярнулі на месца, пакінуўшы карону зь белых і залатых кветак. Людзі адмылі й адшкрэблі брудныя орцкія пэцкулі з каменю.

Пачалі раіцца, куды ісьці далей, некаторыя прапанавалі напасьці на Мінас Моргул і, калі атрымаецца захапіць яго, цалкам зруйнаваць.

– Мажліва, – сказаў Імрахіль, – на дарозе, што вядзе адтуль да перавалу, лягчэй будзе напасьці на Чорнага Ўладара, чым праз ягоную Паўночную браму.

Але ж супраць таго рашуча паўстаў Гэндальф – праз ліха, якое жыве ў той даліне й жахам высмоктвае розум жывых, а таксама праз Фараміравы навіны. Бо калі Ахоўнік Пярсьцёнка насамрэч рушыў гэтым шляхам, тады ані ў якім выпадку нельга прыцягваць сюды Вока Мордару. Таму наступным днём, як падышло галоўнае войска, на Скрыжаваньні пакінулі моцную варту дзеля абароны на выпадак, калі Мордар вышле войска праз Моргульскі перавал ці прыбудзе болей хаўрусьнікаў з Поўдня. Для варты абралі галоўным чынам лучнікаў, добра знаёмых зь Ітыльёнам, яны схаваліся на схілах ды ў лесе побач з Скрыжаваньнем. А Гэндальф з Арагорнам паехалі зь перадавым разьдзелам да рыгва Моргульскай даліны зірнуць на ліхі горад.

Цьмяны ён быў ды безжыцьцёвы, бо služкі Мордару, якія жытлавалі тут, загінулі ў бітве, а назгулы дзесьці далёка выконвалі гаспадарскую волю. Аднак самое паветра даліны ўціскала страхам і варожасьцю. Тады ваяры пабурылі мост над ракою, падпалілі атрутныя лугі й ад'ехалі прэч.

Праз дзень, на трэція судні ад выхаду зь Мінас Тырыту, войска рушыла на поўнач па шляху. Ад Скрыжаваньня да Маранану было з сотню вёрстаў, і што можа здарыцца падчас вандроўкі, аніхто ня ведаў. Рушылі адкрыта, але асьцярожна, з коннымі выведнікамі наперадзе й пешымі пааберуч, асабліва з усходняга боку, бо там густа перапляліся зарасьці, згрувасьціліся цясьніны ды стромы, за якімі караскаліся ўгору змрочныя схілы Эфэл Дуату. Надвор'е заставалася ясным, дзьмуў устойлівы заходні вецер, але ж анічога не магло растачыць туманы й маркотную смугу, што чапляліся за горы Ценю, а за імі часам уздымаліся вялізныя дымы й калыхаліся на верхавых вятрох.

Раз-пораз Гэндальф загадваў дзьмуць у трубы, а герольдам абвяшчаць:

– Прыйшлі гаспадары Гондару! Пакіньце гэтыя зямлі альбо скарыцеся!

Але Імрахіль сказаў на тое:

– Кажыце не "гаспадары Гондару", а "кароль Элесар". Бо тое праўда, хоць ён і ня сеў яшчэ на сталец, і Вораг болей азадачыцца, калі пачуе імя караля.

Таму кожнадзённа тройчы герольды абвяшчалі імя караля. Аднак на выклік ніхто не адказаў.

Усё-ткі, хоць рушылі нібы ў спакоі, на сэрцы ў кожнага ваяра, ад найвышэйшага да найніжэйшага, было маркотна, і з кожнаю вярстою прадчуваньне ліха ўціскала цяжэй. Напрыканцы другога дня зь пераходу ад Скрыжаваньня сустрэлі нарэшце першы выклік і бітву. Моцны шыхт оркаў і ўсходнікаў спрабаваў напасьці з засады на перадавыя разьдзелы ў тым самым месцы, дзе Фарамір упаляваў людзей з Хараду й дзе шлях ішоў праз вузкую цясьніну, вычасаную ў доўгім адгор'і. Правадыроў Захаду своечасова папярэдзілі выведнікі, дасьведчаныя сьледапыты з Хэнет Ануну, якіх вёў Маблунг, і засада сама патрапіла ў пастку. Бо вершнікі далёка аб'ехалі з захаду спрат дый ударылі ў бок ворагу й ззаду, вынішчылі й адагналі на ўсход, у горы.

Але ж перамога не ўзбадзёрыла ачольцаў.

– Гэта ўсяго падманны выпад, – заўважыў Арагорн, – і галоўная ягоная мэта – хутчэй заманіць нас далей уяўнаю ворагавай слабасьцю, чым сур'ёзна пашкодзіць нам.

Ад таго ўзьвячорку назгулы неадступна цікавалі войска. Лёталі пакуль высока, па-за зрокам усіх, апрача Ляголаса, і ўсё-ткі іхняя прысутнасьць адчувалася, нібы паглыбленьне ценяў і сьцьменьне сонца. Хоць прывіды не спускаліся нізка да супернікаў і не крычалі, іхняя жуда не пакідала.

Гэтак праходзілі дні безнадзейнай выправы. На чацьверты дзень ад Скрыжаваньня й шосты ад Мінас Тырыту сягнулі нарэшце канца жывой зямлі й крочылі ў запустэчу перад брамаю перавалу Кірыт Гаргар. Ужо бачылі багны й пустэчы, што цягнуліся на поўнач і на захад да Эмін Мюйлу. Так мёртва было там, так вусьцішна й маркотна, што некалькі ваяроў зусім палі духам і не маглі ані ісьці далей, ані ехаць.

Арагорн зірнуў на іх бяз гневу, але з спачуваньнем. Маладзёны з Рохану, з далёкай Заходняй Украйны, ці пастухі з Ласарнаху – для іх Мордар з маленства быў сымбалем ліха, несапраўдным вусьцішным паданьнем, якое існавала па-за іхнім простым жыцьцём. А цяпер яны крочылі ў ажылыя зморы і не разумелі, чаму патрэба гэтай вайны ды лёс прывялі іх да гэткага неверагоднага жаху.

– Ідзіце! – прамовіў ім Арагорн. – Але ж захавайце гонар, не бяжыце! Ёсьць справа на вашыя сілы, каб палегчыць ганьбу. Рушце на паўднёвы захад, да Кайр Андрасу, калі там яшчэ трымаюцца ворагі, адбіце яго, калі здолееце, і трымайце да апошняга ў імя Гондару й Рохану!

Некаторыя ад такой літасьці засароме́ліся, пераадолелі страх ды пайшлі далей, а астатнія натхніліся новай надзеяй, пачуўшы пра мужную справу, на якую ставала сілаў, і выправіліся выконваць яе. І вось так, улічваючы колькасьць пакінутых ахоўваць Скрыжаваньне, меней за шэсьць тысячаў ваяроў прывялі правадыры Захаду, каб выклікаць на бітву ля Чорнай Брамы ўсю моц Мордару.

Цяпер прасоўваліся павольна, чакаючы кожную гадзіну адказу на свой выклік, усіх ваяроў сабралі ў адзіны шыхт, бо зараз высылаць выведнікаў ці малыя разьезды значыла толькі страціць іх. На ўзьвячорку пятага дня паходу ад даліны Моргулу сталі лягерам апошні раз, расклаўшы вогнішчы зь мёртвага дрэва ці верасу, што адшукалі. Ноч правялі бяз сну, адчуваючы шмат напаўбачных істотаў, што бадзяліся й гойсалі паўсюль вакол, чулі ваўчынае выцьцё. Вецер сьцішыўся, і ўсё замёрла. Ня бачылі

амаль нічога, бо хоць нябёсы й не захмарыла, і месяц вырас на чатыры дні ад ноўчыку, зь зямлі падымаліся пара й дымы, і белы маладзік засмужылі брудныя подыхі Мордару.

Схаладнела. З раніцаю вецер заварушыўся зноўку, але цяпер задзьмуў з поўначы, а неўзабаве пасьвяжэў ды ўзмацніўся. Усё маўчала, насьцярожана назіраючы. На поўначы сярод агідных ямінаў рысаваліся першыя вялізныя кучы шляку, крышанага каменю й апаленай зямлі – ваніты сьлімачнага мордарскага народцу. А на поўдні, зусім блізка, лунапі дужыя муры Кірыт Гаргару й Чорная Брама сярод іх, і дзьве вежы-іклы высіліся чорна й пагрозьліва пааберуч. На апошні пераход правадыры сышлі з старога шляху там, дзе ён паварочваў на ўсход, каб не набліжацца да злавесных схілаў, і таму падбіраліся да Маранану з паўночнага захаду, як і Фрода калісьці.

Дзьве вялізманыя жалезныя палавіны Чорнай Брамы пад цяжкаю выгбаю былі шчыльна зачыненыя. Анічога не праглядвалася на бастыёнах. Усё чакала маўкліва й насьцярожана. Ваяры Захаду сягнулі самай мяжы дзёрзкасьці, па-за ўсялякім цьвярозым разуменьнем, і стаялі цяпер, замярзаючы, бязмэтава й бессэнсоўна, перад мурамі й вежамі, на якія, спадзеючыся на перамогу, ня здолелі б напасьці, нават калі б прывезьлі аблюжную зброю вялікай моцы, а Вораг меў сілаў толькі на абарону Брамы й сьцяны. А ведалі ж: усе пагоркі й схілы за Маранaнам паўнюткія затоеным варожым войскам, змрочны дол за імі ўскапаны й збуроўлены незьлічонымі выседкамі ліхіх пачвараў. Усе назгулы сабраліся разам, кружляючы над вежамі Іклаў, што сьцярвятнікі, і, вядома, пільна назіралі за імі. І ўсё ж Вораг аніяк не выдаваў сваіх намераў.

Выбару не заставалася, як толькі згуляць ролю да канца. Таму Арагорн пашыхтаваў войска як найлепш, дый паставіў на два вялікія пагоркі апаленага каменю й зямлі, нагрувашчаныя оркамі за гады працы. Паміж імі й Мордарам ляжала нібыта прорынь – вялізная балоціна смуроднага глею й ванітоўных лужынаў. Калі шыхт уладкавалі, правадыры выехалі да Чорнай Брамы з моцнаю аховаю вершнікаў, сьцягам, герольдамі й трубачамі. Сярод вестуноў Захаду галоўным рушыў Гэндальф, за ім Арагорн з сынамі Эльранда, Эямэр Роханскі й Імрахіль.

Запрасілі таксама Ляголаса з Гімлі й Перыгрына, каб усе ворагі Мордару засьведчылі падзеі.

Наблізіліся на адлегласьць погуку ад Маранану й затрубілі ў трубы, разгарнуўшы сьцяг, а герольды крочылі наперад і закрычалі, каб іхнія галасы разьнесьліся па-над бастыёнамі Мордару:

– Выходзьце! Выходзьце сюды! Няхай выйдзе да нас гаспадар Чорнай зямлі! Бо суд мусіць адбыцца над ім! Няправедна пашкодзіў ён вайною Гондару ды адабраў ягоныя землі. Таму кароль Гондару патрабуе, каб ён адплаціў за ліха й сышоў прэч назаўжды. Хай выйдзе сюды!

Доўга ня чулі сярод мёртвай цішыні адказу – ані выкліку, ані гуку. Але ж Саўрон ужо склаў свае пляны: пажадаў спачатку жорстка нагуляцца з мышаняткамі перад тым, як запусьціць кіпці ды іклы й зжэрці. І таму, калі правадыры былі павярнулі назад, цішыня раптам парушылася. Загрукаталі доўгімі ўдарамі вялізныя барабаны, нібы грымоты між гор, тады забрахалі горны й рогі так, што скалануліся самыя камяні й людзям заклала вушы. Брама ашчэрылася, моцна бразнула – і зь яе выехала прадстаўніцтва Цёмнай вежы.

Наперадзе рушыла высачэзная злавесная постаць верхам на чорным кані ці толькі падабенстве каня: вялізманым стварэньні, мярзотна пачварным, з пысаю – жахлівай маскай, падобнай да чэрапа, а не да жывой галавы, у вачніцах і наздрынах яго скакала полымя. Вершнік быў цалкам у чорным, з чорным жа высокім шаломам. Аднак не прывід пярсьцёнка выехаў да войска, а жывы чалавек. Кашталян Барад-дуру – ніякі расповед не захаваў ягонага імя, бо сам ён забыўся на яго, і называў сябе: "Я – голас Саўрона".

Казалі, што ён здраднік, нашчадак племені тых, хто называў сябе *чорнымі нумэнорцамі*, бо яны сяліліся ў Міжзем'і ў гады Саўронавай моцы й улады й пакланяліся яму, палюбіўшы ліхое вядзьмарства. Пайшоў ён у падпарадкаваньне Цёмнай вежы, калі тая ўпершыню аднавілася, і праз хітрае ліхадзейства й вычварны розум заслужыў ласку гаспадара, выведаў шмат вялікіх чараў, шмат вызнаў Саўронавых думак і плянаў і лютасьцю пераўзыходзіў любога орка.

Ён выехаў наперад, а за ім – невялікая харугва чорных ваяроў з адзіным, таксама чорным сьцягам, што зерыўся барвовым ліхім вокам. Спыніўшыся за некалькі крокаў ад правадыроў Захаду, кашталян зьмераў іх позіркам зьверху данізу й зарагатаў.

– Ці мае хто з гэтай набрыдзі права перамаўляць з мною? – спытаў тады. – Ці ў каго хопіць глуздоў, каб зразумець мяне? Вядома ж, не ў цябе! – пакпіў, павярнуўшыся да Арагорна. – Каб зрабіцца каралём, мала аскепка эльфавага шкла ці валацугаў накшталт твайго почту. Такую любы шалбер лёгка набярэ!

Арагорн нічога не адказаў, але зірнуў яму ў твар і глядзеў, не адводзячы вачэй, і якую хвілю яны змагаліся так, але неўзабаве, хоць Арагорн не варухнуўся й рукі на зброю не паклаў, пахолак Саўрона ўздрыгнуў ды адхіснуўся, нібы ад пагрозы ўдару. Выгукнуў:

– Я герольд і перамоўца, на мяне нельга нападаць!

– Там, дзе гэткія законы ў пашане, – заўважыў яму Гэндальф, – перамоўца выказвае троху болей ветласьці. Але ж табе ніхто не пагражаў. Няма патрэбы баяцца нас, пакуль ня выканаеш свой абавязак. Але ж калі твой гаспадар не памудрэў, табе й усім астатнім ягоным служкам пагражае вялікая небясьпека.

– Га! – гыркнуў пасыльны Мордару. – Дык гэты ты, сівая барада, за ўсіх прамаўляеш? Часьцяком чулі мы пра цябе, пра твае бадзяньні, заўжды дзеля таемных змоваў, каб шкодзіць здалёк, хаваючыся ў бясьпецы. Але ж на гэты раз надта далёка высунуў ты свой нос, васпане Гэндальфе, і неўзабаве пабачыш сам, што здараецца зь недарэкам, які пляце нягеглае сеціва пад нагамі ў Саўрона Вялікага. У мяне ё колькі дробязяў, якія мне загадалі паказаць табе – перш за ўсё табе, калі ты адважысься зьявіцца.

Ён падаў знак аднаму з вяроў суправаджэньня, і той выехаў наперад з пакункам, загорнутым у чорную тканіну. Мордарскі перамоўца сарваў тканіну і дастаў, да адчаю й горкага зьдзіўленьня правадыроў Захаду, спачатку Сэмаў корд, а тады шэры плашч з эльфавай фібулкай і апошняй – міфрыльную кальчужку, што насіў Фрода пад сваім падраным адзеньнем. У вачох сяброў пацямнела, і на цяжкі застылы момант ім падалося, што сусьвет замёр, што сэрцы іхнія памерлі й зь іх сышла апошняя надзея. Піпін, які стаяў побач з князем Імрахілем, скочыў наперад з выгукам адчаю.

– Ціха! – загадаў Гэндальф сувора, адсоўваючы яго назад, а мордарскі пасланец зарагатаў ізноў.

– Дык у цябе яшчэ адзін з гэтых паскуднічкаў з сабою! Якую карысьць знайшоў ты ў іх, наўрад ці мажліва зразумець, але ж слаць іх як віжоў у Мордар – гэта нават

перасягае тваю звычайную дурасьць. Усё ж я ўдзячны яму, бо, відавочна, гэтыя вычварні ўжо бачылі мае драбязкі, і ня варта табе адмаўляцца ад іх.

– Я й не хачу ад іх адмаўляцца, – запярэчыў Гэндальф. – Сапраўды, я ведаю іх і ўсю іхнюю гісторыю – чым ты, брудны падбрэх Саўрона, наўрад ці можаш пахваліцца. Але ж нашто прыцёг ты іх сюды?

– Гномская браня, эльфаў плашч, клінок згінулага Захаду ды віж з маленькай пацуковай зямелькі Шыр – не, не тлумач! Мы добра ведаем, якой змовы гэта прыкметы. Мажліва, той, хто нёс усё гэта, быў служкам, якога табе зусім не шкада страціць, а мо й ня так. Мо тое быў хтось дарагі табе, га? Калі так, парайся неадкладна з той невялікай мудрасьцю, што шчэ засталася ў цябе. Бо Саўрон ня любіць віжоў, і лёс твайго вылюдка зараз залежыць ад твайго выбару.

Аніхто не адказаў яму але ён убачыў, што твары перамоўнікаў пашарэлі ад жаху, кашталян заўважыў страх у вачох і зарагатаў, бо яму падалося, што ягоная забава добра ідзе.

– Файна, файна! – падсумаваў ён. – Даражэнькі быў вам шпег, бачу я. Ці мусіў ён сягнуць чагось надзвычай істотнага для вас? Напэўна ж. А цяпер перад ім доўгае, на гады й гады, катаваньне, такое доўгае й павольнае, на якое толькі здольныя нашыя майстры ў Цёмнай вежы. І ня будзе яму вызваленьня, хіба ён цалкам пераменіцца, зламаны ў духу й сэрцы, каб вярнуцца да цябе й каб ты пабачыў, што праз цябе здарылася зь ім. Тое непазьбежна, калі вы не пагодзіцеся на ўмовы майго Гаспадара.

– Назаві ўмовы, – рашуча запатрабаваў Гэндальф, але ж тыя, хто стаяў побач, убачылі адчай на ягоным твары, чараўнік падаўся старым, зморшчаным небаракам, які страціў усё, пацярпеў цяжкую паразу. Не сумняваліся: ён прыме ўмовы.

– Вось яны, – пасьміхнуўся вястун Мордару, абводзячы позіркам аднаго за адным. – Гондарская набрыдзь ды ейныя падманутыя хаўрусьнікі зараз жа адступаюць за Андуйн, пакляўшыся спачатку аніколі не падымаць зброю супраць Саўрона Вялікага адкрыта ці таемна. Усе землі на ўсход ад Андуйну пераходзяць назаўсёды да Саўрона, і толькі да яго. Землі на захад ад Андуйну да Туманных гор і Брамы Рохану робяцца даньнікамі Мордару. Жыхары там пазбаўляюцца права насіць зброю, але ім будзе дазволена самім кіраваць сваімі справамі. Аднак яны дапамогуць адбудаваць Ізенградак, які ў сваёй пысе марна разбурылі, і належацьме ён Саўрону, ягоны гетман заўладарыць там – не Саруман, а болей варты даверу.

У кашталянавых вачох лёгка чыталіся ягоныя думкі: ён стане тым гетманам, каб сабраць пад сваю руку, што засталося ад Захаду. Ён стане тыранам, а ўсе вакол – ягонымі рабамі.

– Ці не зашмат за аднога служку? – засумняваўся Гэндальф. – Твой гаспадар хоча так вытаргаваць тое, за што яму давялося б весьці не адну вайну. А мо адно гондарскае поле гэтак парушыла ягоную надзею на перамогу, што ён цяпер спадзяецца адно на гандлярскае майстэрства? А калі б насамрэч гэткі каштоўны нам быў той віж, з чаго нам верыць, што Саўрон, найпадступнейшы з усіх майстроў здрады, выканае абяцанкі? І дзе ж сам вязень? Спачатку выведзі яго да нас ды перадай нам, а тады ўжо мы падумаем над умовамі.

І тады Гэндальфу, які замёр, уважліва назіраючы, бы ў паядынку зь сьмяротным ворагам, падалося, што на час адзінага ўздыху мордарскі вястун разгубіўся, але адразу зарагатаў зноўку.

– Не гуляй у марнай пысе з голасам Саўрона! – выгукнуў кашталян. – Вядома ж, табе хочацца! Саўрон за так не дае анічога! Калі ўжо хочаш шчодрасьці ад яго, дык выконвай ягоныя загады. Вось умовы. Бяры й ідзі зь імі – ці бязь іх!

– Вось што мы возьмем! – абвесьціў нечакана Гэндальф і адкінуў плашч.

Белае сьвятло ўскінулася, нібы палымяны меч сярод цемры. Перад узьнятай Гэндальфавай рукой мордарскі мярзотнік адсунуўся, а Гэндальф, наблізіўшыся, адабраў у яго эльфскі плашч з кальчугай ды меч.

– Гэта мы бярэм на памяць пра нашага сябру, – абвесьціў чараўнік. – Што ж тычыцца тваіх умоваў – мы абвяргаем іх цалкам. А зараз прэч, бо скончылася тваё пасланства й сьмерць ужо за крок ад цябе. Мы прыйшлі сюды не марнаваць словы ў перамовах з Саўронам, здрадным і праклятым, і яшчэ меней траціць іх на ягонага раба! Прэч!

Не засьмяяўся вястун Мордару. Твар ягоны перамяніўся ад зьдзіўленьня ды злосьці на пысу пачвары, што, ужо падрыхтаваўшыся хапаць здабычу, атрымала нечакана ў іклы пякучым дубцом. Гнеў апанаваў яго, і бясформавыя гукі шаленства вырваліся, паўздушаныя, з глоткі. Але ў тварах правадыроў Захаду ён прачытаў лютасьць і ў іхніх вачох – сьмерць, і страх перамог злосьць. Чорны ваяр загалёкаў, павярнуўся, ускочыў на каня й з усёю хеўраю паскакаў шалёна назад, да Кірыт Гаргару. І пакуль скакалі, ягоныя хаўрусьнікі задзьмулі ў рогі, падаючы даўно абумоўлены сыгнал, і не сягнулі яшчэ Брамы, як пастка Саўронава пачала зачыняцца.

Забілі барабаны й выбухнулі агні. Вялізныя палавінкі Чорнай Брамы шырока разьвінуліся, і з праходу вонкі хлынула вялікае войска – што ўзьвіраная вада з плаціны, калі ёй адчынілі выток.

Правадыры Захаду паўскоквалі на коней ды паскакалі назад, а войска мордарскае кпліва загукала. У паветры заклубіўся пыл: тое выйшлі шыхты ўсходнікаў, што чакалі сыгналу ў цені Эрэд Літуі за дальняй вежай Іклаў. Ды з гор пааберуч ад Маранану памкнула незьлічонае мноства оркаў. Людзі Захаду патрапілі ў пастку, і неўзабаве ўсё вакол шэрых пагоркаў, дзе стаяла заходняе войска, затапілі ворагі колькасьцю дзесяцькроць, а то й болей. Саўрон ухапіў прынаду, прапанаваную яму, сталёвымі сківіцамі.

Мала часу засталося Арагорну, каб упарадкаваць войска перад бітваю. На адным пагорку паўстаў ён з Гэндальфам, і там сьветла й адчайна ўзьвіўся сьцяг з Дрэвам і Зорамі. На другім пагорку рашуча й ганарыста затрапяталі сьцягі Рохану й Дол Амрату, Белы Конь і Срэбная Лебедзь. На кожным пагорку колам паўсталі ваяры, ашчэрыўшыся ва ўсе бакі дзідамі й мечамі. А наперадзе, насупраць Мордару, там, куды абрынецца першы жорсткі напад, пасталі ў Арагорнавым шыхце сыны Эльранда з дунаданамі, а ў другім шэразе – князь Імрахіль зь людзьмі Дол Амрату, высокімі й сьветлымі, ды абраныя ваяры з цытадэльнай аховы.

Задзьмуў вецер, і запелі рогі, і засьвісталі стрэлы, а сонца, што ўжо хілілася да захаду, засмужылася мордарскаю смуроднай параю, і праз злавесную смугу пазірала, далёкае, хваравіта-барвянае, быццам скончаўся ня толькі дзень, але і ўвесь сьвет сьвятла. І з густога сутоньня вылецелі назгулы, выкрыкваючы словы сьмерці, і тады ўсялякая надзея згасла.

Піпін зусім зьнясілеў, скалануўшыся ад жаху, калі пачуў, як Гэндальф адмаўляецца ад умоваў ды выракае Фрода на катаваньне ў Цёмнай вежы, аднак пасьля авалодаў сабою й стаў побач з Бэрэгандам у першым шэрагу гондарскага войска разам зь Імрахілевымі ваярамі. Яму падавалася найбольш годным памерці хутчэй ды скончыць горкую гісторыю свайго жыцьця, бо ўсё пайшло пурхою.

– Хоць бы Мэры тут быў, – пачуў уласны голас, і хуткая думка сьлізганула ў галаве, пакуль назіраў, як бягуць да яго ворагі ў нападзе: "Ну, зараз я прынамсі больш разумею небараку Дэнэтара. Лепей было б нам з Мэры памерці разам, раз усё адно мусім памерці. Чаму не? Яго тут няма, ну дык спадзяюся, ён знойдзе сабе лягчэйшы кон. А я зраблю, што здолею".

Выцягнуў корд і зірнуў на яго, на перапляценьне залатых й чырвоных рысаў нумэнорскай вязі, што зьзяла, як полымя, зь ляза.

"Менавіта дзеля такой часіны й скавалі яго, – падумаў хобіт. – Каб толькі ўдар ягоны дастаўся таму агіднаму пасланцу, тады я амаль параўнаўся б з Мэры. Ну, усё ж якогась пачварнага выродка джгну напрыканцы. Каб толькі зноў пабачыць сапраўднае сонечнае сьвятло ды зялёную траву!"

Ледзь дадумаў, як першы напад абрынуўся на іх. Оркі захрасьлі ў балоцінах перад пагоркамі, прыпыніліся, выпусьцілі ў шэрагі абаронцаў хмару стрэлаў. А праз оркаў шыхт прайшла, пачварна равучы, вялізная харугва горных троляў з Гаргарату. Шырэй і вышэй ад людзей былі яны, апранутыя толькі ў цесныя броні з лускі, а мо была тое іхняя жудасная скура. Яны несьлі веліканскія круглыя тарчы й трымалі ў каржакаватых руках цяжкія молаты. Бясстрашна кінуліся яны ў балоціны й перайшлі іх, завываючы. Навальніцаю грымнулі на шыхт людзей Гондару, малоцячы па галовах і шаломах, па руках і тарчах, як кавалі малоцяць, зьмінаючы, распаленае жалеза. Побач зь Піпінам упаў аглушаны, непрытомны Бэрэганд, і велізарны троль-правадыр, які паваліў яго, нахіліўся над ім, выцягнуўшы кіпцюрыстую лапу, бо звычка гэтых пачвараў – выгрызаць глотку пераможаным.

Тады Піпін ударыў зьнізу ўверх, і пісанае заклёнамі нумэнорскае лязо працяла скуру й глыбока ўвайшло ў тролевыя вантробы, і хлынула чорная кроў. Троль паваліўся наперад, грымнуўся, бы нетрывалая скала, пахаваўшы пад сабою тых, хто стаяў перад ім. Чарноцьце, смурод ды зьнішчальны боль авалодалі Піпінам, і сьвядомасьць ягоная сасьлізнула ў вялікую цемру.

"Сканчаецца, як я й думаў" – прамільгнула ў галаве наастачу, і хобіт засьмяяўся, ужо непрытомнеючы, бо нават радасным падавалася пазбавіцца нарэшце ад усіх сумневаў, клопатаў і страхаў. І ўжо на парозе забыцьця даляцелі да яго галасы, што гукалі зь нейкага забытага сусьвету далёка наверсе:

– Арлы лятуць! Арлы!

На момант Піпінава думка прыпынілася, завагалася.

"Більба! – згадаў ён. – Але ж не – тое ягоная прыгода, даўным-даўняя. А гэная – мая, і яна ўжо скончылася. Бывайце!"

І з тым ягоныя думкі адляцелі далёка, а вочы перасталі бачыць.



РОХАН
ГОНДАР
МОРДАР
Пн
Энтвадаа
Эмін Мюіл
Мерцьвяковыя багны
Дагорлад
(поле бітвы)
Сьнежнародная
Дунхэрэ
Эдорас
Бастрыгірн
Морганс
Фолд
Усходняя Ўкраіна
Эрэд Німрайс
Вялікі Заходні шлях
Раха Энтуя
Мяжа Рохану
Вадаспады Рэрасу
Ніндальф
ці Вагляжка
Сутокі
Энтуі
Фенмарк
Рака Мэрынг
Сьвятлалесьсе
Анарыён
Халіфірыён
Каленад
Мінрымман
Эрэлас
Нардал
Лес Друядан
Эйленах
Мінрымон
Каір Андрас
Амандын
Мэрыны Лес
Паўночны Ітыліён
Ітылыён
Маранан
Эрэд Літуі
(папяловыя горы)
Удун
Дурганг
Ізенмут
Хэнег Аннун
Араднуін
Тара Выраку
Цемная вежа
Барад-дур
Мінас Моргул
Кірыт Унгал
Гаргарат
Эфэль Дуат
(горы ценю)
Глотка Тарланга
Ламэдан
Рака Кірыль
Калембэль
Эрынгло
Эрырынг
Рака
Ласарнах
Перапраўы Эруі
Сірыт
Келас
Эмін Арнен
Мінас Тырыт
Пажыцьці
Рака Гільраін
Рака Сірыт
Рака Сэрні
Дор-эн-Эрніл
Андуін
Лінгір
Пеларгір
Паўднёвы Ітыліён
Бэльфалас
Этыр Андуін
(сутокі Андуіну)
Рака Порас
Перапраўы Порасу
Шляхта Харад
0 10 20 30 40 50
вёрсты

*1. Вежа Кірыт Унгал*

Сэм ледзь здолеў падняцца. Падзівіўся момант: дзе ж ён? А тады адчай і пакуты абрынуліся на яго. Ён стаяў у глыбокай цемры за падземнаю брамаю орцкай крэпасьці, перад зачыненымі меднымі дзьвярніцамі. Напэўна, аглушыў сам сябе, кінуўшыся на дзьверы. А колькі праляжаў непрытомны, ня ведаў. Тады ліхаманка шаленства ды адчаю палала ў ім. Зараз жа ён дрыжэў ад холаду. Але ж прыціснуўся да палавінак дзьвярэй, прыклаў да іх вуха, прыслухоўваючыся.

Далёка за брамаю чуваць быў слабы оркаў гоман, але неўзабаве оркі змоўклі ці надта аддаліліся, і ўсё замёрла зноў. Галава Сэмава балела, і перад вачыма скакалі ў цемры прывідныя агні, але ён намагаўся супакоіцца й падумаць. Ясна: праз гэтую браму ў орцкую крэпасьць не патрапіць. Днямі можна чакаць, пакуль яна адчыніцца, а чакаць Сэм ня мог, кожная хвіліна каштавала задорага. Болей не сумняваўся наконт свайго абавязку: мусіць вызваліць гаспадара альбо загінуць.

"Загінуць – гэта болей верагодна дый нашмат лягчэй", – сказаў сам сабе пахмура, засунуўшы Джала ў похвы й адварочваючыся ад меднай брамы.

Павольна папоўз вобмацкам назад скрозь цемру па тунэлі, не адважваючыся запаліць эльфава сьвятло. Рухаючыся, складаў у галаве ў адзінае цэлае ўсё, што адбылося ад Скрыжаваньня. Цікава, колькі часу? Напэўна, дзесьці паміж днём і ноччу, але ж нават у ліку дзён Сэм цалкам заблытаўся. Бо патрапіў у месца цемры, дзе, здавалася, забыліся дні сьвету сьвятла й сьвет той забыўся на ўсіх, хто трапіў сюды.

"Цікава, ці згадваюць нас хоць калі, – разважаў ён, – і што там зь імі ўсімі адбываецца".

Махнуў рукою кудысьці наперад, але ж паказаў насамрэч на поўдзень, не на захад, бо вярнуўся ўжо да тунэлю Шэлаб. А на захадзе, у тым сьвеце надыходзіў полудзень чатырнаццатага сакавіка паводле шырскага адліку, Арагорн вёў чорны флёт ад Пеларгіру, Мэры скакаў з рахірымамі па Даліне Каменных Вазоў, а ў Мінас Тырыце ўздымалася полымя й Піпінназіраў, як расьце вар'яцтва ў Дэнэтаравых вачох. Але ж пасярод клопатаў і небясьпекі думкі сяброў увесь час вярталіся да Фрода з Сэмам.

На іх не забыліся. Але ж недасягальна далёка былі яны для любой дапамогі, і аніякія думкі пра іх не дапамаглі б зараз Сэмвайзу, сыну Хэмфаста. Ён застаўся на самоце.

Прыйшоў нарэшце назад, да каменных дзьвярэй орцкага тунэлю, так і ня здолеў адшукаць засаўку ці замок, што зачыняў іх, таму ўскараскаўся, як і раней, і асьцярожна саскочыў з другога боку. Тады пракраўся да выхаду з Шэлабінага тунэлю, дзе яшчэ матляліся на халодным ветры абрыўкі яе гіганцкага павуціньня. Вецер падаўся Сэму лядзяным толькі з-за душнай цемры скляпеньняў, ягоны подых аднавіў сілы. Асьцярожна хобіт выпаўз вонкі.

Вакол панавала пагрозьлівая ціша. Сьвятла было не болей, чым позьнім сутоньнем напрыканцы змрочнага дня. Дыміскі, што падняліся з Мордару й плынелі на захад, віселі нізка над галавою набухлым чэравам хмараў і смугі, падсьветленыя зьнізу злавеснаю барваю.

Сэм зірнуў на орцкую вежу, і зьнянацку зь яе вузкіх акенцаў палыхнулі агні, што маленечкія чырвоныя вочкі. Падзівіўся: мо тое які сыгнал? Страх перад оркамі, забыты праз гнеў і адчай, вярнуўся. Наколькі мог бачыць, у яго заставаўся адзіны

магчымы шлях дзеяньня: адшукаць галоўны ўваход у жудасную вежу. Але ж калені ягоныя падгіналіся самі сабою, і ён уцяміў зьнянацку, што ўвесь дрыжыць. Адарваўшы вочы ад вежы й рагоў перавалу, Сэм прымусіў неслухмяныя ногі падпарадкавацца і павольна, прыслухоўваючыся што моцы, пайшоў назад па сваіх сьлядох міма месца, дзе паў Фрода й дзе яшчэ вісеў Шэлабін смурод, далей угору, пакуль не паўстаў зноў сярод цясьніны, дзе надоечы насунуў пярсьцёнак і ўбачыў, як прабегла міма Шагратава каманда.

Тады прыпыніўся й прысеў. На які час ня стала сілаў прымушаць сябе. Адчуваў, што калі крочыць за перавал хоць на адзін крок у Мордар, тое станецца незваротным. Назад ён ня вернецца. Без аніякай яснай мэты выцягнуў ён пярсьцёнак ды насунуў зноўку. Адразу ж адчуў ягоны вялізазны цяжар дый успрыняў нанова, нашмат мацней і патрабавальней, чым раней, ліха мордарскага Вока, якое намагалася працяць хмары: створаныя дзеля абароны, зараз яны замінalі, выклікаючы сумнеў і непакой.

Як і раней, Сэм адчуў, што слых ягоны абвастрыўся, але ж зроку рэчы гэтага сусьвету падаліся прывіднымі, няяснымі. Скальныя сьцены перавалу рысаваліся нібы скрозь туман, але здалёк чулася булькатаньне няшчаснай параненай Шэлаб і адметна й рэзка, зусім побач, – бразгат мэталу й дзікія выгукі. Тады ўскочыў і прыціснуўся да скалы. Узрадаваўся, што насунуў пярсьцёнак, бо ж няйначай яшчэ адна орцкая каманда рушыць па перавальнай сьцязе. Але так падумалася толькі напачатку. Тады раптоўна зразумеў: не, слых падмануў яго, оркавы выклікі даносяцца зь вежы, чый рог узвышаецца папросту над ім, леваруч ад перавальнай расколіны.

Сэм уздрыгнуў і паспрабаваў прымусіць сябе да руху. Відавочна, адбываецца нейкае ліха. Магчыма, орцкае пачварства збаёдала ўсе загады, і ворагі катуюць Фрода ці нават сякуць на кавалкі. Сэм прыслухаўся, і надзея бліснула перад ім. Сумневаў не было: у вежы біліся. Напэўна, оркі пасварылі паміж сабою, Шаграт з Гарбагам схапіліся за шаблі. Хоць слабую надзею прынесла тая здагадка, усё ж падняла Сэма на ногі. Можа, гэта адзіны шанец. Любоў да Фрода паўстала над усімі іншымі думкамі й пачуцьцямі, і, забыўшы на небясьпеку, Сэм выгукнуў уголас:

– Я іду, спадару Фрода!

Пабег угару па стромай сьцежцы на перавал. Мінуў яго. Тут дарога збочвала налева й крута зводзіла долу. Сэм патрапіў у Мордар.

Зьняў пярсьцёнак, рухомы нейкім глыбінным прадчуваньнем пагрозы, хоць сабе патлумачыў, што хоча бачыць ясьней.

"Лепей глядзець на найгоршае сваімі вачыма, – прамармытаў пад нос. – А то што за лухта – бадзяцца ў смузе".

Жорсткая, бясплодная й бязьлітасная зямля адкрылася ягоным вачам. Пад нагамі найвышэйшы хрыбет Эфэл Дуату строма, прыступкамі вялізных скалаў, сыходзіў у глыбокую цясьніну, за якой паўставаў другі хрыбет, нашмат ніжэйшы, зь верхам вызубраным ды ўсаджаным скаламі-ікламі, што падаваліся чорнымі ў барвяным сьвятле за імі. Гэта быў суворы хрыбет Маргаі, унутранае кольца агароджы вусьцішнай краіны. Далёка за ім, але амаль проста наперадзе, за шырокім возерам цемры з россыпам маленечкіх агеньчыкаў, зьзяла нібы вялікае полымя, зь якога падымаліся гіганцкімі калёнамі віхраслупы дымоў, пыльна-чырвоныя ля каранёў і чорныя наверсе, і зьліваліся ўгары ў покрыва хмараў і дыму, што закрывала ўсю клятую краіну.

Так Сэм убачыў Арадруйн, Вогненную гару. Раз-пораз ад плавільняў глыбока ў яе нутрыне попельны купал распаляўся ды, уздрыгваючы ад моцных выбухаў-

выплескаў, выліваў з расколінаў у баках рэкі плаўленага каменю. Некаторыя зь іх плынелі да Барад-дуру па вялізных каналах, іншыя віліся па камяністай роўнядзі, пакуль не застывалі й не заміралі ў падабенстве скажоных цмокаў, выванітаваных змучанай зямлёй. У час такой ліхой працы й пабачыў Сэм гару Выраку. Сьвятло яе, закрытае высокай загароджаю Эфэл Дуату ад тых, хто прыходзіў з захаду, зараз лілося на скальныя адхоны, і яны падаваліся акрываўленымі.

У тым вусьцішным сьвятле Сэм здранцьвеў, бо леваруч убачыў нарэшце крэпасьць Кірыт Унгал ва ўсёй яе моцы. Рог, заўважны зь іншага боку, быў усяго яе найвышэйшай вежаю. А на ўсход крэпасьць спускалася трыма вялізнымі ярусамі да паліцы ў горным схіле далёка ўнізе, прыляпіўшыся да магутнай скалы, ад якой вытыркалася вастраверхімі бастыёнамі. Яны зьмяншаліся, падымаючыся адзін над другім, паглядаючы на паўднёвы й паўночны ўсход стромымі сьценамі майстэрскай кладкі. На ніжнім ярусе, сотні зь дзьве ступнёў адтуль, дзе стаяў Сэм, крапасная сьцяна абкружала вузкі двор. Зь яго паўднёва-ўсходняга боку брама выводзіла на шырокі шлях, зьнешні край якога, абгароджаны парапетам, межаваў з прорваю, а за ёю збочваў на поўдзень ды віўся долу, у цемру, каб зьліцца з дарогаю, што ішла ад Моргульскага перавалу. Тады ён выводзіў праз вызубраную расколіну Маргаяў у даліну Гаргарат і далей да Барад-дуру. Вузкі верхні шлях, на якім стаяў Сэм, хутка спускаўся проста пад злавеснымі мурамі па лесьвіцах і стромых сьцежках да большага шляху й злучаўся зь ім паблізу брамы.

Углядаючыся, Сэм раптам уразіўся, скеміўшы, што крэпасьць гэтая пабудаваная не для таго, каб абараняць Мордар, а каб абараняцца ад Мордару, каб не выпускаць адтуль. Насамрэч, доўгі час таму гондарцы ўзьвялі яе як фарпост усходніх рубяжоў абароны Ітыльёну, калі пасьля Апошняга Зьвязу эльфаў і людзей народ Захаду вартаваў ліхую Саўронаву краіну, дзе яшчэ бадзяліся злосныя ягоныя пачвары. Але ж, як і ў Нархасьце і Кархасьце, вежах Іклаў, што закрывалі Маранан, варта згубіла пільнасьць, і здрада адчыніла браму для ачольцы назгулаў, і ўжо доўгія гады крэпасьць была гняздоўем ліха. Пасьля вяртаньня ў Мордар Саўрон палічыў яе карыснай, бо сапраўдных хаўрусьнікаў і слуг меў няшмат, а большасьць ягоных падначаленых былі рабамі страху перад ім. Таму крэпасьць выконвала старую ролю, не дапускаючы ўцёкаў з Мордару. Хоць, калі знайшоўся б неразумны вораг, які паспрабаваў бы таемна пралезьці на Чорную зямлю, мінуўшы няспынную варту Моргулу й Шэлаб, яго й тут сустрэў бы апошні бяссонны вартавы.

З жорсткай яснасьцю пабачыў зараз Сэм, як безнадзейна красьціся пад мурамі, зь якіх пазірае мноства ўважлівых вачэй, паўз браму, якая таксама пад наглядам. А калі й удасца, наўрад ці хобіт пройдзе далёка па шляху, таксама пільнаваным. Нават глыбокія цені, што ляжаць там, куды не сягае барвянае сьвятло, не схаваюць ад вострага начнога зроку оркаў. І хоць рушыць па такім шляху – адчайная небясьпека, горшае чакае наперадзе: не мінуць браму, уцёкшы ад яе, а крочыць праз яе ўсярэдзіну, без усялякай дапамогі, самотным.

Думкі ягоныя зьвярнуліся да пярсьцёнка, але ж не прынесьлі суцяшэньня, толькі непакой ды страх. Бо як толькі ўбачыў гару Выраку, адразу ж адчуў зьмену ў цяжары. Наблізіўшыся да неабсяжных падземных плавільняў, дзе ў глыбінях часоў быў выраблены й скаваны, пярсьцёнак вырас у моцы, палюцеў, так што ўтаймаваць яго магла толькі насамрэч магутная воля. Хоць ён ня быў насунуты, а вісеў на шыі на ланцугу, усё ж Сэм адчуваў ягонае ліха: сабе хобіт падаваўся вялізманым, быццам апранутым у скажоны цень самога сябе – магутнай злавеснай пагрозаю, што прыпынілася на мордарскай мяжы. Відавочна, толькі два шляхі заставаліся яму: альбо

забыцца на пярсьцёнак, хоць бы ён і працягваў катаваць, альбо завалодаць ім ды кінуць выклік той моцы й уладзе, што сядзіць у чорным замку за далінаю ценяў. Ужо пярсьцёнак спакушаў яго, падточваў ягоную волю й рацыю. Дзікія фантазіі паўставалі ў сьвядомасьці, і хобіт бачыў сябе Сэмвайзам Моцным, героем эпохі, што крочыць з палымяным мечам праз змрочную зямлю, і войскі зьбіраюцца на ягоны заклік, калі ён рушыць абвергнуць Барад-дур. А калі ўсе хмары сплынеюць прэч, на ягоны загад даліна Гаргарату перакінецца ў сад кветак, дрэваў ды шыкоўных пладоў зямлі. Дзеля таго трэба насунуць пярсьцёнак – і толькі.

У часіну гэткага выпрабаваньня болей за ўсё дапамагла яму вытрымаць любоў да гаспадара, а таксама звычайная хобіцкая рацыя, што заўжды жыла глыбока ў ягоным сэрцы, не пакорная аніякай спакусе. Бо ж насамрэч не сумняваўся: ён надта малы, каб несьці гэткі цяжар, нават калі падобнае мроіва ня цалкам хлусьня й здрадная мана. Усяго ж і патрэбна яму насамрэч: маленькі садок, апрацаваны ўласнымі рукамі, а зусім ня сад памерам у каралеўства, дзе трэба загадваць, каму куды рукі прыкладаць.

"Дый увогуле, мана гэна ўсё й хітрыкі, – казаў сабе. – Ён жа мяне адразу заўважыць і расьцісьне, я й гукнуць не пасьпею. Прыкмеціць, як толькі я пярсьцёнак насуну тут, у Мордары. Ну, так скажу: усё больш роспачна, чымся сад пасьля вясновага замаразку. Якраз калі нябачнасьць насамрэч прыдалася б, ёю нельга карыстацца! А калі давядзецца куды далей прайсьці, дык толькі й будзе долу цягнуць ды шыю церці кожны крок. Што ж тут рабіцьму, га?"

Насамрэч сумневаў асаблівых не было. Ведаў: мусіць рушыць да брамы дый не марнаваць тут болей часу. Перасмыкнуў плячыма, нібы скідваючы зь сябе які цень ды пакідаючы за сьпінаю мроі, пачаў паволі спускацца. І з кожным крокам нібы памяншаўся й памяншаўся. Не нашмат аддаліўся, калі вярнуўся да сябе, зрабіўшыся зноўку надта маленькім ды перапалоханым хобітам. Рушыў пад самымі мурамі крэпасьці, і ўжо звычайным сваім слыхам добра чуў гоман бойкі й енкі. Падавалася, яны даляталі з унутранага двара.

Сэм ужо напалову спусьціўся да брамы, калі з-пад цёмнага праёму яе аркі выскачылі два оркі й пабеглі прэч. Не да яго – да галоўнага шляху, але ж спатыкнуліся, упалі на зямлю й засталіся ляжаць. Сэм стрэлаў ня бачыў і падумаў: напэўна, іншыя ўлучылі іх зь муроў ці зь якой схованкі ў цені ля брамы. Рушыў далей, прыціснуўшыся да сьцяны леваруч. Адзіны позірк угору паказаў: надзеі ўскараскацца – аніякай. Кладка падымалася на трыццаць ступнёў бяз шчылінкі альбо прыступачкі, дый яшчэ навісала перакуленай лесьвіцай. Брама заставалася адзіным праходам.

Папоўз далей, цікавячыся, колькі оркаў жыве ў крэпасьці з Шагратам, колькі Гарбаг з сабою прывёў і за што яны пасварыліся, калі насамрэч адбылася свара. У Шагратавай камандзе оркаў з сорак, а Гарбагавых удвая, але ж, вядома, Шаграт ня ўсё войска з крэпасьці вывеў. Напэўна ж, пасварыліся праз Фрода ды праз тое, што зь яго зьнялі. На момант Сэм прыпыніўся, бо зьнянацку ўсё стала ясна, нібы пабачыў на свае вочы: міфрыльная бронька! Бо Фрода ж меў яе на сабе, а яны знайшлі. А з таго, што Сэм чуў, Гарбаг абавязкова захацеў бы накласьці на яе лапы. Загады зь Цёмнай вежы былі адзінай Фродавай абаронай, і калі тым загадам не падпарадкуюцца, дык забіць яго могуць у любы момант.

"Ну, сьлімак няшчасны, варушыся! – гукнуў Сэм сабе самому. – Пайшоў!"

Выхапіў Джала й кінуўся да брамы. Але ж, забегшы пад яе, нібы ўтыкнуўся ў нейкае павуціньне, падобнае да Шэлабінага, толькі нябачнае. Аніякай перашкоды ня

бачыў, але ж нешта, чаго сваёй воляй пераадолець ня мог, зачыняла шлях. Зірнуў угору, і тады ў цені брамы пабачыў двох Назіральнікаў.

Выглядалі яны вялізарнымі пачварамі на стальцах. Кожны меў тры злучаныя целы, і тры твары пазіралі вонкі, на двор і браму. Твары тыя былі што ў сьцярвятніка, на волатавых каленях ляжалі рукі, болей падобныя да кіпцюрыстых лапаў. Падавалася, іх вычасалі з суцэльных валуноў, непад'ёмных і нерухомых, і ўсё-ткі нейкі розум жыў у іх, адчуваючы навакольле, нейкі жудасны дух ліхога нядрэмнага назіраньня. Тыя духі ведалі ворагаў. Бачны ці не, аніякі не мінуў бы іх. Яны не дазволяць увайсьці – ці ўцячы.

Сабраўшыся з рашучасьцю, Сэм ізноўку рушыў наперад – ды зноўку ўтыкнуўся, захістаўшыся, бы ад цяжкага ўдару па грудзях і галаве. Тады, у вялікай дзёрзкасьці, бо ня ведаў, што яшчэ зрабіцьме, праз раптоўную згадку, невядома як заляцелую да яго, выцягнуў павольна шклянку Галадрыелі й узьняў над сабой. Пачварныя Назіральнікі сядзелі халодныя й нерухомыя, высьветленыя ва ўсёй сваёй жудзе. На момант Сэм заўважыў пробліск у чорных камянёх іхніх вачэй і задрыжэў ад ягонай нязноснай лютасьці, аднак паступова, відочна, іхняя ліхая воля завагалася, паддалася.

Тады скочыў міма іх, але ж адразу, як толькі сунуў шклянку назад за пазуху, ясна ўсьвядоміў: назіраньне й загарода за сьпінай аднавіліся, нібы сталёвую засаўку з бразгатам вярнулі на месца. А вусьцішныя галовы раптам пранізьліва віснулі, і рэха адбілася ў высокіх мурох. А далёка наверсе, быццам у адказ, адзіны раз гулка й рэзка празваніў звон.

"Вось так! – адзначыў сабе Сэм. – Ужо й ля дзьвярэй пазваніў".

– Ну, дык выходзьце! – выклікнуў уголас. – Скажыце Шаграту, што зьявіўся вялікі эльф-ваяр, ды з эльфавым мечам у дадатак!

Адказу не пачуў і крочыў наперад. Джала зазьзяла блакітам у руцэ. У двары ляжаў глыбокі цень, і ўсё-ткі хобіт бачыў: паўсюль валяюцца мёртвыя. Проста наперадзе, зусім побач, ляжалі два оркі-лучнікі, а зь іх сьпінаў тырчэлі нажы. Далей грувасьцілася нашмат болей мёртвых оркаў: некаторыя асобна там, дзе іх пасеклі ці застрэлілі, некаторыя папарна, счапіўшыся, памёршы падчас бойкі, душачы ці кусаючы. Брукаванка стала сьлізкаю ад чорнай крыві.

Два розныя віды рыштунку прыкмеціў Сэм. Адзін з знакам Барвянага Вока, другі – зь месяцам, скажоным у жудасную пысу сьмерці. Аднак каб разгледзець уважлівей, хобіт прыпыняцца ня стаў. У вежу вялі вялікія прычыненыя дзьверы, і з-за іх сачылася чырвонае сьвятло. А на ганку ляжаў вялізны мёртвы орк. Сэм скочыў празь цела ды рушыў далей, а тады заазіраўся, ня ведаючы, куды ісьці.

Шырокі, з рэхам калідор вёў ад дзьвярэй да горнага схілу. Асьвятлялі калідор паходні па сьценах, але ж дальні канец губляўся ў змроку. Пааберуч праступала мноства дзьвярэй ды праходаў, але ж сам калідор быў пусты, хіба толькі два ці тры целы валяліся на падлозе. З таго, што пачуў з размовы орцкіх правадыроў, Сэм ведаў: мёртвы ці жывы, Фрода, верагодней за ўсё, недзе ў каморы ў вежы на самым версе, але ж тут цэлы дзень давядзецца шукаць, пакуль знойдзеш.

"Я ж якраз, напэўна, ля дальняга краю, – прамармытаў Сэм. – Уся крэпасьць нібы задам наперад караскаецца ўгару. Дый у любым выпадку лепей ісьці па сьветлым".

Рушыў па калідоры, але павольна, з кожным крокам усё неахвотней. Вусьціш зноў ахапіла яго. Цішыню парушаў толькі шорхат ног, які ператвараўся ў гулкі гук, бы плясканьне вялізных далоняў па камянёх, і памнажаўся рэхам. Мёртвыя целы,

пустата, воглыя чорныя сьцены, што ў сьвятле паходняў падавалася, сачыліся крывёю, страх перад раптоўнай сьмерцю, што, верагодна, затаілася недзе за дзьвярыма або ў цені, і ўвесь час у розуме й памяці чакальнае, пільнае, нядрэмнае ліха ля брамы, – гэта яму не пад сілу вытрымаць. Лепей было б ужо біцца з кім – вядома, каб ня надта шмат ворагаў адразу, – чымся выносіць злавесную нявызначанасьць. Прымусіў сябе думаць пра Фрода, як ляжыць ён, зьвязаны, ці ў пакутах ад болю, ці ўвогуле памерлы недзе ў жудасным сутарэньні. Рушыў далей.

Выйшаў зь сьвятла паходняў, амаль сягнуў вялікіх дзьвярэй пад аркаю напрыканцы калідору, здагадаўшыся, што бачыць унутраны бок брамы ў скляпеньні, калі зьверху жудасна, бы задыхаючыся, завішчэлі. Спыніўся, замёршы. Тады пачуў тупат. Нехта нёсься што ног па гулкіх сходах проста над Сэмам.

Надта аслабела й запаволілася ягоная воля, каб прыпыніць руку. Тая выцягнула ланцуг і сьціснула пярсьцёнак. Але ж Сэм не насунуў яго, бо толькі прыціснуў да грудзей, як насустрач вылецеў орк, бразгочучы па прыступках. Выскачыўшы з чорнага праходу праваруч, пачвара кінуўся наўпрост на хобіта! Крокаў за шэсьць ад яго орк нарэшце падняў галаву й убачыў чужынцу. Сэм пачуў цяжкое воханьне, заўважыў адбітак сьвятла ў налітых крывёю вачох. Орк замёр, бы зьнежывелы. Бо пабачыў не маленькага пераляканага хобіта, што намагаецца ўтрымаць корд у руцэ, а вялізную маўклівую постаць, што насоўваецца, асьветленая ззаду дрыготкім полымем, а ў руцэ сьціскае меч, зьзяньне якога невыносна катуе. У другой жа руцэ, прыціснутай да грудзей, чужынца хаваў нейкую безыменную, магутную, лёсавую пагрозу.

На момант орк скурчыўся, а тады з найвусьцішнейшым енкам страху павярнуўся ды кінуўся прэчкі – туды, адкуль зьявіўся. Аніколі аніякі сабака так не ўзбадзёрваўся, бачачы суперніка, што ўцякае, падціснуўшы хвост, як Сэм з тых нечаканых варожых уцёкаў. З кугіканьнем кінуўся наўздагон.

– Гэй! Тут эльф-ваяр прыйшоў! Ужо йду да вас! А ну-тка, пакажы мне шлях наверх – альбо скуру злуплю!

Але ж орк знаходзіўся ў сваёй крэпасьці, спрытны й добра наеты. Сэм жа быў чужынец, галодны й натомлены. А лесьвіца ўздымалася высока й строма й вілася. Сэм пачаў задыхацца. Орк хутка зьнік з вачэй, а неўзабаве й тупат ягоных ног ужо ледзь чуўся далёка наверсе. Паціху ўсе водгукі зьніклі.

А Сэм усё кульгаў і кульгаў угору. Адчуваў – шлях слушны, і настрой выразна прыўзьняўся. Сунуў пярсьцёнак за паху, падцягнуў пас.

– Ну, ну, – сказаў сабе, – калі ім гэтак недаспадобы я ды маё Джала, дык усё можа павярнуцца лепей за мае чаканьні. У любым выпадку выглядае так, што Шаграт, Гарбаг і кампанія амаль усю працу за мяне ўжо адрабілі. За выключэньнем таго пераляканага пацучаняткі пэўне ж анікога жывога ва ўсёй крэпасьці не засталося!

І спыніўся, нібыта бразнуўся галавою аб каменную сьцяну, бо дайшло, што сказаў. Анікога жывога не засталося?! Дык жа быў той жудасны перадсьмяротны енк?

– Фрода, Фрода, пане мой! – выгукнуў, амаль плачучы. – Калі яны забілі вас, што мне рабіць? Ну, я іду, іду нарэшце на самы верх і ўбачу ўжо, што мушу ўбачыць.

Падымаўся вышэй і вышэй. Было цёмна, зрэдчас ля павароту ці калідору, што выводзіў на верхнія ярусы вежы, тырчэлі паходні. Сэм напачатку лічыў прыступкі, але пасьля дзьвюх сотняў зьбіўся. Зараз рушыў ціха, бо, падавалася, чуў, як наверсе нехта размаўляе. Напэўна, акрамя аднаго пацука, засталіся тут іншыя.

І якраз калі адчуў, што дыханьня ну зусім бракуе й калені болей не сагнуцца ні разу, лесьвіца скончылася. Хобіт спыніўся, прыслухаўся. Галасы чуліся блізка й гучна. Асьцярожна вызірнуў: выбраўся проста на пляскаты дах трэцяга й найвышэйшага ярусу крэпасьці, на роўную адкрытую пляцоўку сажняў зь дзясятак ад кута да кута, абгароджаную нізкімі парэнчамі. Лесьвіца выводзіла ў цэнтр даху, і адтуліну-выхад прыкрывала маленькая каморка з купалам-стольлю й нізкімі дзьвярыма на ўсход і захад. На ўсходзе Сэм пабачыў унізе неабсяжную цьмяную роўнядзь Мордару й Вогненную гару ўдалечыні. Зноўку забурлілі яе падземныя вытокі й рэкі полымя зазіхацелі так зырка, што нават за мноства вёрстаў іхняе зьзяньне залівала верх вежы барвовай полыньню. А на захадзе далягляд закрывала вялікая вежа, што падымалася ад вугла даху й узносіла свой рог высока над навакольнымі гарамі. Сьвятло блішчэла ў шчыліне яе вакна. За адчыненымі дзьвярыма, што былі ўсяго за дзесяць крокаў ад Сэма, зеўрала цямрэча, галасы ж даносіліся зь ценю побач.

Напачатку Сэм ня слухаў, бо на крок высунуўся за ўсходнія дзьверы й азіраўся наўкол. Адразу пабачыў: тут адбылася найбольш жорсткая бойка. Усю прастору засыпалі мёртвыя оркі, іхнія адсечаныя галовы, ногі й рукі. Месца смуродзіла сьмерцю. Рык, а тады гук аплявухі й енк прымусілі хобіта зноў кінуцца да схованча. Злосна ўзвыў оркаў голас, і Сэм адразу пазнаў яго, грубы, жорсткі, кплівы. Тое быў голас Шаграта, кашталяна крэпасьці.

– Што, ты ня пойдзеш? А каб табе, Снага, сьлімак недамерны! Калі думаеш, што я надта скалечаны, каб дазволіць сябе так зьняважаць, дык памыляесься. Падыдзі толькі, я выцісну табе вочы, як Радбугу толькі што. А калі яшчэ хлапцы прыбягуць, дык я тады з табою разьлічуся – і выпраўлю да Шэлаб.

– Ды ня прыйдуць яны. Ва ўсялякім разе, пакуль ты жывы, – прамармытаў Снага. – Я табе двойчы казаў, што Гарбагавы сьвіньні першымі дабраліся да брамы, і аніхто з нашых ня выбраўся. Лагдуф з Музгашам выбеглі вонкі, ды іх падстрэлілі. Я бачыў з вакна, кажу табе. А яны ж былі апошнія.

– Тады пойдзеш ты. Бо я мушу заставацца тут. Га, каб я толькі быў цэлы! У Чорныя ямы гэтага бунтаўніка Гарбага! – Тут Шаграт доўга брудна вылаяўся. – Ну, ён атрымаў ад мяне болей, чым я ад яго, але ж управіўся, лайно, пырнуць мяне, калі я яго дадушваў. Ідзі, а тое я цябе жыўцом зжару. Трэ даставіць зьвесткі ў Лугбург, а інакш мы абодва патрапім у Чорныя ямы. І ты таксама. Ня выратуесься, бадзяючыся тут.

– Не пайду я на гэтыя лесьвіцы, кашталян ты ці не, – прабурчэў Снага. – Няма чаго, га! І трымай лапы падалей ад нажа, а тое ўганю стралу ў чэрава. Нядоўга ты застанесься кашталянам, калі *яны* вызнаюць пра тутэйшыя справы. Вядома, я ж змагаўся за нас супраць гэтых паскудных моргульскіх пацукоў, але ж вы, два ачольцы, добрую тут халеру ўчынілі, з-за сьмецьця пасварыўшыся.

– Разбрахаўся! – рыкнуў Шаграт. – Я рабіў паводле загаду. Гарбаг распачаў усё, спрабуючы загрэбці тую цудоўную камізэльку.

– Га, нібыта не зь цябе ўсё ўсчалося, такі ты высакародны й магутны, носу не дастаць. А ў яго болей кему, чымся ў цябе. Казаў ён табе ня раз, што самы небясьпечны з гэных віжоў яшчэ вольна бадзяецца тут, а ты чуць не хацеў. І зараз ня хочаш. Меў рацыю Гарбаг, кажу табе. Тут побач вялікі ваяр, адзін з тых крыважэрных эльфаў ці мярзотных таркаў*. Ён ідзе сюды, кажу табе. Ты званочак чуў. Ён прадраўся

* *Тарк* – зьняважальная форма слова *таркіль*, якое паходзіла з мовы Квэнья й ужывалася ў Заходніцы, пазначаючы чалавека нумэнорскага паходжаньня.

міма Назіральнікаў, а гэта дакладна таркавы дзеі. Ён на ўсходах. І пакуль ён на іх, мяне там ня будзе. Калі б ты быў назгулам, тады я мо й крочыў бы туды.

– Дык вось як?! – загаласіў Шаграт. – Тое ты згодны рабіць, а гэтае не? А калі зьявіцца той тарк, дык ты дзёру дасі й мяне пакінеш? Не, ня так! Я да таго ў тваім чэраве чарвяных нораў нараблю!

Зь вежавых дзьвярэй выбег малы орк. За ім выскачыў Шаграт, вялізны орк з доўгімі рукамі. Ён бег нахіліўшыся, таму рукамі амаль кранаў падлогу. Але ж адна лапа зьвісала вялая і, падавалася, крывяніла, а другая трымала вялікі чорны пакунак. У чырвоным зьзяньні Сэм, схаваўшыся побач зь дзьвярыма на лесьвіцу, глянуў на ягоны люты твар, калі орк прабягаў міма. Пыса была нібы падзёртая кіпцямі й уся заплямленая крывёю, а з вытыркнутых іклаў цякла сьліна. Пашча пачварна выскалілася, бы жывёльная.

Як бачыў Сэм, Шаграт ганяўся за Снагам па ўсім даху, пакуль, ухіляючыся ды перабягаючы збоку ўбок, меншы орк ня кінуўся зь енкам назад у вежу й ня зьнік. Тады Шаграт прыпыніўся. З усходніх дзьвярэй Сэм бачыў як ён паўстаў ля парэнчаў, цяжка дыхаючы, кіпцюрыстыя пальцы левай рукі ўздрыгвалі, зьлёгку сьціскаючыся й расьціскаючыся. Шаграт паклаў пакунак на падлогу, праваю лапаю выцягнуў доўгі скрываўлены нож і плюнуў на яго. Крочыў ушчыльную да парэнчаў, зірнуў долу, на далёкі двор. Гукнуў двойчы, але адказу не пачуў.

І вось раптоўна, калі Шаграт стаяў, перахіліўшыся за парэнчы, павярнуўшыся сьпінай да пляцоўкі, адно зь целаў, на вялікае Сэмава зьдзіўленьне, заварушылася. Папаўзло. Выпрастала лапу й схапіла пакунак. Вагаючыся, узьнялося. У другой руцэ пачвара трымаў шыракалёзую дзіду з кароткім адламаным дрэўкам. Занёс, намерваючыся пырнуць. Але ж у самы гэты момант шыпеньне вырвалася зь сьціснутых зубоў – ці ад болю, ці ад нянавісьці. Шаграт спрытней ад зьмяі сьлізнуў убок, вывернуўся ды ўсадзіў нож у глотку ворагу.

– Вось табе, Гарбажа! Ня здох яшчэ цалкам, га? Ну дык я працу скончу!

Скочыў на ўпалае цела й у шаленстве пачаў таптаць, пхаць яго, раз-пораз нахіляючыся, каб пырнуць ці паласнуць нажом. Задаволіўшыся, закінуў галаву ды выгаласіў жудасны булькотлівы лямант, покліч перамогі. Тады лізнуў нож, заціснуў яго паміж іклаў і, падхапіўшы пакунак, пакульгаў да найбліжэйшых дзьвярэй на лесьвіцу.

Часу на разважаньні Сэму не заставалася. Магчыма, ён высьлізнуў бы з другіх дзьвярэй, але ж, напэўна, яго пабачылі б, а доўга гуляцца ў хованкі Сэм ня здолеў бы. Таму зрабіў найлепшае, што прыйшло да галавы: з крыкам выскачыў насустрач Шаграту. Хобіт зараз не трымаў пярсьцёнак, але ж той анікуды не падзеўся – прыхаваная моц, неадольная пагроза ўсім рабам Мордару, – у руцэ ж Сэма зьзяла Джала, чыё сьвятло абрынулася на орцкія вочы, што бляск жорсткіх зораў у жудасных краінах эльфаў, думкі пра якіх ільдзяным кашмарам перасьледавалі оркаў род. Да таго ж Шаграт ня мог адначасова змагацца й утрымліваць каштоўную здабычу. Спыніўся, зарыкаў, выскаліўшы іклы. Тады зноў, на орцкі манер, скочыў убок і, калі Сэм кінуўся наперад, выкарыстаў цяжкі скрутак як тарчу й як зброю – тыцнуў ім моцна ў твар ворагу. Сэм пахіснуўся й не пасьпеў выпрастацца, як Шаграт прашмыгнуў міма й панёсься ўніз па лесьвіцы.

Сэм кінуўся ўвасьлед, клянучы сябе й яго. Аднак далёка не прабег. Хутка згадаў пра Фрода, а таксама скеміў, што іншы орк вярнуўся да вежы. Вось жа яшчэ цяжкі выбар, і часу бракуе, каб паразважаць. Калі Шаграт уцёк, дык неўзабаве знойдзе дапамогу й вернецца. А калі гнацца за ім, дык другі орк можа нарабіць ліха. І ўвогуле,

раптам не пашанцуе забіць Шаграта, можна ж і самому загінуць. Сэм павярнуўся й пабег наверх па ўсходах.

"Зноў ня так раблю, напэўна, – адзначыў, уздыхнуўшы, – але ж справа мая – дабрацца перш за ўсё да верху, што ні здарылася б пасьля".

Шаграт, пераскокваючы па прыступках, выбраўся нарэшце ў двор, перабег яго й вылецеў за браму, несучы каштоўную ношу. Калі б толькі Сэм мог яго бачыць і ведаць, колькі гора прынясуць Шагратавы ўцёкі, мо й завагаўся б. Але ж зараз хобіта цалкам захапіў апошні этап пошуку. Падышоў насьцярожана да дзьвярэй у вежу ды крочыў за іх, у цемру. Неўзабаве заўважыў слабое сьвятло праваруч. Яно лілося зь іншых дзьвярэй, што вялі да яшчэ адной лесьвіцы, цёмнай і вузкай, якая вілася па ўнутраным баку вежавай сьцяны. Недзе высока мільгацела сьвятло паходні.

Павольна Сэм пачаў караскацца ўгору. Сягнуў напаўзгаслай паходні, прымацаванай над дзьвярыма насупраць вузкага вакенца на захад – аднаго з тых барвяных вокнаў-вачэй, што Фрода й Сэм бачылі разам ад вусьця тунэлю. Сэм імкліва мінуў дзьверы й пасьпяшаўся на трэці паверх, баючыся, што вось-вось хто-небудзь кінецца на яго, што чэпкія пальцы сьцісьнуць ззаду ягоную глотку. Дабраўся так да вакна, што пазірала на ўсход, і да наступнай паходні над праходам у сярэдзіну вежы. За шырока расчыненымі дзьвярыма была толькі цемра, падсьветленая барвянымі водбліскамі звонку ды мільгатлівым полымем паходні. Аднак лесьвіца тут сканчалася. Сэм пракраўся ў праход. І зьлева, і справа – дзьверы, зачыненыя й замкнёныя. Ніадкуль не даносілася аніводнага гуку.

– Тупік, – прамармытаў Сэм. – І гэта пасьля такога карасканьня! Не, ня можа гэта быць самы верх вежы. Але ж куды зараз?

Зьбег ніжэй і паспрабаваў дзьверы. Тыя не паддаліся. Зноў падняўся. Па твары папаўзьлі кроплі поту. Адчуваў: кожная хвіліна – каштоўная, але ж яны ўцякалі адна за адной без аніякага толку, і што ж рабіць? Ужо перастаў думаць і пра Шаграта, і пра Снагу, і пра ўсялякіх іншых оркаў, якія толькі ёсьць у сьвеце. Хацеў адно пабачыць свайго гаспадара, хоць бы раз зірнуць у ягоны твар, дакрануцца рукі.

Нарэшце, вытаміўшыся, адчуваючы суцэльную й агульную паразу, сеў на ўсходах, на прыступку ніжэй за ўзровень праходу, апусьціў галаву на рукі. Ціха, ціха да вусьцішы. Паходня, якая, калі ён прыйшоў, ужо дагарала, зашыпеўшы й пырснуўшы яскраўкамі, згасла, і цемра захлынула прастору. А тады ціхенька, сам зьдзівіўшыся сабе, перад гэткім марным і безнадзейным канцом доўгай вандроўкі й перад сваім невычэрпным горам, рухомы нечым у сэрцы, чаму й імя ня мог прыдумаць, Сэм заспяваў.

Голас ягоны гучаў танютка й дрыготка ў халоднай змрочнай вежы, голас забытага й стомленага хобіта, аніякі орк ня зблытаў бы гэта зь ясным сьпевам шляхетнага ваяра-эльфа. Сэм мармытаў старыя дзіцячыя пяюшкі з Шыру ды ўрыўкі песьняў спадара Більба, што луналі ў ягонай памяці зыбкімі праблісками роднай хаты й краіны. І тут раптоўна яму дадалося сілы, голас ягоны зазьвінеў – і ўласныя словы самі леглі на просты матыў:

*Пад сонцам мой заходні край*
*зноў краскай расквітнеў.*
*Зьвіняць крыніцы, і ў гаях*
*птушыны лёгкі сьпеў.*
*А чыстай ноччу ў галінах*
*вясновых чараў звонь,*
*люляе явар на лістах*
*бялюткіх зор агонь.*

*Хоць тут, напрыканцы шляхоў,*
*я ў цемры векавой,*
*за гор заслонай і лясоў*
*у крэпасьці ліхой,*
*я ведаю: паўстане дзень*
*над змрокам назаўжды*
*і сонца зьнішчыць люты цень*
*гароты ды бяды.*

– За гор заслонай і лясоў... – пачаў ён быў зноў.

І раптам спыніўся. Бо падалося: слабенькі голас адказаў яму. Але ж вось ужо нічога не чуваць... Не, штосьці ёсьць, але ня тое. Наблізіліся крокі. У праходзе наверсе адчыніліся дзьверы, рыпнулі. Сэм скурчыўся, прыслухоўваючыся. Дзьверы глуха бухнулі, і тады загучаў бурклівы орцкі голас:

– Гэй там, наверсе, ты, вылюдак пацучыны! До віскатаць, а тое падымуся й разьбяруся з табою! Чуеш?

Адказу не было.

– Ну, добра ж, – прабурчэў Снага. – Усё адно падымуся й зірну, што там табе да галавы ўзбрыло.

Дзьверы рыпнулі зноў, і Сэм пабачыў пробліск сьвятла ў прахоне й няясную орцкую постаць. Орк выходзіў зь нечым падобным да драбінаў. Зьнянацку Сэм здагадаўся: найвышэйшай каморы ў вежы магчыма сягнуць толькі скрозь люк у столі праходу! Снага ўзьняў лесьвіцу, замацаваў ды палез па ёй і зьнік з погляду. Сэм чуў, як бразнула засаўка. Тады мярзотны голас забурчэў знову:

– Ляжы спакойна, а тое заплоціш дарага! Нядоўга табе спачываць, мяркую, але ж калі ня хочаш, каб пацеха пачалася цяперачка, дык пашчу затыкні, га? А вось табе, каб не забыў!

Пачулася нешта падобнае да лясканьня пугі.

І ў Сэмавым сэрцы палыхнула шаленства. Ён ускочыў, пабег, узьляцеў па драбінах, нібы кот. Галава ягоная вытыркнулася пасярод падлогі вялікай круглай каморы. Чырвоны ліхтар зьвісаў з столі, вузкае высокае вакно на захад шчэрылася цемраю. Нехта ляжаў на падлозе ля сьцяны пад вакном, а над ім паўстала, шырока расставіўшы ногі, цьмяная оркава постаць. Орк узьняў пугу другі раз, але апусьціць не пасьпеў.

Загаласіўшы, хобіт кінуўся наперад з Джалам у руцэ. Орк хацеў быў павярнуцца, але не пасьпеў і руху зрабіць, як Сэм адсек яму руку з пугай. Выючы ад болю й жаху, орк у адчаі сьлепа кінуўся на Сэма, апусьціўшы галаву. Сэмаў другі ўдар трапіў міма, бо хобіт захістаўся, згубіўшы раўнавагу ды кульнуўся, хапаючыся за орка, калі той спатыкнуўся аб яго. Не пасьпеў выпрастацца, як пачуў енк і глухі бух. Орк у сьляпой

пасьпешлівасьці спатыкнуўся аб драбіны й уваліўся ў расчынены люк. Сэм адразу й думаць пра яго перастаў, а пабег да постаці, што скурчылася на падлозе. Тое быў Фрода.

Голы, ён ляжаў у непрытомнасьці на кучы брудных анучаў, засланяючы рукою галаву, а на ягоным баку напухаў жудасны шнар ад пугі.

– Фрода, даражэнькі мой, спадару Фрода! – загаласіў Сэм, амаль сьлепнучы ад сьлёзаў. – Гэта я, Сэм, я прыйшоў!

Ён прыўзьняў гаспадара й прыціснуў да грудзей. Фрода расплюшчыў вочы.

– Я яшчэ сплю? – прамармытаў ён. – Але ж іншыя сны былі такія вусьцішныя.

– Не, спадару, зусім не сьпіце, – сказаў Сэм. – Гэта насамрэч. Гэта я. Я прыйшоў.

– Цяжка паверыць, – Фрода ўхапіўся за сябра. – Орк з пугаю раптам ператварыўся ў Сэма! Значыць, я зусім ня сьніў, калі чуў сьпевы зьнізу й спрабаваў адказаць? Тое быў ты?

– Так, сапраўды я, спадару Фрода. Я ўжо адчаяўся амаль што. Аніяк ня мог вас знайсьці.

– Зараз знайшоў, Сэме, дарагі мой Сэме, – вымавіў Фрода ды апусьціўся зноў Сэму на рукі, заплюшчыўшы вочы, бы малое, што засынае, калі начныя страхі ўцякаюць прэчкі перад знаёмым мілым голасам ці рукамі.

Сэм адчуваў, што сядзеў бы так заўжды, у бясконцым шчасьці, але ж нельга было марнаваць час. Мала, што знайшоў нарэшце гаспадара, трэба ж яго яшчэ выратаваць. Ён пацалаваў Фродаў лоб.

– Прачынайцеся, спадару Фрода! – паклікаў, намагаючыся казаць радасна, нібы адшморгваючы фіранкі ў Торбе-пад-Стромай летняю раніцаю. Фрода ўздыхнуў і сеў.

– Дзе мы? Як я патрапіў сюды? – спытаў ён.

– Няма часу распавядаць, спадару Фрода, пакуль мы ня зьнікнем адсюль. Вы на самым версе вежы, якую мы разам бачылі здалёк, ад уваходу ў тунэль, перад тым, як оркі схапілі вас. Колькі прайшло часу, ужо ня ведаю. Болей за дзень, мяркую.

– Толькі? Мне падалося, тыдні мінулі. Ты мусіш распавесьці мне, калі толькі выпадзе магчымасьць. Нешта параніла мяне, так? Я праваліўся ў цемру й у мярзотныя сны, а прачнуўшыся, уцяміў, што ява шчэ горшая. Оркі паўсюль. Здэцца, яны ўлілі нешта мярзотнае, жудасна пякучае мне ў глотку. У галаве праясьнілася, але жусё цела балела, і стома адчувалася страшэнная. Яны ўсё зь мяне зьнялі, а тады два бамбізы пачалі мяне распытваць і распытваць, пакуль я адчуў, што вось-вось страчу розум, а яны ўсё стаялі над мною, кпілі, мацалі нажы. Я аніколі не забудуся іхнія лапы ды вочы.

– Не забудзецеся, калі распавядацьмеце пра іх, спадару Фрода. А каб нам ізноў зь імі не пабачыцца, лепей выбрацца адсюль як найхутчэй. Ці здольныя вы ісьці?

– Так, здольны, – Фрода павольна падняўся. – У мяне нічога сур'ёзна не пашкоджана, падаецца. Толькі стомлены надта ды баліць тут.

Ён паказаў рукою на ніз шыі над леваю лапаткаю. Выпрастаўся, і Сэму падалося, што гаспадар апрануты ў полымя: скура ягоная выглядала цьмяна-пунсовай у сьвятле ліхтара. Фрода зрабіў два крокі па падлозе.

– Гэтак лепей, – вымавіў, бо настрой ягоны прыўзьняўся. – А тое я не адважваўся варухнуцца, і калі вартаўнікі зьяўляліся, і калі нават не чапалі мяне й сыходзілі. А тады пачалася сварка ды бойка. Два бамбізы пабіліся, мяркую, празь мяне й мае рэчы. Я ляжаў пераляканы. А тады наступіла мёртвая цішыня, і стала яшчэ жудасьней.

– Так, відочна, яны пасварыліся, – пацьвердзіў Сэм. – Тут сотні дзьве гэтых мярзотнікаў. Крыху зашмат для Сэма Гэйхада, калі можна так сказаць. Ды яны самі пра сябе паклапаціліся, усе пазабіваліся. Нам пашэнціла, але песьню пра вялікія дзеі складаць няма калі, пакуль мы не ўцяклі. А што рабіць, га? Нельга бадзяцца па Чорнай зямлі, апранутым толькі ў скуру, спадару Фрода.

– Яны ж усё ўзялі, Сэме, усё. Разумееш? Усё цалкам!

Ён зноў сеў на падлогу, скурчыўшыся, нахіліўшы галаву, нібы толькі прамовіўшы ўголас цалкам усьвядоміў сваё няшчасьце, і адчай авалодаў ім.

– Мы ня справіліся, Сэме. Нават калі мы ўцячэм адсюль, нам ня выратавацца. Толькі эльфы здолеюць сысьці. Прэч, прэч ад Міжзем'я, далёка за мора – калі нават мора дастане, каб пазбавіцца ад Ценю.

– Не, ня ўсё яны ўзялі, спадарыку Фрода. І пакуль што ёсьць у нас шанец справіцца. Прашу прабачэньня, я яго ўзяў у вас. І захаваў. Ён на маёй шыі вісіць, ну й непрыемны ж цяжарыска, – Сэм палез па ланцужок і пярсьцёнак на ім. – Мяркую, вашаць мусіць забраць яго.

Калі справа дайшла да вяртаньня, Сэм адчуў дзівосную неахвоту аддаваць пярсьцёнак і прымушаць гаспадара знову несьці гэткі цяжар.

– Ён у цябе? – Фрода вохнуў. – У цябе? Сэме, ты цуд!

І раптам голас ягоны дзівосна зьмяніўся.

– Давай яго сюды! – Фрода паўстаў, працягваючы дрыготкую руку. – Давай зараз жа! Табе нельга яго мець!

– Усё добра, спадару Фрода, – запэўніў Сэм, крыху напалоханы. – Вось ён!

Павольна ён выцягнуў пярсьцёнак ды зьняў ланцуг.

– Але ж вы ў самым Мордары, ведайце. Калі вызірнеце вонкі, убачыце Вогненную гару ды ўсенька накшталт таго. І скеміце, што пярсьцёнак зараз надта небясьпечны й несьці яго надта цяжка. Калі тое станецца заскладаным, мо й я здолеў бы колькі пранесьці на зьмену з вашцю?

– Не, не! – Фрода выхапіў пярсьцёнак і ланцуг з Сэмавых рук. – Не, ён не дастанецца табе, зладзюга!

Ён ледзь не задыхаўся, сьвідруючы Сэма вачмі, паўнюткімі страху й варожасьці. Тады раптам, сьціснуўшы пярсьцёнак у кулаку, адхіснуўся ў вусьцішы, бо смуга, падалося, раптам зьнялася зь ягоных вачэй, і ён пацёр рукою лоб. На момант такая відочная й жудасная выява паўстала перад Фрода, яшчэ паўздурнелым ад раны й страху: нібы Сэм проста перад вачыма перакінуўся зноў у орка з брыдкай усьмешкай, які цягнецца па пярсьцёнак і ператвараецца ў маленькага бруднага пачварня з прагнымі вачыма й сьлінявым ротам. Але ж прывід зьнік. Сэм стаяў на каленях перад Фрода з тварам, скажоным ад болю, быццам працяты ў самае сэрца, зь сьлязьмі на вачох.

– Сэме мой! – загаласіў Фрода. – Што ж я сказаў? Што нарабіў? Прабач мне! І гэта пасьля ўсяго, што ты зьдзейсьніў дзеля мяне! Страшэнная моц у гэтай цацкі. Каб толькі яго аніколі, аніколі не знаходзілі! Не зьвяртай на мяне ўвагі, Сэме. Я мушу несьці свой цяжар на канца. Ты ня можаш стаць паміж мною й маім конам.

– Усё ў парадку, спадару Фрода, у парадку, – Сэм выцер рукавом вочы. – Я разумею. Але ж я ўсё-ткі магу дапамагчы, так? Бо мушу вас адсюль выцягнуць. І не адкладваючы! Але спачатку трэба вам адзеньня якога здабыць ды рыштунку, а тады й ежы трошку. Вопратку адшукаць лягчэй за ўсё. Раз мы ў Мордары, дык і апрануцца трэба па-мордарску. А ўвогуле, і выбару ж няма. Тут, баюся, будзе толькі оркава. Дый

я таксама пераапрануся. Калі ўжо пойдзем разам, дык лепей выглядаць аднолькава. А пакуль загарніцеся-тка вось у што!

Сэм адшпіліў свой шэры плашч ды накінуў Фрода на плечы. Тады зьняў заплечнік. Выцягнуў Джала з похваў. Лязо амаль не сьвяцілася.

– Вось на што я забыўся, спадару Фрода. Не, ня ўсё яны забралі. Вы ж, калі памятаеце, мне Джала пазычылі й фіял панны. Яны яшчэ ў мяне, так. Але ж дазвольце мне патрымаць іх яшчэ крыху, пане Фрода, бо я пайду пашукаю чаго-колечы. Пахадзіце пакуль што, разамніце ногі. Я неўзабаве вярнуся. Далёка йсьці ня трэба.

– Асьцярожней, Сэме! Вяртайся хутчэй. Тут мо яшчэ засталіся жывыя оркі, затаіліся дзе.

– Давядзецца рызыкнуць, – сказаў Сэм, крочыў да люка й сасьлізнуў па драбінах.

Праз хвіліну, аднак, галава ягоная зноў зьявілася над люкам. Сэм кінуў на падлогу доўгі нож:

– Вось, на выпадак патрэбы. Гаспадар ягоны мёртвы, ну, той, хто вас сьцябаў. Напэўна, сьпяшаўся надта, дык скруціў шыю. А цяперачка выцягнулі б вы драбіны, спадару Фрода, і не спускайце, пакуль я спокліч не назаву. "Эльберэт" – як эльфы кажуць. Аніводны орк такога ня вымавіць.

Фрода сядзеў пэўны час дрыжучы, і ў розуме ягоным адзін уяўны жах зьмяняўся другім, страшнейшым. Тады падняўся, захінуўся ў шэры эльфаў плашч дый, каб заняць розум чым іншым, захадзіў туды й сюды, абшукваючы й разглядаючы кожны кут сваёй турмы.

Праз колькі часу, хоць страх падоўжыў хвіліны ў гадзіны, Сэмаў голас загукаў зьнізу ціхенька: "Эльберэт, Эльберэт!" Фрода спусьціў лесьвіцу. Пыхкаючы, ускараскаўся Сэм зь вялізным цюкам на галаве. Наверсе скінуў яго, і той упаў, глуха бухнуўшы.

– Зараз хутчэй, спадару Фрода! Няшмат было шанцаў знайсьці штось дастаткова малое для вас і для мяне. Возьмем што ёсьць. Але трэба сьпяшацца. Я не сустрэў і ня ўбачыў нікога жывога, але мне неспакойна. Думаю, гэтае месца пад наглядам. Не магу растлумачыць, але адчуваю, нібыта адзін з тых мярзотных лятучых Вершнікаў лунае над намі, высока ў чарноцьці, так, што яго ня ўбачыць.

Распакаваў цюк. Фрода зірнуў на прынесенае з агідаю, але што было рабіць? Альбо апранаць, альбо ісьці голым. Сэм прынёс доўгія калматыя штаны з шкуры нейкай нячыстай ліхой істоты ды брудную скураную камізэльку. Фрода насунуў іх. На камізэльку надзеў браню з дужых кальчужных кольцаў для паўнамернага орка малую, а для Фрода надта доўгую й цяжкую. На яе прычапіў пас з кароткімі похвамі й шыракалёзым кордам. Сэм прыцёг і колькі орцкіх шаломаў. Адзін зь іх добра падышоў Фрода – чорны каўпак з жалезным краем і жалезнымі рабрынамі, абцягнутымі чорнаю скураю. Над дзюбай, прызначанай ахоўваць нос, тарашчылася чырвонае Ліхое Вока.

– Моргульскі рыштунак, які на Гарбагавых быў, лепей зладжаны ды лепей падышоў бы, – паведаміў Сэм. – Але ж, мяркую, несьці ў Мордар моргульскія пазнакі, асабліва пасьля таго, што тут адбылося, не выпадае. Ну вось, спадару Фрода, прабачце мне дзёрзкасьць, але ж з вас атрымалася ўзорнае малое арчанятка. Ці атрымаецца, калі вам яшчэ твар закрыць маскаю, дадаць доўгія рукі й зрабіць ногі крывымі. Тое-сёе, праўда, прыхаваць магчыма, – Сэм накінуў вялізны чорны плашч на Фродавы плечы. – Вось і ўсё! Можна ўзяць тарчы ды йсьці.

– А як наконт цябе? – спытаў Фрода. – Ці ж ня мусім мы выглядаць аднолькава?

– Ну, спадарыку Фрода, я так мяркую: лепей мне майго дабра не пакідаць за сабою, бо зьнішчыць мы яго ня здолеем. А орцкая браня на маю вопратку не налезе, так вось. Таму прыкрыюся – і ўсё.

Апусьціўся на калені й ахайна згарнуў эльфаў плашч. Той скруціўся ў дзівосна малы пакуначак. Хобіт склаў яго ў заплечнік. Тады падняўся, закінуў пляцак на сьпіну, насунуў орцкі шалом на галаву й накінуў на плечы чорны плашч.

– Вось і ўсё! Выглядаем досыць падобна. І рушыць трэба зараз жа!

– Я ўсю дарогу не прабягу, Сэме, – Фрода крыва пасьміхнуўся. – Ці даведаўся ты пра шынкі ўздоўж шляху? А мо забыўся пра ежу й пітво?

– Аёечкі, насамрэч! – Сэм ажно прысьвіснуў з адчаю. – Вось жа трасца якая, вы ж мне нагадалі, які я галодны! Ужо й ня памятаю, калі астатні раз якая кропля ці шматок на вусны траплялі. Я й забыўся цалкам, вас шукаючы. Адылі дазвольце-тка паразважаць. Апошні раз, калі глядзеў, у мяне шчэ было эльфавых хлябцоў ды таго, што гетман Фарамір даў, каб амаль два тыдні працягнуць. А ў біклажцы маёй хіба кропля на дне засталася. Аніяк таго на двох ня хопіць. А оркі – яны што, не ядуць і ня п'юць? Ці жывуць на адным смуродзе з атрутаю?

– Не, яны ядуць і п'юць. Цень, што ўтварыў іх, можа толькі кпліва нявечыць, а насамрэч новага ствараць ня здольны. Ня думаю, што ён даў жыццё оркам, толькі зруйнаваў ды сапсаваў нешта, і калі ўжо яны выйшлі жывыя, дык мусяць сілкавацца, як любыя іншыя жывыя стварэньні. Бруд піць і бруд есьці яны здольныя, калі лепшага ня знойдуць, але ж не атруту. Яны мяне кармілі, у гэтым мне крыху больш пашчасьціла, чым табе. Недзе тут мусяць быць і ежа, і пітво.

– Няма часу шукаць!

– Ну, тут троху прасьцей, чымся ты мяркуеш, – заўважыў Фрода. – Мне крыху пашанцавала, пакуль цябе не было. Насамрэч яны ня ўсё забралі. Я свой мех зь ежаю знайшоў сярод анучак на падлозе. Яны пакапаліся там, безумоўна. Але ж, лічу, і выгляд, і пах лембасаў ім прыйшліся не даспадобы, нават горш, чым Глыксу. Параскідалі шмат, паламалі й пакрышылі, але я пазьбіраў. Атрымалася амаль столькі, колькі ў цябе. Аднак Фараміраву ежу ўсю забралі й парэзалі маю біклажку.

– Тады й казаць няма чаго, – вынікаваў Сэм. – Напачатку хопіць. А вось з вадою мецьмем праблемы. Дык рушма, спадару! Хутчэй сыдзем адсюль, а то суцэльнае возера пітва не дапаможа!

– Ня сыдзем, пакуль ты не перахопіш чаго, – сказаў Фрода настойліва. – І слухаць тваё аднекваньне ня буду. Вось, вазьмі-тка эльфаў хлябец ды дапі, што засталося ў біклажцы! Справы нашыя ўвогуле безнадзейныя, так што няма патрэбы непакоіцца пра раніцу. Верагодней за ўсё, яна не настане.

Нарэшце рушылі. Скараскаліся па драбінах, а тады Сэм зьняў іх і паклаў у калідоры побач з скурчаным целам мёртвага орка. Спускаліся ў цемры, і толькі на пляцоўцы даху адбівалася сьвятло гары, пабляклае да густой хваравітай барвы. Падабралі дзьве тарчы, каб дапоўніць маскіроўку, дый рушылі далей.

Доўга кульгалі ўніз па вялікіх сходах. Верхняя камора вежы, якую толькі што пакінулі, падавалася ўжо амаль утульнай. Выйшлі ў адкрытыя калідоры, і адусюль патыхала жахам. Магчыма, анічога жывога не засталося ў Кірыт Унгале, але ж надта доўга жылі тут жах і ліха, і самыя камяні набрынялі імі.

Праз колькі часу хобіты дабраліся да дзьвярэй у вонкавы двор і спыніліся ля іх. Нават адтуль, дзе стаялі, адчувалася накіраванае на іх ліха Назіральнікаў – чорных маўклівых постацяў пааберуч брамы, празь якую няярка сачылася полымя Мордару.

Калі прабіраліся між пачварнымі целамі забітых оркаў, кожны наступны крок даваўся ўсё цяжэй. Яшчэ брамы ня сягнулі, а ўжо кроку не маглі зрабіць болей. Нават на цалю прасунуцца было балюча й надзвычай стамляльна для волі й члонкаў.

У Фрода на такое змаганьне моцы не засталося. Ён сеў, зьнясілены, на зямлю.

– Я не магу далей, Сэме, – вымавіў ціха. – Я самлею. Ня ведаю, што найшло на мяне.

– Я ведаю, спадару Фрода! – сказаў Сэм. – Трымайцеся! Гэта сама брама. Нячыста там. Але ж я прайшоў сюды й выйду адсюль. Наўрад ці выхад будзе небясьпечнейшы за ўваход. Ну, рушма!

Сэм зноўку выцягнуў фіял Галадрыелі. Нібыта ў павагу да Сэмавай дужасьці ды каб ушанаваць верную смуглявую хобіцкую руку, што зьдзейсьніла вялікія подзьвігі, фіял зьнянацку палыхнуў так моцна, што змрочны двор заліло зыркім сьвятлом, бы ад маланкі. Але ж чужая воля заставалася непарушнай і прайсьці не давала.

– *Гільтоніель*! *А Эльберэт*! – выгукнуў Сэм, бо невядомым чынам думкі ягоныя вярнуліся зьнянацку да эльфаў, і Шыру, і да песьні, што адагнала Чорнага Вершніка ў лесе.

– *Ая эленіан анкаліма*! – рэхам адгукнуўся Фрода ў яго за сьпінай.

Воля Назіральнікаў зламалася так раптоўна, нібы лопнула нацятая струна, і Фрода з Сэмам кульнуліся наперад. Дый пабеглі – праз браму, міма вялікіх паселых на стальцах постацяў з бліскучымі вачыма. Нешта храснула. Ключ-камень аркі бразнуўся долу амаль хобітам на пяткі, а мур над галавою абваліўся, загрукатаў каменьнем. Гібель прайшла на валасок ад сяброў. Бразнуў звон, і ад Назіральнікаў узьвіўся ў паветра танюткі жудасны енк. Далёка наверсе яму адказалі зь цемры. З чорных нябёсаў зьляцела стралою крылатая постаць, разьдзіраючы аблокі вусьцішным лямантам.

*2. Зямля Ценю*

Сэму якраз стала глуздоў сунуць фіял назад за пазуху.

– Бегма, спадару Фрода! – гукнуў ён. – Не, не туды! Там прорва за мурам! За мною!

Кінуліся наўцёкі ад крэпасьці. Праз паўсотні крокаў шлях збочыў за стромую скалу й схаваў хобітаў ад позірку з брамы. На момант пазьбеглі небясьпекі й прыціснуліся да скалы, аднаўляючы дыханьне, схапіўшыся за сэрцы. Усьсеўшыся на сьцяне побач з пабуранаю брамаю, дзіка й сьмяротна завішчэў назгул. Рэха загуло ад усіх скалаў.

Пераляканыя, пакульгалі, спатыкаючыся, далей. Неўзабаве дарога зноў рэзка павярнула – на ўсход, – на жудаснае імгненьне адкрыўшы хобітаў позірку з крэпасьці. Бегучы, азірнуліся й пабачылі вялізную чорную постаць на муры, а тады пабеглі долу ў стромую лагавіну, вычасаны ў камянёх калідор з крутымі сьценамі, што збягаў долу, каб злучыцца з моргульскім бальшаком. Сягнулі злучэньня. Ані знаку оркаў, ані адказу на крык назгула. Але ж ведалі: доўга гэтая цішыня не працягнецца. Паляваньне распачацьмецца ў любы момант.

– Не, так ня пойдзе, Сэме, – выдыхнуў Фрода. – Калі б мы былі сапраўдныя оркі, мусілі б бегчы да крэпасьці, не наадварот. Першы ж сустрэчны вораг нас распазнае. Трэ неяк сысьці з шляху.

– Ня можам, – запярэчыў Сэм. – Ва ўсялякім разе бяз крылаў.

Усходнія схілы Эфэл Дуату былі надта стромыя, абрываліся адхонамі да чорнай цясьніны, што ляжала перад унутраным хрыбтом. Непадалёк ад злучэньня пасьля яшчэ аднаго крутога спуску арачны мост уздыбіўся над прорваю, несучы шлях да нагрувашчаньняў на схілах і лагах Маргаяў. Адчайна хобіты кінуліся цераз мост, але ж не пасьпелі сягнуць другога боку, як пачулі выгук, а за ім – гоман. За сьпінамі, высока над хобітамі, на горным схіле лунала крэпасьць Кірыт Унгал, і яе камяні блядна адсьвечвалі. Зьнянацку яе грубы звон ударыў зноў і тады забіў часта хрыпатым трызвонам. І з-за мосту шматгалоса адгукнуліся. Глыбока ў цёмнай прорыні-цясьніне, адрэзаныя ад няпэўнага сьвятла Арадруйну, Сэм і Фрода не маглі бачыць далёка наперад, але ж чулі тупат падкаваных жалезам ботаў, і ляцеў ужо над шляхам перастук капытоў.

– Хутчэй, Сэме! Гэць з шляху! – выгукнуў Фрода.

Ускараскаліся на нізкія парэнчы мосту. На шчасьце, схілы

Маргаяў ужо ўзьняліся амаль на ровень шляху, і жудасная прорва болей не пагражала, але ж было надта цёмна, каб ацаніць, колькі давядзецца падаць.

– Ну, паехалі, спадару Фрода! – выдыхнуў Сэм. – Бывайце!

Крочыў уніз. Фрода за ім. І яшчэ пакуль ляцелі, пачулі, як праскакалі над імі вершнікі ды затупаталі ўвасьлед орцкія боты. Сэм зарагатаў бы, калі б адважыўся. Хобіты баяліся зваліцца з вышыні на нябачныя камяні й зьнявечыцца, але праляцелі ўсяго з тузін ступнёў і прызямліліся з трэскам і рыпам на тое, чаго найменей чакалі, – на перапляценьне калючых кустоў. Сярод іх Сэм і залёг, ціха абсмоктваючы падрапаную руку.

Калі тупат капытоў і ботаў сьціх, адважыўся прашапатаць:

– Аёечкі, спадару Фрода, я ж ня ведаў, што нешта можа расьці ў Мордары! А калі б ведаў, менавіта такога й чакаў бы. Гэныя шыпы, падаецца, ступню даўжынёю. Працялі ну ўсё, што я на сябе насунуў! Калі б толькі на мне была тая кальчуга!

– Орцкая кальчуга гэтых шыпоў не трымае, – адказаў Фрода. – Дый скураная камізэля таксама.

Выбірацца з зарасьцяў сталася нялёгка. Калючкі й шыпы былі мацнейшыя ад дроту й чапляліся, што кіпці. Калі нарэшце прадраліся, плашчы зьвісалі лахманамі.

– Зараз долу, Сэме, – прашаптаў Фрода. – Хутчэй уніз па даліне, а тады на поўнач так хутка, як толькі здолеем.

Вонкі над сусьветам зноў пачынаўся дзень. Далёка па-за смугою Мордару сонца караскалася на ўсходні ўскраек Міжзем'я, але тут усё было нібы пад начным змрокам. Гара Выраку задыміла, і агні яе згасьлі. Барвяныя водбліскі зьніклі з скалаў. Усходні вецер, што дзьмуў з часу, калі пакінулі Ітыльён, зараз зусім замёр. Павольна й цяжка прадзіраліся хобіты долу, спатыкаючыся, лезучы сярод камянёў, ды калючак, ды мёртвых дрэваў, між сьляпых ценяў, усё ўніз ды ўніз, пакуль далей ужо не было куды.

Там нарэшце спыніліся й паселі побач, прываліўшыся сьпінамі да валуна. Абодва сапрэлі.

– Калі б сам Шаграт паднёс мне шклянку вады, я паціснуў бы яму лапу, – вымавіў Сэм.

– Не кажы так! – абарваў яго Фрода. – Гэтак толькі горш.

Тады выпрастаў ногі, стомлены й змарнелы, і колькі часу маўчаў. Нарэшце зь цяжкасьцю ўзьняўся – і ўбачыў зьдзіўлена, што Сэм заснуў!

– Абудзіся, Сэме! – паклікаў ён. – Давай, час нам зноў намагацца.

Сэм падняўся, хістаючыся.

– Ну, я ж зусім ні адзіным вочкам! Напэўна, адключыўся. Даўнютка ўжо я ня спаў, спадару Фрода. Мае вочы ўпрост самі заплюшчыліся.

Фрода пайшоў наперадзе, кіруючы, як мог, на поўнач, прабіраючыся паміж каменьня й валуніскаў, што густа засейвалі дно вялізнай цясьніны. Аднак раптам спыніўся.

– Сэнсу ў ёй няма, Сэме, – вымавіў Фрода. – Ня здужу я зь ёю. З кальчугай. Не ў цяперашнім стане. Нават міфрыльная бронька падавалася цяжкой, калі я стамляўся. А гэта ж значна грубейшая. А якая карысьць зь яе? Мы ж ня будзем прарывацца з боем.

– Але ж, вераемна, у якую бойку й патрапім, – запярэчыў Сэм. – А тут яшчэ й нажы ўсялякія ёсьць ды стрэлы шалёныя. Глыкс жывы, вось у чым праблема. Не падабаецца мне думка пра тое, што паміж вамі й лязом аднекуль зь цемры – адна толькі скура.

– Ты паслухай, Сэме, хлопча мой. Я стомлены, надта стомлены. І надзеі ў мяне амаль не засталося. Але ж мушу рушыць да гары Выраку, пакуль здольны рухацца. Пярсьцёнка болей чым занадта для мяне. А залішняя вага мяне папросту забівае. Мушу скінуць яе. Але ж ня думай, што я ня ўдзячны. Мне нават і думаць ня хочацца пра бруд, які ты выцерпеў сярод мярцьвячыны, пакуль шукаў памер для мяне.

– Ды не кажыце вы пра тое, спадарыку Фрода, толькі каб вам было добра! Я вас на сьпіне панёс бы, каб мог. То хадзем тады!

Фрода зьняў плашч, сьцягнуў оркаву кальчугу й выкінуў прэч. Перасмыкнуў плячыма.

– Што мне насамрэч трэба, дык гэта нешта цёплае. Або пахаладнела, або я прастыў.

– Можаце мой плашч накінуць, спадару Фрода, – прапанаваў Сэм, а тады скінуў заплечнік, расшпіліў яго й дастаў эльфаў плашч. – Вось што я скажу: загарніцеся ва ўсё орцкае шмацьцё й пас прычапіце, а эльфаў плашч – зьверху. Вядома, не зусім па-

орцку выглядацьме, але ж вам цяплей. Да таго ж, мяркую, і ад бяды засьцеражэ лепей, чым любая іншая апратка ці рыштунак. Бо гэна ж панна зрабіла.

Фрода накінуў плашч і зашчапіў фібулку.

– Так лепей! Значна лягчэй. Іісьці далей магу. Аднак гэтая сьляпая цемра цісьне на сэрца. Калі ляжаў у каморы, Сэме, я намагаўся ўзгадаць Бранявін, і Ляснакуцьце, і на Ваду-ля-Стромы, што бяжыць праз млын у Хобіцку. Я не магу бачыць іх цяпер, Сэме.

– Зараз вы, спадару Фрода, пра ваду кажаце! Каб толькі панна магла бачыць альбо чуць нас, я сказаў бы ёй: Вашая найсьвятлейшая мосьць, усё, чаго жадаем мы, – гэта сьвятло й вада. Простая чыстая вада й звычайнае дзённае сьвятло лепшыя за любыя дыяманты, перапрашаю за дзёрзкасьць. Ды не, далёка да Лорыйну, – Сэм уздыхнуў ды махнуў рукою ў бок Эфэл Дуату, здагадацца пра які можна было толькі па цені, глыбейшым за чарноцьце чорных нябёсаў.

Рушылі далей. Неўзабаве Фрода прыпыніўся.

– Чорны Вершнік над намі, – сказаў ён. – Я чую яго. Лепей ня рухацца пакуль што.

Запоўзшы за вялізны валун, селі моўчкі, пазіраючы назад, на захад. Неўзабаве Фрода выдыхнуў з палёгкай: "Мінула!" Паўсталі й пачалі азірацца навокал, зьдзіўленыя. Леваруч, на поўдні, нябёсы шарэлі, і на іхнім тле чорнымі выразнымі абрысамі вымалёўваліся пікі й грабяні высачэзнага хрыбта. За сьпінамі распальвалася сьвятло. Павольна хобіты рушылі на поўнач. Наверсе ў нябёсах разыгралася сапраўдная бітва. Узьвіраныя мордарскія хмары гнала назад, іхнія краі разьляталіся рызманамі, бо вецер жывога сусьвету адмятаў смугу й дым да іхняй чорнай радзімы. Пад прыўзьнятую вусьцішную накрыўку сачылася ў Мордар шэрае сьвятло, нібы бледная раніца зазірала ў закарэлае турэмнае ваконца.

– Гляньце, пане Фрода! Гляньце! Вецер зьмяніўся! Нешта здарылася. Не па ягоным робіцца, так. Ягоная цемра над сусьветам разбураецца. Хацеў бы я пабачыць, што ж там дзеецца!

Была гэта раніца пятнаццатага сакавіка. Сонца ўздымалася над далінаю Андуйну. Над усходнім ценем задзьмуў паўднёва-заходні вецер. І Тэядэн канаў на полі Пеленару.

Пакуль Фрода з Сэмам глядзелі, паланіца ахінула ўвесь Эфэл Дуат. А тады зьявілася постаць, што стрымгалоў рушыла з захаду. Спачатку толькі чорная плямінка на зіхоткай паласе над вяршынямі гор, яна расла, пакуль ня ўрэзалася стралою ў чорнае покрыва высока над хобітамі. Летучы, узвыла пранізьліва, голасам назгула, аднак не было болей у тым голасе колішняй жуды. Енк гора й адчаю нёс горкія зьвесткі для Цёмнай вежы. Ачольца прывідаў пярсьцёнка сустрэў свой кон.

– Ці не казаў я вам – здарылася нешта! – гукнуў Сэм. – Шаграт хваліўся: "Няблага вайна йдзе", а Гарбаг зусім ня быў пэўны. І ён не памыліўся. Усё наладжваецца, га, спадару Фрода? Ці ня болей цяпер надзеі ў вас?

– Ну, Сэме, не нашмат, – Фрода ўздыхнуў. – Тое – за гарамі. А мы ідзем на ўсход, а не на захад. Я так стаміўся! І пярсьцёнак цяжэе, Сэме. Я бачу яго перад вачыма ўвесь час, нібы вялізнае вогненнае кола.

Сэмава імклівая радасьць адразу згасла. Ён зірнуў на гаспадара заклапочана, узяў за руку.

– Ну, ня трэба, спадарыку Фрода. Я толькі што атрымаў адно з двух, чаго болей за ўсё жадаў, – крыху сьвятла. Досыць, каб дапамагчы нам, хоць, ведаю, і небясьпека зь яго таксама. Паспрабуйце яшчэ крышачку прайсьці, а тады мы заляжам дзе-небудзь

ды адпачнем. А зараз падсілкуйцеся кавалачкам эльфавага хлябца. Мо крыху настрой падымецца.

Падзялілі блінок лембасу, ды ледзь яго пражавалі, бо ў роце цалкам перасохла. І паклыпалі далей. Хоць сьвятла хапіла ўсяго, каб ператварыць цемру ў шэрае сутоньне, сябры пабачылі: яны на самым дне глыбокай даліны між гор. Дно тое паціху падымалася на поўнач, а пасярод яго ляжала перасохлае рэчышча ручаіны. За ім пад адхонамі ўсходніх схілаў вілася набітая сьцежка. Каб ведалі, дык хутчэй яе сягнулі б, бо яна адлучалася ад моргульскага шляху ля заходняга краю мосту й па доўгай вычасанай у скалах лесьвіцы спускалася на дно цясьніны. Карысталіся ёю віжы ці пасланцы, каб хутчэй дабрацца да малых паўночных замчышчаў ці крэпасьцяў паміж Кірыт Унгалам ды цясьнінаю Ізенмуту, жалезных сківіцаў Карах Ангрэн.

Небясьпечна было хобітам крочыць па такой сьцежцы, але ж час прысьпешваў, а Фрода адчуваў, што ня здолее лезьці праз нагрувашчаньні валуноў і крывыя расколіны Маргаяў. Дый меркаваў, што ў паўночным напрамку паляўнічыя шукацьмуць у апошнюю чаргу. Усходні шлях на роўнядзі або заходні бальшак, што вядзе прэч з Мордару, – вось іх абшнараць спачатку. Толькі аддаліўшыся дастаткова ад Кірыт Унгалу, наважыцца Фрода шукаць якія сьцежкі на ўсход, да апошняй, адчайнай часткі сваёй вандроўкі. Таму хобіты перасеклі пустое рэчышча й рушылі па орцкай сьцязе, хапаючыся на кожным павароце за цэўі мечаў.

Болей не пасьвятлела, бо Арадруйн па-ранейшаму выванітоўваў вялізманыя аблокі дыму. Заходні вецер біўся аб іх, цясьніў іх, і яны ўздымаліся вышай і вышай дый разыходзіліся наверсе гіганцкай накрыўкай, чыя цэнтральная калёна вырастала зь ценяў у неабсяжную вышыню. Хобіты клыпалі болей за гадзіну, калі раптам пачулі тое, што спыніла іх. Неверагодны гук, але ж памыліцца нельга – гэта цьвірчэла вада. Леваруч з разлогу, такога рэзкага й вузкага, нібыта яго зрабілі ўдарам волатавай сякеры, высочвалася вада – магчыма, апошнія рэшткі нейкага салодкага дажджу, што нарадзіўся над сонечным морам і сустрэў урэшце горкі кон, праліўшыся на сьцены Чорнай зямлі, каб згубіцца бясплодна сярод пылу. Тут ён выбіваўся з скалы маленькім імклівым струменьчыкам, цёк празь сьцежку і, паварочваючы на поўдзень, хутка зьнікаў між мёртвых камянёў.

Сэм кінуўся да ручаіны, гукаючы:

– Калі толькі пабачу панну зноў, вось скажу ёй! Спачатку сьвятло, а цяпер вада! – тады спыніўся раптам і дадаў: – Дазвольце-тка мне выпіць першым, спадару Фрода.

– Добра, але ж месца тут і на двох хопіць.

– Не, я ня тое маю на ўвазе. Калі вада, ну, атрутная ці накшталт таго, і хутка наступствы, ну, калі вы мяне разумееце, дык тады лепей мне, чымся вам.

– Разумею, але думаю: лепей паспытаць удачы ці добраславеньня нашага разам, Сэме. Усё-ткі пасьцеражыся, бо вада можа быць ільдзяной!

Вада была не ільдзяною, хоць даволі халоднай, смак мела непрыемны, алейны й горкі адначасова, – так хобіты сказалі б ля родных хатаў. А тут пітво падалося смачнейшым за найсмачнейшае, так што смак перамог і страхі, і нават рацыю. Напіліся ўдосыць, а Сэм напоўніў біклажку. Пасьля таго Фрода палепшала, і сябры прайшлі яшчэ колькі вёрстаў, пакуль пашырэньне дарогі й грубы мур уздоўж яе не папярэдзілі, што блізка яшчэ адзін оркаў замак.

– Тут мы й збочым, Сэме, – абвесьціў Фрода. – Бо мусім павярнуць на ўсход.

Ён уздыхнуў і зірнуў на маркотныя хрыбты.

– У мяне якраз сілаў засталося, каб адшукаць якую дзірку з другога боку. А тады мушу адпачыць.

Ручво цяпер было ніжэй за сьцягу. Хобіты скараскаліся да яго й зьдзівіліся, бо знайшлі там цьмяныя лужыны, у якія сьцякалі струменьчыкі аднекуль зь верхніх крыніц. Ля заходніх гор мордарскі край хоць і быў блізкі да мёртвай пустэчы, але ж яшчэ ня цалкам зьнежывеў. Усё-ткі расло тут нешта, змагаючыся за жыцьцё, – нешта грубае, скурчанае, жорсткае. Па долах Маргаяў на другім баку даліны паўзьлі, сьцяліліся па скалах нізкія ўчэпістыя дрэвы, пукі грубай травы прабіваліся між камянёў, за іх чаплялася ссохлая цьвіль. І паўсюль тырчэлі вялізныя, перакурчаныя, пераблытаныя калючкі. Якія зь іх пагражалі даўжэзнымі тонкімі шыпамі, іншыя вытыркалі крукі-лёзы, што рэзалі ня горш ад нажа. Змарнелыя, ссохлыя леташнія лісты яшчэ віселі на іхніх галінах, скрыгочучы й шорхаючы на бязьлітасным ветры, а новыя пупышкі, хоць ледзь пачалі адкрывацца, ужо кішэлі чарвякамі. Рудыя, шэрыя, чорныя мухі, таўраваныя, бы оркі, барвянаю плямкаю ў форме вока, дзумкалі над галавою й джалілі, а над кустамі калючак віліся й клубіліся аблокі галоднага гнюсу.

– Няма карысьці з орцкага рыштунку, – выдыхнуў Сэм, махаючы рукамі. – Каб мне яшчэ й оркаву скуру!

Нарэшце Фрода ня здолеў ісьці далей. Хобіты дабраліся да вузкай, добра схаванай цясьнінкі, але ж трэ было ісьці ды ісьці, пакуль не сягнеш апошняга каржакаватага хрыбта.

– Сэме, я мушу адпачыць і паспаць, калі здолею, – вымавіў Фрода.

Азірнуўся навокал, але ж у гэтай нягеглай мясьціне нават жывёліне не было б куды запаўзьці. Нарэшце вытамленыя ўшчэнт хобіты залезьлі пад калючкі, што зьвісалі дыванам зь нізкай скалы.

Там селі й падсілкаваліся. Захоўваючы лембасы на чорны дзень, зьелі палову Фараміравай ежы, што заставалася ў Сэмавым заплечніку: колькі сухой садовіны й кавалачак вэнджанага мяса; запілі вадою. Хоць напіліся з лужынаў у рэчышчы, зноў адчулі смагу. Горыччу набрыняла мордарскае паветра, ад яе перасыхала ў роце. Калі Сэм думаў пра ваду, нават ягоны жыцьцярадасны настрой вагаўся. А за Маргаямі давядзецца перасякаць жудасную роўнядзь Гаргарату!

– Вы першым пасьпіце, спадару Фрода, – вымавіў ён. – Бо зноў вечарэе. Мяркую, дзень ужо амаль скончыўся.

Фрода ўздыхнуў дый заснуў, ледзь Сэм пасьпеў дагаварыць. А той, змагаючыся з уласнаю стомаю, узяў Фродаву руку й сядзеў так да глыбокай ночы. Тады нарэшце, каб не заснуць, выпаўз з схованшча й вызірнуў вонкі. Мясьціны навокал, падавалася, поўніліся скрыгатам, трэсканьнем ды ўсялякімі шоргатамі, але ж ня чулася ані голасу, ані тупату крокаў. Высока над Эфэл Дуатам на захадзе начныя нябёсы ўсё яшчэ былі сьветлыя. Там праз расколіну ў аблоках высока над вяршынямі гор Сэм заўважыў пробліск белай зоркі. Ейная прыгажосьць над чорнай, забытай зямлёю сьціснула ягонае сэрца, і надзея адрадзілася. Ясным і халодным промнем працяла думка: урэшце цень – рэч малая, цень абавязкова міне, бо заўжды існуе сьвятло й высокае хараство, недаступнае яму. Сэмаў сьпеў у вежы нарадзіўся хутчэй з адчайнай непакоры, чым з надзеі, бо тады думаў пра сябе. А цяпер на нейкі момант і ўласны лёс, і лёс гаспадара перасталі турбаваць яго. Ён запоўз назад пад калючкі й улёгся побач з Фрода, а тады, адкінуўшы ўсе страхі, спакойна й бесклапотна заснуў.

Прачнуліся разам. Сэм пачуваўся амаль адноўленым, гатовым да наступнага дня. А Фрода ўздыхнуў. Спаў ён дрэнна, сьніў полымя, і абуджэньне не прынесла

радасьці. Усё-ткі сон быў ня цалкам бескарысным і трохі суняў стому. Фрода памацнеў, дадалося сілаў несьці далей цяжар. Колькі часу, хобіты ня ведалі, ня ведалі і колькі спалі. Пасьля глытка вады й кавалка ежы рушылі ўверх па цясьніне, пакуль не ўтыкнуліся ў стромы схіл з камянямі, што пагражалі абваламі. Тут сканчаліся апошнія прыкметы жыцьця: вяршыні Маргаяў ня мелі аніякай расьліннасьці – голыя, пустыя вызубраныя каменныя пліты.

Пасьля мноства пошукаў і бадзяньняў хобіты нарэшце знайшлі, дзе падняцца; сотня ступнёў карасканьня й небясьпечнага чапляньня за хісткія камяні – і сябры сягнулі верху. Прайшлі праз расколіну паміж дзьвюма змрочнымі скаламі й за ёю апынуліся на самым краі апошняга мордарскага бар'еру. Пад імі на дне прорвы пятнаццаць сотняў ступнёў вышыні разьвіналася роўнядзь, хаваючыся ўдалечы ў змрочнай бясформавай смузе. Вецер дзьмуў з захаду, і велічэзныя высокія хмары плынелі на ўсход, але ж толькі бляклае шэрае сьвятло сягала вусьцішных палёў Гаргарату. Дымы там сьцяліліся па зямлі, зьбіраліся ў лагчынах. З расколінаў у глебе струменілася пара.

Яшчэ далёка, сама менш вёрстаў за сорак, убачылі яны гару Выраку з узножжам, загрувашчаным папяловымі аскепкамі, – велізарны, высачэзны кучмень, з схаванай аблокамі вяршыні якога сачыўся дым. Агні гары прыгасьлі, і стаяла яна пакуль што ў прытлелай дрымоце, пагрозьлівая й злавесная, нібы сонны драпежнік. А за ёю лунаў вялізманы цень, змрачнейшы ад навальнічнай хмары: заслона Барад-дуру ўздыбілася на доўгім, выцягнутым на поўдзень плячы гор Попелу. Глыбока задумаліся ў Цёмнай вежы, і Вока зьвярнулася ў сябе, абмяркоўваючы выявы пагрозьлівыя й сумнеўныя, бо ўбачыла зыркі меч, суворы валадарны твар і пакуль што амаль ні на што іншае ўвагі не зьвяртала. Усю веліканскую цьвярдыню – брама на браме, вежа на вежы – агарнуў злавесны змрок.

Фрода з Сэмам паглядалі, напалову згідзіўшыся, напалову зьдзівіўшыся, на гэтую ненавісную зямлю. Паміж імі й смуроднай гарою ды на поўдзень і на поўнач ад яе ўсё падавалася зруйнаваным і мёртвым, выпаленай, здушанай пустэчай. Дзівосна, як толькі гаспадар Цёмнай зямлі трымаў і карміў сваіх рабоў ды войскі? Бо войскі ж ён насамрэч меў. Паўсюль, куды толькі сягаў хобіцкі позірк, уздоўж схілаў Маргаяў і далей на поўдзень, цягнуліся вайсковыя лягеры, некаторыя з намётаў, а іншыя зладжаныя, што мястэчкі. Адзін з найвялікшых быў проста перад хобітамі. Мо зь вярсту ад іх на роўнядзі нібы згрувасьцілася магутнае гняздо нейкіх мурашоў: доўгія шэрагі хацінак і даўжэразных нізкіх нягеглых будовінаў. Вакол мітусілася безьліч народу. Ад лягеру шырокі шлях вёў на паўднёвы ўсход, дзе далучаўся да моргульскага бальшаку, па ім сьпяшалася мноства шэрагаў маленькіх чорных постацяў.

– Не падабаецца мне ўсё гэта, ну зусім, – уздыхнуў Сэм. – Безнадзейна, я сказаў бы. Адно толькі: дзе столькі сабралася тых пачвараў, там будуць і калодзежы ці крыніцы, ня кажучы пра ежу. А тое ж людзі, ня оркі, калі мяне вочы цалкам не падманваюць.

Ані ён, ані Фрода нічога ня ведалі пра вялізныя палі на поўдні гэтай неабсяжнай краіны, далёка ад дымоў гары Выраку, дзе ля цьмяных маркотных водаў возера Нурнен працавалі мордарскія рабы. Ня ведалі й пра бальшакі, што вялі на Поўдзень і на Ўсход, да земляў даньнікаў, пра доўгія караваны вазоў з дабром, здабычаю й новымі рабамі, гнаныя ваярамі Цёмнай вежы. У паўночных жа частках знаходзіліся кузьні й капальні, тут зьбіраліся на даўно заплянаваную вайну войскі й тут чорная моц расстаўляла іх, бы фігуры на шахматнай дошцы, дзеля нападу. Першыя рухі,

першыя спробы на Захадзе, Поўначы й Поўдні не ўдаліся. Таму гаспадар адвёў пакуль што сілы, гуртуючы войска ля Кірыт Гаргару для ўдару помсты. А таксама гэта сталася найвыдатнейшай абаронай гары ад любога, хто адважыўся б наблізіцца.

– Ну й трапілі! – працягнуў Сэм свае развважаньні. – Што б яны ні елі й ні пілі, нам да таго не дабрацца. І спуску тут няма, як я бачу. І не перабярэмся мы праз голую роўнядзь, на якой ворагаў кішма кішыць.

– І ўсё-ткі нам трэба паспрабаваць, – запярэчыў Фрода. – Я не чакаў лепшага. Я ніколі й не спадзяваўся дабрацца. І цяпер надзеі ў мяне няма. Аднак мушу зрабіць, што здолею. Зараз у нас адна задача: пазьбегнуць палону, пакуль магчыма. Таму, мяркую, рушым на поўнач, дзе роўнядзь вузейшая, а там пабачым.

– Думаю, там будзе горш. Дзе вузей, там оркі зь людзьмі гусьцей. Запомніце мае словы, спадару Фрода.

– Напэўна, запомню, калі дайду так далёка, – вымавіў Фрода й адвярнуўся.

Неўзабаве выявілі, што паўзь верх Маргаяў ці паблізу верху прабрацца немагчыма, бо сьцежак там не было, а хрыбет расьсякалі глыбокія логі. Урэшце спусьціліся па той самай лагчавіне, па якой падымаліся, і сталі шукаць шлях па даліне. Тое давалася цяжка, бо на сьцежку ўздоўж заходняга боку выбрацца не адважваліся. Праз вярсту ці каля таго пабачылі мур й купу каменных хацінак, што прыляпіліся да ўзножжа скалы вакол цёмнай пячорнай зеўры, – оркаў лягер, пра блізкасьць якога здагадаліся раней. Аніякага руху хобіты не заўважылі, але ж усё адно краліся асьцярожненька, прабіраючыся па калючых кустах, якімі ў гэтым месцы густа зарасьлі абодва берагі рэчышча.

Прайшлі яшчэ дзьве-тры вярсты, і орцкі лягер зьнік за сьпінамі. Аднак не пасьпелі ўздыхнуць з палёгкай, як пачулі грубыя й гучныя орцкія галасы. Сябры адразу схаваліся за рудым нізкім кустом. Галасы наблізіліся. Вось і першая пара оркаў. Адзін – нейкай дробнай пароды, чарнаскуры, з шырачэзнымі трапяткімі наздрынамі, апрануты ў цёмна-рудыя лахманы й узброены лукам з рогу. Напэўна ж нейкі выведнік ці сьледапыт. Другі – вялікі орк-ваяр, падобны да оркаў Шагратавай каманды, з пазнакаю Вока. Таксама з лукам, прымацаваным за сьпінаю, з кароткай шыракалёзай дзідай у лапе. Як і заўсёды, оркі сварыліся, а паколькі належалі да розных пародаў, сварыліся на Агульнай мове, перайначанай на свой лад.

Усяго крокаў за дваццаць ад месца, дзе хаваліся хобіты, меншы орк спыніўся.

– Гы! – фыркнуў ён. – Я дахаты.

І паказаў на орцкі лягер на другім баку даліны.

– Няма сэнсу нос на гэтых камянёх псаваць. Тут аніякіх сьлядоў не засталося. Цябе слухаючыся, сьлед і згубіў. У горы сьлед пайшоў, не па даліне, кажу табе.

– Аніякай карысьці з вас, нюхачоў недарослых, – буркнуў вялікі орк. – Вочы лепшыя за вашыя саплівыя насы.

– І што жты імі бачыў? Гы! Ня ведаеш нават, каго шукаем.

– І чыя тут віна? Не мая ж. Тое зь Верху прыйшло. Напачатку кажуць – вялізны эльф у зыркай брані, тады – нейкі ці то гном, ці то чалавек недарослы, а пасьля – банда бунтоўных урук-хаяў ці мо ўсё разам.

– Каб табе! – фыркнуў сьледапыт. – Самі яны глузды страцілі, вось што. А з каго-кольвек наверсе таксама й скуру злупяць, мяркую, калі праўда ў чутках. Кажуць, налёт быў на ваш замак, сотні вашых ухайдохалі, а вязень уцёк. Калі гэткім чынам вы, ваяры, справы ладкуеце, дык благія зьвесткі з вайны не зьдзіўляюць.

– Хто кажа, што зьвесткі благія?

– Га! А хто кажа, што не?

– Тое клятыя бунтоўныя прамовы, і калі не затыкнесься, я цябе на дзіду насаджу!

– Добра, добра! Болей казаць ня буду, буду толькі думаць. Але пры чым тут чорны гэты праныра? Шныр той з пляскатымі лапамі?

– Ня ведаю. Мо й ні пры чым. Не на добрае ён тут шныпарыць ды вынюхвае, маё табе слова. Кляты пачварань! Як толькі ад нас уцёк, прыйшлі зьвесткі, што яго жыўцом трэба браць, і як мага хутчэй.

– Спадзяюся, ужо ўзялі й разьбіраюцца цяпер, – прабурчэў сьледапыт. – Бо сьляды спаскудзіў, падхапіўшы кальчужку тую скінутую дый цяпаючы паўсюль навокал.

– Яна яму жыцьцё ўратавала. Я ж, ня ведаючы яшчэ, што жыўцом трэба, стрэліў, дакладненька, з паўсотні крокаў ды ў сьпіну. А ён усё адно ўцёк.

– Гы, ды ты прамазаў! Спачатку стрэліш бязглузда, бегчы толкам ня можаш, а тады па небаракаў сьледапытаў шлеш. Усё, досыць мне з табою бадзяцца.

І паклыпаў прэч.

– А ну стой! – загадаў ваяр. – А то я на цябе данясу!

– Каму? Не твайму ж каштоўнаму Шаграту. Болей ня быць яму кашталянам.

– Я твой нумар і імя назгулу скажу, – тут ваяроў голас сьцішыўся да шыпу. – Адзін зь *іх* зараз ачольвае замак.

Меншы орк прыпыніўся, і голас ягоны зазьвінеў страхам і шаленствам.

– Кляты баязьлівы стукач! – загаласіў ён. – Справы сваёй рабіць ня можаш, нават з сваімі трымацца ня здольны! Дык ідзі да сваіх гідкіх віскуноў, і каб яны табе мяса з костак адмарозілі! Кажуць, іхняга найпершага ўжо прыстукнулі. Спадзяюся, тое праўда!

Вялікі орк кінуўся на меншага зь дзідаю ў руцэ. А сьледапыт, скочыўшы за камень, пусьціў стралу проста ў вока "сябру", і вялізны ваяр на бягу грымнуўся долу. Малы ж орк пабег праз даліну й неўзабаве зьнік.

Пэўны час хобіты сядзелі моўчкі. Нарэшце Сэм вымавіў:

– Ну, я сказаў бы: ліха ліху блага. Каб гэткае сяброўства было па ўсім Мордары, дык нашых праблемаў напалову паменшала б.

– Цішэй, Сэме, – прашаптаў Фрода, – іншыя, магчыма, непадалёк. Нам надта пашанцавала, бо ўсё вісела на валасінцы. Паляўнічыя ўзялі наш сьлед хутчэй, чым я думаў. А ты бачыў самы дух Мордару, ягоную сутнасьць, Сэме, і ў кожным мордарскім куце ён менавіта такі. Оркі заўжды паводзілі сябе менавіта так – ці так кажуць усе паданьні, – калі сам-насам заставаліся. Аднак не выводзь з таго шмат надзеі. Нас яны ненавідзяць нашмат болей, чым адзін аднаго, ненавідзяць усе разам увесь час. Калі б гэтыя двое нас пабачылі, то забыліся б на ўсе свае сваркі, пакуль не забілі б нас.

Замаўчалі зноўку й надоўга. Тады Сэм загаварыў першы, але шэптам:

– Ці чулі вы, што казалі яны пра "чорнага праныру", спадару Фрода? Ці казаў я вам, што Глыкс жывы?

– Так, казаў. Я яшчэ зьдзівіўся, адкуль ты ведаеш. Ну, давай зараз распавядай. Мяркую, нам лепей ня рухацца, пакуль не сьцямнее. Так што распавядзі мне ўсё, што ведаеш, усё пра апошнія здарэньні. Толькі ціха, калі можна.

– Я паспрабую, хоць калі ўзгадваю таго сьмердзюка, такая злосьць бярэ, што галасіў бы голасна.

Тады хобіты ўладкаваліся пад прыкрыцьцём калючага куста, і, пакуль маркотнае сьвятло Мордару павольна згасала ў глыбокай, бяззорнай ночы, Сэм распавядаў ціхенька Фрода на вуха ўсё, для чаго толькі мог адшукаць словы, пра здрадны

Глыксаў напад, пра жахлівую Шэлаб ды ўласныя прыгоды сярод оркаў. Калі скончыў, Фрода не сказаў анічога, толькі ўзяў Сэмаву руку й сьціснуў.

– Добра. Мяркую, нам зноў трэба рушыць, – вымавіў нарэшце. – Цікава, праз колькі часу нас усё ж такі схопяць і ўсе нашыя адчайныя намаганьні й карасканьні пойдуць прахам.

Ён устаў.

– Зараз цёмна, і фіял панны нельга выкарыстаць. Трымай яго ў бясьпецы для мяне, Сэме. Мне няма дзе захоўваць яго цяпер, хіба што ў руцэ, але ў начной цемры мне спатрэбяцца абедзьве рукі. А Джала я дару табе. У мяне ёсьць орцкі нож, але ж думаю, што наўрад ці мне давядзецца біцца хоць калі.

Цяжка й небясьпечна было рушыць ноччу па бясьсьцежкавых гарах. Аднак павольна, увесь час спатыкаючыся, хобіты лезьлі гадзіну за гадзінай уздоўж усходняга краю камяністай даліны. Калі шэрае сьвятло зноў напаўзло на заходнія вяршыні – нашмат пазьней за раніцу ў землях за гарамі, – хобіты зноў схаваліся й паспалі крыху па чарзе. Калі наступала Сэмава чарга вартаваць, яго апаноўвалі думкі пра ежу. Нарэшце, калі Фрода абудзіўся й загаварыў пра сьнеданьне й новы пераход, Сэм задаў пытаньне, што турбавала яго болей за ўсё:

– Прашу прабачэньня, спадару Фрода, але ж ці ўяўляеце вы, колькі нам яшчэ йсьці?

– Не, не ўяўляю. У Долым Яры перад нашым сыходам мне паказалі мапу Мордару, якую зрабілі да таго, як Вораг вярнуўся сюды. Але ж згадваецца яна цьмяна. Ясьней за ўсё памятаю, што ёсьць на поўначы месца, дзе доўгія адгор'і заходняга й паўночнага хрыбтоў амаль датыкаюцца. Да таго месца ад мосту ля Кірыт Унгал сама менш дванаццаць міляў. Там, магчыма, нам лепей за ўсё прабрацца праз роўнядзь. Вядома, калі туды дабярэмся, дык да гары будзем далей, вёрстаў шэсьцьдзесят, мяркую. А ад мосту мы адышлі, мяркую, міляў на сем. Нават калі ўсё пойдзе файна, я наўрад ці здолею сягнуць гары раней чымсьці праз тыдзень. Баюся, Сэме, што ноша мая зробіцца яшчэ цяжэйшай, і чым бліжэй мы будзем, тым павольней буду ісьці.

– Якраз таго я й баяўся, – уздыхнуў Сэм. – Ну, ваду ўжо ня згадваю, але мусім есьці крыху меней, спадару Фрода, альбо рушыць крыху хутчэй, ва ўсялякім разе пакуль мы ў даліне. Яшчэ кусьнем разок, і ежы канец, апрача толькі эльфавых хлябцоў.

– Я паспрабую рухацца жвавей, Сэме, – вымавіў Фрода, глыбока ўздыхнуўшы. – Ну рушма тады! Пачнем новы пераход!

Яшчэ не зусім сьцямнела. Хобіты клыпалі наперад, у ноч. Гадзіны міналі ў цяжкім карасканьні, прыпынкаў было няшмат, і да таго ж кароткіх прыпынкаў. Як з-пад ускрайкаў вялізнай дымавой завесы засьвятлела, хобіты схаваліся зноў у цёмнай яміне пад навіслай скалою.

Пацiху днела. Моцная віхура з захаду цяпер цясьніла мордарскі дым нават і ў вышыні. Неўзабаве хобіты маглі ўжо разгледзець абрысы мясцовасьці на колькі вёрстаў наперад. Дно правалу паміж Эфэл Дуатам і хрыбтом Маргаяў на поўначы падымалася, і Маргаі ператвараліся ва ўступ на стромых унутраных схілах большых гор. Але ж на ўсходзе, на роўнядзі Гаргарату схілы заставаліся адхонамі. Наперадзе рэчышча сканчалася, утыкаючыся ў расьсечаныя логамі скальныя прыступы, бо тут ад галоўнага хрыбта адыходзіла адгор'е, прасоўваючыся сьцяной на ўсход. Насустрач яму з шэрых засмужаных Эрэд Літуі адыходзіла другое вузкае адгор'е, бы працягнутая рука, заставаўся толькі вузкі праход, Карах Ангрэн, Жалезная Пашча, за

якой ляжала глыбокая даліна Ўдун. Тая даліна, загароджаная звонку Марананам, шчэрылася тунэлямі й глыбокімі збраярнямі, зробленымі паслугачамі Мордару для абароны Чорнай Брамы сваёй зямлі. Там цяпер Чорны Ўладар пасьпешліва зьбіраў найвялікшае войска, каб сустрэць правадыроў Захаду. На адгор'ях былі пабудаваныя замкі й вялізныя крэпасьці, палалі вартавыя агні, а праз увесь праход цягнуліся вал ды глыбокі роў перад ім, церазь які вёў толькі адзіны мост.

За некалькі вёрстаў на поўнач, высока ў куце, дзе заходняе адгор'е адгаліноўвалася ад хрыбта, стаяў стары замак Дуртанг, які цяпер зрабіўся адным з мноства орцкіх жытлішчаў, раскіданых па даліне Ўдун. Шлях, ужо бачны ў праясьнелым сьвятле, віўся долу ад яго, а за вярсту-дзьве ад таго месца, дзе хаваліся хобіты, збочваў на ўсход і па палічцы ў баку адгор'я спускаўся на роўнядзь, да Ізенмуту.

Для хобітаў усё выглядала так, быццам іхняя вандроўка на поўнач сталася цалкам бессэнсоўнаю. На змрочнай і задымленай роўнядзі праваруч ня бачылася ані войскаў, ані вайсковых намётаў, але ж увесь той край быў пад наглядам фортаў Карах Ангрэну.

– Мы зайшлі ў тупік, Сэме, – вымавіў Фрода. – Каб далей рушыць, трэба йсьці да той оркавай вежы, а адзіны шлях да яе – той, што ад яе спускаецца. Хіба назад павярнуць. Бо ані на захад, ані на ўсход мы не ўскараскаемся.

– Тады мусім рушыць па шляху, спадару Фрода. Мусім папрабаваць, калі ёсьць якая ўдача ў Мордары. Бо астатняе ўсё роўна: альбо бадзяцца, альбо назад паварочваць, альбо адразу здацца. Бо ежы ж няма! Мусім прабегчы хуценька!

– Добра, Сэме. Вядзі мяне, пакуль у цябе застаецца надзея. Бо ў мяне яе ўжо нямашака. Толькі я ня здолею хуценька, я паклыпаю ўвасьлед за табою.

– Перад клыпаньнем, спадару Фрода, выспацца вам трэба дый падсілкавацца. Ну, давайце, паспрабуйце таго й гэтага!

Ён даў Фрода вады й на блінок лембасу болей ды зрабіў з свайго плашча падушку. Фрода быў надта стомлены, каб спрачацца, а Сэм і не прызнаўся, што гаспадар выпіў апошнюю ваду й зьеў Сэмаву долю ежы разам з сваёю. Калі Фрода заснуў, Сэм нахіліўся над ім, прыслухаўся да подыху й уважліва разглядзеў твар: схуднелы, з абвостранымі рысамі, Фрода ўсё ж ува сьне падаваўся задаволеным і пазбаўленым страху.

– Ну, гэтак яно павярнула! – прамармытаў Сэм сабе пад нос. – Трэ мне пакінуць вас на крышачку дый выпрабаваць удачу. Бо мусім жа знайсьці ваду альбо болей ня здолеем ісьці.

Сэм выпаўз і, крадучыся ад каменя да каменя нават асьцеражней, чым звычайна хобіты, спусьціўся да ручва, прайшоў па ім колькі на поўнач, пакуль не сягнуў каменных прыступак, дзе калісьці даўно ўвесну, напэўна, скакаў долу маленькі вадаспадзік. Усё цяпер падавалася ссохлым і маркотным, але ж, не паддаючыся адчаю, Сэм стаяў ды прыслухоўваўся – і, да сваёй буйнай радасьці, злавіў танюткае дзынканьне. Ускараскаўшыся крыху, знайшоў маленечкі струменьчык цьмянай вады, што высочвалася з боку гары, зьбіраючыся ў невялічкай лужыне, перацякала церазь яе край ды хавалася пад голымі камянямі.

Сэм пакаштаваў: вада падалася прыдатнай. Тады напіўся ўдосыць, напоўніў бутэльку й павярнуўся, каб ісьці назад. І ў гэты момант заўважыў пробліск нечага чорнага, цень, што мільгануў сярод камянёў непадалёк ад Фрода. Ледзь ня выкрыкнуўшы ад злосьці, Сэм скочыў уніз і пабег, peралятаючы з валуна на валун. Хобіт ледзь пабачыў пачвару – надта сьцярожкі, – але сумневаў ня меў. Толькі

прагнуў ухапіць злыдня за кастлявую шыю. Але той пачуў Сэмава набліжэньне й адразу сьлізнуў прэч. Сэм падумаў, што, напэўна, пабачыў яго яшчэ раз, калі той вызірнуў за край стромага ўсходняга адхону, а тады адсунуўся й зьнік.

– Ну, удача мяне не падвяла, – прамармытаў сабе Сэм, – хоць зноў на валасок прайшоў! Ці ж мала нам тысячаў оркаў? Яшчэ й гэты смуродны зладзюга вокал шнырыць! Каб жа яго падстрэлілі!

Сеў побач з Фрода, ня будзячы яго, але сам заснуць не адважыўся. Нарэшце, калі адчуў, што вочы наўпрост зьліпаюцца й болей ад сну не ўтрымацца, асьцярожна пабудзіў сябра.

– Баюся, Глыкс ізноў недалёка, спадару Фрода. Ну, ці калі гэта ня ён, тады існуюць два такія. Я пайшоў па ваду й не пасьпеў абярнуцца, як яго заўважыў. Мяркую, небясьпечна нам абодвум спаць адначасова, таму прашу прабачэньня – я павекі ўжо разьнімаць ня здольны.

– Ды калі ласка, Сэме! Кладзіся й пасьпі! І ўсё-ткі Глыкс для мяне лепшы за оркаў. Ва ўсялякім разе, ён нас ня выдасьць, калі яго самога ня схопяць, вядома.

– Але ж ён сам па сабе можа ўчыніць ліха ці забойства, – прабурчэў Сэм. – Вы ўжо сачыце, спадару Фрода! Вады поўная біклажка. Піце ўдосыць, бо напоўнім зноўку, калі рушым.

І Сэм праваліўся ў сон.

Калі прачнуўся, сьвятло ўжо амаль згасла. Фрода сядзеў, абапершыся сьпінаю аб камень, і спаў. Біклажка спусьцела. Глыкса ж і сьледу не было.

У Мордар вярнулася цемра, і люта запалалі барваю вартоўныя вогнішчы на гарах, калі хобіты рушылі ў найнебясьпечнейшую частку сваёй вандроўкі. Пайшлі спачатку да крынічкі, а тады, ускараскаўшыся асьцярожна, выбраліся на дарогу ў тым месцы, дзе яна збочвала да Ізенмуту, да якога заставалася вёрстаў дваццаць. Нешырокі шлях ня меў на краі ані сьцяны, ані агароджы, а прорва леваруч, за краем, усё глыбела. Хобіты ня чулі гуку аніякіх рухаў і, паслухаўшы крыху, паклыпалі на ўсход.

Прайшоўшы вёрстаў дванаццаць, сябры спыніліся за паваротам на поўнач, які загарадзіў ад погляду адоленую частку бальшаку. Вось тое й абярнулася ім на згубу. Адпачылі колькі хвілінаў і рушылі далей, але нядоўга, бо зьнянацку сярод начнога спакою пачулі гук, якога ўвесь час баяліся й з жахам чакалі: тупат мноства ног. Ён ляцеў ззаду яшчэ даволі здалёку, але першыя паходні мільгалі за вярсту ці каля таго й рухаліся хутка. Надта хутка. Фрода ня здолеў бы ўцячы ад іх па бальшаку.

– Гэтага я й баяўся, Сэме, – вымавіў Фрода. – Мы даверыліся ўдачы, а яна падманула нас. Мы ў пастцы.

Зірнуў зьдзічэла на сьцяну скалаў над шляхам, зь якой будаўнікі даўніны счасалі камень на шмат сажняў над галовамі хобітаў, зрабіўшы схіл адвесным. Пабег да другога боку, зірнуў за край, у чорную тхлань.

– Усё, насамрэч патрапілі! – і сеў на зямлю побач з мурам, нахіліўшы галаву.

– Падаецца, так, – пагадзіўся Сэм. – Ну, пачакаем і пабачым, што адбудзецца, бо што яшчэ застаецца?

І сеў поруч з Фрода ў цень ля скалы.

Доўга чакаць не давялося. Оркі беглі хутка. Першыя шэрагі несьлі паходні. Вось яны – чырвонае полымя сярод ночы, і так хутка павялічваюцца! Зараз і Сэм нахіліў галаву, спадзеючыся схаваць твар, калі оркі з паходнямі дабягуць да яго. Дый тарчы паставіў перад каленьмі, каб прыкрыць ступні.

"Вось бы ў пасьпешлівасьці яны пакінулі пару стомленых ваяроў у спакоі дый беглі сабе далей!" – падумаў ён.

І напачатку падалося: так яно й выйдзе. Першыя оркі пратупалі, цяжка дыхаючы, апусьціўшы галовы. Была тое банда меншых оркаў, якіх супраць волі гналі на вайну іхняга Чорнага Ўладара, і ўсё, што займала іх, – гэта скончыць хутчэй рух ды пазьбегнуць пугі. Бо пааберуч, то адстаючы, то забягаючы ў галаву калёны, рушылі два вялізныя лютыя ўрук-хаі, ляскаючы пугамі й лаючыся. Шэраг за шэрагам мінаў побач, і здраднае сьвятло паходняў было ўжо далёка наперадзе. Сэм прытрымаў дыханьне. Болей за палову калёны ўжо мінула. І тады зьнянацку адзін з паганятых заўважыў дзьве постаці ля краю шляху. Ён махнуў на іх пугаю й загаласіў:

– Гэй, вы! Устаць!

Адказу не было, тады орк крыкам спыніў увесь разьдзел.

– Устаць, сьлімакі! Ня той час, каб лайдачыць!

Крочыў да іх і нават у змроку пазнаў знакі на іхніх тарчах.

– Уцякаем, га? Толькі надумаліся? Усе вашыя мусілі быць ва Ўдуне да ўчорашняга вечару. І вам тое вядома! А ну, усталі – ды ў шэраг, а тое вазьму вашы нумары й данясу на вас!

Хобіты, хістаючыся, падняліся й схіленыя, кульгаючы, нібы ад зьбітых ног, паклыпалі да канца калёны.

– Не, ня ззаду! – закрычаў паганяты. – За тры шэрагі ад канца! І там заставацца, ці мала не падасца, калі заўважу!

Дый ляснуў пугаю над галовамі сяброў. А тады зь яшчэ адным ляскам ды выгукам пагнаў разьдзел наперад хуткім трушком.

Цяжка тое было для небаракі Сэма, дашчэнту стомленага, а для Фрода й увогуле сталася катаваньнем і жудой. Ён сьціснуў зубы й паспрабаваў адагнаць усе думкі ды ўпрост бяздумна перастаўляць і перастаўляць ногі. Ад смуроду потных оркаў навокал перахоплівала дыханьне, і ён пачаў сутаргава хапаць ротам паветра ад смагі. Але рушылі й рушылі далей, і Фрода напружыў усю волю, каб толькі дыхаць і варушыць нагамі, а на якое ліха ён намагаўся й столькі трываў, нават і ня думаў. Бо надзеі выбрацца нябачным не было. А орк-паганяты раз-пораз адставаў, каб зірнуць на навапрыбылых ды пакпіць зь іх.

– Вось так! – зарагатаў, выцяўшы хобітаў пугаю па нагах. – Дзе пуга, там і праца, вось, мае сьлімачкі! Трымайцеся! Я вас крышачку ўзбадзёру, а калі зьявіцеся ў свой лягер, спазьніўшыся, столькі бізуноў атрымаеце, колькі скура вынесе! Будзе на карысьць! Ці ж забыліся, што мы на вайне!

Прабеглі так колькі вёрстаў, і шлях ужо пайшоў па доўгім схіле на роўнядзь, калі Фродавы сілы зусім вычарпаліся, а воля дрыгнула. Ён захістаўся, заспатыкаўся. Сэм у адчаі спрабаваў падперці яго, дапамагчы, хоць адчуваў, што сам ледзь трымаецца на нагах. Ведаў: цяпер у кожны момант можа прыйсьці гібель, гаспадар упадзе ці страціць прытомнасьць, высьветліцца, хто яны, і ўсе іхнія горкія намаганьні рассыплюцца прахам. Ужо быў падумаў: "Што б ні было, а таго гада-паганятага я пасьпею дастаць!"

І калі Сэм ужо паклаў быў руку на цаўё корда, нечакана прыйшло выратаваньне. Бо выбеглі на роўнядзь і наблізіліся да ўваходу ва Ўдун. Непадалёк ад брамы напрыканцы мосту шлях з усходу сыходзіўся зь іншымі – з дарогай ад Барад-дуру й паўднёвым бальшаком. Па ўсіх шляхох рухаліся войскі, бо правадыры Захаду набліжаліся й Чорны Ўладар пасьпешліва зьбіраў усе сілы на поўначы. Таму й здарылася, што адразу некалькі разьдзелаў сутыкнуліся на скрыжаваньні, у цемры, да

якой не сягала сьвятло вартавых вогнішчаў на вале. Адразу ўзьнікла сумятня, сварка ды шмат лаянкі; кожны разьдзел палез да брамы першы, намагаючыся як хутчэй скончыць дзённы пераход. Хоць паганятыя гарлапанілі й махалі пугамі, сваркі тамсям перайшлі ў бойкі, хто-колечы ўжо й меч з похваў выцягнуў. І вось харугва цяжка ўзброеных урукаў з Барад-дуру ўрэзалася ў калёну з Дуртангу – гвалт усчаўся страшэнны.

Здурнелы ад болю й стомы, Сэм усё ж такі ачомаўся, хутка зразумеў шанец ды кінуўся на зямлю, цягнучы Фрода за сабою.

Оркі пападалі, спатыкнуўшыся аб хобітаў, лаючыся й гамонячы, а хобіты павольна, на карачках выпаўзалі з гармідару, пакуль урэшце, нікім не заўважаныя, не перакуліліся за дальні край шляху. Там быў высокі прыступак, па якім правадыры маглі арыентаваць свае разьдзелы ў чорнай ночы альбо ў тумане, ён на некалькі ступнёў падымаўся над роўнядзьдзю.

За ім хобіты ляжалі колькі часу. Надта было цёмна, каб шукаць іншага сховішча, калі ўвогуле магчыма знайсьці яго тут, але Сэм адчуваў, што патрэбна хоць бы крыху адпаўзьці ад дарог, па-за сьвятло паходняў войска.

– Давайце, спадару Фрода! – прашаптаў ён. – Яшчэ трохі прапаўзем, і тады здолееце паляжаць спакойна.

Апошнім адчайным намаганьнем Фрода прыўзьняўся на руках і прапоўз мо зь дзясятак сажняў. Тады перакульнуўся ў неглыбокую яміну, што нечакана раскрылася перад ім, і там упаў, бы мёртвы.

*3. Гара Выраку*

Сэм паклаў падраны орцкі плашч пад галаву Фрода й накрыў яго й сябе шэрым плашчом з Лорыйну. А тады Сэмавы думкі зьвярнуліся да той сьветлай зямлі, да эльфаў, і нарадзілася ў яго надзея: мо тканіна, створаная іхнімі рукамі, усьцеражэ іх нейкім дзівосным чынам, схавае й выратуе сярод дзікага жаху. Сэм чуў, што валтузьня ды гоман сьціхлі, разьдзелы нарэшце прайшлі праз Жалезную Пашчу. І падалося, што сярод гармідару ад сутыкненьня мноства харугваў і разьдзелаў разнастайных оркаў ніхто на іх не згадаў – пакуль што ва ўсялякім разе.

Сэм глынуў троху вады, а гаспадара прымусіў добра напіцца, а калі той крыху ачомаўся, даў яму цэлы блінец каштоўнага вандроўнага хлябца й прымусіў зьесьці. Тады, надта натомленыя нават каб баяцца, сябры палеглі й пазасыналі. Але спалі блага, часта прачыналіся, курчыліся, бо ад прапацелай вопраткі стала халодна, дый камяні ўпіваліся ў цела. З поўначы ад Чорнай Брамы праз Кірыт Гаргар цягнула па зямлі пранізьлівым халадком.

З раніцаю зноў прыйшло шэрае сьвятло, бо ў вышынях дзьмуў яшчэ заходні вецер, але ўнізе, на камянёх за заслонаю Чорнай зямлі паветра падавалася амаль мёртвым, халодным і ўсё-ткі душным. Сэм вызірнуў зь яміны. Мясьціны вакол ляжалі наймаркотнейшыя, пляскатыя, бура-шэрыя. Па навакольных шляхах анічога ня рухалася, аднак Сэм баяўся назіральнікаў з муроў Ізенмуту, да якіх было ня болей за пару гоняў на поўнач. Далёка на паўднёвым усходзе пагрозьлівым ценем паўставала гара. Зь яе валіў дым, і хоць значную яго частку высокі вецер адносіў на ўсход, вялізныя аблокі клубамі спаўзалі па бакох гары й разыходзіліся над зямлёю. За колькі вёрстаў на паўночным усходзе ўзножжы гор Попелу паўставалі шэрымі прывідамі, за якімі туманныя паўночныя пікі ўздымаліся чарадою далёкіх хмараў, і нябёсы над імі былі не сьвятлейшыя за іх.

Сэм ацаніў адлегласьць, каб вырашыць, куды лепей рушыць. "Ды тут вёрстаў пяцьдзясят, крок да кроку, – прамармытаў змрочна, пазіраючы на пагрозьлівую гару. – І тое зойме з тыдзень, калі ногі ўвогуле здолеем перастаўляць, бо спадар Фрода ў такім стане..." Пахітаў галавою, і калі думкі нарэшце ўтрэсьліся, новае чорнае падозраньне павольна заварушылася ў ягоным розуме. Аніколі надоўга надзея не памірала ў ягоным сэрцы, і заўжды дагэтуль ён спадзяваўся на вяртаньне. Але горкая праўда нарэшце дайшла да ягонага розуму: у самым лепшым выпадку ежы хопіць толькі да гары, а калі сягнуць мэты, то застануцца ў самоце, беспрытульныя, бязь ежы пасярэдзіне жудаснай пустэчы. Вяртаньня ня будзе.

– Дык вось яна, праца, якую я па маім колішнім разуменьні меўся зрабіць, калі браўся за гэтую справу, – думаў Сэм. – Ці думаў я, што трэ будзе дапамагаць спадару Фрода да апошняга, а тады памерці побач? Ну, калі ўзяўся, дык мушу. Але ж так хацелася б пабачыць Прырэчча зноў, Розі Котан зь яе братамі, Дзеда майго, Марыголд, іншых. Усё-ткі ня верыцца, што Гэндальф мог паслаць спадара Фрода на гэткае без надзеі на вяртаньне. Усё пайшло наўсторч, калі ён загінуў у Морыі. Каб жа гэтага ня здарылася! Ён прыдумаў бы што-небудзь.

Але ж калі надзея памерла ў Сэма ці падалося, што памерла, то раптам дадаліся новыя сілы. Прасты Сэмаў твар пасуровеў, амаль пазмрачнеў, і воля ягоная ўзмацнілася, і нейкае ўзбуджэньне разышлося па ягоным целе, бы яно ператварылася ў камень і жалеза, якіх не адолець ні адчаю, ні стоме, ні бясконцым вёрстам пустэчы.

І з новым пачуцьцём адказнасьці ён агледзеў навакольле, плянуючы наступны маршрут. Калі болей пасьвятлела, хобіт зьдзіўлена заўважыў, што роўнядзь, якая з

адлегласьці падавалася роўнай і пляскатай, насамрэч уяўляла зь сябе мешаніну ямаў ды пагоркаў. Насамрэч уся паверхня Гаргарату была стыканая вялізнымі дзіркамі, нібыта на роўную лужыну глею калісьці абрынулася зьліва гіганцкіх стрэлаў ды камянёў. Найвялікшыя дзіркі па краёх абгароджвала нешта накшталт патрэсканай скальнай сьцяны, і вялізныя расколіны разыходзіліся ад іх на ўсе бакі. Па такой зямлі магчыма было пракрасьціся нябачным ад схованкі да схованкі, незаўважным анікому, апрача самых пільных назіральнікаў, – ва ўсялякім выпадку магчыма для таго, хто меў сілы й ня меў патрэбы сьпяшацца. А для галодных і зьняможаных, хто мкнуў да мэты й мусіў ашчаджаць сілы, тая зямля не абяцала нічога добрага.

Думаючы пра ўсё гэта, Сэм вярнуўся да гаспадара. Але будзіць таго не давялося. Фрода ляжаў на сьпіне з расплюшчанымі вачыма, узіраючыся ў хмарныя нябёсы.

– Ну, спадару Фрода, – вымавіў Сэм, – я зірнуў вакол і крыху паразважаў. Па шляхах анічога ня рухаецца, і нам лепей зносіць ногі адсюль, пакуль мажліва. Ці здольны вы?

– Я здольны, – адказаў Фрода. – Я мушу здолець.

Зноў пачалі рух, перапаўзаючы ад яміны да яміны, хаваючыся за ўсім, што хоць крыху прыхоўвала, і кіруючы наўкось да ўзножжаў паўночных гор. Рушылі ўздоўж усходняга шляху, пакуль той не адвярнуў прэч, бліжэй да падэшваў гор, да сьцяны чорнага ценю далёка наперадзе. Ані орк, ані чалавек ня рухаліся па пляскатай шэрай паверхні, бо Чорны Ўладар амаль скончыў перагрупоўваць войскі й нават у цьвярдыні ўласнага каралеўства намагаўся рабіць усё пад покрывам цемры, бо баяўся вятроў, што абярнуліся супраць яго, разадраўшы завесы дыму й хмараў, дый непакоіўся зьвесткамі пра дзёрзкіх віжоў, што прабраліся за ягоныя заслоны.

Хобіты прайшлі некалькі надта стамляльных вёрстаў, калі нарэшце спыніліся. Падавалася, Фрода зьнясілеў зусім. Сэм зразумеў, што болей гэткім чынам наўрад ці адолеюць, прабіраючыся, хаваючыся, то надта павольна паўзучы праз падазроныя месцы, то бегучы з усіх ног і спатыкаючыся.

– Давайце назад, на шлях, пакуль сьветла, спадару Фрода! – прапанаваў ён. – Даверымся ўдачы зноў. Яна амаль падвяла нас апошнім разам, але ўсё-ткі ня здрадзіла. Пройдзем па роўным колькі вёрстаў, а тады адпачнем.

Ён спакушаў удачу ў значна большай ступені, чым падазраваў, Фродавы ж думкі перапаўняла толькі ягоная ноша й барацьба ў ягоным розуме, ён ня мог адмовіць. Надзею ён страціў, засталася поўная абыякавасьць. Таму сябры ўскараскаліся на дарожны насып і крочылі па цьвёрдым жудасным гасьцінцы, што вёў да самай Цёмнай вежы. Усё ж удача трывала: за ўвесь дзень яны не сустрэлі аніводнага жывога стварэньня, а ноч схавала іх мордарскаю чарнотаю. Уся зямля замёрла ў чаканьні, нібы перад нашэсьцем вялікай буры: правадыры Захаду мінулі Скрыжаваньне й падпалілі сьмяротныя лугі Імлад Моргулу.

Так цягнулася адчайная вандроўка. Пярсьцёнак рушыў на поўдзень, а харугвы каралёў – на поўнач. Для хобітаў кожны дзень, кожная вярста былі горшыя за папярэднія, бо сілы меншалі, а зямля люцела. Удзень не сустракалі аніякіх ворагаў. А раз-пораз уночы, калі ляжалі ці спалі неспакойна ў якім спраце побач з гасьцінцам, чулі выгукі й тупат мноства ног альбо хуткі перастук капытоў бязьлітасна гнанага каня. Але ж нашмат горш за любыя падобныя небясьпекі была вялікая пагроза, што ціснула, нібыта цяжар на карку альбо вецер у твар: жудасная пагроза моцы, што чакала, паглыбіўшыся ў думкі й бяссоннае ліха за цьмянай завесаю вакол свайго стальца. Усё набліжалася вежа, лунала чарней, нібы прышэсьце муроў ночы напрыканцы сьвету.

Ізноў надышла вусьцішная ноч, і калі правадыры Захаду набліжаліся да краю жывой зямлі, два вандроўнікі сягнулі гадзіны пустога адчаю. Чатыры дні мінула, як уцяклі ад оркаў, і той час ляжаў за сьпінамі кашмарам і ўсё паглыбляўся. Увесь апошні дзень Фрода маўчаў, а ішоў нахіліўшыся, часта спатыкаючыся, нібы вочы ягоныя ня бачылі болей, што пад нагамі. Сэм здагадваўся: гаспадар выносіў большы цяжар, ноша пярсьцёнка ўсё расла, катавала й цела, і розум. Занепакоена прыкмеціў, што левая рука Фрода часьцяком прыўздымалася, нібыта каб засланіцца ад удару ці захіліць паўзаплюшчаныя вочы ад вусьцішнага Вока, што прагнула зазірнуць у іх. А часам ягоная правая рука паўзла да грудзей, дрыжучы, а тады запавольвалася, быццам воля спраўлялася й паступова вяртала ўладу.

Калі чарноцьце ночы вярнулася, Фрода сеў, апусьціў галаву на калені, а рукі зьвесіў амаль да зямлі, ягоныя пальцы дрыжэлі. Сэм пазіраў на яго, пакуль ноч не прыкрыла іх абодвух і не схавала аднаго ад другога. Сэм не знаходзіў болей словаў, і думкі ягоныя зьвярнуліся да ягонай уласнай цемры. Хоць і стомлены, і пад ценем жаху, усё ж меў яшчэ нейкія сілы. Была ў лембасах дзіўная якасьць, безь якой даўно ўжо леглі б ды памерлі ў адчаі. Яны не насычалі цалкам, бо перад Сэмавым уяўленьнем увесь час усплывалі ўспаміны пра ежу, і ён тужыў па простым хлебе й мясе. І ўсё-ткі эльфаў вандроўны хлеб рабіўся карысьнейшым, калі харчаваліся толькі ім, ня зьмешваючы зь іншаю емінаю. Ён насычаў таксама й волю, даваў моц выносіць нягоды, моц волі над целам па-за сьмяротным вымярэньнем. Настаў час новага вырашэньня. Па гасьцінцы ісьці было нельга, бо ён вёў на ўсход у вялікі Цень, гара ж уздымалася праваруч, амаль проста на поўдні, і трэ было збочваць да яе. А перад ёю ляжала неабсяжная роўнядзь дымнай, запустэчанай, спапялёнай зямлі.

– Вады б, – прамармытаў Сэм.

Сябе ён абдзяляў вадою, і язык, падавалася, распух у ягоным перасохлым роце. Нягледзячы на ашчаднасьць, плёскала зусім няшмат, меней за палову біклажкі, а ісьці заставалася яшчэ колькі дзён. Усю ваду даўно ўжо выпілі б, калі б не адважыліся рушыць па оркавым шляху. Бо ля гасьцінцу зрэдку сустракаліся вялізныя бакі для вады на патрэбы ваяроў, якім давялося пасьпешліва выступіць праз гэтыя бязводныя мясьціны. У адным Сэм знайшоў рэшткі вады – застаялай, забруджанай оркамі, але ўсё-ткі прыдатнай у адчаі для піцьця. Было тое дзень таму, і болей надзеі знайсьці ваду не засталося.

Нарэшце стомлены клопатамі й трывогаю Сэм задрамаў. Хай будзе што будзе – болей ён анічога не зрабіў бы. Няроўны быў ягоны сон, неспакойны. Трызьніў агнямі, маўляў кплівыя вочы, паўзучымі цёмнымі пачварамі, чуў шорхат, нібы ад драпежных зданяў, ды жудасныя енкі катаваньняў і раптам прачынаўся й бачыў, што навокал толькі цемра, пустое чарноцьце. Аднойчы толькі, калі падхапіўся й азірнуўся зьдзічэла, падалося: гараць блядныя агеньчыкі, што вочы, але ж неўзабаве яны замільгалі й зьніклі.

Тая лютая ноч мінала павольна, неахвотна. Раніца распалілася смужная, бляклая. Паблізу гары нават паветра было непразрыстае, бо сюды дапаўзалі ад Цёмнай вежы завесы Ценю, сатканыя Саўронам вакол сябе. Фрода ляжаў на сьпіне ня рухаючыся. Сэм стаяў над ім, не жадаючы казаць анічога й усё-ткі ведаючы, што мусіць: мусіць узьняць волю гаспадара на яшчэ адно намаганьне. Нарэшце, нахіліўшыся, крануў спадароў лоб і прашаптаў Фрода на вуха:

– Прачніцеся, гаспадару! Час рушыць ізноў.

Нібы абуджаны раптоўным звонам, Фрода ўскочыў і зірнуў на поўдзень, але калі пабачыў гару й пустэчу, воля ягоная зноў пахіснулася.

– Я ня спраўлюся, Сэме. Гэта такі цяжар, невыносны цяжар.

Сэм ведаў, што дарэмна прапаноўвае й што такая прапанова хутчэй нашкодзіць, чым дапаможа, але ж ад шкадаваньня ня змоўчаў.

– Тады дазвольце мне несьці яго для вас, пане. Вы ж ведаеце, я здолею, і з задавальненьнем, пакуль сілы засталіся.

Шалёным полымем палыхнулі Фродавы вочы.

– Прэч! Не кранай мяне! Ён мой, я кажу табе, мой! Прэч! – і пальцы ягоныя ссунуліся да цаўя корда, але адразу ж голас ягоны зьмяніўся, і Фрода вымавіў сумна: – Не, Сэме, не. Але ж ты мусіш зразумець: гэтая ноша мая, і аніхто іншы ня можа несьці яе. Дарагі Сэме, ужо запозна. Болей ты гэткім чынам мне не дапаможаш. Я ўжо амаль цалкам пад ягонай уладай. Я ня здольны аддаць яго, а калі паспрабуеш адабраць, я звар'яцею.

– Я разумею, – Сэм хітнуў галавою. – Але ж я думаю, спадару Фрода, пра іншыя рэчы, безь якіх мы здольныя абысьціся. Чаму не палегчыць пакладу крышачку? То ж бо ў нас цяперачка просты шлях: як бачым, так і пойдзем, – ён паказаў у бок гары. – Няма сэнсу цягнуць тое, што ўжо дакладна не спатрэбіцца.

– Не, – Фрода зноў зірнуў на гару. – Шмат на тым шляху нам не спатрэбіцца. А напрыканцы ягоным і ўвогуле анічога.

Падняў оркаву тарчу ды адкінуў прэч, сьцягнуў шалом і кінуў туды сама. Тады зьняў шэры плашч, расшпіліў цяжкі пас, і той разам з кордам упаў проста пад ногі. Лахманы чорнага плашчу зьдзёр зь сябе й раскідаў.

– Ня буду болей оркам! – выгукнуў уголас, – і зброі болей не вазьму ў рукі, сьветлай альбо ліхой. Няхай бяруць мяне, калі хочуць!

Сэм таксама зьняў увесь орцкі рыштунак ды выцягнуў таксама рэчы з заплечніка. Кожная зь іх неяк зрабілася каштоўнай яму, мо праз тое, што пранёс іх праз такія нягоды. Цяжэй за ўсё было разьвітвацца з кухарскімі прыладамі. Сьлёзы засьцілі вочы ад адной думкі пра тое, каб выкінуць іх прэч.

– Ці памятаеце вы таго трусіка, спадару Фрода? І той схіл, і сонца ў краі гетмана Фараміра ў дзень, калі я пабачыў аліфаўнта?

– Не, баюся, што не, Сэме. Я ведаю, што тое было, але ж ня бачу нічога ў памяці. Я ня памятаю ані смаку ежы, ані адчуваньня вады на скуры, ані гуку ветру, ані згадак пра дрэвы, траву й кветкі, ані аблічча месяца альбо зор. Я аголены ў цемры, Сэме, і няма аніякай завесы паміж мною й колам полымя. Я бачу яго нават калі ня сплю, а ўсё іншае блякне.

Сэм крочыў да Фрода й пацалаваўяму руку.

– Тады чым хутчэй мы пазбавімся ад яго, тым хутчэй адпачнем, – вымавіў запінаючыся, бо ня ведаў што яшчэ казаць.

А сабе пад нос прамармытаў: "Са словаў кашулі ня сшыеш" – і сабраў усё, што быў выкінуў. Не хацеў пакідаць сярод роўнага месца, каб кожны пабачыў.

– Сьмярдзяк, падаецца, тую орцкую броньку падчапіў і меч да яе дадаваць зусім ня варта. Ягоныя рукі й пустыя досыць непрыемныя. І ў каструльках маіх я яму кешкацца ня дам!

Аднёс рэчы да адной з мноства расколінаў што зеўралі непадалёк, дый кінуў туды. Бразгат каштоўных каструляў калі яны каціліся ў цемру, стаўся пахавальным звонам для ягонага сэрца.

Вярнуўся да Фрода й адрэзаў ад эльфскай вяроўкі кавалачак, каб падперазаць гаспадара, шчыльненька прымацаваць на ім эльфаў плашч. Рэшткі вяроўкі скруціў і сунуў назад у хатуль. Апрача таго, пакінуўтолькі недаедкі эльфскага хлеба й біклажку

з вадою, ды Джала ўсё яшчэ боўталася на пасе, а ў кішэні камізэлькі на грудзёх ляжалі фіял Галадрыелі й яе маленькая скрыначка, падораная Сэму.

Нарэшце павярнуліся да гары й рушылі, ня думаючы болей пра тое, каб хавацца, перамагалі стому, зьбіралі ўсе невялікія сілы, толькі б ісьці наперад. У маркотнай шэрасьці дня нават у краіне віжоў няшмат вачэй заўважыла б іх, хіба апынуліся б зусім недалёка. З усіх рабоў Чорнага Ўладара толькі назгулы маглі папярэдзіць *яго* пра небясьпеку, малую на выгляд, але ж неадольную й гібельную, у самым сэрцы *ягонага* каралеўства. Але ж назгулы й іхнія чорныя крылы займаліся іншым: далёка адсюль сабраліся яны, зацяняючы паход правадыроў Захаду. Туды павярнулі думкі Цёмнай вежы.

Тым днём падалося Сэму, што гаспадар ягоны знайшоў новыя сілы, большыя, чым варта было чакаць ад невялікай палёгкі – кінутага орцкага рыштунку. На першых пераходах праходзілі болей і хутчэй, чым Сэм спадзяваўся. Па няроўнай і непрыемнай нагам зямлі пратэпалі шмат, і гара значна наблізілася. Аднак калі дзень пакаціўся ў сутоньне й смужнае сьвятло зблякла, Фрода нахіліўся й захістаўся, нібы аднаўленым намаганьням аддаў безаглядна апошнія сілы.

І асеў на зямлю. Сказаў:

– Піць хачу, Сэме, – дый змоўк.

Сэм даў глыток вады. Заставаўся яшчэ адзін. Але сам ня стаў піць, хоць калі мордарская ноч зноў накрыла іх, усе ягоныя думкі былі пра ваду. Яму згадвалася кожная крынічка, рэчка ці ручаінка, якія бачыў у жыцьці: пад зялёным ценем вербаў ці бліскаўкамі сонца; сонечныя зайчыкі скакалі на гойданцы хваляў – бясконцай пакутаю ў сьляпых вачох. Сэм нібы наяве адчуваў прахалодны глей пад пальцамі, калі колісь пялёскаўся ў прырэчанскай сажалцы з Джолам Котанам, Томам ды Нібсам і іхняй сястрою Ружаю.

– Але ж тое было гады таму, надта далёка, – уздыхнуў ён. – Шлях назад, калі ён увогуле існуе, ляжыць праз гару.

Спаць ня мог і таму прыняўся спрачацца з сабою.

"Ну, чаго ж ты, мы ж лепей сёньня справіліся, чым ты спадзяваўся, – казаў сабе ўцята. – Файны пачатак. Мяркую, палову адолелі перад адпачынкам. Яшчэ дзень – і гатова!"

"Ня будзь дурнем, Сэме Гэйхадзе, – адказаў ягоны ўласны голас. – Ён назаўтра так ня пойдзе, калі ўвогуле здолее варухнуцца. І ты шмат не працягнеш, аддаючы яму ўсю ваду й большасьць ежы".

"Я досыць працягну".

"І дакуль ты дацягнеш?"

"Да гары, вядома ж".

"А што тады, Сэме Гэйхадзе, што тады? Калі патрапіш туды, што рабіцьмеш? Ён жа сам анічога ўжо ня зробіць".

У адчаі й прыкрасьці Сэм зразумеў, што адказу ня мае. Ён зусім ня ведаў, што далей. Фрода няшмат казаў пра мэту, і Сэм памятаў толькі, што пярсьцёнак неяк трэба сунуць у нейкае полымя.

"Пашча Лёсу, – прамармытаў згадаўшы даўні назоў. – Ну, можа, спадар скеміць, як дабрацца туды, бо я ня ведаю".

"Вось яно што! – прыйшоў адказ ад іншага голасу. – Усё гэта цалкам бескарысна. Ён сам тое казаў. А ты дурань, бо ўсё цягнесься ды спадзяесься. Маглі б ужо колькі дзён таму прылегчы дзе й адаспацца, калі б ня лезьлі наперад з гэткай

уцятасьцю. А памрэш усё роўна. Мо й горш з тое. Магчыма было б наўпрост тут легчы й сканаць. Бо ўсё адно да верху не дабярэсься".

"Дабяруся, хоць бы пакінуў за сабою ўсё, апрача костак, – сьцьвердзіў Сэм упарта. – І спадара Фрода я сам панясу, нават калі хрыбет надарву й сэрца. Так што хопіць балбатні!"

У гэты момант пад ім задрыжэла зямля, і ён адчуў нібыта далёкае вуркатаньне, навальнічныя грымоты, замкнёныя пад зямлёю. Тады на момант пад аблокамі бліснула зіхоткае чырвонае полымя, дый згасла. Гара таксама спала неспакойна.

Раніцаю пачалася апошняя частка вандроўкі да Арадруйну, і тое сталася нашмат горшай пакутаю, чымся ўяўляў Сэм. Балела горла, бо так перасохла, што немагчыма было праглынуць і кавалка ежы. Было цёмна – ня толькі праз дымы гары, але яшчэ й таму, што, як падавалася, зьбіралася вялікая навальніца: далёка на паўднёвым усходзе бліскавіцы крэсьлілі чорныя нябёсы. Горш за ўсё, што паветра запаўнялі дымы й пара, кожны ўздых даваўся праз боль і напругу, падступала дурнота. Ішлі, хістаючыся, часта спатыкаліся й падалі. І ўсё-ткі воля заставалася непарушнаю, хобіты ўцята рушылі наперад.

Гара набліжалася, і нарэшце, калі б сябры маглі ўзьняць стомленыя галовы, яна закрыла б усё перад вачыма на два бакі: невымерная куча попелу, шляку й паленага каменю, зь якой вырывалася, утыкаючыся ў аблокі, стромая кучмістая вяршыня. Калі змрок, што панаваўувесь дзень, пачаў чарнець і надышла сапраўдная ноч, хобіты дапаўзьлі, дакульгалі да самай падэшвы гары.

Вохнуўшы, Фрода асеў на зямлю. Сэм апусьціўся побач. На зьдзіўленьне, разам з стомаю адчуў і нейкую палёгку, і галава зноў зрабілася яснаю. Болей аніякія спрэчкі не турбавалі розум. Ведаў усе довады адчаю й слухаць іх не хацеў. Воля ягоная ўмацавалася, і толькі сьмерць магла яе парушыць. Болей не адчуваў патрэбы ў сьне ці адпачынку, толькі ведаў: трэ вартаваць. Ведаў: усе недарэчнасьці й небясьпекі зараз сьцягнуліся ў адну апошнюю кропку. Наступны дзень стане днём кону, днём апошняга намаганьня альбо паразы, апошнім высілкам.

А калі ж ён настане? Ноч падавалася бясконцай па-за ўсялякім адлікам часу. Хвіліна за хвілінаю паміралі, але не дадаваліся да гадзінаў, і анічога не мянялася. Сэм засумняваўся: мо пачалася іншая цемра й дзень аніколі больш ня прыйдзе? Нарэшце намацаў Фродаву руку – халодную, у дрыжыках. Гаспадар трымцеў ад холаду.

– Ня трэ было выкідваць маю коўдру, – прамармытаў Сэм і, лёгшы побач, паспрабаваў абняць, сагрэць Фрода сваім целам.

Тады сон прыйшоў да яго, і бляклае сьвятло апошняга дня іхняй вандроўкі знайшло хобітаў поруч адзін з другім. За дзень да таго вецер сьцішыўся, а зараз задзьмуў з поўначы й усё ўзмацняўся, і павольна сьвятло схаванага хмарамі сонца прасачылася скрозь цені туды, дзе ляжалі хобіты.

– Зараз час! Апошні раз, і ўсё! – вымавіў Сэм, намагаючыся ўстаць на ногі.

Нахіліўся над Фрода, узьняў таго асьцярожна. Фрода застагнаў, але ж выключным намаганьнем волі ўсё-ткі прымусіў сябе падняцца, але зноў упаў на калені. Ледзь расплюшчыў вочы, зірнуўшы на цьмяныя схілы гары Выраку перад сабою, а тады зьнясілена папоўз на карачках.

Сэм пазіраў на яго, плачучы ў сэрцы, але ж да ягоных сухіх, раздражнёных вачэй сьлёзы так і не дайшлі.

"Казаў я, што панясу яго, нават калі мне хрыбет зломіць, і насамрэч панясу!" – прамармытаў.

– Давайце, спадару Фрода! – дадаў уголас. – Я не магу несьці яго за вас, дык вас магу разам зь ім зьнесьці! Давайце, караскайцеся! Давайце, спадару Фрода, даражэнькі! Сэм вас пакатае. Толькі скажыце яму, куды йсьці, ён і пойдзе.

Калі Фрода ўскараскаўся яму на сьпіну, ледзь абвіўшы аслабелымі рукамі вакол шыі, Сэм моцна сьціснуў ягоныя ногі пад пахамі й падняўся. І зьдзівіўся, бо ноша была надта лёгкаю. Баяўся, што ледзь хопіць сілаў падняць гаспадара, ня тое каб несьці, ды яшчэ чакаў, што й яму дадасца частка жудаснай вагі пярсьцёнка. Але ж сталася ня так. Ці Фрода змарнеў ад доўгіх нягодаў, болю, ранаў ад нажа й атрутнага джала, страху, бяздомных бадзяньняў, ці нейкім чынам адкрылася напрыканцы ў Сэма крыніца новай сілы, – ён падняў Фрода ня з большым намаганьнем, чымсьці якое малое хабіцяня падчас шпацыру па лужках ды палях Шыру. Удыхнуў глыбока й крочыў наперад.

Сягнулі падэшвы гары з паўночнага боку, крыху на захад ад поўначы. Доўгія шэрыя схілы, загрувашчаныя ды з расколінамі, былі, аднак, ня стромыя. Фрода маўчаў, і Сэм намагаўся папросту падняцца як мага вышэй, ня ведаючы кірунку, а толькі жадаючы ўзьлезьці вышай, пакуль сілы ня скончыліся й воля не паслабела. Ішоў ды ішоў, паварочваючы зыгзагам, каб паменшыць ухіл гары, часта спатыкаўся й нахіляўся наперад. Урэшце поўз, бы сьлімак зь цяжкай ношаю на сьпіне. Калі воля ягоная ўжо не магла зрушыць яго далей, калі ногі зусім адмовіліся падпарадкоўвацца, спыніўся й асьцярожна паклаў гаспадара долу.

Фрода расплюшчыў вочы й уздыхнуў. Тут, над смуродам і дымамі, што клубіліся й плынелі ўнізе, дыхаць было лягчэй.

– Дзякуй табе, Сэме, – прашапатаў хрыпла. – Колькі яшчэ засталося?

– Ня ведаю, – адказаў Сэм, – бо ня ведаю, куды мы кіруемся.

Зірнуў назад, а тады ўгору. І, зьдзівіўшыся, пабачыў, як высока падняло іх ягонае апошняе намаганьне. Гара, велічна й самотна пастаўшы пасярод роўнядзі, выглядала большай, чым была насамрэч. Сэм зразумеў зараз, што яна ніжэйшая за перавалы Эфэл Дуату, праз якія яны з Фрода перабраліся. Вялізная, няроўная куча неабсяжнай горнай падэшвы ўздымалася тысячы на тры ступнёў над роўнядзьдзю, а тады яшчэ тысячы на паўтары тырчэў вузкі кучмень, нібы труба коміна, увянчаная рыгвом з вызубранымі краямі. Сэм ужо сягнуў паловы падэшвы, і роўнядзь Гаргарату смужна малявалася ўнізе, абгорнутая дымамі й ценем. А калі зірнуў угору, то выгукнуў бы з радасьці, калі б глотка так не перасохла, бо сярод нагрувашчанага каменьня й скалаў выразна рысаваўся шлях. Ён караскаўся пятлёю вакол гары з захаду на ўсход і перад тым, як схавацца за горным бокам, кранаў аснову кучменю.

Проста над сабою Сэм шляху ня бачыў, хоць там да яго было б меней за ўсё, але здагадаўся, што трэба пралезьці яшчэ крыху – і ўжо крочаць на дарогу. Тады да яго вярнуўся пробліск надзеі. Мажліва, і ўдасца забрацца на гару!

"Так, нездарма ж тут праклалі дарогу, – сказаў сабе. – Калі б не было яе, мо я й ня здужаў бы напрыканцы".

Шлях сапраўды быў пракладзены нездарма, але ж не для Сэмавай палёгкі. Сэм ня ведаў, што пазіраў на Саўронаў шлях ад Барад-дуру да Самат Наўр, Каморы Полымя. Выходзячы зь вялізнай Заходняй брамы Цёмнай вежы, ён вёў над глыбокай прорваю па доўгім жалезным мосьце, а тады, выбіраючыся на роўнядзь, паўмілі пятляў паміж дымнымі цясьнінамі й сягаў доўгага насыпу, што вёў да ўсходняга схілу гары. А адтуль, абвіваючыся вакол усёй гары з поўдня на поўнач, шлях ускарасквавўся нарэшце на верхні кучмень і сягаў яшчэ далёка ад дымнай вяршыні ўваходу ў чорную пячору, што паглядала на ўсход, проста на Вакно Вока ў Саўронавай агорнутай

цемраю цытадэлі. Часьцяком разбураны ці перасунуты неспакойнымі вогненнымі горнымі нетрамі, шлях зноў і зноў аднаўлялі й рамантавалі незьлічоныя орцкія натоўпы.

Сэм глыбока ўздыхнуў. Дарога была, а вось як сягнуць яе, невядома. Перш за ўсё трэба даць сьпіне адпачыць. Таму прылёг побач з Фрода. Абодва маўчалі. Вакол павольна сьвятлела. Зьнянацку моцнае, але невытлумачальнае пачуцьцё неадкладнасьці абудзілася ў Сэме. Нібы раптоўна нехта паклікаў: "Ідзі зараз жа, а то спозьнісься!" Таму сабраўся й устаў. Падалося, Фрода таксама пачуў заклік, бо намогся паўстаць на калені.

– Я папаўзу, Сэме, – выцiснуў, задыхаючыся.

Так ступня за ступнёю, быццам шэрыя кузуркі, хобіты паўзьлі ўверх па схіле. Выбраліся на шлях і ўбачылі, што ён досыць шырокі, забрукаваны каменнымі аскепкамі й утрамбаваны попелам. Фрода ўспоўз на яго й тады, быццам не з сваёй волі, павольна павярнуўся тварам на ўсход. Далёка вісеў Саўронаў цень, але ж, кранутыя нейкім парывам ветру ці вялікім непакоем, аблокі, што ахінаі вежу, заварушыліся й расступіліся на момант, і сярод іх нарысаваліся чорныя, чарнейшыя за навакольныя цені, жорсткія сьпічакі й іклы ды жалезная карона найвышэйшай вежы Барад-дуру. Толькі імгненьне бачылася яна, а калі зь недасяжна высокага вялізарнага вакна палыхнула на поўнач чырвонае полымя – пробліск позірку Вока працяў неба, – хмары зноў загарнулі, схавалі жудаснае відовішча. Вока не павярнулася да хобітаў, бо перылася на поўнач, дзе стаялі перад Брамаю правадыры Захаду. Туды кіравалася ўсё ліха й падступства, бо туды цэліў сьмяротны ўдар Чорнага Ўладара, але Фрода ад хвіліннага відовішча ўпаў, нібы сьмяротна паранены. І рука ягоная схапілася за ланцуг на шыі.

Сэм стаў побач на калені. І пачуў слабы, амаль нячутны Фродаў шэпт:

– Дапамажы, Сэме! Дапамажы! Утрымай маю руку! Я не магу.

Сэм узяў гаспадаровы рукі, склаў разам, далонь да далоні, і пацалаваў іх, а тады асьцярожна сьціснуў паміж сваімі. Раптоўна прыйшла да яго думка: "Ён заўважыў нас! Усё скончана ці скончыцца неўзабаве! Ну, Сэме Гэйхадзе, зараз сапраўдны канец".

Ізноў падняў Фрода й прыціснуў ягоныя рукі да сваіх грудзей. Тады нахіліў галаву й паклыпаў па шляху. Не такім ужо лёгкім выявіўся Фрода, якім выглядаў спачатку. Пашанцавала, што агонь, якім ванітавала гара падчас апошніх яе сутаргаў, калі Сэм стаяў на Кірыт Гаргары, пацёк па паўднёвым і заходнім схілах, а з поўначы й усходу шлях застаўся непаракрытым. Але ж шмат у якіх месцах асыпаўся ці быў расьсечаны. Сэм рушыў па дарозе на ўсход, падымаючыся. Неўзабаве яна рэзка павярнула і павяла ўверх па схіле ўжо на захад. На павароце шлях глыбока ўразаўся ў скалу з старога выветранага каменю, выванітаванага калісьці з падгорных плавільняў. Цяжка дыхаючы пад сваёю ношай, Сэм павярнуў – і раптам краем вока прыкмеціў, як нешта чорнае валіцца зьверху, бы камень, што чакаў ягоных крокаў каб упасьці.

Раптоўны цяжар абрынуўся на хобіта, і Сэм бразнуўся долу наперад, разадраўшы рукі, што яшчэ сьціскалі далоні гаспадара. Тады зразумеў, што здарылася, бо пачуў ненавісны голас зьверху.

– Зззлосссны гассспадаррс, злоссны! – прашыпела адтуль. – Падманвае насс, падманвае Сьсьмеягольля, глыксс! Ён ня мусьсіў ісьсьці сьсюды! Нельга пссаваць кашштоўнасьсьць! Дай яе Сьсьмеягольлю, дай, таксс, дай!!! Дай намсс!

Адштурхнуўшыся ад зямлі, Сэм ускочыў і адразу выцягнуў корд. Але ж анічога зрабіць ня мог: Фрода з Глыксам шчыльна сашчапіліся. Глыкс што моцы драў кіпцямі

плашч і кашулю, намагаючыся дабрацца да ланцугу, да пярсьцёнка. Гэта, напэўна, было адзіным, што яшчэ магло разьдзьмуць згаслыя вуглі Фродавых сэрца й волі: адзіны каштоўны для яго скарб намагаліся адабраць гвалтам. І ён адбіваўся зь дзівосным шаленствам, якога не чакалі ані Сэм, ані Глыкс. Нават і зараз усё магло абярнуцца інакш, калі б Глыкс заставаўся ранейшым, але ж жудасныя самотныя бадзяньні, голад і смага, жах і атрутная прага, што забірала розум, пакінулі толькі цень былога Глыкса. Ён схуднеў і станчэў, ператварыўся папросту ў шкілет, абцягнуты зямлістаю скураю. Дзікае полымя палала ў ягоных вачох, але ж злосьці не ставала былой хваткі. Фрода адкінуў яго прэч і паўстаў, дрыжучы.

– Ляжы, пачвара! – выдыхнуў, прыціснуўшы руку да грудзей, ухапіўшы пад скураю кашулі пярсьцёнак. – Ляжы, смоўж, на пузе й паўзі прэч з майго шляху! Твой час скончыўся! Ты ня здольны здрадзіць мне ці забіць мяне цяпер!

І тады зьнянацку як і пад схіламі Эмін Мюйлу, Сэм пабачыў двох супернікаў іншым зрокам. Скурчаны пачварань, нікчэмныя рэшткі жывой істоты, стварэньне цалкам зруйнаванае, пераможанае, аднак паўнюткае драпежнаю, неверагоднаю прагаю й шаленствам – а перад ім суворая, пазбаўленая шкадаваньня постаць, апранутая ў белае, трымае ля грудзей вогненнае кола. І з таго полымя пачуўся загадны голас:

– Прэч, і не турбуй мяне болей! Бо калі кранеш мяне зноўку, сам будзеш зрынуты ў Полымя Выраку!

Скурчаны цень адсунуўся, і жах засьвяціўся ў міргатлівых вачох, але таксама й неспатольная прага.

Тады відзежа мінула, і Сэм пабачыў, што Фрода стаіць з рукою на грудзях, і дыханьне ягонае вырываецца цяжкімі, рэдкімі ўздыхамі, а Глыкс ля ягоных ног укленчыў, пляскатымі далоньмі абапершыся на зямлю.

– Асьцярожней! – загаласіў Сэм. – Ён кінецца!

Крочыў наперад з кордам у руцэ.

– Хутчэй, гаспадару! Ідзіце, ідзіце! Часу бракуе! Я разьбяруся зь ім!

Фрода зірнуў на яго, нібы на кагосьці надта далёкага.

– Так, я мушу ісьці. Бывай, Сэме! Нарэшце гэта канец. На гары Выраку надышоў час спраўдзіцца лёсу. Бывай!

Павярнуўся й рушыў, павольна, але проста й упэўнена ўверх па шляху.

– А зараз я разьбяруся з табою! – вымавіў Сэм і скочыў наперад, гатовы біцца.

Але Глыкс не адскочыў. Наадварот, ён бразнуўся долу на пуза й заенчыў:

– Не забівай насс! Ня рань насс жорсссткаю ссталлю! Дай нам пажыцьць, пажжыцьць яшшчэ крышшачку, крышшачку! Мы згінелі. Таксс, згінелі! А калі кашштоўнасьсьць зьнікне, мы памромсс, расссыплемся праххам, таксс, праххамс!

Ён зашкроб попел шляху доўгімі станчэлымі пальцамі.

– Праxх! – прашыпеў ён.

Сэмава рука задрыжэла. Розум ягоны палаў гневам, і памяць пра ліха не паслабела ў ім. Справядліва было б забіць гэтая здраднага пачварнага забойцу, шмат разоў справядліва, і адзіным бясьпечным выйсьцем падавалася тое. Але ж нешта з самай глыбіні сэрца спыніла яго. Ня мог ён падняць руку на цалкам зьнішчанага, зьмізарнелага, няшчаснага, распластанага ў пыле пад нагамі небараку. Бо сам, хоць і нядоўга, насіў пярсьцёнак і таму здагадваўся пра боль скажонага Глыксавага розуму й цела, увязьненага пярсьцёнкам, ня здольнага зноў знайсьці аніякай асалоды ці спакою ў жыцьці. Але ж Сэму бракавала словаў каб выказаць пачуцьці.

– Вох, трасца на цябе, сьмярдзяк ты гнюсны! – толькі й сказаў. – Прэч! Давай паўзі! Няма табе веры, нават высьпятка табе не даверыш. Прэч! Або я параню цябе, таксс, жорсткаю стальлю!

Глыкс на карачках адпоўз на некалькі крокаў, тады павярнуўся і, калі Сэм ужо быў нацэліўся даць высьпятка, уцёк уніз па шляху. Сэм болей не зьвяртаў на яго ўвагі. Бо згадаў раптоўна гаспадара. Зірнуў на шлях і ня ўбачыў Фрода. І таму з усёй хуткасьцю, на якую яшчэ быў здатны, рушыў па шляху. А калі б глянуў назад, то пабачыў бы: непадалёк Глыкс павярнуўся зноў і зь дзікім полымем шаленства ў вачох хутка й асьцярожна рушыў сьледам незаўважным ценем паміж камянёў.

Шлях вёў уверх і ўверх. Неўзабаве павярнуў ізноў ды на апошнім усходнім пралёце вывеў да абчасанага схілу ў верхнім кучмені гары, да цёмных дзьвярэй у горным баку – да дзьвярэй у Самат Наўр. Далёка адсюль, на поўдні, сонца працяла дымы й смугу, злавесна запалала, павісла гіганцкім бледна-рудым дыскам, але ўвесь Мордар вакол гары ляжаў мёртвай, маўклівай зямлёю, агорнутай ценем, у чаканьні сьмяротнага ўдару.

Сэм падышоў да пашчы дзьвярэй, зазірнуў усярэдзіну. Цёмна там было й сьпякотна, і глыбокімі грымотамі дрыжэла паветра.

– Спадару Фрода! – гукнуў ён.

Адказу не пачуў. Замёр на момант, бо сэрца калацілася зь дзікага страху, а тады кінуўся ўсярэдзіну. А за ім сьлізнуў спрытны цень.

Напачатку ня ўбачыў анічога. У такой вялікай пільнай патрэбе дастаў шклянку Галадрыелі, але ж яна легла ў ягоную дрыготкую руку, бледная і халодная, і зусім не расьсеяла сьвятлом здушальную цемру. Бо Сэм патрапіў у самае сэрца Саўронавага каралеўства, у кавальню ягонай старажытнай моцы, найвялікшай у Міжзем'і. Усе іншыя сілы бляклі тут. Баючыся, асьцярожна й няўпэўнена зрабіў хобіт колькі крокаў, і раптам наперадзе бліснула полымя – вялізны язык агню скочыў да самай чорнай столі. Тады Сэм пабачыў, што стаіць у доўгай пячоры ці тунэлі, прабураным у баку верхняга кучменю дымнай гары. А зусім непадалёк падлогу тунэлю й сьцены расьсякае вялізная расколіна, зь якой зьзяе барва: полымя то сьціхае, хаваючыся ў цемры, то скача ўгору. Унізе ж нібыта ракочуць і цяжка бразгаюць вялізныя кавадлы й колы, і пыхкаюць кіпнем рондалі.

Полымя ўскінулася зноў, і Сэм пабачыў: на самым краі прорвы, побач з Пашчай Лёсу, стаіць Фрода – выпрастаны, застылы так цьвёрда й нерухома, нібы ператварыўся ў камень.

– Гаспадар! – выгукнуў Сэм.

Тады Фрода варухнуўся й прамовіў ясным голасам, ясьнейшым ды мацнейшым за ранейшы, які Сэм калі-небудзь чуў ад яго, і голас той узьняўся над непакоем і грымотлівым пульсаваньнем гары, адбіўся звонам ад сьценаў і столі.

– Я прыйшоў! Але зараз – вось, я вырашаю не ўчыняць таго, дзеля чаго прыйшоў. Не, гэтага я не зраблю. Пярсьцёнак мой!

І раптоўна, насунуўшы пярсьцёнак, зьнік. Сэм вохнуў, але выгукнуць не пасьпеў, бо шмат чаго здарылася ў гэты момант.

Нешта жорстка пхнула Сэма ў сьпіну, падкасіўшы ягоныя ногі. Сэма адкінулі ўбок, і ён цяжка бразнуўся галавою аб каменную падлогу. Страціў прытомнасьць на нейкае імгненьне, у вачох пацямнела.

А далёка адсюль, у Барад-дуры здрыганулася Вялікая Моц, бо Фрода насунуў пярсьцёнак ды абвесьціў яго сваім у Самат Наўры, у самым сэрцы Саўронавага каралеўства, і Цёмная вежа скаланулася ад падмуркаў да ганарлівай вострай кароны.

Зьнянацку Чорны Уладар убачыў Фрода, Вока ягонае працяла ўсе цені, павярнуўшыся да дзьвярэй у гару, якія зрабіў калісьці, і тады вялізарнасьць уласнага глупства адкрылася яму асьляпляльнаю бліскавіцаю, а пляны ворагаў нарэшце зрабіліся яснымі. Гнеў ягоны выбухнуў зьнішчальным полымем, але й страх узьняўся чорным воблакам і здушыў яго. Бо ён пазнаў сьмяротную небясьпеку, пабачыў валасок, на якім павіс зараз ягоны лёс.

Ягоны розум адкінуў умомант інтрыгі й пляны, цянёты страху й здрады, войны й задумкі, і задрыжэла ўсё ягонае валадарства. Завагаліся рабы, спыніліся войскі, і правадыры іхнія захісталіся й адчаяліся, адчуўшы, што няма каму кіраваць імі, страціўшы волю ісьці наперад. Бо на іх забыліся, бо моц і ўвага Ўладара, што кіраваў імі, спрэс зьвярнуліся да гары. Пачуўшы заклік, вусьцішна завішчэўшы, назгулы, Прывіды Пярсьцёнкаў, павярнулі й у апошняй адчайнай гонцы памчаліся спрытней за віхуры й штормам крылаў абрынуліся на поўдзень, несучыся да гары.

Сэм паўстаў. Моташна было яму, і кроў, што цякла з галавы, залівала вочы. Крочыў, хістаючыся, наперад, і тады ўгледзеў штось жудаснае й дзівоснае: Глыкс на краі прорвы звар'яцела біўся зь нябачным ворагам. Гойдаўся туды й сюды, то так блізка да краю, што ледзь не зрываўся, то далей, адсоўваючыся, падаючы долу, узьнімаючыся й падаючы зноў. І ўвесь час шыпеў, ня кажучы анічога.

Полымя ўнізе абудзілася ў злосьці, палыхнула чырваньню, і ўсю пячору запоўнілі сьвятло й сьпякота. Раптоўна Сэм пабачыў, што доўгія Глыксавы пальцы падцягнуліся да рота. Белыя іклы бліснулі, і ён шчоўкнуў імі, змыкаючы пашчу. Крыкнуў Фрода, і вось – зьявіўся, укленчыўшы на краі прорвы. А Глыкс, скочучы, бы вар'ят, высока падняў пярсьцёнак, яшчэ з адкушаным пальцам у ім. Пярсьцёнак зьзяў, быццам насамрэч выкаваны з жывога полымя.

– Кашштоўнасьсьць, кашштоўнасьсьць, мая кашштоўнасьсьць! – галасіў Глыкс. – О, мая кашштоўнасьсьць!

І з тым, бачачы ў дзікім захапленьні толькі сваю здабычу, высока ўзьнятую, скочыў надта далёка, хіснуўся, задрыжэў на момант на краі, намагаючыся ўтрымацца, а тады з пранізьлівым енкам упаў. З прорвы пачулася апошняе: "Кашштоўнасьсьць!!!" І ён зьнік.

Тут зь нетраў гары зараўло, зарычэла, затрэслася. Скочыла ўгору полымя, крануўшы столю. Пульсаваньне зьнізу зрабілася цяжкімі ўдарамі, і ўся гара суздрам скаланулася. Сэм падбег да Фрода, падхапіў, панёс да дзьвярэй. А ля іх, на цёмным ганку Самат Наўру, высока над роўнядзьдзю Мордару такое зьдзіўленьне й вусьціш апанавалі яго, што стаў скамянеўшы, забыўшыся на ўсё, толькі пазіраючы.

На кароткі час пабачыў хмару-віхраслуп, а пасярод яе – вежы й умацаваньні, вышэйшыя за горы, узьнесеныя на магутным стальцы гор над неабсяжнымі скляпеньнямі. Пабачыў вялізныя двары й цямніцы, глухія вязьніцы з стромымі сьценамі, што зеўралі брамамі з сталі й адаманту. А тады ўсё зьнікла. Абрынуліся вежы, абваламі сасьлізнулі горы, пабурыліся, рассыпаліся на друзачкі, расплавіліся муры, вялізарныя сьпічакі дыму й струмені пары ўзьняліся ў паветра, набрузьлі, пакуль не зрабіліся нібыта волатаваю хваляю з закручаным пенным грэбнем і не абрынуліся, ня вытрымаўшы ўласнага цяжару, на зямлю. І тады адтуль, за доўгія вёрсты, дакаціліся грымоты, узьняўшыся да аглушальнага грукату й трэску. Зямля задрыжэла, роўнядзь калыхнулася, патрэскалася, пахіснуўся й сам Арадруйн. Полымя выбухнула зь ягонай расколатай вяршыні. Нябёсы грымнулі, маланкі распаласавалі хмары. Пугамі чорнага дажджу абрынулася бура. І ў самае сэрца віхуры, зь лямантам, які заглушыў усе іншыя гукі, разьдзіраючы аблокі, прынесьліся ў вогненную пакуту

гары й нябёсаў назгулы, палыхнулі, бы іскры ў неабсяжным агмені, затрашчэлі, агорнутыя агнём, распаліся – згінулі.

– Вось і канец, Сэме Гэйхадзе, – вымавіў спакойны голас побач.

Голас Фрода, зьбялелага й змардаванага, але ранейшага Фрода, у якога ў вачох не было ані болю, ані страху, ані вар'яцтва, толькі спакой, вольны ад цяжару й высілкаў. Ён пазбавіўся ношы й зноў стаў дарагім гаспадаром былых салодкіх шырскіх дзён.

– Гаспадару! – выгукнуў Сэм, падаючы на калені. Праз усе крушэньні, вынішчэньні сусьвету ён адчуў радасьць, вялізную радасьць. Бо цяжар насамрэч згінуў, і гаспадар выратаваўся, стаў сабою, стаў вольным. А тады Сэм заўважыў ягоную акрываўленую, скалечаную руку.

– Бедная вашая рука! А мне й перавязаць яе няма чым, няма чым залекаваць. Я хутчэй цэлую сваю руку яму аддаў бы. Але ж яго ўжо не дастаць, ён згінуў назаўжды.

– Так, – згадзіўся Фрода. – Ці памятаеш ты Гэндальфа: "*Глыксава апошняе слова – добрае ці не – тут яшчэ не сказанае*"? Калі б ня ён, я ня здолеў бы зьнішчыць пярсьцёнак. І вандроўка нашая сталася б дарэмнаю ў самым яе горкім канцы. Дык даруйма яму! Бо мы сягнулі мэты, і ўсё скончанае. Я рады, што ты тут, з мною. Бо зараз сапраўды ўсё, Сэме.

### *4. Кармаленскае поле*

Паўсюль вакол пагоркаў лютавала мордарскае войска. Войска правадыроў Захаду патанала ў ягоным безьбярэжным моры. Сонца ліло барвянае сьвятло, і ад назгульскіх крылаў на зямлю клаўся цень сьмерці. Арагорн пад сваім сьцягам, маўклівы й суворы, нібы забыўся ў думках пра нешта далёкае ці мінулае, але вочы ягоныя зьзялі, бы зоры, што разгараюцца, калі шчыльнее змрок. На вяршыні пагорку стаяў Гэндальф, і аніякі цень не кранаў ягонага бялюткага халоднага сьвятла. Мордарскі напад пляснуў хваляй у бераг, разьбіўся аб абложаныя пагоркі, і лютыя галасы ўзьняліся прылівам сярод бразгату ды звону зброі.

Гэндальф варухнуўся, быццам раптоўная відзежа паўстала перад ягонымі вачыма, і павярнуўся на поўнач, дзе нябёсы заставаліся бледнымі й чыстымі. Тады падняў абедзьве рукі й закрычаў, перакрыўшы голасам гоман бітвы:

– Арлы лятуць!

І шмат галасоў адказалі яму:

– Арлы лятуць! Арлы!

Ваяры Мордару зірнулі ўгару й падзівіліся: што ж гэта можа азначаць?

Гэтак сягнулі поля бітвы Гвайхір Гаспадар Вятроў і ягоны брат Ландроваль, найвялікшыя з усіх арлоў Поўначы, наймагутнейшыя з нашчадкаў старога Тарондара, які будаваў гнёзды на непрыступных піках Абкружных гор яшчэ маладога сусьвету. А за імі доўгімі шэрагамі ляцелі ўсе іхнія васалы з паўночных гор, падганяныя ветрам. Яны адразу кінуліся на назгулаў, зьляцеўшы зьнянацку з вышыні, і вецер у іхніх шырокіх крылах быў падобны да віхуры.

Назгулы ж разьвярнуліся, уцякаючы, і зьніклі ў мордарскім змроку, бо раптам пачулі жудасны заклік зь Цёмнай вежы, і ў гэты самы момант задрыжэлі ўсе мордарскія войскі, бо сумнеў сьціснуў ім сэрцы, і рогат іхні сьціх, аслаблі рукі й падкасіліся ногі. Моц, якая гнала наперад, напаўняла сэрцы нянавісьцю й злосьцю, захісталася, і думкі ейныя адступіліся ад ваяў. Зірнуўшы ж у вочы ворагам, мордарскія ваяры пабачылі ў іх сьмяротнае полымя, і страх апанаваў іх.

Тады выклікнулі ўголас правадыры Захаду, бо іхнія сэрцы асьвяціла новая надзея пасярод цемры. Крочыўшы з абложаных пагоркаў, рыцары Гондару, вершнікі Рохану, дунаданы Поўначы шчыльнымі шыхтамі рушылі на ворагаў, працінаючы іхнія натоўпы моцным напорам вострых дзідаў. А Гэндальф зноў узьняў рукі й знову выгукнуў ясным голасам:

– Стойце, людзі Захаду! Стойце й чакайце! Бо гэта час кону!

І не пасьпеў дагаварыць, як зямля здрыганулася пад нагамі. А тады, імкліва ўздымаючыся ў захмар'е, вышэй ад вежаў Чорнай Брамы, вышэй ад гор, жудасная неабсяжная цемра ўскінулася ў нябёсы, праблісквaючы полымем. Застагнала зямля, скаланулася. Хіснуліся вежы Іклаў, задрыжэлі й упалі, абрынуўся долу магутны мур Брамы й лёг руінамі, грымнуўшы, а здалёк, то сьціхаючы, то ўзмацняючыся, а то аглушальна, прыкаціў барабанны грукат, роў, рэха гармідару вялікага разбурэньня.

– Скончылася ўлада Саўрона! – абвесьціў Гэндальф. – Носьбіт пярсьцёнка сягнуў мэты!

І правадыры зірнулі на поўдзень, на мордарскі край, і падалося ім, што там узьнялася вялізманая цяністая постаць, чорная на шэрых аблоках, непраглядная, каранаваная маланкамі, запаўняючы ўсе нябёсы. Магутна паўстала яна над сусьветам, працягнула гіганцкую пагрозьлівую руку, жудасную, але бясьсілую, і калі постаць

нахілілася над рыцарамі, моцны вецер падхапіў яе, усю суздрам зьнёс прэч ды разьвеяў. І паўстала ціша.

Правадыры нахілілі галовы, а калі зноў зірнулі навокал, дык – пабач жа! – ворагі ўсе ўжо ўцякалі. Мордарскае войска расьсейвалася пылам па ветры. Калі дачасна памірае тая распухлая цяжарная пачвара, што тоіцца ў глыбінях мурашніка ды трымае яго пад сваёю ўладаю, мурашы бадзяюцца бязмэтава й паміраюць у немачы – так і Саўронавы пачвары, оркі, тролі ці ўвязьненыя чарамі зьвяры, забегалі, замітусіліся бязглузда й бессэнсоўна. Якія зь іх забівалі сябе, якія кідаліся ў яміны, якія беглі хавацца, лямантуючы, у безнадзейных норах ды цёмных скляпеньнях. А людзі Руну й Хараду, усходнікі й паўднёўцы зразумелі, што вайна прайграная, убачылі веліч і славу войска Захаду й ягоных правадыроў. Ставала ворагаў тых, хто ўкаранеў у ліху, хто даўжэй служыў Цёмнай вежы, ненавідзячы Захад. Былі яны ганарлівыя й адважныя, і таму самі зараз паўсталі на апошнюю адчайную бойку. Але большасьць кінулася наўцёкі на ўсход не шкадуючы ног, а іншыя пакідалі зброю, молячы літасьці.

Гэндальф жа, пакінуўшы далейшую бітву й ачольства Арагорну й іншым гетманам, паклікаў зь вяршыні пагорку – і да яго долу зьляцеў Гвайхір Гаспадар Вятроў і паўстаў перад ім.

– Двойчы нёс ты мяне, сябра Гвайхіру, – сказаў Гэндальф. – Трэці ж раз – вырашальны, як кажуць. Калі будзе тваё жаданьне, панясі мяне зноў. Не нашмат цяжэйшай ношаю я буду табе, чым калі нёс ты мяне зь Зіракзігіля, дзе спарахнела маё старое жыцьцё.

– Я панёс бы цябе, нават калі б ты быў з каменю, – адказаў арол.

– Тады рушма, і дазволь свайму брату выправіцца з намі, а таксама яшчэ аднаму з твайго народу, найспрытнейшаму! Бо нам патрэбная хуткасьць, большая за любы вецер, каб абагнаць назгульскія крылы.

– Дзьме паўночны вецер, але мы абгонім яго, – адказаў Гвайхір.

Падняў Гэндальфа й панёс прэч, а зь ім паляцелі Ландроваль і малады хуткакрылы Менэльдар. Пралятаючы над Удунам і Гаргаратам, пабачылі гармідар і разбурэньні пад сабою, а перад імі палыхала гара Выраку, выввяргаючы полымя.

– Як жа я рады, што ты тут, з мною, – вымавіў Фрода. – Бо гэта скончэньне ўсяму.

– Так, я з вамі, спадару, – Сэм асьцярожна паклаў Фродаву параненую руку яму на грудзі. – І вы з мною. Вандроўка нашая скончылася. Усё-ткі, столькі прайшоўшы, я не хачу зараз здацца. Няслушна гэтак, калі вы разумееце.

– Можа й не, Сэме. Але гэтак звычайна й здараецца ў нашым сьвеце. Надзея памірае, і надыходзіць канец. У нас засталося мала часу. Мы сярод разбурэньня й гібелі, і ратунку няма.

– Усё ж, спадару, мы ж можам прынамсі прыбрацца як далей ад гэнай Палымянай расколіны, ці як там яе. Ці здольныя вы? Ну, давайце, спадару Фрода, нам жа трэба па той сьцежцы спусьціцца, так?

– Добра, Сэме. Калі ты жадаеш, я пайду з табою.

Яны ўсталі й павольна рушылі па зьвілістым шляху, але не пасьпелі сягнуць ніжняй часткі дрыготкай гары, як вялізны струмень дыму й пары вырваўся з Самат Наўру, вяршыня гары раскалолася й жудаснай вязкаю плыньню хлынула лава, грукочучы па ўсходнім баку гары.

Далей ходу не было. Апошнія сілы хобітаў хутка зьнікалі. Сябры забраліся на невысокі пагорак, кучу попелу, нагрувашчаную ля ўзножжа гары, а адтуль ужо не было куды падзецца. Тая куча вытыркалася недаўгавечнаю выспаю сярод агоніі

Арадруйну. Паўсюль навокал пашчамі ашчэрвалася пакутная зямля, з глыбокіх ямінаў і шчылінаў вырываліся полымя й дым. А за сьпінамі калацілася гара. Вялізныя расколіны-раны адкрыліся на яе баках, і па іх пацяклі долу павольныя рэкі агню. Хутка ўжо сягнуць яны нізу, паглынуць і пагорак, і хобітаў. Зь нябёсаў ляцелі шматкі гарачага прыску.

Хобіты ўсталі, азіраючыся, і Сэм, усё гэтак трымаючы Фродаву руку, пяшчотна яе пагладзіў і ўздыхнуў.

– У якой жа казцы мы былі, а, спадару Фрода? Каб мне толькі пачуць, як яе распавядаюць! Як мяркуеце, ці скажуць што накшталт: "*А зараз пачуйце гісторыю пра Фрода Дзевяціпальцага ды Пярсьцёнак Лёсу*"? А тады ўсе змоўкнуць, як мы змоўклі, калі ў Долым Яры слухалі расповед пра Бэрэна Аднарукага й Вялікі Дыямэнт. Як хацелася б пачуць! І цікава, як жа ж гэная гісторыя пойдзе далей, бяз нас?

І ўсё ж, прамаўляючы гэтак, каб адагнаць страх, адцягнуць да апошняга, вочы Сэм усё скіроўваў на поўнач, насустрач ветру ды ясным нябёсам удалечыні, дзе халодная віхура, вырастаючы ў буру, адганяла прэч цемру й рызманы аблокаў.

Так і заўважыў іх Гвайхір вострымі вачыма, спусьціўшыся на крылах ветру, і насуперак магутнай віхуры закружляў над імі – дзьвюма маленькімі цьмянымі постацямі, самотнымі, рука ў руцэ на невялічкім пагорку, вакол якога дрыжыць сьвет, пакутуе зямля й злучаюцца вогненныя рэкі. Ужо нырнуўшы долу за імі, убачыў, што яны ўпалі, ці вытаміўшыся ўшчэнт, ці задыхнуўшыся ад дыму й сьпякоты, ці паддаўшыся нарэшце адчаю, заплюшчыўшы вочы перад аблічам сьмерці.

Яны ляжалі поруч, калі да іх зьляцелі Гвайхір, Ландроваль і спрытны Мэнэльдар, і вось так у забыцьці, ня ведаючы лёсу, што выпаў ім, вандроўнікі былі паднятыя й зьнесеныя далёка прэч ад цемры й полымя.

Сэм ачомаўся на нейкім мяккім ложку, над галавою ягонай лагодна калыхаліся бярозавыя галіны, і скрозь іхняе маладое лісьце праблісквала золатам і зелянёю сонечнае сьвятло. Усё паветра запаўняў няясны салодкі водар.

Ён згадаў гэты пах: гэтак духмяніў Ітыльён.

"Аёечкі! – падумалася. – Колькі ж я праспаў?"

Бо водар адкінуў яго назад, у дзень маленькага вогнішча пад сонечным схілам, і на момант анічога болей не ўсплыло ў памяці Сэма. Пацягнуўся, глыбока ўдыхнуў. Прамармытаў:

– Ну й сны ў мяне! Добра, што нарэшце прачнуўся.

Сеў і пабачыў, што Фрода таксама ляжыць на ложку побач і спакойна сьпіць, паклаўшы адну руку пад галаву, а другую на коўдру – правую руку, на якой не хапае безыменнага пальца.

Памяць хлынула на Сэма, і ён выгукнуў уголас:

– Тое ня сон! Тады дзе ж мы?

– У зямлі Ітыльёну, пад каралеўскім доглядам. Кароль чакае вас, – вымавіў мяккі голас за сьпінаю.

І Гэндальф паўстаў перад Сэмам, апрануты ў белае, з барадою, якая зьзяла, бы чысты сьнег пад промнямі, што працялі маладое зыркае лісьце.

– Спадару Сэмвайзе, як пачуваесься?

А Сэм адкінуўся назад, і ажно рот разявіў ад нечаканасьці, і на якую хвілінку паміж невыказным зьдзіўленьнем і вялікай радасьцю страціў усе словы. Выдыхнуў нарэшце:

– Гэндальфе! Я ж думаў, ваша памёр! Але я й пра сябе думаў, што памру. Што, усялякае ліха ўжо мінула, ня спраўдзіўшыся? Што адбылося зь сьветам?

– Сьвет пазбавіўся ад вялікага ценю, – адказаў Гэндальф і засьмяяўся, і, чуючы той сьмех, Сэм падумаў, што ня чуў падобнага – сапраўднай чыстай радасьці – ужо безьліч дзён.

А ў самога на вочы навярнуліся сьлёзы. Тады, нібыта пасьля вясновага дожджыку, зьнесенага сьвежым ветрам, сонца зазьзяла зырчэй, – Сэм, адплакаўшы, засьмяяўся, бо сьмех падняўся ў ім неадольнаю хваляю, і хобіт саскочыў з ложка сьмеючыся.

– Як я пачуваюся? – выгукнуў. – Я нават і ня ведаю, як выказаць, – ён разьвёў рукамі. – Ну, рыхтык вясна пасьля зімы, сонца на лісьці, рыхтык трубы, і арфы, і ўсе песьні, якія я толькі чуў!

Тут раптам змоўк і павярнуўся да гаспадара.

– Але ж як у спадара Фрода справы? Ці ня прыкра, што гэткае з рукою здарылася? Спадзяюся, усё астатняе ў парадку. Цяжка яму давялося.

– Так, у астатнім я ў парадку, – пацьвердзіў Фрода, сеў на ложку й засьмяяўся. – Я сам заснуў зноўку, чакаючы, пакуль ты прачнесься, соня няшчасны. Бо я абудзіўся на ранку, а зараз ужо амаль полудзень.

– Полудзень? – Сэм паспрабаваў падлічыць. – Полудзень якога дня?

– Чатырнаццатага дня новага году, – адказаў Гэндальф, – ці, калі табе болей даспадобы, восьмага красавіка паводле шырскага адліку*. Але ў Гондары новы год заўжды цяпер будуць адлічваць з *дваццаць пятага сакавіка*, калі быў абвержаны Саўрон і калі вас прынесьлі з полымя да караля. Ён даглядаў вас, і зараз чакае, каб есьці й піць разам з вамі. Калі будзеце гатовыя, я адвяду вас да яго.

– Кароль? – перапытаў Сэм. – Чаго кароль і хто ён такі, той кароль?

– Кароль Гондару й гаспадар Заходніх земляў, – адказаў Гэндальф. – Бо ён вярнуў усе свае старажытныя валоданьні. Неўзабаве ён паедзе прыняць карону, але зараз чакае вас.

– Што ж мы апранем? – Сэм агледзеўся й убачыў толькі згорнутыя ля ложкаў старыя лахманы, у якіх вандравалі.

– Тую вопратку, у якой ішлі ў Мордар, – адказаў чараўнік. – Бо нават орцкія анучы, што насіў Фрода ў Чорнай зямлі, будуць захаваныя. Бо аніякі ядваб і мошаст, аніякія броні й гербы з пазнакамі не ўшанавацьмуцца болей за іх. Але потым я, напэўна, падшукаю вам што іншае.

Тады працягнуў ім рукі, і хобіты пабачылі, што з адной зьзяе сьвятло.

– Што гэта ў вашці? – выгукнуў Фрода. – Ці насамрэч тое...

– Так, бо я прынёс вам вашыя скарбы. Яны былі з Сэмам, калі вас выратавалі, падарункі Панны Галадрыелі: твой фіял, Фрода, і твая скрынка, Сэме. Вось вам на задавальненьне, трымайце!

Калі памыліся й апрануліся ды зьлёгку пасьнедалі, хобіты рушылі за Гэндальфам. Вышлі зь бярозавага гайку, дзе адпачывалі, на доўгі зялёны луг, ажно зіхоткі пад сонцам. Яго акалялі гонкія цёмналістыя дрэвы, абсыпаныя пунсовымі краскамі. За сьпінамі чуўся гоман вадаспаду, а наперадзе між берагамі ў кветках імчаў струмень, хаваючыся ў лесе, праходзячы пад аркаю зялёных дрэваў. Праз тую выгбу хобіты пабачылі ўдалечы пробліск вялікай вады.

---

* Паводле шырскага адліку ў сакавіку (ці рэце) трыццаць дзён.

Калі падышлі да ўзьлеску, зьдзівіліся, бо там стаялі рыцары ў зыркіх латах ды высокія вартавыя ў срэбным й чорным, якія пакланіліся хобітам і пашанотна павіталі іх. А тады адзін падзьмуў у доўгі рог, і хобіты прайшлі праз купу дрэваў ля гаманлівага струменю й выйшлі на шырокае зялёнае поле, за ім ляжала ў срэбнай смузе вялікая рака з доўгай лясістай выспай і мноствам караблёў ля яе берагоў. А на полі пастала шыхтамі вялізнае войска, і харугвы ягоныя, і шэрагі блішчэлі пад сонцам. Калі хобіты наблізіліся, ваяры агалілі мечы й узьнялі дзіды. Загулі рогі й горны, а людзі загаласілі на мностве моў:

*Хай жывуць паўросьлікі! Шануйце іх вялікай пашанаю!*
*Куя й Пэрыян анан! Аглар'ні Пэрыянат!*
*Шануйце іх вялікай пашанаю, Фрода й Сэмвайза!*
*Даўр а Бэрхаэл, Конін эн Анун! Эглерыа!*
*Шануйце!*
*Эглерыа!*
*А лайта тэ, лайта тэ! Андаве лайтувалмэт!*
*Шануйце!*
*Кармаколіндар, а лайта тарыена!*
*Шануйце іх! Ахавальнікаў пярсьцёнка,*
*шануйце вялікай пашанаю!*

І вось так, пачырванеўшы да вушэй, з вачыма, поўнымі зьдзіўленьня, крочылі наперад Фрода з Сэмам і пабачылі пасярод радаснага войска тры стальцы, складзеныя зь зялёнага дзёрну. За правым нястрымана імчаў на зялёнай харугве вялікі белы конь, за левым плынеў на сьцягу па блакіце мора срэбны лебедзь-карабель, а за вышэйшым сярэднім пасадам лунаў на ветры вялізны прапар зь Белым Дрэвам у квецені на аксамітна-чорным полі пад зіхоткай каронаю й сямю зорамі. На тым стальцы сядзеў чалавек у кальчужнай брані, і вялікі меч ляжаў на ягоных каленях. Аднак шалома на галаве ён ня меў. Калі хобіты наблізіліся, ён узьняўся, і яны пазналі яго, хоць ён і зьмяніўся: такі велічны, радасны, па-каралеўску шляхетны, валадар людзей, цёмнавалосы й шэравокі.

Фрода кінуўся да яго бегма, і Сэм ледзь пасьпяваў сьледам.

– Ну, ці не найвялікшая неспадзяванка напрыканцы! – выдыхнуў Сэм. – Ці я шчэ сплю, ці тое насамрэч Швэндал!

– Так, Сэме, Швэндал! – пацьвердзіў Арагорн. – Ці ж ня доўгі шлях сюды ад Прыгор'я, дзе я табе не прыглянуўся? Сапраўды, доўгі шлях для ўсіх нас, але ж твой – найчарнейшы.

І тады, на Сэмава поўнае аслупяненьне, ён стаў на калена перад хобітамі, а потым, узяўшы Сэма за руку левай рукою, а Фрода – правай, падвёў да стальца й уссадзіў на яго. А тады павярнуўся да ваяроў і ачольцаў, што стаялі побач, і прамовіў зычна, так што голас ягоны разьляцеўся па-над усім войскам:

– Шануйце іх вялікай пашанаю!

І калі радасныя погукі ўскінуліся хваляю й сьціхлі зноў, на Сэмава суцэльнае й непераўзыходнае задавальненьне й радасьць, гондарскі музыка выйшаў наперад і, схіліўшы калена, папрасіў дазволу сьпяваць. І – пачуйце ж! – ён абвесьціў:

– Слухайце, спадары, і рыцары, і людзі незраўнанай адвагі, каралі й князі, сьветлы народ гондарскі, вершнікі Рохану, і вы, сыны Эльранда, і дунаданы Поўначы,

эльф, і гном, і добрыя хобіты Шыру, і ўвесь вольны народ Захаду, слухайце ж маю песьню! Бо я запяю вам пра Фрода Дзевяціпальцага й Пярсьцёнак Лёсу!

І пачуўшы, Сэм засьмяяўся шчырай радасьцю, і паўстаў, і выклікнуў:

– Тое вялікі гонар і цуд! Усе мае жаданьні спраўдзіліся!

І заплакаў.

І ўсё войска сьмяялася й плакала, і сярод весялосьці й сьлёзаў ясны голас музыкі ўзьняўся срэбрам і золатам, і ваяры змоўклі. А ён сьпяваў ім то на эльфскай мове, то на Заходніцы, пакуль сэрцы іхнія, кранутыя словамі, не перапоўніліся, і радасьць ня сталася вострым мечам, і думкі ня зьнесьлі туды, дзе радасьць і боль струменяць разам, і сьлёзы – сьвятое добраславёнае віно.

Нарэшце, калі сонца схілілася да сутоньня й ад дрэваў леглі доўгія цені, ён скончыў. Вымавіў напрыканцы:

– Шануйце іх вялікай пашанаю!

І схіліў калена. А тады падняўся Арагорн і ўсё войска, і яны прайшлі да намётаў і шатроў, каб есьці й піць ды прабавіць у весялосьці рэшту дня.

Сэма й Фрода правялі да асобнага намёта, там зьнялі іхнюю старую вопратку, склалі й упакавалі, каб захаваць у вялікай пашане, і далі ім чыстае. Тады ўвайшоў Гэндальф, і ў ягоных руках Фрода, зьдзіўлены, пабачыў корд і міфрыльную кальчугу, якія страціў у Мордары. Сэму ж чараўнік прынёс пазалочаную кальчугу й ягоны эльфскі плашч, папраўлены ад усіх драпінаў і плямінаў вандроўкі, дый паклаў мечы перад імі.

– Я не хачу аніякага меча, – адмовіўся Фрода.

– Але ж хоць сёньня ты мусіш узяць яго, – запярэчыў Гэндальф.

Тады Фрода ўзяў малы корд, што належаў Сэму, – той, які Сэм паклаў ля гаспадара ў Кірыт Унгал.

– Джала я даю табе, Сэме.

– Не, спадару! Пане Більба даў яго вашці, і ён жа разам з срэбнай кальчужкаю, наўрад Більба хацеў бы, каб хто іншы насіў іх!

Фрода давялося пагадзіцца, і Гэндальф, нібы збраяноша, укленчыў і насунуў на хобітаў пасы з мечамі, а тады, падняўшыся, укаранаваў сяброў срэбнымі вянцамі. Так апранутыя, яны выправіліся на вялікае баляваньне й селі за каралеўскім сталом разам з Гэндальфам, каралём Рохану Эямэрам, князем Імрахілем і ўсімі галоўнымі ачольцамі, а таксама там былі Гімлі й Ляголас.

Пасьля хвіліны моўчы каралям прынесьлі віно два збраяносцы, ці так падалося, бо адзін быў апрануты ў срэбна-чорны рыштунак Варты Мінас Тырыту, а другі – у белае й зялёнае. А Сэм падзівіўся: што такія хлапчукі робяць сярод войска магутных мужоў? Калі ж яны наблізіліся й Сэм прыгледзеўся, дык уражана выгукнуў:

– Ну, зірніце толькі, спадарыку Фрода! Зірніце-тка! Ці ж тое ня Піпін, спадар Пэрыгрын Хват, дакладней кажучы, і спадар Мэры! Як жа яны вырасьлі! Ба-ацюхны! Бачу, ім болей за нас ёсьць што распавесьці.

– Насамрэч, – згадзіўся Піпін, паварочваючыся да іх. – І мы адразу пачнем гаманіць, як толькі баляваньне скончыцца. А да таго паспрабуйце падступіцца да Гэндальфа. Ён не такі ўтойлівы, як раней, хоць цяпер сьмяецца болей, чым гаворыць. То ж бо мы з Мэры занятыя. Мы – рыцары Гораду й Украйны, як, я спадзяюся, вы заўважылі.

І вось скончыўся дзень радасьці, і калі сонца схавалася й поўня павольна ўзьнялася над туманамі Андуйну, заблішчэла сярод дрыготкага лісьця, Фрода з Сэмам паселі пад шапоткімі дрэвамі сярод водару сьветлага Ітыльёну й гаманілі да глыбокай

ночы з Мэры й Піпінам ды Гэндальфам, а крыху пасьля й Ляголас з Гімлі далучыліся да іх. Там Фрода з Сэмам шмат даведаліся пра тое, што здарылася зь Зьвязам Пярсьцёнка пасьля ліхога дня на Парт Галене ля вадаспадаў Рэрасу, і як ні распавядалі, заўжды ўзьнікалі пытаньні й новыя гісторыя.

Оркі й гаманкія дрэвы, мілі травяністай роўнядзі, вершнікі ў скачцы, зіхоткія пячоры, белыя вежы й залатыя залі, бітвы і высокія караблі пад ветразямі – усё віхурылася перад Сэмавым розумам, пакуль ён цалкам не заблытаўся ў гэткіх дзівосах. Але ж сярод іх заўжды вяртаўся да свайго першага зьдзіўленьня – росту Піпіна й Мэры – і прымушаў сяброў памерацца сьпіна да сьпіны з Фрода й сабою. А тады чухаў патыліцу.

– Ну, не разумею – у іхнім веку! Гномам буду, калі яны не на тры цалі даўжэйшыя, чым раней!

– Ну, гномам ты дакладна ня будзеш, – зазначыў Гімлі. – Я што казаў? Сьмяротным наўрад ці варта піць энтавы напоі, а потым спадзявацца, што наступстваў будзе як ад куфля піва.

– Энтавы напоі? – спытаў Сэм. – Вось вы зноўку пра энтаў. Але што ж яны такое, уцяміць не магу. Ну, тыдні пройдуць, пакуль усе гэтакія рэчы ў галаве ўтрасуцца!

– Насамрэч, тыдні, – згадзіўся Піпін. – А тады замкнем Фрода ў вежы Мінас Тырыту дый прымусім усё запісаць. Інакш палову забудзецца, і небарака стары Більба будзе страшэнна расчараваны.

– Вядома, рукі караля ацаляюць, дарагія мае сябры, – сказаў нарэшце Гэндальф, падымаючыся. – Але ж вы былі на самым краі сьмерці, адкуль ён вас выратаваў, прыклаўшы ўсю сваю моц, каб перанесьці ў салодкае забыцьцё сну. І хоць спалі вы доўга й добра, усё ж зараз час ізноў адпачываць.

– І ня толькі для Фрода з Сэмам, але й для цябе, Піпіне, – азваўся Гімлі. – Даражэнькі ты для мяне, хоць бы за тое, чаго мне каштаваў. Аніколі не забудуся. Таксама й таго, як адшукаў цябе на полі апошняй бітвы. Каб ня гном Гімлі, так ты й згінуў бы там. Усё ж, я ведаю, як выглядае хобіцкі ступак, а гэта ўсё, што тырчэла з-пад кучы целаў. А калі я адваліў зь цябе тую тушу, думаў – мёртвы, няйначай. Ледзь бараду тады зь сябе не папавыдзіраў. Сёньня ж толькі дзень, як ты ачомаўся й стаў на ногі. Такім чынам, у ложак! І я таксама.

– А я пашпацырую ў лясох гэтай сьветлай зямлі, і тое для мяне найлепшы адпачынак, – вымавіў Ляголас. – Калі гаспадары мае дазволяць, я запрашу частку майго народу сюды, і калі мы прыйдзем, на некаторы час край добраславіцца – на месяц, на чалавечае жыцьцё, на сотні чалавечых гадоў. Але ж надта блізка тут Андуйн, і ён вядзе да мора. Да мора!

*Да мора, да мора! Там белыя кірлі галосяць,*
*Хвалі ды вецер суворы пену белую носяць.*
*На Захад, на Захад сонца рудое імкнецца.*
*Шэры човен, ці чуеш, як па-над морам нясецца*
*Братоў маіх покліч, што да мяне адплылі?*
*І я пакіну лясы, якія мяне нарадзілі.*

*Бо выцеклі нашы гады і нашы вякі станчэлі,*
*Самотных праз воды кону нас панясуць карабелі*
*Туды, дзе доўгая хваля на бераг апошні імкнецца,*
*Дзе заклік салодкі ад Страчанай Выспы нясецца.*
*О, Эрэсэя, край несьмяротны, вечнага лета краіна,*
*Дом пракаветны, дзе заўжды нас чакае радзіна!*

Так сьпяваючы, Ляголас спусьціўся па схіле.

За ім і астатнія разышліся, і Фрода з Сэмам вярнуліся да ложкаў і паклаліся спаць. А раніцаю падняліся ў спакоі, абнадзееныя, і прабавілі яшчэ шмат дзён у Ітыльёне. Бо Кармаленскае поле, дзе стаяла лягерам войска, ляжала непадалёк ад Хэнет Ануну, і па начах чуваць былі сьпевы ручаю, што струменіў ад ягоных вадаспадаў праз скалістую цясьніну й далей, скрозь лугі ў квецені да плыняў Андуйну ля выспы Кайр Андрас. Хобіты шпацыравалі тут і там, наведвалі мясьціны, якія праходзілі раней, і Сэм заўжды спадзяваўся ў якім лясным ценю ці таемнай палянцы хоць бы адным вочкам заўважыць вялізнага аліфаўнта. А калі даведаўся, што пры аблозе Мінас Тырыту мноства гэтых зьвяроў вынішчылі, засмуціўся ад такой горкай страты.

– Ну, нельга ж адразу паўсюль пабываць, – суцешыў сябе нарэшце. – Аднак, падаецца, я шмат прапусьціў.

Войска нарэшце падрыхтавалася да вяртаньня ў Мінас Тырыт. Стомленыя адпачылі, параненыя ацаліліся. Бо некаторым давялося шмат працаваць і біцца з рэшткамі ўсходнікаў і паўднёвікаў, пакуль усіх іх не падпарадкавалі. Апошнімі ж вярнуліся тыя, каго паслалі ў Мордар вынішчаць крэпасьці на поўначы таго краю.

Нарэшце, калі ўжо наблізіўся травень, правадыры Захаду выправіліся. Усё войска пасела на караблі й адплыло па Андуйне да Азгіліяту. Там засталіся на дзень, а назаўтра выйшлі на поле Пеленару ды зноўку пабачылі белыя вежы пад высокім Міндолуйнам, горад людзей Гондару, апошнюю памяць Захаду, якая крочыла зь цемры й полымя да новага дня.

І перад ім пасярод зеляніны поля разьбілі намёты, каб дачакацца раніцы, бо раніцаю надыходзіў травень, і кароль жадаў уступіць у горад зь першымі промнямі сонца.

## *5. Намесьнік і кароль*

Сумнеў навіс над горадам Гондару ды вялікая вусьціш. Сонца й чыстыя нябёсы, здавалася, кпілі зь людзей, бо будучыня абяцала няшмат надзеі, і кожны новы ранак поўніўся чаканьнем жудасных зьвестак. Гаспадар места загінуў спалены, у цытадэлі ляжаў і мёртвы кароль Рохану, новы ж кароль, які прыйшоў уночы, выправіўся, каб ваяваць сілу чорную й жудасную, мацнейшую за ўсё, што магчыма адолець зброяй ці адвагай. І навінаў ад яго не было. Пасьля таго як войска мінула Моргульскую даліну й рушыла на поўнач пад ценем гор, аніводны ганец не прыбыў у горад і ніводная чутка не даляцела пра тое, што робіцца на злавесным усходзе.

Праз два дні ад сыходу правадыроў Захаду панна Эявін папрасіла жанчыну, што даглядала яе, прынесьці адзеньне, узьнялася з ложка, ня церпячы пярэчаньняў і, калі яе апранулі й замацавалі руку на пятлі з палатна, выправілася да кашталяна Сядзібаў Ацаленьня.

– Пане вяльможны, – абвесьціла яму, – я ў вялікім непакоі й не магу адлежвацца ў ляноце.

– Спадарычня, – узмаліўся ён, – вашамосьць не ацалілася, і мне загадана адмыслова даглядаць за вашэцяй. Паньне варта ляжаць у ложку яшчэ цягам сямі дзён, так мне сказалі. Малю вашамосьць, вярніцеся да свайго пакою!

– Я ацалілася, хоць бы й толькі целам, апрача адной левай рукі, і тая мне не перашкаджае. Але ж духам захварэю зноў, калі застануся бяз справы. Ці ёсьць якія весткі пра вайну? Мая даглядчыца нічога ня кажа.

– Няма навінаў. Правадыры мінулі Моргульскую даліну. Людзі кажуць, што новы гетман з Поўначы – іхні агульны ачольца. Ён вялікі правадыр і лекар, і дзівосна, што рука, здольная ацаляць, таксама й трымае меч. Цяпер ня гэтак у Гондары, хоць раней і здаралася, калі верыць старым паданьням. Бо ўжо доўгія гады мы, лекары, мусім толькі выпраўляць пашкоджанае мечам. Хоць хапіла б нам працы й бяз гэтага, бо ў сьвеце стае ліха й небясьпек, і ня трэба яшчэ й войнаў, каб памнажаць іх.

– Аднога ворага хопіць, каб нарадзіць вайну, спадару кашталяне, – запярэчыла Эявін. – І тыя, хто ня мае меча, усё-ткі могуць памерці на ім. Ці хацеў бы спадар, каб народ Гондару зьбіраў толькі зёлкі, пакуль Чорны Ўладар зьбірае войскі? І не заўжды лепшае – ацаліцца целам. І не заўжды бяда – памерці ў бітве, хоць бы ў жорсткім болю. Калі б мне дазволілі, у гэты час я абрала б апошняе.

Кашталян зірнуў на яе: высокая, вочы палаюць на зьбялелым твары, рукі сьціснуліся ў кулакі, як зірнула ва ўсходняе вакно. Памаўчаўшы крыху, павярнулася да лекара зноў.

– Няўжо для мяне няма справы? Хто ачольвае гэты горад?

– Дакладна ня ведаю. Ня мой гэта клопат. Над вершнікамі Рохану ёсьць маршалак, а гаспадар Хурын, як мне казалі, ачольвае людзей Гондару. Але паводле права гаспадар Фарамір – намесьнік гораду.

– Дзе мне адшукаць яго?

– У гэтых Сядзібах, мая панна. Ён быў цяжка паранены, але зараз ацаляецца. Але ж я ня ведаю...

– Ці не загадае пан прывесьці мяне да яго? Тады й даведаецца.

Самотны намесьнік Фарамір шпацыраваў па садзе Сядзібаў Ацаленьня. Сонца саграваала яго, і ён адчуваў, як жыцьцё нанова струменіць па жылах. Але ж на сэрцы ляжаў цяжар, прымушаў пазіраць за мур, на ўсход. Падышоў кашталян. Фарамір

азірнуўся, і перад ім паўстала панна Эявін Роханская, і жаль уразіў ягонае сэрца, бо ўбачыў і зразумеў: яна параненая й бядуе ад смутку й непакою.

– Гаспадару мой, – вымавіў кашталян, – перад вашамосьцю панна Эявін Роханская. Разам з каралём яна прыйшла сюды й была цяжка параненая, а зараз пад маёю апекаю. Але ж не задаволеная й жадае перамовіць з намесьнікам гораду.

– Зразумейце слушна, вашамосьць, – азвалася Эявін. – Не недахоп догляду ці шанаваньня турбуе мяне. Няма месца лепшага для таго, хто прагне хутчэй ацаліцца. Проста я не магу ляжаць у лайдацтве, бяз справы, у клетцы. Я шукала сьмерці ў бітве, але выжыла, а бітва яшчэ йдзе.

На Фараміраў знак кашталян пакланіўся й сышоў прэч.

– Што я магу зрабіць для вашамосьці, мая панна? – спытаў Фарамір. – Я таксама вязень лекараў.

Зірнуў на яе, і таму, што глыбока кранаў яго жаль, яму падалося, што яе хараство ў горы працінае сэрца. А яна глянула на яго, і пабачыла суворую пяшчоту ў вачох, і разам з тым зразумела, народжаная сярод ваяроў, што аніводны зь вершнікаў Рохану не пераўзыдзе ў бітве таго, хто стаіць перад ёю.

– Чаго жадае панна? – перапытаў ён. – Калі тое ў маёй моцы, я выканаю.

– Я хацела б, каб вашамосьць загадаў кашталяну адпусьціць мяне, – і хоць яшчэ ганарыста гучалі словы, сэрца панны скаланулася, і ўпершыню яна засумнявалася ў сабе. Бо здагадалася, што гэты высокі чалавек, суворы й добры, падумаў, напэўна: яна капрызнае малое, якое не зьбярэцца зь сіламі выканаць нудотны абавязак.

– Сам я пад кашталянавым доглядам і ўладаю, – адказаў Фарамір. – І не прыняў яшчэ кіраўніцтва горадам. Аднак нават калі б і прыняў, я ўсё-ткі прыслухоўваўся б да ягоных парадаў і не пярэчыў бы яму ў пытаньнях ягонага майстэрства, хіба толькі з прычыны вялікай патрэбы.

– Я не жадаю ацаленьня. Я прагну ехаць на бітву, як брат мой Эямэр ці, лепей, як кароль Тэядэн, бо ён загінуў, набыўшы гонар і спакой.

– Надта позна, мая панна, ехаць за правадырамі, нават калі б у вашамосьці стала на тое моцы. А сьмерць у бітве яшчэ можа прыйсьці да ўсіх нас, жадаем мы таго ці не. Лепей падрыхтавацца да яе, як спадарыні падаецца найлепш, а пакуль ёсьць час, слухацца лекараў. Панна й я мусім цярпліва трываць гадзіны чаканьня.

Яна не адказала, але ён заўважыў: нешта ў ёй памякчэла, нібы жорсткі лёд паддаўся першаму слабому подыху блізкай вясны. Сьляза пабегла па шчацэ бліскучаю дажджавою кропляю. І зірнула яна ўжо ня так ганарыста, і апусьціла вочы. Вымавіла ціха, быццам болей сабе, а не яму:

– Лекары кажуць, каб я ляжала яшчэ сем дзён. Але маё вакно нават не паглядае на ўсход.

І голас ейны быў голасам маладой дзяўчыны, журботным й сумным.

Фарамір усьміхнуўся, хоць сэрца ягонае поўнілася жалем.

– Вакно панны не выходзіць на ўсход? Тое няцяжка выправіць. У гэтым я выяўлю ўладу над кашталянам. А калі панна застанецца ў гэтых Сядзібах дзеля ацаленьня, тады зможа выходзіць і ў гэты сонечны сад, калі захоча, ды пазіраць на ўсход, куды сышлі ўсе нашы надзеі. І спаткае тут мяне, бо я таксама ў чаканьні пазіраю на ўсход. І мая трывога паменшае, калі панна пагамоніць з мною ці пройдзецца поруч.

Тады яна падняла галаву й зноў зірнула яму ў вочы, і шчокі ейныя паружавелі.

– Як жа мне палегчыць трывогу вашамосьці? Я не хачу размаўляць з жывымі.

– Ці жадае панна шчыры адказ?

– Так.

– Тады, Эявін Роханская, я скажу: ты прыўкрасная. У далінах нашых гораў краскі зыркія хараствам, а дзяўчаты прыгажэйшыя за іх, але ні красачкі, ні паненкі ня бачыў я ў Гондары такога хараства – і такога засмучэньня. Можа, толькі жменя дзён засталася нам да таго, як цемра абрынецца на наш сьвет, і калі яна прыйдзе, я спадзяюся спаткаць яе мужна. Але маё сэрца, пакуль яшчэ зьзяе сонца, пацешыцца, калі пабачу цябе. Бо ты й я прайшлі пад крыламі ценю, і адна рука вярнула нас з-пад іх.

– На жаль, не мяне, спадару мой. Цень яшчэ ляжыць на мне. Не шукай суцяшэньня ад мяне! Бо я – ваяроўна Рохану, і няма пяшчоты ў маёй руцэ. Але ж я ўдзячная спадару, што ня мушу сядзець у каморы й вольная шпацыраваць тут міласьцю намесьніка гораду.

І шляхетна разьвіталася дый пайшла да свайго пакою. А Фарамір яшчэ доўга хадзіў самотна ў садзе, і позірк ягоны часьцей зьвяртаўся да Сядзібаў, чым да ўсходніх муроў.

Калі вярнуўся ў пакоі, паклікаў кашталяна, каб пачуць усё, што той ведае пра панну Рохану.

– Не сумняваюся, мой гаспадару, што болей вашаць пачуе ад паўросьліка, які таксама тут, у нас, бо ён ехаў разам з каралём, а напрыканцы й з самой паннай, як кажуць.

Гэтак Мэры паслалі да Фараміра, і яны гаманілі да скону дня. Шмат вызнаў Фарамір, нават болей, чым Мэры выказаў словамі, і падумаў, што цяпер разумее смутак і непакой Эявін Роханскай. Цёплым вечарам Мэры з Фарамірам размаўлялі ў садзе, але яна ня выйшла.

Раніцаю, калі Фарамір пакінуў Сядзібы, ён усё ж пабачыў яе ля сьцяны, яна стаяла апранутая ва ўсё белае і, падавалася, зіхацела пад сонцам. Ён гукнуў яе, і яна спусьцілася да яго, і разам яны хадзілі па траве ці сядзелі пад зялёным дрэвам то моўчкі, то размаўляючы. І гэтак штодня пасьля. А кашталян, назіраючы за імі з вакна, радаваўся, бо быў лекарам і турботаў у ягонай працы паменшала. Безумоўна, хоць смутак і цяжкія прадчуваньні ляжалі на сэрцах амаль усіх, гэтыя двое ацаляліся й сілы вярталіся да іх дзень ад дня.

Так надышоў пяты дзень, як панна Эявін убачыла Фараміра, і зноўку разам яны стаялі на гарадзкім муры й пазіралі вонкі. Навінаў не было, і ўсе сэрцы азмрочыліся. І надвор'е болей ня цешыла сьвятлом. Захаладала. Уночы падняўся паўночны вецер, ён усё мацнеў, і ўдзень землі навокал выглядалі шэрымі й маркотнымі.

І Эявін, і Фарамір былі апранутыя ў цёплае адзеньне й цяжкія плашчы, а паверх усяго панна Эявін накінула вялізную блакітную корзну колеру глыбокай летняй ночы, з срэбнымі зоркамі вакол паса й шыі. Той плашч загадаў прынесьці Фарамір, і сам накінуў ёй на плечы, і падзівіўся, як насамрэч шляхетна і па-каралеўску выглядае яна. Корзну тую саткалі для Фіндуйлас з Амрату, маці Фараміра, што памерла заўчасна, застаўшыся для сына толькі згадкай пяшчоты далёкіх дзён і першай страты. Плашч падаўся яму годным прыгажосьці й тугі Эявін.

Але яна дрыжэла й пад зорным плашчом, пазіраючы на поўнач, па-над шэрымі разлогамі, проста ў твар халоднаму ветру – туды, дзе далёка сьвяцілася суворая сінеча чыстых нябёсаў.

– Што выглядваеш ты, Эявін? – спытаў Фарамір.

– Ці ня там Чорная Брама? І ці ня мусіць ён менавіта цяпер падысьці да яе? Ужо тыдзень, як ён ад'ехаў.

– Цэлы тыдзень. Не падумай блага пра мяне, калі скажу: гэты тыдзень прынёс мне радасьць і боль, якіх я й не спадзяваўся спазнаць. Радасьць бачыць цябе і боль, бо страх і сумневы ліхога нашага часу растуць. Эявін, не хацеў бы я, каб наш сьвет зруйнаваўся менавіта цяпер, бо не хачу страціць тое, што так нечакана знайшоў.

– Страціць што, вашамосьць пане намесьніку? – адказала яна пытаньнем на пытаньне, паглядаючы на яго з сувораю пяшчотай. – Я ня ведаю, што знайшоў ты гэтымі днямі й што баісься страціць. Але ж ня будзем болей пра тое, сябра мой. Увогуле, ня будзем марнаваць словы! Я стаю перад жудаснай прорваю, і чарнютка-чорна перад мною, а ці ёсьць сьвятло за сьпінай, не скажу. Бо пакуль што не магу азірнуцца ў чаканьні апошняга удару лёсу.

– Так, мы ўсе чакаем апошняга кону, – пагадзіўся Фарамір, і яны не размаўлялі болей, і падалося, што вецер аціх і сьвятло зблякла, выцьвіла сонца, заглухлі ўсе згукі ў горадзе й навакольлі: ані посьвісту ветру, ані голасу, ані птушынага цьвірканьня, ані шорхату лісьця, нават уласнага подыху ня стала чуваць. Самае біцьцё іхніх сэрцаў заглушылася. Час замёр.

І стоячы так, яны ўзяліся за рукі, не заўважыўшы таго, чакаючы невядомага. І раптам падалося: над краямі далёкіх гораў уздымаецца вялізманая гара цемры, узносіцца ў вышыню, бы хваля, што паглынае ўвесь сусьвет, на ейным грабяні заблішчэлі маланкі, дрыготка пабегла па глебе й скалануліся гарадзкія муры. Нібыта ўздых пранёсься па-над усенькаю зямлёю, а тады зноў забіліся сэрцы.

– Гэта нагадала мне Нумэнор, – вымавіў Фарамір і сам зьдзівіўся сваім словам.

– Нумэнор?

– Так, нагадала затанулы Заходні край і вялікую цёмную хвалю, што паўстала над зялёнай зямлёю й над гарамі й насунулася непазьбежнай цемраю. Я часта яе сьню.

– Ты думаеш, надыходзіць цень? Непазьбежная цемра? – Эявін раптам прыхінулася да яго.

– Не, – ён паглядзеў ёй у твар. – Гэта толькі відзежа ў маёй сьвядомасьці. Я ня ведаю, што здарылася. Цьвярозы розум кажа, што адбылося вялікае ліха й мы стаім напрыканцы дзён. А сэрца сьцьвярджае: не! Мне лёгка, надзея й радасьць прыйшлі да мяне, іх не абвергне аніякі розум. Эявін, Эявін, Белая Панна Рохану, у гэтую часіну я ня веру, што цемра паўстане над намі! – і ён нахіліўся, і пацалаваў яе ў лоб.

Так яны стаялі на гарадзкім муры сталіцы Гондару, і моцны вецер дзьмуў ім у твары, і іхнія валасы, залатыя й чорна-крумкачовыя, струменілі па ветры й перапляталіся. Зьнік цень і зноў адкрылася сонца, заліўшы сьвет сьвятлом, а вада Андуйну зазьзяла срэбрам, і ва ўсіх гарадзкіх дамах людзі засьпявалі ад радасьці, што невядома адкуль узьнялася ў іхніх сэрцах.

І сонца яшчэ не аддалілася ад полудня, як з усходу прыляцеў вялікі арол, прынёсшы зьвесткі па-за ўсялякай надзеяй ад правадыроў Захаду, і выклікнуў:

*Сьпявайце цяпер, людзі Вежы Анору,*
*згінула навекі ўлада Саўрона,*
*Цёмная вежа ў пыл спарахнела!*

*Сьпявай жа весела, люд Вежы Ахоўнай,*
*бо варта твая ня сталася марнай,*
*бо Брама Чорная ўсьцяж зруйнаваная,*
*бо скрозь яе прайшоў твой кароль*
*і перамог!*

*Сьпявайце ў радасьці, Захаду дзеці,*
*бо вернецца зноўку кароль,*
*бо жыцьме між вас*
*штодзень шмат гадоў.*

*Бо дрэва засохлае адродзіцца зноў,*
*бо парастак ён пасадзіць высока,*
*і добраславёным горад паўстане!*

*Сьпявайце ж, людзі!*

І людзі па ўсім горадзе засьпявалі.

А пасьля насталі залатыя дні, бо вясна й лета зьядналіся й разам прыбралі раскошаю палі Гондару. Хуткія весьнікі несьлі навіны ад Кайр Андрасу, і горад рыхтаваўся сустракаць караля. Мэры быў заклiканы й выправіўся з вазамі, што даставілі шмат паклады да Азгіліяту, а там караблём да Кайр Андрасу. Фарамір жа не паехаў, бо цяпер, ацаліўшыся, прыняў уладу намесьніцтва, хоць і на кароткі час, каб зьдзейсьніць свой абавязак і падрыхтаваць усё для таго, хто зьменіць яго.

І Эявін не паехала, хоць брат даслаў ёй запрашэньне на Кармаленскае поле. Фарамір зьдзівіўся, але ж бачыўся зь ёю цяпер нядоўга, бо ягоны час займала безьліч справаў. А яна па-ра нейшаму жыла ў Сядзібах Ацаленьня й шпацыравала ў самоце па садзе, і зноў зьбялеў яе твар, і падавалася, ва ўсім горадзе адна яна пакутуе ў чорным смутку. Кашталян Сядзібаў занепакоіўся й перамовіў пра тое з Фарамірам.

Тады Фарамір адшукаў яе, і зноў сталі яны поруч ля сьцяны, і ён спытаў:

– Эявін, чаму ты застаесься тут, ня едзеш да баляваньня й радасьці на Кармалене за Кайр Андрасам, дзе брат твой чакае цябе?

– А ты ня ведаеш? – перапытала яна.

– Магчымыя дзьве прычыны, але ж каторая слушная, мне невядома.

– Не хачу гуляцца ў загадкі. Адкажы ўпрост!

– Калі панна жадае. Ты не паехала, бо толькі брат запрасіў цябе й позірк на ўладара Арагорна, нашчадка Элендыля, у гадзіну ягонага сьвята ня дасьць табе радасьці. А магчыма, ты не паехала, бо не паехаў я й ты хочаш быць побач з мною. А мо ты засталася й таму, і таму, бо ня здольная выбраць між гэтымі прычынамі. Эявін, ці не кахаеш ты мяне, ці ня хочаш ты мяне кахаць?

– Я хацела б быць каханай іншым. Але ж мне ня трэба спачуваньняў мужчыны!

– Я ведаю. Ты хацела б быць каханай уладаром Арагорнам, бо ён шляхетны і магутны й ты пажадала мець славу й моц і ўзьняцца высока над усім, што поўзае па зямной паверхні. Ты захапілася ім, як малады ваяр – моцным вялікім правадыром. Бо менавіта такі ён – велічны ўладар, найвялікшы сярод людзей. Але ж калі ён даў табе не каханьне, а толькі любоў, разуменьне й жаль, ты вырашыла адмовіцца ад усяго, хіба толькі апроч шляхетнай гібелі ў бітве. Зірні на мяне, Эявін!

І Эявін паглядзела на яго доўга й рашуча, а ён вымавіў:

– Не пагарджай спачуваньнем, што сыходзіць ад добрага сэрца, Эявін! Бо не шкадаваньне я прапаную табе. Ты панна шляхетная й адважная й здабыла славу, на якую не забудуцца ніколі. І ты прыгожая: нават эльфавых словаў ня стане, каб апісаць тваё хараство. Бо я кахаю цябе. Калісьці мне было шкада тваёй тугі. Але зараз, калі б ты пазбавілася смутку й страху й усё ў цябе зьдзейсьнілася б, нават калі б ты была

бездакорнаю й недасягальнаю каралеваю Гондару, я ўсё адно кахаў бы цябе. Эявін, ці кахаеш мяне ты?

Тады варухнулася сэрца Эявін, ці нарэшце яна зразумела сваё сэрца. І раптам сышла прэч яе зіма, і сонца зазьзяла над ёй.

– Вось я стаю на Мінас Аноры, Вежы Сонца, і пабач: цень сышоў прэч! – вымавіла яна. – Болей ня быць мне ваяроўнай Рохану, не зраўноўвацца зброяй з моцнымі вершнікамі, не шукаць радасьці толькі ў песьнях бітвы. Ацаляльніцаю стану я, палюблю ўсё, што расьце, што дае плод.

І дадала, зірнуўшы на Фараміра:

– Болей не жадаю быць каралевай.

Фарамір радасна засьмяяўся:

– Файна, бо я не кароль. Пашлюбуюся зь Белаю Паннай Рохану, калі будзе на тое ейная воля. І калі яна пажадае, мы пяройдзем раку й зажывем у шчасьці ў сьветлым Ітыльёне, там будзе наш сад! Усё, што расьце там, узрадуецца, калі прыйдзе туды Панна Рохану!

– Чалавек Гондару, тады я мушу пакінуць мой народ? І ці ня скажа твой ганарлівы люд пра цябе: "Вось уладар, які ўтаймаваў дзікунку з Поўначы! Што ж не знайшлося яму жанчыны нумэнорскай крыві"?

– Няхай скажа, – вымавіў Фарамір.

І абняў яе, і пацалаваў пад ясным сьветлым небасхілам, і ён не пераймаўся, што яны стаяць высока на муры й шмат хто можа іх бачыць. Многія й пабачылі, а таксама пабачылі сьвятло, што зьзяла вакол іх, калі сышлі яны з муроў і крочылі рука ў руцэ ў Сядзібы Ацаленьня. І Фарамір сказаў кашталяну:

– Вось панна Эявін Роханская. Цяпер яна ацалілася.

– Тады вызваляю яе з-пад свае апекі й разьвітваюся зь ёю, – пакланіўся кашталян, – няхай аніколі не пакутуе яна на раны й хваробы. Перадаю яе пад руку намесьніка Гондару, пакуль вернецца яе брат.

Але Эявін запярэчыла:

– Цяпер, калі маю дазвол выйсьці адсюль, хачу застацца. Бо з усіх жытлішчаў гэтыя Сядзібы сталіся для мяне найдабраславёнейшымі.

І заставалася ў Сядзібах, пакуль не вярнуўся кароль Эямэр.

І вось усё ў горадзе падрыхтавалі, і людзей сабралася безьліч, бо весткі разьляцеліся па ўсіх кутках Гондару, ад Мін-Рыману да Пінат Гэліну й далёкіх марскіх берагоў, і хто толькі мог дабраўся ў сталіцу з усёй пасьпешлівасьцю. І места зноў напоўнілася жанчынамі й дзецьмі, што вярнуліся дахаты з ахапкамі кветак, а з Дол Амрату прыехалі найцудоўнейшыя арфісты, былі таксама музыкі зь віёламі, флейтамі й срэбнымі рогамі й яснагалосыя сьпевакі з далінаў Пажыцьцяў.

Нарэшце настаў той вечар, калі з муроў пабачылі намёты й шатры ў полі, і ўсю ноч палалі вагні, бо людзі чакалі сьвітанку. А калі яснай раніцаю над усходнімі гарамі, дзе болей не ляжаў цень, узьнялося сонца, тады забілі ўсе званы й затрапяталі ўсе сьцягі на ветры, і бела-срабрысты, што сьнег пад сонцам, без выслоўя ці герба, штандар намесьнікаў залунаў над Белай вежаю Цытадэлі ў астатні раз.

Правадыры Захаду павялі войска да гораду, і народ пабачыў, як шыхтуюць шэраг за шэрагам, бліскаючы, успыхваючы пад маладым сонцам, пераліваючыся срэбрам. Войска спынілася за пару гоняў ад муру. Дзьвярніцы на браму яшчэ не навесілі, і праход у горад быў перакрыты бар'ерам, ля якога стаяла варта ў чорна-срэбным рыштунку з доўгімі аголенымі мечамі. Там перад бар'ерам знаходзіліся

намесьнік Фарамір, Хурын Ахоўнік Ключоў і іншыя ачольцы й гетманы Гондару ды панна Эявін Роханская з маршалкам Эльфхельмам і мноствам рыцараў Украйны. А з кожнага боку брамы ціснуўся буйны натоўп паспалітага люду ў сьвяточным каляровым адзеньні ды з гірляндамі кветак.

Незанятай засталася шырокая прастора перад мурамі Мінас Тырыту, аколеная рыцарамі й ваярамі Гондару, месьцічамі ды гондарцамі. Натоўп стаіў дыханьне, калі з войска выступілі дунаданы ў шэра-срабрыстым адзеньні, а перад імі павольна крочыў уладар Арагорн. Ён быў у чорнай кальчужнай брані з срэбным пасам, плечы сьледапыта накрывала доўгая чысьцютка-белая корзна, зашпіленая на шыі фібулаю зь вялікім зялёным каменем, зьзяньне якога лілося здалёк, але на галаве Арагорна не было нічога, апрача зоркі над бровамі, якую трымаў тонкі срэбны вянец. Разам зь ім ішлі Эямэр Роханскі, і князь Імрахіль, і Гэндальф, апрануты ва ўсё белае, і чатыры маленькія асобы, якія шмат у каго выклікалі зьдзіўленьне.

– Не, кумухна, гэта не хлапчукі, – тлумачыла Ярэт сваячцы зь Імлат Мэлуі, якая стаяла побач. – Гэта пэрыяны з далёкай зямлі паўросьлікаў, дзе яны, як кажуць, князі вялікай моцы. Я ведаю, то ж бо мне пашэнціла даглядаць аднаго ў Сядзібах. Малыя, але адважныя. Ведаеш, куме, адзін зь іх усяго толькі з сваім збраяношам выправіўся да Чорнай зямлі, ды біўся сам-насам з Чорным Уладаром, ды падпаліў ягоную вежу, ці паверыш! Ну, так у горадзе кажуць. Гэта вунь той, што побач з гаспадаром Эльфавым Каменем. Чула, яны блізшыя сябры. А гаспадар жа цуд упрост: ня надта мяккі словамі, скажу табе, але сэрца ў яго залатое, як мовяць, і рукі ў яго гаючыя. А я ж казала: "*Рукі караля – ацаленьне*", і вось гэтак усё й высьветлілася. А Мітрандыр мне й кажа: "*Доўга будуць узгадваць твае словы, Ярэт*". І...

На жаль, Ярэт не змагла цалкам патлумачыць усё сваёй вясковай сваячцы, бо загуў горн і павісла мёртвая цішыня. Тады наперад ад брамы рушыў Фарамір з Хурынам Ахоўнікам Ключоў, і аніхто іншы не пайшоў за імі, апрача чатырох вартавых у высокіх шаломах і бронях цытадэлі, яны несьлі вялізную скрыню з чорнага лебетрану, акаваную срэбрам.

Фарамір сустрэў Арагорна пасярод адкрытай прасторы й укленчыў, вымавіўшы:

– Апошні намесьнік Гондару сканчае сваю службу.

І працягнуў Арагорну белае жазло, але Арагорн, прыняўшы яго, адразу вярнуў з словамі:

– Служба ня скончылася, і будзе тваёю й тваіх нашчадкаў да таго часу, пакуль трывае мой род! Прымі ж сваю службу зноў!

Тады Фарамір устаў і абвесьціў звонкім голасам:

– Людзі Гондару, пачуйце ж намесьніка каралеўства! Пабачце: вярнуўся нарэшце той, хто можа стаць вашым каралём. Перад вамі – Арагорн, сын Араторна, правадыр дунаданаў Анору, гетман войска Захаду, уладальнік Меча Перакаванага, пераможца ў бітвах, той, чые рукі прыносяць ацаленьне, Эльфаў Камень, Элесар з роду Валандыля, сына Ісільдара, сына Элендыля Нумэнорскага. Ці быць яму каралём ды ці ўступаць у горад і ці жыць там?

І на тое месьцічы й войска адзінагалосна выгукнулі:

– Так!!!

А Ярэт павярнулася да сваячкі:

– Ну, гэта ўпрост цырымонія такая тутэйшая, бо ён ужо ўваходзіў у горад, я ж табе распавядала, і сказаў мне...

І зноў давялося ёй змоўкнуць, бо Фарамір загаварыў:

– Людзі Гондару, абазнаныя ў ведах, кажуць пра звычаі даўніны: каралю належыць атрымаць карону з рук бацькі, пакуль ён жывы, а калі тое немажліва, спадчыньнік мусіць самотны йсьці ў пахавальню бацькі й там узяць вянец з бацькавых рук. Зараз рабіцьмем інакш, і таму ўладаю намесьніка я прынёс з Рат Дынену карону апошняга караля, Эярнура, чые дні выцеклі ў даўнія часы нашых прабацькоў.

І наперад крочылі вартавыя, і Фарамір адчыніў скрыню й дастаў старажытную карону. Яна была падобная да шалома цытадэльнай Варты, хіба што вышэйшая ды ўся белая, з срэбна-пэрлавымі крыламі паабок, нібы крыламі марской птушкі, бо тое быў сымбаль Каралёў з-за мора, і сем дыямантавых камянёў ішлі кругам па кароне, і вянчаў яе адзіны дыямант, зьзяючы што полымя.

Тады Арагорн узяў карону, падняў і вымавіў:

– *Эт Эярэла Эндорэна ўтульен. Сыномэ маруван ар Хільдын'яр тэн Амбар-Мэта*!

Гэтыя словы вымавіў Элендыль, калі яго прынесьлі з мора крылы ветру: "*Зь Вялікага мора да Міжзем'я прыйшоў я. Тут жытлавацьму, і нашчадкі мае да скону сусьвету*".

Тады, шмат каму на дзіва, Арагорн не паклаў карону сабе на галаву, а вярнуў Фараміру з словамі:

– Шмат чыя праца й адвага дапамаглі мне атрымаць маю спадчыну. На знак таго я хацеў бы, каб карону прынёс мне Ахоўнік Пярсьцёнка, а Мітрандыр – паклаў яе на маю галаву, калі пажадае. Бо ён быў рухальнай сілаю ўсяго, што зьдзейсьнена, і гэта ягоная перамога.

Тады выйшаў наперад Фрода і, узяўшы ў Фараміра карону, прынёс яе Гэндальфу, а Арагорн схіліў калена, і Гэндальф паклаў Белы Вянец на яго чало й вымавіў:

– Пачынаюцца Дні Караля, і хай добраславяцца яны, пакуль трываюць стальцы Валараў!

А калі Арагорн паўстаў, усе замёрлі, прыціхшы, бо падалося, што пабачылі яго ўперш. Высокі, як каралі даўніны, ён узвышаўся над усімі, хто стаяў побач. Падаваўся старым зямнымі гадамі, але ў самым росквіце мужнасьці. Адвага ляжала на ягоным чале, сіла й ацаленьне жылі ў руках, і сьвятло зіхацела над ім. І Фарамір выклікнуў:

– Жыве кароль!

І ў гэты момант затрубілі ўсе трубы й горны, і крочыў наперад кароль Элесар, падышоў да бар'еру, і Хурын Ахоўнік Ключоў прыбраў перашкоду, і пад музыку арфаў, віёлаў ды флейтаў, пад чыстыя сьпевы прайшоў кароль засыпанымі кветкамі вуліцамі, і сягнуў Цытадэлі, і крочыў у яе. Сьцяг з Дрэвам і Зорамі залунаў на найвышэйшай вежы, і так пачалося праўленьне караля Элесара, пра якое распавядаецца ў мностве песьняў.

У часы ягоныя горад стаў найпрыгажэйшым, чым калі, прыгажэйшым нават, чым у дні першай сваёй славы, напоўніўся дрэвамі й вадаграямі, брамы ягоныя выкавалі зь міфрылю й сталі, вуліцы забрукавалі белым мармурам. У горадзе працаваў горны народ, і народ лесу з радасьцю наведваў яго, усё загаілася й выправілася, і будынкі напоўніліся жанчынамі й мужчынамі, і дзіцячым сьмехам, і ані сьляпога вакна не засталося, ані пустога двара, і пасьля сканчэньня Трэцяй эпохі сусьвету, у новым часе горад захаваў памяць і славу мінуўшчыны.

Днямі пасьля каранацыі кароль чыніў правасудзьдзе з свайго стальца ў Каралеўскай залі дый абвяшчаў выракі. Зьявіліся пасольствы ад шматлікіх народаў і земляў, ад Усходу й Поўдня, ад памежжаў Ліхалесься, з Дунлянду на захадзе. Кароль дараваў усходнікам, якія падпарадкаваліся яму дый адпусьціў дахаты вольнымі, заміраўся зь людзьмі Хараду. Вызваліў рабоў Мордару й аддаў ім у валоданьне землі вакол возера Нурнен. Шмат хто паўстаў перад каралём, каб атрымаць ушанаваньне ды ўзнагароду за адвагу. Апошнім жа на суд выклікалі ачольцу Варты Бэрэганда. І кароль прамовіў:

– Бэрэганд, твой меч праліў кроў у сьвятым месцы, ты зьдзейсьніў забароненае. Пакінуў пост без дазволу намесьніка альбо ачольцы. За тое здаўна пакараньнем – сьмерць. І вось я абвяшчаю вырак: твая віна даруецца за адвагу ў бітве й яшчэ болей за тое, што цябе вяла любоў да гаспадара Фараміра. Аднак ты мусіш пакінуць Варту Цытадэлі й сысьці прэч з гораду Мінас Тырыту.

Зьбялеў Бэрэганд, бо ў самае сэрца працяла яго, і апусьціў галаву. Але ж кароль дадаў:

– Так і мусіць адбыцца, бо ты прызначаны ў Белую харугву, ахову Фараміра, князя Ітыльёну, яе гетманам будзеш ды жыцьмеш у Эмін Арнене ў пашане й спакоі, служачы таму, дзеля чыйго жыцьця рызыкаваў усім.

Тады Бэрэганд, уразумеўшы каралеўскую ласку й справядлівасьць, задаволіўся і, схіліўшы калена, пацалаваў каралю руку дый сышоў у радасьці й спакоі. А Арагорн аддаў Фараміру Ітыльён у княжаньне й запрасіў яго жыць на пагор'і Эмін Арнен, адкуль відаць Мінас Тырыт.

– Бо, – патлумачыў кароль, – Мінас Моргул у Моргульскай даліне належыць зруйнаваць цалкам, і хоць, мажліва, з часам тое месца ачысьціцца, аніводны чалавек ня здолее жыць там цягам доўгіх гадоў.

А апошнім з усіх Арагорн павітаў Эямэра Роханскага. Яны абняліся, і Арагорн вымавіў:

– Паміж намі ня будзе гаворкі пра дарункі й сплаты ці пра ўзнагароду, бо мы браты. Шчасьлівай парою прымчаў Эёрл з Поўначы, і аніколі зьвяз людзкіх плямёнаў ня быў добраславёнейшым, бо аніколі плямёны нашы ня здраджвалі адно другому і аніколі ня здрадзяць. Цяпер, як ведаеш, Тэядэн Славуты ляжыць у скляпеньні на Рат Дынене, і там, калі пажадаеш, назаўжды застанецца сярод каралёў Гондару. Альбо, калі схочаш, мы прыедзем у Рохан і прывязем яго, каб спачыў ён сярод свайго народу.

І адказаў Эямэр:

– З дня, калі паўстаў ты перад мною зь зялёнай травы пагор'я, палюбіў я цябе, і любоў тая ня згіне. Але цяпер мушу выправіцца да свайго каралеўства, дзе шмат чаго трэба ацаліць і выправіць. Што ж тычыцца Загінулага, калі падрыхтуем усё, то вернемся па яго, а пакуль няхай спачывае спакойна.

А Эявін сказала Фараміру:

– Цяпер мушу вярнуцца да сваёй зямлі, і зірнуць на яе зноў, і дапамагчы брату ў ягонай працы. Калі пакладзем мы на вечны сон таго, каго я любіла як бацьку, я вярнуся.

Так міналі сьвяточныя дні. Восьмага траўня вершнікі Рохану скончылі зборы й выправіліся на Поўнач, а зь імі ад'ехалі й сыны Эльранда. Уздоўж шляху стоўпіліся людзі, ад брамы гораду да Пеленару, каб ухваліць дый ушанаваць іх. Тады тыя, што прыйшлі з далёкіх закрайнаў, вярнуліся дахаты, несучы з сабою радасьць, а ў горадзе

шмат працоўных рук узяліся адстройваць і аднаўляць, гоячы шнары вайны й памяць цемры.

Хобіты яшчэ заставаліся ў Мінас Тырыце зь Ляголасам і Гімлі, бо Арагорн хацеў, каб Зьвяз пакуль не разыходзіўся.

– Усё ўрэшце сканчаецца, – казаў кароль, – але прашу вас пачакаць крыху, бо сапраўднае спаўненьне нашых дзеяў яшчэ не настала. Набліжаецца той дзень, якога я чакаў усе гады маёй сталасьці, і калі ён надыдзе, хачу, каб усе сябры былі побач з мною.

Але болей пра той дзень не казаў анічога.

Сябры Зьвязу й Гэндальф жылі разам у цудоўным доме, шпацыравалі навокал, прыходзілі й сыходзілі, калі жадалі. Фрода спытаў у Гэндальфа:

– Ці ведае вашаць, пра які дзень прамаўляў Арагорн? Нам добра тут і я не хачу сыходзіць, але дні зьбягаюць прэч, а Більба чакае нас. І Шыр таксама, бо мой дом там.

– Што тычыцца Більба, – адказаў Гэндальф, – ён чакае таго самага дня й ведае, што затрымлівае цябе. Што ж тычыцца хады часу, дык цяперака толькі травень, і поўнае лета яшчэ не прыйшло, і хоць шмат рэчаў падаюцца іншымі, нібы мінула суцэльная эпоха сьвету, насамрэч дрэвы й травы не састарэлі й на год, як ты крануўся зь месца.

– Піпін, ты казаў, што Гэндальф не такі ўтойлівы, як раней? – пацікавіўся Фрода.
– Мяркую, тады ён папросту стаміўся ад клопатаў. Цяпер от выпраўляецца.

– Многія жадаюць ведаць загадзя, што кухары паставяць на стол, – зазначыў Гэндальф, – але той, хто гатуе бяседу, трымае таямніцу, бо зьдзіўленьне робіць словы пашаны гучнейшымі. І сам Арагорн чакае азнакі.

І вось надышоў дзень, калі Гэндальф некуды зьнік, і сябры Зьвязу дзівіліся, што гэта значыць. А Гэндальф яшчэ ўночы вывеў Арагорна за горад, да паўднёвых узножжаў Міндолуйну, і там яны знайшлі сьцежку, зробленую ў сівую даўніну. Ня шмат хто цяпер адважваўся крочыць па той сьцежцы, бо яна вяла высока ў горы да прошчы, якую наведвалі толькі каралі. Чараўнік і кароль крочылі па стромых схілах, пакуль ня выйшлі на высокае пласкагор'е ля самага сьнегу, што атуляў вяршыні пікаў, і была тая мясьціна проста над адхонам, што ўздымаўся над горадам. І там яны агледзелі зямлю, бо нарадзілася раніца, і далёка ўнізе зіхцелі гарадзкія вежы – нібы белыя парасткі, кранутыя сонцам, а ўся даліна Андуйну разьвінулася, быццам сад, і залаты туман агортваў горы Ценю. Па адзін бок іх абрысы абмяжоўваў шэры Эмін Мюйл, і Рэрас бліскаў далёкаю зоркай, а па другі бок цягнулася стужка ракі да самага Пеларгіру, а за ім сьвяціўся ад блізкага мора край нябёсаў.

– Вось тваё каралеўства, і сэрца большага каралеўства, што ўсталюецца, – вымавіў Гэндальф. – Трэцяя эпоха гэтага сьвету скончылася, пачынаецца новая. Твая задача: уладкаваць яе пачатак і захаваць тое, што магчыма. Бо хоць шмат чаго ўратаванае, нямала сыдзе. Скончылася ўлада Трох Пярсьцёнкаў. Усе землі, што бачыш, і ўсе краі за імі стануць жытлом людзей. Бо прыйшоў час панаваньня людзей, а Старэйшы народ мусіць сысьці – альбо згаснуць.

– Я добра тое ведаю, дарагі сябра, – адказаў Арагорн, – і ўсё-ткі хацеў бы, каб ты застаўся й радзіў мне.

– Я застануся, але на кароткі час. Мая эпоха Трэцяя. Я быў ворагам Саўрона, зараз жа задача выкананая. Неўзабаве я сыду. Цяжар ляжа на твае плечы й на плечы тваёй кравіны.

– Аднак я памру. Я сьмяротны чалавек, і хоць чыстай нумэнорскай крыві, і жыцьцё маё нашмат даўжэйшае за жыцьцё іншых, усё ж не такое доўгае яно. Калі тыя, што цяпер у матчыным лоне, народзяцца й састарэюць, тады я састарэю таксама. І хто заўладарыць Гондарам, хто глядзецьме на горад Гондару як на сваю каралеву, калі ня спраўдзіцца мая мара? Дрэва на Пляцы Вадаграю ўсё яшчэ засохлае й бясплоднае. Калі пабачу я знак, што так будзе не заўжды?

– Адвярніся ад зялёнага сьвету й зірні туды, дзе ўсё падаецца бясплодным і халодным!

Тады Арагорн азірнуўся на каменны схіл, што падымаўся да самых сьнягоў, і раптам зразумеў, што, самотнае, пасярод пустэчы калыхаецца адзінае жывое каліва. Ён ускараскаўся ўгару й пабачыў, што з самага сьнежнага краёчку выбіўся парастак дрэва, ня большы за тры ступні. Ужо выпусьціў ён маладыя лісточкі, доўгія й прыгожыя, цёмныя зьверху й срабрыстыя ўнізе, і на гонкай верхавінцы нёс адзінае малое суквецьце, і белыя пялёсткі ягоныя зьзялі, бы сьнег пад сонцам.

І Арагорн выклікнуў:

– Й-е! Утувьеньнес! Я знайшоў! Зірні: гэта ж нашчадак найстарэйшага з дрэваў! Але ж як ён патрапіў сюды? Бо яму ня больш як сем гадоў!

Падышоў Гэндальф, зірнуў і сказаў:

– Так, гэта насамрэч парастак роду Німлата сьветлага, з насеньня Галятыльёна, плода Тэльперыёна Шматыменнага, Найстарэйшага з Дрэваў. Хто скажа, як прарос ён тут у прызначаны час? Гэтае месца сьвятое, і да таго, як перарваўся каралеўскі род ці засохла дрэва, напэўна, плод ягоны пасадзілі тут. Бо кажуць, што калі зрэдку высьпявае плод, жыцьцё ў ім можа спаць цягам мноства доўгіх гадоў, і аніхто не прадкажа, калі яно абудзіцца. Запомні гэта. Бо калі пасьпее які плод, яго мусяць пасадзіць альбо род ягоны вымрэ ў гэтым сьвеце. Тут ляжаў ён між гор, рыхтык кроў Элендыля ў пустэчах Поўначы. А род Німлата старэйшы ад твайго, кароль Элесар.

Тады Арагорн асьцярожна паклаў руку на парастак – і вось цуд! – зусім зьлёгку чапляўся той за зямлю й пакінуў яе, не пашкодзіўшыся, і Арагорн прынёс каліва да Цытадэлі. Там ссохлае дрэва выкарчавалі, асьцярожна й беражліва, але не спалілі, а паклалі сярод цішыні Рат Дынену. Арагорн жа пасадзіў парастак ля фантану, і дрэўца неўзабаве прынялося, і на пачатку чэрвеня ўжо абсыпалі яго белыя кветкі.

– Азнака была дадзеная мне, – вымавіў Арагорн, – і дзень мой блізкі.

І выправіў аглядальнікаў на муры.

За дзень да летняга сонцавароту прыбылі вестуны ад Аман Дыну да гораду, кажучы, што едзе сьветлы народ з Поўначы й набліжаецца ўжо да муроў Пеленару. Тады кароль сказаў:

– Нарэшце яны прыйшлі! Няхай жа ўсе ў горадзе падрыхтуюцца!

І ў самы вечар сонцавароту, калі нябёсы пафарбаваліся сапфірава-блакітным і зазіхацелі на ўсходзе белыя зоркі, а захад зазалацеў і прахалоднае паветра напоўнілася сьвежым водарам, па Паўночным шляху прыбылі вершнікі да брамы Мінас Тырыту. Першымі ехалі Эльрохір і Эладан з срэбнай харугваю, тады – Глярфіндэль, Эрэстар ды мноства эльфаў Долага Яру, а за імі – панна Галадрыель і Келебарн, гаспадары Латлорыйну на белых конях, а зь імі мноства сьветлага народу іх зямлі, у шэрых корзнах зь белымі пэрламі ў валасах. Апошнім ехаў спадар Эльранд, наймагутнейшы сярод людзей і эльфаў, несучы жазло Анумінасу, а побач на шэрай кабыліцы сядзела ягоная дачка Арвэн, Вечаровая Зорка ягонага народу.

Калі Фрода пабачыў яе, зіхоткую ў сутоньні, з зоркаю на чале й салодкім водарам вакол, то сэрца ягонае варухнулася ў вялікім зьдзіўленьні, і ён сказаў Гэндальфу:

– Вох, разумею, чаму мы чакалі! Вось яно, сапраўднае сканчэньне. Цяпер ня толькі дзень стане паўнюткі хараством, але й ночы таксама, і добраславяцца яны, і ўсе начныя страхі сыдуць прэч!

Кароль павітаў гасьцей, і яны сышлі з коней. Эльранд перадаў каралю жазло й уклаў руку сваёй дачкі ў руку Арагорна, і разам прайшлі яны да Верхняга гораду, і ўсе зоры расквітнелі ў нябёсах. У дзень сонцавароту Арагорн, кароль Элесар, пашлюбаваўся з Арвэн Ундоміель у Горадзе Каралёў, і так скончыліся доўгія выпрабаваньні й чаканьні, і прызначанае споўнілася.

*6. Мноства разьвітанняў*

Калі дні вясельля й баляваньня скончыліся, сябры Зьвязу сабраліся дахаты. Фрода падышоў да караля, калі той сядзеў з каралеваю Арвэн ля вадаграю й падрослага заквітнелага дрэва, а каралева сьпявала песьню Валінору. Яны павіталі Фрода ўстаўшы, і Арагорн вымавіў:

– Ведаю, што хочаш сказаць: жадаеш вярнуцца дадому. Так, найдаражэйшы мой сябра, дрэва найлепей расьце ў краі, дзе гадаваліся ягоныя продкі. Хоць цябе заўжды будуць з радасьцю вітаць у любой краіне Захаду. І хоць мала ўслаўлены твой народ у паданьнях пра подзьвігі, цяпер слава ягоная будзе большай, чым у вялікіх каралеўстваў мінулага.

– Гэта праўда, я жадаю вярнуцца ў Шыр, – згадзіўся Фрода. – Але найперш хачу наведаць Долы Яр. Бо калі й не стае мне чагось у шчасьлівыя часіны тутака, дык гэта Більба; з горыччу пабачыў я, што яго няма сярод Эльрандавага почту.

– Ці ж дзіўна гэта, Ахоўнік Пярсьцёнка? – спытала Арвэн. – Бо ты ж ведаеш моц таго, што цяпер зьнішчанае. Усё зьдзейсьненае той сілаю цяпер адыходзіць прэч. Твой жа суродзіч валодаў гэтай рэччу болей за цябе. Паводле мерак вашага народу, ён у надта старых гадах і чакае цябе, бо ня выправіцца болей ані ў якія доўгія вандроўкі, апрача адной.

– Тады прашу дазволу рушыць да яго як мага хутчэй.

– Праз сем дзён выправімся ўсе разам, – прапанаваў Арагорн. – Бо мы вандравацьмем поруч з табою далёка, да самага Рохану. Праз тры дні Эямэр вернецца сюды па Тэядэна, каб забраць яго для пахаваньня на зямлі Ўкрайны, і мы паедзем туды разам зь ім, каб ушанаваць загінулага. А зараз перад табою я пацьвярджаю словы, прамоўленыя Фарамірам: назаўжды вольны ты рушыць у каралеўстве Гондар куды заўгодна, і паплечнікі твае таксама. І калі б былі якія падарункі, адпаведныя тваім подзьвігам, я даў бы іх табе. А так: бяры з сабою, што пажадаеш, і едзь у вялікай пашане, як магутны князь.

– Я дам табе падарунак, – азвалася каралева Арвэн. – Бо я – дачка Эльранда. Я не паеду зь ім да Заваняў, бо перад мною быў выбар Люціень, і я абрала, як яна, асалоду й горыч. Але замест мяне выправісься ты, Ахоўнік Пярсьцёнка, калі надыдзе твой час і калі ты пажадаеш. Калі раны твае стануць горам і памяць ношы не палегчае, тады зможаш ты сысьці на Захад, каб там загаіць раны й стому. А цяпер насі гэта на памяць пра Эльфаў Камень і Вечаровую Зорку, з чыімі лёсамі пераплёўся твой.

І яна зьняла з шыі срэбны ланцужок зь белым каменем, падобным да зоркі, і надзела Фрода.

– Калі ўспаміны пра жах і цемру патурбуюць цябе, – вымавіла каралева, – ён прынясе палёгку.

Як і казаў кароль, праз тры дні прыбыў Эямэр Роханскі, і разам зь ім – эярэд найлепшых рыцараў Украйны. Яго шчыра павіталі, і калі ўсе паселі за сталом Мэрэтранду, Вялікай залі баляваньняў, Эямэр пабачыў хараство паннаў, што сядзелі непадалёк, і ягонае сэрца напоўнілася вялікім зьдзіўленьнем. Перад сыходам на адпачынак ён адшукаў гнома Гімлі:

– Гімлі, сын Глойна, ці напагатове твая сякера?

– Не, гаспадару, – адказаў гном, – але няшмат часу мне трэба, каб узяць яе, калі ёсьць у тым неабходнасьць.

– Ёсьць ці не – меркаваць табе. Бо пасьпешлівыя словы пра панну Залатога лесу яшчэ ляжаць паміж намі. А зараз я пабачыў яе на свае вочы.

– Ну дык, спадару, што ты скажаш?

– На жаль, я не магу сказаць, што яна найпрыгажэйшая!

– Тады я пайшоў па сякеру.

– Спачатку выслухай маё тлумачэньне. Калі б я пабачыў яе сярод іншых, згадзіўся б з усім, што ты казаў, дый дадаў шмат свайго. Але цяпер першая для мяне – каралева Арвэн Вечаровая Зорка, і я гатовы біцца за яе з кожным, хто аспрэчыць мае словы. Ці слаць мне па меч?

Тут Гімлі нізка пакланіўся й вымавіў:

– Не, я задаволены тваім тлумачэньнем, кароль Украйны. Ты абраў Вечар, а мая любоў аддадзеная Раніцы. Прадбачыць маё сэрца, што неўзабаве яна назаўжды пакіне нас.

Нарэшце надышоў дзень ад'езду, і вялікі й пышны картэж ужо падрыхтаваўся выправіцца з гораду на Поўнач. Тады каралі Гондару й Украйны крочылі да сьвятога месца, да магільняў Рат Дынену вынесьлі прэч караля Тэядэна на залатых драгах дый прайшлі праз горад у маўчаньні. Усклалі драгі на вялікі воз, абкружаны вершнікамі Рохану, з каралеўскаю харугваю наперадзе. Мэры, як збраяносец караля, ехаў на возе, каб ахоўваць каралеўскі рыштунак.

Для астатніх сяброў Зьвязу адшукалі адпаведных конікаў. Фрода з Сэмам ехалі побач з Арагорнам, Гэндальф скакаў на Ценяры, Піпін – разам з рыцарамі Гондару, а Ляголас з Гімлі, як і заўсёды, разам на Арадзе.

Паехала таксама і каралева Арвэн, і Келебарн з Галадрыельлю дый іхні почт, і Эльранд з сынамі, князі Дол Амрату і Ітыльёну дый мноства ачольцаў і рыцараў. Аніколі аніякі кароль Украйны ня меў гэткага суправаджэньня, як Тэядэн, сын Тэнгела, на шляху да сваёй радзімы.

Спакойна, нясьпешна сягнулі Анарыёну, і ўехалі ў Шэры лес пад Аман Дынам, і там пачулі нібыта погук барабанаў у гарах, хоць анічога жывога не было відаць. Тады Арагорн загадаў трубіць у горны, і герольды абвесьцілі:

– Гляньце ж на прышэсьце караля Элесара! Ён аддае лес Друядан назаўжды Ганбуры-Гану й ягонаму народу, і ад гэтага часу аніводны чалавек ня крочыць сюды бязь іхняга дазволу!

Тады барабаны заракаталі гучней і раптам змоўклі.

Нарэшце праз пятнаццаць дзён вандроўкі картэж з каралём Тэядэнам празь зялёныя палі Рохану сягнуў Эдорасу, і там усе вандроўнікі адпачылі. Залатую залю прыбралі прыгожымі габэленамі, яна напоўнілася сьвятлом, і ў ёй зладзілі баляваньне, найлепшае з самых часоў яе пабудовы. Праз тры дні людзі Ўкрайны падрыхтавалі пахаваньне Тэядэну: яго паклалі ў каменным доме разам з зброяю й мноствам файных рэчаў, якімі ён валодаў, і насыпалі над домам вялікі курган, і пакрылі зялёным дзёрнам зь белымі сімбельмунамі. Цяпер восем курганоў высіліся на ўсходнім баку Магільнага поля.

Пасьля вершнікі каралеўскай аховы на белых конях гарцавалі вакол кургану, сьпяваючы песьню пра Тэядэна, сына Тэнгела, якую склаў мэнэстрэль Глэявінэ. Пасьля гэтай песьні Глэявінэ болей не вершаваў. Павольныя сьпевы вершнікаў усхвалявалі сэрцы нават тым, хто не разумеў мовы, а словы запальвалі сьвятлом вочы людзей Украйны, калі чулі яны зноў, як грукаталі капыты паўночнай коньніцы й як голас Эёрла разносіўся над полем Келебранты, і плынеў далей расповед пра каралёў, і роў ізноў Хельмаў рог у гарах, і паўставала Цемра, і выходзіў супраць яе кароль

Тэядэн, і мчаў скрозь Цень ды полымя бітвы, і гінуў магутна ў той самы час, калі сонца, вярнуўшыся па-за ўсялякай надзеяй, зіхацела раніцаю над Міндолуйнам.

*З сумневу й цемры да магутнай раніцы новай*
*выехаў ён, сьпяваючы, зь мечам зіхоткім.*
*Ён адрадзіў надзею, і ў надзеі загінуў,*
*над сьмерцю, над жахам і конам узьняўся,*
*над жыцьцём і гібельлю да несьмяротнае славы.*

Мэры стаяў ля ўзножжа зялёнага кургану й плакаў, а калі песьня скончылася, выгукнуў:

– Кароль Тэядэн, кароль Тэядэн! Бацькам стаў ты мне, хоць і на кароткі час! Бывай!

Калі скончылася пахаваньне й сьцішылася жаночае галашэньне, а Тэядэн нарэшце спачыў у сваім скляпеньні, тады сабраўся народ у вялізнай Залатой залі на баляваньне, каб адагнаць тугу. Бо Тэядэн пражыў поўныя гады й памёр у гонары ня меншым, чым ягоныя найвялікшыя продкі. А калі надышоў час паводле роханскага звычаю выпіць за памяць каралёў, наперад выйшла Эявін, панна Рохану, залатая як сонца й белая як сьнег, і паднесла паўнюткі куфаль Эямэру.

Тады паўсталі мэнэстрэль і майстра веды дый назвалі імёны каралёў Украйны паводле іхняй чаргі: Эёрл Малады, і Брэга, будаўнік залі, і Альдар, брат Бальдара Нешчасьлівага, і Фрэя, і Фрэявінэ, і Гольдвінэ, і Дэяр, і Грам, і Хельм, хтоператрываў у Хельмавым Яры нашэсьце ворагаў на Ўкрайну. Тое былі дзевяць курганоў з заходняга боку, бо тады перарвалася чарга ад бацькі да сына, і пачаліся курганы на ўсходнім баку: Фрэялаф, сын Хельмавай сястры, і Леяфа, і Вальда, і Фолька, і Фольквінэ, і Фэнгел, і Тэнгел, і Тэядэн апошні. Калі найменавалі Тэядэна, Эямэр асушыў келіх, і панна папрасіла прыслужнікаў напоўніць куфлі, і ўсе ў залі паўсталі й выпілі за новага караля, гукаючы:

– Хай жыве Эямэр, кароль Украйны!

Нарэшце, калі баляваньне падышло да сканчэньня, Эямэр падняўся й абвесьціў:

– Цяпер – пахавальнае баляваньне караля Тэядэна, але я распавяду вам вестку радасьці, і кароль Тэядэн не пакрыўдзіцца з таго, бо заўжды бацькам быў ён для Эявін, маёй сястры. Пачуйце ж, усе мае госьці, цудоўны народ мноства краінаў і земляў, шляхетнейшага аніколі не зьбіралася раней у гэтай залі! Фарамір, намесьнік Гондару, князь Ітыльёну, просіць Эявін, панну Рохану, стаць ягонай жонкаю, і яна згодная на тое. Таму перад усімі вамі абвяшчаюцца іхнія заручыны!

Тады паўсталі Фарамір з Эявін, рука ў руцэ, і ўсе выпілі за іх дый парадаваліся.

– Так, – сьцьвердзіў Эямэр, – сяброўства Ўкрайны й Гондару злучанае новым зьвязам, і з таго яшчэ болей радасна мне.

– Шчодры ж ты, кароль Эямэр, аддаеш Гондару найсьвятлейшы скарб свайго каралеўства! – вымавіў Арагорн.

А Эявін зірнула ў вочы Арагорну й папрасіла:

– Пажадай жа мне радасьці, гаспадару мой і ацаляльніку!

І ён адказаў:

– Я зычыў табе радасьці зь першага ж імгненьня, калі ўбачыў цябе. І сэрца маё ацаляецца, пабачыўшы тваю радасьць.

Калі скончылася баляваньне, тыя, каму належала выпраўляцца, Арагорн з рыцарамі, эльфы Лорыйну й Долага Яру, папрасілі дазволу ў караля Эямэра й

падрыхтаваліся ў дарогу, але Фарамір зь Імрахілем засталіся ў Эдорасе. Арвэн Вечаровая Зорка засталася таксама й разьвіталася з сваімі братамі. Аніхто ня бачыў яе апошняй сустрэчы з бацькам, Эльрандам, бо яны падняліся ў горы й там доўга размаўлялі. Горкае разьвітаньне, якому доўжыцца да скону сьвету.

Перад тым як госьці рушылі ў вандроўку, да Мэры прыйшлі Эямэр з Эявін, кажучы:

– Бывай жа, Мэрыядок з Шыру, чарнік Украйны! Удачы табе на шляху, і хутчэй вяртайся да нашай радасьці!

– Каралі даўніны падаравалі б табе столькі, што ты ня здолеў бы зьнесьці, за подзьвігі на полі Мундбургу, – вымавіў Эямэр, – але ж анічога не пажадаў ты, кажучы, што досыць табе дадзенай колісь зброі. З тым даводзіцца, на жаль, пагадзіцца, бо я ня маю падарунку, вартага тваёй адвагі, але сястра мая просіць цябе прыняць малую рэч на памяць пра Дэрнхельма і рогі Ўкрайны, што загулі на зыркім сьвітанку.

Тады Эявін дала Мэры старажытны рог на зялёнай перавязі, малы, але ж вельмі файна выраблены з чыстага срэбра. З вычаканенымі вершнікамі, што адзіным шэрагам, віючыся вакол рога, гарцавалі ад наверша да раструба, з рунамі вялікай моцы.

– Тое – старажытная каштоўнасьць нашага роду, – патлумачыла Эявін. – Зрабілі яго гномы, і быў ён у скарбніцы цмока Скаты. З Поўначы прынёс яго Эёрл Малады. Той, хто задзьме ў гэты рог у гадзіну патрэбы, застрашыць ворагаў і ўзбадзёрыць сэрцы сяброў, і, пачуўшы, яны пасьпяшаюць на дапамогу.

Мэры прыняў рог, бо немагчыма было адмовіцца, і пацалаваў Эявін руку. А кароль і ягоная сястра абняліся зь ім і разьвіталіся.

Цяпер усе госьці падрыхтаваліся да ад'езду. Выпілі апошнюю, разьвітальную, страмянную чару дый разьвіталіся ў вялікай узаемнай пашане й моцным сяброўстве. Сягнуўшы Хельмавага Яру, адпачывалі два дні. Там Ляголас выканаў абяцаньне й наведаў з Гімлі Зіхоткія пячоры, а калі яны вярнуліся, эльф быў маўклівы й казаў толькі, што адзіны Гімлі здольны абраць словы, каб распавесьці пра іх.

– Аніколі раней нат не набліжаўся гном да перамогі над эльфам у майстэрстве словаў, – казаў ён, – цяпер засталося толькі рушыць да Фангарну, каб сплаціць рахунак!

Ад Цясьніны выехалі да Ізенградку й убачылі, чым бавіліся энты. Зруйнавалі цалкам ды вынішчылі дашчэнту ўсё кольца скалаў, а зямлю зрабілі сапраўдным садам. Тут пабег струмень, а пасярэдзіне легла чыстае возера, зь якога ўздымалася вежа Ортанку, высокая й недасягальная, і чорны камень яе люстраваўся ў вадзе.

Колькі часу вандроўнікі счакалі перад былою брамаю Ізенградку, на месцы яе стаялі, нібы вартавыя, два высокія дрэвы, адсюль пачыналася сьцяжына па зялёнай лугавіне да Ортанку. Зьдзіўленыя, глянулі вандроўнікі на справу энтавых рук, але спачатку нікога паблізу не пабачылі. Аднак неўзабаве пачулі покліч: "Ху-ум-хомм, хуўм-хомм!" – і на сьцязе зьявіўся разам з Хуткасьценем Дрэвабарод, каб павітаць гасьцей.

– Калі ласка, у Дрэвагароджу Ортанку! – вухнуў Дрэвабарод. – Я ведаў, што вы набліжаецеся, але ж было шмат працы ў верхняй даліне, і засталося яшчэ нямала. Але ж я чуў: вы таксама на поўдні ды на ўсходзе не ленаваліся. Добра ўсё выйшла, вельмі добра.

І Дрэвабарод ухваліў усе зьдзяйсьненьні, пра якія, відавочна, ведаў да дробязяў, а пасьля запытальна зірнуў на Гэндальфа.

– Ну, што ж цяпер? – спытаў у чараўніка. – Ты выявіў сябе наймагутнейшым, усе твае высілкі далі плады, усё атрымалася. Што рабіцьмеш? І чаму прыехаў сюды?

– Каб пабачыць тваю працу, мой сябра, – адказаў Гэндальф, – і падзякаваць табе за дапамогу ва ўсім, чаго мы сягнулі.

– Хумм, але, тое цалкам слушна, – зазначыў Дрэвабарод. – Бо энты, безумоўна, сваю ролю згулялі. І ня толькі з гэтым, хумм, клятым дрэвагубцам, што тут жытлаваў. Бо ж набеглі вялізным натоўпам гэтыя, бурарум, лютавокія-чарнарукія-крываногія-каменнасэрцыя-кіпцюрастыя-бруднабрухія-крывапрагныя, марымайтэ-сінкахонда, хумм, ну, раз вы такі пасьпешлівы народ, а іхняе поўнае імя доўжыцца гады нашых пакутаў ад іх, скажу: оркаў набегла пошасьць. Зь Вялікай ракі зьявіліся, ды з Поўначы спусьціліся, ды запаланілі ўсё вакол лесу Лаўрэліндарэнан, а ўсярэдзіну не прайшлі, дзякаваць Вялікім, што тут вось перад мною, – ён пакланіўся пану і паньне Лорыйну. – І тыя самыя мярзотныя пачвары надта зьдзівіліся, сустрэўшы нас у роханскіх панізьзях, бо ня чулі пра нас раней, хоць ня чулі й лепшыя народы. Няшмат тых оркаў засталося, каб нагадаць пра нас сьвету, бо мала хто ўцёк, дый тыя амаль усе дасталіся рацэ. Вам пашчасьціла, бо калі б яны не перастрэлі нас, тады кароль травяных палёў далёка ня зьехаў бы, а калі б зьехаў, яму не было б куды вяртацца.

– Мы добра ведаем гэта, – пацьвердзіў Арагорн, – і аніколі не забудземся ані ў Мінас Тырыце, ані ў Эдорасе.

– *Аніколі* – надта доўгае слова нават для мяне, – усьміхнуўся Дрэвабарод. – Не забудуць, пакуль трывае тваё каралеўства, ты маеш на ўвазе, але ж доўгенька яму давядзецца стаяць, каб тое падалося доўгім энтам.

– Пачынаецца новая эпоха, – заўважыў Гэндальф, – і ў ёй, магчыма, каралеўствы людзей перажывуць цябе, сябра мой Фангарне. Але ж скажы мне: што з маім даручэньнем? Як там Саруман? Ці не стаміў яго яшчэ Ортанк? Бо мне не падаецца, што зьмены навокал ён успрыняў як паляпшэньне відарысу з вакна.

Дрэвабарод зноў зірнуў на Гэндальфа доўга й запытальна, амаль хітра, як падалося Мэры.

– А-а, – уздыхнуў неўзабаве. – Я так і думаў, што ўрэшце ты дабярэсься дагэтуль. Ці стаміў яго Ортанк? Надта стаміў апошнім часам, і ня так уласна вежа, як мой голас ля яе. Хумм! Доўгія я распавядаў яму гісторыі ці, прынамсі, такія, што лічацца доўгімі для вас.

– Тады чаму ж ён слухаў іх? Ці ты патрапіў у Ортанк? – спытаў чараўнік.

– Хуўм, не, ня ў Ортанк! Але ж ён падыходзіў да вакна й слухаў, бо аніякім іншым чынам навінаў дастаць ня мог, і хоць ненавісныя былі яму тыя зьвесткі, ён іх прагнуў, а я паклапаціўся, каб ён выслухоўваў усё-ўсенька. А да навінаў я дадаў шмат такога, над чым яму карысна б было задумацца. Вось ён і стаміўся. Заўжды быў такі пасьпешлівы. Тое яго й згубіла.

– Я заўважаю, мой даражэнькі Фангарне, што зь вялікаю настойлівасьцю кажаш ты "*жыў*", "*быў*", "*стаміўся*". А як наконт "*жыве*" ці "*стаммяецца*"? Ён што, памёр?

– Не, наколькі я ведаю, не памёр. Але сышоў. Так, сем дзён як сышоў. Няшмат засталося ад яго ранейшага, калі выпаўз у сьвет, а што тычыцца ягонага паўзучага служкі, дык той увогуле падаўся блядным ценем. Не кажы мне, Гэндальфе, што я абяцаў пільна вартаваць яго, я добра памятаю. Але жусё зьмянілася. Я надзейна трымаў яго, каб ён не нарабіў шкоды, і ён страціў магчымасьць шкодзіць. Мусіш ведаць, Гэндальфе, што болей за ўсё я ненавіджу трымаць у няволі жывых істотаў, нават такіх пачвараў не ўтрымаю я пад замком безь вялікай патрэбы. Зьмяя бязь іклаў няхай паўзе куды пажадае.

– Верагодна, ты маеш рацыю, – згадзіўся Гэндальф. – Але гэтая зьмяя мае шчэ адзіны клык, мяркую. Атрута ў ягоным голасе захавалася, і, лічу, ён пераканаў цябе, нават цябе, Дрэвабарод, знайшоў слабое месца ў тваім сэрцы. Ну, ён сышоў, і анічога болей тут ня скажаш. А вежу Ортанку варта вярнуць каралю, якому яна й належыць. Хоць мо яна яму не патрэбная.

– Тое пабачым пазьней, – сказаў Арагорн. – Але ж я даю энтам усю гэтую даліну, каб яны рабілі зь ёй, што пажадаюць, з адзінай умоваю: каб вартавалі Ортанк і каб ніхто ня мог увайсьці туды без майго дазволу.

– Вежа зачыненая, – патлумачыў Дрэвабарод. – Я прымусіў Сарумана замкнуць яе й аддаць мне ключы. Яны ў Хуткасьценя.

Хуткасьцень пакланіўся (быццам дрэва нахілілася пад ветрам) дый працягнуў Арагорну два вялікія чорныя ключы, вычварныя, злучаныя сталёвым кольцам. Кароль прамовіў:

– Вось я зноў кажу вам: дзякуй. І разьвітваюся. Няхай разрастуцца вашы лясы ў супакоі. Калі гэтая даліна запоўніцца, ёсьць прыдатнае месца на захад ад гор, дзе вы жылі калісьці.

Твар Дрэвабарода спахмурнеў:

– Лясы могуць вырасьці й памножыцца, але ня энты. Бо ж энцянятаў няма.

– І ўсё-ткі, магчыма, цяпер у вашых пошуках болей надзеі, – заўважыў Арагорн. – Бо адкрыліся землі на ўсходзе, што раней доўгі час былі закрытыя.

Але Дрэвабарод пахітаў галавою й вымавіў:

– Надта далёка. І людзей зашмат у нашыя дні. Але ж я забываюся на ветлівасьць! Ці не застаняцеся тут, не адпачняце крышачку? Мо хто з вас захоча праехаць праз Фангарн, каб скараціць шлях дахаты?

Ён зірнуў на Келебарна з Галадрыельлю.

Але ўсе, апрача Ляголаса, паведамілі, што мусяць зараз разьвітацца й выправіцца хто на поўдзень, хто на захад.

– Ну, Гімлі, рушма! – абвесьціў Ляголас. – Цяпер з Фангарнавага дазволу я наведаю найглыбейшыя мясьціны Энтавага лесу й угледжу дрэвы, якіх ня ўбачыць анідзе болей у Міжзем'і. А ты выправісься з мною паводле твайго слова, і гэткім чынам разам скіруймася ў вандроўку да нашых земляў у Ліхалесьсі й далей.

Гімлі, пагадзіўся, хоць і безь вялікай радасьці.

– Вось і сканчэньне Зьвязу Пярсьцёнка, – вымавіў Арагорн. – Спадзяюся, што неўзабаве вы вернецеся да маёй зямлі з дапамогаю, якую абяцалі.

– Мы прыйдзем, калі нашы гаспадары дазволяць, – пацьвердзіў Гімлі. – Ну, бывайце, мае хобіты! Вы бясьпечна сегняце сваіх хатаў, і я буду спаць спакойна, не турбуючыся за вас. Мо зьлістуемся, калі надарыцца магчымасьць, а некаторыя з нас, мяркую, і спаткаюцца, але, баюся, усім разам нам аніколі болей не сустрэцца.

Тады Дрэвабарод разьвітаўся з кожным па чарзе й тры разы павольна ды з глыбокай павагаю пакланіўся Келебарну й Галадрыелі.

– Доўгія, доўгія гады мінулі з часу, калі сустракаліся мы ля караніскаў ды вецьця. *А ванімар, ванімальён настар'і*! Сумна, што стрэліся мы так блізка да самага канца. Бо сусьвет зьмяняецца: я смакую тое ў водах, адчуваю ў зямлі, удыхаю з паветрам. Мяркую, нам больш не спаткацца.

– Ня ведаю, Найстарэйшы, – уздыхнуў Келебарн.

А Галадрыель дадала:

– У Міжзем'і нам больш не спаткацца, хіба ў тую часіну, калі землі, што зараз пад хвалямі мора, падымуцца зноў. Тады пад вербалозам Тасарынану, мажліва, і сустрэнемся мы ўвесну. Бывай!

Апошнімі разьвіталіся з старым энтам Мэры й Піпін, і ён павесялеў, пазіраючы на іх.

– Гэй, веселуны мае, – спытаўу іх, – ці ня вып'еце шчэ глыток з мною да ад'езду?

– Вядома ж! – усклікнулі абодва, і ён адвёў іх пад цень аднаго з дрэваў, дзе стаяў вялізны каменны гарлач.

Дрэвабарод напоўніў тры куфлі, і сябры выпілі, а тады пабачылі, як дзіўна паглядае энт на хобітаў па-над ускрайкам свайго куфля.

– Асьцярожней, асьцярожней! – папярэдзіў Дрэвабарод. – Вы ўжо добра вырасьлі зь мінулай нашай стрэчы.

Яны зарагаталі й асушылі куфлі нагбом.

– Файна, да сустрэчы! – сказаў энт. – І не забудзьцеся: калі пачуеце якія весткі пра энтавак у вашых землях, дашліце мне навіны.

Махнуў вялізманымі рукамі ўсім дый пайшоў прэч, пад дрэвы.

Цяпер ужо вандроўнікі ехалі хутчэй. Сягнулі Брамы Рохану, і Арагорн разьвітаўся зь імі на тым самым месцы, дзе Піпін зазірнуў у палантыр Ортанку. Хобіты затужылі, бо Арагорн правёў іх праз мноства небясьпек і ніколі ня схібіў.

– Вось бы нам камень, каб бачыць у ім усіх сяброў! – уздыхнуў Піпін. – І каб перамаўляцца зь імі здалёк.

– Зараз застаўся адзіны, якім магчыма карыстацца, – зазначыў Арагорн. – Бо ты не пажадаеш убачыць тое, што паказвае камень Мінас Тырыту. А палантыр Ортанку застанецца ў караля, каб бачыць, што адбываецца ў каралеўстве й што робяць падначаленыя. І не забывайся, Перыгрын Хват, хто ты – рыцар Гондару. І я не вызваляю цябе ад тваёй службы. Цяпер адпускаю, але магу заклікаць назад. Памятайце, дарагія сябры, што маё каралеўства таксама й на Поўначы, і я неўзабаве прыйду й туды.

Арагорн разьвітаўся з Келебарнам і Галадрыельлю, і панна сказала яму:

– Эльфаў смарагд, скрозь цемру сягнуў ты сваёй надзеі, і маеш зараз усё, чаго жадаў. Выкарыстай жа плённа свае дні!

І Келебарн дадаў:

– Бывай, сваяк мой! Няхай лёс твой будзе адрозным ад майго й каштоўнасьць твая застанецца з табою да скону тваіх дзён!

З тым ад'ехалі прэч. Была гадзіна заходу сонца, і калі праз пэўны час сябры азірнуліся, пабачылі: Кароль Заходу сядзіць на кані, ягоныя рыцары вакол яго, нізкае сонца асьвяціла іх, збруі зазіхцелі золатам, а белая Арагорнава корзна сталася вогненнай. Арагорн падняў над галавою зялёны камень, і той зялёным полымем бліснуў зь ягонай рукі.

Неўзабаве картэж зьменшаў. Спусьціліся па Ізене, збочылі на захад, праехаўшы праз Браму да запустэчаных земляў, а тады павярнулі на поўнач, перасекшы мяжу Дунлянду. Тутэйшыя жыхары ўцякалі й хаваліся, бо баяліся эльфаў, надта ж мала іх завітвала ў гэты край. Вандроўнікі не зьвярталі ўвагі, бо ехалі вялікай суполкаю й былі добра забясьпечаныя ўсім неабходным. Рушылі як хацелі, не сьпяшаючыся, намёты ставілі дзе падабалася.

На шосты дзень ад разьвітаньня з каралём праехалі празь лес, што чапляўся за пагоркі падэшваў Туманных гор, якія цяпер цягнуліся праваруч. Калі на сутоньні зноў

выехалі на адкрытую роўнядзь, дагналі старога: ён ішоў абапіраючыся на кульбу, апрануты быў у брудна-белыя лахманы, а ля ног ягоных кешкаўся другі жабрак, згорблены й плаксівы.

– Ну, Саруманe, куды кіруесься? – спытаў Гэндальф.

– А табе што? – гыркнуў той. – Ці ты мо загадаеш мне, куды йсьці, мала маёй паразы?

– Ты ведаш адказ, – вымавіў Гэндальф. – Не і не. У любым выпадку час маёй працы падышоў да канца. Кароль прыняў яе цяжар на сябе. Калі б ты пачакаў у Ортанку, пабачыў бы яго, і ён надарыў бы цябе сваёй міласэрнасьцю й мудрасьцю.

– Тым больш нагодаў сысьці раней, бо мне ані таго, ані другога ад яго ня трэба. Насамрэч, калі хочаш пачуць адказ на сваё першае пытаньне, дык вось ён: я іду прэч зь ягонага каралеўства.

– Тады ты зноў абраў ня той шлях, – заўважыў Гэндальф, – і я ня бачу надзеі ў такой вандроўцы. Ці прымеш ты нашу дапамогу? Бо мы яе табе прапануем.

– Мне? Не, калі ласка, ня трэба пасьміхацца, пазіраючы на мяне! Мне больш даспадобы вашая суворасьць. Што ж тычыцца вунь той панны, я ёй не давяраю. Яна заўжды ненавідзела мяне й пляткарыла табе на карысьць. Не сумняюся: яна прывяла цябе сюды дзеля вашага задавальненьня, каб вы пакпілі з майго жабрацтва. Калі б толькі даведаўся раней пра вас, пайшоў бы іншым шляхам, каб пазбавіць вас гэткай асалоды.

– Сарумане, – уздыхнула Галадрыель, – у нас іншыя клопаты й мэты, якія нам падаюцца значна больш істотнымі, чым кепікі зь цябе. Кажы лепей: удача зноў напаткала цябе, бо цяпер маеш апошні шанец.

– Калі насамрэч апошні, тады я задаволены, не давядзецца турбавацца, зноў адмаўляючыся. Мае надзеі парушаныя, аскубкаў тваіх мне ня трэба – калі яны ў цябе яшчэ засталіся, – на момант ягоныя вочы ўспыхнулі полымем. – Ідзіце! Не дарма я столькі вывучаў пярсьцёнкі! Вы самі сябе асудзілі й ведаеце гэта. Мне будзе спакайней у маіх вандроўках, бо ведаю: разбураючы мой дом, вы бурылі й свой. "*Дзе ж той карабель, што мяне панясе да Неўміручай зямлі?*" – пакпіў Саруман. – Сівы будзе той карабель, паўнюткі прывідаў.

Саруман зарагатаў, але хрыпла й агідна.

– Ну, устань, ёлупень! – гыркнуў на жабрака, што сядзеў на зямлі, дый тыцнуў яго кіем. – Паварочвайся! Калі гэткія шляхцюкі пруцца нашым шляхам, дык нам трэба збочваць. Уставай! А тое ані дробкі на вячэру не атрымаеш!

Жабрак павярнуўся й пакульгаў прэч зь енкам:

– Бедны стары Грыма! Бедны Грыма! Заўжды б'юць, заўжды клянуць! Як я яго ненавіджу! Калі б я здолеў пакінуць яго!

– Дык пакінь! – прапанаваў Гэндальф.

Але Грыма толькі кінуў хуткі пераляканы позірк бляклых вачэй на Гэндальфа дый паклыпаў хуценька ўвасьлед за Саруманам. Калі пара недарэкаў, мінуючы картэж, праходзіла ля хобітаў, Саруман спыніўся, пазіраючы на іх. Яны ж глянулі на яго з спачуваньнем.

– Дык вы таксама тут, каб пакпіць зь мяне, мае недаросьлікі? – спытаў Саруман. – Вам і клопату няма, чаго не стае жабраку? Бо ў вас жа ўсё ёсьцека: ежа й файная вопратка ды найлепшыя зёлкі для вашых люлек. Ну, дык я ведаю, ведаю, адкуль яны! Панюшкі не дасьце жабраку, га?

– Даў бы, каб было, – адказаў Фрода.

– Я аддам, што засталося. Зараз, пачакай крыху, – сказаў Мэры ды, сышоўшы з поні, зашнарыў у торбе пры сядле.

Неўзабаве знайшоў і працягнуў Саруману скураную кеску.

– Бяры, калі ласка, бо мы знайшлі гэта на руінах Ізенградку, – патлумачыў Мэры.

– Маё, маё, так, і шмат сплочана за тое, – выгукнуў Саруман, учапіўшыся ў кеску. – Але ж гэта толькі для віду, бо ўпэўнены: вы нахапалі значна болей! Ну, усё ж жабрак мусіць быць удзячным, калі злодзей вяртае хоць каліўца былой маёмасьці. Вам усё прыдасца, калі вернецеся дахаты й вам меней спадабаецца ў Паўднёвым падзеле, чым чакаеце! Хай жа доўга не хапацьме ў вашай краіне люлькавых зёлак!

– Вось табе й дзякуй! – толькі й вымавіў Мэры. – А ну-тка вярні кеску, яна мая й правандравала з мною шмат. Загарні зёлку ва ўласныя анучы.

– Злодзею – злодзеева! – гыркнуў Саруман, павярнуўшыся да Мэры сьпінаю, пнуў нагой Зьмеяротага, і ўдвох яны рушылі да лесу.

– Ну, як вам тое падабаецца? – зьдзівіўся Піпін. – А як наконт падпільнаваць нас, схапіць, параніць ды валачы рукамі оркаў праз увесь Рохан?

– Ага! – вымавіў Сэм раздумліва. – Ён сказаў: сплочана. Якім жа чынам, цікава мне? І нешта не падабаюцца мне ягоныя словы пра Паўднёвы падзел. Час нам вяртацца дахаты.

– Упэўнены, што так, – пагадзіўся Фрода. – Але ж мы не патрапім хутчэй дадому, калі хочам пабачыць Більба. Што ні здарылася б, я перш за ўсё – у Долы Яр.

– Так, мяркую, табе й лепей зрабіць, – згадзіўся Гэндальф. – Але ж як шкада Сарумана! Баюся, анічога болей зь яго не атрымаецца. Згніў суздрам. Усё адно ня ўпэўнены, што Дрэвабарод зрабіў слушна. Мяркую, Саруман яшчэ здатны на якое дробнае паскудзтва.

Наступным днём рушылі па паўночным Дунляндзе, дзе цяпер ніхто ня жыў, хоць краіна была зялёная й прывабная. Верасень наведаў яе, прыбраны залатымі днямі й срэбнымі начамі, сябры ехалі павольна, атрымліваючы асалоду, так сягнулі ракі Лебядзіцы й старога броду на ўсход ад вадаспадаў, якімі рака раптоўна абрыналася ў панізоўі. Далёка на захад цягнуліся багны й разьлівы з россыпам выспачак, між якіх рака вілася да Шэраводзьдзя. Безьліч лебедзяў гнездавала ў гэтых чаротавых краёх.

Дабраліся да Эрэгіёну, і нарэшце на зыркім сьвітанку, праблiснулым над сьветлымі туманамі, вандроўнікі зь лягеру, разьбітым на нізкім пагорку, зірнулі на ўсход і ўбачылі, як сонца кранае тры горныя пікі, якія мкнуць высока ў нябёсы, працінаючы аблокі: Карадрас, Келебдыл і Фануйдхал. Картэж наблізіўся да брамы Морыі.

Там падарожнікі затрымаліся на сем дзён, бо надышоў час яшчэ аднаго разьвітаньня, такога нежаданага. Келебарн з Галадрыельлю й іхні народ неўзабаве мусілі збочыць на ўсход і, пераваліўшы праз Браму Барвянага Рогу ды спусьціўшыся па Дымрыльскай Лесьвіцы, сягнуць Срабрынкі й уласнай краіны. Так далёка на захад праехалі яны, бо мелі шмат пра што пагаманіць з Эльрандам і Гэндальфам, таму й затрымаліся дзеля гаворкі й успамінаў. Часта, калі хобітаў агортваў моцны сон, эльфы й чараўнік сядзелі разам пад зорамі, згадваючы мінулыя эпохі, свае радасьці й дзеі ў гэтым сусьвеце ці раячыся пра дні, якім наканавана было надысьці. Калі б які чужынца прайшоў міма, няшмат ён заўважыў ці пачуў бы, толькі падалося б яму: бачыць нерухомыя шэрыя постаці, каменныя выявы, чыесьці згадкі пра забытае ў бязьлюднай цяпер зямлі. Бо яны зусім не варушыліся, і гаворка іхняя вялася ня

вуснамі, а з розуму ў розум, і толькі ў вачох іхніх адбівалася тое, пра што яны абменьваліся думкамі.

Але ж урэшце ўсё было прамоўленае, і яны разьвіталіся да часу, калі надыдзе дзень сыходзіць усім Тром Пярсьцёнкам. Хутка сярод ценяў і шэрых камянёў зьніклі постаці лорыйнскага народу, прэч памкнулі яны, да гор, а тыя, што кіраваліся ў Долы Яр, засталіся сядзець на пагорку, назіраючы, пакуль туман, расступіўшыся на імгненьне, не паказаў у далечы тых, з кім разьвіталіся, і ўсё зьнікла зноў. Фрода ведаў, што Галадрыель высока ўзьняла руку зь пярсьцёнкам на знак разьвітаньня.

А Сэм, адвярнуўшыся, уздыхнуў: "Хацеў бы я вярнуцца да Лорыйну!"

І вось праз пэўны час, увечары, едучы высокім узгор'ем, пабачылі раптам – як тое заўжды нечаканым падавалася вандроўнікам – амаль пад нагамі глыбокую даліну Долага Яру, а далёка ўнізе – зыркія ліхтары Эльрандавай сядзібы. Тады спусьціліся, перайшлі мост і сягнулі дзьвярэй, і ўвесь дом напоўніўся сьвятлом ды песьнямі радасьці ад Эльрандавага вяртаньня.

Перш за ўсё, перш нават за пад'едак, ня ўмыўшыся й нават ня скінуўшы плашчоў, хобіты кінуліся на пошукі Більба. І знайшлі яго самотным у ягоным невялікім пакойчыку, суздрам закіданым паперамі, алоўкамі й пёрамі. Більба сядзеў у фатэльцы перад маленькім агменьчыкам. Выглядаў надта старым, але ж спакойным і задаволеным, а яшчэ вельмі сонным.

Хобіт расплюшчыў вочы й зірнуў на тых, хто ўвайшоў.

– Вітаю, вітаю! Дык вы вярнуліся? Якраз да майго дня народзінаў. Як жа файна ў вас атрымалася! Ці ж ведаеце, што мне будзе сто дваццаць дзевяць? А праз год, калі дажыву, дык і з Старым Хватам зраўнаюся. Хацелася б яго пераўзысьці, ну, тое пабачым.

Адсьвяткаваўшы Більбавы народзіны, хобіты засталіся яшчэ на колькі дзён у Долым Яры, шмат размаўляючы з старым сябрам, які цяпер амаль увесь час бавіў у сваім пакоі, выходзячы хіба дзеля пад'едку. Што да яды, дык ён быў звычайна надта пунктуальны й амаль заўжды прачынаўся ў патрэбную хвіліну. Седзячы вакол агменю, хобіты па чарзе распавядалі, што памяталі з вандровак й прыгодаў. Спачатку Більба рабіў выгляд, што занатоўвае, але жчасьцяком засынаў, а прачнуўшыся, казаў:

– Ну, як цудоўна, як файна! Аднак дзе ж мы спыніліся?

Тады даводзілася пераказваць расповед зь месца, дзе ён задзёўб носам.

Адзіная гісторыя, што, падалося, насамрэч кранула й захапіла ягоную ўвагу, – каранаваньне й вясельле Арагорна.

– Мяне запрасілі на яго, вы ж ведаеце, – даводзіў стары, – і я доўгенька яго чакаў. Але ж калі час надышоў, высьветлілася, што неяк і не карціць мне болей ехаць туды, дый зьбірацца – такі клопат!

Калі мінула амаль два тыдні, Фрода вызірнуў з вакна й пабачыў, што ўночы прыхапіла марозікам і на павуціньне легла шэрань. Тады ўцяміў раптоўна, што мусіць сыходзіць. Ды разьвітацца зь Більба. Надвор'е заставалася спакойным і ясным, нібы доўжылася лета, мо самае прыгожае й добрае з усіх помных. Аднак ужо наблізіўся кастрычнік і неўзабаве мусілі пачацца дажджы й вятрыскі. А шлях дахаты заставаўся некароткім. Усё-ткі ня думкі пра надвор'е ўстрывожылі яго. Проста адчуў, што трэба вяртацца ў Шыр. Сэм таксама перажываў нешта падобнае. За дзень да таго прызнаўся:

– Ну, спадару Фрода, далёка мы хадзілі ды шмат бачылі, а ўсё лепей за гэнае месьцейка, пэўна, не напаткалі. Тут ад усяго ёсьць пакрыху, калі вы мяне разумееце: і Шыр тутака, і Залаты лес, і Гондар, і каралеўскія палацы, і шынкі, і лугі, і палі, і горы

– усё-ўсенька разам. Ды нейкім чынам адчуваю: трэ нам сыходзіць. Непакоюся я пра старога свайго, калі папраўдзе.

– Так, тут ёсьць ад усяго, – пагадзіўся Фрода. – Акрамя мора.

Дый паўтарыў сам сабе: "Акрамя мора".

Гэтым днём Фрода размаўляў з Эльрандам і дамовіўся, што хобіты ад'едуць наступнаю раніцаю. На вялікую радасьць, Гэндальф абвесьціў:

– Думаю, выпраўлюся з вамі. Хачу Масьляка пабачыць.

Увечары разьвіталіся зь Більба.

– Ну, калі мусіце ехаць, дык едзьце, – сказаў стары хобіт. – А мне шкада. Я буду сумаваць па вас. Файна ведаць, што вы побач. Але ж я раблюся занадта санлівы.

Тады ён падараваў Фрода міфрыльную броньку й Джала, забыўшыся, што ўжо дараваў іх, і аддаў тры кнігі паданьняў ды ўсялякіх зацемак, назьбіраных за доўгі час ды запісаных танюткім вітым почыркам, з пазнакамі на чырвоных вокладках: "*Пераклады з эльфскай мовы, зробленыя Б. Т.*".

Сэму даў кеску з золатам, патлумачыўшы:

– Амаль апошняя дробка Дракавай здабычы. Магчыма, спатрэбіцца, калі надумаеш ажаніцца, Сэме.

Сэм пачырванеў.

– А вам, маладзёны, мне няма чаго даць, апрача добрых парадаў, – зьвярнуўся стары да Мэры зь Піпінам і, даўшы іх – вох! – нямала, дадаў наастачу паводле шырскага звычаю: – Насоў вышэй за галаву не задзірайце! А калі ня спыніцеся расьці, дык неўзабаве капелюшы й апратка задорага вам абыдуцца!

– Калі ваша зьбіраесься пераўзысьці Старога Хвата, – заўважыў Піпін, – чаму ж нам не пераскочыць Бугай-Рова?

Більба засьмяяўся й дастаў з кішэні дзьве прыгожанькія люлькі, акаваныя срэбрам, з пэрлавымі муштукамі:

– Узгадвайце старога хобіта, калі будзеце паліць! Эльфы зрабілі іх для мяне, але я больш не дымлю.

Тады раптам заснуў і, паспаўшы крыху, вымавіў:

– Так, дзе ж мы? А, раздаем падарункі. Вось, згадалася: дык што сталася з маім пярсьцёнкам, які ты зьнёс, Фрода?

– Я яго згубіў, дарагі Більба, – адказаў Фрода. – Пазбавіўся ад яго, ведаеш.

– Як шкада! Хацелася б ізноў на яго зірнуць. Не, якое глупства з майго боку! Ты ж на тое й выпраўляўся, каб пазбавіцца ад яго, ці ж ня так? Усё гэтак пераблыталася, насамрэч, шмат усяго дамяшалася: Арагорнавы дзеі, Сьветлая Рада, Гондар, вершнікі, паўднёвікі, аліфаўнты, – ці ж ты папраўдзе бачыў аднаго, Сэме? – пячоры, вежы, залатыя дрэвы й неймавернае мноства ўсялякага align рознага.

Вох, надта кароткім шляхам я вярнуўся дахаты з свае вандроўкі. Мяркую, Гэндальф мог паказаць тое-сёе ў ваколіцах. Аднак тады аўкцыён скончыўся б да майго вяртаньня, клопатаў у мяне было б нашмат болей. Гэтак ці йнакш, ужо надта позна думаць пра тое. І сапраўды, нашмат утульней сядзець тут ды слухаць пра ўсе прыгоды. Агменьчык файны, ежа надзвычай добрая й эльфы паблізу, калі ўжо захочацца іх пабачыць. Чаго яшчэ?

*Няма сканчэньня для шляхоў,*
*Ледзь рушыш ад дзьвярэй...*
*Але ня мне па іх ізноў*
*Імкнуцца ўсё далей.*

*Ня мне ўжо каштаваць дарог*
*Вялікіх ды малых.*
*Дамоў вярнуўся я, каб змог*
*Спакой знайсьці ад іх...*

З апошнімі словамі Більбава галава нахілілася, і ён заснуў глыбока, упёршыся падбародзьдзем у грудзі.

Вечаровы змрок згусьцеў у пакоі, агмень запалаў зырчэй. Хобіты зірнулі на заснулага Більба й убачылі, што той усьміхаецца ў сьне. Пэўны час сядзелі моўчкі, а тады Сэм агледзеў пакой, дрыготкія цені на сьценах і ціха вымавіў:

– Ня думаю, спадару Фрода, што ён шмат напісаў бяз нас. Ён ніколі цяпер не запіша нашую гісторыю.

Тут Більба паўрасплюшчыў вока, нібыта пачуў. Падняўся з фатэлі.

– Бачыце, – сказаў маладзейшым голасам, – раблюся ўсё больш санлівым. А калі ёсьць час пісаць, дык мне да душы вершыкі. Фрода, даражэнькі хлопча, ці не дапаможаш, калі ласка, крыху перад сыходам? Зьбяры ўсе мае нататкі й паперы, і дзёньнік таксама, дый захапі з сабою, калі хочаш. Бачыш, у мяне няшмат часу, каб выбіраць, упарадкоўваць ды накшталт таго. Няхай Сэм дапаможа, і калі ўсё склеіш разам, вяртайся, я прабягуся па тэксьце. Абяцаю ня надта крытыкаваць.

– Абавязкова так і зраблю! – запэўніў Фрода. – І вярнуся неўзабаве, бо цяпер гэта цалкам бясьпечна. Ведаеш, у нас сапраўдны кароль, і ён неўзабаве ўладкуе ўсе шляхі.

– Дзякуй табе, даражэнькі! От гэна вялікая палёгка мне.

І Більба зноўку заснуў.

На раніцу Гэндальф з хобітамі рассталіся зь Більба ў ягоным пакоі, бо вонкі схаладнела, а пасьля разьвіталіся з Эльрандам і ўсім ягоным домам.

Калі Фрода стаяў на ганку, Эльранд пажадаў яму добрага шляху, добраславіў і вымавіў:

– Мяркую, Фрода, табе няма патрэбы вяртацца, хіба зусім неўзабаве. Гэтаю часінаю году, калі лісьце залацее перад тым, як апасьці, шукай Більба ў лясох Шыру. Я буду зь ім разам.

Тых словаў ніхто іншы ня чуў, і Фрода не распавёў пра іх анікому.

## *7. Шлях дахаты*

Нарэшце хобіты зірнулі ў бок радзімы. Не цярпелася пабачыць Шыр ізноўку, але на пачатку вандроўкі ехалі павольна, бо Фрода нездаровілася. Калі сягнулі броду праз Бруйнен, ён спыніўся, не адразу заехаў у раку, і спадарожнікі заўважылі, што Фродавы вочы, падаецца, ня бачаць ні іх, ні ўвогуле ўсяго навокал. Увесь гэты дзень, шостага кастрычніка, ён быў маўклівы.

– Табе блага? – ціха спытаў Гэндальф, пад'ехаўшы блізка да Фрода.

– Так. Маё плячо. Яно баліць, і памяць цемры цяжка ляжыць на мне. Споўнілася роўна год, як я атрымаў рану.

– На жаль, ёсьць раны, якія цалкам загаіць нельга, – уздыхнуў Гэндальф.

– Баюся, мая з такіх. Сапраўднага вяртаньня да былога для мяне ня будзе. Хоць я й вярнуся ў Шыр, ён не падасца ранейшым, бо я сам ужо не такі, як раней. Я паранены лязом, джалам і іклом, дый цяжкаю ношаю. Дзе ж я знайду сапраўдны адпачынак?

На тое Гэндальф не адказаў.

Напрыканцы наступнага дня Фродаў боль і непакой паменшалі, і Фрода зноў узрадаваўся, быццам і ня памятаў учорашняй чарноты. Пасьля таго вандроўка праходзіла нармалёва. Дні міналі хутка, бо ехалі на сваё задавальненьне й часьцяком прыпыняліся ў прыгожых лясох, дзе лісьце зьзяла золатам і чырваньню пад восеньскім сонцам. Нарэшце сягнулі Наветранай стромы. Ужо сутонела, і цень гары ляжаў плямаю на шляху. Тады Фрода папрасіў пасьпяшацца й на гару не глядзеў, а праехаў скрозь цень з пахіленаю галавою, шчыльна загарнуўшыся ў плашч. Уночы надвор'е зьмянілася. З захаду прыляцеў халодны вецер, прыгнаў хмары, завыў уголас, закружыў жоўтыя лісты, нібы птушак, у паветры. Калі сягнулі Чыцкага лесу, галіны дрэваў агаліліся амаль цалкам, і Прыгор'е ад позірку вандроўнікаў засланіла шчыльная завеса зьлівы.

Ужо зусім зьвечарэла, калі пад віхураю й дажджом апошніх кастрычніцкіх дзён пяць вандроўнікаў па зьвілістым шляху сягнулі Паўднёвай брамы Прыгор'я. Тая была шчыльна зачыненая. Залева пляскала ў твары, па цёмных нябёсах несьліся нізкія хмары, і падарожнікі крыху спахмурнелі, бо чакалі лепшай сустрэчы.

Шмат разоў гукалі й клікалі, пакуль нарэшце ня выйшаў вартаўнік зь вялізным дубцом. Зірнуў на чужынцаў з страхам і падазронасьцю, але ж, пабачыўшы, што перад ім Гэндальф з хобітамі, хоць і апранутыя неяк дзівосна, уздыхнуў з палёгкаю й запрасіў за браму.

– Заяжджайце! – прапанаваў, адчыняючы браму. – Чаго тут на холадзе ды мокрадзі словы марнаваць, такі ліхі ўзьвячорак. Стары Масьляк, без сумневу, шчыра павітае вас у "Коніку", і там ужо ўсё пачуеце, што варта пачуць.

– А тады й вы самі пачуеце, што мы распавядзем, і нават болей за тое? – Гэндальф засьмяяўся. – А стары Гары дзе?

– Сышоў, – вартаўнік скрывіўся. – Але ж лепей Масьляка распытайце. Добрага вечару вам!

– Дый вашці таксама! – сказалі вандроўнікі, заяжджаючы, і заўважылі, што за агароджаю ля шляху стаіць нізкая доўгая хаціна, зь якой выйшла колькі людзей, цікавячыся прышлымі з-за агароджы.

Калі сягнулі хаты Біла Бур'яка, пабачылі, што плот вакол абадраны й недагледжаны, а вокны ўсе забітыя.

– Мяркуш, Сэме, ты прыбіў яго тым яблыкам? – спытаў Піпін.

– Я не такі ўжо аптыміст, спадару Піпіне, – адказаў Сэм. – Але ж хацелася б даведацца, што здарылася зь небаракам поні. Шмат разоў я згадваў яго з усім гэтым ваўчыным выцьцём і астатнім.

Нарэшце сягнулі "Скаклівага коніка", які, ва ўсялякім выпадку звонку, выглядаў зусім па-ранейшаму. За чырвонымі фіранкамі на ніжнім паверсе зіхацела сьвятло. Пазванілі. Ноб падышоў да дзьвярэй, прычыніў дый вызірнуў у шчылінку вонкі, а калі пабачыў вандроўнікаў, зьдзіўлена выгукнуў:

– Спадару Масьляку! Спадару Масьляку! Яны вярнуліся!

– Што? Насамрэч? Я зараз ім задам! – пачуўся Масьлякоў голас, і неўзабаве гаспадар выскачыў з дубцом у руцэ. Але ж калі пабачыў падарожнікаў, рэзка спыніўся, злосьць на ягоным твары зьмянілася зьдзівам і задавальненьнем.

– Ноб, ты скурлапяты ёлупень! – гукнуў ён. – Ці ж ты ня мог старых сяброў па імёнах назваць? Навошта мяне гэтак палохаць, калі навокал абы-што дзеецца? Ну, файна, файна! Адкуль жа вы зьявіліся? Я ж, спадарове, аніколі болей пабачыць вас не спадзяваўся, бо сышлі ў глухмень з гэным Швэндалам, а Чорныя ўсялякія навокал. Але ж я так рады бачыць вас, а Гэндальфа асабліва! Заходзьце, заходзьце! Тыя самыя пакоі, што й раней? Яны незанятыя. Насамрэч большасьць пакояў цяпер незанятая, я ад вас хаваць ня буду, дый самі ж пераканаецеся неўзабаве. А я ўжо паклапачуся пра вячэру, толькі вызвалюся, але ж бачыце, рук цяперачка ну зусім не хапае, забегаўся. Гэй, Нобе, ну, сьлімаку, скажы-тка Бобу хуценька! А, зусім забыўся, Боб жа сышоў, ён цяпер дахаты, да сваіх увечары выпраўляецца. Ну, тады адвядзі поні ў стайню, Нобе! А вы ж захочаце свайго коніка самі ў стойла правесьці, спадару Гэндальфе, так? Ну, да чаго ж цудоўная скацінка, і я так адразу сказаў, зь першага позірку. Ды заходзьце, заходзьце, пачувайцеся як дома!

Манера размовы спадара Ячмана не зьмянілася, і ён па-ранейшаму, падавалася, усё гэтак мітусіўся, была нагода ці не было, ледзь з ног не валіўся з пасьпешлівасьці. Аднак шынок стаяў амаль пусты. З залі даносіліся прыглушаныя гукі двох ці трох галасоў. А ў сьвятле запаленай і прынесенай гаспадаром сьвечачкі твар ягоны падаўся болей маршчыністым й стомленым, чым раней.

Ён правёў гасьцей па калідоры да пакойчыку, дзе спыняліся той дзіўнай ноччу болей за год таму. Крочылі за гаспадаром, крыху занепакоіўшыся, бо відавочна было: спадар Масьляк намагаецца выглядаць як раней, але хавае нейкую бяду. Нешта зьмянілася, і не да лепшага. Ды госьці нічога не казалі, чакаючы.

І вось, як і адчувалі, гаспадар зазірнуў пасьля вячэры, каб спытаць, ці спадабалася. Насамрэч, спадабалася: аніякіх зьменаў да горшага ні ў піве, ні ў ежы ў "Коніку" пакуль што не назіралася.

– Зараз, даруйце за дзёрзкасьць, я не прапаноўваў бы вам выходзіць у агульную залю, – заўважыў Масьляк, – бо і вы стаміліся, і народу там гэтым вечарам зусім мала. Але калі вы мне дасьцё з паўгадзінкі перад сном, дык я надта хацеў бы з вамі сумовіцца, спакойненька так ды бязь лішніх вушэй.

– І мы хацелі б, – пагадзіўся Гэндальф. – Мы не стаміліся. Мы надта не сьпяшаліся, толькі прамоклі, прамерзьлі й згаладаліся, але ж усё гэтае ты выправіў. Так што хадзі сюды, сядай! А калі яшчэ й люлькавай зёлкі крыху ё, дык увогуле мы цябе ўславім.

– Ну, каб вам што іншае спатрэбілася б, я быў бы шчасьлівейшы, – уздыхнуў Масьляк. – Якраз яе нам і не стае цяперака, бо ёсьць толькі тое, што вырошчваем самі, а таго ж мала. Анічога цяпер з Шыру ня йдзе. Аднак зраблю, што здолею.

Масьляк вярнуўся з пакуначкамі нярэзанага лісьця для кожнага на дзень альбо два.

– Паўднёвая зорка, найлепшы, які ў нас ёсьць. Аднак яму далёка да паўднёва-падзельскага, шырскага, я заўжды тое казаў, хоць у большасьці я за прыгорскае, нашае ва ўсім, вось, прашу прабачэньня.

Масьляка пасадзілі ў вялікую фатэлю каля агменю, Гэндальф сеў па другі бок, а хобіты паміж імі на нізкіх крэсьліцах, і гэтак гаманілі шмат разоў па паўгадзіны, слухаючы ўсё, што хацеў распавесьці спадар Масьляк, і распавядаючы ўсё, што той жадаў чуць. Большасьць гісторый была дзівам ды неспадзяванкаю для шынкара, ён увесьчасна выгукаў "Ці тое вы кажаце?!", яўна не даючы веры ўласным вушам.

– Анеж, не кажыце, спадару Торбінсе, ці вы пан Падстромнік? Гэнак я заблытаўся, аёй. Ну, ці ж тое вы кажаце, вашмосьць Гэндальфе? Ды я аніколечкі!.. Як жа падумаць пра гэткае ў наш час!

І сам шмат чаго распавёў. Справы пайшлі, так бы мовіць, паганенька ці ўвогуле пад адхон.

– Аніхто цяперака звонку ў Прыгор'е ня едзе, – скардзіўся шынкар. – А што тычыцца сваіх, дык яны па хатах сядзяць, дзьверы пазачыняўшы. Усё ад набрыдзі ды гультаёў, што па Травашляху пруцца апошнім годам, вы мо памятаеце, але ж пазьней болей прыцёглася. Некаторыя былі ўпрост небаракі, што ўцякалі ад бедаў, але ж большасьць – бядовы народ, злодзей да злодзея, ліхадзеі. І ліха ж здарылася ў самім Прыгор'і, сапраўднае. Ці верыце, мы папраўдзе біліся, і некаторых насьмерць пазабівалі з нашых, насьмерць, ну дзе ж гэткае сустрэнеш, ці ж дасьцё веры?

– Я дам веры, – сьцьвердзіў Гэндальф. – Колькі забілі?

– Трох і двух, – адказаў шынкар, маючы на ўвазе вялікі й малы народ. – Небаракаў Мата Верашчаку, Раўля Яблычука ды малога Тома Калючку з-за Гары. Добрыя хлопцы, і не стае іх. А Гары Казьляк, які звычайна Заходнюю браму вартаваў, ды Біл Бур'як на бок прышлых перакінуліся й зьніклі зь імі. Мяркую, яны іх і ўпусьцілі, у ноч бойкі – маю на ўвеце. Ліха пасьля таго здарылася, як мы чужынцам браму паказалі дый выперлі іх. У канцы году тое было, а бойка – на пачатку новага году, якраз пасьля моцнага сьнегападу. Цяпер жа яны бандытамі зрабіліся, па лясох хаваюцца за Прычыцамі ды ў глухмені на поўначы. Ну, нібыта ў ліхія былыя часіны, пра якія ў паданьнях гаворыцца. Зараз на шляхох небясьпечна, і народ далёка ня езьдзіць. Дый дзьверы зачыняе рана. Даводзіцца трымаць варту вакол агароджы ды болей народу ля брамы ўночы.

– Ну, нас ніхто не патурбаваў, хоць мы ехалі павольна й варты не трымалі, – паведаміў Піпін. – Думалі, усё ліха пакінулі за сьпінамі.

– На жаль, не, спадарове, насамрэч шкада, – паспачуваў Масьляк. – А тое ня дзіва, што вас не чапалі. Яны ж на ўзброеных ня кінуцца, то ж бо мечы, шаломы з тарчамі ды ўсялякае рознае. Тое прымусіць іх двойчы падумаць, без сумневу. Прызнаюся, і мяне тое крыху ахаладзіла, калі вас пабачыў.

Тут хобіты раптам уцямілі, што на іх дзівяцца ня так праз нечаканае вяртаньне, як праз зброю. Самі прызвычаіліся да ваярскай справы й да вандроўкі ў добра ўзброенай кампаніі й забыліся, што зіхоткія броні відаць з-пад плашчоў і што шаломы Гондару й Украйны ды тарчы з гербамі пададуцца надта "замежнымі" ў родных мясьцінах. Дый Гэндальф вылучаўся – на высокім шэрым кані, увесь у белым, зь

вялізнаю блакітна-срэбнаю корзнаю на плячох ды з доўгім мечам Гламдрынгам на баку.

– Так, так, – Гэндальф засьмяяўся. – Калі яны напалохаліся нас пяцёх, дык мы сустракалі значна горшых ворагаў у вандроўцы. У любым выпадку яны вас уночы не патурбуюць, пакуль мы тут.

– А вы надоўга? – узрадаваўся Масьляк. – Скажу шчыра: добра, каб вы крыху затрымаліся. Бачыце, мы не прызвычаеныя да гэткіх турботаў, народ кажа: сьледапыты ўсе сышлі. Баюся, мы дагэтуль не разумелі, што яны насамрэч рабілі для нас. То ж бо штось горшае за рабаўнікоў бадзяецца навокал. Апошняй зімою ваўкі вылі паўсюль вакол агароджы. І цёмныя постаці ў лесе, вусьцішныя здані, кроў халаднее ў жылах, калі толькі падумаеш. Надта гэта ўсё трывожнае, калі вы мяне разумееце.

– Насамрэч трывожнае, – пацьвердзіў Гэндальф. – Амаль усе землі апошнім часам былі ў турботах, цяжкіх турботах. Аднак узрадуйся, Ячмане! Ты пабываў на краі вялікіх бедаў, і мне радасна чуць, што ня надта ў іх заглыбіўся. Лепшыя часы ўжо не за гарамі. Магчыма, найлепшыя з тых, што ты ўвогуле памятаеш. Бо сьледапыты вярнуліся. Мы зь імі ехалі. Кароль ізноў зацаруе над гэтымі землямі. І неўзабаве ён паклапоціцца пра тутэйшыя валоданьні. Тады Травашлях адкрыецца зноўку, каралеўскія ганцы засьпяшаюцца на Поўнач, і ліхіх пачвараў выганяць з глухменяў. Насамрэч і глухмень глухменьню доўга не застанецца, людзі зьявяцца й палі лягуць там, дзе цяпер пустэча.

– Якая жменя заможнага й годнага народу на шляхох не пашкодзіць, – Ячман пахітаў галавою. – Але ж набрыдзі й шалбераў до. І чужынцаў у Прыгор'і нам ня трэба, дый побач з Прыгор'ем таксама. Трэба, каб нас пакінулі ў спакоі. Я не хацеў бы натоўп прышлых проста пад вокнамі, каб бадзяліся туды й сюды ды псавалі дзікую зямлю ў навакольлі.

– Вашы краі пакінуць у спакоі, Ячмане, – суцешыў Гэндальф. – Паміж Ізенам і Шэраводзьдзем на каралеўствы месца хопіць, ды на ўзьбярэжжах на поўдзень ад Бранявіну, і ўсё адно ніводнага жытла ня будзе на шмат дзён язды ад Прыгор'я. Шмат народу калісь жыло за сотню вёрстаў адсюль на Поўначы, на дальнім канцы Травашляху: на Паўночным узгор'і ці ля возера Сутонь.

– Ля Мерцьвяковых валоў? – Масьляк зірнуў зь яшчэ большым сумневам. – Кажуць, там ліха, на той зямлі, прывіды ўсялякія. Толькі рабаўнікі туды й ходзяць.

– Сьледапыты ходзяць, – сказаў Гэндафльф. – Мерцьвяковыя валы, ты кажаш. Так звалі гэтае месца цягам доўгіх гадоў, але ж сапраўдны назоў яго Форнаст Эрайн, Паўночны горад каралёў. Кароль калі-небудзь вернецца туды, і шмат шляхетнага народу езьдзіцьме побач з тваім шынком.

– Ну, тое гучыць спадзеўна, насамрэч, – пагадзіўся Масьляк. – І для справаў карысна, няйначай. Вядома, калі той кароль пакіне ў спакоі Прыгор'е.

– Пакіне, – запэўніў Гэндальф. – Бо ён ведае Прыгор'е й любіць.

– Вось як? – зьдзівіўся шынкар. – А я ж пэўны: ну адкуль яму ведаць, седзячы на стальцы ў сваім вялізным замку за сотні вёрстаў адсюль. і віно п'ючы з залатога, няйначай, куфля. Што яму "Конік" альбо куфаль піва? Ня тое каб маё піва было благое, пане Гэндальфе. Яно надзвычай добрае з таго часу, як вы ўвосень зьявіліся й яго добраславілі. Ну, ня ўсё ж бяда сярод бяды, як кажуць.

– Але! – пацьвердзіў Сэм. – А ён заўжды казаў, што пітво ў цябе файнае.

– Ён так казаў?

– Вядома ж, казаў. Бо ён жа Швэндал. Правадыр сьледапытаў. Ты яшчэ таго ня ўцяміў, га?

Нарэшце да шынкара дайшло, і ягоны шырокі твар зрабіўся ну проста ўзорам, каб вывучаць зьдзіўленьне па-прыгорску. Вочы пакруглелі, рот шырока разявіўся. Ячман вохнуў. А калі зноўку здолеў дыхнуць, выгукнуў:

– Швэндал?! Гэна ён з каронаю й залатым куфлем дый усялякім накшталт таго? Ну, і куды ж мы ляцім?

– Да лепшых часоў, для Прыгор'я ва ўсялякім выпадку, – заўважыў Г эндальф.

– Спадзяюся, так і будзе, – падсумаваў Масьляк. – Ну, прыемнейшай гаворкі ня меў за сто гадоў. Ня буду хаваць: спацьму сёньня спакойна, і на сэрцы лягчэй. Безьліч навінаў для развааг, але тое адкладу да раніцы. А зараз спаць, і вы, без сумневу, таксама радыя да ложкаў дабрацца. Гэй, Нобе! – паклікаў, падышоўшы да дзьвярэй. – Нобе, ты, непаварацень!

– Ноб! – гукнуў яшчэ раз, пляснуўшы далоньню па лобе. – А што ж гэта мне нагадвае?

– Спадзяюся, не яшчэ адзін ліст, на які вы забыліся, спадару Масьляку? – пацікавіўся Мэры.

– Не, пане Мэры, не нагадвайце мне пра тое цяпер. Усё ж такі вашаць мне думкі перабіў. Дзе ж гэта я? Ноб, стойла... га, вось яно! Калі памятаеце Біла Бур'яка й зьнікненьне конікаў, ну дык вось, поні, якога вашаць у яго набыў, тутака. Сам па сабе вярнуўся. А дзе ён бадзяўся, дык вам, напэўна, лепей за мяне ведаць. Патлаты й падраны, бы стары сабака, худы, што шкілет, аднак жывы. Ноб яго дагледзеў.

– Што? Мой Біл? – выгукнуў Сэм. – Ну, шанцунком я нарадзіўся, што ні казаў бы мой стары. Яшчэ адно маё жаданьне спраўдзілася! Дзе ж ён?

Сэм ня лёг у ложак, не наведаўшы Біла ў стойле.

Наступным днём вандроўнікі засталіся ў Прыгор'і, і спадару Масьляку не было нагоды скардзіцца на справы – той вечарынаю ва ўсялякім разе. Цікавасьць перамагла ўсе страхі, і ў "Коніку" сабраўся натоўп. Зь ветлівасьці хобіты наведалі агульную залю пад вечар дый адказалі на добры воз пытаньняў. Памяць у прыгор'цаў была ўчэпістая, і ў Фрода шмат разоў спыталі, ці напісаў ён сваю кнігу.

– Яшчэ не, – адказваў той. – Вязу нататкі дахаты, каб там іх упарадкаваць.

Паабяцаў не забыцца на дзівосныя здарэньні ў Прыгор'і, каб крыху дадаць цікавосткі ў кнігу, якая, відаць, прысьвечаная збольшага няйстотным і далёкім падзеям "на забытым Поўдні".

Тады нехта з маладых запатрабаваў песьню. Адразу павісла цішыня, і на маладзёна зірнулі строга, той і ня стаў прасіць яшчэ раз. Відавочна, анічога чароўнага ў залі зноўку прыгорцы не жадалі.

Дзень прамінуў бесклапотна, і ўночы анічога сон не турбавала. Усталі раненька, хоць дажджыла, бо Шыру хацелі сягнуць да цемры. Было ж да яго яшчэ даволі далёка. Прыгорцы ўсе высыпалі вонкі зірнуць на ад'езд – у весялейшым настроі, чымсьці год таму. А тыя, хто ня бачыў прышлых у поўным рыштунку, утаропіліся, вылупіўшы вочы: на белабародага Гэндальфа, на сьвятло, што, падавалася, выпраменьвалася ад яго, на блакітную корзну, што была нібыта хмара над сонцам, ды на чатырох хобітаў, быццам нейкіх вандроўных рыцараў з амаль забытых паданьняў. Нават тыя, хто сьмяяўся зь зьвестак пра караля, задумаліся: мо й ёсьць нейкая праўда ў дзіўных словах.

– Ну, удачы вам на шляху ды шчасьліва вярнуцца дахаты! – сказаў спадар Масьляк. – Мусіў я раней вам казаць, што, з чутак, ня ўсё ў Шыры добра. Нешта

дзіўное адбываецца, кажуць, калі ня хлусяць. Аднак даруйце мне дзёрзкасьць, калі ласка, вы ж зусім іншыя вярнуліся з вашых вандраваньняў, дый выглядаеце, быццам здольныя лёгка разабрацца зь любою напасьцю. Не сумняюся, неўзабаве вы ўсё там выправіце. Удачы вам! І чым часьцей да мяне завітаеце, тым болей мне будзе радасьці!

Пажадалі ўсяго добрага шынкару й выехалі праз Заходнюю браму, кіруючы да Шыру. Поні Біл выправіўся зь імі. Як і раней, небарака нёс даволі паклады, аднак бадзёра трухаў побач з Сэмам і padaваўся цалкам задаволеным.

– Цікава, на што гэта намякаў стары Ячман, – вымавіў Фрода.

– Нешта мне прыгадваецца, – адгукнуўся Сэм змрочна. – Я ж бачыў у люстэрку: дрэвы пасечаныя ды накшталт таго, старога майго гоняць з слабады. Хутчэй бы дахаты.

– Нешта ня так і з Паўднёвым падзелам, відавочна, – заўважыў Мэры. – Бо ж паўсюдна не стае люлькавай зёлкі.

– Што б там ні было, відавочна, стаіць за ўсім Лота, – абвесьціў Піпін. – Без сумневу.

– Стаіць мо й стаіць, дый нехта яшчэ за ім, няйначай, – вымавіў Гэндальф. – Вы забыліся на Сарумана. Ён раней, чым Мордар, зацікавіўся Шырам.

– Ну, цяпер вашаць з намі, дык усё хутка высьветліцца, – сказаў на тое Мэры.

– Я пакуль што з вамі, але ненадоўга. Я ў Шыр не паеду. Вам самім належыць усё ўладкаваць, бо ці ж вы ня маеце ўжо досьведу? Ці не разумееце: мой час скончыўся? Болей не мая справа выпраўляць рэчы або дапамагаць у тым ці іншым. Што ж тычыцца вас, дарагія сябры, вам і не патрэбная дапамога. Вы значна вырасьлі. Вырасьлі да сапраўднай велічы, так, бо вы цяпер сярод найвялікшых, і я болей не баюся ні за кога з вас. А я неўзабаве збочу. Бо маю доўгую размову з Бамбадзілам. Такую, якой аніколі ня меў за ўвесь свой час. Ён – камень нязрушны, а я – перакаці-поле. Але ж дні маіх перакатаў скончыліся, і цяпер нам шмат чаго ёсьць распавесьці адзін аднаму.

Неўзабаве сягнулі таго месца на шляху, дзе разьвіталіся калісьці з Бамбадзілам. Спадзяваліся, і нават амаль упэўненыя былі, што пабачаць яго там. Аднак яго не было, а шэры туман на поўдні над Скляпеньнямі зусім засьціў удалечыні Старую пушчу.

Прыпыніліся, і Фрода з шкадаваньнем зірнуў на поўдзень:

– Хацеў бы я пабачыць старога Тома. Цікава, як ён там?

– Добра, як і заўжды, можаш быць пэўны, – адказаў Гэндальф. – Анічога яго не турбуе і, мяркую, ня надта цікавіць, што мы бачылі альбо зьдзейснілі, апрача хіба нашага візыту да энтаў. Мо пазьней будзе прыдатны час для вас зьезьдзіць пабачыць яго. А зараз на вашым месцы я пасьпяшаўся б дахаты, пакуль не зачынілі браму Бранявінскага мосту.

– Ды няма там аніякай брамы, – запярэчыў Мэры, – на шляху ва ўсялякім выпадку, вашаць жа добра ведаеш. Брама ў Прыбычча ёсьць, гэта так, але ж яны ўпусьцяць мяне ў любы час.

– Не было брамы ў твой час, ты маеш на ўвазе, – паправіў Гэндальф. – Цяпер, мяркую, вы яе ўбачыце. І, верагодна, сустрэнеце болей непрыемнасьцяў, чым чакаеце, нават ля Прыбыцкай брамы. Аднак вы з усім справіцеся. Да пабачэньня, дарагія сябры! Не апошні раз бачымся! Да пабачэньня!

Павярнуў Ценяра, і вялікі конь пераскочыў прорынь, што цягнулася ўздоўж шляху. Гэндальф гукнуў, і конь ірвануў наперад, імкнучыся да курганоў, рыхтык паўночны вецер.

– Ну, вось мы й засталіся, як пачалі, чацьвёра, – падсумаваў Мэры. – Астатніх пакінулі за сьпінамі, аднаго за другім. Нібы ўсё было марай, што павольна распусьцілася.

– Не для мяне, – заўважыў Фрода. – Мне, хутчэй, падаецца, што я зноў засынаю.

*8. Ачышчэньне Шыру*

Сьцямнела, калі стомленыя й мокрыя вандроўнікі дабраліся нарэшце да Бранявіну – і ўбачылі, што далей праезду няма. На кожным канцы мосту тырчэлі вялізныя брамы, абсаджаныя шыпамі, а на дальнім беразе ракі высіліся новыя даміны: двухпавярховыя, з вузкімі прамымі акенцамі, голыя й кепска асьветленыя, надта непрывабныя й цалкам няшырскія з выгляду.

Хобіты закалацілі ў браму й загукалі. Спачатку ніхто не адказваў, тады, на дзіва, нехта задзьмуўу рог, і агні ў вокнах згасьлі. Зь цемры пачулася:

– Хто там? Прэч! Ці ж ня бачыце надпіс: "Няма праходу ад заходу да сьвітанку"?

– Вядома, ня бачым – цемначы! – гукнуў Сэм у адказ. – І калі шырскіх хобітаў хочуць трымаць вонкі пад дажджом у такую ноч, дык я зьдзяру твой надпіс, як толькі пабачу!

Бразнула шыбіна, з хаты леваруч высыпаў натоўп хобітаў зь ліхтарамі. Яны адчынілі браму з другога боку, некаторыя зайшлі на мост. А калі пабачылі вандроўнікаў, то відочна перапалохаліся.

– Ну, ты, ходзь сюды! – паклікаў Мэры, пазнаўшы аднаго. – Калі шчэ не пазнаў мяне, Хоб Сеньнік, дык прыгледзься. Я – Мэры Бронь-Быч, і я хачу ведаць, што адбывацца й што прыбычац накшталт цябе тут робіць. Ты ж звычайна пільнаваў Засечную браму.

– Бацюхны! Тое ж спадарык Мэры, няйначай, і ўвесь у ваярскім рыштунку! – вохнуў стары Хоб. – Аёй, а яны казалі – вашмосьць памёр. Паводле ўсіх расповедаў, у Старой пушчы згінуў. Як жа я рады пабачыць усё ж вашу жыўцом.

– Тады не тарашчы вочы праз краты, а адчыні браму!

– Мне шкада, спадару Мэры, але ў нас загад.

– Чый загад?

– Правадыра з Торбы-пад-Стромай.

– Правадыра? Сапраўды? Ты маеш на ўвазе спадара Лота? – спытаў Фрода.

– Мяркую, што так, спадару Торбінсе, але нам даводзіцца цяпер казаць упрост "правадыр".

– Але, але! – згадзіўся Фрода. – Ну, я рады, што прынамсі Торбінсам ён болей не называецца. Аднак відавочна надышоў адпаведны час, каб радзіна зь ім разабралася ды паказала яму ягонае месца.

Хобіты за брамаю прымоўклі.

– Бяда будзе, калі гэтак размаўляць, – вымавіў нехта з натоўпу. – Бо яму ж данясуць. А калі гэтак шумець, дык пабудзіш і правадыровага вялікага ачольцу.

– Мы так яго абудзім, што ён ад неспадзяванкі не ачомаецца, – паабяцаў Мэры. – Калі ты маеш на ўвазе, што ваш правадыр наймае галаварэзаў з глухмені, дык мы сюды ў час пасьпелі.

Саскочыў з поні і, убачыўшы ў сьвятле ліхтара шыльду з надпісам, сарваў яе ды кінуў за браму. Хобіты адсунуліся, і ніхто не варухнуўся, каб адчыніць.

– Давай, Піпіне, – прапанаваў Мэры. – Двох тут дастаткова.

Піпін з Мэры ўскараскаліся на браму. Хобіты паўцякалі. Рог задзьмуў яшчэ раз. З большага будынку праваруч зьявілася вялізная цяжкая постаць, бачная ў сьвятле зь дзьвярніцы.

– Што тут такое? – гыркнуў ачольца, крочыўшы наперад. – Браму зламалі? Прэч, а тое я паскручваю вашыя брудныя танюткія шыйкі!

І раптам спыніўся, бо заўважыў бляск мечаў.

– Біл Бур'як, – пазнаў Мэры. – Калі ты не адчыніш браму праз дзесяць сэкундаў, моцна пашкадуеш. Калі не падпарадкуесься, пакаштуеш сталі. А калі адчыніш браму, то й пройдзеш праз яе, і аніколі болей ня вернесься! Бо ты – гультай і бандзюга з шляху.

Біл Бур'як уздрыгнуў, сунуўся да брамы й адчыніў яе.

– Дай сюды ключ! – загадаў Мэры.

Але бандыт кінуў ключ, цэлячы ў галаву хобіта, а тады рынуўся ў цемру. Калі прабягаў міма поні, адзін зь іх брыкнуў ды трапіў у Бур'яка. Той зь енкам пакаціўся ў цемру. Аніколі болей яго ня бачылі ды ня чулі.

– Файна, Біле, – ухваліў Сэм поні.

– Вось і ўсё з вашым вялікім ачольцам, – абвесьціў Мэры. – Правадыра стрэнем крыху пазьней. Пакуль што нам патрэбнае месца на ноч. Раз вы пабурылі тутэйшы шынок, каб пабудаваць гэтую мярзоту, дык разьмяшчайце нас у ёй.

– Мне шкада, спадару Мэры, – папярэдзіў Хоб, – але тое не дазволена.

– Што не дазволена?

– Браць на ноч прышлы народ вось так, ды лішнюю ежу есьці, ды ўсялякае такое, – патлумачыў Хоб.

– А што такое здарылася? – спытаў Мэры. – Год неўраджайны ці што? Мне падалося, файнае лета ды ўраджай таксама.

– Ну так, год неблагі, але. Шмат чаго вырасьцілі, але ж папраўдзе й ня ведаем, што здарылася з ураджаем. Гэта ўсё "зборшчыкі" ды "падзяляльнікі". Шнырaць навокал, усё падлічваюць, вымяраюць ды забіраюць на захаваньне. Болей забіраюць, чымсьці дзеляць, шчыра кажучы, і мы большасьць ня бачым.

– Ну, досыць, – Піпін пазяхнуў. – Тое надта стамляльна для мяне сёньня. Ежа ў нас і з сабою ёсьць. Дайце нам пакой, каб пакласьціся. Гэтак ці інакш, ён усё роўна будзе лепшым за многія месцы, якія мне давялося пабачыць.

Хобіты ля брамы, відавочна, пачуваліся няёмка. Напэўна, было парушанае яшчэ нейкае правіла, але хіба запярэчыш такім уладарным гасьцям, тым больш што двое зь іх выглядаюць надзвычай высакарослымі й дужымі. Фрода загадаў, каб браму зачынілі зноў. Трымаць варту ва ўсялякім выпадку было слушна, пакуль бандыты яшчэ шнырaлі навокал. Тады чатыры сябры рушылі ў хобіцкую вартоўню й уладкаваліся, як здолелі. Гнюснае месца, голае, з маленечкім агменьчыкам, дзе й добрага цяпельца няможна было раскласьці. У верхніх пакоях стаялі шэрагамі маленькія ложкі, на кожнай сьцяне віселі аб'явы й сьпісы Правілаў. Піпін усе папазьдзіраў. Піва не было, ежы – дык зусім нічагуткі, але ж вандроўнікі падзялілі на ўсіх тое, што прывезьлі з сабою, і вячэра выйшла неблагая. Да ўсяго Піпін парушыў Правіла 4, кінуўшы большасьць дроваў, дазволеных на наступны дзень, у агмень.

– У-тка, а як зараз падыміць, пакуль распавядацьмеце нам, што ў Шыры дзеецца? – спытаў нарэшце.

– Цяперака ну зусім няма ні зёлачкі, – уздыхнуў Хоб. – Прынамсі, калі ты не з правадыровых паплечнікаў. Некуды ўсе запасы падзеліся. Чулі мы, што цэлыя вазы зёлак вывозіліся прэч па старым шляху з Паўднёвага падзелу на Сарнаўскі брод. Тое напрыканцы мінулага году, калі ваша зьехаў. Але й раней паціху туды везьлі. Гэты Лота...

– Змоўкні, Хобе Сеньніку! – загукалі некалькі хобітаў. – Ведаеш жа, што гэткія размовы не дазволеныя. Вызнае пра тое правадыр, і ў нас усіх будуць непрыемнасьці.

– Ён ня вызнае, калі хто з вас здрадным плявузгалам ня станецца, – горача адгукнуўся Хоб.

– Добра, добра! – супакоіў Сэм. – Досыць. Не хачу я болей такога чуць. Ані вітаньня табе, ані піва, ані папаліць, толькі паперкі з правіламі й орцкія гамонкі. Спадзяваўся адпачыць нарэшце, але бачу: працы тут яшчэ й турботаў... Зараз лепей па ложках, забудзьмася пра ўсё да раніцы!

Правадыр, відавочна, меў шляхі атрыманьня навінаў. Ад мосту да Торбы-пад-Стромай добрых сорак вёрстаў, але нехта пасьпяшаўся, як неўзабаве зразумеў Фрода зь сябрамі.

Дагэтуль яны нічога не плянавалі, хіба толькі завітаць перш у Цвыркуновую лагчыну, каб крыху адпачыць. Але ж цяпер, убачыўшы стан рэчаў, вырашылі ехаць проста да Хобіцку. І наступнай раніцаю пасьпяшаліся. Вецер сьціх, але нябёсы заставаліся шэрымі. Землі навокал выглядалі сумна й занядбана. Так, было ўжо першага лістапада, апошні лапік восені. Аднак вакол зашмат палілі нечага, і паўсюль падымаліся слупы дыму. Вялізнае воблака віхрылася ўдалечыні, недзе ў баку Ляснакуцьця.

На сутоньні пад'ехалі да Жабішчаў, вёскі на шляху за дваццаць дзьве вярсты ад мосту. Там меркавалі застацца на ноч, бо жабішчанскае "Плывучае бервяно" лічылася добрым шынком. Але ж калі сягнулі ўсходняга краю вёскі, напаткалі ўпоперак праезду агароджу зь вялікай шыльдаю. Там значылася: "ШЛЯХУ НЯМА". За ёю стаяў сапраўдны натоўп шырыфаў з кіямі ў руках ды пёрамі на капелюшах, выглядалі хобіты адначасова надзьмутымі ад уласнай важнасьці й крыху спалоханымі.

– І што гэта значыць? – Фрода адчуў жаданьне разрагатацца.

– Што бачыце, спадару Торбінсе, – адказаў ачольца шырыфаў (з двума пёрамі ў капелюху). – Ваша арыштаваны за ўзлом брамы, абдзіраньне правілаў, напад на вартавых, недазволены праход, спаньнё без дазволу ў шырскіх будынках ды за хабар вартавым ежаю.

– Што яшчэ? – спытаў Фрода.

– Гэтага досыць, – разгубіўся ачольца.

– Я дадам, з твайго дазволу, – заўважыў Сэм, – абзываньне твайго правадыра living рознымі кплівымі мянушкамі, жаданьне пляснуць па ягонай брыдкай пысе ды меркаваньне, што ўсе вы, шырыфы, выглядаеце на стадла заўзятых дурняў.

– Хопіць, спадарове, вось што я кажу. Гэта правадыроў загад, каб вашы спакойна з намі выправіліся. Даставім вас у Прырэчча й перадамо правадыровым людзям. Калі ён вашую справу разгледзіць, тады будзеце тлумачыць. Але ж калі ня хочаце затрымацца ў Замкнёных норах даўжэй, дык лепей языком не мянташце.

На вялікае раздражненьне шырыфаў, Фрода зь сябрамі голасна зарагаталі.

– Досыць дурыць! – вымавіў нарэшце Фрода. – Я еду куды пажадаю й калі пажадаю. І вось зараз я кіруюся ў Торбу-пад-Стромай па справах, і калі ты раптам захочаш рушыць тудысама – ну, гэта твая справа.

– Файна, спадару Торбінсе, – ачольца адсунуў агароджу. – Але ж не забывайцеся: я вашмосьця арыштаваў.

– Не забудуся, – згадзіўся Фрода. – хоць, можа, калі-небудзь і дарую. А сёньня я болей нікуды ня еду, буду надзвычай удзячны, калі ты правядзеш мяне да "Плывучага бервяна".

– Я не магу, спадару Торбінсе. Шынок зачынены. На дальнім канцы вёскі ёсьць шырыфская сядзіба. Я туды вашмосьць правяду.

– Ладачкі, – абвесьціў Фрода. – Ідзі, а мы сьледам.

Сэм аглядаў шырыфаў і нарэшце прыкмеціў знаёмага.

– Гэй, Робін Маланор, ходзь сюды! – паклікаў ён. – Хачу парай словаў з табою перакінуцца.

Баязьліва азірнуўшыся на ачольцу, які выглядаў раззлаваным, але ўблытвацца не адважваўся, шырыф Маланор адстаў і пайшоў побач з Сэмам, што зьлез з свайго поні.

– Ну, Робіне-Бобіне, ты ж з Хобіцку, ці не? – спытаў Сэм. – У цябе ж болей глуздоў, мусібыць, каб на пана Фрода нападаць дый сумленных хобітаў затрымліваць. І што гэта з шынкамі, чаго ўсе пазачыняныя?

– Зачынілі іх, бо правадыр піва ня любіць і ня церпіць, – патлумачыў Робін. – З таго й пачалося. Адылі цяпер, мяркую, людзі ягоныя – вось хто піва любіць і мае. А таксама правадыр ня церпіць, каб народ з уласнай волі цёгаўся, дык калі хто хоча куды йсьці, мусіць да шырыфскай сядзібы завітаць перш ды растлумачыць куды й навошта.

– Сорамна табе мець дачыненьне да такой бязглузьдзіцы, – дакарыў Сэм. – Табе ж у шынку ўтульней, чымся ва ўласнай скуры. Заўжды там тырчэў, па службе ці не.

– Так я й жыў бы, Сэме, каб мог. Але ж ня трэ так сувора. Што я зрабіцьму? Ты ж ведаеш: я ў шырыфы падаўся сем гадоў таму, задоўга да ўсяго гэтага. Бо любіў пашлындацца туды-сюды, народ паглядзець ды вызнаць, дзе піва найлепшае. Цяпер жа ўсё па-іншаму.

– Дык кінь, не шырыфствуй болей, раз гэты занятак зрабіўся зьнявагаю.

– Нам кідаць не дазволена.

– Калі шчэ пачую "не дазволена", раззлуюся, – папярэдзіў Сэм.

– Не сказаў бы, што не хачу тое пабачыць, – сьцішыў голас Робін. – Калі б усе разам раззлаваліся, мо нешта й атрымалася б. Праблема ў даўгалыгіх, Сэме, правадыровых людзях. Ён паўсюль іх рассылае, і калі хто з нас, малога народу, выступіць супраць, дык адразу ж валакуць у Замкнёныя норы. Першым узялі старога Пончыка, галаву Віля Беланога, а тады шмат каго. Апошнім часам усё горшае. Цяпер і зьбіваюць на горкі яблык.

– Тады чаму вы робіце іхнюю працу? – злосна спытаў Сэм. – Хто вас да Жабішчаў даслаў?

– Ды ніхто. Мы тутака й стаім, у вялікай шырыфскай сядзібе. Мы – першы ўсходнепадзелаўскі разьдзел цяпер. Кажуць, цяперака сотні шырыфаў, а з усімі гэнымі новымі правіламі яны й болей хочуць набраць. Большасьць не з сваёй волі йдзе, але ж ня ўсе. І ў Шыры ёсьць тыя, што ў чужыя справы нос соваюць дый выхваляюцца. І горш за тое: жменя тых, хто віжуе й даносіць правадыру й ягоным людзям.

– А, дык вось як вы пра нас вызналі!

– Менавіта так. Нам жа ранейшай Хуткай поштай карыстацца не дазваляюць, а самі яе ўжылі, ды ў розных месцах трымаюць асаблівых весьнікаў. Адзін прыбег учора зь Беланораў з "сакрэтным данясеньнем", а другі адсюль яго панёс далей. А да надвячорку сёньня прыйшоў адказ – загад арыштаваць вас ды прывезьці ў Прырэчча, а ня проста да Замкнёных нораў. Відавочна, правадыр хоча хутчэй вас пабачыць.

– Наўрад тое яго пацешыць, калі спадару Фрода зь ім разьбярэцца, – мовіў Сэм.

Шырыфская сядзіба ў Жабішчах апынулася ня лепшай за сядзібу ля мосту. Блага складзеная зь мярзотнай бляклай цэглы, яна мела толькі адзін паверх і вузкія вакенцы, унутры была сырая й тужлівая. Вячэру падалі на доўгім голым стале, які ня шкрэблі, напэўна, некалькі тыдняў. Але ежа лепшага й не заслугоўвала. Вандроўнікі радаваліся, пакідаючы на ранак гэтае месца. Да Прырэчча заставалася васямнаццаць вёрстаў, рушылі а дзясятай. Выехалі б і раней, але затрымаліся толькі таму, што

адцягваньне ад'езду відавочна злавала ачольцу шырыфаў. Заходні вецер зьмяніўся на паўночны й схаладнеў, але болей не дадджыла.

Вёску пакідала даволі сьмешная працэсія, а той нешматлікі народ, што выйшаў зірнуць, "як вандроўнікі нарыштуніліся", вагаўся: ці не забаронена сьмяяцца з гэтай нагоды? Тузін шырыфаў "канваяваў вязьняў", але Мэры прымусіў іх ісьці наперадзе, а Фрода зь сябрамі ехалі сьледам. Мэры зь Піпінам і Сэм сьмяяліся й гаманілі, а шырыфы кульгалі наперадзе, намагаючыся выглядаць суворымі й значнымі. Фрода ж маўчаў, падаючыся сумным і задумлівым.

Апошнім у вёсцы мінулі каржакаватага старога, які падразаў кусты.

– Вітаньне, вітаньне! – гукнуў ён весела. – Дык хто каго заарыштаваў, га?

Два шырыфы адразу ж пакінулі шэраг і накіраваліся на яго.

– Гэй, ачольца! – тут жа гукнуў Мэры. – Загадай-тка сваім вярнуцца на месца, а тое я іх сам вярну!

Ад раздражнёнага выкліку ачольцы два раззлаваныя шырыфы вярнуліся.

– А зараз хадзем! – загадаў Мэры, і вандроўнікі паклапаціліся, каб поні крочылі якраз такім крокам, на які яшчэ ставала ног у хобітаў.

Сонца выйшла з-за хмараў, і, нягледзячы на пранізьлівы вецер, шырыфы неўзабаве запыхцелі й узапрэлі.

Ля Трохграшовых Камяніскаў яны здаліся цалкам. Бо прабеглі чатырнаццаць вёрстаў з адным толькі адпачынкам ля полудня. А ўжо было тры гадзіны пасьля. Шырыфы згаладнелі, пазьбівалі ногі й болей гэткім крокам рушыць не маглі.

– Ну, цяперачка клыпайце як здолееце! – абвесьціў ім Мэры. – Мы далей паехалі.

– Бывай, Робін-Бобін! – разьвітаўся Сэм. – Я цябе чакаю на ганку "Зялёнага цмока", калі ты шчэ не забыўся, дзе ён. Толькі не забрыдзі куды-колечы, дабіраючыся!

– Вы ж арышт парушылі, вось што, – сумна вымавіў ачольца, – і за наступствы я не адказваю.

– Мы яшчэ шмат чаго парушым, і ў цябе адказу за наступствы не спытаем, – паабяцаў Піпін. – Ну, бывай, спадару!

Вандроўнікі рушылі далей і, калі сонца схілілася да Белага ўзгор'я далёка на захадзе, сягнулі Прырэчча й шырокага прырэцкага загону. Вось там іх нарэшце ўразіла ў самае сэрца. Бо тое быў родны для Фрода й Сэма край, і зараз гаспадар з служкам зразумелі, што гэты куток даражэйшы ім за любую іншую мясьціну ў сусьвеце. Шмат хацінаў не ставала. Некаторыя падаваліся спаленымі. Прыгожы ланцужок нораў з паўночнага боку возера цяпер быў пакінуты, а садочкі, што зыркім суквецьцем спускаліся да самай вады, зарасьлі пустазельлем. Горш за тое, вырас шыхт новых агідных будовінаў уздоўж усяго Азёрнага боку, дзе хобіцкі шлях падыходзіў блізка да берагу. Раней там цягнуліся прысады. Цяпер усе дрэвы зьніклі. А зірнуўшы на шлях да Торбы-пад-Стромай, сябры пабачылі здалёк высокую цагляную трубу, што вывяргала чорны дым у вечаровае паветра.

– Я іду, іду зараз жа! – выгукнуў у адчаі ўзрушаны Сэм. – Я мушу бачыць, што ж яны нарабілі! Мушу знайсьці майго Дзеда!

– Спачатку трэба высьветліць, з чым маем справу, Сэме, – параіў Мэры. – Мяркую, у "правадыра" пад рукою добрая зграя галаварэзаў. Лепей знайсьці таго, хто скажа, як справы.

Але ў Прырэччы ўсе хаціны й норы былі зачыненыя й ніхто вандроўнікаў не павітаў. Тыя зьдзівіліся, але неўзабаве зразумелі прычыну. Калі сягнулі "Зялёнага цмока", апошняга дома на хобіцкім баку, цяпер безжыцьцёвага ды з паламанымі вокнамі, пабачылі з трывогаю тузін вялізных злавесных людзей, касавокіх і смуглявых, якія стаялі, прыхіліўшыся да сьцяны шынка.

– Рыхтык той сябар Біла Бур'яка ў Прыгор'і, – заўважыў Сэм.

– Рыхтык тыя, якіх я бачыў у Ізенградку, – прамармытаў Мэры.

Бандыты трымалі ў руках дубцы, за пасамі тырчэлі рогі, але іншай зброі не было відаць. Калі падарожнікі пад'ехалі, людзі адышлі ад сьцяны й крочылі на шлях, перагароджваючы яго.

– І куды ж вы сабраліся, га? – вымавіў найвялікшы й найбольш злосны. – Няма вам далей дарожкі. І дзе ж даражэнькія шырыфы?

– Ідуць сабе паціху, – паведаміў Мэры. – Крыху ножкі пазьбівалі, магчыма. Мы абяцалі іх тут пачакаць.

– Га, а што я казаў? – павярнуўся важак да паплечнікаў. – Даводзіў жа Старычу: няма сэнсу давяраць малым дурням. Трэ было нашых хлапцоў выслаць.

– І скажэце, калі ласка, якая розьніца? – спытаў Мэры. – Мы тут ня звыклыя ўтаймоўваць разбойнікаў ды шалбераў але ж ведаем, як мець зь імі справу.

– Шалбераў, га? Вось як ты балакаеш, ну? А мо што паветлівей скажаш – альбо мы цябе хуценька навучым. Вы, малыя, нешта задужа да галавы ўзялі. Не давярайце зашмат праўдыроваму добраму сэрцу. Бо Старыч прыйшоў, і правадыр ваш робіць, што загадвае Старыч.

– І што ён загадвае? – спакойна спытаў Фрода.

– Што трэ ператрэсьці тутэйшую старонку, абудзіць ды выправіць. Старыч тое ўмее. І жорстка, калі яго змусяць. Вам патрэбны лепшы правадыр. І яшчэ да сканчэньня году вы яго атрымаеце, калі ўзьнікнуць новыя клопаты. Тады ўжо вывучыце што-кольвек, пацучынае племя.

– Насамрэч я рады даведацца пра вашыя пляны, – паведаміў Фрода. – Бо зьбіраюся наведаць спадара Лота, і ён таксама, напэўна, пацікавіцца гэткімі вашымі намерамі.

– Лота? – бандыт зарагатаў. – Ды ён усё ведае! Не турбуйся, ён цяпер паслухмяненькі ў Старыча. Бо калі з правадыром клопаты, мы яго хуценька зьменім. Бачыш? А калі малы народзец паспрабуе сунуцца куды ня трэба, дык мы тое адразу выправім, разумееш?

– Так, разумею, – пагадзіўся Фрода. – І разумею таксама, што вы, відавочна, ня сочыце за навінамі. Шмат чаго зьмянілася з часу, калі вы пакінулі Поўдзень. Скончыўся ваш час, і час іншых бандытаў таксама. Цёмная вежа абрынулася, і цяпер у Гондары ёсьць кароль. Ізенградак зруйнаваны, і ваш каштоўны ўладар – жабрак у глухмені. Я стрэў яго на шляху. Цяпер па Травашляху паедуць весьнікі караля, а не грамілы зь Ізенградку.

– Жабрак у глухмені? – важак кпліва зірнуў на Фрода й пасьміхнуўся. – Га, насамрэч! Ну, пабрашы, пабрашы, надзьмуты недамерак. Нават калі тое й праўда, яно нас ня спыніць. Нам даспадобы гэтая тлусьценькая маленькая краінка, дзе вы зашмат ужо лайдачыце. Дарэчы, – ён шчоўкнуў пальцамі перад Фрода, – каралёвы ганцы! Ну й брахня! Калі якога пабачым, мо я й занепакоюся, га.

На гэтым Піпінава цярплівасьць вычарпалася. Ён узгадаў Кармаленскае поле. І вось тут, перад ім, касавокі латруга назваў Носьбіта Пярсьцёнка "надзьмуты

недамерак"! Піпін скінуў плашч, выхапіў корд з похваў. Срэбра й аксаміт Гондару блініснулі пад сонцам, калі ён рушыў наперад.

– Я ганец караля! – абвесьціў ён. – Ты прамаўляў з каралеўскім сябрам і адным з найзнакаміцейшых у землях Захаду. Ты

злодзей і дурань. На калені, гультай, проста тут, і прасі прабачэньня, а тое мая сталь пакаштуе пасьля тролевай крыві тваёй!

Меч блісьнуў пад вечаровым сонцам. Мэры з Сэмам таксама выхапілі мечы й пад'ехалі на падтрымку Мэры, толькі Фрода не варухнуўся. Бандыты адсунуліся. Палохаць прыгорскіх сялянаў ды зьневажаць разгубленых хобітаў – вось тое было ім даспадобы. А мець справу з хобітамі адважнымі й суворымі, якія трымаюць у руках зыркія мечы, сталася вялікаю неспадзяванкай. І гучала ў галасах прышлых хобітаў тое, чаго раней гультаі ня чулі й ад чаго зьледзянелі ад страху.

– Прэч! – загадаў Мэры. – Калі патурбуеце гэтую вёску зноўку, пашкадуеце!

Тры хобіты рушылі поні зь месца, а зладзеі кінуліся наўцёкі ўверх па Хобіцкім шляху. Аднак на бягу задзьмулі ў рогі.

– Ну, мы ў час вярнуліся дахаты, – заўважыў Мэры.

– Можа, ужо й запозна. Прынамсі, каб выратаваць Лота, – сказаў на тое Фрода. – Нікчэмны дурань, але ж мне шкада яго.

– Выратаваць Лота? Што ты маеш на ўвазе? – зьдзівіўся Піпін. – Яго зьвяргаць трэба, а не ратаваць.

– Мяркую, ты не зусім разумееш, што адбываецца, Піпіне, – патлумачыў Фрода. – Лота аніколі не жадаў, каб усё гэтак павярнула. Ён заўжды быў дурань, і нядобры дурань, а цяпер патрапіў у пастку. Бо галаварэзы ўладараць, адбіраюць, рабуюць, палохаюць і руйнуюць з уласнага жаданьня ад ягонага імя. І ўжо нядоўга ад ягонага. Ён, па-мойму, зараз вязень у Торбе-пад-Стромай, і надта напалоханы. Мы мусім выцягнуць яго адтуль.

– Каб мне ашалець! – толькі й вымавіў Піпін. – З усіх сканчэньняў нашай вандроўкі гэткае ўявіў бы ў апошнюю чаргу: біцца з бандытамі й паўоркамі ў самім Шыры, каб выратаваць Лота Вугра!

– Біцца? Верагодна, дойдзе й да бойкі. Але ж запомніце: нельга забіваць хобітаў, нават калі яны перакінуліся на другі бок. Насамрэч перакінуліся, я маю на ўвазе, а не папросту запалоханыя выконваюць загады бандытаў. Аніколі ў Шыры ніводны хобіт наўмысна не забіваў другога, і не цяпер тое пачынаць. І ўвогуле, анікога лепей не забіваць, калі толькі можна. Утаймоўвайце злосьць, трымайцеся да апошняга.

– Але ж калі латругаў шмат, – заўважыў Мэры, – біцца давядзецца абавязкова. Ты ня выратуеш ні Лота, ні Шыр адно шкадаваньнем ды подзівам, даражэнькі Фрода.

– Не, – дадаў Піпін, – другі раз іх гэтак лёгка не напалохаеш. Мы іх неспадзевам узялі. Чуў, як трубілі ў рогі? Відочна, астатнія недзе паблізу. Яны пасьмялеюць, калі іх зьбярэцца болей. Трэ нам недзе прыхавацца на ноч. Усё-ткі нас толькі чацьвёра, хоць мы й узброеныя.

– Я прыдумаў, – абвесьціў Сэм. – Хадземце да старога Тома Котана ўніз на Паўднёвую вулку. Ён заўсёды быў годным хобітам! І ў яго плойма хлапцоў, маіх даўніх сябрукоў.

– Не! – запярэчыў Мэры. – Няма сэнсу "прыхоўвацца". Менавіта гэта й робяць нашы, і якраз тое нягоднікам даспадобы. Яны зьбяруцца вялікай гурмою дый выганяць нас ці спаляць у нашым спраце. Не, нам неадкладна трэба рабіць іншае.

– Што ж? – спытаў Піпін.

– Падымаць Шыр! – выклікнуў Мэры. – Зараз жа! Абудзіць усіх! Бо яны ж усе ненавідзяць цяперашняе становішча. Усе, апрача пары нягоднікаў ды жмені дурняў, якія жадаюць пафанабэрыцца й пастаршыняваць, а насамрэч не разумеюць, што адбываецца. А народ шырскі столькі часу жыў ва ўтульнасьці й бясьпецы! Ня ведаюць хобіты толкам, што рабіць. Адылі толькі пакажы ім, яскраўку кінь – усё й усе запалаюць. Правадыровы людзі канечне пра тое здагадваюцца. Яны паспрабуюць хутчэй нас злавіць ды расьціснуць. У нас зусім мала часу. Сэм, калі хочаш, скачы да Котанавай сядзібы. Ён – галава ва ўсім навакольлі, дый сам сьвядомы. Давай! А я задзьму ў роханскі рог, хай усе пачуюць музыку, якой аніколі раней ня чулі.

Вандроўнікі вярнуліся да сярэдзіны вёскі. Там Сэм збочыў і паскакаў намётам на поўдзень па прысадах, што вялі да Котанавай сядзібы. Раптам ясны погук рогу зазьвінеў у паветры. Раскаціўся далёка над палямі й пагоркамі. І гэтак зазыўна клікаў ён, што Сэм ледзь не спыніўся й не павярнуў назад. Поні заржаў ды ўскінуўся на дыбкі.

– Не, хлопча, не! – гукнуў Сэм. – Мы неўзабаве назад!

А тады пачуў, што Мэры зьмяніў мэлёдыю, і над зямлёю панёсься Заклік Прыбычча, і ажно здрыганулася паветра:

ПРАЧНІЦЕСЯ! ПАЎСТАНЬЦЕ!
ВОРАГ! ВОРАГ!
АГОНЬ! АГОНЬ! ВОРАГ!
ПРАЧНІЦЕСЯ! ПАЎСТАНЬЦЕ!

Сэм пачуў за сьпінаю шматгалосы гоман, бразгатаньне дзьвярэй. Наперадзе ў змроку ўспыхвалі вагні, брахалі сабакі, нехта кудысьці бег. Сэм яшчэ не сягнуў канца прысадаў, як пабачыў гаспадара Котана з трыма хлопцамі, Томам-малодшым, Джолем ды Нікам, яны зь сякерамі ў руках несьліся насустрач. Заўважыўшы Сэма, перагарадзілі яму праезд.

– Не, гэта не адзін з тых бандытаў, – пачуў Сэм гаспадароў голас. – З памеру хобіт, толькі апрануты дзівосна. Гэй! Ты хто й што там за гармідар?

– Ды гэта я, Сэм Гэйхад. Я вярнуўся!

Гаспадар Котан крочыў бліжэй, прыгледзеўся ў паўзмроку.

– Але! – выгукнуў нарэшце. – Голас той самы, і твар ня горшы за ранейшы, Сэме. Але на вуліцы я цябе ў гэткім рыштунку не пазнаў бы. Пабываў у замежжы, бачу. А мы баяліся, ты згінуў.

– Дык жа не! І спадар Фрода таксама. Ён тутака, і зь сябрамі. Вось з чаго гармідар. Яны Шыр падымаюць. Мы зьбіраемся выкінуць прэчкі гэных шалбераў ды іхняга правадыра таксама. І пачынаем упрост цяпер!

– Файна, файна! – загукаў Котан. – Надышло нарэшце! Я свару ўчыніць ужо год намагаюся, аджа народ не разварушыць. А мне яшчэ пра жонку ды Ружанку думаць... Бо бандыты ж тыя ні перад чым ня спыняцца. А цяперака – гайда, хлопцы! Прырэчча ўздымаецца! І мы не адстанем!

– А як там спадарыня Котанава ды Ружа? – пацікавіўся Сэм. – Ім жа небясьпечна адным заставацца.

– Мой Нібс зь імі. Але ты можаш пад'ехаць і яму дапамагчы, калі хочаш, – Котан усьміхнуўся.

І пабег з сынамі далей, да вёскі. А Сэм пасьпяшаўся да сядзібы й пабачыў, што ля вялікіх круглых дзьвярэй, на прыступках, што вядуць з двара да нары, стаяць спадарыня Котанава з дачкой Ружай, а перад імі – Нібс, сьціснуўшы сянныя вілы.

– Гэна я, Сэм Гэйхад! – выгукнуў Сэм, пад'язджаючы. – Не спрабуй працяць мяне віламі, Нібсе. Дый сэнсу няма, на мне кальчуга.

Саскочыў з поні й падняўся па лесьвіцы. На яго пазірал і моўчкі.

– Добры вечар, спадарыня Котанава! – вымавіў Сэм. – Вітаю, Ружа!

– Вітаю, Сэме! – адгукнулася Ружа. – Ты дзе быў? Казалі, памёр, а я цябе зь вясны чакала. Не сьпяшаўся, але?

– Мо й не, – суздрам зьбянтэжыўся Сэм. – Але цяпер сьпяшаюся. Мы з бандытамі разьбіраемся, і я мушу вярнуцца да спадара Фрода. Аднак мне падумалася: трэ заехаць ды зірнуць, як там спадарыня Котанава маецца, дый ты, Ружа.

– Маемся няблага, дзякуй, – паведаміла спадарыня Котанава. – Ці маяліся б няблага, каб ня гэныя прайдзісьветы.

– Ну, дык едзь жа! – параіла Розі. – Калі ты даглядаў спадара Фрода ўвесь час, чаго цяперака пакінуў, калі небясьпека на носе?

Тое для Сэма было занадта. Ці тыдзень тут тлумачыць, ці не тлумачыць увогуле. Ён пайшоў прэч, усьсеўся на поні. А калі ўжо крануўся зь месца, Ружа зьбегла па лесьвіцы.

– Падаецца, Сэме, ты добра выглядаеш! – кінула. – Ідзі зараз! Але ж беражы сябе й адразу вяртайся, калі з бандытамі разьбярэсься!

Калі Сэм вярнуўся да Фрода, там была ўжо ўся вёска. Калі не лічыць юнакоў, сабралася болей за сотню дужых хобітаў з косамі й сякерамі, цяжкімі молатамі, доўгімі нажамі й кіямі, а некалькі – з паляўнічымі лукамі. Народ жа з навакольных сядзібаў яшчэ толькі падыходзіў.

Распалілі вялікае вогнішча, каб крыху ажывіць абстаноўку, а таксама таму, што правілы гэта забаранялі. Полымя зырка палала ў ночы. На загад Мэры бальшак у кожным канцы вёскі перакрылі. Калі на перашкоду натрапілі шырыфы, то ажно аслупянелі ад подзіву, але высьветліўшы што да чаго, большасьць паздымала пёры з капелюшоў і далучылася да паўстаньня. Астатнія ўцяклі.

Сэм знайшоў Фрода й сяброў ля вогнішча, яны гутарылі з старым Томам Котанам, гурт навокал слухаў, вырачыўшы ў захапленьні вочы.

– Ну, і што далей? – спытаў спадар Котан.

– Не магу сказаць, пакуль болей не даведаюся, – адказаў Фрода. – Колькі бандытаў увогуле паблізу?

– Цяжка сказаць. Яны ж туды й сюды цёгаюцца, не сядзяць на месцы. З паўсотні ў халупах ля хобіцкага шляху, але яны адтуль вылазяць зладзейнічаць, альбо "зьбіраць", як яны тое называюць. Усё ж рэдка іх меней за тузін ля правадыра, як яны яго клічуць. А ён у Торбе ці быў там, бо цяпер вонкі не паказваецца. Аніхто яго, папраўдзе, і ня бачыў тыдзень ці два, а даўгалыгія нікога блізка не падпускаюць.

– Яны ж ня толькі ў Хобіцку, так? – спытаў Піпін.

– Не, на жаль. Даволі шчэ далей на поўдні, у Доўгім панізьзі, ды на Сарнаўскім бродзе, як я чуў. Ды колькі бадзяецца ў Ляснакуцьці й на Скрыжаванцы. А да таго ў Замкнёных норах, як яны завуць іх: старыя тунэлі ў Міхальскім Выкапе. Вязьніцу зрабілі для тых, хто супраць іх. Усё ж, мяркую, іх ня болей за тры сотні па ўсім Шыры, уздоўж ці ўпоперак, а магчыма й меней. Справімся, калі ўтрымаемся разам.

– Ці ё ў іх зброя? – спытаў Мэры.

– Пугі, нажы, дубцы. Досыць для іх бруднай працы. Гэна ўсё, што яны дагэтуль дэманстравалі, – адказаў Котан. – Але ж скажу: ёсьць у іх і іншае, калі да бойкі дойдзе. Гэтак ці йнакш, сёй-той мае лукі. Пару нашых падстрэлілі.

– Вось яно, Фрода! – вымавіў Мэры. – Я ж ведаў, што нам давядзецца біцца. Яны пачалі забойствы.

– Не зусім яны, калі шчыра, – паправіў Котан. – Прынамсі, страляць не яны пачалі, а Хваты. Бачце, бацька вашці, спадару Перыгрыне, ён Лота на дух не выносіў ад пачатку. Казаў, што калі каму й гуляцца ў правадыры гэткаю часінаю, дык гэта найшляхетнейшаму Шырскаму тану, а ня выскачку нейкаму. А калі Лота сваіх людзей паслаў, то пралічыўся. Хватам шчасьце, у іх норы найглыбейшыя на Зялёных пагорках, Вялікія Сьміялы ды ўсялякае такое, шалберам да іх не дабрацца, і на сваю зямлю Хваты чужынцаў не пусьцілі. Калі тыя прыходзяць, на іх палююць. Хваты трох застрэлілі за шныпараньне й рабаўніцтва. Пасьля таго бандзюкі зрабіліся шкаднейшымі. І пільна вартуюць Хватаву зямлю. Аніхто цяпер ані туды, ані адтуль.

– Малайцы Хваты! – выгукнуў Піпін. – Але ж нехта мусіць туды патрапіць цяпер. Я рушу ў Сьміялы! Хто з мною да Хватавай Гародні?

Сабраў з паўтузіна хлопцаў-вершнікаў ды ад'ехаў зь імі праз палі.

– Да хуткай сустрэчы! – гукнуў на разьвітаньне. – Тут толькі чатырнаццаць вёрстаў ці каля таго па палёх. Да ранку вярнуся з войскам Хватаў!

Мэры задзьмуў у рог увасьлед, калі тыя зьніклі ў начной цемры. Народ радасна загалёкаў.

– Гэтак ці інакш, – сказаў Фрода хобітам побач, – я хацеў бы, каб не забівалі нават злачынцаў, калі без таго магчыма абысьціся. Хіба толькі каб ня даць ім пашкодзіць нашым.

– Добра! – пагадзіўся Мэры. – Вось толькі неўзабаве намячаецца візыта да нас з Хобіцку. І візытоўцы тыя не зь перамовамі зьявяцца. Мы паспрабуем зь імі па-добраму, але трэба рыхтавацца да горшага. Маю плян.

– Добра, – таксама пагадзіўся Фрода. – Тады яго й ажыцьцяўляй.

Якраз тады прыбеглі хобіты, якіх пасылалі да Хобіцку.

– Ідуць, ідуць! – загукалі яны. – Тузін ці нават болей. А двое на захад выправіліся напрамкі.

– Да Скрыжаванкі, няйначай, – заўважыў Котан, – каб болей сваіх сабраць. Ну, тое пятнаццаць вёрстаў туды, пятнаццаць назад. Пакуль пра іх клапаціцца рана.

Мэры пасьпяшаўся раздаваць загады. А Котан выгнаў усіх з вуліцы за дзьверы, пакінуўшы толькі старэйшых сталых хобітаў, у каго была якая зброя. Чакалі нядоўга. Неўзабаве пачулі гучныя галасы й тупат цяжкіх ног. На бальшаку паказаўся сапраўдны шыхт бандытаў. Зірнулі на агароджу й зарагаталі. Яны й уявіць не маглі, што хтосьці ў гэтай маленькай краіне паўстане супраць дваццаці такіх, як яны.

Хобіты прыбралі агароджу, адсунуліся ўбок.

– Дзякуй! – кпліва зарагаталі людзі. – А зараз ну-тка па ложках, пакуль пугі не пакаштавалі!

Тады крочылі па вуліцы, гукаючы:

– Згасіць агні! Па хатах, сядзець ціха! Альбо паўсотню возьмем у Замкнёныя норы на год! Па хатах! Правадыр траціць цярплівасьць!

Аніхто на загады не зважаў, а калі чужынцы міналі, хобіты моўчкі рушылі ўвасьлед за імі. Людзі сягнулі вогнішча й пабачылі спадара Котана: ён стаяў самотны й грэў рукі над полымем.

– Хто ты й што ты, па-твойму, робіш? – спытаў ачольца бандытаў.

Котан глянуў на яго павольна й доўга. І вымавіў:

– Я ў цябе якраз пра тое хацеў спытаць. Гэта не твая краіна, і табе тут ня месца.

– А я вось ведаю, дзе тваё месца! – гыркнуў ачольца. – Хапайце яго, хлопцы! У Замкнёныя яго, а каб прызвычаіўся, джгніце яму дзеля спакою!

Людзі зрабілі крок – і замёрлі. Бо вакол узьняўся раззлаваны гоман, і раптам яны адчулі, што Котан не адзін. Што яны абкружаныя. У змроку за колам сьвятла ад вогнішча стаялі хобіты, якія цішком выйшлі зь цемры. І было іх за дзьве сотні, і ўсе трымалі зброю.

Мэры крочыў наперад.

– Мы ўжо сустракаліся, – сказаў ачольцу, – і я папярэджваў цябе не вяртацца сюды. І папярэджваю зноў: ты стаіш на сьвятле, вакол цябе – лучнікі. Калі пальцам кранеш старога альбо каго шчэ, цябе адразу падстрэляць. Кладзі долу ўсю зброю, якую маеш!

Ачольца азірнуўся. Ён патрапіў у пастку. Але не напалохаўся, бо за сьпінаю меў тузін паплечнікаў. І надта мала ведаў пра хобітаў, каб зразумець небясьпеку. З дурасьці вырашыў біцца. Палічыў, што лёгка вырвецца з пасткі.

– Бі, хлопцы! – закрычэў раптам. – Пакажам ім!

З доўгім нажом у левай руцэ й дубцом у правай кінуўся на хобітаў, маючы намер прарвацца назад, да Хобіцку. Замахнуўся на Мэры, які стаяў на дарозе. І ўпаў мёртвы з чатырма стрэламі.

Астатнім хапіла. Усе здаліся. У іх адабралі зброю, павязалі разам ды завялі ў пустую хаціну, якую яны самі сабе калісь пабудавалі, там іх і замкнулі, зьвязаўшы рукі й ногі, ды пакінулі пад вартаю. Мёртвага ачольцу адцягнулі прэч ды закапалі.

– Здаецца, усё проста, га? – вымавіў Котан. – Я ж казаў: разьбярэмся мы зь імі. Але ж заклік быў патрэбны. У самы час вашаць зьявіўся, спадару Мэры.

– Яшчэ шмат працы, – адказаў на тое Мэры. – Калі ты не памыліўся ў падліках, дык мы ня справіліся нат з малой часткаю. Але ўжо сьцямнела. Мяркую, з наступным крокам варта пачакаць да сьвітанку. Тады наведацьмем правадыра.

– Чаму ня зараз жа? – зьдзівіўся Сэм. – Цяпер троху па шостай гадзіне. А я хачу майго Дзеда пабачыць. Ці ведаеце, што зь ім, спадару Котане?

– Ведаю. Ня тое каб добра, але й ня цалкам блага, Сэме. Яны ж слабаду зьнесьлі, такі яму горкі падаруначак. А цяпер ён у адной з тых новых халупаў, якія правадыровы людзі ладзілі, пакуль яшчэ рабілі штосьці, апрача выпальваньня й рабаўніцтва. Ня болей за вярсту ад Прырэчча. Але ж Дзед твой калі-нікалі да мяне завітвае, калі магчымасьць выпадае, дык я ўжо сачу, каб ён лепей харчаваўся, чымся некаторыя небаракі. Усё супраць правілаў, вядома ж. Я яго ў сябе пасяліў бы, дык жа не дазволена.

– Дзякуй, спадару Котане, я ніколі на гэтую ласку не забудуся. Але ж я так хачу яго пабачыць. Гэны ж правадыр ды Старыч, як пра іх кажуць, здольныя штось благое й да раніцы ўчыніць.

– Добра, Сэме, – пагадзіўся Котан. – Абяры хлопца ці двух ды едзь прывязі яго да маёй хаты. Не набліжайцеся толькі да старой хобіцкай вёскі за ракой. Джолі мой пакажа шлях.

Сэм паехаў. Мэры ж загадаў, каб па ўсёй вёсцы хадзіла варта, патрулюючы, і ўсю ноч вартавыя заставаліся ля агароджаў. Тады разам з Фрода выправіўся да Котанаў. Усе паселі ў цёплай кухні. Гаспадары зь ветлівасьці папыталі што-кольвек

пра вандроўку, але адказаў амаль ня слухалі, бо значна болей іх цікавілі падзеі ў Шыры.

– Усё пачалося з Вугра, як мы яго клічам, – паведаміў гаспадар Котан, – і пачалося неўзабаве пасьля таго, як вы сышлі, спадару Фрода. Убіў ён у галаву дзівоснае, гэты Вугор. Падаецца, захацеў усім завалодаць сам, каб народу загады раздаваць. Неўзабаве высьветлілася, што ён ужо захапаў болей, чымся здароўю спрыяе, і працягваў хапаць, хоць было загадкаю, адкуль грошы. Млыны, бровары, шынкі, сядзібы й палі люлькавай зёлкі. Падаецца, Пешчакоў млын ён набыў яшчэ да таго, як перабраўся ў Торбу-пад-Стромай.

Вядома ж, і напачатку меў нямала маёмасьці ў Паўднёвым падзеле, ад бацькі ў спадчыну атрымаў, а да таго ж, бачце, прадаваў найлепшыя зёлкі, шмат прадаваў і слаў некуды ўжо пару гадоў. А напрыканцы мінулага году пачаў слаць ня толькі зёлкі, але й іншае дабро. Нястачы пачаліся, а зіма ж не за гарамі. Народ і зазлаваў, але на тое Вугор падрыхтаваў адказік. Мноства людзей, нягоднікаў збольшага, прыехала на вялізных вазах. Некаторыя – каб звозіць дабро на Поўдзень, а некаторыя – каб застацца. Ды шчэ болей далучылася потым. І не пасьпелі мы апамятацца, як яны ўжо тутака й тамака ў Шыры абжыліся, дрэвы валілі, капалі, будавалі сабе халупы й хаціны на свой густ. Напачатку за дабро й шкоду сплочваў Вугор, але неўзабаве яны пачалі распараджацца тут па-гаспадарску ды браць, што патрапіць на вочы.

Узбурэньні з таго былі, але ж меншыя, чым варта. Стары Віль Галава выправіўся да Торбы-пад-Стромай, каб абскардзіць усё, але ж туды так і не дабраўся. Зладзеі яго схапілі, зацягнулі й замкнулі ў нару ў Міхальскім Выкапе, там ён і сёньня. А пасьля таго як Новы год мінуў, ня стала нат пасады галавы, Вугор абвесьціў сябе *правадыром шырыфаў*, альбо ўпрост *правадыром*, і калі хто "высоўваўся", як яны кажуць, таго валаклі ўвасьлед за Вілем. Так вось усё павярнулася ад благога да горшага. Зёлкі не засталося, хіба толькі для людзей, і піва правадыр не выносіў, зноў толькі даўгалыгім дазваляў, і ўсе шынкі пазачыняў, і ўсяго рабілася меней, апрача правілаў. Як хто прыхоўваў трохі свайго, зьяўляліся чужынцы *зьбіраць* дабро "дзеля справядлівага падзелу", што значыла: ім усё, а нам нічога, адно пад'едкі, якія можна атрымаць у шырыфскай сядзібе, калі ты здолееш гэна зьесьці. Усё надзвычай блага. А калі Старыч абвесьціўся, дык увогуле пачалося агульнае абурэньне.

– Што гэта за Старыч? – спытаў Мэры. – Я чуў, як адзін з бандытаў казаў пра яго.

– Напэўна ж, найвялікшы зь нягоднікаў, – адказаў Котан. – Падчас апошняга ўраджаю, напрыканцы верасьня, так, тады мы ўпершыню пра яго пачулі. Аніхто яго ня бачыў, але ж ён у Торбе-пад-Стромай, і ён цяперака сапраўдны правадыр, мяркую. Усе бандыты робяць так, як ён кажа, а кажа ён большай часткаю сячы, выпальваць і руйнаваць, а цяпер і да забойства дайшло. Аніякай выгоды нават для іх саміх, і сэнсу аніякага ва ўчынках: сякуць дрэвы й пакідаюць гнісьці, выпальваюць хаты, а новых не будуюць.

Вазьмі ты Пешчакоў млын. Вугор загадаў зьнесьці яго, як толькі перабраўся ў Торбу. А тады прывёў мноства брудных людзей, яны пабудавалі большы млын ды набілі ўсялякімі коламі й іншаземнымі прыладамі. І толькі дурань Тэд радаваўся, і цяпер на млыне робіць, чысьцячы для даўгалыгіх колы там, дзе ягоны бацька быў млынар і сам сабе гаспадар. Вугор казаў, новы млын меле болей і хутчэй. Ён і іншыя млыны накшталт таго пабудаваў. Але ж трэ мець зерне, каб малоць, і новаму млыну працы ня болей, чым старому. А калі Старыч зьявіўся, увогуле зерня болей ня мелюць. Там заўжды нейкі грукат білаў, і дым з смуродам, і нават уночы спакою няма

ў Хобіцку. А яны ж і бруд усялякі ў раку выліваюць: усю ніжнюю плынь Вады-ля-Стромы ўжо спаганілі, і бруд у Бранявін цячэ. Каб Шыр у пустэчу ператварыць, дык тое найлепшы шлях. Я ня веру, што дурань Вугор стаіць за ўсім гэтым. Напэўна ж, Старыч.

– Праўда! – не стрываў Том-малодшы. – Яны ж нават Вугрову матку старую, Лябэлю гэную, схапілі, а ён жа яе любіў, нават калі ніхто больш не любіў. Народ з Хобіцку бачыў, але. Ідзе яна прысадамі з сваім старым парасонам. А насустрач, угару, бандыты на вялікім возе.

"І куда ж гэна вы працеся?" – пытаецца яна.

"Да Торбы", – кажуць.

"Нашто?"

"Каб Старычу халупаў набудаваць".

"А хто вам дазволіў?"

"Старыч, – адказваюць тыя. – Так што валі з шляху, карга старая!"

"Я вам пакажу Старыча, бессаромныя абібокі-агуры!" – кажа яна, падымае парасон ды кідаецца на ачольцу, а той удвая за яе большы. Вось і схапілі яе. Завалаклі ў Замкнёныя норы, і гэна ў яе ўзросьце. Яны й іншых схапілі, якіх болей шкада, але ж яна самая мужная.

Сярод гамонкі зьявіўся Сэм з сваім старым. Стары Гэйхад нашмат не згрыбеў, хоць крыху й паглушэў.

– Добры вечар, спадару Торбінсе! – павітаўся. – Насамрэч рады бачыць, што ваша ў здароўі вярнуўся. Але ж тутака жальба ў мяне да вашці, па-простаму кажучы, калі дазволіце. Навошта ж ваша прадаваў Торбу, га, я ж заўжды тое казаў? З таго ліха ўсялякае й пачалося. Пакуль ваша там скакаў па землях замежных, ганяючы чарналюдаў па гарах, як мой Сэм кажа, хоць нашто – так і не патлумачыў, тутака скапалі ўсю слабаду Прыторбінскую ды ўсе мае бульбакі папавынішчылі!

– Мне вельмі шкада, спадару Гэйхадзе, – вымавіў Фрода. – Але ж цяпер я вярнуўся й паспрабую найлепшым чынам усё выправіць.

– Ну, лепей і ня скажаш, – задаволіўся Дзед. – Спадар *Фрода* Торбінс – сапраўды шляхетны хобіт, і заўжды я так казаў, што б там ні думалі пра некаторых іншых з такім самым прозьвішчам, прабачце, калі ласка. Спадзяюся, мой Сэм добра сябе паводзіў, была зь яго карысьць?

– Найкарысьнейшая карысьць, спадару Гэйхадзе, – адказаў Фрода. – Насамрэч, паверце, ён цяпер сярод найзнакаміцейшых ва ўсіх землях, і песьні пра ягоныя подзьвігі складаюць адсюль ажно да мора дый за Вялікай ракой.

Сэм пачырванеў, але зірнуў на Фрода з удзячнасьцю, бо ў Ружы павялічыліся вочы й зазьзяла ўсьмешка, калі яна глянула на Сэма.

– У тое няпроста паверыць, скажу вашці, – пахітаў стары галавою, – хоць бачу: ублытаўся ён у дзівосную суполку. А што з жупанчыкам ягоным? Не па мне гэнае, каб зялезьзе ўсялякае чаплялі, файна яно глядзіцца ці не.

Котанава сям'я й госьці назаўтра прачнуліся раненька. Уночы нічога ня здарылася, але ж дзень, без сумневаў, абяцаў новыя клопаты.

– Падаецца, у Торбе нікога з бандытаў не засталося, – паведаміў Котан, – але банда з Скрыжаванкі можа зьявіцца з хвіліны на хвіліну.

Пасьля сьняданку прыбыў вястун ад Хватаў, і ў настроі вельмі ваяўнічым. Паведаміў:

– Тан падняў усё навакольле, а навіны, бы пажар, лятуць ва ўсе бакі. Бандыты, якія пільнавалі нашую зямлю, на Поўдзень уцяклі – хто жывы застаўся, вядома. Тан за імі выправіўся, каб з таго боку вялікай гурмы не прыперлася, але паслаў сюды спадара Перыгрына з усімі, каго сабраў.

Наступная вестка, аднак, сталася менш прыемнай. Мэры, які быў на нагах усю ноч, прыехаў блізу дзясятай гадзіны й распавёў:

– Вялікі гурт вярсты за чатыры адсюль. З Скрыжаванкі йдуць, але шмат хто з уцекачоў да іх далучыўся. Іх амаль сотня, па дарозе ўсё паляць. Паскуднікі!

– А, гэныя не сумовіцца йдуць, а забіваць, – нахмурыўся спадар Котан. – Калі Хваты не пасьпеюць, лепей нам за платы схавацца й страляць, часу не марнуючы. Тут бяз бойкі не абысьціся, спадару Фрода.

Але Хваты пасьпелі. Неўзабаве прыйшла сотня з Хват-гарадку й Зялёных пагоркаў, з Піпінам на чале. Цяпер у Мэры ставала дужых хобітаў, каб справіцца з зладзеямі. Выведнікі даносілі, што тыя трымаюцца разам. Напэўна ж, ведаюць, што ўвесь край паўстаў супраць іх, і відавочна прагнуць бязьлітасна расьцісьнуць рокаш у самым ягоным сэрцы, у Прырэччы. Аднак як рашуча яны ні былі настроеныя, правадыра, які разумеў бы ваярскую справу, ня мелі. Бо рухаліся без аніякіх засьцярог. Мэры, скеміўшы тое, хуценька склаў плян.

Бандыты рушылі па Ўсходнім шляху не прыпыняючыся, збочылі на прырэцкі бальшак, які некаторы час вёў угару паміж высокіх схілаў з жывымі агароджамі наверсе. За паваротам, недзе за дзьве гоні ад галоўнага шляху, напаткалі завал зь перакуленых старых вазоў. І спыніліся перад ім. І ў той самы момант зразумелі, што за агароджамі паабапал, якраз над галовамі, паўнютка хобітаў. За сьпінамі іншыя хобіты ўжо пхалі на гасьцінец вазы, раней прыхаваныя на полі, перакрываючы шлях назад. А зьверху бандыты пачулі голас.

– Ну, крочылі прамютка ў пастку, – абвесьціў Мэры. – Вашыя сябрукі з Хобіцку зрабілі тое самае, і цяпер адзін мёртвы, а рэшта ў палоне. Кладзіце долу зброю! А тады адыходзьце ад яе на дваццаць крокаў і сядайце на зямлю. Хто паспрабуе вырвацца, таго падстрэлім.

Але бандытаў ня так лёгка было запалохаць. Некалькі хацелі падпарадкавацца, але ж астатнія ім не далі, падбухторваючы біцца. З тузін кінуліся назад, на перашкоду з вазоў. Шасьцярых падстрэлілі, але астатнія вырваліся, забіўшы двух хобітаў, а пасьля разьбегліся ва ўсе бакі.Яшчэ двох улучылі на бягу. Мэры выдзьмуў з рога гучны покліч, і ў адказ здалёк затрубілі таксама.

– Далёка не ўцякуць, – вымавіў Піпін. – Тут усё навакольле поўнае нашымі паляўнічымі.

А зачыненыя ў пастцы людзі, яшчэ тузіны чатыры з гакам, паспрабавалі ўскараскацца на агароджы й схілы, і хобітам давялося шмат каго пастраляць ці пасекчы сякерамі. Але ж многія мацнейшыя й люцейшыя людзі прарвалася з заходняга боку й рашуча напалі, цяпер болей жадаючы забіваць, чым уцякаць. Некалькі хобітаў загінулі, астатнія завагаліся, ажно тут зьявіліся Мэры зь Піпінам, якія былі на ўсходнім баку, і напалі на бандытаў. Мэры ўласнымі рукамі забіў правадыра, даўгалыгага касавокага бамбізу, падобнага да вялізманага орка. А тады склікаў усіх вояроў, абкружыўшы рэшту людзей у кольца лучнікаў.

Нарэшце ўсё скончылася. Амаль семдзесят латругаў ляжалі мёртвыя на полі бою, тузін былі ўзятыя ў палон. Загінулі дзевятнаццаць хобітаў, болей за трыццаць былі параненыя. Мёртвых людзей склалі на вазы й адвезьлі да старога яру, дзе

калісьці бралі пясок. Там і пахавалі, у Яміне Бойкі, як пазьней яе назвалі. Загінулых хобітаў паклалі разам у магілу на схіле пагорку, дзе пазьней усталявалі валун і разьбілі вакол сад. Так скончылася бітва 1419 году ў Прырэччы, апошняя, якая адбылася ў Шыры, і адзіная з часоў бітвы 1147 году на Зялёных палях, у Паўночным падзеле. Апасьля перамозе, хоць і каштавала яна, на шчасьце, няшмат жыцьцяў, прысьвяцілі цэлую частку ў Пунсовай кнізе, а імёны ўсіх удзельнікаў занесьлі ў Скрутак, які шырскія гісторыкі вывучвалі назубок. Значны рост багацьця й славы Котанаў пачынаецца менавіта з таго часу. Але наверсе Скрутку ва ўсіх ягоных сьпісах і варыянтах нязьменна стаяць імёны гетманаў: Мэрыядока й Перыгрына.

Фрода таксама ўдзельнічаў у бітве, але меча не агаліў, клапоцячыся толькі пра тое, каб хобіты, раззлаваныя стратаю сяброў і сваякоў, не забівалі тых ворагаў, хто здаўся. Калі бойка скончылася й вызначылі, што каму рабіць далей, Мэры зь Піпінам і Сэмам далучыліся да Фрода й разам з Котанамі выправіліся да іх сядзібы. Там запозьнена паелі, а тады Фрода ўздыхнуў:

– Мяркую, надышоў час разабрацца з правадыром.

– Сапраўды, чым хутчэй, тым лепей, – пагадзіўся Мэры. – І ня трэба мякка сьцяліць! Ён адказны за тое, што прывёў сюды бандытаў ды за ўсё ліха ад іх!

Спадар Котан сабраў у суправаджэньне два тузіны дужых хобітаў.

– Гэта мо толькі здагадка, што агураў у Торбе не засталося, – патлумачыў так. – Хто ведае?

Тады выйшлі пехатою на чале з Фрода й Сэмам, за імі Мэры зь Піпінам.

І гадзіна таго шпацыру сталася найсмутлівейшай за ўсё іхняе жыцьцё. Перад імі паўсталі вялізныя коміны, а калі наблізіліся да старой вёскі за Вадою, пабачылі праз шэрагі агідных будынкаў абапал шляху новы млын ва ўсім ягоным мярзотным і пагрозьлівым звыродзтве: вялізазны цагляны гмах поперак струменю. З гмаху ў раку ліўся смуродны бруд. А вакол прырэцкага бальшаку не засталося ніводнага дрэва.

Калі хобіты перайшлі па мосьце й зірнулі на Строму, то вохнулі. Нават для Сэма, які глядзеў у Люстэрка, пабачанае стала неспадзяванкаю. Старую мызу на заходнім баку разбурылі, на яе месцы стаялі шэрагі абсмоленых халупаў. Усе каштаны зьніклі. Насыпы й жывыя агароджы былі парушаныя. На полі, здратаваным ушчэнт, у беспарадку стаялі вялікія вазы. На месцы слабады зеўрала яміна, адкуль цяпер бралі пясок і каменьне. А саму Торбу-пад-Стромай закрывала купа вялізных хацінаў.

– Яны сьсеклі яго, сьсеклі Сьвяточнае дрэва! – выгукнуў Сэм, паказваючы на месца, дзе стаяла дрэва, пад якім Більба казаў Разьвітальную прамову. Сьсечанае дрэва так і ляжала, мёртвае, сярод поля. Вось гэта й стала для Сэма апошняю кропляю, і ён заліўся сьлязьмі.

Спыніўся, калі пачуў рогат. Змрочнага й нядобрага выгляду хобіт стаяў, абапёршыся на нізкую сьцяну млыноватага падворку. Твар ягоны быў у сажы й брудзе, рукі запэцканыя да чарнаты.

– Не даспадобы, га, Сэмку? Ты заўжды быў мяккагаловы. А я ўжо думаў, ты на адным з тых караблёў сплыў, пра якія заўжды языком матляў. Казаў, адплываюць, адплываюць. А нашто ж вярнуўся? Нам цяпер ёсьць праца ў Шыры.

– Я бачу, – зазначыў Сэм. – Няма часу памыцца, але ёсьць час сьцяну падперці. Але ж, спадарыку Пяшчаку, мне тут з каго-кольвек спытаць трэба дый спагнаць даўжкі таксама, і болей цярпець твой язык я ня стану. Глядзі, а тое столькі сплочваць давядзецца, што ў кесцы ня зьмесьціцца.

– Га! – гыркнуў Пяшчак, плюнуўшы празь сьцяну. – Ты мяне не чапай. Я правадыроў сябра. А вось цябе ён зачэпіць, калі ты сваю пысу не затыкнеш.

– Не марнуй словаў на дурня, Сэме! – паклікаў Фрода. – Спадзяюся, няшмат хобітаў сталі такімі, як гэты. Бо тое шкода горш за ўсё, зруйнаванае людзьмі.

– Ты – брудны й неразумны невук, Пяшчаку, – сказаў Мэры. – і зусім не разумееш, што адбываецца. Мы йдзем да Стромы, менавіта каб выкінуць прэч твайго каштоўнага правадыра. Зь людзьмі ягонымі ўжо разабраліся.

Тэд ажно рот раскрыў, бо толькі цяпер заўважыў дружыну хобітаў, якая на знак Мэры пайшла праз мост. Тады кінуўся назад, да млыну, выбег з рогам і гучна ў яго задзьмуў.

– Лепш дыханьне ашчадзі! – засьмяяўся Мэры. – Бо ў мяне рог лепшы!

І, узьняўшы срэбны ражок, задзьмуў – ясны покліч паплынеў над Стромай. Пачуўшы, з нораў, халупаў і трухлявых хацінаў Хобіцку павыскоквалі хобіты й натоўпам, з радаснымі выгукамі й вітаньнямі рушылі за прышлымі па шляху да Торбы-пад-Стромай.

Наверсе спыніліся, а Фрода зь сябрамі пайшлі далей, наведаць калісьці найулюбёнейшую мясьціну. У садзе было поўна адрынаў ды халупаў некаторыя так блізка да старых заходніх акенцаў, што загароджвалі ўсялякае сьвятло. Паўсюль ляжалі кучы сьмецьця. Дзьверы былі падрапаныя, званочак не працаваў. Пагрукалі, але аніхто не адказваў. Тады папросту пхнулі дзьверы. Тыя расчыніліся. Сябры зайшлі. У нары сьмярдзела, беспарадак быў страшэнны, кучы бруду. Відавочна, у нары ўжо даўно не жылі.

– Дзе ж хаваецца няшчасны Лота? – спытаў Мэры, калі хобіты абшукалі ўсе пакоі й не знайшлі анікога жывога, апрача пацукоў ды мышэй. – Ці паклікаць астатніх, каб халупы абгледзелі?

– Гэна ж горш за Мордар! – выгукнуў Сэм. – Пэўным чынам нашмат горш. Бо ліха ў хаце стакроць горшае за бяду ў лесе, як кажуць, бо памятаеш, якая была твая хата да бяды.

– Так, гэта Мордар, – пагадзіўся Фрода. – Менавіта ўзор мордарскай працы. Саруман рабіў яе ўвесь час, нават калі лічыў, што робіць для сябе. Як тыя, каго падмануў Саруман, накшталт Лота.

– Хадзем прэч! – азірнуўся Мэры ў адчаі й смутку. – Калі б я ведаў, якую шкоду ўчыніць Саруман, я сваю кеску ў глотку ягоную забіў бы!

– Вядома, вядома! Але ж ты ня ведаў, і таму я магу зараз павіншаваць цябе зь вяртаньнем! – вымавіў ад дзьвярэй Саруман.

Ён выглядаў ахайным, сытым і задаволеным, вочы сьвяціліся нядобраю радасьцю. Тут раптоўная здагадка абрынулася на Фрода.

– Старыч! – выгукнуў ён.

– Дык ты ўжо чуў гэтае імя, праўда? – Саруман зарагатаў. – Мой народ у Ізенградку звычайна так мяне й клікаў. Напэўна, на знак павагі. Відавочна, ты не чакаў мяне тут.

– Не, – адказаў Фрода, – хоць мог здагадацца. Гэндальф папярэджваў, што ты яшчэ здольны ўчыніць ліха.

– Здольны, і нават не малое. Я сьмяюся з вас, хобітаў-шляхцюкоў, такіх ганарыстых побач з усімі вялікімі гаспадарамі, такіх упэўненых, задаволеных сваімі мізэрнымі асобамі. Вы лічылі: файненька з усяго выбраліся, а цяпер – дахаты, адпачываць у мілай сядзібцы. Думалі, што Саруманаў дом можна пабурыць, а яго выгнаць у глухмень, вашую ж хату ніхто не кране. Бо, вядома ж, Гэндальф за вамі

дагледзіць, уратуе... Дык вось: не ўратуе Гэндальф! – Саруман зарагатаў зноў. – Калі ягоныя пехтуры сваё адрабілі, ён іх выкідвае. А вам даспадобы было цягнуцца за ім, лыпаючы вачыма па баках ды менцячы языкамі, трацячы на вандроўку ўдвая болей часу, чым трэба. Мне й падумалася: "Ну што, калі яны гэткія дурні, чаму не павучыць іх крыху. За ўсе даўжкі трэба расплачвацца, ці ж не?" Навучаньне магло атрымацца й адметнейшым, каб толькі часу болей стала ды людзей пад рукою. Усё ж я зрабіў болей, чым вам выправіць за вашыя жыцьці. Прыемна будзе згадваць, параўноўваючы з горам, якое ўчынілі мне.

– Калі такое прыносіць табе задавальненьне, мне шкада цябе, – вымавіў Фрода. – Мяркую, твая асалода будзе толькі ў мроях. Ідзі прэч зараз жа й аніколі не вяртайся!

Вясковыя хобіты бачылі, як Саруман выйшаў з халупы, накіраваўшыся да Торбы, рушылі ўвасьлед і зараз стоўпіліся ля дзьвярэй. Калі пачулі Фродаў загад, загаманілі:

– Не адпускайце яго! Забіце! Ён ліхадзей і злачынца! Забіце яго!

– Забіце яго! – пакпіў Саруман, пасьміхаючыся з раззлаваных хобітаў. – Дык забіце, калі лічыце, што вас досыць на аднаго, адважныя хобіты!

Тады выпрастаўся, пазіраючы на іх змрочна чорнымі вачыма.

– Але ж ня думайце, што калі ў мяне адабралі ўсё маё дабро, адабралі й моц! Той, хто пашкодзіць мне, будзе пракляты! А калі мая кроў запляміць Шыр, зямля ягоная зачахне й аніколі не адродзіцца!

Хобіты адсунуліся, зьляканыя. Але Фрода сказаў:

– Ня верце яму! Ён страціў усю моц, апрача голасу, якім яшчэ можа кпіць з вас і падманваць вас, калі вы яму дазволіце. Але ж я ня дам яго забіць. Няма карысьці сустракаць помсту помстаю. Гэта нічога ня выправіць. Ідзі прэч, Сарумане, і найхутчэйшай дарогай!

– Гэй, Зьмяюча! Зьмяюча! – паклікаў Саруман, і з найбліжэйшай халупы выпаўз Зьмеяроты, ледзь не на карачках, бы сабака.

– Ізноў на бальшак, Зьмяючыку мой! – загадаў Саруман. – Гэтае шляхетнае спадарства зноў гоніць нас прэч. Хадзем!

Саруман павярнуўся, каб сысьці, і Зьмеяроты патрухаў за ім. Але калі Саруман праходзіў побач з Фрода, у руцэ ягонай раптам бліснуў корд, і чараўнік імгненна зрабіў выпад. Лязо ткнулася ў прыхаваную кальчугу й храснула, зламаўшыся. Тузін хобітаў, і Сэм першы, кінуліся, загаласіўшы, наперад ды прыціснулі злачынцу да зямлі. Сэм выцягнуў корд.

– Не, Сэме! – выгукнуў Фрода. – Не забівай яго нават цяпер. Бо ён не пашкодзіў мне. І ў любым выпадку я не хачу, каб яго забівалі ў гэткім ліхім настроі. Ён быў калісь вялікім, такой высакароднасьці, супраць якой нам ня варта падымаць руку. Цяпер ён нізка паў, і нам яго не ацаліць, але ж я ўсё адно пашкадую яго, спадзеючыся, што ён мо знойдзе ацаленьне.

Саруман падняўся на ногі й дзіўна зірнуў на Фрода – з сумесьсю подзіву, павагі й нянавісьці.

– Ты вырас, паўросьлік, – вымавіў Саруман. – Так, ты надзвычай вырас. Ты мудры й жорсткі ў сваёй мудрасьці. Ты скраў асалоду маёй помсты, і мне давядзецца сыходзіць у горычы, бо я абавязаны тваёй літасьці! Ненавіджу яе й цябе! Добра, я сыду й не патурбую цябе болей. Але ж не чакай, што на разьвітаньне я буду зычыць табе здароўя й доўгіх гадоў. Ані таго, ані другога ў цябе ня будзе. Тое не мая дзея – я ўпрост прадказваю.

Ён пайшоў прэч, і хобіты расступіліся, каб дазволіць яму прайсьці, але пальцы іхнія пабялелі на тронках зброі. Зьмяроты павагаўся, а тады паклыпаў за гаспадаром.

– Зьмяроты! – паклікаў Фрода. – Табе не абавязкова йсьці за ім. Я ня ведаю за табою ліха. Ты можаш адпачываць тут і сілкавацца колькі часу, пакуль не памацнееш і ня здолееш сысьці, куды захочаш.

Зьмяроты павярнуўся й утаропіўся ў Фрода, ён амаль быў вырашыў застацца... Тут азірнуўся Саруман.

– Ня ведаеш за ім ліха? – хіхікнуў ён. – Ну-у. Нават калі наш Зьмяючык вылазіць уночы, дык гэта дзеля таго, каб на зоры замілоўвацца. Чулася мне, нехта пытаўся, дзе хаваецца Лота. Ты ведаеш, Зьмяючык, ці ж не? Ці ня скажаш ім?

Зьмяроты скурчыўся й заенчыў:

– Не, не!

– Тады я скажу, – працягнуў Саруман. – Зьмяючык прыкончыў вашага правадыра, няшчаснага малога небараку, гэткага файнага й мілага правадырчыка. Ці ж не, Зьмяючыку? Ткнуў калі той спаў, наколькі мне вядома. І пахаваў, спадзяюся, хоць Зьмяючык апошнімі часамі надта галодны! Не, Зьмяючык зусім ня добранькі. Лепей вам пакінуць яго мне.

Шалёная нянавісьць успыхнула ў вачох Зьмяротага.

– Ты ж сказаў мне зрабіць гэта, ты! – прашыпеў ён.

– А ты заўжды робіш, як кажа Старыч, ці ж не, Зьмяюча? – Саруман зарагатаў. – Ну, зараз ён кажа: хадзі за ім!

Ён пхнуў нагою ў твар Зьмяротага, які курчыўся на зямлі, павярнуўся й крочыў прэч. Але тут быццам нешта зламалася ў Зьмяротым. Ён ускочыў, выхапіўшы схаваны нож. А тады з сабачым рыкам скочыў Саруману на сьпіну, адкінуў яму галаву назад ды джгнуў па горле. І зь енкам пабег прэчкі. Не пасьпеў

Фрода й слова вымавіць, як бразнулі струны трох лукаў. Зьмяроты ўпаў нежывы.

На жах тым, хто стаяў побач, над целам Сарумана склубіўся шэры дым і павольна падняўся над Стромай на вялікую вышыню, нібы блядная, захутаная ў саян постаць. На момант яна захісталася, пазіраючы на захад, але адтуль прыляцеў халодны вецер, і постаць нахілілася ды, уздыхнуўшы, распусьцілася ў небыць.

Фрода глядзеў на цела з жахам і жалем, бо проста на вачох доўгія гады сьмерці абрынуліся на труп, і ён ссох, і зморшчаны твар зрабіўся лахманамі скуры на жудасным чэрапе. Прыўзьняўшы край бруднай вопраткі, што ляжала на шкілеце, Фрода прыкрыў згнілы твар і адвярнуўся.

– Вось і скончылася, – сказаў Сэм. – Люты канец. Хацеў бы я яго ня бачыць, але ж – пазбавіліся, і файна!

– Сама канец вайны, мяркую, – падсумаваў Мэры.

– Спадзяюся, – уздыхнуў Фрода. – Самы апошні яе ўдар. Але ж падумаць толькі, ля самых дзьвярэй Торбы-пад-Стромай! Сярод усіх маіх надзеяў і жахаў я аніколі такога не ўяўляў.

– Я не казаў бы пра канец, пакуль мы ня вынесем увесь бруд дый не наладзім жыцьцё, – сумна зазначыў Сэм. – А тое запатрабуе надта шмат часу й працы.

## *9. Сівыя Завані*

Вынясеньне бруду й наладжваньне жыцьця, без сумневу, патрабавала шмат высілкаў, але ня столькі часу, як баяўся Сэм. Назаўтра пасьля бітвы Фрода выправіўся да Міхальскага Выкапу й вызваліў вязьняў з Замкнёных нор. Адным зь першых знайшлі Фрэдэгара Барсукса, цяпер зусім ня тлусьценькага Фуфу. Яго ўзялі, калі бандыты выкурвалі разьдзел паўстанцаў, якіх той вёў ад Барсучыных нораў у Пужлагор'і.

– Лепей бы ты з намі паехаў, старына Фрэдэгар! – выгукнуў Піпін, калі былога Фуфу вынесьлі вонкі – ён надта паслабеў, каб ісьці самастойна.

Той расплюшчыў вока й адважна паспрабаваў усьміхнуцца. Прашаптаў:

– Хто той малады волат з гучным галасіскам? Мо маленькі Піпін? І ў колькі капелюшоў цяпер твой рост?

Пасьля вызвалілі Лябэлю. Небарака, яна выглядала надта састарэлай і худой, калі яе выцягнулі зь цёмнай і вузкай клеці. Але наверх захацела ісьці ўласнымі нагамі. Так шчыра яе віталі, так радасна пляскалі й гукалі, калі яна зьявілася, абапіраючыся на Фродаву руку ды ўсё сьціскаючы свой парасон, што яе кранула да глыбіняў душы й яна зьехала ўся ў сьлязах. Аніколі ў жыцьці яна не карысталася гэткай папулярнасьцю. Аднак вестку пра забойства Лота перанесла зь цяжкасьцю й у Торбу-пад-Стромай нат не зайшла. Яна аддала яе Фрода, а тады вярнулася да сваёй радзіны, Пасьніксаў з Снапішчаў.

Калі няшчасная старая памерла навесну – усё-ткі ёй было болей за сто, – Фрода быў надта зьдзіўлены й расчулены, бо яна пакінула ўсю рэшту ўласных ды Лотавых грошай Фрода на дапамогу хобітам, што засталіся без жытла ў выніку ўсіх клопатаў з бандытамі. Так скончылася доўгая варожасьць.

Стары Віль Беланог праседзеў у Замкнёных норах даўжэй за ўсіх, і хоць абыходзіліся зь ім ня так жорстка, як зь некаторымі іншымі, яму спатрэбілася шмат падкорму перад тым, як ён зноў заняў месца галавы, таму Фрода пагадзіўся дзейнічаць як ягоны прадстаўнік, пакуль старшыня не паправіцца. Адзінае, што Фрода зьдзейсьніў на пасадзе галавы, – зьменшыў лік шырыфаў да былой колькасьці ды вярнуў іх да ранейшых заняткаў. Паляваньнем на рэшту бандытаў заняліся Піпін з Мэры, і неўзабаве ўсё скончылася. Паўднёвыя банды, пачуўшы пра бітву ў Прырэччы, паўцякалі за мяжу, амаль не супраціўляючыся тану. Яшчэ да канца году апошніх вылавілі ў лясох; тых, хто здаўся, выправадзілі за межы.

Тым часам аднова хутка прасоўвалася, і Сэм быў надта заняты. Калі ў хобітаў ё настрой ды патрэба працаваць, яны руплцца бы пчолы. А цяпер працоўных рук былі тысячы – ад маленькіх, але спрытных рук маладзёнаў і дзяўчатаў, да напрацаваных, мазолістых рук дзядоў і старых жанок. Да Ліпак ані цагліны не засталося ад новых шырыфскіх сядзібаў альбо чаго іншага, пабудаванага Старычавымі людзьмі, а цэглу выкарысталі, каб парамантаваць старыя норы, зрабіць іх больш утульнымі й сухімі. Таксама знайшліся немалыя запасы ўсялякага дабра ды ежы зь півам, што бандыты пахавалі па халупах, пунях і старых нежылых норах, а асабліва ў тунэлях Міхальскага Выкапу й колішніх каменяломнях у Пужлагор'і. Так што радасьці ў гэтыя Ліпкі было болей, чым хто спадзяваўся.

Адно зь першых, што зрабілі ў Хобіцку, нават да таго, як зьнесьлі новы млын, – вычысьцілі Строму й Торбу-пад-Стромай і адбудавалі Прыторбінскую слабаду. Яміну, дзе бралі пясок, зраўналі сьпераду дый разьбілі там вялікі сад, а ў паўночным

схіле выкапалі новыя норы, глыбока ў пагорак, дый абклалі іх цэглаю. Дзеда засялілі зноў у трэцюю нару, і той паўтараў часьцяком, не турбуючыся, чуе хто ці не:

– Заўжды казаў: дурны той вецер, зь якога нікому карысьці няма. Усё добра, што скончылася добра!

Крыху паспрачаліся, як назваць новую слабаду. Прапаноўвалі Баявыя Сады ці Лепшыя Сьміялы. Урэшце, на мудры хобіцкі манер назвалі ўпрост Новая слабада. А ў Прырэччы пайшла жартоўная звычка клікаць Новую слабаду *Старычаў Канец*.

Найгоршай стратаю былі дрэвы, бо на Старычаў загад іх бязьлітасна сьсеклі па ўсім Шыры. Сэм тужыў найболей па іх. Бо лічыў, што гэтую шкоду ацаляць даўжэй за ўсё й толькі ягоныя прапраўнукі ўбачаць Шыр такім, якім ён мусіць быць.

А тады раптоўна, пасьля таго, як тыднямі спрэс ён быў надта заняты, каб успамінаць прыгоды, згадаў падарунак Галадрыелі. Дастаў скрынку й паказаў астатнім Вандроўнікам (бо так іх цяпер клікалі ўсе), спытаў іхняй парады.

– А я ўсё чакаў, калі ты згадаеш, – усміхнуўся Фрода. – Адчыняй зараз!

Вонкі ляжаў шэры пыл, мяккі й драбнюткі, а пасярэдзіне тырчэла зярнятка, рыхтык маленькі арэшак у срэбнай шкарлупінцы.

– Што ж мне рабіць з гэным? – падзівіўся Сэм.

– Кінь у паветра ветраным днём, і няхай робіць сваю справу! – прапанаваў Піпін.

– Ну і? – спытаў Сэм.

– Абяры якое месца на спробу дый зірні, што там з парасткамі адбудзецца, – параіў Мэры.

– Упэўнены, панна не хацела б, каб я ўсё сабе забраў, калі столькі народу вакол пацярпела, – запярэчыў Сэм.

– Тады выкарыстай уласны розум ды рацыю, Сэме, – параіў Фрода. – Выкарыстай свой падарунак, каб дапамагчы працы й палепшыць яе. І ўжывай беражліва. Тут няшмат, мяркую, кожнае зярнятка каштоўнае.

Сэм пасадзіў каліўцы паўсюль, дзе зьнішчылі ўлюбёныя ці асабліва прыгожыя дрэвы, і паклаў макулінку каштоўнага пылу ў глебу ля каранёў кожнага парастка. Уздоўж і ўпоперак Шыру хадзіў ён у сваёй працы, а калі найперш зьвяртаў увагу на Хобіцак і Прырэчча, дык за тое ніхто яго не дакараў. Урэшце выявіў, што троху пылу яшчэ засталося, таму пайшоў да Трохграшовых Камяніскаў, якія без малога ў самым цэнтры Шыру, дый кінуў пыл на вецер, добраславіўшы. Маленькі ж срэбны арэшак пасадзіў на полі Вечарыны, дзе стаяла калісьці Більбава дрэва. Надта цікавіўся: што зь яго вырасьце? Цярпеў усю зіму, ледзь трываючы, каб не хадзіць туды – пільнаваць, што ж робіцца.

Вясна пераўзышла ягоныя самыя сьмелыя спадзяванкі. Дрэвы прыняліся расьці й галінавацца з такою хуткасьцю, быццам жадалі ў адзіны год укласьці дваццаць. А на Полі Вечарыны выбіўся з-пад зямлі найпрыгажэйшы парастак. Меў ён срэбную кару й доўгія лісты, а ў красавіку яго абсыпала залатая квецень. Насамрэч, быў тое *мэларн*, на дзіва ўсяму наваколью. Праз гады, калі парастак стаў дрэвам незвычайнага хараства, ён праславіўся паўсюль, і народ выпраўляўся ў доўгія вандроўкі, каб толькі пабачыць яго – адзіны *мэларн* на захад ад гораў і на ўсход ад Вялікага мора й адзін з найцудоўнейшых у сьвеце.

Увогуле, 1420 год выдаўся ў Шыры найцудоўнейшым. Ня толькі шчодра зьзяла сонца, ня толькі лілі ласкавыя, найспрыяльнейшыя дажджы (калі трэба й колькі трэба), але само лета падавалася насычаным, вялікшым, нібы паветра набрыняла багацьцем, сьпеньнем і ростам, нібы лета зазьзяла хараством не сьмяротных гадоў, што ўспыхваюць і гаснуць над Міжзем'ем, а гадоў вечнасьці. Усе дзеці, зачатыя альбо

народжаныя сёлета – а такіх было шмат, – расьлі прыгожыя й дужыя, і большасьць мелі валасы колеру сьпелага золата, раней у хобітаў надзвычай рэдкага. Пладоў зямля нарадзіла столькі, што хабіцяняты амаль плавалі ў суніцах зь вяршкамі, а пасьля сядзелі на траўцы пад сьлівамі й елі, елі, складваючы з костачак кучы, нібы заваёўнікі – піраміды чарапоў, а тады перапаўзалі да наступнага дрэва. Аніхто не хварэў, усе радаваліся, апрача тых, каму даводзілася абкошваць траву.

У Паўднёвым падзеле вінагрон хіліўся пад цяжарам гронак, а зёлка ўрадзіла проста надзіва. Паўсюль высьпела столькі зерня, што кожную пуню запоўнілі даверху. Ячмень з Паўночнага падзелу вырас такі файны, што піва 1420 году памяталі доўга й яно ўвайшло ў прымаўкі. І пакаленьне пасьля яшчэ маглі пачуць ад якога дзеда ў шынку, што заліваў у сябе праведна зробленае піва й адсоўваў пусты куфаль з уздыхам: "А-але, гэнае насамрэч нібы ў чатырыста дваццатым, даю слова!"

Спачатку Сэм заставаўся ў Котанаў разам з Фрода, а калі адбудавалі Новую слабаду, перабраўся да Дзеда. У дадатак да заняткаў у хаце кіраваў аднаўленьнем і вычышчэньнем Торбы-пад-Стромай, але часьцяком адлучаўся, вандруючы па Шыры ў садоўніцкай працы. Таму на пачатку сакавіка яго не было дома й ён ня ведаў, што Фрода захварэў. Трынаццатага сакавіка спадар Котан знайшоў Фрода на ложку. Той ляжаў, сьціскаючы белы камень, які вісеў на ланцужку на ягонай шыі. Падавалася, Фрода быў напалову ў сьне.

– Ён сышоў назаўжды, – мармытаў ён, – і цяпер усё цьмянае й пустое.

Але немач мінула, і калі Сэм вярнуўся дваццаць пятага дахаты, Фрода ачуняў і нічога пра сябе не распавёў. Тым часам аднавілі Торбу-пад-Стромай. А Мэры зь Піпінам прывезьлі з Цвыркуновай лагчыны ўсю мэблю й рэчы, і старая нара стала выглядаць амаль як раней. Калі ўсё нарэшце ўсталявалі, Фрода спытаў:

– Калі ж ты зьбіраесься перасяліцца да мяне, Сэме?

Сэм глянуў ніякавата.

– Няма патрэбы перабірацца зараз жа, калі ня хочаш, – сказаў Фрода. – Але ж ведаеш: Дзед побач, а ўдава Сваруха добра за ім даглядае.

– Рэч ня ў тым, спадару Фрода, – і Сэм заліўся чырваньню.

– Дык у чым?

– У Ружы, Ружане Котан. Падаецца, ёй, небарацы, зусім не даспадобы, што я бадзяюся па Шыры дый усялякае такое. А я ёй нічога не казаў, таму й яна не казала. А я маўчаў, бо працу ж трэба зрабіць. А зараз я сказаў, і яна мне кажа: "Ты ўжо год змарнаваў, дык нашто чакаць даўжэй?" – "Змарнаваў? – кажу я ёй. – Ну я б так не казаў". Адылі я ж бачу, што яна мае на ўвеце. Я амаль разрываюся, як гаворыцца.

– Бачу, – пагадзіўся Фрода. – Хочаш ажаніцца, а таксама хочаш жыць з мною ў Торбе? Мой даражэнькі Сэме, няма тут праблемы! Ажаніся, калі пажадаеш, дый сяліся тут разам з Ружай. Месца ў Торбе хопіць для любой сям'і, якой заўгодна вялікай!

Гэтак і пастанавілі. Сэм Гэйхад пабраўся з Ружанаю Котан увесну 1420-га (знакамітага таксама й вясельлямі) дый пераехаў зь ёю ў Торбу-пад-Стромай. І калі Сэм лічыў, што яму пашанцавала, дык Фрода ведаў, што больш пашанцавала менавіта яму, бо аніводнага хобіта ў Шыры не даглядалі з гэткаю ласкаю. Калі адраджэньне Шыру спрэс расплянавалі й пачалі зьдзяйсьняць, Фрода вярнуўся да спакойнага жыцьця, шмат пісаў ды праглядаў усе ранейшыя нататкі. На Вольным кірмашы сярэдзіны лета ён адмовіўся ад пасады прадстаўніка галавы, і даражэнькаму старому Вілю Беланогу яшчэ сем гадоў давялося ачольваць сьвяточныя баляваньні.

Мэры зь Піпінам пэўны час жылі разам у Цвыркуновай лагчыне, і тады шмат было руху паміж Прыбыччам і Торбаю. Два маладыя Вандроўнікі надта ўразілі Шыр песьнямі, расповедамі дый выкшталцонасьцю манераў, а таксама шыкоўнымі бяседамі. *Уладарычамі* клікаў іх народ, маючы на ўвазе, вядома, толькі добрае, бо любое сэрца расчульвалася, калі скакалі яны на коніках, у зіхоткіх бронях ды з цудоўнымі, прыгожымі тарчамі, і сьмяяліся, і сьпявалі іншаземныя песьні. Хоць цяпер вялікімі зрабіліся маладыя хобіты й насамрэч шляхетнымі, у астатнім не перамяніліся. Магчыма, больш таварыскія сталі дый ветлівыя, весялейшыя дый радасьнейшыя, чым раней.

Фрода ж і Сэм цалкам вярнуліся да звычайнага ладу. Хіба толькі пры патрэбе апраналі доўгія шэрыя плашчы, файна сатканыя, замацаваныя ля каўняра цудоўнымі фібулкамі, а Фрода заўжды насіў на ланцужку маленькі белы каменьчык і часта кранаў яго.

Усё цяпер вялося добра й абяцала весьціся шчэ лепш, а ў Сэма клопатаў ды радасьці было – на зайздрасьць любому хобіту. Анічога не азмрочвала ягонага жыцьця ў той год, апрача толькі крыху няўцямнага смутку пра гаспадара. Фрода нейк паціху выключыўся з усіх шырскіх справаў, і Сэму непрыемна было бачыць, як мала шануюць Фрода ва ўласнай ягонай краіне. Няшмат хто ведаў ці хацеў ведаць пра ягоныя зьдзяйсьненьні й прыгоды. Увага й павага дасталіся большай часткаю спадарам Мэрыядоку зь Перыгрынам, дый (каб Сэм толькі ведаў!) самому Сэму. А восень зноў прынесла цень былой бяды.

Неяк надвячоркам Сэм зайшоў у Фродаў кабінэт і ўбачыў, што гаспадар дзіўна выглядае. Зьбялеў надта, а вочы, падавалася, бачаць нешта надзвычай далёкае, нетутэйшае.

– Што здарылася, спадару Фрода? – спалохаўся Сэм.

– Я паранены, – азваўся той. – Паранены й аніколі цалкам не ацалюся.

Але ж хвароба мінула, і на ранак Фрода ўстаў, як звычайна. Толькі пасьля Сэм згадаў, што немач напаткала менавіта шостага кастрычніка. Роўна праз два гады пасьля нападу ў лагчыне пад Наветранай стромаю.

Час рушыў і надышоў 1421 год. Фрода зноў занядужаў у сакавіку, але ж намогся тое ня выказаць. Дый Сэм меў даволі ўласных турботаў, каб не зьвярнуць асаблівай увагі. Першае іхняе з Ружай дзіцё нарадзілася дваццаць пятага сакавіка, у дзень, які Сэм асабліва адзначаў.

– Аёй, спадару Фрода, – так сказаў ён, – я ўсё нешта ў сумневах ды ў задуменьні. Бо мы з Ружанкаю пагадзіліся назваць яго Фрода, але во ў чым праблема: гэна ня ён, а яна. Хоць такая прыгожая дзяўчынка, проста замілаваньне, болей да Ружы падобная, чымся да мяне, на шчасьце. Дык вось і ня ведаем, што рабіць.

– А што ня так з старымі звычаямі, Сэме? – спытаў Фрода. – Абяры кветкавае імя, накшталт Ружы. Палова дзяўчатак у Шыры носіць гэткія імёны, дык чаго лепей?

– Мяркую, вашая рацыя, спадару Фрода. Чуў я цудоўныя ймёны ў час вандроўкі, аджа яны занадта велікозныя, каб штодня трапаць ды зношваць, так бы мовіць. Дзед мой, ён што кажа: "Карацейшае бяры, тады скарачаць не давядзецца". Але ж калі ймя будзе кветкавае, дык я пра даўжыню не клапаціўся б. Мусіць быць прыгожая кветка, бо дзяўчынка, бачце, красунька незвычайная, і яшчэ папрыгажэе.

– Сэме... а як табе эланор, сонечная зорка? – прапанаваў Фрода, задумаўшыся на момант. – Памятаеш маленькую залатую краску ў лорыйнскай траве?

– Зноў вашая рацыя, спадару Фрода! – узрадаваўся Сэм. – Такога я й хацеў!

Маленькай Эланор споўнілася амаль шэсьць месяцаў і 1421 год напаткаў сваю восень, калі Фрода паклікаў Сэма да сябе ў кабінэт.

– Більбаў дзень народзінаў у чацьвер, – паведаміў Фрода. – Ён пераўзыдзе Старога Хвата. Яму споўніцца сто й трыццаць адзін!

– Менавіта, – пагадзіўся Сэм. – Ці ж ня цуд?

– Дык вось, Сэме, калі ласка, спытай у Ружы, ці адпусьціць яна цябе, каб мы маглі паехаць разам. Вядома, зараз табе нельга ад'яжджаць надоўга й далёка, – дадаў Фрода крыху сумнавата й задуменна.

– Анягож, спадару Фрода.

– Добра. Ну, ня будзем пра тое. Мо праводзіш мяне? Скажы Ружы, што ты ненадоўга, ня болей як на два тыдні, і анічагуткі небясьпечнага. Вернесься дахаты цэлы й здаровы.

– Хацеў бы я разам да Долага Яру, спадару Фрода, дый пабачыць старога Більба. І ўсё-ткі адзінае месца, дзе я насамрэч хачу знаходзіцца, – гэта тут. Я разрываюся.

– Небарака Сэме! Баюся, гэтак ты й будзеш пачувацца, – пагадзіўся Фрода. – Але ж неўзабаве ты знойдзеш ацаленьне. Бо твой лёс – быць цэльным і моцным, і ты будзеш менавіта такі.

За наступныя пару дзён Фрода разам з Сэмам прагледзеў паперы й нататкі дый перадаў сябру ключы. У вялікай кнізе за простым пераплётам з чырвонай скуры амаль усе аркушы былі запоўненыя. Напачатку шмат старонак сьпярэсьціў танюткі, дрыготкі почырк Більба, але большасьць была сьпісаная ўпэўненым, плаўным почыркам Фрода. Кніга падзялялася на часткі, але частка 80 засталася няскончанай, і за ёй ішло колькі пустых аркушаў. Тытульная старонка мела шмат закрэсьленых назваў, адну пад другой:

*Мой дзёньнік. Мая нечаканая вандроўка. Вандроўка туды й назад. Што здарылася пасьля.*

*Прыгоды пяцёх хобітаў. Расповед пра Вялікі Пярсьцёнак, складзены Більба Торбінсам паводле ягоных уласных назіраньняў ды ўражаньняў ягоных сяброў. Што мы рабілі ў Вайне Пярсьцёнка.*

Далей ішло ўжо ня Більбавай, а Фродавай рукой:

*ЗЬВЯРЖЭНЬНЕ*
*ЎЛАДАРА ПЯРСЬЦЁНКАЎ*
*І ВЯРТАНЬНЕ КАРАЛЯ*

*(Вачыма малога народу, складзена з успамінаў Більба ды Фрода з дадаткам – расповедамі сяброў ды досьведам мудрых)*

*Разам з вытрымкамі з Кніг Ведаў,*
*перакладзеных Більба ў Долым Яры*

– Ну, дык ваша амаль скончыў, спадару Фрода! – выгукнуў Сэм. – Ну, вы парупіліся, трэба сказаць!

– Я сапраўды скончыў сваю частку гэтай кнігі, Сэме, – сказаў Фрода. – Апошнія старонкі – для цябе.

Дваццаць першага верасьня Фрода выехаў на поні, які прывёз яго зь Мінас Тырыту й цяпер зваўся Швэндалам, побач трухаў Сэм на сваім даражэнькім Біле. Раніца нарадзілася сьветлая й па-восеньску залатая. Сэм не пытаўся, куды кіруюць. Яму падалося, што ён здагадаўся.

Паехалі па Бярвенным бальшаку праз пагоркі да Ляснакуцьця, дазволіўшы поні брысьці, як ім хацелася. На ноч прыпыніліся ў Зялёных пагорках і дваццаць другога верасьня ў прыцемках спусьціліся па спадзістым схіле да ўзьлеску.

– Ці не за тым самым дрэвам ваша схаваўся, калі ўперш зьявіўся Чорны Вершнік?! – Сэм паказаў налева. – Цяпер падаецца: нібы тое быў сон.

Вечарэла, і зоры ўжо праблісквалі на ўсходзе, калі хобіты мінулі стары скалечаны дуб, збочылі й рушылі пад гару сярод зарасьцяў ляшчыны. Сэм маўчаў, заглыбіўшыся ва ўспаміны. І раптам пачуў, што Фрода ціхенька напявае сабе пад нос старую вандроўную песеньку, але з новымі словамі:

*Здаўна ўжо чакае ў палях ды лясах*
*Новая сьцежка, загадкавы шлях,*
*Раней пакідаў я яго за сьпіною,*
*А гэтай парою ён за сабою*
*Да новай мяне павядзе таямніцы,*
*Да часу і лёсу спрадвечнай скарбніцы.*

І быццам у адказ зьнізу, з даліны, прыляцеў шматгалосы сьпеў:

*А Эльберэт Гільтоніель,*
*сіліврэн пэнна мірыель*
*о мэнэль аглар эленаф!*
*Гільтоніель! О Эльберэт!*
*Нябёсаў зорная купель!*
*Праз жах і змрок нас правяло*
*Тваё нязгаснае сьвятло!*

Фрода з Сэмам змоўклі й сьцішыліся сярод мяккіх ценяў, пакуль не заўважылі зіхаценьне. Набліжаліся падарожнікі.

Тое ехаў Гільдар і зь ім шмат сьветлага народу. І, на Сэмава зьдзіўленьне, Эльранд і Галадрыель. На Эльрандзе была шэрая корзна, на лобе зьзяла зорка, у руках ён трымаў срэбную арфу, а на пальцы ягоным пабліскваў залаты пярсьцёнак зь вялізным блакітным каменем. Гэта быў Вілья, наймагутнейшы з трох эльфавых кляйнодзікаў. Галадрыель ехала верхам на белай кабылцы, уся апранутая ў зіхотка-белае, срабрыстае, нібы аблокі ў месяцовым сьвятле, яна быццам зьзяла нязыркім сьвятлом. На яе пальцы быў відаць Нэнья, пярсьцёнак зь міфрылу, і на ім зіхцеў зімовай зоркаю адзіны белы каменьчык. Побач на маленькім шэрым поні трухаў Більба, сонна гайдаючыся ў сядле.

Эльранд павітаў стрэчных стрымана й шляхетна, а Галадрыель усьміхнулася ім.

– Спадару Сэмвайзе, – вымавіла яна, – я чула й бачу, што ты добра выкарыстаў мой падарунак. Шыр цяпер будзе добраславёны й утульны.

Сэм пакланіўся, але адказаць анічога ня здолеў. Ён ужо прызабыў, якая ж панна прыгожая.

А Більба прачнуўся й расплюшчыў вочы.

– Вітаю, Фрода! Ну, я пераўзышоў Старога Хвата сёньня! Так вось сталася. Цяперака, мяркую, я цалкам гатовы да шчэ адной вандроўкі. Ты з мною?

– Так, я з табою, – пацьвердзіў Фрода. – Ахавальнікі Пярсьцёнка мусяць ісьці разам.

– Куды ж ваша сабраўся, спадару? – выгукнуў Сэм, хоць ужо й сам зразумеў, што адбываецца.

– Да Заваняў, Сэме.

– А я ж не магу!

– Не, Сэме. Пакуль што, прынамсі. Пакуль ня далей за Завані. Хоць ты таксама насіў пярсьцёнак, праўда нядоўга. Магчыма, прыйдзе й твой час. Не сумуй надта, Сэме. Не заўжды табе разьдзірацца на паловы. Ты мусіш быць цэльным, самім сабою цягам мноства гадоў. У цябе яшчэ столькі наперадзе радасьці й працы, столькі зьдзяйсьненьняў і дасягненьняў.

– Аднак, – сьлёзы сабраліся ў Сэмавых вачох, – я думаў, ваша таксама ўзрадуецца Шыру й радавацьмецца шмат гадоў – пасьля таго, што ваша зьдзейсьніў дзеля яго.

– Я таксама думаў так калісьці. Але ж я надта глыбока паранены. Я намагаўся ўратаваць Шыр, і той выратаваны – аджа не для мяне. Так часьцяком здараецца, калі нечаму пагражае небясьпека, Сэме: нехта мусіць адмовіцца, страціць каштоўнасьць для сябе, каб пакінуць астатнім. Ты – мой спадчыньнік. Усё, што меў і што мог бы мець, я пакідаю табе. Таксама ў цябе ёсьць Ружа й Эланор, а зьявяцца шчэ й маленькі Фрода, і Ружанка-малодшая, і Мэры, і Златачка, і Піпін, а можа, і болей, каго я ня здольны бачыць. Твае рукі й кемнасьць спатрэбяцца паўсюль. Вядома, ты будзеш Галавою – так доўга, як толькі пажадаеш, і самым знакамітым садоўнікам у гісторыі. Чытацьмеш Пунсовую кнігу й падтрымлівацьмеш жывою памяць мінулай эпохі, каб народ не забыўся на Вялікую навалу й любіў сваю зямлю яшчэ болей. І таму ты будзеш больш заняты й шчасьлівы, чым многія, увесь час, пакуль доўжыцца твая частка Гісторыі... А цяпер – едзьма з мною!

Эльранд з Галадрыеляй зьяжджалі, бо Трэцяя эпоха скончылася, дні пярсьцёнкаў мінулі, завершыўся расповед і песьня пра іхнія часы. З уладарамі ад'яжджалі прэчкі многія вышнія эльфы, якія не захацелі болей заставацца ў Міжзем'і, а сярод іх поўныя смутку, але добраславёнага, бяз горычы, ехалі Сэм, і Фрода, і Більба, і эльфы з радасьцю шанавалі іх.

Хоць ехалі паўз сэрца Шыру ўвесь вечар і ўсю ноч, аніхто, апрача дзікіх жывёлаў, не заўважыў падарожнікаў. Хіба што зрэдчасу начны вандроўнік прыкмячаў жвавы пробліск пад дрэвамі, сьвятло й цень, што праплывалі над травою ў сьвятле месяца, які хіліўся на захад. І неўзабаве вандроўнікі разьвіталіся з Шырам, праехаўшы паўднёвым краем Белых пагоркаў, сягнулі Дальняга ўзгор'я й вежаў, што паглядалі на далёкае мора, і нарэшце выехалі да Мітлянду, да Шэрых Заваняў у доўгім заліве Люн.

Калі вандроўнікі пад'ехалі да брамы, іх павітаў Кірдан Карабел – высокі, з доўгаю барадою, сівы й стары, але з вачыма, яскравейшымі ад зораў. Ён глянуў на вандроўнікаў і пакланіўся дый вымавіў:

– Усё гатовае.

Тады правёў да Заваняў, дзе чакаў белы карабель. Побач з прыпаромкам стаяў вялікі шэры конь, а каля яго – Гэндальф ва ўсім белым. Калі ён павярнуўся й крочыў да прыбылых, Фрода заўважыў, што чараўнік цяпер адкрыта носіць на руцэ трэці

вялікі пярсьцёнак, Нар'ю, і самацьвет на ім барвяны, бы полымя. Тады вандроўнікі ўзрадаваліся, бо зразумелі: Гэндальф таксама адплывае зь імі.

А Сэмава сэрца заныла ад тугі, і яму падалося: якім ні было б сумным разьвітаньне, доўгі самотны шлях дахаты станецца больш журботным. Аднак калі ўсе сабраліся й падрыхтаваліся да адплыцьця, калі эльфы пачалі падымацца на карабель, раптам у вялікай пасьпешлівасьці абвесьціліся Мэры зь Піпінам. І Піпін засьмяяўся скрозь сьлёзы:

– Ты ўжо высьлізнуў ад нас аднойчы, Фрода, тады атрымалася. Гэтым разам амаль, ды не зусім. Ня Сэм цяпер цябе выдаў, а сам Гэндальф!

– Так, – прызнаўся Гэндальф, – бо назад лепей вяртацца ўтрох, чым аднаму. Ну, нарэшце, дарагія сябры, на беразе мора сканчаецца наш зьвяз у Міжзем'і. Ідзіце ж зь мірам! Не скажу: ня плачце, бо ня ўсе сьлёзы – ліха.

Тады Фрода пацалаваў Мэры й Піпіна, а апошнім Сэма дый зайшоў на карабель. Усе ветразі паднялі, і задзьмуў вецер, і агеньчык шклянкі Галадрыелі ў Фродавай руцэ замільгацеў і зьнік. Карабель выйшаў у адкрытае мора, рушыў на Захад, і ўрэшце сярод дажджлівай ночы Фрода адчуў салодкі водар у паветры і пачуў сьпеў над вадою. А пасьля яму падалося, быццам у колішнім сьне ў Бамбадзілавай хаце: шэрая завеса дажджу ператвараецца ў срабрыстае шкло ды адсоўваецца, а за ёю паўстае далёкая зялёная краіна ў гожым сьвітаньні.

А для Сэма сутоньне сьцямнела да начной цемры, а ён усё стаяў у Завані і, таропячыся на шэрае мора, бачыў толькі цень на вадзе, які неўзабаве растачыўся на захадзе. Яшчэ доўга стаяў Сэм у цемры, чуючы толькі ўздыхі й прышапты хваляў на беразе Міжзем'я, і голас іхні глыбока ўвайшоў у ягонае сэрца. А побач маўкліва стаялі Піпін і Мэры.

Нарэшце ўсе трое павярнуліся і, не азіраючыся болей, паехалі дамоў. І не размаўлялі міжсобку, пакуль не сягнулі Шыру, але кожнаму было нашмат утульней і цяплей падчас вандроўкі ад таго, што побач – сябры. –

Нарэшце спусьціліся з пагор я й выехалі на Усходні шлях, а тады Мэры зь Піпінам накіраваліся ў Прыбычча й ужо зацягнулі дуэтам нейкую песеньку. Сэм жа збочыў да Прырэчча й у прыцемках сягнуў Стромы. Ён ехаў і бачыў жоўтае сьвятло ў акенцах і агонь у агмені. Яго чакалі, і вячэра ўжо была на стале. Ружа правяла яго ў хату, усадзіла ў фатэлю, а на калені яму паклала маленькую Эланор.

Сэм глыбока ўздыхнуў й вымавіў:

– Вось я й вярнуўся.

